№3(58)
/ травень-чэрвень / 2012

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

паэзія

Людміла Рублеўская



...На мове Статутаў Літоўскіх дыярыуш твой.
На мове самоты – твае непачутыя вершы...

# Забытыя словы

* * *

Забытыя могілкі ў попеле спаленых кніг,
У сцёртых слядах за радзіму памерлых герояў.
Шукаць іх не стануць,
як Шліман – антычную Трою,
На нашай Айчыне кладоў незлічона такіх.
Тут вечнасць пяском насыпаецца ў чаравікі,
У вочы ляціць павуціннем,
чапляецца голлем.
Нашто мітусня, калі могілкі стануцца полем?
І горад урэшце становіцца полем такім.
Мінулае спіць,
а над ім пустазелле і глог.
Аблiччы памерлых
памерлыя помняць адныя.
Тут дом пабудуюць,
і ў комінах вецер завые,
І збочыць з дарогі,
кладамі пракладзенай, Бог.

## СТАРЫ ВОЙ

Лёс для таго, хто вярнуўся з прайгранай вайны –
Толькі забыцца, як сталі з муроў – валуны.
Воя старога баяцца, бы смерць за плячмі
Носіць, як горб... Цені смерці ў яго пад вачмі.
Кажуць, ён доўга занадта па костках хадзіў,
Піў з чарапоў і на споведзі неяк схлусіў,
Воя старога не любяць пускаць у дамы.
Ён не ўсміхаецца, вечна маўчыць, як нямы.
Колькі ні просяць расповедаў з дзён баявых –
Вечна ў адказ толькі сумны, як могілкі, ўздых.
Гэткі сусед нам дастаўся... Маёнтак ачах.
Лётаюць чорныя цмокі туды па начах.
Белыя вершнікі носяць туды туманы.
Кажуць суседзі: няхай не прыйшоў бы з вайны.
А па начах над стамлёным схіляецца Бог:
“Ты перамог... Ты вярнуўся і ты перамог”.

## ТУТ

Крыўскія могілкі – быццам асохлае мора.
Тут баранілі каморы і корсты, і норы.
Тут прадавалі і нат не лічылі пянёндзаў.
Мёд застываў і гарчэў у паваленых корстах.
Тут нашывалі на скуру жалезныя плыткі.
Зубраў харты ашалела хапалі за лыткі.
Мералі локцем сукно, падразаючы рэшту,
І ад чужынцаў хавалі няўлоўнае нешта.
Так балаты не паказваюць тваністых нетраў.
Так захіналіся ў скуры ваўчыныя неўры.
Так паміж буквіцаў праўду хаваў летапісец.
Крыўскія могілкі не абысці – хоць забіся.
Пчолы вяртаюцца ў вуллі, вужакі ў руіны...
А крывічы на магілах будуюць хаціны.

## ІМПЕРЫЯ ВЫДМ

*На ўзбярэжжы Балтыйскага мора*
*ёсць запаведнік рухомых дзюнаў – выдм...*

Выдмы ідуць. Паглынаюць дамы і касцёлы.
Чорныя мёртвыя дрэвы – як помнікі ім.
Хвалі марскія ўсё прагнуць прасторы і волі,
І наступае ўсё далей імперыя выдм.
Белы пясок, а за ім – цёмна-шэрыя хвалі,
Што ні імперыя – межы свае праміне.
Ну і навошта мы храмы свае будавалі,

Раз апынуцца пад выдмамі, потым – на дне?
Мовай пяску загаворацць лясы і паляны,
І балаты пературацца ў белы пясок.
І застанецца над выдмамі крыжам драўляным
Мачта майго карабля, што нікуды не ўцёк.

## ЯШЧЭ АДНА СТРАШНАЯ КАЗКА

Снежная Каралева
жыве ў ільдзяным палацы.
Снежная Каралева
ніколі не танчыць на пляцы.
Снежная Каралева
збірае хлопчыкаў злосных
І тчэ дзеля іх сувоі
на белых вялікіх кроснах.
Квітнее на шыбах шэрань,
цвітуць за шыбай вазоны.
І той, хто гадуе кветкі,
не прагне снежнай кароны.
Але – такая ўжо праўда,
такая ўжо ў казкі сіла:
Калі расцвітаюць кветкі,
іх кладуць на магілы.
Ляжаць на сумётах ружы,
стаяць у сумётах дрэвы.
І гулка грукочуць кросны
Снежнае Каралевы.

## ХОМА БАЛОЦІКУС

Ён проста звык у твані жыць – і жыў,
Дрыгвою дыхаў, харчаваўся раскай,
Між небам і зямлёю, на мяжы,
Якую называлі страшнай казкай.
Ён не аброс лускою, не пачаў
Падобным быць да жабы ці трытона.
Ён проста сноў не бачыў, апрача
Балотных сноў, бясколерных, бяздонных.
Свае былі тут радасць і краса:
Пунсовым жалем спелі журавіны,
Гарлачык ззяў, свяцілася раса.
І думаў ён: няма найлепш краіны!
Дзень амярцвеў, бы кветкі амялы.
Адно пытанне не даецца ў рукі:
Нашто яму на спіне два крылы?
Бо так нязручна з імі між гадзюкаў.

* * *

Да неба белы дыван
ляжыць праз поле крыжоў.
Сляды вандроўнай душы – адна малітва без слоў.
Сляды пакінутых тут –
як абарваная ніць.
Нібы малітва без слоў,
пад снегам спяць карані
Даўно пасечаных дрэў, даўно пасушаных траў.
Ты замаўчаў ад таго,
што словы снегу аддаў,
Каб белы-белы дыван
да неба нас падымаў,
Да Бога нас падымаў.

## РАНІШНЯЯ ПЕСЕНЬКА ПА ДАРОЗЕ НА ПРАЦУ

Тры сцяжынкі, тры сняжынкі,
Нуль надзеяў, смецце мар.
Нешта слушнае гаворыць
мой чарговы гаспадар.
Я ж няправільная кветка
ў ікебане гэтых сцен.
Бо жывая, бо жадаю,
бо крывёй сплываю з вен.
Зноў сцяжынкі завіруха ператворыць у палі.
А жыццё маё малюе
нейкі Сальвадор Далі.
Не разблытаць слоў і сэнсаў.
Лабірынты. Вітражы...
Ненароджаныя вершы –
як тапельцы – у душы.
Гулка тупаюць Галемы
калідорамі зімы,
І маўчаць, як Фудзіямы,
мёртвых класікаў тамы.

* * *

*Сабакі дажджу – так называюць тых, хто пакінуў
і аніяк не аднойдзе свой шлях...*
Том Уэйтс

Сабака дажджу аніколі не знойдзе свой дом.
Дзе анёл, дзе ліхтар? Толькі светлыя плямы ў залеве.
Змыты пахі і змыты сляды, і здаецца ільдом
Наша неба, і голае голле – як шнары на целе.

Сабака дажджу
заблукаў у апошнім дажджы.
Ён шукаў тыя дзверы,
куды не заходзяць забойцы,
Ён шукаў тыя вуліцы, дзе не пільнуюць віжы,
Дзе ў апошні глыток не ўліваюць
атруту і стронцый.
Звер наіўны, спароджаны дымам і тлом гарадскім,
На рэкламу кавярні зіхоткую вые і плача.
Ці ў двары забрыдзе, заварожаны следам чужым,
Ці сваё люстраванне на мокрым асфальце пабачыць.
Шэры – колеру хмары, цікаўны і смешны такі.
На калматае поўсці
згасаюць імгненна дажджынкі.
Абыходзяць яго, адганяюць далей мінакі.
Ну а ён гаспадарскай ніколі не зведаў рукі,
І ніхто на яго
не надзене
ніколі
ашыйнік.

## *ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ*

Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей.
Ісці на святло – дзеля зніклых у цемры людзей.
Скрозь цемру ісці – і рабіцца драбніцай святла,
Каб праўда здабытая
сэрца жывым апякла,
Каб крокі дзядоў не расталі, як сон у траве,
Каб людзі спазналі аднойчы –
Айчына жыве!
У жоўтых паперах
памерлыя лёсы маўчаць,
Эпоха маўчыць,
нібы скошаная сенажаць.
Тут цені блукаюць,
ды гінуць знямелыя дні.
І трэба ісці на схаваныя ў цемры агні,
Не здрадзіць, не кінуць забытымі продкаў сваіх,
Няхай ты згараеш і сам па дарозе да іх.
Прайсці лабірынт свой апошні,
і ў свеце святла
Любіць Беларусь,
што цябе праз цемру вяла.

*24.08.2011*

* * *

А я ўсё гадую свой сад на чужых камянях,
Ды ў чорных расколінах толькі імхі прарастаюць.
І дні прарастаюць сівою травою пры днях,
І ночы злятаюць грыфонамі скіфскага раю.
Мне сад толькі сніцца –
сузор'ямі спелых пладоў,
Сагрэтай лістотай, падобнай да летняга мора.
А тут – камяні. Тут не сад, не вакзал і не дом,
Тут – холад і цвердзь, і патрэба адвечнай пакоры.
Гадую свой сад.
Гінуць парасткі, гінуць сябры.
Калені і рукі разбіла аб шорсткія глыбы.
Навошта ў даліну? Мой сад зацвіце на гары,
І ў мора лістоты нырнуць аблачыны, як рыбы.
І нават калі дзеля гэтага між камянёў
Мне прыдзецца легчы,
каб глебаю стаць урадлівай,
Хай станецца..
З неба пральецца празрыстая кроў,
І сад мой на хвілю
Зямлю маю зробіць шчаслівай.

## ***ЗАБЫТЫЯ СЛОВЫ, ЗАБЫТЫЯ РЭЧЫ***

Словы забытыя
Смаку тугі ды імжы.
Верас праз іх прарастае, ільюцца дажджы.
Час іх збірае ў сармацкае рызы прыпол.
Іх прамаўляе над Свіслаччу ціхі анёл.
Словы забытыя, мова радзімы маёй.
Ейныя рыцары сталі курганнай зямлёй,
Ейныя панны вучыліся працы з травы.
Ейныя дзеці, маўчанню вучыліся вы.
Строі сармацкія вышыты срэбрам дажджу.
Я праз нямоцтва ў маўклівае заўтра гляджу.
Верас палае, прараслы са слоў і крыві.
Шэптам хаця ты сваю Беларусь ажыві.
Немень
Фарботы
Таемнік
Кудмень
Сполыск
Спазор
Васпан

### *ФАЛЬВАРАК*

Бачыць прарочыя сны развучыўся і іх тлумачэнню,
Спяць цвыркуны між бярвенняў старога фальварку.
І не з'яўляюцца цені з мінулага, любыя цені,
З юных гадоў, абарваных пятлёю і плахай.
Сны парагледжаны.
Снегам засыпаны дні і магілы.
Томік Вяргілія шашаль праеў, як сумленне і памяць.
Сны хоць вярталі надзеі, адвагу і сілы,
Ну а цяпер застаецца спявацца і марыць,
Што ля калонаў драўляных фальварку старога
Вершнікі спешацца, шаблямі грукнуць у дзверы.
Смех малады сны абудзяць у цёмных пакоях,
І, як калісьці, пачнуцца размовы пра волю і вернасць.
Дзе вы, наступнікі?
Той, хто сяброў пяражыў, вас чакае.
Тут – ваш прытулак і мудрае слова дарадцы.
Шаблю не ўзняць, ды збярог ён і стрэльбы , і шаблі,
І – успамін пра пятлю – не пустую – на пляцы.
Сыплецца снег цераз сны, цераз цені і дах праламаны.
Дошкамі ўсе аканіцы даўно ўжо забіты крыж-накрыж.
Гінуць фальваркі і замкі на могілках зброі схаванай.
І не вярнуўся табою прададзены катам таварыш.

* * *

Каралі, што чакаць навучыліся ў бронзавых снах,
Не раздзеляць з табою віно з дзьмухаўцоў і самоту.
Дождж змывае чырвоныя кроплі з абрусаў і плах,
Насалода і боль за труной ператворацца ў воцат.
Колькі жарсцяў, і колькі загубленых дзён і гадоў
Дзеля права калісьці застыць збранзавелаю казкай.
Будзем піць журавінавы мёд, ён амаль што як кроў,
Не будзі каралёў, не збірайся да іх, калі ласка.
Кроплі ціха спаўзаюць па шыбе ва ўласную смерць.
Срэбра келіхаў прагныя нашыя вусны астудзіць.
Будуць жоўтым агнём дзьмухаўцы на адхонах гарэць,
А таго, хто іх летась збіраў,
У застоллі не будзе.

* * *

Як сны фараонаў, не хоча канчацца зіма.
Ваўкі ўсё бліжэй да сядзібы прыходзяць начыма.
Самота... Сумёты... Найлепшая ў свеце турма –
З уласнай самоты, дзе варта – анёл за плячыма.

П’еш волю з гарбатай, а кубак твой прадзед купляў.
Гаворыш з Гарацыем, не разумееш Вальтэра.
А дзесьці над пляцам стамлёна звісае пятля,
І снег абдымае знямелага касіянера.

На мове Статутаў Літоўскіх дыярыуш твой.
На мове самоты – твае непачутыя вершы.
Ваўкі падыходзяць да брамы. І белы сувой
На золку наступным крывавая сцежка прарэжа.

* * *

Неасуджаны лёс і асуджаны век.
Не кранае халоднае сонца павек.
Ціха крапаюць дні, напаўняюць пацір.
Апранаецца блазнам раскаяны Лір.
Гінуць іншыя..
Век падмятае смяццё.
Напаўняе твой келіх сухое асцё.

Генрых Далідовіч



...Палацеская зямля – вольная,
паўнапраўная дзяржава:
вы ўжо не на словах
прызнаныя і Кіевам, і Візантыяй...

# Рурыкавічы і Рагвалодавічы

## *Раман у апавяданнях з прадмовай і пасляслоўямі*

### Апавяданне другое. Ізяслаў

*Воскреснет храбрый Рогволод*
*В делах и в чадах Изяслава,*
*И пролетит из рода в род*
*Об нем, как гром гремящий, слава.*
К. Рылееў

Ён (Ізяслаў. – Удакладненне, пераклад з рускай, вылучэнні мае. – ***Г.Д.***), *будучы па маці Рагнедзе з роду карэнных крыўскіх князёў*, быў крыўскай зямлёй і дапушчаны як родавы князь, свой, *спадчынны*.
В. Іваноў, раман “Русь Великая”

**1.**

*Працяг. Пачатак у №2 (57).*

– Князь, – узрушана сказаў старэйшына яго дружынніцкай аховы, – да нас госці.

Час быў позні, прыночны. Хоць цяпер, калі снежань

сапраўды азіміўся – амацнеў марозам, што сцяў сырасць, глыбока аскарыніў зямлю, аблёдзіў азёры і рэкі, аснежыўся, – яшчэ не ўцёмнілася, як такое было нядаўна, у дажджлівую, ветраную і завыўную познеасеннюю непагадзь. Цяпер нябеснай цемені не давала набраць моц зямная беласць.

Ізяслававa жонка, "варагіня" ці "нурманка" Ізольда, а цяпер, у праваслаўі Соф'я, па-простанароднаму Соня (яны сямейнічаюць яшчэ толькі пару месяцаў, днём, закаханыя, абое цешачыся няведаннем родных моў адно аднаго, спазнаюцца з тлумачом, а ўночы – рукамі, губамі), канечне не зразумела, што сказаў вадар іх ахоўнікаў, але па ўстурбанасці таго перавяла на мужа занепакоены позірк.

Госці – найперш тыя, хто нешта прадаваў-перапрадаваў і купляў-перакупліваў, – як казала яму, маламу, маці, заяўляліся ў Полацку амаль штодня і раней, яшчэ і да Рагвалодавага княжання: ужо і тады здалёку ведалі, што ёсць рака Заходняя Дзвіна ("Duna"), а пры ёй – "град Полотеск, Полотьск, Полтеск" ці, як пісалі ў паўночных сагах, "Palteskja", "Palltesjuborg". Пасля, лічы, спустошання яго наўгародскім князем Уладзімірам, нейкі час госці абміналі гэтую абвугленую і попельную мясціну, дзе, не маючы гаспадароў, гайнямі бегалі беспрытульныя сабакі ды вішчэлі каты, ці яны, госці, вялі дробны гандаль з ацалелымі, найбольш заможнымі прыполацкімі насельнікамі. Ды вось пры ім, Ізяславе, калі горад не толькі як след уваскрос, ажывіўся, але і стаў на ногі, пачаў акузнівацца, амайстэрнівацца, раменнічаць, а вакольныя землі агароднічаць, жытнявець, – дык вось у Полацку зноў стала шмат прыезджага па рэках і сушы люду, загучэлі розныя мовы, павёўся бойкі гандаль. Радзей, але былі і іншыя госці – князі, баяры з суседніх памяркоўных зямель, падарожныя рамеснікі, розныя дапытнікі да незнаёмых краёў.

– Што за незвычайныя госці? – спакойна запытаў Ізяслаў.

– Тайных слоў умоўных нашых не ведаюць, князь. Значыць, чужыя. Але не называюцца. Толькі... – Грыдзь ступіў бліжэй. – Толькі адзін з іх з палянскім вымаўленнем запатрабаваў перадаць якраз табе ў рукі вось гэта і сказаць: "Гэта – я".

Ізяслаў ажно ўздрыгнуў: да яго патрапіў срэбнік, што выпусціў "Ён" – ягоны бацька, вялікі князь кіеўскі Уладзімір – у гонар ахрыстасавання ў Кіеве і сваёй жаніцьбы з візантыкай Ганнай. "Гэта – я" азначае, што перад агародай полацкага пасада нечакана заявіўся сам "Ён". Але чаму і чаго на гэты раз, больш чым праз дваццаць гадоў? Зноў з мячом? Але ён жа, Ізяслаў, ні ў чым не наступіў на нагу Кіеву! Нават словам непрыстойным альбо абразлівым не зачапіў! У гэты час насцярога яшчэ з юнымі рысамі прадаўгаватага, мілавіднага і ўвогуле ўсёй постаці светлавалосай Ізольды пабольшала.

– З якой сілай "Гэта – я?"

– Здаецца, з невялікай, князь, – быў адказ. – Дзясяткі тры вояў і два вазкі.

"Вазок" – гэта цяпер, узімку, канечне ж, княскія сані, а на іх пабудова для некалькіх чалавек з абчасаных на два ці чатыры канты плашак, з дошак, абабітая знадворку вырабленымі скурамі, усярэдзіне – дыванамі, з дзвярыма і акенцамі. Сані запрагаліся некалькімі коньмі. Наперадзе вазка была адашкаваная з бакоў і зверху лаўка для возніка, па-за вазком – накрытая скрыня для рэчаў.

Сіла прыбыла невялікая. Значыць, яна не для нападу. Ізяслаў падняў-

ся, знакамі паказаў Соф'і, каб не хвалявалася, а яму трэба адлучыцца. Пацалаваў яе ў свежанькую шчаку. І грыдзю:

– Каня.

– А колькі вояў? – запытаў той.

– З паўдзясятка.

– Мо больш, князь? А раптам злая сіла заманьвае цябе ў сіло?

– І хто ж, па-твойму, можа быць раптоўны вораг для Палацеска? – падбадзёрваючы, усміхнуўся.

– Усё роўна, князь, не лішне паасцерагацца. Кажу ж, нейкія вельмі скрытныя прыбыльцы.

Неўзабаве Ізяслаў з воямі (грыдзь-старэйшына загадаў усёй старэйшай дружыне ўпотай быць напагатове) зімовай паўзмрочнай ноччу выехаў з дзядзінца, дзе яшчэ там-сям блішчэлі балонкі ад лучніц, з ужо заціхлага пасада і непадалёку за варотамі горада ўгледзеў адзіночнага вершніка ў цёмным футры. За ім стаяла двое саней-вазкоў, запрэжаных тройкай коней, а за санямі застыў гурт вояў-коннікаў. Паколькі пэўная светласць была не нябесная, а зямная, то ценю ад усіх іх не было. Запахла конскім потам. Значыць, "Ён" ужо нямала часу ў дарозе. Няспешна наблізіўся да пярэдняга вершніка і параўняўся з ім.

– Здраствуй, сын, – павітаў той. Даўнавата ўжо не чуў бацькавага голасу, але прыглухаватасць яго адразу ж успомнілася.

– Вітаю, вялікі князь кіеўскі, – гэтак жа ціха адказаў.

– Канечне, ты здзівіўся, што я тут, – бацькаў голас быў невясёлы. – Мо і насцярожыўся. Будзь спакойны: я прыйшоў да цябе не з мячом, а з мірам. Ды патлумачу ўсё пазней. На санях – вялікая княгіня Ганна, твае сёстры Прадслава і Праміслава, мае малодшыя сыны. Толькі ніхто, апроч цябе і тваёй жонкі, самых верных тваіх мужоў знатных, грыдзяў, не павінен ведаць, што мы тут... Упусціш у горад, найперш абагрэеш жанчын і дзяцей? Ці не верыш мне, лічыш нас за вераломнага траянскага каня?

– Прашу, – Ізяслаў больш не сумняваўся ў бацькавай праўдзівасці, павярнуўся і паказаў рукой грыдзям даць гасцям шлях у горад, яшчэ больш здзіўляючыся: што ж усё-такі змусіла пагрозніка Візантыі, ляхаў, пераможцу вяцічаў, яцвягаў, радзімічаў папрасіць у іх прытулку? І якраз у яго, у нялюбага адлучэнца? Ды яшчэ ўпотай, уночы?!

## 2.

Ізяслаў быў князь-дамасед. Рэдка калі адлучаўся з Полацкай зямлі (час ад часу рабіў толькі патаемныя выезды да радзімічаў (у Прупой (Слаўгарад), Гарадзец (Крычаў), Чачэрск ды асабліва ў імкліва ўзрослы Гомій (Гомель), да дрыгавічоў (за Менск, у Капыль, Клецк, Слуцк; як не хацелася, але мусіў не паказвацца ў падуладжаным бацькам Тураве), яцвягаў, літвы, у Панямонне і ў прывараждскія землі; адтуль таксама наведваліся да яго на сакрэтныя перамовы). Гэтыя ягоныя і да яго адведкі пакуль што не шмат чаго давалі, але, канечне, знаёмства, назіркі, размовы з паўнамёкамі збліжалі Полацк з суседзямі на больш даверлівай аснове, а яно, збліжэнне, павінна спатрэбіцца калі не дзецям, то ўнукам. За дзясяць гадоў аб'ездзіў яе, вотчыну, уздоўж і ўпоперак. Не столькі выбіраўся на палюддзе ў тыя мясціны, дзе былі пагосты з селішчам для князя, клеці і адрыны для сабраных двароў, гандлёвая плошча, – збіраць даніну ці суд

радзіць. Упарадкаваў падзел на валасці, дзе гаспадарылі назначаныя ім пасаднікі і іхнія памочнікі-цівуны, у сёлах – мужы знатныя, а ў весях з вольнікамі (“смерды” ці найчасцей з назовам “людзі” – у той час яшчэ свабодныя насельнікі, якія перадавалі зямлю па спадчыне (“дзедзічы”) і падпарадкоўваліся толькі князю; як па-савецку, “шырокія сялянскія масы”) ці з чэляддзю – закупамі (найміты), радовічамі (залежны ад “знатных” люд; заключаў “рад” (дамову) з гаспадаром і спаўняў за плату розную работу), прошчанікамі (ад паняцця “прошча” – крыніцы, незвычайныя камяні, нібыта надзеленыя магічнай сілай), ізгоямі (тыя, хто ўсё страціў) – старасты. На памежных суседзяў не нападаў, не захапляўся ловамі і распуснымі гульбішчамі, рознымі дзікунскімі выбрыкамі, чым цешыліся іншыя князі і баяры. Любіў заязджаць да рудаплаваў, лоўчага люду і асабліва да агнішчанінаў – надта да тых, што выпальвалі лес, выраблялі зямлю і станавіліся заможнымі, “князевымі мужамі” (палі ўсё больш станавіліся ворыўныя – гэта значыць, люд пачаў усё часцей аседлівацца, усё больш жыць не толькі вялікімі і малымі родамі, але і асобнымі сем’ямі), ладзілі там селішчы звычайна па 7– 10 “дымоў” (пры дарогах і на гандлёвых шляхах яны, гаспадаркі, былі значна большыя), ухваляў тых багатых, хто браўся рабіць на ўзвышках пры рэках ці блізкіх некалькіх узгорках умацаваныя селішчы-градцы са сваімі аховай, нявольнікамі, ратаямі, кавалямі, камне і кастарэзамі, ювелірамі (радаваўся, што яны добра засвоілі рабіць рэчы з эмалі і чэрні, што не саступаюць іншаземным); там у новых пабудовах былі не толькі адкрытыя ці аслоненыя сценкамі агнішчы, а і печышчы з каменю і гліны, а ў самых самавітых вокны свяціліся празрыстым кіеўскім шклом; некаторым заможнікам наказваў сяліцца па межах Полацкай зямлі, як падмозе іхнім старожам ад нападнікаў. Са сваіх паездак прывозіў шмат самых розных падарункаў і іх збіраў у асобнай палаці свайго храма. Марыў, каб у селішчах-градцах ці гарадзішчах былі, як на заходніх землях, малапрыступныя замкі-крэпасці. І яны, калі падоўжацца мірны час і багацце, канечне ж, будуць. Пазбавіўшыся ад “апекі” Дабрыневага сына Касцяніна (Канстанціна), загадаў адшукаць тайныя пахаванні дзеда Рагвалода і бабулі Прадславы, перазахаваць іх на выспе на возеры Дрыса і насыпаць высокі курган (радая маці папрасіла: “Пахаваеш і мяне тут, сын”). Як і вучыла маці, да людзей здольных і працавітых быў з ласкай, а да лянотных, марнатраўных, зладзюжных суровы. Старэйшы люд гаварыў, што ён – “у дзеда Рагвалода”, “спакойны, разумны, гаспадарлівы, моцны, як камень”, “дык і пры ім няма бязладзіцы”.

Тое, што ён не весялун, не гуляка, тым больш не блазан альбо блюзнер які, не дзіва: рана шчаслівае пры маці ягонае маленства абрынулася горасным падлецтвам, а з ім – ужо іншы цяжар, нялёгкая ношка княскай улады. Спачатку яна была паднявольная пад насіллем уладалюбнага, незгаворлівага, распуснага і насмешлівага з яго няпрошанага пестуна, Дабрыневага сына Касняціна (яго потым перавялі ў Ноўгарад), а цяпер не менш лягчэйшая з націску на яго, таксама прагнага да вяршэнства, хітрага і жорсткага епіскапа (не выпадкова ўсё-такі ў грэчаскай мове слова “епіскап” азначае паняцце “назірач”). Гэты візантыец не зусім лічыцца з іхняй Палацескай Праўдай, Радай, умешваецца ва ўсё і мірское, патрабуе “наданне” – зямельныя надзелы, дзясятую долю княскай казны (Ізяслаў адмовіўся аддаваць яму ўвесь скарб. Уга, аддай у хіжыя рукі – будзеш сваё ж выпрошваць у яго, які дбае не толькі пра веру Хрыстову, але – бо-

льш пра зямныя выгоды; цярпеў і пры люднасці падхвальваў) і права на свой суд не толькі за “идолопоклонство”, чарадзейства, але і за дробную тузаніну паміж сабой рамеснікаў або купцоў, сваркі і нявернасць мужа і жонкі, незаконныя шлюбы. Ледзь што не па ім – скарга мітрапаліту ў Кіеў, а той – да яго бацькі. Таму, бывае, Ізяславу прыходзіцца цярпліва сціскаць зубы, калі епіскап, скажам, дазваляе сабе і без парады з ім загадаць сваім служкам схапіць “богохульника” і наладзіць таму “епитимию” – запраторыць у цёмнае, сырое падзямелле царквы (пакуль што драўлянай, невялікай) і начапіць на руку ці на нагу ланцуг, прыкаваны да крука **ў куце** мураванай сцяны. Люд па-свойму ацаніў гэта, пачаў называць гэтую царкоўную кару **пакутай**, а няшчасных падзямельнікаў – **пакутнікамі**. Епіскап жа, дачуўшыся пра такія гутаркі, пераіначыў назоў “пакута” на іншае – на “пакаянне”: маўляў, грэх вялікі памерці без яго... Хоць ён асуджае “земную алчность”, “питие” і іншыя грахі, ды найперш дарункамі ўдаецца ўціхамірыць яго. А калі і праявай цвёрдасці – пагрозай скаргі мітрапаліту, просьбы прыслаць замест яго іншага, болей духоўнага...

...Сёння, пасля неспакойнай ночы, Ізяслава (Ганна хуценька звяла з сабою яго сясцёр, не дала нават як след пабачыцца з імі – маўляў, “стаміліся за доўгую дарогу”) паланіла незвычайнае хваляванне. Што да бацькі, то яго, сына, ажыўляла толькі цікаўнасць (ён, сын, таксама меў сваіх віжоў як у Ноўгарадзе, у самага старэйшага па бацьку брата Вышаслава, так і ў Кіеве, але тыя не паспелі?, не змаглі? перадаць яму пра раптоўны бацькаў прыезд). Да цяперашняй бацькавай жонкі была абыякавасць. А вось усе іншыя ягоныя думы мроіліся пра сясцёр. Самай маленькай, Праміславе, проста не выпадае помніць яго: ён з маці пакідаў Кіеў, калі яе толькі што адвучылі ад грудзей. Прадславе тады споўнілася восем гадоў, цяпер ёй сямнаццаты. Дык што сыйшлося, жыве з дзіцячай памяці і цяперашняй свядомасці ў той, што магла б ужо не першы год сама быць жонка і маці?

Канечне, нявартa непакоіць здарожаных, але яго чэлядзь гатовая была ў любую хвіліну паўстаць перад тымі і перадаць яму іхні наказ. Але паколькі такога не было, дык ён, узбуджаны, чакаў, не ведаў, што... Што Уладзімір, Ганна, іхнія дзеці, Праміслава пасля доўгай халоднай дарогі, смачнай вячэры ў палоне сну ў цёплых палацях, а вось Прадслава абудзілася, агледзелася ў святліцы і адразу ж спазнала, што яна, гэтая святліца, не такая ўжо і чужая ёй. Яна – у матчыным Палацеску, дзе цяпер князіць яе старэйшы па іхніх бацьках брат! Яна ўчора, адхіліўшы край занавесу на акенцы, намагалася агледзець яго. Ды што ўбачыш уночы! Дык ён помніўся як маўклівы і зацяты падлетак, які падняў руку на бацьку. А які ён цяпер, у дваццаць гадоў? А якая сёння, здаецца, трыццацічатырохгадовая маці, ужо не вялікая княгіня Рагнеда, а чарніца Анастасія? Бацька не толькі не дазволіў хоць бы раз наведацца сюды і пабачыцца з ёю і братам, але нават забараніў ўспамінаць матчына імя!.. Няма яе, Гарыславы-Рагнеды – і ўсё! І за вялікую княгіню кіеўскую, і за маці ім – Ганна. А з ёю ў яе любові не выйшла. Можна не гаварыць уголас пра маці, але калі запомніла яе, то з памяці, з сэрца можна мацярынскае, а значыць і даччыное, вырваць толькі праз душэўную глухату. Таму яна, Прадслава, яшчэ летась, калі і гутаркі не заводзілася пра гэтую паездку ў непрыязны для многіх Полацк, і Праміславе паслала праменьчык у душу, зернейка для парастка на веданне пра тую, хто іх нарадзіў, хто, канечне, кожны дзень думае пра ўсіх сваіх дзяцей...

...Пакаёвы ўпусціў у святліцу бацьку.

– Вітаю цябе, вялікі князь кіеўскі, – схіліў галаву ў паклоне і прыклаў руку да грудзіны Ізяслаў.

Цяпер, у светлы дзень, яны пільна акінулі адзін аднаго позіркам. Звыкламу да ўсіхняга пакланення бацьку, канечне ж, не спадабалася, што ён, сын, паводзіцца з ім найперш як з вядомым уладным госцем і не выяўляе родасных пачуццяў, а яшчэ зазначае, што ён, сын, – тут гаспадар вольнай Полацкай зямлі і зусім лёгка абыходзіцца без магутнага Кіева і яго, бацькі.

Уладзімір паблажліва пасміхнуўся замест прывітання. У ёй, гэтай усмешцы, была свая загадкавасць. Мо і крыўда. Хоць епіскап усім тут не прамінае хваліць найперш яго “добродетели”: нібыта ён, некалі прагны на чужую, нават на братнюю кроў і на ўцехі з чужымі жонкамі, “на растлевание девиц”, глухі да горасных чалавечых слёз, славалюбны, любіцель п’янак, з хрышчэннем зусім змяніўся. Стаў “кроток, аки праведник”. Набожны, вялікі міласэрнік, асветнік, будаўнік гарадоў і цэркваў. Ладзіць багатыя пачастункі не толькі пасля вялікай збройнай перамогі, а і кожную нядзелю – для верных баяраў, дружыннікаў, нават для жабракоў і калек. Тым, хто не можа дайсці да яго хорама, пасылае ежу, грыўны. Нават забойцаў мілаваў, толькі караў бірай – штрафам. Ахаладнеў да войнаў, праліцця крыві. Быццам з-за боязі Божага гневу. Праўда, гаварыў епіскап, “духоўныя пастыры вывелі яго з аблуды, настроілі строга распраўляцца са злачынцамі, абудзілі воінскі дух, быць жахам для ворагаў вялікай дзяржавы”.

Дзе тут была праўда, а дзе прыкраса пашанотна і шчодра абласканых святаслужнікаў, цяжка было сказаць пра гэта. Скажам, воінскі дух мог страціць і па іншай прычыне: пазалетась яго, здавалася непераможнага, люта здубасілі раней не раз бітыя кіеўлянамі ваяўнічыя печанегі, і ён з купкай целаахоўнікаў выратаваўся цудам, уночы схаваўшыся з тымі пад мостам. Казалі, таіўся, слухаў, як па мосце скачуць варожыя коннікі і шаптаў: “Ратуй, новы наш Бог адзіны! Застануся жывы – пабудую табе новую царкву!” А хіба на самай справе святасць вялікая, што былой жонцы, яго, Ізяслававай, маці, не дазваляе пакінуць невялічкую паўзямлянку-келлю з гліняным долам, з простарубленым сталом і ложкам, дзе не пярыны, а напхнутыя саломаю сяннік і падушка ў глушэчным “граде Изяславле” і перабрацца ў Полацк? Якая тут не толькі хрысціянская міласэрнасць, а хоць бы чалавечая спагада?

Хвіліну-другую бацька і сын азіралі адзін аднаго. Уладзімір не вызначаўся ростам, здароўем і сілай (яго колішнія “жаночыя подзвігі” мо былі ўсяго толькі наўмысна прыдуманымі пагалоскамі), дык цяпер не ў яркай княскай апратцы, а ў каптане з простага сукна і без аздобы са срэбра альбо золата, сівавалосы, памаршчынены, сутулаваты, быў зусім не падобны на вялікага ўладцу. Раней ён, Ізяслаў, рэдка бачыў яго, бацьку (яшчэ радзей цвярозага), ды падлеткам не мог спазнаць характар таго, а цяпер нават па абліччы здагадваўся пра гэта. Ягоны лекар падказаў: калі ў чалавека высокі лоб, то гэтая асоба ў развазе ўзвешвае і кожную дробязь, круглыя вочы з хітрым прыжмуркам – на эмоцыі, запальчывасць і на тое, што носьбіт іх сваю выгаду не ўпусціць, тонкі, амаль сціснуты рот – нервовасць і жорсткасць, падоўжаны падбародак – рашучасць і настойлівасць. Пэўна, і без гэтых прыкмет бацька якраз такі.

– Здраствуй, сын, – як і ўчора, сказаў той. – Ты не хочешь обняті отца?

Казалі, бацькаў дзед-вараг не ведаў палянскай гаворкі, гаварыў з кіеўлянамі праз тлумача, бацька, Святаслаў, нарадзіўшыся сярод палян, навучыўся ёй, а вось ён, Уладзімір, ужо ведаў яе, як і драўлянскую – найперш праз драўлянку-маці, спасціг і наўгародскую. А што да Ізяслава, то ён засвоіў полацкую. Названыя гаворкі былі не чужыя, зразумелыя, але і адметныя.

Абняць! “Яго!” Адкуль узяць такое жаданне? Таму ад такога бацькавага запыту ён сумеўся і несвядома ступіў таму насустрач. Той – яму. Парукаліся, а потым абняліся; бацька тры разы пацалаваў яго, парадаваўся:

– Бравый! Способный державній владар! Рады за цябе.

Нязвыклая для Ізяслава была такая бацькавая чуллівасць. Ён і раней ужо адчуваў, што з душы пачынае спаўзаць цяжкі камень: жыццё ёсць жыццё, трэба жыць – тым больш у вернутым ім, бацькам, прадзедавым Полацку. Цяпер незнаёмая цёплая хваля да бацькі агарнула яго маладое, але ўжо нямала агоранае сэрца.

– Сядай, нечаканы госць, – запрасіў ён.

Уладзімір агледзеў гэтую княскую святліцу на другім паверсе драўлянага хорама – навошчаны паркет, мядзведжыя скуры пад лавамі і сталом, накрыты белым ільным абрусам стол, ахінуты белай наміткай з каймой абраз Хрыстовай маці над ім на покуці, лучніцу – карытца з вадой нападобе азярка, стаўбунок у форме чалавека, перакладзінку-”руку”, паміж пальцамі якой прыладжваліся лучыны ці свечкі так, каб агаркі з іх падалі ў ваду. Акінуў паліцы з кнігамі (іншыя, як і розныя граматы, былі ў схованах). І нешматслоўна:

– Не гардавіта жывеш, князь палацескі.

– А я не люблю раскошы, – сеўшы ўслед за бацькам, адказаў Ізяслаў і стрымаўся дадаць, што не можа шыкаваць тады, калі яго маці жыве зусім не ў хораме. Дык яму, сыну, грэх вялікі і прыклад баярам паказваў: менш майце прагі да свайго багацця, а кожны па-свойму больш дбайце пра багацце Полацка і яго зямель. Канечне, не ўсім падабалася сціплічаць, але асцерагаліся яго і рэдкага гневу.

Ён ад маці, мудрых баяр дый сам рана спазнаў, што Полацк не абжывецца войнамі, набегамі на чужыя землі, дык настроіўся на дбайныя гаспадаранне і гандаль. Сачыў, клапаціўся, каб з далёкай Сканіі (Скандынавіі) прыбывала чым болей паковак жалеза з горных парод, што было нашмат лепшае за мясцовае з балотнай руды (гэта дазваляла ажалезіць сошнікі, рабіць добрыя сякеры, косы, сярпы, мячы, нажы, наканечнікі коп’яў і стрэлаў, конскую збрую). Адтуль жа прывозілі яшчэ гаршкі, катлы з жыравіка – вапны, што лёгка здабывалася, а пасля апрацоўкі моцна цвярдзела. Улічыўшы, што заняпаў гандлёвы шлях Харэзма, Самарканда, Бухары – Булгара да Ладагі і Ноўгарада, стасункаў з Ноўгарадам не пакінулі, але пачалі шукаць і іншыя гандлёвыя пуцявіны. Да Гняздова (паблізу Смаленска, дзе асела нямала рознамоўнага гандлёвага люду), да прываражскіх абшараў з бурштынам і вырабы з яго, да тавараў з фрызскіх краёў – сукно, збаны для віна, з Рэйланда – віно для багатых дамоў. Шмат было купцоў з Кіева (цаніліся адтуль шкло і белыя гліняныя пасудзіны з зялёнай палівай, а з далейшага поўдня – соль). Наведваліся з Візантыі, з Арабіі, адкуль можна было займець сукно, шоўкі, каптаны і сарафаны, дываны, жаночыя ўпрыгожанні (простыя, з бронзы, з косці ды бурштыну, рабілі і самі або набывалі ў суседзяў: у дрыгавічоў – металічныя пацеркі,

пакрытыя зерню, у радзімічаў – сяміпрамянёвыя ды пярсцёнкападобныя скроневыя колцы, дробны бісер, шкляныя пазалочаныя пацеркі, круглыя падвескі, якія сімвалізавалі нябесныя свяцілы). Адтуль, з-за мора Панційскага (Чорнага) цешыліся гваздзікай, карыцай, перцам, а яшчэ ўпадабалі персідскія баявыя сякеры, аздобленыя срэбрам і меддзю. З персідска-сасанідскіх зямель палюбіліся прылады мер і вагаў – вагі і гіркі. Пачаў зноў збірацца запас арабскага срэбра, а да яго дадавацца манеты са Сканіі (на жаль, Рагвалодаў скарб арабскіх дырхемаў і візантыйскага срэбра не адшукалі). Не вярталіся на радзіму тавары з краін, што за морам Варажскім, з зямель цюрынгаў, франкаў.

З Полацка купцы таксама не выязджалі з пустымі санямі і павозкамі, не ўлегцы на конях і вярблюдах, у розныя бакі вывозілі скуры з мядзведзяў, ласёў, аленяў, лісаў, рысяў, баброў, зайцаў, а таксама ўпадабаныя добра выраблены і аблямаваныя сукном і шоўкам мужчынскія і жаночыя кажухі і кажушкі, футры розных памераў і формаў (ці не выпадковая блізкасць гучання: “кажух” – па-лацінску “crusna”, па-старанямецку “kursinna”, па-старафрызску “kersua?”), аблавухі, боты. Усё гэта найперш ішло ў заходнія краі, дзе таксама магла быць суровая зіма; яшчэ больш даражэйшая пушніна і футры з яе былі за Панційскім морам. Не залежваліся полацкія мёд, воск, арэхі, бяроста. А Сканія ўпадабала тут купляць жыта, што ў іх не вельмі пладзіла. Калі раней многія купцы, пакупнікі разлічваліся скуркамі ці мордкамі-галоўкамі, лапкамі куніц і вавёрак, то цяпер іншаземныя купцы з задавальненнем бяруць за свае тавары полацкія льняныя тканіны: марскія краіны ўпадабалі рабіць з іх парусы для лодак і караблёў Часам праз купцоў траплялі тавары з такой далечы, назвы якой ведалі толькі лічаныя людзі (як па-сённяшняму, Кітай. Ад яго, да слова, плямёны за плямёнамі навучыліся карыстацца дугамі і хамутамі, а таксама мелі розныя лекі; Індыя, адкуль прывезлі зерне палюбленых агуркоў. – ***Г.Д.***). Як і яшчэ задоўга да Рагвалода прадавалі на поўдзень, у стэпы, лес, драўляны вугаль. Менш за іншых, але і Полацк прадаўжаў весці такі высокааплатны гандаль, як продаж рабоў – як хцівых чужынцаў, так і сваіх, каго лавілі на крадзежы і рабаўніцтве ў лесе, на дарогах і па рэках, а куплялі майстроў, маладых жанчын, дзяцей. Тут была дарагоўля: скажам, у Сканіі за аднаго раба давалі 200-300 грамаў срэбра, а ў Полацку можна было купіць-прадаць каня за 150 грамаў срэбра, меч і аздобленую конскую збрую – за 125, карову – за 80, вала – за 50, аброць і свінню – за 10. Іншы кошт: пацерка (шкляная зялёная) – 3 грамы срэбра ці скурка куніцы. Яшчэ даражэйшыя былі скуркі куніц і зайцаў за Понтам: там, скажам, заечымі шкуркамі лячылі боль у паясніцы (разлікі цэнаў на ўсходнеславянскіх землях з даследавання “Славяне і скандынавы”, М., “Прогресс”, 1986, с. 80-82. – ***Г.Д.***).

Радзей, але заяўляліся ў Полацк і іншыя госці – конунгі і ярлы са Сканіі (адзін з іх і прывёз Ізяславу спачатку намаляваную выяву Ізольды, а потым і яе самую), князі і баяры з суседніх славянскіх і іншамоўных зямель, наёмнікі, падарожныя рамеснікі, цікаўныя дапытнікі (сярод іх былі і віжы-выведнікі, з імі трэ было трымаць вуха востра. Не адзін з іх таксама быў строга дапытаны, але не скалечаны, прададзены за патрэбнае срэбра ці выменены за запалоненага палачаніна).

Вось крыху з таго, што было Ізяслававым назіркам і клопатам, што выяўлялася яго, кажучы бацькавымі словамі, “прастатой”.

– Бачыш, журній (маркотны) я. Турбота важкая пагнала мяне з Кіева, – пасля нядоўгага маўчання пастукаў вялікім пальцам па стале Уладзімір. – Напасць вялікая насоўваецца на мяне і хутка наляціць хмарай чорнаю...

– Зноў– печанегі? – здагадаўся Ізяслаў. Яны вось ужо каля ста гадоў трымаюць Кіеў у напрузе. То нападаюць, то саюзяцца, але саюзнікі ненадзейныя. Цяпер ярыя Уладзіміравы ворагі. Першы раз маглі расправіцца з ім, калі яго бацька заваёўваў балгарскія землі (каля 968 г. – ***Г.Д.***) і яны асадзілі ў Кіеве княгіню Вольгу з унукамі. Праз гады чатары яны па нашэпце і подкупу візантыйцаў падпільнавалі яе мужа, Святаслава, калі ён вяртаўся дамоў, і загубілі яго. Ужо некалькі разоў уступаў з імі ў бой і Уладзімір.

– Печанегі, сын. Восем іхніх каленаў збіраецца на нас, каб расправіцца са мной. Ворагі даўнія, воі смелыя і лютыя. Вось еду ў Ноўгарад сілы збіраць для адпору. Можа, і ты падсобіш? Хоць дружынай?

– Ты добра ведаеш: сілы вялікай мы не трымаем, – адказаў Ізяслаў. – Ды нам ніхто не пагражае, і мы вайны ні з кім, як ты даў наказ, пачынаць не будзем. Мы – аратыя, дойліды, кавалі, гарбары, ткаллі, каменшчыкі, рыбаловы, паляўнічыя, купцы. Дзетак кемных вучым чытаць і пісаць.

– Ты – дбайлівец, добра агаспадарыў Палацеск. За кароткі час ён стаў і людны, – згадзіўся Уладзімір, змоўчваючы, што той, стары, Полацк разбурыў і папаліў ён. А каб не спустошыў, не абязлюдзіў, то сёння ў ім мо было б каля 10 000 насельнікаў, што зрабіла б яго ў ліку вялікіх гарадоў нават на далёкіх прастранях. – Спраўна гаспадарыш, разумна з суседзямі ладзіш. І з варагамі дружбуеш. З радні Олава Труггвасона жонку ўзяў. – І пакрыўджана: – На вяселле бацьку не паклікаў...

“Думаў паклікаць, але маці і баяры адгаварылі, – мог адказаць Ізяслаў. – Сказалі: не трэба тут ён. Не будзем кланяцца яму. Ды тады, на гулянні, што магло б быць? Ці абышлося б без помсты, без нажа якога-небудзь смельчака альбо без атруты кухара?! А гэта – новая бітва...”.

Іначай апраўдвацца Ізяслаў не стаў.

– Ладна, – незласліва прамовіў Уладзімір. – Не будзем жыць толькі з крыўдай і помстай! Але ведай: не будзе мяне (па-вашаму, ліхадзея для Палацеска) – цяжка стане і табе, сын... Ты – адрэзаная скіба, ды я берагу і цябе... Ты – усё ж мой сын, Рурыкавіч. І дзеці твае будуць Ізяславічы-Рурыкавічы. Адно дрэва. Ці мо і ты лічыш: ты, як і Святаполк, – не мой, а Яраполкаў?

– Не, я так не лічу. Я, як нікому, веру маме. Выбачай, яна сказала мне, што хацела выйсці замуж за Яраполка, але дасталася табе цнатлівай... Таму дазволь выказаць табе просьбу запаветную, вялікі князь-бацька, – Ізяславу мільгнула думка спажыць бацькаву лагоднасць( а той ажно павесялеў, калі нарэшце пачуў жаданае слова). – Вярні нам Віцепск і Усвяты. Цяжка нам без іх. Замінка вялікая па шляху з варагаў у грэкі. Клянуся: ні Ноўгараду, ні Кіеву перашкоды ад гэтага не будзе.

Уладзімір лагодна ўсміхнуся, пахітаў галавой:

– Во-во! Не зусім дарэмна перасцерагаюць мае баяры: ты ўжо асмакаваўся княжыць, набіраць сілу. І хочацца ўсё больш і больш. Грозен, сын, становішся! Ды з палацескімі памяццю і гонарам! Усвяты і Віцьбеск цябе яшчэ больш амацуюць, адкрыюць шлях на Смаленск... Ды і небяспека Пляскову (Пскову) і Ноўгараду...

– Нам трэба ўсяго толькі звязаць канцы разарванага.

– Разумею, усё разумею, сын, – уздыхнуў Уладзімір. – Як ужо сам ты пераканаўся, я не проста саслаў цябе на край крывіцка-палацескай зямлі, дазволіў там мець свой град – Ізяслаўль. Я хацеў пабачыць, як на цябе паглядзяць вольналюбівыя дрыгавічы. Калі ўпусціў цябе ў Палацеск, то ты ўзвысіўся – пад тваёй рукой апынулася нямала дрыгавіцкіх зямель уніз па Свіслачы, за Менеск і Нямігу, па сушы (Лагойск. Тут і далей тлумачэнне маё. – ***Г.Д.***), па Бярэзіне (Барысаў). У іншы бок – да Дняпра (Орша, Копысь), па лясы з аўкштайтамі і па азёры з латгаламі (найперш Браслаў). І табе мала гэтага? Святаполк з Турава вушы мне прагудзеў: ты прагна і на некаторыя іншыя дрыгавіцкія абсягі ўжо замахваешся! А хіба ты з маімі даннікамі, радзімічамі, не шэпчашся? – паківаў перад ім пальцам. – Асцярожна, сын! Не перабольш! Ты і так немалую дзяржаву маеш! Пакінь мроі, каб злучыць палацескіх, а то і ўсіх крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў насуперак Кіеву! Буду я жывы ці не, а гэтага Кіеў ніколі не дапусціць!

– У мяне няма такіх мрояў, – апраўдаўся Ізяслаў.

– Калі няма ў цябе, то будуць у тваіх наступнікаў, – пераканана сцвердзіў Уладзімір. – Я табе скажу больш: мае баяры былі не супраць даць табе Палацеск, але яны скрыгочуць зубамі, што ён не ў нашых руках, а сам па сабе і расце, мацуецца. Дык май тое, што маеш: іначай страціш і яго. Не скажу, спраўны гаспадар, але будзь яшчэ і спраўны палітык. А што да Віцьбеска і Усвят, то... Не пра іх мне цяпер баліць галава, а пра вайну з печанегамі. Дык пакіну сям'ю ў цябе, а сам паімчуся да наўгародцаў, чудзі, весі, каб набраць там сілы. Ды і з маімі “любімымі” варагамі трэба паразумецца... А за гэты час, думаю, прыйдзе падмога з Растова, ад мурамы, вяцічаў, куды паслаў баяраў.

“І ты, бацька, не такі ўжо дальнабачны палітык, – не цярпелася сказаць Ізяславу. – Пралічыўся ты. І не раз. З варагамі не паладзіў яшчэ тады, калі яны памаглі табе ўзяць Палацеск, сесці ў Кіеве на вялікакняскім пасадзе, а ты іх падмануў. Меўся даць ім па дзве грыўны з кожнага кіеўляніна і не даў. Столькі цягнуў ката за хвост з абяцанкамі, што яны са злосці плюнулі і сыйшлі ў Візантыю. А ты наўздагон паслаў грамату базілеўсам: асцерагайцеся гэтых ваўкоў, не пакідайце іх гуртам, а падзяліце іх і разашліце па розных мясцінах! Мог мець падмогу і ад ляшскага Баляслава, але той у крыўдзе: ты адмовіў таму ўзяць за жонку дачку Прадславу. А шлюб гэты быў бы вельмі выгадны табе. Дый Ноўгараду будзе няпроста памагчы: на паўночныя яго землі хлынулі нарвежцы і ці не скарылі ўжо Ладагу”.

– Вось што, сын, – папрасіў Уладзімір. – З “маімі” варагамі буду сам дамаўляцца, а ты складзі грамату да Олава Труггавасона. Папрасі пакінуць Наўгародскую зямлю ў спакоі і памагчы мне. Калі не самому, дык сілай іншых конунгаў і ярлаў (як пазначаюць даследчыкі, новая вырашальная бітва Уладзіміра з печанегамі адбылася ў 997-ым. Значыць, ён мог наведацца ў Полацк у снежні 996-га. – ***Г.Д.***).

– Напішу, – не мог не згадзіцца Ізяслаў і заадно падступіўся да яшчэ адной з запаветнай сваёй мары. – Дазволь, князь-бацька, папрасіць у цябе яшчэ пра тое, што ад цябе не патрабуе ніякіх турбот... Табе трэба сказаць толькі адно слова: “згодзен”...

Той схмурыў бровы: мабыць, адчуў, якая яго просьба.

– Пра хрысціянскую міласэрнасць тваю шырока ходзяць легенды, – пачаў захвальваць Ізяслаў. – Дык праяві яе і да мяне з маці. Не супярэч, каб яна жыла ў Палацеску.

Уладзімір незадаволена памаўчаў, а затым пазлараднічаў:

– А хіба ты не парушаеш мой наказ? Хіба не часта бачышся-шэпчашся з ёю?

– Які быў бы я сын у вачах палацескага, ізяслаўскага і іншага люду, каб занядбаў гаротную маці? – У Ізяслававым запытанні быў і схаваны папрок. – Які чалавек? Хрысціянін?

– Яна ненавідзіць мяне?

– Зусім не. Яна і за цябе моліцца.

Уладзімір ажно ўстрапянуўся ад такой нечаканасці, зноў, але на гэты раз задумліва памаўчаў, а затым раптоўна перакінуў віну на яго:

– А чаму ты пра гэта ў мяне просіш? Чаму не ў вашага епіскапа? Яна – манашка. А дзе жыць ёй, тут альбо ў Ізяслаўлі, пра гэта найперш рашае ён, яе пастыр... Выбачай, але мне няма часу на размовы з ім... Нават выслухаць яго скаргі на тое, што ты не зусім шчырун новай веры...

– Я не насаджаю яе гвалтам, – не столькі апраўдаўся, колькі патлумачыў Ізяслаў. – Ды нельга ж так – узяць і ўсё па-жывому перасекчы. Трэба ж, каб і засталася нейкая повязь з даўнім.

– Але нібыта шмат патураеш старавернікам.

– Як каму, – спакойна, са знакам нязгоды адказаў Ізяслаў, бачачы, што цяпер бацьку мала цікавіць, як ён адносіцца да новай веры. Тым больш ведае, што новую веру прапаведуе больш за іншых маці. – Ну, як быць супраць вешчуноў? Яны не толькі моляцца, пяюць песні старым багам, але і стараюцца прадказаць ліха і бяду. З ім, як ведаю, раяцца і ўсе хрысціянскія ўладары. Канечне, яны не ўратуюць ад засухі ці ліўняў, ад чорных хвароб. Ды чалавеку лягчэй, калі яму нехта хоць паспачувае. А як не паважаць зялейнікаў, якія ведаюць сакрэты лекавых зёлак і, бывае, добра лечаць? Не бачу бяды вялікай ад варажбітоў, баянаў, абярэжнікаў. Без іх сумней жылося б. А вясёлыя і сумныя святы – Каляды, Масленіца, Гуканне вясны, Сёмуха, Купалле, Дзяды? Хіба гэта горш, страшней, чым некалі ў Рыме, дзе цешыліся крывавымі баямі, забойствамі гладыятараў?! Ну, а пра ведзьмакоў, ваўкалакаў – гэта найбольш паданні і казкі. Але і яны трэба. Епіскап наш прапаведуе пакорлівасць, а сам нецярпімы, абзывае дзікунамі...

– І мяне, думаеш, Канстанцінопаль усё яшчэ не лічыць дзікуном? – усміхнуўся Уладзімір. – Лічыць. Бо для яго ўсе славяне цёмныя і адсталыя. І няхай сабе фанабэрыцца. А мы яму ўцерлі нос. А далей – яшчэ больш... – Усміхнуўся: – Хоць і мы – не лепшыя... Не лічым, апроч Кіева, Палацеска і Ноўгарада, не толькі язычнікаў, але і іншыя плямёны нявартымі людзьмі? Бо нават не нашымі дзядамі заведзена: калі хочаш каго падуладзіць, спачатку пачынай яго знеслаўляць, прыніжаць, а сябе ўзвышаць... А раз ты вышэйшы, то і маеш права на іх. Каб абчалавечыць... Вось таму і ваш епіскап нецярпімы... Хоча хутчэй стаць пастухом над паслухмяным статкам...

Ізяслаў пасміхнуўся таксама, мог сказаць: “Ты, бацька, каб падуладзіць булгараў, таксама шмат гаварыў пра іх дзікунства. Але твой дзядзька Дабрыня табе мудра падказаў: адчэпімся, не ўтрымаць іх нам: яны – не лапатнікі, а боты носяць... Значыць, і без цябе, “дабрадзея”, багаты, спраўны

і годны люд! А такі, хоць і будзе заваёваны насіллем, рана-позна падыме галаву супраць захопніка-прыгнятальніка, пакажа сваю годнасць... Ты Палацеск заваяваў летаў 20 таму, але не скарыў яго, праз 10 з хвосцікам летаў мусіў аддаць дзедаву вотчыну мне і вярнуць ёй волю...”.

Бацька не мог не заўважыць: сын няпроста так пасміхаецца і зноў, малады ды ранні, не ўсё дагаворвае. Але ўсё ж падказаў:

– Такая наша, княская, доля, сын. Трэба ўмець усё лоўка спажываць. І епіскапаў таксама. Надта іхнія клікі да цярпення, пакорлівасці, веры вялікай у рай на тым свеце... Спачатку, як і сам ведаеш, гэта было суцехам для галоты, а потым стала моцнай зброяй Рымскай імперыі... Дык не зусім выпадкова мая бабуля, а твая прабабуля Вольга не толькі скарыла драўлян, адбіла печанегаў, мудра “устави... погосты и дани на Руси”(Вольга ў малалецтва сына Святаслава правяла дзяржаўную рэформу: дакладней падзяліла Русь на воласці і ўдасканаліла змястоўнае і форму даніны. – ***Г.Д.***), але і сама прыняла хрост ды ўгаворвала бацьку майго ахрысціцца і ахрысціць Русь...

– Не чапаю тых, хто па-старому звычаю спальвае цела нябожчыка і попел у скрыначцы выстаўляе на перакрыжаванні дарог. – Ізяслаў перавёў гутарку на іншае: – Але строга караю многажэнцаў. Тых, хто забівае жонку нябожчыка і спальвае разам з ім. Не дазваляю кроўную помсту, біць удаву, калі яна ў плакальніцу мала нальe слёз. Забараніў дзецям і ўнукам вывозіць у пушчу і пакідаць там састарэлых, нямоглых бацькоў і дзядоў. Натхняю адступіцца ад такога дзікунства, а шанаваць старых. Як магу, стараюся, каб было чым болей пісьменных людзей. І іх ужо нямала. Ужо не толькі я ці многія баяры, але і нямала мужоў знатных пішуць адзін аднаму на бяросце граматы. А навучаным напісанню отракам загадваю запісваць ад мудрых старцаў пра знакі начнога неба, зорак, прыкметы надвор’я, пра тое, што і калі трэба сеяць ды садзіць (Ян Ермаловіч зазначаў у “Рукапісе”, што полацкі летапіс пачаў весціся з часоў Ізяслава-кніжніка.). А каб новая вера глыбей укаранялася, епіскапу патрэбныя не столькі нараканні, гнеў, садзіць люд ў цёмным і сырым падзямеллі на ланцуг, а больш праяўляць цярпімасць, спагаду, любоў душой і словам Божым... Хоць калі ведзьмяру ці вядзьмярцы звязваюць за спіной рукі, начэпліваюць на шыю цяжкі камень і кідаюць у ваду, то ён гэтага нібы не бачыць... А гэта ж – самасуд, чаго не павінна быць у дзяржаве... А што да новых храмаў, то ідзем яму насустрач: хутка пачнем будаваць дзве царквы святой Багародзіцы: адну – у Друцеску, другую – тут.

Уладзімір нічога асобна не сказаў пра аднаго са сваіх назірачоў-даносчыкаў. Пасля дастаў з сярэдзіннай кішэні каптана аксамітны бурачковага колеру каптурык і з гарэзным бляскам у вачах падаў яго яму.

– Пацягні за гэтыя шнурочкі, – паказаў вачыма.

Ізяслаў тузнуў за шаўковыя повязкі – каптурык раскрыўся, а там – пячатка. Дастаў яе, а на ёй пацеркамі абазначана колца, а ў ім – княжацкае клейна і яго імя па-грэчаску, напісанае кірылаўскімі літарамі. Значыць, адобранае ў самім Царгорадзе.

– Вось цяпер, сын, ты – паўнапраўны князь, – хацеў парадаваць Уладзімір. – І нашчадкі твае будуць паўнапраўныя. Значыць, любімая табой з маці Палацеская зямля – вольная, паўнапраўная дзяржава: вы ўжо не на словах, а вось доказам для ўсіх краёў прызнаныя і Кіевам, і Візантыяй! Я хацеў перадаць гэта табе перад усёй знаццю ў Кіеве, але ты не пажадаў

наведацца... Так што, папраўдзе, пакіньце нянавісць да мяне: як бачыш, грэх свой яшчэ раз замольваю... Толькі... – схмурыўся. – Толькі, паўтаруся, не алчнічай на суседнія землі, што на ўліку ў Кіева...

Уладзімір, абапіраючыся на стол, цежавата падняўся. Хутка стаў на ногі і Ізяслаў. Бацька цяпер адмыслова, па-новаму прытухлымі вачыма агледзеў яго – нібы не ўзнёсла, як, бывае, без слоў, але ўсцешліва радуецца бацька за сынаву ўдаласць. Не, ён не раўнуе, але ведае: зайздросціць, шкодзіць будуць іншыя, каму яна, гэтая ўдаласць маладога, нажом у сэрца.

– Я веру табе, сын, – прамовіў Уладзімір. – Сам убачыў: не жывеш помстай...

– Дзякуй, – схіліў галаву Ізяслаў. – А я рады, што мы пабачыліся і пагаварылі. Што адсунуўся ён, недавер... А што да помсты, то яе ўжо даўно няма. Ты ў 6495-м (987-м) зрабіў правільны выбар. Хрысціянства ўжо само ішло да нас...

– І табе дзякуй, – таксама пакланіўся Уладзімір. – За разуменне тваё...

– Усё будзе добра, – нязмушана ўсміхнуўся Ізяслаў. – А печанегаў адаб'еш. Ужо адно тваё імя шмат значыць.

Бацька, здаецца, размякчэў. Ёсць такая рыса ва ўладных, жорсткіх людзей – чуллівасць у пэўныя, асабліва пяшчотныя хвіліны. Вось і ў таго нагарнулася на вочы слёзная павалока.

– Палацеск будзе ганарыцца табой, – прызнаў Уладзімір. – Канечне, найперш як Рагвалодавічам, хоць і па кудзелі. І ты ўжо заслужыў гэта. Ты і вялікім князем кіеўскім спраўным быў бы. Старэйшы з вас, Вышаслаў, не мае таго, што маеш ты.

– Ён быў, ёсць і будзе першым. Я на Кіеў не пасягаю і не буду пася- гаць.

Ясней яснага: ісці туды – весці за сабой, як цяля на вяровачцы, і Полацк. Памрэш – будзе іншы вялікі князь, хай сабе і твой сын, а вось Полацк застанецца пад уладай Кіева. Усяго толькі як удзельнае яго княства. А вось сённяшні яго падмурак можа быць і для свайго вялікага гмаху...

– Давай, сын, абдымемся на развітанне.

Прытуліліся. І па паніклых бацькавых плячах, слабым поціску рук Ізяслаў найбольш адчуў: той – таксама зямны, ужо аслабелы чалавек.

– Беражы сябе, пра сыноў дбай, – адхіліўшыся, даў наказ Уладзімір. – А маці твая... Зямля нас памірыць... А судзіць будуць там... – Паказаў пальцам на столь. – Яна – вялікая жанчына... Ва ўсім... Я такой красы жаночай і моцы духу чалавечага больш не ведаю... Калі цяпер ёсць праведныя на грэшнай нашай зямлі, то яна – з іх. А Саламон сказаў: “Праведницы в веки живут, и от Господа мзда (узнагарода) их, и строение (клопат) их (пра іх) от Вышнего...”.

...Што да Рагнеды, то епіскап адмахнуўся ад Ізяслававых назойлівых просьбаў: не я ссылаў тваю маці ў Ізяслаўль, а вялікі князь кіеўскі як злачынніцу вялікую. Дык няхай у паўзямлянцы-келлі адмольвае свае грахі. А супраць яго волі я не пайду...

## 3.

Сюды, у княскую сталоўку, пакаёвая прывяла дзве маладыя жаночыя асобы. Ужо дарослую дзяўчыну і падлетка – Прадславу і Праміславу.

Абедзве, як і іхні бацька для чужога вока, не ў княскім убранні, а кожная ў незвычайным – не зусім святочным персідскім зялёным, з чырвонымі вышыўкамі сарафане паверсе ліловай паддзеўкі, у зялёна-чырвоных скіндачках. А вось на валасы і твар яны былі даволі розныя. Старэйшая сястра – русявая, з глыбокім блакітам вачэй, ужо з расквітнелай жаночай грацыяй і красой – праўда, "выкапаная маці". Толькі з юначай гібкасцю, свежасцю яркіх вуснаў і поўненькіх шчок, жвавасцю позірку, яснасцю лоба, хораша ўзнятых грудзей і акругленых клубоў. І вельмі харашыў яе твар якраз падабраны да яго маці-прыродай роўны прадаўгаваты нос. Канечне, зусім не выпадкова ляшскі Баляслаў закахаўся ў Прадславу і занудзіўся, затаіў глыбокую злосць, калі Уладзімір не выдаў замуж яе за яго. Малодшая сястра, як і трэба для свайго ўзросту, была гонкая, тоненькая, з чарнявымі валасамі, каса якіх пачала ўжо апускацца за шыю, як і ў бацькі, з круглымі вачыма, але без хітрага прыжмурку, з тонкімі губамі, крыху з выцягнутым падбародкам. Як кідалася ў вочы, яна поўнілася цікаўнасцю да незнаёмага ёй старэйшага брата па адных бацьку і маці. Як пазней увазнае Ізяслаў, ведала, што ў розных мясцінах ёсць браты Яраслаў, Мсціслаў і Усевалад, але да Прадславінага пасвячэння лічыла: іх і яе маці – Ганна, як і Барыса, Глеба, Станіслава.

– Сястрычкі! – ад хвалявання і радасці ў Ізяслава зайшлося сэрца: быў вельмі чуллівы па маці.

– Брацік! Кревнік! – першая рушыла насустрач Прадслава. – Яка давноочікувана зустріч! Які ты взрослый вже! Бравій! Чоловік!

Прыпалі адно да аднаго. Шчака да шчакі. Спрытна пакатыя Прадславіны плечы ўздрыгнулі і яго шчаку абвільготнелі яе хуткія слёзы. Канечне, яна была ўжо здольная глыбока ўсвядоміць, перажываць іхні такі няпросты сямейны лёс – долю іхняй гордай і абяздоленай маці і яго, спакойнага, разважнага ды бунтоўнага брата, а таксама глыбока ўсхваляваца ад іхняй жаданай, але неспадзяванай сустрэчы.

Адхіліліся і, трымаючыся за рукі, зірнулі адно аднаму ў вочы.

– Кажуць, – светла ўсміхнулася і яшчэ незвычайна ахарашэла, – я – выкапаная наша маці. А мне здаецца, што і ты крошкі падабраў ад яе. Красній-красній!

Ізяслаў яшчэ больш зарадаваўся – не ад пахвалы яму, а ад таго, што Прадслава гэтак помніць, шануе маці:

– Ты помніш нашу мамульку?

– Запомніла, Ізяслаў. Бывае, уночы заплюшчу вочы – і бачу яе. А то і сасню. Яна, смутная, паўстане, я – да яе, а яна адыходзіць. Я – услед, бягу, крычу-плачу: "Мама! Мамачка! Не пакідай нас!" Ды яна знікае... – А потым, бачачы, што і ён можа заплакаць, да сястры: – Праміслаўка, абдымі нашага старэйшага брацікa.

Тая зрушылася і ішла так, як змалку вучаць хадзіць юных княжнаў, з высока паднятаю галавой, лёгка, дробненька перабіраючы нагамі. Ізяслаў пяшчотна прытуліў яе:

– Маленькая наша!.. Па ўсіх вас, адлучаных, гаравала і гаруе маці, а па табе, меншанькай, – найбольш... – Новы прыліў чуллівасці ў Ізяслава.

Гэтак жа сталася і з прысутнай тут Соф'яй – Прадслава, амаль яе аднагодка, ашчыравала яе абдымкам і пацалункамі ("Рада бачыць цябе, братавая!"), а Прамілава толькі прытулілася, а Соф'я першая пацалавала яе, як дзяўчынку.

Як было бачна, Соф'я (яе, нявестку, цёпла блаславіла іхняя маці) сёння зноў была ўражаная – раней ад жаночай вялікаснасці Рагнеды, а цяпер ад стройнасці і красы яе старэйшай дачкі, палюбаванай, асвечанай нябесным і зямным дарам. У Рагнеды і Прадславы абвысакародзілася кроў паўночных конунгаў і полацкіх князёў. У іх хораша спалучыліся жаночая прастата і зграбнасць.

– Прашу падсілкавацца, – запрасіў Ізяслаў сясцёр, паказваючы на доўгі стол з featureрознай ежай, дзе былі тушаная капуста з гускай, маладыя баравічкі, ржаны хлеб і пшанічная булка з макам, смятана, малако, мёд, кісель і сыта да яго, журавінавы напітак, ачышчаныя арэхі, засушаны вінаград .

– Мы не галодныя, брацік, – адказала Прадслава, – а рваліся сюды найперш дзеля таго, каб пабачыцца. Пагаварыць. Мы ж – адна кроў! Каб ты ведаў, як я радая нават зірнуць на цябе!

– І я, сястрычкі мае. Тады давайце хоць прысядзем.

– Як яна, мама наша? – калі селі, нецярпелася ўведаць Прадславе.

–У смутку глыбокім, у малітвах. Адна яе радасць, што ўсе мы жывыя і здаровыя. Ад таго і яна моцная целам ды духам.

– У Палацеск "Ён", – Прадслава хітравата ўсміхнулася (значыць, дайшло да Кіева, што ён, Ізяслаў, і маці так называюць Уладзіміра), – мяне не пускае... А вось у Растове ў Яраслава, у Цьмутаракані ў Мсціслава, ва Уладзіміры ва Усевалада і ў Тураве ў Святаполка была.

Не сказаць, каб Ізяслаў зусім нічога не ведаў пра сваіх далёкіх ад яго братоў і сясцёр, пра тое-сёе дачуваўся ад розных гасцей і сваіх віжоў ды зусім іншае – не чужы пераказ, а сястрын аповяд.

– У старэйшага з вас, Вышаслава з Ноўгарада, не была, дык нічога пра яго не магу сказаць. Малодшыя твае браты маюць розныя характары, – расказвала тая. – Яраслаў – не па гадах сур'ёзны, смелы, нават дзёрзскі і прагны да ўлады. Перахоплівае ўжо яе ў пестуна Будага, змушае сагнуцца перад ім растоўскую знаць. – Усміхнулася: – Не дарэмна кажуць, што рыжыя і кульгавыя злыя, а то і ліхія...

– Ён моцна кульгае? – спачувальна запытаў Ізяслаў.

– Даволі.

– Дзякуй Богу, што хоць ходзіць. Як помню, ён жа да трох гадоў не мог сам стаць на ногі. Мама гаравала, што будзе ляжань, а значыць можа быць князь-ізгой. Ускочыў і пабег, калі... – І не дагаварыў.

– Мне ўпотай расказалі пра тое... – Прадслава дала знак, што разумее яго недамоўленасць. – Яраслаў крыху помніць маму і цябе. Цябе – тады, калі ты засланіў сабой маці... Яго гэта вельмі ўразіла... Ён пра вас многа распытваў. Адказала, што ведала. І ён заплакаў... А Мсціслаў кажа, што нібы ў густым тумане бачыць вас. Цяпер, як мо і ведаеш, чатырнаццаць яму, на чатыры менш чым Яраславу, яшчэ толькі прабіваюцца вусікі, але ўжо раславаты, моцны, старэйшых отракаў і грыдняў валяе, калі схопяцца дужацца накрыжкі. Кемны. Бярэцца ў рожкі з цьмутараканскімі вяльможамі. Дык і ён, як і ты, Яраслаў, будзе спраўны князь. – Уздыхнула. – Хоць яму мо будзе сама цяжэй з усіх вас: абкружаны морам і ворагамі. Адным словам, "Ён" (без усмешкі ўжо) задаволены вамі: "Па мне пайшлі". Праўда, калі хтосьці з баяраў асмеліцца падаць голас, што ён дарэмна падзяліў дзяржаву паміж сынамі, сам сабе зменшыў "единовластие", бывае, і зморшчыць лоб: "Хоць... Папраўдзе, хто ведае, як потым маладыя арлы будуць паводзіцца са старым, аслаблым арлом... А як пасля смерці маёй

паміж сабой?.. Не пераб'юцца ці не разарвуць сабраную прадзедамі і мной славянскую імперыю?..". А што да Усевалада нашага... – Сумна захітала галавою. – Маленькае княства яго, і ён... Падлетак ужо, павінен інтарэс свой мець, а ён гуляе ў дзіцячыя забавы і з меншымі за сябе. А баярам гэта толькі і трэба. Зусім не гадуюць у ім княскі дух, спажываюць і будуць спажываць яго слабавольнасць.

"Разумная Прадслаўка, – пацешыўся Ізяслаў, – і душу вялікую ды глыбокую мае".

– Я, сястрычка, – прамовіў уголас, – ні супраць бацькі, ні супраць братоў ніколі не пайду.

– Многія кажуць, што ты – "мірны князь, будаўнік". Хоць, брацік, ёсць і незадаволеныя, што бацька (і яна цяпер пазбегла слова "Ён") адасобіў вас ад славянскай імерыі, аднавіў палацескае вольнае княства. Ды ўгледжваюць у табе дзеда Рагвалода хітра задуманы далёкі намер... Якраз праз вашу мірнасць...

– Як і бацьку, табе таксама скажу: мяне асцерагацца не трэба. Самы вялікі мой намер зусім адкрыты: паставіць на ногі Дзедаўшчыну. Каб люд яе не жыў у норах і не хадзіў у звярыных скурах, каб ён быў такі, як і люд У Кіеве, Ноўгарадзе. Каб многаму навучыўся і ад Візантыі, і ад заходніх земляў. Каб усе пабачылі: мы нічым не горшыя за іншых, многае і нам па сіле нашай, па розуме і ўмельстве!

– Цяжкая, прыкрая была мая паездка ў Тураў да Святаполка, – вяла далей свой расказ Прадслава. – Яго маці гудзе і яму, і тураўцам у вушы: яе сын – Яраполкаў, дык не Вышаслаў з Ноўгарада, а якраз ён па даўнім праве некалі павінен быць на вялікакняскім кіеўскім пасадзе. А цяпер павінен быць, як і ты, асобна ад Кіева... Не падуладжваецца яму Рагвалодаў Палацеск, дык такое права мае і град брата Рагвалода Тура... Усіх вас, "малодшых, Уладзіміравых сыноў", люта ненавідзіць, жадае вам зла вялікага. Шэпчацца з ляхамі, мае намер ажаніць Святаполка з іхняй князёўнай. Я не магла не перасцерагчы бацьку пра гэта. Хоць Святаполкавы мары могуць быць і марныя. "Яна" (Ганна) нашэптвае нашаму бацьку, каб запераемнічаў не былы язычнік, а іхні, "хрысціянскі" першы сын. Барыс. І яго змалку навучае на вялікага князя.

Ізяслаў чуў і пра апошняе сказанае Прадславай.

– "Яна" будзе рвацца пагаварыць з табой, – дадала да сказанага, узяла яго за рукі. – Асцерагайся. Яна зусім не тая, за каго сябе падае. Нібы за маці нам, малодшым, але была б радая, каб мы ўсе разам пазгіналі і каб засталіся ды ўзвысіліся яе сыны. Горш горкай рэдзькі мне яе "любоў". Яна і цяпер раўнуе бацьку да нашай маці, бо ён...

Не паспела дагаварыць зразумелую яму, Ізяславу, сапраўдную рэч і перасцярогу адданая як маці, так і яму сястра: пачуўся постук у дзверы. Пасля Ізяславага дазволу на ўваход сюды зайшоў яго верны грыдзь:

– Княжа, цябе кліча да сябе вялікая княгіня кіеўская...

Прадслава, Ізяслаў тут жа перазірнуліся: пачалося! Але Ізяслаў быў спакойны. Раней, калі з маці выкідвалі яго, хлапчука, з Кіева, ён і ў тым узросце моцна ўзненавідзеў новую бацькаву жонку-хрысціянку – разбуральніцу, як тады ён, малеча, лічыў, іхняга сямейнага шчасця. А пасля яны прыглушылі свае крыўду і боль, аспакайнелі: што ж, "Ён" мусіў пайсці якраз на такое, каб сюды хрысціянства прыйшло па яго закліку. Каб сама адукаваная і культурная Візантыя ўшанавала яго! І не абы-кім, а сястрой

базілеўсаў! Ды і ўсё ва ўсіх шасцярых Рагнедзіных дзяцей уладзілася. Усе жывыя, здаровыя, дагледжаныя. За гэта чалавечую і мацярынскую вялікую плату трэба плаціць ёй. У паўзямлянцы-келлі!

Той міг, пакуль Ізяслаў міжволі перавёў свае думкі пра Ганну, Прадслава пільна назірала за ім і, канечне ж, з уцехай бачыла: ён засяродзіўся, ніяк не выяўляе пачуццяў. У гэтым, палічыла, на яго падобны юны Мсціслаў. Не рэзкай выяўнасцю, а ўпэўненай стрыманасцю і душэўнай моцай. Міргнула яму: ідзі і будзь якраз вось такі, самастойны і годны.

– Соф'я, – паказваючы рукой на стол, папрасіў Ізяслаў, – будзь гаспадыняй, частуй братавых.

Першы зірк на незнаёмага чалавека, бывае розны. Як праўдзівы, так і падманлівы. "Яна", візантыйка, была зусім непадобная на іконы святых жанчын, якіх малявалі ў Візантыі – звычайна з цёмнымі валасамі і вялікімі смутнымі, безжыццёвымі вачыма, з доўгім тонкім носам і амаль зведзеным у нітачку ротам, з вузкім падбародкам і часта з гэтакім жа амаль не зямным дзіцем на руках. Ганна была сярэдняга росту, чорна валосая і вокая, смуглявая, з выразнымі цёмнымі вусікамі над верхняй адагнутай губой, а ў выпуклаватых вачах жывілася жаночая гуллівасць. Маршчыны каля вачэй былі шчодра замазаныя, мазь была і на худых шчоках. Але харaства гэта ёй не большала: яго псаваў падоўжаны нос з завысокім пераноссем. Таўсматая ў шырокім сарафане: зноў была цяжарная.

"Як кажуць, гонару, пыхі шмат, але красы жаночай мала. І старэйшая за нашу маці."

Не падданы, то не ўкленчыў, толькі прыклаў руку да грудзіны і схіліў галаву ў паклоне і сказаў па-грэчаску:

– Вітаю цябе, вялікая княгіня кіеўская, дачка і сястра вялікіх базілеўсаў візантыйскіх.

"Яна" таксама пільна агледзела яго. Як былая гулюня (дзеля плоцевых уцех жыцця доўга не хацела асямейвацца і, як хадзілі чуткі, жыла зусім не па рэлігійных запаведзях). Казалі, Святое пісанне толькі слухала ў пераказе граматнага пры ёй слугі, як і апісанне жыцій святых са збору Метафраста, з "Іліяды" асобныя ўрыўкі, больш – з "Адысея". Тым, што шмат пісалі манахі, а таксама рознымі хронікамі, багаслоўнымі спрэчкамі, літургічнымі вершамі, не цікавілася. Больш да спадобы ёй былі жывыя эпіграмы. Любіла даўнія і новыя застольна велічальныя песні, сама ў вольны ад баляў час чытала тое-сёе з выбранага гістарычных твораў (асабліва пра розныя любоўныя паданні пра Далілу і Самсона, царыцу Саўскую і Саламона, Клеапатру і Цэзара, пра Пандору і інш. ). Найчасцей гартала два выданні: "Мірыябіблён" (мноства кніг) Фоція, дзе былі расказы пра свецкія (літаратурныя, гістарычныя, медыцынскія) і царкоўныя кнігі грэчаскіх і візантыйскіх аўтараў ды "Суду" – тлумачальны слоўнік з 30 тысяч нататак па пракаветнай і новай літаратуры, пра вядомых і забытых аўтараў, а таксама былі ўрыўкі са знойдзеных твораў. Хто ведаў гэтыя дзве кнігі, лічыўся высокаадукаваным чалавекам. Паколькі Уладзімір мала цікавіўся гэтым, то яна тут, у Кіеве, дабілася, каб ён у вольныя часіны хоць слухаў трактат "Пра ўпраўленне імперыяй" яе бацькі Канстанціна Багранароднага ў вусным перакладзе знаўцы грэчаскай мовы (названы базілеўс-пісьменнік памёр у 959 годзе – значыць, Ганна нарадзілася раней гэтага часу і, сапраўды, у цяперашнім сане маладой жонкі была старэй-

шая за Рагнеду, маці шасцярых дзяцей). Дык вось як былая гулюня не стрымалася, пагарэзавала:

– Які прыўкрасны малады мужчына! Але давай гаварыць па-славянску. Я хачу пачуць і вашу гаворку.

Ён зусім не сумеўся.

– Як спалася, вялікая княгіня ў нашым Палацеску? – спакойна запытаў і тут жа падумаў, што яна ў яго слове "нашым" можа адчуць дваякі сэнс – тое, што яго маці з Полацка і што цяпер ён тут княжыць, і тое, што князь ён вольны.

– Дзякуй, – тым не менш таксама спакойна прамовіла госця. – Здарожылася, дык сон быў моцны. Дзеці і яшчэ спяць.

– Як скажаш пра сняданак-абед? Падаць яго сюды?

– Пазней. А цяпер, калі можна, пачастуй напіткам з журавінаў. Ён у вас вельмі смачны.

Затым, калі сядзелі і яна пацягвала з іншаземнага прыгожага шклянога келіха ўпадабанае кіславата-салодкае пітво, хітравата ўсміхнулася:

– Прызнайся: маці і ты ненавідзіце мяне?

– Не, – шчыра адказаў ён.

– Але ненавідзелі?

– Было, – зноў зашчыраваў. – Але час залячыў рану: дзеля хрысціянства, новага аблічча нашых славян патрэбен быў твой і бацькаў шлюб.

"Яна" зірнула на яго з непрыкрытым здзіўленнем.

– І яшчэ паспрыяла тое, што нас пакінулі жывымі, а мне далі вольнае княжанне. Ды было да душы тое, што ты не стала злой мачыхай, а ўзяла пад апеку матчыных малодшых сыноў і дачок. Дзякуй табе за гэта. Канечне, тваю жаночую міласэрнасць запаважаюць далёка за межамі Кіева і Палацеска.

– Прызнаюся, – прыклала руку да грудзей, – я не чакала такога ад цябе. Думала: будзеш глядзець на мяне маладым пакрыўджаным воўкам. І маці твая такой жа думкі пра мяне?

– Такой.

– І ні кроплі злосці?

– Ні кроплі.

– А на "Яго?" – пацвелілася. – Я не такая ўжо вінаватая перад вамі, мусіла паслухацца братоў, а вось ён... Як муж і бацька...

– Маці і я жадаем вялікаму князю кіеўскаму доўгіх летаў жыцця і шчаслівага княжання. Калі бацька, Кіеў будуць моцныя, то ніхто з нашых суседзяў не асмеліцца напасці на Палацеск, – адказаў у думках даўшы слова, што больш не будзе ўжываць найменні "Ён" і "Яна".

Ганна асачыла ягоныя вочы асабліва ўважліва, вывучаючы ягоныя не словы, а думкі:

– Але ж ты зусім не хілішся да бацькі, да Кіева. У цябе дух найперш дзеда Рагвалода з яго вольніцай.

– Я не хачу надакучаць рознымі просьбамі. Самі спаўняем свае вялікія і малыя турботы.

– Бацька ганарыцца табой. Хоча, каб такія, як ты, былі і ўсе яго сыны. Скажу табе нават больш: ён зайздросціць, што ўмееш не толькі чытаць паславянску, па-грэчаску, але і пісаць. Ды абдумана, ясна. Як, можа, ні адзін цяпер князь на Русі. Дык я вельмі хацела пабачыць, пагаварыць з табой. З уладаром Палацескай зямлі і, як многія кажуць, шчырым хрысціянінам,

кніжнікам, асветнікам. Ты тут, сярод, як кажаш, вашых славян, пачынаеш ладзіць новую эпоху...

– Рад чуць такое, вялікая княгіня, – сказаў ён, усведамлючы, што былая, нібыта бесклапотная гулёна на самай справе зусім не такая, а дасведчаная і разважлівая. Зусім не выпадкова трапіла ў язычніцкі Кіеў. Але дадаў тое, што мог агаласіць: – Хоць і перабольшаныя мае спробы граматнасцю, асветніцтвам перанесці да нас усё тое высокае, чаго ўжо даўно дасягнула Візантыя ў навуцы гістарычнай, у пісьменстве красным, у мелодыях і спевах, у градабудоўлі, помніках розных. У нас усё гэта яшчэ далёка наперадзе, – нявесела хітнуў галавою. – Ды калі ты хацела пабачыцца са мной, не пустынным, а палацескім "отшельником", то дазволь выказаць табе маю просьбу. Адну, але запаветную.

– Слухаю цябе, князь. Рада буду зрабіць для цябе тое, што мне па сіле.

– Паспрыяй хоць на кароткі міг сустрэцца маёй маці з дочкамі. Бацька ўхіліўся ад такога дазволу. – І свядома паліслівіў: – А на твой, глыбока чалавечны, канечне ж, не зазлуе. Зразумее: маці зразумела маці.

– Просьба твая не цяжкая. Праўда, мне, маці, зразумелы матчыныя боль і жаданне, – Ганна гаварыла і ўсцешвала ягонае сэрца. – Я таксама хачу сустрэцца з ёю. Ды, бачыш, чаму асцерагаюся зноў адправіцца ў некароткую дарогу. Па маёй просьбе бацька твой ужо даў згоду, каб ваша маці прыехала ў Палацеск. Сёння ж пагавару пра гэта і з вашым строгім епіскапам.

Такі Ганнін ход быў даволі нечаканы для Ізяслава, хоць і даволі зразумелы: той, канечне ж, хацелася спадабацца Полацку яшчэ больш пасля таго, калі ўзяла апеку над Рагнедзінымі малодшымі дзецьмі.

– А яшчэ якія просьбы ёсць?

– Іншая мая просьба пра кнігі, – сказаў Ізяслаў. – Я нямала маю іх на грэцкай мове. Але вось "Мірыябібліён" Фоція ў мяне няпоўны. А так хацелася б прачытаць яго ўсяго.

– А "Пра ўпраўленне імперыяй" майго бацькі маеш?

– Прывезлі госці. Хоць гэтая навука больш для бацькі з яго вялізнымі ўладаннямі.

– Ён – не вялікі любіцель кніг, лічыць, што мудрасці ў яго і так хапае. А сам напісаць можа толькі самае простае.

– Калі можаш, памажы мне набыць твайго бацькі і "Пра цырымоніі", а таксама жыццёпіс Васілія І.

– Бачу я: ты – рэдкасць сярод князёў славянскіх і баяраў. Разумнік! Кніжнік!

...Епіскап – хмурны, незадаволены – пасля доўгіх угавораў нарэшце згадзіўся, каб Рагнеда пабыла ў Полацку. Але настойваў, каб яна прыехала не адкрыта, удзень, а ўночы...

## 4.

Ізяслаў, само па сабе зразумела, тут жа паслаў у Ізяслаўль свой уцеплены санны вазок (праўда, без уквечанння і без шаламкоў на дузе ды з простай збруяй на цёмнага колеру конях: сама маці паўшчувала б за залішняе для яе сану) і насуперак епіскапу пастараўся, каб шырока апавясціць полацкі люд пра хуткі прыезд Гарыславы-Рагнеды-Анастасіі. А яе папрасіў прыехаць не раней, але і не пазней апоўдня.

І вось настала 1 студзеня – дзень, калі нядаўна нізкае, мала бачнае неба ўдосталь насыпала снегу, калі выскачыла і пагарэзавала ад радасці мяцеліца, а раз'ятраны мароз набраў сілу, ядрыўся і пёк агнём асабліва пад час ачырванелых досвіткаў, а ўдзень хаваўся ў цень. Паколькі не было цяжкіх абвіслых хмар, то неба вышэла, насочвалася яркасцю ды блакітам і пад суцэльным сонечным святлом снег аблегваўся і ад белізны зіхацеў, Ажно адбірала вочы. І вось у гэты дзень, перад апоўднем ужо за драўляную агароджу полацкага пасада, вакольнага горада высыпаў, як пазней скажуць, "стар и млад, даже незрячие и не ходячие". Наперадзе ўсіх – полацкі ўладар, Ізяслаў у святочным выдрыным, абцягнутым цёмна-чырвоным аксамітам футры і ў бабровай шапцы. Справа яго – Соф'я, Прадслава, злева – Праміслава. У сабаліных футрах, нагалоўніках бела-цёмнага колеру і ў абцягнутых саф'янам белых, з чырвонымі ўзорамі боціках. За імі – палацеская знаць, таксама ў шыкоўных футрах, каптанах, у многіх пакрытых парчой ці, як тут казалі, золата ці срэбратканкай. За ёю – абапал выезджанага санямі і вытаптанага шляху ў горад дружыннікі стрымлівалі рамесны і просты люд – апошні больш у звычайных тут авечых, але аблямаваных вышыўкай (а ў таго-сяго нават і з шоўку) кажухах і кажушках, суконных цёмных і шэрых світках і сярмагах. Хто ў ботах, а хто і ў новых лапцях. Сёння і яму, Ізяславу, было прыемна, што палачане хочуць паказаць: ёсць што апрануць, абуць і з'есці. Пасля не такога ўжо і даўняга ліхалецця. Калі амаль кожны ацалелы ў Полацку лічыўся больш чым пагарэльцам. Сярод амаль усіх, хто высыпаў за горад, не было аднаго з важных у Полацку: епіскапа. Перадалі: ён занядужаў. Шапнулі і іншае: той сёння не дазволіў у царкве ні званіць, ні "возжечь свечи", ні выйсці разам з вернікамі іншым святаслужнікам ( у гэты час ён быў у палацях Ганны і асцярожна – усё ж вялікая княгіня кіеўская, сястра візантыйскіх базілеўсаў, добра знаёмая патрыярха! – выгаворваў той пра яе абмылку, спасылаючыся на тое, што князь полацкі дазволіў сабе больш, чым дазволілі Уладзімір і яна яму. Маўляў, сённяшняе здарэнне зусім непажаданае: яно ўваскрашае былы полацкі гонар і мацуе цяперашні, бо і звычайныя разявакі сустракаюць госцю найперш як Гарыславу-Рагнеду, маці Ізяслававу, дачку Рагвалодаву! І заадно чарніў Ізяслава: бачыш, вялікая княгіня, які гэты "ціхамірны кніжнік і будаўнік патайны, хітры, як нават на гэтым зручным эпізодзіку гуртуе вакол сябе люд насуперак вялікаму князю кіеўскаму. Ён паводзіць сябе не як Рурыкавіч, а як Рагвалодавіч! Тое, што "па кудзелі", ставіць вышэй таго, што "па мячы!"

І вось нарэшце ў яркай далечыні паказалася тройка коней, а хутка – і павозка, а за ёй – ахова з адборнай Ізяслававай дружыны. Възнік асадзіў разгарачаных бегам пародзістых маладых бегуноў. Са свайго каня саскочыў старэйшына аховы, адчыніў дзверцы павозкі, падаў руку – і тысячы люду, намагаючыся вышэй задраць галаву за плечы першых перад імі, "лицезрели", як з вазка па адкінутай лесвічцы сыступае высакаватая, стройная жанчына ў чорнай доўгай апратцы (кажух пакінула на сядзенні) і, як адчувалася, лёгкая на хаду. А з першых шэрагаў убачылі: яна белатварая, строга прыгожая, з "иконным ликом". Спакойна стала на дол, стрымана, толькі на міг зірнула на іх, дзяцей, згледзеўшы, якія цяпер яе дочкі (адзін Бог ведае, што было ў яе душы!), і тут жа пачала пільна акідваць позіркам велізарны людскі натоўп. Упівалася вачыма доўга, нібы не спяшалася падысці з дзясятак крокаў і кінуцца да дзяцей.

“Якая сіла волі!” – зноў і зноў не мог не здзівіцца Ізяслаў, хоць як ніхто, ведаў матчын душэўны, мяккі і ў той жа час цвёрды характар. Моц ягоную загартавалі бяда і гора.

Яна ўсё гэтак жа непарушна падняла руку і асяніла хрысціянскім знакам дарагіх яе сэрцу палачан. Ізяслаў першы, а за імі і ўсе астатнія мужчыны паздымалі розных формаў і колераў вушанкі, апусціліся на калені. Маці рушыла да іх. Перахрысціла яго, Соф’ю (князя і княгіню), а потым – Прадславу і Прамíславу (дачок вялікага князя кіеўскага), нізка пакланілася, а тады паказала ім стаць на ногі. Ізяслаў цешыўся за за матчыную простасць і велічнасць, радасна ўсміхнуўся; не толькі Прамíслава, але і старэйшая Прадслава зачаравалася. Яны і іх маці некалькі хвілін сузіралі адно аднаго кожны па-свойму хвалюючым позіркам – маці не працягнула да іх рук, але вось з яе нібы незямных, толькі цяпер замутнелых вачэй выплылі і пакаціліся ўздоўж зграбнага, як і ў Прадславы, носа буйныя слязіны.

“Адна па Прамíславе, другая па Прадславе”, – падумалася Ізяславу, а ў гэты час маці, жвавеючы, нават без усмешкі асвячаючыся непаўторным мацярынскім шчасцем, не стрымала рук для даўножаданага абдымку дачок.

Сёстры адчулі гэтую чалавечую змену, прыпалі да маці. Прыгарнуўшы, яна пацалавала ў шчаку кожную і без звычайнага ў такіх выпадках жаночага галашэння аццяпліла іх выдыхам усёй душы:

– Жывенькія! Здаровенькія! Харошанькія! Самыя красныя, дарагія на свеце! Сёння я самая шчаслівая жанчына, маці на зямлі вялікай нашай!..

Прадслава, прыпаўшы, бясслоўна, але, мабыць, на ўсю моц маладой дзявочай душы заплакала, арасіўшы матчыную шчаку (абедзьве былі амаль аднаго росту):

– Мама! Мамачка любая наша! І мы, дочкі твае, цяпер самыя шчаслівыя на свеце вялікім! Мы можам пабачыць цябе, прытуліцца! Адчуць рукі твае! Пачуць голас твой! Тое, што дагэтуль толькі снілася...

– Ёсць, ёсць Ён, Усявышні, дзеці, – супакоіла, пагладзіла дачок Рагнеда. – Бачыце, звёў нас. Ды тут, у Палацеску. Я прасіла і буду прасіць у яго для вас шчаслівай долі.

А тады Прамíславе:

– Маленькая мая! Як ты сёння супакоіла маё мацярынскае сэрца!.. Як яно цяпер жыва, хораша б’ецца!

Бачачы гэта, бадай, усе ўкленчаныя заплакалі: як знатныя, так і простыя бабулі і дзяды, бацькі дый маладыя адчувалі, што гэта значыць – сустрэча змусам разлучаных Маці і дзяцей (плакалі жанчыны і ў Ізяслаўі, лічачы, што яе, іхнюю заступніцу і дарадніцу, забіраюць ад іх).

– Пайшлі, мама, – ціха падаў голас Ізяслаў ды не сказаў, што накіруюцца не ў царкву, дзе яе ніхто не чакае.

– Пайшлі, сын мой, – радасна прамовіла яна і побач з ім, статная, з высока паднятай галавой і замілаванасцю ў вачах, павяла дачок за рукі.

Маўклівы, глыбока ўражаны натоўп ускінуў рукі, загуў на розныя галасы, што і не проста было разабраць асобнае слова ў гэтым вітальным хоры:

– Гарыслава!

– Гарыслаўка!

– Рагнедзька!
– Княгіня наша!
– Заступніца!

Цяжка было дружыннікам стрымаць падхоплены з каленяў і паімкнуты на дарогу люд: ён пад выцягнутымі і накіраванымі на яго рукамі дружыннікаў то неахвотна адступаў, то зноў імкнуўся наперад, каб бліжэй убачыць Рагнеду і хоць пальцам дакрануцца да яе. Ізяслаў падняў руку – усе застылі на месцы.

– Прапусціце наперад калек, сірот, удоў, – загадаў. Пра нястачных не напомніў: заўсёды сачыў, каб ім была помач як ад заможнікаў, так і ад яго ды царкоўнай казны.

Паслухаліся. А нямоглыя, няшчасныя з абодвых бакоў папаўзлі – Рагнеда, адпусціўшы доччыныя рукі, запатрабавальна махнула рукой уверх: падыміцеся, вы і без каленасхілення заслужылі спагаду. Усталі найперш аднаногія, дзеці, састарэлыя. І ўжо яны:

– Маці наша!
– Благаславі!
– Памажы!

Перад шляхам усе зноў упалі на калені – Рагнеда пачала перахрошчваць сляпых, нямых, глухіх, кульгавых, аднарукіх, аднаногіх, гарбатых, дзяцей і яшчэ маладых жанчын, тых, хто не мог хадзіць і каго іншыя прынеслі на руках. Усе прасілі яе дакрануцца да іх (пазней пайшлі пагалоскі, што некаторыя з благаславёных Рагнедаю пачалі бачыць, чуць, гаварыць, сталі на ногі). А пасля, калі яна мінула іх, і здаровыя кінуліся за ёю, каб першымі дакрануцца да яе слядоў.

Царква была зачыненая...

## 5.

Ганна зажадала сустрэцца і з Рагнедай. Сам-насам.

І вось яны побач у цяперашнім Ганніным прытулку – другая і шостая жонкі вялікага князя кіеўскага Уладзіміра. Абедзьве замужам за тым не без прынукі; Рагнеда – дык праз гвалт. За сваё няпростае сямейнае, тым больш за адасобленае, напачатку вельмі змрочнае манашскае жыццё Рагнеда нават у самыя нечакана ўзрушлівыя, а то, здаецца, і невыносныя часіны навучылася быць стрыманай, засяроджанай і разважлівай, а вось яе суперніца-пераможца, убачыўшы яе глыбінна ўнутраны позірк і жаночую няскоранасць, прыкметна хвалявалася. Пакуль Рагнеда дні два цешылася сустрэчамі з сынам і дочкамі, не раз хацела зірнуць спачатку ўпотай на яе, "гордую палацескую красуню" – і вось тая перад ёй. Уціхамiраная, нібы безуважная, ды вунь якія моц і годнасць сыходзяць ад яе. А яна ж, Рагнеда, маладзейшая за яе. Ці мо і гэта дае ёй сілы.

Хвіліну-другую жанчыны (Рагнеда ў чысценькім манашскім чорнабелым уборы, што прастатой асабліва надаваў ёй пагляднасці і пэўнай недаступнасці; Ганна ў мірскім, жоўта-зялёна-чырвоным) агледжвалі адна адну.

– Благаславі цябе Бог, вялікая княгіня кіеўская, – як і трэба манашцы, павіталася Рагнеда.

Мо Ганне – раней, да замужжа, асобе вясёлага, гуллівага, нават разгульнага нораву – было і цяжэй. Перад красуняй, маці шасцярых дзяцей, каго

і з-за яе выдалілі з Кіева і саслалі, як яна, візантыйка, лічыла ў дзікунскі дрыгавіцкі край (спачатку яна і Кіеў лічыла глушшу). Хоць... Ці вялікая яе віна? Дык неяк і само знайшлося адказаць:

– Рада бачыць і жадаць табе здароўя. Павер, спачувала і спачуваю табе.

– Зусім не трэба спачуваць мне, Ганна, – супакоіла Рагнеда. – Такі ўжо наш з табой лёс...

Тая зірнула няўцямна. Паказала на лаўкі, кожная са спінкай, накрытыя мядзведжай скурай. Прыселі побач, паўбокам. Каб быць тварам адна да адной. Рагнеда пры яркім дзённым святле, што лілося сюды праз зашыбаванае шклом акно, міжволі затрымала позірк на маршчынах, што абрамоўвалі знізу Ганніны вочы і асабліва іх куточкі. Замазвай ці не замазвай, а не схаваеш, што яны ўжо не ад маладых гадоў. А каб не бянтэжыць, патлумачыла:

– І я, і ты стала жонкай Уладзіміра не па сваёй волі. Але дзеля хрысціянства я павінна была пакінуць Кіеў, а ты апынуцца ў ім. – Рагнеда, канечне ж, не прадбачыла, што гаворыць прарочае: менавіта хрысціянства пакіне іх імёны ў гісторыі. – Ды як тут кажуць, ніколькі не самотная. Я "была не праздная" (была замужняя), не ўдавіца і не бясчадная (не без дзяцей). Старэйшы сын мой Дзедаўшчыну аднавіў, род свой завядзе. Малодшыя сыны княства свае маюць, а дочкі – на выданні замуж у іншыя краіны. За гэта найперш дзякуй вялікі табе. Ты не стала для іх злой мачыхай, – зноў схіліла галаў. – Так што, Ганна, я шчаслівая. Ды цяпер!..

– Дзецям, надта малым, трэба не проста жаночая, а мацярынская ласка, – адказала Ганна. – Я наўрад ці давала і даю такую.

– І за тваю дзякую.

– Мяне так, як цябе, не сустракаюць у Кіеве, – пажаласцілася Ганна. – Ты любімая сваім людам. А я і дома не зведвала такога... – Далей ёй цяжка было гаварыць: перабівалася дыханне.

"Позна табе быць зноў цяжарнай. Многія смердкі, знясіленыя працай, у твае леты ўжо канчаюць свой век", – пашкадавала яе Рагнеда, а ўголас вызначыла па сваіх прыкметах:

– Сына родзіш.

– Я хацела б дачку.

– Тут ужо не наша воля, а Божая, – Рагнеда дазволіла сабе ўсміхнуцца.

– Скажы, – здаецца, даверліва зірнула Ганна. – а табе, такой яшчэ вабнай, не прыкрыя гэтае во адзенне, келля, пасты, малітвы? Ты ж і яшчэ магла б жыць па-мірску, ашчаслівіць некага...

– Я ўжо і ў Кіеве прывучылася не да ўцех мірскіх... – Зазначыла Рагнеда. – Не, Ганна, манашскае жыццё не апакутвае. Нават ратуе. Ды калі, кажу ж, ведаю, бачу: дзеці мае пры ладзе. Я дзеля іх жыву, а не для сябе. Таму апратка, зямлянка мае, паставанне, малітаванне да Бога – зусім не пакуты, а помач... Таму мо Ён, Усявышні, і суцішыў горыч...

Крыху пазней, ужо за сталом з лёгкімі стравамі, сярод найбольш было малочна-тварожнага, кісялю, пшанічных булачак і журавінавага напою, Ганна дадала:

– Прадслава твая – красуня з красунь. Уладзімір, як нікога з дзяцей, любіць яе. Мо і з-за... цябе.

Рагнеда змаўчала і наўмысна па-маленечкаму піла са шкляніцы кісла-

вата-салодкі напой: хацела разабрацца, дзе тут шчырасць, а дзе славутыя візантыйскія крутня, хітрыкі і ашука.

– Ты стала яму жонкай па яго любові, а я... – Усё больш разгаворвалася тая. – Наш з ім шлюб – гэта шлюб Кіева і Канстанцінопаля. Я хутка ўведала: з усіх яго жонак ты яму самая любімая. У хвіліны, калі... ну, разумееш, калі... ён доўгі час шаптаў ласкава тваё імя... “Рагнедзька”, “мілая”, “любая душы...”. Ён не можа пазбавіцца ад гэтай любові, злуе, наўмысна абы-што нагаворвае на цябе. Ды, як ты кажаш, што ад Бога запала ў сэрца, тое цепліцца там... У Прадславе бачыць нібы цябе, таму і не адпускае ад сябе. А ёй ужо які час трэба замужам быць. І жаніх годны знаходзіўся. Баляслаў-лях. Ды Уладзімір адмовіў яму. А цяпер, калі коціцца на нас печанежская навала, як бы спатрэбілася помач ляхаў!

– У нечым і няшчасны ён...

– Хто? – не зразумела Ганна.

– Уладзмір наш. Як і ўсе тыя, каму Бог нямала даў, але хто прагне ўлады вялікай над людзьмі, а па заваёве іншых плямён, дзяржаў славы Аляксандра Македонскага. Хто з нястрыманымі страсцямі зямнымі. З грахамі незлічонымі. З пакаяннем і тут жа зноў па вушы з віною. Таму ў такіх і розум, і душа адмысловыя...

Любіць то ён любіў, магла дадаць Рагнеда, але недагаварыла. Але якая была яго любоў? Дамагаўся яе змусам. Калі не выходзіла па ім ці не мог вызначыцца як мужчына, то піў, лютаваў, кідаўся на іншых жанчын і дзяўчат. Ды не магутны Саламон ён... Потым каяўся, вымольваў дараванне... А што да “пакут сваіх”, то сам вінаваты быў у іх. Найперш за тое, што абарваў жыццё яе невінаватым родным і братам.

– Ты спачуваеш яму? – здзівілася Ганна.

– Не столькі як мужу былому, колькі як чалавеку. Яму ж бацькі далі жыццё ў любові вялікай. Таму я і за цябе малюся, што ты сцішыла яго, здавалася, неўтаймаваныя жарсці, што ён стаў калі не чалавекалюбны, дык хоць чалавекацярпімы. Што спазнаў: не толькі люд для яго як нешта спадручнае, але і ён для люду! Як заступца, як бацька! Што славу можна заслужыць не толькі войнамі і забойствамі невінаватых. Хоць цяпер яму трэба весці вайну: трэба ратаваць люд свой, Дзедаўшчыну.

– Ты... – мабыць, сапраўды не магла не здзівіцца хораша і ўражана Ганна. – У вас хрысціянства зусім нядаўна, а ў нас, у Візантыі, ужо даўно, калі пра вас, славян, яшчэ амаль нічога не ведалі. Але ў нас не часта знойдзеш такую шчырасць, дабрыню, як у цябе! Ты ўжо свядома жывеш па хрысціянскіх запаведзях! Ты – існая першая манашка на вашых землях! Я раскажу пра гэта нашаму мітрапаліту, напішу самому патрыярху.

– Развага, дабрыня, міласэрнасць, Ганна, мелася ў нас і да хросту. Як і ва ўсім свеце вялікім, як і сярод многіх народжаных людзей і плямёнаў. А што да запавядзяў, то яны простыя, але вельмі мудрыя. Ды... – Уздыхнула. – Няхутка яны спраўдзяцца: не ўсе і хрысціяне жылі, жывуць і будуць жыць па іх... Мабыць, прыйдзецца спраўджваць іх увесь час, пакуль будзе гэты свет... Адаму і Еве Бог заклаў у цела і душу сваё праведнае, але яны не вытрымалі, спакусіліся ад д’ябла на новую, ужо найпер цялесную ўцеху, а іхні сын апусціўся яшчэ ніжэй, да братазабойства... Падбіў дзяцей, унукаў, усіх нашчадкаў на зямныя асалоды, зайздрасць, хцівасць, што можна спраўдзіць праз каверзы розныя, забойствы, войны... Калі і

не было Госпада нашага з яго запаведзямі, то яго трэба было прыдумаць, – сагнула галаву, перахрысцілася. – Каб хоць крыху суняць чалавечыя каінскія страсці...

– Скажы, – Ганна парывіста апусціла сваю халодную і ў цяпле далонь на верх Рагнедзінай рукі, – што мне дзеля цябе зрабіць? Хочаш вярнуцца ў Палацеск?

– Не.

– Чаму?

– Не трэба гэтага.

– Не разумею цябе. Патлумач. Ці не хочаш быць побач з епіскапам вашым праціўным? Але калі ён цябе прыгнятае, то яго можна прыструніць. Адно маё слова нашаму мітрапаліту...

– Не, не трэба сварак. Я вярнуся туды, дзе мне вызначылі быць і дзе Усявышні праявіў да мяне ласку вялікую. Дык я павінна яму там, у Ізяслаўлі, дзякаваць, а не ў Палацеску.

Ганна, здаецца, нічога больш не магла сказаць, пазірала на яе з захапленнем і, можа, з зайздрасцю да яе моцы духу, а Рагнеда не пажадала больш нічога не тлумачыць. Яна не баялася быць паблізу дробна прыдзірлівага, ахвотнага лёгка абразіць, прынізіць вярхоўнага полацкага святаслужніка, а вось спачатку ўраждвала, а потым пачало злаваць, што яна не толькі цярпліва выслухоўвае ягоныя ўшчуванні, але нават прыймае яго як духоўнага айца. І Ганніна нечаканае заступніцтва яе не спакусіла: яе думкі былі найперш пра Ізяслава. Каб яна перабралася сюды, то ён яшчэ больш пакутаваў бы за тое, што сам можа шыкаваць у хораме, а яна, маці, нішчымніцца ў келлі, паслухмянніца-прыслужніца ўладалюбнага злоснага чалавека. А люд полацкі Ізяслаў ужо здолее аберагчы ад епіскавага сваволля. А калі верыць Ганне, то яна гатовая ў патрэбны час заступіцца за ўпадабанага Ізяслава. А застанься яна тут – люд будзе ўшаноўваць яе не як Анастасію, а як Гарыславу-Рагнеду, што дадасць новага разладу... А яго не трэба: не будзе ён на карысць сыну, любай Полацкай зямлі... Дзеля яе дабрабыту не трэба, нават нельга баяцца сваіх нягод, што даліся ёй не толькі як іспыт, але і як дар Божы... Некалі юная, прагная да жыцця, шчаслівая ў шчаслівай сям'і, збіраючыся выйсці замуж за Яраполка, быць княгіняй у Кіеве, нават падумаць не магла пра гэты іспыт і дар, палічыла б іх за кару бацькоў ці багоў, а цяпер... Спазнала тое, што раней спала ў ёй...

– Павер, – прамовіла Рагнеда, – вярнуся я ў мілы мне Ізяслаўль з лёгкай душой. Я зжылася ўжо з яго людам, лясамі, рэчачкамі, балотцамі і зусім не сумую па княскіх палацах.

Яна ведала: Ганна, змушаная ехаць у Кіеў, папікала братоў-базілеўсаў: вы гоніце мяне ў палон да дзікуноў! На марненне і гібенне! Толькі цяпер, стаўшы маці, палюбіўшы дзяцей (а раней пра іх нават думаць не хацела), больш-менш супакоілася. Але каб жыць у зямлянцы сярод глушэчы!, то нават ад думкі пра гэта яе запалоньваў жах!..

Іхняе думнае маўчанне перапыніў стук у дзверы. Увайшоў епіскап. У чорным манашскім адзенні. Высакаваты, пажылы, пад клоубакам бачны круглы, яйкападобны лоб, вялікія вочы, доўгі нос на вузкім твары, тонкія пасінелыя губы сярод сівых вусоў і барады. Навіслыя бровы надавалі яго пранізліваму позірку не проста строгасць, а ўжо адразу дакор. Ганна засталася сядзець, а Рагнеда-Анастасія шпарка паднялася і рушыла пацалаваць

епіскапаву руку. Той ухіліўся ад гэтага (канечне ж, перад Ганнай), мінуў, стаў бокам, але пазлараднчаў:

– Ну што, удатвароная?

– Задаволеная, святы айцец.

– Ажыло гардавусіе? – пакпіў. – Зацешылася грэшная душа, што сустракалі не чарніцу Анастасію, а былую полацкую князёўну Гарыславу-Рагнеду? Напомню табе, чарніцы: вся видимая мира сего красна (прыгожае) суть и славна, но вскоре минуют, яко сон, или цвет увядает; вечнаа же и невидимая в веки пребывает, якоже Писание глаголет: око не виде, ни ухо слыша, ни на сердце человеку взыде (прыйдзе), еже (што) уготова (рыхтуе) Бог любящим его.

– Я, святы айцец, не прасіла так мяне сустракаць, – спакойна адказала на яго папрок. – Таму і для мяне ўсё было нечакана. Ды сам бачыш, не ўзбуджаю палацескі люд, паказваю, што трэба болей далучацца да новай веры. Але я, праўда, вельмі радая. Найперш за тое, што пабачыла дачок. Я забываю, што шчаслівa жыла ў Палацеску, па-свойму ў Кіеве, але ніколі не забуду: я – маці, у мяне ёсць дзеці. Дык малілася і буду маліцца, каб яны былі жывыя, здаровыя і шчаслівыя. А цяпер буду маліцца і за вялікую княгіню кіеўскую: у яе вялікае і добрае хрысціянскае сэрца. А на тое, што ты мне напомніў, скажу так: хачу верыць, што спазнала сэнс “княжения и славы мира сего”, што часам – “прах и пепел, и яко дым разходится”. А таксама – “печаль мира сего”, “смирение”, “почьвение” (успакаенне). Хачу верыць, што спазнаю тое, калі душа “Святаго Духа наполняшеся”, што ёсць “трапеза нетлеющих брашен (страваў), не иже (не тая, што) гортань услажает и чрево насыщает, но душа весялища и ум укрепляющи на подвиги добрых дел”.

– Мацуй сваю веру, нявеста Хрыстова і раба Божая, – нібыта памякчэў епіскап. – Як сказана: “Не заморит Господь гладом души праведных”.

– Не сярдуй, святы айцец, – звярнулася да епіскапа Ганна. – Нам трэба было пабачыцца, пагаварыць. Цяпер я вярнуся ў Кіеў без каменя на сэрцы. Гарыслава-Рагнеда была высокагодная як вялікая княгіня кіеўская, высокагодная і як манахіня Анастасія. Каб мацней заваяваць думы і сэрцы яшчэ не амацаваных вернікаў, усё яшчэ язычнікаў, ты павінен яе не ганіць, а хваліць. Ганенне будзе табе, хрысціянству на шкоду... Ды яна – першая тут манахіня. Не кожная з нас, жанчын, можа мечам духоўным адсекчы плоцкія ўцехі, аддаць цела пасту, на каленях малітвам Усявышняму. Яна па-свойму паўтарае лёс першых жанчын-хрысціянак, якія клалі галовы і пад іншы меч ці якіх кідалі ў клетку да львоў...

Калі б хто цяпер змог угадаць сапраўдныя Ганніны думкі, то ўведаў бы іх вось так:”Арэол усё новага пакутніцтва толькі дадасць ёй спачування і славы. Дык ці трэба спрыяць гэтаму? Ці не лепш цяпер добра сказаць пра яе, каб менш так гаварылі пазней?..”

Ёй, Ганне, епіскап паасцерагаўся пярэчыць, а вось Рагнедзе з напускной міралюбнасцю запрасіў (як загадам):

– Чакаю цябе, манахіня, на споведзі.

– Назначайце дзень і час, святы айцец, – паслухмяна згадзілася яна. Мне і самой хочацца паспавядацца.

– Прыйдзеш заўтра на заутреню (ютрань; ранішняя царкоўная служба), а ўвечар пакінеш Палацеск. Нават уночы... – вызначыўся епіскап і ўчэпіста ўгледзеўся з-пад калматых броваў, як яна ўспрыймае яго наказ-загад.

– Як скажаш святы айцец, – непарушна адказала Рагнеда. – Ты прамаўляеш тое, на што ёсць воля Божая. Як і на тое, каб я споўніла твой запавет: закончыла перапісваць перакладзеныя Кірылам і Мяфодзіем кнігі Бібліі для люду нашага і ўвогуле славянскага...

Ён, можа, і не паверыў у яе шчырую пакорлівасць, але калючыя ягоныя вочы пацягнуліся павалокай задавальнення, а з твару сплыла пахмурнасць; Ганна змаўчала, не папрасіла, каб епіскап пакінуў яе, Рагнеду, тут, у Полацку; Рагнеда ж, сапраўды, была зусім не засмучаная, схілілася перад Ганнай, пацалавала епіскапаву руку і павольна княжацка-манашскай паходкай пакінула Ганніну святліцу.

Назаўтра Рагнеда апошні раз абняла дачок і, стрымліваючы слёзы, папрытульвала іх, адарыла мацярынскім цяплом і выехала з Полацка. Ужо назаўсёды. Познім вечарам, але не вельмі цёмным ад снегу і высыпаных на небе зорак. З Ізяславам яна яшчэ ў горадзе яго імя ўбачыцца і не раз, а вось пра дачок толькі да апошняга ўздыху на гэтай шматпакутнай, але дарагой для яе зямлі будзе ўспамінаць іх у дзвюх іпастасях – здзіўлена-уражаных, хвалююча-радасных пры сустрэчы, доўгіх начных размовах і расплаканых пры развітанні.

А што да Ганны з яе думкамі пра будучую памяць пра Рагнеду, то тая не памылілася. Вось і мы больш чым праз 1000 гадоў пішам, чытаем пра нашу палачанку, будуць пра яе пісаць, чытаць, узгадваць і пазней: сам лёс вызначыў назвацца, быць ёй у многім, паўторым які раз, *Першай...*

– Соф'я і я хочам, дарагія сястрычкі, – сказаў на развітанне Ізяслаў, стоячы каля стала і паклаўшы руку на адну з драўляных і абкленых рудым аксамітам скрыніц-скарбонак з меднай, хораша аздобленай пераноскай, – падарыць вам на памяць найперш тое, што зрабілі нашы майстры. Яно, можа, і простае для вас, дачок вялікага князя. Але яно палацескае, з любоўю зробленае, каб нашы жанкі былі яшчэ болей прыўкрасныя. Пачнем з цябе, Прамілаўка. Для цябе амаль усё тут завялікае, але няхай будзе навырост.

Адчыніў вечка і пачаў падаваць Соф'і, а тая весела і з мілай усмешкаю брала і ішла да Прамілавы. Прыладзіла на галоўцы медную дыядэму з бурштынавымі падвескамі, на шыі – круглую, з загнутымі канцамі (можна прымеркаваць да любой шыі), спераду больш шырокую і з падвескамі-сэрцайкамі грыўну, на левую руку начапіла з некалькіх колцаў (самае шырокае пасярод) бранзалет. На шыю яшчэ павесіла каралі на тоненькай залатой нітцы і з буйнага бурштыну.

– Іх надзенеш, калі будзеш ісці да шлюбу, – патлумачыла. – А потым, калі народзіш дзіцятка, дасі іх насіць няньцы. Неўмалятка не выб'ецца са сну, будзе здаровае і хутка расці.

Прамілава – малая то малая, – але ўспыхнула чырванцом. У знак падзякі развяла рукі і прысела на адной назе.

– І яшчэ падарункі, прывезеныя здалёку, – начапіла малодшай братавай на палец левай рукі залаты пярсёнак з зялёным каменьчыкам, а на сарафан такога ж колеру зашпількі, сагнула далоньку і паклала туды завушніцы. – Тут – нефрыт. Ён усякую боль суцішае. – На другі палец начапіла яшчэ адзін залаты пярсцёнак з ярка-сінім каменьчыкам, а ў далонь апусціла завушніцы з гэтакім жа колерам. – То – сапфір. Ён дае вернасць, цнатлівасць, сціпласць.

Ізяслаў нахіліў скарбонку:

– А тут – выразаныя нашымі майстрамі з косці палацескія птушачкі і звяры, фігуркі дзетак. А з дрэва – наш хорам. Паставіш гэта на паліцы – і Палацеск будзе як перад вачыма.

Пакланілася Праміслава і яму.

– Тое ж наша і табе, Прадслава, – паклаў руку на другую скарбонку Ізяслаў, усміхнуўся: – Праўда, без птушачак і звяркоў. А пра іншаземнае няхай скажа Соф'я.

– Тут таксама пярсцёнкі і завушніцы з нефрытам, сапфірам, брыльянтам і з яхантам, – патлумачыла Соф'я. – Брыльянт проста прыгожы, а вось яхант адганяе сум.

– Дзякуй вам вялікі, – прыклала руку да грудзей і схіліла галаву Прадслава. – Адарылі вы нас вельмі. Мы ў даўгу вялікім перад вамі. Цяпер, калі пабачылі маці, вас, Палацеск, то не будзем смуткаваць, а красавацца ў вашых дарах, весяліцца. І будзем чакаць вас у Кіеве.

Яшчэ адну скрыніцу Ізяслаў і Соф'я ўручылі Ганне. Тая, хоць і бачыла нямала розных, з усяго свету жаночых украс, усё ж засталася задаволенай, таксама запрасіла іх наведаць Кіеў. "На радзіны, – усміхнулася, склаўшы рукі на поўным жываце. – Будзеце хрышчонымі бацькамі".

## З "Рукапісу"

"Вялікі князь кіеўскі Уладзімір сабраў з розных зямель сілу і ў 997-ым адбіў вельмі грозны набег печанегаў. Здаецца, больш пры яго жыцці тыя на яго не нападалі, але пасля ўрываліся яшчэ не раз; Ганна з малодшымі дзецьмі, Прадслава і Праміслава пакінулі Полацк і вярнуліся ў бяспечны Кіеў.

Новае тысячагоддзе пачалося не проста нешчасліва для акрыялай Полацкай зямлі, а з новымі вялікімі бядой і горам: у 1000-ым не стала Рагнеды (не пражыла і 40 гадоў), у 1001-ым – Ізяслава (век яго звузіўся толькі да 25-ці!), а ў 1003-м – яго юнага сына Усяслава. За тры гады – тры смерці! І якія! Ды амаль запар! Летапісец Нестар пра адыход на той свет Рагнеды і Ізяслава напісаў, што яны "преставися" (памерлі), а вось у полацкім летапісе зазначана, што яны "убиенны..." Праўда, я не знайшоў, кім і чым – мячом альбо атрутаю. Але што гвалтам зведзеныя – няма ў гэтым ніякага сумнення. Няма зачэпкі сказаць, што цяпер вялікі кіеўскі князь Уладзімір завяршыў свае рахункі з былой жонкай, сынам, а заадно і са старэйшым унукам. Але ёсць западозранне, што не ўсе яго блізкія баяры спакойна назіралі, як духоўна Рагнеда-Анастасія і маёмасна-скарбава маўклівец Ізяслаў мацуюць Полацкую зямлю, і ўсё больш ды больш не можа заводзіцца ніякай гаворкі, што яна будзе толькі ўдзельным княствам: ужо цяпер яна зусім не такая. Ды мо і епіскап не надта жадаў ім "многія лета...", не прамінаў ужываць тое, што мае назоў "хула..." Хоць і кажуць, што часамі ганены лепш хвалёнага, але звычайна больш вераць паганьбе, чым пахвале...

Лёс сжаліўся над Полацкам: раз і другі пакінуў яму тоненькую нітачку для ратавання сваёй княскай дынастыі – спачатку Ізяслававага сына, неўмаля Брачыслава (нарадзіўся ў год бабулінай смерці), а пазней яго адзінага нашчадка Усяслава... (Пра Ізяслававічаў, як і аб Прадславе з Прамíславай, будзе далей. – ***Г.Д.***).

*(Працяг будзе)*

паэзія

Іна Снарская



...Мяне чакае сто дарог,
І родная – адна...

# Ад сэрца да сэрца – дарога...

* * *

Знямелі вершы, песні адзвінелі,
Змялела рэчка вербамі на ўсход,
А я іду да пракавечнай веры
У адмысловы сонечны паход.

А я іду – і дрэвы вырастаюць,
І матылькі садзяцца на руку,
А гэта значыць, што мяне пазнаюць
На тым баку.

Адтуляцца нябёсы – брама ў сэрца.
На могілках загояцца крыжы.
Там, дзе любоў – няма тугі і смерці.
Хіба дажджы...

* * *

*...Дрэвы, карэнні якіх апялялі зямлю*
*І не адпускаюць...*
М. Скобла

На чужын***у*** нас дрэвы не пускаюць.
Калі ўжо лёсам стала чужына,
Старонкі вершаў вераю гартаюць,
Чакаюць нас звідна і да цямна.

А мы ідзем так доўга да Айчыны,
І вусцішна, і сілы не стае.
І толькі дрэвы неба нам адчыняць,
А потым крылы аддадуць свае.

* * *

Дарога пазнае сэрца
Сунічнае сэрца маё.
Чаму ж ёй баяцца смерці,
Калі там жыцця да краёў.

Калі ад кахання світае
І ў жаўруках далягляд.
Дарога мяне вяртае
Да бацькаўшчыны, назад.

А зімы змяняюць вёсны,
І плавіцца лёд, як воск.
Сваёй апантанай восені
Я п’ю верасовы сок.

Дарога бяжыць да сэрца
Па жылах сляпых бяроз.
І цёплы папутны вецер.
І жаўруковы лёс.

## КАРАНІ

*памяці майго дзеда Іосіфа Снарскага*

Майго дзеда Іосіфа Снарскага забілі 8 снежня 1937 года. Яго арыштавалі 5 лістапада 1937 года па несправядлівым і бязглуздым абвінавачанні, нібы з 1927 года ён з’яўляўся ўдзельнікам контрэвалюцыйнай арганізацыі паўстанцаў “ПАВ” (Польская арганізацыя вайскова) і праводзіў сярод насельніцтва антысавецкую агітацыю. Па гэтай жа справе толькі па Віцебскай вобласці праходзілі тысячы людзей, большасць з якіх было расстраляна. Як стала вядома пазней, арганізацыі “ПАВ” ніколі не існавала.

30 лістапада 1960 года Вайсковы Трыбунал Беларускай ваеннай акругі вызначыў: “Постановление Комиссии НКВД и прокурора СССР от 22 ноября 1937 года в отношении Снарского Иосифа Иосифовича отменить и дело производством прекратить за отсутствием состава преступления”. Майго дзеда поўнасцю рэабілітавалі, як і яго роднага брата Клаўдзія Снарскага, арыштаванага і забітага ў той жа самы дзень. Месца захавання братоў да гэтага часу застаецца невядомым.

**1**
А шчасце пасля здзічэла –
Дзядоўнік і лебяда...
Дзяды хату клалі смела.
Вясёлая грамада.

Збіраліся талакою,
Ладзілі зруб над ракой
І птушцы прыгожай белай
Махалі услед рукой.

А каб яна павярнулася,
Манеты – пад вугал, на дол,
І танчылі курнай вуліцай,
І долю крапілі вадой.

А потым спакойна спалі.
Сон, нібы галубок...
(Сон той мне скроні паліць).
Недзе пшанічны Бог

Даўгія вусы расчэсвае –
Будзе яшчэ дарог...
Але ўжо вяшчуюць весніцы
Кроў і астрог.

**2**
Ноччу звонкі кожны крок.
Змрок.
Па галінцы птушка скок –
Рок.
Недзе ў лесе сыч крычыць:
– Жыць!
І так хочацца зару піць.

**3**
Гэтая ноч зацягнулася,
Сон на дасвецці, як вір.
Вывелі ў споднім на вуліцу.
Рэчка ў крыві.
Дзе тая птушка заветная,

Дзе той пшанічны Бог?
Крумкачы даляглядам лётаюць,
Падае Бог у быльнёг.

**4**
Крумкачы закрылі неба.
Сэрца волі, як зала.
Цераз вечнасць крыж свой несці.
Дакрануцца б да вугла
Роднай хаты, дзе манеты
Пад другім ляжаць вянцом.
Шчасце зрэбнае, ну дзе ты
З Сынам, Духам і Айцом?

**5**
Першы крок на белай пожні
Чорным крукам, чорным крукам.
І заломіць маці рукі –
Зорцы не свяціць астрожнай.

За гарамі, за даламі
Сонца звяжуць ланцугамі
І на сэрцы чорнай ніткай
Вырак той смяротны выткуць.

Быў ён бацькам, быў ён любым...
Кожны дзень бліжэй да згубы.
Крыжык выслізнуў з далоні,
Храм згарэў й званы не звоняць.

Б’ецца ноч драпежнай птушкай.
Некаму дзяцей пагушкаць.
Хто ад голаду ўратуе
Беспрытульных, беспрытульных?

Ліст ляціць лясной сініцай,
Толькі гэта сніцца, сніцца.
Б’ецца снежань у вакно
Ненароджанай вясной.

Крок на снезе, крок апошні
Стане зноў зялёнай пожняй...
Ты дайшоў да нас, паспеў
І пачуў анёлаў спеў.

**6**
Недзе крыкнула сарока,
Значыць хутка будзе ліст.

У вакна сляпое вока
Дзень святло сваё праліў.
Птушка-дзень, зямное дзіва
Не кранаецца травы.
– Мама, хутка будзе зліва!
Значыць, бацька наш жывы.

**7**

*Харона адужылі*
*Сцюжа і стома,*
*Бо ў царстве Аіда*
*Ні планаў, ні зім...*
Р. Барадулін

А ўжо і Харон стаміўся,
Са сталі яго вясло,
І лівень на плечы ліўся,
І снег засыпаў чало.

Дрыжалі, гулі землятрусам
Старонкі драпежных вякоў.
Харон у дарогу рушыў
Адзін на адзін з ракой.

Адзін на адзін з журбою,
Самотнай, смяротнай мяжой.
Адзін са сваім спакоем.
Адзін з чужою бядой.

**8**
Ратуйце, сосны, птушак,
Свяціце ім ў дарозе,
Вы – свечкі гэтай пушчы,
Паходні на марозе.

Свяціце, сосны, птушкам
Адважным, летуценным.
Іх у нябёсы пусцяць
Забітых продкаў цені.

На вастрыні адвагі
І сонячных сумётаў
Гарацць жывыя душы
Тых, хто вучыў нас лётаць.

**9**
Нябыту кажа дарога – “Не!”
“Не!” – забродам і выраканцам.

Мой лёс запрагае лепшых каней,
На радзіму збірацца раніцай.

А радзіма кожнаму сілы дае,
Аб каменне не біць калені.
Дарога вучыла мяне сталець
Памяццю пакаленняў.

А на могілках родных крывавяць крыжы,
Жаўрукам акрыляць далягляды.
Дарога-сястрыца дадому бяжыць,
Да бацькаўскага пасаду.

Нябыту кажа дарога: “Не!”
А я прарастаю галінамі
Ад каранёў, што жывілі мяне
І на зямлі пакінулі.

* * *

Бяжыць заветная сцяжына
Праз запаведныя лясы,
І вуснамі бяруць ажыну
З рукі маёй гады-ласі.

І галава мая сівее,
І вечар пасвіць прахалоду,
Але дрыжаць на сонных веях
Пяшчоты кропелькі і мёду.

Пакуль дрыжаць, я прылятаю,
Не стану я гаротнай пусткай,
На плечы маладой атавы
Саджуся сонечнаю птушкай.

### *СЯСТРОНКІ*

А сосны нагадалі мне Сястронкі.
Сястрыцы-сосны, я начэй не сплю,
Ляціць мой бусел да лясной старонкі,
Калыша крыламі пшанічную зямлю.

Сунічную, палынную – адчую.
Там на галінках сохнуць рушнікі,
А на гарышчы яблыкі начуюць,
І грэюць спіны ля шчытка вякі.

Ці ўспамінаеце радню, Сястронкі,
Дзяўчынку з ільняною галавой?
А вёсачка здалёк мой лёс бароніць
Далонямі сваёй душы жывой.

На поўнач – воля, а на поўдзень – доля.
Дзе скласці крылы, дзе сустрэць зару?
Бяжыць сястрыца босая па полю,
А я з ёй вершам, верай гавару.

### ***МЯТЛІКІ***

Бабуля казала мне калісьці, што блакітныя матылькі –
гэта райскія птушкі, якія згубілі радзіму.
Яна называла іх “мятлікі”.
А я ўяўляла пах мяты і светлыя лікі ў куце на абразах.
Хата была вялікая і ўтульная.
Як зойдзеш у яе, зразу пабачыш печ-ахоўніцу.
Яна памятала ўсе гісторыі нашай сям’і, усе легенды і паданні.
Часам я бачыла, як на ёй адбіваюцца мае дзіцячыя сны і мары,
На сцяне вісеў гадзіннік, у якім жыў добры казачнік Бай.
Той Бай з дзіцячай бясконцай замоўкі-забаўкі,
які “ішоў па сцяне і нёс сямёра лапцей”.
Ці данёс ён гэтыя лапці да “жаны і дзяцей”,
ці дачакаліся яго родныя?
Гэтыя пытанні хвалявалі маю дзіцячую ўяву, таму я зноў і зноў
прасіла бабулю расказаць бясконцы вершык спачатку.
Каля вакна стаяў стол засланы белым накрахмаленым настольнікам.
Калі бабуля пякла бліны, яшчэ напаўсонная,
я чула гэты неверагодны арамат.
Ускоквала з пасцелі і куляй ляцела да стала,
на якім ужо ляжалі гатовыя бліны-выспачкі.
Ніколі не каштавала нічога смачнейшага...
З таго часу прайшло гадоў сорак. І сёння я прыехала сюды,
да свайго дзяцінства. Даўгой і нялёгкай была мая дарога.
Але я не магу адчуць радзіму, пакуль не пабываю ў гэтай хаце,
роднай, з-пад сэрца.
Пякуча і балюча бачыць яе аслеплую, утравелую, урослую ў зямлю.
Абышла з усіх бакоў, зазірнула ў вокны.
Ці памятаюць яны абдымкі родных людзей, іхныя посмішкі?
Дзе яны, родныя? Не гояцца крыжы на магілах, не зацягваюцца
раны ў сэрцы. Гэта не праўда, што час лечыць. Ён проста дае кароткі
спачын, прыглушае боль. Але трэба жыць далей. Дрэва роду павінна
расці, квітнець, памнажаць дабро на зямлі...
Зазірнула ў студню, а там – чыстая вада і новае вядро прытулілася..
І так лёгка зразу стала на сэрцы – людзі п’юць ваду з нашай студні,
а значыць, яна жывая. Няхай пъюць, няхай працягваецца жыццё...

### СОН

Там на гарышчы яблыкі заснулі,
Мурлыча котка песню для душы,
І грэе ногі ля шчытка дзядуля,
І на сцяне гадзіннік зноў спяшыць.

Ляціць жыццё, а хата застаецца,
Намоленая, цёплая яшчэ,
Пакуль жыву я, б’ецца яе сэрца,
Святло з вакон ліецца, як з вачэй.

Ляцяць па небе рушнікі і птушкі,
Як срэбны певень сонца пазаве.
Там родныя заўсёды сны і пушчы.
Сляды мае звіняць у той траве.

* * *

У хаце пахне зёлкамі,
І чабаром, і мятаю.
Душа далоняй волкаю
Фіранку неба кратае.

І дождж ідзе, і поўніцца
Вядро, як поўня боская.
На ганку Багародзіца
Памыла ногі босыя.
У хаце пахне мятаю,
І печ павольна дыхае.
Прыснілася так свята мне –
Зялёнае і ціхае.

* * *

Ад сэрца да сэрца – дарога,
Ад сэрца да сэрца – туга.
Дарога квітнее нядоўга,
Патоне дарога ў снягах.

Але па вясне адзавецца
І цела яе, і душа,
Калі разняволены вецер
Абдыме яе ў спарышах.

Амые стамлёныя ногі
Вадой верасовых крыніц.

І будзе дарога доўгай,
І нас яна дабраславіць.

* * *

Далей, далей ад шэрых плошч
Да знічак на вадзе.
Алівы кветку птушка-ноч
Мне на далонь кладзе.

І там, дзе горкая трава,
Дзядоўнік і палын,
Крыніцам вочы адкрываць,
Як лепшы успамін.

Мяне чакае сто дарог,
І родная – адна,
Яе для мужных Бог збярог,
Хто горыч піў да дна.

Павел Ляхновіч



...можа, усё, што адбываецца,

пакідае ў прасторы нейкія сляды?..

# Зялёны дуб

***Аповесць***

## 1

Здавалася, стары дуб даўно павінен быў упасці – злыя ці неразумныя людзі выпалілі ўнізе вялізнае дупло, і дрэва трымалася ледзьве не на адной кары. Але ж трымалася. І крону мела грувастую, зялёную, аточаную сухім галлём, трывожна задраным да неба.

– ...“Груша цвіла апошні год”... – нараспеў прамовіў Алег. – Памятаеце?

– Што памятаю? Якая груша? – Няўцямна спытаў Міхась, напружана выглядаючы шлях перад машынай. – У цябе дах едзе... Дзе ты тут грушу бачыш? Лепш дарогу паказвай, не зблудзі, як мінулы раз... Тут налева, ці направа?

Чырвонае сонца падымалася над хмызамі, над абалонай ракі, завешанай вэлюмам ранішняга туману. Легкавік нетаропка рухаўся сярод росных траваў па каляіне, вытаптанай сялянскімі вазамі.

– Налева... “Каласы” Караткевічавы так пачынаюцца. “Груша цвіла апошні год”... Умеў Уладзімір Сямёнавіч зачапіць. Адзіны сказ – і памятаеш усё жыццё. Мне гэты сказ тут, ля гарэлага дуба заўсёды ў галаву прыходзіць. Колькі гадоў сюды зазіраю – а ён жыве! Ведаеце, – Алег павярнуўся назад, дзе сядзелі маладзіцы, Наста і Чэся: “Нэ” і “Чэ”, – гэты дуб мне Беларусь нагадвае, гэткі ж стойкі. Выпалілі ўсё нутро, а ён не падае. І на чым толькі трымаецца? І нават зелянее!

– Невясёлыя твае асацыяцыі. – Пракаментавала Чэся. – Дрэва гэтае патрымаецца-патрымаецца, ды і ўпадзе ў вецер...

...Гарэлы дуб застаўся ззаду, і за хмызамі ўзнік засмечаны бераг ракі з вытаптанай травой. Наста выбралася з машыны і зморшчыла тонкі носік:

– Фэ! Брацця і сестры! Што гэта за сметнік? У краіне не засталося чысцейшых месцаў для адпачынку? – Скасавурылася на Алега. – Куды гэта ты нас прывёз? Мне прыгадваецца міф пра аднаго вугра-фіна, што быццам бы завёў нашых у балота. Здаецца, яго клікалі мянушкай “Сусанін”.

– Не, хлопчыкі-дзяўчаткі, ніякага іншага месца шукаць не будзем. – Запярэчыла Чэся. – Паўсюль тое ж самае. Скажыце “дзякуй” суайчыннікам. Зараз папросту прачэшам гэтую пляцоўку і збяром усё лішняе. Нэ, нам жа па сілах зрабіць з гэтага асяроддзя бруду і распусты філіял Эдэму?

– Я ўпершыню бачу твой працоўны энтузіязм, Чэ, мабыць непадалёку здох вялізны чырвонакніжны мядзведзь... – прамармытала Наста і, няшчыра ўздыхаючы, палезла ў багажнік па рэчы.

– Давайце так: спачатку ўтраіх ставіце намёты, потым Мішка і Чэ едуць у той хвойнік, што за дамбай, збіраюць ламачча для вогнішча. Нэ сцеражэ маёмасць. А я зараз збяруся й пайду ўверх па беразе, кіламетра на паўтара. Адтуль буду сплываць уніз, можа ўдасца што падстрэліць на юшку. Вярнуся з Божай дапамогай гадзіны праз дзве. Згода? А, вось яшчэ што! Ты, Мішка, машыну тут не пакідай, пастаў крыху далей, вунь там, ля кустоўя. Каб не нарвацца на штраф. Ды там ёй лепш будзе, у цяньку.

– Хітрун! Нам усю чорную работу, а сам – у крыштальныя хвалі. – Абурыўся Міхась.

– Сапраўды, Алежык, – у голасе Насты зазвінела крыўда, – што гэта за гультайства! Вы ўладкоўвайцеся, а я пайду на забавы! Не, даражэнькі! Ставім усе разам намёты, потым вы з Мішкам едзеце па дровы, а мы зоймемся харчаваннем. Накрышым покуль што ёсць. Юшку вечарам згатуем, калі будзе з чаго... Так, Чэ?

– Ну! А то бач, хоча, каб я гэтымі вось ручкамі, створанымі для пяшчоты, валіла лес!

– Як сабе хочаце, – Алег зрабіў абыякавы твар, – Калі вашая воля такая – займуся гаспадаркай... Тым больш – нешта не падабаецца мне колер сонца і вунь тыя хмаркі, калмаценькія. Здаецца, будзе сёння залева. Трэба хуценька табар уладкаваць. Калі надвор’е сапсуецца – цур, дзяўчаты, не пішчэць.

## 2

...На земляным квадраце, вызваленым ад дзірвана, весела шугала цяпельца, непадалёк бугрыліся два камуфляжныя намёты, як невялічкія копкі.

– Ну паеж, Алежык! Вада ж усе сілы выцягвае, як ты галодны ныраць

будзеш? – угаворвала Наста Алега, які, адвярнуўшыся ад рассцеленага на траве абруса з няхітрым харчам, сядзеў у “позе росквіту” над ракой і ні на што не рэагаваў. Лыткі складзены крыжом на клубах, рукі ўверх далонямі на каленях, вялікія пальцы самкнутыя з указальнымі. Вочы заплюшчаны. Рытмічна ўцягвае ў лёгкія паветра, са свістам выдыхае. Худы, жылісты. Рыхтык які індус-ёг. Міхась з Чэсяй, разлёгшыся на посцілцы плячук да плечука, цікавалі за Алегам.

– Алег... Гэй, Алег... Ногі не скалечыш? Наста, скажы яму – каб ногі так не скручваў, а то выверне. Навошта табе муж з вывернутымі нагамі? Дзеці будуць крываногія... – лянiва бурчэў Міхась, грызучы травінку. – Гля, які ўпарты... Ён што – сапраўды нас не чуе? Алег... Вярніся з астралу... Пара рыбу здабываць...

– Сонейка зараз схаваецца, – сказала Чэся, – холадна ныраць будзе. А для чаго табе гэтая медытацыя?

– Гэта не медытацыя. Гэта дыхальныя практыкаванні, ёгаўскія. – Алег нарэшце скончыў сіпець і раскруціўся. – Дапамагаюць даўжэй затрымліваць дыханне. А то што за паляванне – нырнуў і адразу па новую порцыю паветра ўсплываць! Нічога заўважыць не паспееш. Падводнае паляванне, гэта не нырнуў-стрэліў. Рыбу пашукаць трэба!. А ад холаду гідракасцюм засцерагае.

– Набыў бы акваланг. Ці занадта дорага?

– Не танна. Але па нашых законах паляваць з апаратам – браканьерства. Ды і не спартыўна гэта... – Алег расшпіліў вялізную сумку, пачаў выцягваць адтуль рыштунак.

– А гэта што? – Чэся паспрабавала падняць грузавы пас. – Ой-ёй! Які цяжкі! Ты з гэтым ныраеш?! Цагліна на шыю ў параўнанні з тваім пасам – выратавальны сродак! А нож навошта? Ад акул адбівацца? Ці ад самоў?

– Ну, калі зачаплюся пад вадой за што-небудзь, то каб абрэзаць. Куканам часта за сукі чапляюся. Праўда, кукан абразаць яшчэ не прыходзілася, а вось у сеткі, жылкі рыбацкія, шпагат розны – ублытваўся. Так што карыстацца нажом прыходзіцца часам.

– Што за кукан? – зацікавілася Чэся.

– Кукан, Чэ... – заспяшаўся Міхась, паніжаючы голас да шэпта, – падсунься сюды, зараз растлумачу... Гэта...

“О-о, не ма-гу! Ку-ку-ка-ан! – захлынулася рогатам Чэся пасля міхасёвага тлумачэння. – А-а-лег! Чап-ляў-ся? Ку-ка-нам...!? Ты праўду кажаш – не аб-аб-ра-з-за-ў?! О-о-й, я зараз ко-он-чу-у-ся-я! ”

– Нічога святога – ледзьве стрымліваючыся, каб не зарагатаць разам з ёй, сказаўАлег, наліваючы ў гідракасцюм мыльную ваду з бутэлькі. – Усё абсмяяць гатовы. Злосны ты, Мішка...

– Гэта вада з шампунем? А навошта?

– З шампунем. Каб надзяваць лацвей было. Адвярніцеся, дзяўчаты, я пакуль гідрык апрану.

– Ой, які ты ўвесь гумовы! – запішчэла Чэся, калі Алег улез у гідракасцюм. – І вада пад яго не праходзіць? А ў ім цёпла?

– Цёпла... Шорцікі антыцэлюлітныя па скрынцы рэкламуюць – бачыла? Дык гідрык з таго ж самага матэрыялу. Толькі таўсцейшы...

...Хвілін трыццаць Алег крочыў па сцежках сярод высокіх, па шыю, траваў. Сцежкі часам прападалі, і тады ён павольна прадзіраўся праз

густыя зараснікі. Ведаў – рака недзе злева. Сонца, на якое насоўвалася чорна-сіняя сцяна, моцна прыпякала. З-пад капюшона пацяклі струмені поту. На аголеныя твар і далоні садзіліся авадні, балюча кусалі. Зар-раза! Дзе ж тая рака? Кожнае новае лета так усё мяняецца, не пазнаць, хоць крыху, ды паблудзіш. Алег пачаў ужо нервавацца, але тут за чарговым ракітавым кустом бліснула вада. У гэты ж час на сонца нарэшце наехала чорная сцяна, кругом пацямнела, наваколле набыло прывідна-трывожны выгляд. Загулі далёкія грымоты.

Надзеў ласты, маску, зарадзіў гарпуном стрэльбу, кінуўся ў раку і некалькі хвілінаў ляжаў, з асалодаю аддаючы лішкі цяпла вадзе, што патроху прасочвалася пад неапрэн гідракасцюма. Потым нырнуў. Плынь ласкава ахінула яго і павольна панесла ўздоўж пясчанага дна. Чародкі кялбоў спуджана кідаліся ўбакі. Нейкая дробязь, ці то плоткі, ці падлешчыкі мітусліва шмыгалі ў полі зроку. Вось чорная маса – дрэва, падмытае веснавой паводкай. Алег учапіўся ў бліжэйшы сук, каб не пранесла плынню, і пачаў уважліва ўзірацца. Шкада, што сонца закрылі хмары. (Вось заўсёды так – пакуль дабіраешся да вады, сонейка свеціць, толькі ўвайшоў у раку, усё – сонца за хмары, пад вадой нічога не разгледзець. Асабліва на глыбіні).

Вочы пакрысе прывыкаюць, і як на фотапаперы ў праяўніку выплывае перапляценне галінак і светлыя “вокны” паміж імі. Тут пуста. Толькі чародка плотак. Замалыя для палявання.

Захацелася дыхаць. Падняў угару твар, праверыў, ці няма якіх перашкодаў, і нетаропка ўсплыў. Прадзьмуў трубку, глыбока ўдыхнуў. І зноў ляжаў на вадзе, і яго несла ўніз. Адпачываў. Думаў – якое задавальненне адчуць сябе вольным у прасторы. І якое задавальненне глынуць паветра, калі ў кончыках пальцаў ужо пачынае пакалваць і ногі млеюць ад недахопу кіслароду. І засмяяўся – узгадаў анекдот пра ёга, які б’е малатком па пальцы і “ловіць кайф”, калі прамажа...

На чорным небе мільгаюць бліскавіцы. Вецер падняўся. Зусім сцямнела. У вадзе амаль нічога не відно, не дапамагае нават тое, што Алег доўга чакае з заплюшчанымі вачыма, каб расшырыліся зрэнкі, і толькі потым нырае. Страшнавата. Правілы бяспекі раяць не знаходзіцца ў вадзе падчас навальніцы. А яна набліжаецца... Халера, прыйдзецца без рыбы вяртацца. Сорамна.

Выйшаў з вады, агледзеўся. Ніякай сцежкі паблізу. І трава някошаная ў чалавечы рост. Але нічога не зробіш, трэба ісці. Добра, што недалёка.

Пакуль выдраўся на дамбу,наляцела. Спачатку кроплі, што боб, а потым зліва, цурком. А маланкі, здаецца, бесперапынна лупяць. Не страшнавата ўжо, а па-сапраўднаму страшна. Ды яшчэ па дамбе ісці, вышэй за ўсё наваколле, а значыць і небяспечней. Спусціцца можа з дамбы? Там і зацішней, і маланку “злавіць” шанцаў меней... Не, трава на дамбе вазамі стаптаная, а паабапал – джунглі. А-а! Каму лёс быць павешаным, той не ўтопіцца! Вунь ужо і дрэва тое гарэлае. Зараз будзе дарога, па якой прыехалі.

Але ж і лупіць! Як там дзяўчаты з Мішкам? Ці намёты не працяклі? А-вой! Балюча як!

Грымнула асабліва моцна, і абрынуўся град. Ды які! З галубінае яйка. Алег зацкавана кінуўся туды, сюды, атрымаў пару разоў па галаве, па плячах, і джгануў ратавацца да гарэлага дуба. У дупло.

**3**

У намёце было нішто сабе. Звонку лупцаваў дождж, а тут суха, хоць і трошку душнавата. У святле кішэннага ліхтарыка блішчэлі круглыя ад сполаху вочы Чэсі, якая тоненька пішчэла на кожны ўдар перуна, а Міхась з паблажлівым смехам яе супакойваў: “Ну чаго ты вішчыш, сонца маё? Пярун – гэта ўсяго толькі страсенне паветра. Маланка ўжо была”.

Наста басавым шэптам – голас раптам сеў – галасіла па Алегу: “А дзе ж яго носіць? А-ёй-ё-ёй! А гэта ж так небяспечна! Па вадзе ж ток распаўсюджваецца! А бачылі ж, што навальніца насоўваецца! А чаму ж не з’ехалі? А што ж яго так доўга няма?...” Але ў гэты момант па намёце пачалі лупасіцьградзіны, і нават Міхась перастаў пад’юджваць Чэсю.

Град скончыўся хутка і гэтак жа нечакана, як і пачаўся. І дождж, здаецца, парадзеў. Толькі працягвалі біць маланкі. Сполах, ажно ў намёце відаць, адразу страшны трэск, як ад разрыванай бляхі, і ўдар.

Наста перастала галасіць, дастала з пластыкавай торбы куртку: “Пайду пашукаю. Не магу я тут сядзець...”

– Куды ты пойдзеш? Ты ўяўляеш, дзе ты знаходзішся? Тут тры крокі ўбок ад сцежкі, і ўсё, нікога не заўважыш! – Міхасю вельмі не хацелася вылазіць з намёту на дождж, а адпускаць Насту адну немаведама куды таксама не мог. – Сядзі, сам прыйдзе, ці прыплыве. Нікуды не дзенецца твой Алежык, дарослы ўжо хлопчык!.

– Ды не ма-гу я тут!

– Добра. Разам пойдзем, пакрычым. (І што толку крычаць? Такі шум...) – уздыхнуў Міхась. – Ты, Чэ, сядзі, не вылазь, мы самі.

– Ага! Мне адной страшна! І самотна! Страшна самотна. – Чэся палезла ў сумку па вопратку...

... – А-ёй! Ногі мерзнуць! Глянь, што робіцца, – усклікнуў Міхась. На сцежках, у каляіне, па якой прыехалі, у лужынах ляжалі груды градзін. – Ну і дзе мы яго тут будзем шукаць?

– Давайце туды пройдзем, да дамбы...

– Ну, мы на дамбу, а ён ракой прыплыве. Убачыць, што нас няма, і таксама пойдзе шукаць. Так і пагубляемся! – Міхась пачынаў злаваць. – Давайце лепш назад, у намёт.

– Вы як сабе хочаце, а я туды. Яму няма, здаецца, іншай дарогі, як дамбай вяртацца, – Наста была няўхільнай.

Прайшлі па каляіне метраў сто, абыходзячы ямкі з ледзянымі градзінамі. Міхась крочыў уперадзе і нешта бурчэў пра сабак, надвор’е і гаспадароў, а яшчэ пра мазахістаў.

– Вунь ваш Алежык. Ідзе. Вунь, ля гарэлага дуба. “Шукаць! Шукаць!” – падражніў Насту. – Толькі вымаклі дарэмна!...

...Страшэнны трэск раскалоў цёмна-шэрае неба. Над гарэлым дубам узнікла дрыготкая ззяючая паласа. Яна не прапала праз імгненне, як звычайная бліскавіца, а стаяла над дубам і вібравала. Наваколле пад яе святлом стала непазнавальным, быццам марсіянскі ландшафт. Вішчэлі дзяўчаты, але іхны віск патануў – проста стаялі з разяўленымі ратамі. Ад дрыготкага слупа, як галіна ад дрэва, вырасла шчупальца і даткнулася да постаці ў чорным, і вакол яе ўзнікла ззянне...

– ...нка ўдарыла! – уварваўся ў Міхасёвы вушы немы крык Насты. Ён ужо бег туды, да дуба. Алег ляжаў уніз тварам, раскінуўшы рукі і

ногі. Гідракасцюм увесь тапырыўся дробнымі шматкамі падранага неапрэну, і ад яго падымаліся ці то пара, ці то дым. Смярдзела паленай гумай. Перавярнуў на спіну. Пасінелы твар, закочаныя вочы. З шалёнымі позіркамі падбеглі Наста з Чэсяй. Міхась спрабаваў намацаць пульс, і не знаходзіў.

– Наста! Штучнае дыханне рабіць умееш? – Тая толькі кіўнула галавой. – Давай! – І моцнымі штуршкамі пачаў масаж сэрца. – Раз! Два! Тры! Наста! Раз! Два! Тры!...

– Асцярожней! Скабы не паламі! – Закрычала Чэся. – Глядзі! Глядзі! Здаецца, дыхае! Алежка, міленькі! Дыхай! Дыхай!...

Струмені дажджу трапілі ў рот Алегу і ён закашляўся.

– Баліць... – вочы Алега блукалі, здаецца, не бачылі нікога.

– Дзе баліць, Алежык? – Над ім схілілася Наста.

– Скура баліць...

– Можа касцюм гэты садраць? – Прапанавала Чэся.

– Не-не, ні ў якім разе! – Спалохалася Наста. – Можа там моцныя апёкі, можа скура з гумай спяклася. Толькі раны аголім і балюча зробім. Не, трэба каб медыкі распраналі. Ты як, Алежка? Ты мяне чуеш? Як адчуваеш?

– Чую. Галава круціцца. І спіну пячэ. Моцна. І вочы рэжа.

– Яго абварыла! Гумай гарэлай пахне! Дзяўчаты, заставайцеся тут, я па машыну. Трэба тэрмінова ў лякарню! – Замітусіўся Міхась.

– Я таксама паеду! Я звар'яцею тут, не ведаючы – як ён, – заплакала Наста.

– А-а! Добра! Так: ты, Наста, заставайся тут, з Алегам, а мы з табой, Чэ, хуценька збіраем транты, на ўсё дзесяць хвілін, і едзем! Халера, толькі б дзе ў лужыне не засесці!...

## 4

– Ты, братачка-шчупачок, у кашулі нарадзіўся... – доктараў твар спагадлівы і добры. – Нават не чуў, каб маланка ў чалавека трапіла, а ён выжыў. Хоць не, ілгу, як вучыўся ў медыцынскім, прыводзілі такія выпадкі.

– У гідракасцюме, доктар, – слаба ўсміхнуўся Алег.

– Не, братачка-шчупачок, у кашулі. Каб твае сябры хоць на хвіліну спазніліся, то ўсё было б... Не-ве-ра-годна! Ды яшчэ каб не сасмажыўся ўшчэнт... У гідракасцюме, кажаш, нарадзіўся? А ты падоўгу ныраеш?

– Як калі... Часам гадзін восем, нават неяк дзесяць было. А часцей – чатыры-пяць. А што?

– А калі памачыцца прыціснула, то як? Выходзіш, касцюм гэты здымаеш? Выбачай за цікаўнасць...

– Ды не, доктар. Гэта было б занадта клопатна. І часта. Не выходжу. Ды ніхто не выходзіць. М-мы..., гэт-та... Узгадваем дзяцінства...

– І тым разам... узгадваў?

– Ну, натуральна. Чамусьці пры ныранні часта ўзгадваць прыходзіцца.

– Гэта сапраўды – натуральна. Арганізм рэагуе на кіслароднае галаданне – пазбаўляючыся ад лішняй вадкасці, павялічвае канцэнтрацыю гемаглабіну ў крыві. Зразумела цяпер, чаму цябе маланка пашкадавала. Твой касцюм, ён жа порысты? Так? Поры запоўніліся "электралітам",

праводнасць якога лепшая, чым тваё цела. І ток пацёк туды, дзе меншае супраціўленне – па электраліце. Закон Ома называецца! – Падняў угору палец і заўсміхаўся. – Табе дасталася толькі маленькая частка. Хоць і хапіла, каб сэрца спыніць...

– Доктар, што вы казалі пра апёкі? Нешта сур'ёзнае? – занепакоіўся Алег.

– Не, братачка, усё сур'ёзнае мы ўжо "праехалі". Загояцца. Шнары можа якія застануцца... Нічога страшнага, не дзеўка. Пабудзеш у нас пару дзён. Трэба паназіраць за тваім сэрцам. Ну, на месяц ныранне сваё прыйдзецца прыпыніць. А то можа і на два. А як ты хацеў? – ускінуўся ўрач, заўважыў, што Алег спрабуе нешта запярэчыць. – Ты, братачка, з таго свету вярнуўся. Не жартуй! Трэба пачакаць, агледзецца, ці няма якіх скрытых наступстваў.

...У дзверы палаты нясмела пастукалі, і прасунулася галава Міхася: "Можна?"

– Заходзьце, я ўжо скончыў. – Доктар пачакаў, пакуль зойдуць Міхась з Чэсяй і Настай, – о-о, якія прыгажуні! Здагадваюся – гэта вы рабілі рэанімацыю нашаму братачку-шчупачку? Сапраўдныя героі! Ну, добра. Размаўляйце... Толькі не доўга. А то да яго ідуць і ідуць... Трэба ж спакою даць хвораму!

– Чаго гэта ён цябе "шчупаком" кліча? І хто гэта да цябе "ідзе і ідзе"? – Спытаў Міхась, пакуль маладзіцы выкладалі з торбаў прыпасы.

– Тата з мамай былі... А доктар... даведаўся, што падводным паляваннем займаюся, і, відаць, ад вялі-ікай павагі яго на творчасць "прабіла". Вось і стварыў мянушку. "Братачка-шчупачок", ды "братачка-шчупачок"... А мне што? Гэта ж не які-небудзь "Конскі Поц", або "Рваная Гума"...

– Ха-ха-ха! – засмяялася Наста. – "Рваная гума" вельмі б падыйшла! Гідракасцюм нават на латкі не здатны! Эх, зноў траты... А можа кінеш свае ныряцалкі?

– Дурнічка! Як гэта кіну?

– Як пачуваешся? – Чэся складала прыпасы ў тумбачку ля ложка – Ты тут як вялікі пан, адзін...

– Думаю, ненадоўга. Толькі што двух суседзяў выпісалі. А адчуваю сябе цярпіма. Так, быццам мяне конь у грудзі ўбрыкнуў. Доктар казаў – праз пару дзён выпіша. Калі не здарыцца чагосьці нечаканага. Хоча паназіраць за сэрцам. А з апёкамі, казаў, на перавязкі з дому пахаджу. Я вось што хачу: дзякуй вам, што своечасова на месцы аказаліся і што не разгубіліся. Я цяпер перад вамі да скону вінаваўца.

– Во-во! Нам з Чэ будзеш "прастаўляцца" пры кожным зручным для бытавога п'янства выпадку, а з Нэ неяк па-сямейнаму разлічышся. – Пажартаваў Міхась – Так цябе, так цалавала, так цалавала! Мабыць у шлюбную ноч так не было!. Зліва як з вядра, перуны лупяць, а яна як прысмокчыцца! Шкада, ты не бачыў.

– ...Не балбачы, Мішка. Гэта былі не пацалункі, а рэанімацыя. Вунь, і доктар пацвердзіў. – Заступілася за сяброўку Чэся. – Жартачкі табе...

– Чаго не пажартаваць, калі добра скончылася... – супакоіла Чэсю Наста.

– Добра! Так, брацця і сестры! – Чэся працягнула Міхасю бутэльку "Кемшырыну" і дастала з торбы пластыкавыя шкляначкі, – адкаркоўвай давай. Адзначым цудоўнае выратаванне слугі Божага Алега! Ты, Алег, у

сувязі з апошнімі падзеямі яшчэ не кінуў свой здаровы лад? Хто не паліць і не п'е... Зрэшты – тваё права. Прапаную тост – За жыццё!

– Так. За жыццё...

## 5

Палата на трох чалавек, з мэблі толькі скрыпучыя ложкі, тумбачкі і тры расхістаныя крэслы. У куце – кран з халоднай вадой. Падобна да таннага нумару ў гасцініцы, ці на пакой у інтэрнаце. Сумна. Хоць бы хутчэй каго засялілі... Не, не так, не "засялілі". Сюды не засяляюць, сюды "кладуць". "Жадаць, каб сюды кагосьці паклалі – нядобра, – падумаў Алег, – не, нікому не жадаю сюды трапіць. А што сумна – нічога. Шкада – ніхто не здагадаўся пачытаць што-небудзь прынесці..."

Яно, можа, і добра, што нікога няма. Хатха-ёга часам раздражняе, асабліва старых. Не Індыя... Не будзе здзіўленых позіркаў і хамаватых каментароў.

Наста, здаецца, соль прынесла. Так, сапраўды, вось сальнічка. Насыпаў палову чайнай лыжачкі ў шклянку, заліў вадою, размяшаў. Над ракавінай зрабіў ачышчэнне насаглоткі, набіраючы салёную ваду носам і выводзячы праз рот – "В'юткрама Капалабхаці". Потым падрыхтоўчыя практыкаванні – павольна і плаўна. Прыслухаўся да сэрца. Б'ецца крыху часцей, але ніякіх непрыемных адчуванняў. Цяпер размінка – некалькі простых асан, поз з гімнастыкі ёгаў. Сеў на ложак, прыняў "Свастыкасану" – "позу росквіту", заплюшчыў вочы, паклаў на калені рукі – далоні ўверх, пальцы выпрастаны. Самкнуў указальныя пальцы з вялікімі, і – здрыгануўшыся – расплюшчыў вочы, разамкнуў пальцы. Агледзеўся. Нічога – тая ж убогая палата, тыя ж ложкі з шэрай бялізнай... Дзіўна... Яму здалося было, што палата поўная людзей. Доктар і Наста з Чэсяй. І Міхась, здаецца, таксама. "Вар'яцею?" Але прывід, што мільгануў на нейкую сотую секунды, быў такі яркі, быццам ява. Зноў – у "позу росквіту", заплюшчыў вочы...

...Вочы заплюшчаныя, а ён бачыць! Доктар сядзіць ля ягонага ложка. Устае. Дзверы адчыняюцца, Міхасёвая галава. Вусны варушацца: "Можна?" Расплюшчыў вочы. Нічога, пустая палата. Заплюшчыў. Міхась ужо тут, заходзяць Чэся з Настай. Усміхаюцца. Доктар нешта кажа. Выходзіць. Дык гэта ж...! Гэта ж толькі што было, гадзіну таму!

А калі пальцы разамкнуць? Хоп! Пагасла ўсё, быццам тэлевізар выключылі. Самкнуць. Зноў адчыняюцца дзверы, Міхасёва галава.

Агледзецца... Ага, вось ён сам, у ложку, гутарыць з доктарам.

Ёлы-палы! Як машына часу! Не, на машыну часу не цягне, а быццам бы тэлекамера назірання. Гэтага не можа быць! Можа сапраўды – звар'яцеў? І яму здаецца, што бачыць мінулае? Госпадзе, не дапусці гэтага!

А калі пальцы самкнуць не вялікі-ўказальны, а, скажам, вялікі-мезенец? Спачатку на правай. О! Заскакалі з велізарнай хуткасцю, не разабраць амаль нічога. То цёмна, то светла, гэта, відаць, дні і ночы скачуць. А на левай?

...Быццам вісіць над балоцістай пусткай. А наводдаль – відно сапраўднае балота, сцяна рагозу. Чаму выгляд зверху? (А-а! Ён жа зараз на дванаццатым паверсе бальніцы!) А там, злева? Горад. Незнаёмы. Хоць чаму незнаёмы? Вунь касцёл. Той, што на фатаграфіях у краязнаўчым музеі. Самы вялікі ў Рэчы Паспалітай. Узарваны ў пяцьдзясят трэцім. Гэта ж наш горад! Толькі даўно. Так. Зноў левай, павялічым хуткасць. Пейзаж

замільгаў то белым, то жоўтым, то зялёным. Гэта гады мільгаюць – зіма, вясна, лета, восень, зіма, вясна...

Расплюшчыў вочы. Палата. Пад столлю лямпа люмінесцэнтная гудзе, як муха ў павучынні. Што гэта? Няўжо сапраўды – "машына часу"? Як упэўніцца, што не вар'яцтва?

Як – як?! Проста! Здаецца, правая рука "адказвае" за хуткасць "пракруткі" карцінкі, а левая – за аддаленасць падзеяў. Трэба зараз падгледзець нешта такое, што сам не бачыў, а потым спытаць у дзяжурнай сястры, удакладніць. Калі супадзе – значыць ніякае не вар'яцтва, не плод апечанага электрычнасцю мозга. Скажам, паглядзець, хто ляжаў тут да тых двух мужыкоў, што сёння выпісалі... Толькі як трапіць дакладна на тыдзень назад? Як-небудзь...

...Вось суседзі па палаце развітваюцца і сыходзяць... Не, трэба ранейшы час. Сярэдні палец. Так, усе ў ложках, і ён таксама. А калі паспрабаваць разамкнуць-замкнуць сярэдні з вялікім? О! Заміргала, і кожны раз далей. Вось яны і зніклі. А што гэта чорнае на суседнім ложку? Мурын? Ага, мурын! Гэта – клас! Значыць, да тых мужыкоў, што выпісаліся, у палаце ляжаў мурын. Экзот. Усе павінны аб гэтым памятаць...

"...Значыць, не шыза. Значыць, сапраўды магу зазірнуць у мінулае. Можа, усё, што адбываецца, пакідае ў прасторы нейкія сляды? Напрыклад – змяняе, скрыўляе нейкім чынам фізічныя палі. А я магу зараз гэтыя сляды чытаць. Быццам запіс з магнітнай стужкі пракручваю. Як? А-а! Не важна, як. Важна пастарацца засвоіць гэтыя навыкі. Каб можна было дакладна трапляць у патрэбны час, умець праглядаць мінулае на розных хуткасцях... Гэта ж як зручна!..

А што мне гэта дасць? Не, не так. Для чаго мне гэта дадзена?... Настассі распавяду, разам памяркуем. Ці Міхасю? Не, Міхасю нельга, абсмяе. Фенамен!... Ды і Нэ не паверыць. Паверыць! Дакажу... Ну, дакажу, і што? Можа, нікому нічога не расказваць?"

## 6

– Алежык, ты не бачыў наш калькулятар? – Наста заклапочана моршчыць лоб. – У шуфлядзе няма. Усю кватэру абшнарыла – безвынікова! Заўсёды на месцы ляжаў, а як спатрэбіўся, то і знік. Дакладна па законе Мэрфі – пакуль рэч не патрэбная, яна ўвесь час трапляе пад руку, а як спатрэбіцца, то яе не знайсці.

– Не бачыў... Навошта табе? Правяраць веданне табліцы множання? – Алег з газетай ляжыць на канапе. – Да тваёй фармулёўкі закону Мэрфі ёсць дадатак: калі ты, пакінуўшы надзею знайсці гэтую рэч, набудзеш новую, у той жа час яна знойдзецца. Будзе ляжаць на самым бачным месцы.

– Ведаю табліцу... Хацела індэкс масы цела палічыць. Сёння па тэлебачанні падгледзела. Аказваецца, формула нармальнай вагі – рост у сантыметрах мінус сто – недакладная. Не ўлічвае тып целаскладу. Для астэнікаў яна падыходзіць, а для гіперстэнікаў...

– ...Во якіх словаў вывучыла! – Мармыча Алег. – Абсценку, гіперсценка... Куркулятар! На паперцы падлічы... А ўвогуле – больш руху, на паўвядра меней ежы, і індэкс будзе нармальны.

– Ды мне ўжо цікава – куды ён дзеўся? Увесь час у вочы лез, а зараз як скрозь зямлю... Можа, сцягнуў хто? Ды не... Можа, дзеці? Дзеткі-клеп-

таманчыкі? На днях Жанка прыходзіла з малым, з Жэнікам... Потым Наташка са сваімі птушанятамі...

– Жэнік мог. Памаўзлівы хлопчык. Будучая зорка спецслужбаў. – Алег адкладае газету і сядае на канапе ў “Свастыкасану”. – Зараз. Пачакай крыху.

– Што – “зараз”? – не разумее Наста.

– Не перашкаджай...

...Ля канапы маленькі столік-каталка, бутэлька віна, келіхі. Жана з Настай захопленыя гутаркай. Уздзёршыся з нагамі на крэсла, сямігадовы Жанін Жэнік разглядае часопіс. Спаўзае на падлогу, выцягвае з-за камоды гантэлі. Спрабуе выцiснуць над галавою. Зацяжкія. Пакідае і па-пластунску поўзае на кіліме. Выпаўзае ў прыхожую.

Алег расплюшчвае вочы і ідзе ў суседні пакой. Поза росквіту.

...Жэнік корпаецца ў стэлажы з кніжкамі. Відаць, не цікава. Аглядаецца, адчыняе тумбу кампутарнага стала, выцягвае шуфлядку. Па-зладзейску азірнуўшыся на дзверы суседняга пакоя (ведае, што чужое браць нельга!) совае калькулятар у кішэню...

– Нэ! Ты дзе? – Пакуль маніпуляваў, Наста ўжо забылася на калькулятар і завіхаецца на кухні.

– Тут я. Што хочаш?

– Тэлефануй Жане. Хай Жэніка дапытае, гэта ён калькулятар ціскануў. Любяць дзеткі тэхніку...

– А раптам не ён? Пакрыўдзім Жанку... Можа, халера з ім, з гэтым калькулятарам?

– Ён-ён! Звані, кажу. Стопрацэнтова ён!

– Скуль ведаеш? Стопрацэнтова! Цябе дома не было, як яны прыходзілі...

– Стуль! А яшчэ ведаю, што вы з Жанкай бутэльку “Кагору” выжлукцілі. Алкагаліцы і барбаркі. Старажытныя грэкі лічылі барбарамі тых, хто піў неразведзенае віно! Між іншым!

– А-а! Ты бутэльку пабачыў, як смецце выносіў?

– Пабачыў-пабачыў! Тэлефануй! Вяртай маёмасць, нажытую непасільнай працай!...

...– Алё! Жанка? Здароў, сяброўка! Што чуваць?... Слухай, ты не магла б спытаць свайго малога, куды ён калькулятар засунуў? Гуляўся-гуляўся, а зараз, як спатрэбіўся, не магу знайсці... А-га, вось як! Ну, нічога, бывае... Ды не, не тэрмінова... Я ўжо на паперцы, у слупок... Добра. Добра! Не хвалюйся. Ну, бывай здарова! Пакуль! – Паклала трубку. – Ты ведаеш, сапраўды Жэнік сцягнуў. Жанка пытае – дзе ўзяў? – “Знайшоў”, кажа. Здаецца, атрымае сёння Жэнік на абаранкі. А як ты здагадаўся, што гэта ён? Стопрацэнтова!

– Дэдукцыя... Чаго гэта ты спахмурнела? Знайшоўся ж твой куркулятар, – узіраецца ў Насцін твар Алег. – Здарылася што?

– Не, нічога. – З жаласнай усмешкай. – Сапраўды Жэніку можа дастацца... Жана, яна такая... нястрыманая. Нават жорсткая. Не разумее свайго шчасця... Мне здаецца, каб у нас такі памаўза быў, мы б яму ўсе шкоды даравалі! Праўда? Зараз яшчэ раз Жанцы патэлефаную, каб на Жэніка не сварылася.

– Ну чаго ты! Будзе і ў нас клептаманчык, і нават не адзін! Доктар што сказаў: “У вас усё ў парадку, ні аб чым не перажывайце, кахайцеся, і ўсё атрымаецца!” Ты доктару не верыш?

– Веру... І доктару, а найбольш Богу... Але ж колькі можна чакаць? Чаму адным яны дастаюцца нежаданыя-нечаканыя, як Жанцы, а іншым... – макрэюць Насціны вочы.

## 7

– Алё! Алег? Здароў, гэта я, Сяргей! Які-які! Чысел! Пазнаў? Ну вось, цяпер не быць мне багатым... Такая справа да цябе: ты калі ў адпачынак ідзеш? У ліпені? А Нэ? Наста пазней? І якія планы маеш? Планы, кажу, на адпачынак якія? Чаго хачу? Тут якраз для цябе занятак ёсць. І адпачнеш, і такую-сякую капейку заробіш. Такі занятак: хлопцамі маладымі пакіраваць. Будзе група моладзі, гадоў па сямнаццаць-васямнаццаць, яны павінны на археалагічных раскопках працаваць. Ты паўдня арганізоўваеш працу на раскопках, а другую палову – актыўны адпачынак. Ну – ты ж гэта ўсё ўмееш. Ну, розныя штучкі, як у скаўтаў, або як у рэйнджараў. Выжыванне ў лесе-балоце, здабыванне агню, плаванне-ныранне, рукапашны бой... Во! Хатха-ёга! Гутаркі па гісторыі Беларусі... Нічога, падчытаеш, часу яшчэ шмат. Каб хлапцам цікава было, каб энергію ў стваральнае рэчышча... Раскопкі – не твой клопат, там археолаг будзе, з Акадэміі навук! Ты толькі працу арганізуеш – ну, каб капалі! Археолаг скажа, што і як... Колькі? Не ведаю дакладна пакуль. Чалавек дваццаць. З “Белага Легіёну”. Потым распавяду, арганізацыя маладзёвая... А я камандзір... “Белага Легіёну” камандзір!... Нацыяналісты беларускія. Харошыя хлопцы, студэнты ў большасці. Гісторыкі, журналісты, мастакі – розныя... У Магілёўскай вобласці. Там невялічкі раённы цэнтр, Луск, і рэшткі замка старажытнага... Рака... Ціч. Халера яго ведае, чыстая, ці не! Спытай што прасцейшае. Падумаеш? Ну, думай. Месяц можаш думаць... Каб час быў іншага знайсці, калі ты раптам адмовішся....

...З вышыні птушынага палёту бачны выгіны ракі, парослай па берагах лесам, узгорак, вакол якога бязладна прытуліліся некалькі соцень малюсенькіх хацінак. Вакол узгорка кіпіць праца – людзі капаюць роў, ставяць сцяну з завостраных бярвенняў. Каля рова вырастае высокі земляны вал. Спрытнюгі... Адзін кідае зямлю з самага нізу, другі адразу перакідвае яе вышэй, трэці яшчэ вышэй... Чацверты – на вал. Будаўнічая пляцоўка варушыцца, як мурашнік, людзей шмат, можа сотні, можа тысячы. Расплюшчыў вочы. Унізе, пад вышкай-антэнай мясцовага тэлецэнтра пару дзясяткаў мураванак-“хрушчовак”, аблепленых драўлянымі хатамі “прыватнага сектару”. Ад рова, будоўлю якога толькі што назіраў, застаўся ледзве бачны след. А замкавы вал захаваўся добра. Пяць бастыёнаў. Пасярэдзіне пляцу, абмежаванага валам – стадыён. На ім пасвяцца каровы і авечкі. Побач запусцелыя будынкі спарткомплексу. Толькі рака ранейшая, тыя ж выгіны. Каб не рака і не вал, нічога нельга было б пазнаць. Лес адсунуўся, пераможаны горадам. Зноў заплюшчыў вочы. Маніпуляцыя пальцамі...

...Цагляная вежа з арачнай брамай. Мост на ланцугах над ровам. У рове цячэ вада, з Цічы падвялі. Да ўваходнай вежы прымыкае дом. Па ўсяму валу – сцяна з вертыкальных бярвенняў, завостраных уверсе...

– Алё-о! Эй! – Даносіцца голас. – А ну – слазь! Слазь, каму гавару!

О-о! Ля вышкі міліцыянт з пагонамі падпалкоўніка. Ну, злазіць, дык злазіць...

– Ты пачаму туда залез? Туда запрэшчано залазіць! Відзіш, вышка абгарожана? Эта ражымны аб'ект! – Твар міліцыянта злосны, з нахабнымі вачыма.

Вакол вышкі сапраўды жалезная агарожа, але ўваход вольны, фортка, відаць, была, а цяпер толькі пусты праём. Можа, каму ў гаспадарцы спатрэбілася?

– Дзень добры. Залез абгледзець усё зверху. Тут ніякіх надпісаў пра забарону няма, форткі няма, дык я і скарыстаўся... Шукаю, адкуль можна здымак зрабіць, каб увесь помнік захапіць...

– Какой ешчо помнік? Тут нету нікакіх помнікаф! Ты хто такой? Чтота я цібя не помню... Дакументы!

– Ну як жа няма? А ваш замак? Гэта ж помнік... Археалагічны...

Дастаў пашпарт. Добра, што захапіў з сабою, быццам ведаў, што спатрэбіцца.

– А, дак ты с археолагамі здзесь? Слышал-слышал. – Пашпарт не гледзячы паклаў у тэчку. – Ну, і што ішчэце? Золата, наверна? Ну-ну... Я здзесь начальнік ГОВэДэ, зайдзёш ка мне у адзінаццаць часоф... Спросіш у дзяжурнага, гдзе мой кабінет...

– А што – мы ўжо на брудэршафт выпілі, спадар падпалкоўнік? Ці звяртацца на “ты” да незнаёмых людзей у міліцэйскай школе вучаць? І як я без дакументаў? А раптам яшчэ хтосьці захоча праверыць? Вы ж мабыць не адзін такі?...

– Ты аткуда такой нарванный здзесь узялся? – У міліцэйскіх вачах палыхнула шаленства. – Не панімаеш! Я цебя магу сейчас на пятнаццаць сутак ф падвал!

– За што, цікава?

– Патом узнаеш, за што... Пафтараю – у адзінаццаць у меня ф кабінеце.

Во гадства! Двух дзён не прайшло, а ўжо з галоўным гарадскія мянтом пасварыўся! І што яму трэба?

...У адзінаццаць гадзін кабінет начальніка міліцыі аказаўся зачыненым на замок. Чакаць і шукаць не стаў, вярнуўся да замку. Моладзь расчышчала сутарэнні. Ад вежы з брамай і дома ля вежы, якія гадзіну назад разглядаў з вышыні птушынага палёту, не засталося нічога. А падвалы пад домам, да самай столі засыпаныя зямлёй, змешанай са смеццем, захаваліся. Хлопцы цягалі адтуль на насілках зямлю, прасейвалі праз сіта ў пошуках знаходак. Знаходкамі займалася непадалёку ў цяньку археолаг Акадэміі Навук, маладая жанчына, Ірэна, разам з дзвюма дзяўчатамі– мылі, сушылі, нумеравалі. Знаходак шмат – у асноўным аскалабкі керамічнага посуду, кафлі, цэгла з адбіткамі рук, часам сабачымі слядамі. Знайшлі некалькі медных манетаў з “Пагоняй”. Старажытны муляр правёў па гліне пальцамі, намаляваў крыж, або сабака прабег па сырой цэгле, што сохла ў драўляных формах, і праз стагоддзі абпаленая гліна пранесла “запісы” іхніх дотыкаў. “Чаму б слядам усяго існуючага не застацца навокал, як гэтыя сляды на гліне? – Думаў Алег. – Папросту мы не ўмеем гэтыя сляды бачыць, чытаць. Яшчэ якіхсьці сто – сто пяцьдзясят гадоў таму людзі не ўяўлялі пра існаванне электрамагнітнага поля. Значыць, яно для іх не існавала. Каб наш прапрадзед з дзевятнаццатага стагоддзя ўбачыў тэлефон, радыё, тэлебачанне, кампутар з яго магчымасцямі, дык падумаў бы, што гэта нешта звышнатуральнае. А яно – натуральнае! Яно ўжо створана і існуе. І мая здольнасць зазірнуць

у мінулае – відаць проста выпадковая “загрузка праграмы”, якая дазваляе чытаць сляды, што пакінула ўсё існае да мяне”.

– Дзядзька Алег! Дзядзька Алег! Хадземце сюды! Тут нейкая дзірка ў сцяне. –Віця, студэнт гістфака БДУ, сам сябе называе “незабыўны Віцёк” (Сапраўды, вельмі жвавы, вясёлы і завадны).

У тарцы абваленай сцяны, што паказалася з вызваленай ад зямлі часткі сутарэння, адкрылася нешырокая адтуліна.

– Можа комін? – “Незабыўны Віцёк” па плячо засунуў туды руку – Ірэна Уладзіміраўна, тут у сцяне нейкая нара... – У сутарэнне па драўлянай сходні спусцілася археолаг.

– Калі комін, на сценках павінна быць сажа. Пакажы руку. – Паглядзела на Віціну далонь са жменяй рудога пылу. – Не, няма... Можа галаснікі? Сярэднявечныя “падслухоўваючыя прыстасаванні”... У сутарэннях магла быць вязніца, а праз гэтыя каналы ў сценах падслухоўвалі вязняў... А гэта ты там, у нары нагроб? Што за пыл стагоддзяў? Цікава... Віктар, папрасі ў дзяўчат пакет, ссып туды гэты пыл. Для аналізу.

...Пасля абеду Алег адвёў хлопцаў на раку купацца, а сам вярнуўся ў апусцелае сутарэнне. “Свастыкасана”.

...Зусім побач завіхаюцца муляры – пад іх рукамі хутка расце таўшчэзная сцяна. Падымаецца вышэй, вышэй. Вось яна па пояс. Па грудзі. Вось па версе выкладзенай напалову сцяны кладуць бервяно. Пачынаюць абкладаць цэглай. Абклалі. Немагчыма здагадацца, што ў цаглянай тоўшчы схавана дрэва.

Дык вось, што гэта за дзірка ў сцяне! За стагоддзі ўмураванае бервяно спарахнела – пыл, што “незабыўны Віцёк” выграб з адтуліны, гэта спарахнелае дрэва – і засталася пустая “нара”. Толькі навошта было ўмуроўваць тое бервяно? Можа – для эканоміі цэглы?... Трэба будзе ў якасці версіі распавесці Ірэне.

## 8

...Раніцай на раскопкі заявіўся падпалкоўнік. У прысутнасці археалагіні паводзіў сябе больш ветліва, чым учора, хоць позірк застаўся тым самым – звераватым.

– Вы что жа, Алег Мікалаевіч, не прыйшлі ўчара, как я вас прыглашал? Нехарашо... Хаціце пасорыцца с намі? Не саветую. Забярыце ваш паспарт. І составце мне спісак маладых людзей, работаюшчых на раскопках. Фамілія, імя, отчаства, места учобы, прапіска.

– Пан падпалкоўнік, я ўчора з’явіўся ля вашага кабінета дакладна ў прызначаны вамі час, але той быў зачынены. І чаму я павінен складаць для вас нейкія спісы? Ці ж я працую ў вашай канторы? Вам трэба – вы і складайце. Ці падначаленых прышліце...

– Я зраблю для вас спісы, – умяшалася ў гутарку Ірэна, робячы Алегу знакі вачыма. – Вам у які тэрмін?

– Ка мне нада абрашчацца “таварышч падпалкоўнік”, – стрымліваючы шаленства, ад якога твар наліўся чырванню, працадзіў міліцыянт. – А то как бы не прышлось перахадзіць на “гражданіна”. Эта первае. Фтарое – я сабірал падчынённых на савешчаніе, вы далжны былі падаждаць в калідорэ. І трэцяе – вы тут, я віжу, старшый, вы і далжны прэдаставіць мне спісак людзей. Мы занімаемся прафілакцікай праванарушэній, а тут цэлая група

чужых людзей... Так што выпалняйце маі законные трэбаванія... Спісак мне нужан как можна быстрэе.

– “Таварыш” – гэта ад “тавару”, значыць калега па камерцыі. Які я вам калега? Так што выбачайце, буду клікаць вас “панам”. Гэта па-першае. – Алега панесла, і ён не звяртаў увагі на знакі Ірэны паводзіць сябе лагодней. – Па-другое, вы мне прызначылі спатканне ў адзінаццаць. У адзінаццаць вас на месцы не было, і шукаць вас я не абавязаны, мне ўсё роўна, што вы рабілі ў гэты час – ці вы збіралі нараду, ці заганялі каму іголкі пад пазногці – у мяне ёсць свае справы, аб якіх я, дарэчы, не павінен рабіць вам справаздачу. Па-трэцяе, я тут ніякі не старшы, я звычайны валанцёр, які займаецца дапамогай навукоўцы з Акадэміі Навук раскапваць замак. Замову на раскопкі, як мне вядома, зрабіў выканкам вашага горада. То можа вы, як структура выканкама, прышляце сваіх міліцыянтаў – хай папрацуюць рыдлёўкамі і пацягаюць насілкі... Самі тады і спісы складзеце...

– Маі трэбаванія – законныя! Чэрэз два часа я жду спісак маладых людзей, работаюшчых на раскопках! – Аб твар міліцыянта можна было прыпальваць цыгарэты. – Дайце-ка мне назад паспарт! Вот што... Забероце кагда прынясёце спісак. Усё!

...Спіс прыйшлося скласці. Наракаючы, што Алег паводзіў сябе неабачліва, пачала Ірэна. Алег занатурыўся, і, перахапіўшы ініцыятыву, склаў спіс сам – ніводны запіс у ім не адпавядаў рэчаіснасці – ні імёны з прозвішчамі, ні ўсё астатняе. Каб стварыць ва ўсіх уражанне, што спіс сапраўдны, – выклікаў хлопцаў, і апытваў. А пісаў “з пальца”. Вырашыў – міліцыі трэба, то яна і павінна рабіць. А калі захацелі скарыстацца чужым гарбом, вынік хай будзе адпаведны.

У кабінет зайшоўся без стуку (не спальня, а працоўнае месца!). Каля стала падпалкоўніка стаяла даволі маладая жанчына і вялізнымі вачыма ўмольна глядзела на міліцыянта, а той строга яе выгаворваў:

– Жэншчына! Я вам рускія языком паўтараю: праз тры дня! І не панікуйце! А то, развела, панімаеш, ісцерыку! Загуляўся гдзета рабёнак, а вы панікуеце! Са ўчарашнего не было, падумаеш! Не малы ўжо! Можат гдзе ў дзевачак развлекаецца. Вот ежалі тры дні не паявіцца, тагда і прыхадзіце. Напішаце заяўленіе, начнём поіскі.

Жанчына хацела нешта сказаць, але міліцыянт перапыніў яе жэстам рукі:

– Я сказал вам – нет! Да ісцечэнія трох сутак не імею права! Жэншчына, не дурыце мне галавы! Усё! Ідзіце! – І да Алега: – Ну што? Прынёс спісак? Ага...

Прабег вачыма па радках.

– О, са всей рэспублікі... Глядзі за німі, Алег Нікалаевіч, ты самый старшый, с цебя і спрос будзет, ежэлі што... На, вот, паспарт.

Вяртаючыся на раскопкі, Алег дагнаў тую жанчыну. Разгублена ішла па вуліцы і ціха плакала.

– Што ў вас здарылася? – Алег нясмела даткнуўся да локця кабеты. – Я зразумеў так, што дзіцё згубілася?

– Але... Сын...Франак... Як учора пайшоў раніцой з дому гуляцца, так дагэтуль і не вярнуўся. Я ўжо ўсіх ягоных сяброў аббегала... Не, ніхто не ведае нічога. Учора бачылі перад абедам, купаўся на рэчцы. А потым, здаецца, у лес накіраваўся... Ён любіць па лесе лазіць. Я ў міліцыю, каб памаглі, а начальнік кажа – трэба каб тры дні... – Слёзы з вачэй жанчыны

паліліся ручаём. – Гэта ж трэба спяшацца, мала што за тры дні можа здарыцца! Можа праз тры дні ўжо позна будзе... І муж, як на бяду, на заробкі з'ехаў... У Расею, у гэты... Нефцеюганск... Там іх цэлая брыгада, беларусаў. І суседзі ўсе – хто на працы, хто, як мой – на заробках. Няма каго папрасіць – каб шукаць дапамаглі. За ноч усе падвалы, гарышчы аблазіла. Не ведаю, што далей рабіць...

– А колькі Франаку гадоў? – Пацікавіўся Алег, а сам ужо абдумваў план.

– Трынаццаць... Такі стаў распушчаны, некіруемы. Бацька цёмгле на заробках, а мяне не слухае... Але што зробіш – грошы зарабляць таксама трэба...

– Цёмгле...? Вы, мабыць, нетутэйшая, аднекуль з Заходняй?

– Ну... З Іўеўскага раёну я. – Жанчына перастала плакаць, і на змучаным твары праявілася нешта накшталт усмешкі.

– Угу... Значыць, не памыліўся... Я вось што думаю: давайце я дапамагу шукаць. Згода? У мяне такі-сякі план саспеў... Зараз сходзім на раскопкі, я там хлопца вазьму ў дапамогу. Ці можа ў вас іншыя задумкі?

– Не, якія там задумкі... Я ўжо не ведаю, што рабіць...

– Вы адвядзеце мяне на тое месца, дзе Франак учора купаўся. Але спачатку схадзіце дадому, мне патрэбна фатаграфія Франака. І распавядзіце – у чым ён быў апрануты.

На замчышчы Алег коратка распавёў Ірэне пра здарэнне і свой намер дапамагчы няшчаснай маці шукаць сына. Папрасіў адпусціць з ім "незабыўнага Віцька".

...– Калі ласка, не думайце, што я звар'яцеў. Я – нармальны. – Папрасіў Алег Алену і Віцьку, калі яны прыйшлі на мясцовы "пляж", дзе апошні раз сябры бачылі Франака. Пасля апоўдня неба заснавала хмарамі, і бераг быў амаль пусты. Толькі непадалёк выпівала невялікая хлапечая кампанія. Адразу за хмызамі, дзе размясціліся "пікнікоўцы", пачынаўся хваёвы лес.

...Сонечна. Бераг запоўнены людзьмі. На краі, ля ўрэзу вады складзеная з кавалкаў дзірвану ўзвышэнне-тумба. З яе скачуць у ваду хлопчыкі. Вось Франак, смуглы як арабчаня і бялявы, зусім не падобны да таго, што на фатаграфіі, якую дала Алена. Загарэў, а валасы выцвілі, дзіва што – цэлымі днямі на сонцы. Падымаецца з травы, апранаецца. Як і казала Алена –блакітныя шорты, белыя красоўкі, белая майка з надпісам лацінскімі літарамі на грудзях – "MERSEDES". Пайшоў да хмызоў, дзе зараз п'яная кампанія.

Расплюшчыў вочы. Алена і Віцёк назіралі за яго маніпуляцыямі, пераглядваліся.

– Яшчэ раз прашу не здзіўляцца. У мяне такі спосаб... Потым, можа, распавяду... А зараз – проста ідзіце за мной і чакайце, калі я буду спыняцца. – Алег прайшоў ля захмялелых хлопцаў, пачаў прадзірацца праз густы лазняк. Прабраўся на другі бок – далей пачынаўся лес.

...Заходзіць у лес. Між хвояў мільгае белая майка. Знікла ля выгнутага хваёвага сука. Туды. Побач Алена з Віцькам. Твары сур'ёзныя, засяроджаныя.

...Ізноў паміж дрэваў мільгае майка. Не згубіць. Далей – да асіны са слядамі ласіных зубоў...

...Далей... Елка і побач мурашнік...

...Далей... Бяроза, уся парослая амялой...

...Далей...

Сунічная паляна. Франак лазіць на кукішках, збірае суніцы, адпраўляе ў рот. Садзіцца на спарахнелы пень. Пень развальваецца.

– Колькі часу мы ўжо лазім?

– Чатыры гадзіны... Дзядзька Алег, а вы што – экстрасэнс? – Голас Віцькі насцяроджаны і ў ім чуецца недавер. Алена ж наадварот –позірк, поўны надзеі.

– Які там экстрасэнс! Вось, бачыце – разламаны пень? Гэта Франак спрабаваў на яго прысесці, ды раздушыў. Зусім гнілы. А вось – сунічнік змяты, бачыце?

– ...Не-а...

– Вось... А я бачу. Гэта Франак суніцы збіраў. Так што, Віця, нічога звышнатуральнага. Проста... ну... – неблагі следапыт... (Зараз павінен спытаць пра “свастыкасану”. Што б яму адказаць?).

– А чаго вы садзіцёся быццам ёг?

– Гэта я так адпачываю. Павышаная канцэнтрацыя... Расход энергіі... Стамляюся хутка.

Зноў поўзае, збірае суніцы. Прыўзнімаецца, прыслухоўваецца. Спалоханы твар. Кідаецца да дуба на краі паляны. Падскоквае, спрабуе ўхапіцца за сук. Не дастае. Абдзіраючыся лезе па ствале, дацягваецца да сука, дрыгае нагамі, падцягваецца, залазіць. Вышэй. Яшчэ вышэй. Стойваецца сярод лістоты.

Хвіліна. Другая. На паляну выходзіць казуля. З рожкамі. Самец. Стрыжэ вушамі, выцягвае шыю, разявае рот. Зрываецца з месца, скачок-палёт над кустамі, знікае сярод ляснога падросту...

Паскорыў “карцінку”. Сонца хутка пакацілася за дрэвы. Хлопчык уладкаваўся на галіне, прыціснуўшыся спінай да стаўбура. Баіцца злазіць, казулю відавочна не бачыў.

Світанак. Франак спускаецца ніжэй, павагаўшыся, скача з ніжняга сука на зямлю. Няўдала, качаецца па зямлі, ухапіўшыся за нагу.

“Збіраў суніцы, а яго пачуў, а мо ўнюхаў самец казулі і рыкнуў. Зблізу крык казулі-самца даволі пагрозлівы. Хто ніколі не чуў, лёгка можа спалохацца.”

Плача. Размазвае слёзы па твары. Спрабуе ісці. Кульгаючы пакідае паляну.

Агледзеўся. Алену атакавала воблака камароў, і яна адмахвалася зялёнай галінкай. А Віцька, як толькі што “бачаны” Франак, поўзаў па сунічніку.

– Думаю, Франак ужо недалёка. Пайшлі... Вунь туды.

Ісці прыйшлося яшчэ хвілін сорак. Спачатку пачулі ціхае скавытанне, Алена кінулася ўперад, і на іглiцы пад высокай елкай знайшлі Франака. Сядзеў, прыхіліўшыся спінай да стаўбура, з распухлым ад камароў тварам, рукамі і нагамі. Убачыў маці і голасна заплакаў.

## 9

– А ведаеш, – сказала Ірэна, – той пыл у “нары”, у сцяне, сапраўды астаткі спарахнелага дрэва. Як ты здагадаўся? А я думала – галаснікі, “падслухоўваючыя прыстасаванні”.

– Прыйшла здагадка, і ўсё. Толькі навошта ў сцяну бервяно ўмуравалі – здагадацца не магу.

– Віцька пра цябе гісторыі распавядае, быццам ты экстрасэнс. Садзішся, ногі скручваеш і слухаеш унутраны голас. Кажа, кіламетраў пятнаццаць па лесе вёў, і на хлопчыка таго, што нагу падвіхнуў, вывеў. Надта яго ўразіў. Як ты гэта робіш? – Зялёныя вочы Ірэны пазіраюць уважліва, са стрыманай усмешкай.

– А вось так! – Алег гарэзліва ўзбег на самы верх вала і сеў ля праставкутніка са шпагату, нацягнутага на калочках – гэта Ірэна абазначыла межы будучага раскопу.

...Дым. Мітусяцца людзі. Бой. Пад валам пакладзены побач адно другому паўтары дзясяткі загінулых з накрытымі тварамі... Далей.

...Зусім побач – яма. Шырокая. Дно ўстаўлена дамавінамі. Брацкая магіла. Святар у брудных рызах. Невялікі натоўп са змрочнымі, заклапочанымі тварамі. Кідаюць жменямі зямлю...

Гарэзлівасць знікла як дым. Спусціўся з вала.

– Ірэна, цябе як археолага цікавяць старажытныя пахаванні?

– Я даследую замак. Гэта галоўнае. А пахаванні, калі трапляюцца выпадкова – толькі ў ступені, што датычна замка, як частка ягонай гісторыі. А што? Спадзяюся не думаеш, што археолагі – яны ж і рабаўнікі магілаў?

– Ды не, я так не думаю... Але ж з іншага боку хто, як не археолагі разрабавалі магілы егіпецкіх фараонаў, парушылі іх спакой? Даруй, што бяру на сябе смеласць даваць парады – знайдзі, калі ласка, для раскопа іншае месца. Там, дзе ты заклала – вялікая магіла. Пятнаццаць чалавек... Хай ляжаць, не трэба іх кранаць.

– Ты мяне палохаеш... Адкуль гэта можаш ведаць? Можа, сапраўды – экстрасэнс? Не веру ў экстрасэнсаў! – Недаверліва прамовіла Ірэна. Задумалася на хвіліну. – Добра! Так і быць. Перанясу ў іншае месца. Хачу рассекчы вал і даследваць яго стратыграфію, так што непрынцыпова, дзе гэта зрабіць. Тут намеціла, бо зямлю бліжэй адносіць. Згода...

...Мне пераказалі, што Сяргей Чысел тэлефанаваў, камандзір “Белага легіёна”... Ты знаёмы з Сяргеем?

– Знаёмы... Даўно. У Вільні на ўстаноўчым з’ездзе Беларускага Народнага Фронту пазнаёміліся. Ён там адзін з дваіх дэлегатаў-вайскоўцаў быў. Чаго тэлефанаваў? – Запытаўся Алег.

– Цікавіўся, як хлопцы сябе паводзяць, як працуюць, ці знайшлі што... Заўтра прыехаць збіраецца. Занепакоіўся, калі даведаўся, што міліцыя спіс запатрабавала. Баіцца за хлопцаў – каб на вучобе непрыемнасцяў не было. Для ўладаў лепш, калі моладзь співаецца, чым калі зямлю на раскопках цягае. Ды яшчэ задарма. О-о! Гэтага яны зразумець не могуць, гэта для іх прызнак небяспекі! – Голас Ірэны зазвінеў ад стрымліваемага абурэння.

– Дарэчы, калі не сакрэт, натуральна, – як Радзіма аддзячвае сваёй інтэлектуальнай эліце за яе працу? – Алег зрабіў пацешную грымасу.

– Не блытай Радзіму з дзяржавай. З Радзімай у мяне няма грашовых адносінаў, Радзіма – святое. А дзяржава так аддзячвае, што сакрэту няма, але казаць сорамна, – сур’ёзна адказала Ірэна, не прыняла лёгкі Алегаў тон. – Мне матуля ўсе вушы прадзяўбла – маўляў, што ты маеш ад Акадэміі, ідзі лепш у якую фірму перакладчыцай ангельскай, будзеш сапраўдныя грошы зарабляць. А я, каб нават за права археолагам працаваць плаціць прыйшлося, відаць, плаціла б! Знайшла б які “левы” заробак, і штодзень купляла білет за ўваход у будынак Інстытута Гісторыі. Або сюды, на раскопкі...

– Зайздрошчу табе!...

...Вярнуліся да раскопу пасля перапынку – кожныя дзве гадзіны Алег вадзіў “легіянераў” на пятнаццаць хвілінаў купацца ў Цічы – і пабачылі брутальнага выгляду “Джып”. Па замчышчу з зацікаўленым выглядам лазіў Сяргей Чысел з нейкім маладым мужчынам. Як задаволіліся ўзаемнымі роспытамі, хлопцы з неахвотаю працягнулі раскопкі. Сяргей прапанаваў Алегу прагуляцца. Прызначыўшы “незабыўнага Віцька” старшым, перайшлі пешаходны масток, селі на беразе. Унізе хуткая Ціч несла мутную ваду, відаць, у вярхоўі, на міншчыне прайшлі дажджы.

– Я бачу – Віцька тут у лідарах ходзіць? – Пачаў Сяргей. – Чаму менавіта яго ты зараз старшым прызначыў?

– Ён насамрэч лідар. Вясёлы, жвавы, разумны. Хлопцы яго паважаюць і слухаюцца. У большасці... Зноў жа – гісторык, умее гутарку з Ірэнай падтрымаць. Астатнія слухаюць з задавальненнем. Я – у тым ліку... – Адказаў Алег.

– А нічога падазронага за ім не заўважаў? – Панізіў голас Сяргей.

– Што канкрэтна? – Не зразумеў Алег. – Калі ты наконт якога зладзейства, то ў нас ні ў кога нічога не прападала...

– Не, я пра іншае... Як думаеш, адкуль я магу ведаць, што да вас начальнік міліцыі завітаў асабіста і спіс усёй групы зараз мае?

– Ты мяне інтрыгуеш... Ну, Ірэна па тэлефоне распавяла... Так?

– Не, з Ірэнай у мяне непасрэднай сувязі няма, я тут аднаму мясцоваму хлопцу тэлефаную, ён, калі што трэба, ёй перадае... Мне пра мянта свой чалавек з КГБ распавёў. А яму гэта вядома стала, не паверыш – Віцька даклаў. Ён тут за вамі ўсімі прыглядаць прыстаўлены. Дык я і пытаюся – Віцёк не знікае раптам на які час?

– Не заўважаў... – Прамармытаў уражаны Алег. – Ты мяркуеш, ён павінен адлучацца, каб звязацца з гаспадарамі? Ну, для гэтага выдзяліць якіх паўгадзіны тут лёгка. Я іх у краму адпускаю, на рэчку ходзім... Не ўсе ходзяць... Слухай! Ну стукае Віцёк, і хай стукае! Калі “канторы” зусім заняцца няма чым. Мы што – крымінальнікі якія? Тэрарысты? Мы дапамагаем раскрываць невядомыя старонкі беларускай гісторыі! А калі няма за намі нічога кепскага, то чаго баяцца? Хай хлопчык пагуляецца ў шпіёна!

– Яно то гэтак... – Голас Сяргея сцішыўся амаль да шэпту – Але не забывайся, што “Белы Легіён” я так і не здолеў зарэгістраваць, баяцца даць нам легальны статус. І за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі кожны можа вылецець з вучобы. Ты думаеш, мент сам прыдумаў наконт спісу? Не-а! Каб сам, то прыслаў бы якога бобіка, а тут бач – асабіста прыпёрся! Загад выконваў! Навошта гэб’ю спіс? Вельмі можа быць, што потым запатрабуюць павыганяць. І паламаюцца ў харошых хлопцаў лёсы...

– Дык я гэты спіс сам рабіў! – зарагатаў Алег. – Там ніводнай звесткі сапраўднай няма! Усё – ад балды! Праўда, і Віцькавы дадзеныя таксама... Здагадаюцца.

– Малойца! Машына гэтая цяжкая, пакуль дойдзе, што спіс фальшывы, нікога тут ужо не будзе. Адзінае, Віцька за час працы разведае пра таго-сяго. Трэ будзе гэты досвед добра запамятаць – выхоўваць легіянераў так, каб не шмат пра сябе распавядалі. – Сяргей уздыхнуў. – А можа Віцьку пад якой-небудзь прапановай выдаліць з групы? Добра... Я над гэтым падумаю... А цяпер у мяне да цябе прапанова... Хачу прасіць аб адной паслузе.

– Ну, кажы. – Зацікавіўся Алег. – Мяне з вучобы ўжо не выганяць, спазніліся.

– Асабліва не храбрыся, не з вучобы, дык з працы... – запярэчыў Сяргей. – Справа такая. Хачу цябе з групы забраць, з ёю той хлопец застанецца, што я прывёз. Адразу паведамляю, што заробак, як дамовіліся, ты за працу з групай атрымаеш цалкам. А за гэтае новае даручэнне – асобна. Ну як, спакусіў?

– Ты ж ведаеш, я не з-за грошай згадзіўся папрацаваць, – пакрыўдзіўся Алег. – Я хачу штосьці пасільна-карыснае для Беларусі і беларушчыны зрабіць! Калі здолею хоць да двух-трох гэтых хлопцаў павагу і любоў патрыятычную прышчапіць, то буду лічыць, што не дарэмна ў "камандзіроўку" з'ехаў.

– Справа такая. Некалькі звязаў "Белага Легіёну" на заробках у Расеі. Добрыя грошы зарабляюць, у нас, пры нашай "аканоміцы", столькі не зарабіць. Дзясятую частку арганізацыі ахвяруюць. Вось вы тут харчуецеся, пальчаткі баксёрскія, намёты, заробак твой – гэта ўсё адтуль. Толькі з'ехаць з таго Сібіра з грашыма зробленымі хлопцы не могуць, небяспечна. Там за імі расейскія мянты палююць, ды і бандыты таксама. Таму пасля вахты яны без грошай дадому едуць. А заробак гендырэктар-працадаўца, дарэчы, былы наш, з Гомельшчыны, павінен у Маскву прывезці. Раней я сам забіраў, а зараз атрымаў інфу, што гэб'ё гэтымі грашыма зацікавілася. І я не давязу, канфіскуюць. І будзе вельмі нядобра перад хлопцамі. А цябе ніхто ў "канторы" не ведае. Ды і з мянтом ты тут заеўся... А парода гэтая помслівая... То хачу цябе паслаць у Маскву. Вось такая прапанова. Згодзен?

– Гм... Дзякуй, што давяраеш... Сума вялікая? – Алег адчуў, як па спіне прайшоўся халадок, і недарэчна хіхікнуў – Не баішся, што я з тымі грашыма...?

– Як для каго... Тысячаў пяцьдзесят. Зялёнымі. Хопіць, каб стаць мішэнню. А баяцца, што скрадзеш – не! Сапраўды давяраю, можаш ганарыцца. – Прыплюшчаныя, падобныя на татарскія, вочы Сяргея бліснулі ўсмешкай. – Дык згодзен?

– Добра, з'езджу. Зараз і збірацца?

– Так. На зборы гадзіны хопіць? Праінструктуй свайго зменшчыка, прадстаў хлопцам. А наконт паездкі ў Маскву па дарозе ўсё распавяду. Ды там нічога складанага няма. Квіток да Масквы ўжо набыты, месца ў гатэлі забраніравана. Шыкоўны, між іншым, гатэль. "Масква". Дарагі, зараза, але наш пан дырэктар марку трымае, пантуе. Прыедзеш, паселішся і будзеш чакаць. Дні два-тры, дакладней ён не можа паведаміць. Калі што зменіцца, я табе патэлефаную ў нумар...

## 10

...У прастакутніку шыбы плаўна зрушыліся і паплылі вежы прывакзальнай плошчы. Алег адвярнуўся да вакна, употай перахрысціўся і ў думках прачытаў "Малітву падарожніка": "Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Божы, ахоўвай мяне падчас майго падарожжа, заўжды давай добрую параду і падтрымку, барані мяне ад усякае небяспекі, будзь праваднікам маім і спадарожнікам. Аддаю сябе пад Тваю ахову і пакорна прашу Цябе: давядзі мяне да мэты майго падарожжа. На Тваю дапамогу я спадзяюся, і ўвесь час вочы мае на Цябе будуць звернены". У купэ апрача Алега тлусты мужчына гадоў

пад сорак з кабетаю, відаць жонкай, і яшчэ адзін – чарнявы, гарбаносы, з вусікамі. "Ці то каўказец, ці то яўрэй. – падумаў Алег. – Хутчэй яўрэй, бо погляд пукатых вачэй спакойны, у каўказцаў больш дзёрзкі. У таўстуна "конскі хвост" на карку, так зараз модна сярод праваслаўных святароў. І кабета ягоная ў хустцы, мабыць, матухна. Хоць – не, матухне поп забараніў бы джынсы, для праваслаўных нагавіцы на жанчыне – грэх. Запхалі ў нішу, дзе матрацы захоўваюцца, тры вялізныя сумкі. У такіх "чаўнакі" тавары з Кітаю ды Турцыі прывозяць. Можа, гандляры?"

Алег дастаў з кейса кніжку, – паспеў на дарогу ў "Акадэмкнізе" набыць – пагартаў, злавіў нясмелы зацікаўлены погляд:

– О-о! Вы читаете Шолом Алейхема... – твар чарнявага выражаў гранічную павагу. – И как вам? Нравится?

– Ды я толькі пачаў. Глядзеў некалі тэлевізійны спектакль "Малочнік Тэўе", спектакль мне спадабаўся, вырашыў вось, так бы мовіць, першакрыніцу...

Наверсе заварочаўся тлусты. Звесіў з паліцы галаву.

– Я извиняюсь, что вмешиваюсь в вашу беседу. На правах священнослужителя, – я протоиерей ("Вось як я ўцэліў! – пахваліў сябе Алег. – А што матухна ў нагавіцах, то можа поп які мадэрновы..."), – считаю возможным посоветовать вам читать родных, русских авторов. Пушкина, Гоголя... А особенно – книгу книг, Библию. А этого, – ён з асуджэннем паказаў вачыма на том у Алегавых руках,– отложить. Смутные времена! – Поп уздыхнуў. – Книжные магазины завалены всяческой вредятиной, которую надо бы собрать в кучу и сжечь! Что делается! Мораль народа падает! Эти бесовские компьютеры, Интернет, телевизоры с развратными программами...

– Вы, ойча, памыляецеся. Рускія аўтары для мяне не родныя. Для мяне родныя – Караткевіч, Купала, Колас... Так што Пушкін з Гогалем у гэтым сэнсе раўназначныя Шолам Алейхему. А паліць кніжкі – ну гэта вы ўжо лішку загнулі, бацюшка!

– Но вы же православный человек! Я видел, как вы перекрестились перед отъездом поезда. Белорусы, украинцы – ответвления одного народа! Русского!

– Ага. Рускія, значыць, народ, а мы з украінцамі – нейкія "ответвления". Дзякуй, бацюшка! Але я не рускі і не праваслаўны, а беларус і грэка-каталік. Што не перашкаджае мне любіць творы згаданага вамі Гогаля. Магчыма, прачытаўшы, упадабаю яшчэ яўрэя, Шолам Алейхема.

– Это вы униат, что ли? – Уткнула тры грошыкі са сваёй паліцы пападдзя. Чарнявы яўрэй, сумеўшыся, зацiснуўся ў кут і ў гутарку не ўступаў. – Ужас!

– Што такога "ужаснага" вы бачыце ў грэка-каталіках? – Пакрыўдзіўся Алег. – Здаецца, не я прапаноўваў зараз паліць кнігі... Недзе гэта ўжо было. Скончылася для падпальшчыкаў кепска.

– Я не в прямом смысле... – Даў задні ход поп. Відаць, быў упэўнены, што знойдзе аднадумца, і крыху зніякавеў. Але працягваў. – Я к тому, что люди сейчас совсем не читают родную литературу. Сначала надо своё прочитать, а потом уже за разных там... Бабелей браться. Вот вы, например, знаете хотя бы настоящие фамилию-имя-отчество вашего Янки Купалы? А? – І не даючы Алегу сказаць, заспяшаўся. – Вижу, что не знаете... А фамилия его Луцкевич.

– Луцэвіч, а не Луцкевіч. – Паправіў Алег. – Іван Дамінікавіч Луцэвіч... Дык што такога жахлівага вы, матухна, убачылі ў грэка-каталіках? Бог адзіны, так, ойча? – Той кіўнуў згодна: маўляў, так, адзін. – Дык чаму вас палохае, што людзі славяць Яго не пад вашым дахам? Што, у вас, бацюшка, лепшы “прыёмаперадатчык” да Творцы, чым у вашага калегі з Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы?

– Вы Папу своего слишком любите... Больше, чем Господа... – Прамармытала кабета і адвярнулася.

– А ці ж кепска любіць свайго пастыра? Казаў жа святы Ян Залатавусны, што той, хто шануе пастыра свайго, той шануе Хрыста ў пастыры сваім, а хто крыўдзіць пастыра, той крыўдзіць Госпада... А наконт “болей” ці “меней” – якім метрам можна памераць любоў?

Поп на паліцы ўздыхнуў, крэкчучы злез і выйшаў з купэ. Вярнуўся хвілінаў праз пятнаццаць з моцным тытунёвым “выхлапам”. Забраўся назад і неўзабаве так магутна захроп, што заснуць Алегу амаль і не ўдалося...

...Як Сяргей і казаў, у гатэлі “Масква”, безгустоўнай будыніне, што задушыла сабою ўсю акаляючую прастору, для Алега быў забраніраваны двухпакаёвы апартамент нумар чатырыста чатырнаццаць, на чацвёртым паверсе. Агледзеўся. Прасторны пакой, два вакны, на сцяне маятнікавы механічны гадзіннік у драўляным корпусе. Злева ў куце сервант з посудам і столік з бліпчастым электрычным самаварам. Бліжэй да вокнаў вялікі стол і шэсць крэслаў з высокімі спінкамі. Кветкі на стале. Справа на тумбе тэлевізар. Насупраць два фатэлі. Уся мэбля шыкоўная, з цёмнага дрэва, відаць арэха, вытрымана ў адзіным стылі, упрыгожаная мастацкай разьбой. Расклаў рэчы, прыняў душ і нырнуў пад коўдру на шырокім ложку ў малым пакоі-спальні. Прачнуўся ад бомкання насценнага гадзінніка, калі ўжо было цёмна, а за шыбамі рознакаляровымі агнямі іскрыўся велізарны мегаполіс. Уключыў бра над галавою, паспрабаваў чытаць Алейхема, але засяродзіцца на чытанні не ўдалося. Выйшаў у вялікі пакой. Уключыў тэлевізар, папстрыкаў па каналах. З сумам адзначыў, што ноч, відаць, будзе бадзёрай і нэндзнай...

...Жанчына ў доўгай лёгкай сукенцы стаіць, адвярнуўшыся да вакна. Глядзіць праз шыбу і водзіць па шкле пальцам. Пачырванелае сонца апускаецца ў хмару за пыхлівым, брудным горадам з апусцелымі вуліцамі, перагароджанымі “вожыкамі Горыкера”. Адсунуўшыся ад стала сядзіць у крэсле, закінуўшы нагу на нагу, немалады ўжо, але яшчэ вабны мужчына. Хударлявы, з высокім адкрытым ілбом, які перасякаюць некалькі неглыбокіх зморшчын, цёмнымі валасамі, невялікімі дагледжанымі вусамі і запалымі сумнымі вачыма. Мудрымі-мудрымі. Быццам увесь сум і ўся мудрасць свету глядзяць з гэтых вачэй.

Падымаецца з крэсла, падыходзіць да жанчыны, пяшчотна бярэ за плечы, паварочвае да сябе. Нешта доўга гаворыць. Цалуе руку. Праводзіць да дзвярэй. Пайшла. Зноў сядае ў крэсла. Доўга аб нечым думае. Уздрыгвае, паварочваецца да дзвярэй. Уваходзіць мужчына ў шэрым касцюме. Размаўляюць. Сышоў.

Алег расплюшчыў вочы і страсянуў галавою. Такі знаёмы твар! Дзе ён мог яго бачыць? Дзе? Дзе? Хадзіў па пакоі і спрабаваў успомніць, ад напругі ажно забалела галава. Хто? Дзе? Чаму тут, у месцы, дзе ніколі дагэтуль не быў, такі знаёмы твар?

І раптам як стрэл – здагадка! “Не, не можа быць... Ці – можа?”

Выпрастаная спіна, сухі твар з вусікамі... Лоб... Вочы... Нос...

Ён! Янка Купала! Не-ве-ра-год-на! У гэтым нумары спыняўся Янка Купала!

Падышоў да гардэробнай шафы, дастаў капялюш. Аб нечым задумаўся, усміхнуўся сам сабе, махнуў рукой. Паклаў капялюш на ранейшае месца. Выйшаў з апартамента.

Пахапліва, быццам баючыся не дагнаць, уздзёр на сябе спартыўны касцюм, выйшаў "следам", зачыніў дзверы на ключ, агледзеўся. Калідор, пляцоўка, мармуровая лесвіца былі пустыя. Гатэль спаў у гэты позні час. Проста на падлогу, у "свастыкасану". Маніпуляцыя пальцамі.

Павольна падымаецца па лесвіцы на пяты паверх. Даланёй пахлопвае па парэнчах. Схаваўся за чарговым пралётам...

Падняўся на паверх вышэй. "Свастыкасана."

...Прайшоў шосты, падымаецца вышэй...

...Сёмы...

...Дзявяты...

...Дзясяты... Спыніўся, трымаецца за парэнчу, аддыхваецца.

– Вам плохо? Может врача? – Расплюшчыў вочы, побач кабета ва ўніформе, абслуга гатэля. Устрывожана ўглядаецца. Натуральна ўстрывожышся – сядзіць на пляцоўцы хлопец, вочы закаціў, ногі вузлом сплёў і пальцамі пстрыкае...

– Не-не! Дзякуй, усё добра. Хатха-ёга, а ў нумары душнавата, то я сюды... Нічога не трэба! – Па-беларуску, забыўшыся, спяшаецца супакоіць Алег.

– Говорите по-русски... Ничерта же непонятно!...

– Простите. Я говорю – всё в порядке, спасибо... Физкультура...

Усміхнулася недаверліва, але пайшла.

Далей. Што там далей?

...Пастаяў, аддыхаўся. Стукаецца ў дзверы нумар 1034, уваходзіць...

Маніпуляцыя пальцамі... Заскакалі "кадры".

Дзверы пакоя 1034 адчыняюцца, выходзіць Іван Дамінікавіч, азіраецца. У белым карункавым фартучку і гэткай жа наколцы на валасах маладая кабета, відаць, афіцыянтка, накіроўваецца на адзінаццаты паверх. Купала нешта ёй кажа, яна ўсміхаецца, варушацца вусны, адказвае.

Мужчына, той, шэры, які заходзіў у 414-ты. Падымаецца знізу. Аб нечым гутараць. Твар Купалы пахмурнее. Зверху, з адзінаццатага, спускаецца яшчэ мужчына, безаблічны, таксама ў шэрым. Крадком падыходзіць ззаду да Купалы і раптам абхоплівае яго за шыю, валіць назад. Першы б'е Купалу ў твар, потым хапае абмяклае цела за ногі, і яны ўдвох цягнуць яго да парапету. Купала прыходзіць да прытомнасці, б'ецца ў іх руках, спрабуе ўдарыць нагамі ў жывот нядаўняму суразмоўцу. З нагі паэта злятае чаравік, адскочыўшы ад ног нападнікаў, адлятае на пляцоўку паміж паверхамі. Яшчэ два ўдары ў твар, і шэрыя перавальваюць Купалу праз парапет, у пралёт. Мільгае ягоная разбутая нага ў цёмна-сіняй шкарпэтцы. Мітусліва бягуць уверх па лесвіцы. Насустрач спускаецца афіцыянтка ў фартушку. Расчыняюцца дзверы 1034, вывальваецца некалькі чалавек. Афіцыянтка імгненна разварочваецца, узбягае следам за шэрымі...

...– Эй, уважаемый! Гражданин! – Міліцыя, трое, лейтэнант і два малодшыя сяржанты. Відаць, тая, ва ўніформе паведаміла. – Документы, будьте любезны!

– Документы?... – Алег не можа адысці ад толькі што ўбачанай жахлівай “карцінкі”. – Какие документы? А! Мои документы?

– Да-да. Ваши паспорт или другое удостоверение личности...

Захацелася спытацца пра іхнія, але толькі што бачанае спыніла. Халера яго ведае – ноч, сведкаў няма, зараз схопяць за рукі-ногі, і туды ж, у праём...

– Мои документы в номере... В четыреста четырнадцатом...

– А позвольте полюбопытсвовать – зачем это вы тут расселись на площадке десятого?

– Да так... Долго объяснять...

– Вы уж потрудитесь объяснить...

– Ну... Не спалось... Вышел, походил по лестницам, чтобы устать немного, а здесь почувствовал головокружение и присел расслабиться... – Фантазіруе Алег, імкнучыся быць як мага больш пераканаўчым. Не хапае толькі трапіць у пастарунак! “Не шанцуе мне з мянтамі... – Думае Алег. – Асабліва як зазіраю ў мінулае...”

...З дырэктарам так і не сустрэўся. Як шпіёны, далібог! Былы зямляк патэлефанаваў у нумар, прадставіўся Толікам і назваў дзве лічбы. Сяргей папярэджваў, што можа быць гэткі варыянт. Паехаў на Курскі вакзал, першая лічба – нумар ячэйкі камеры захоўвання, другая – шыфр. Забраў там пластыкавую торбу з тугім пачкам, загорнутым у газету “Красный Север”. Вярнуўся ў гатэль, пераклаў пяць брыкетаў “баксаў” у адмысловы пояс, надзеў пад кашулю на голае цела. Паглядзеў на сябе ў люстэрка. Не бачна. Сабраў рэчы і пакінуў “Белакаменную”. Усю дарогу да Мінску ўваччу стаяў эпізод, як Песняра перакідваюць праз парапет. Спінай у праём. Чаравік на пляцоўцы паміж паверхамі, кроў на парэнчы...

## 11

– Сяргей, што ведаеш пра смерць Янкі Купалы? Я са школьнай праграмы памятаю: 1882 – 1944. А пацікавіцца дакладней неяк не здагадаўся ніколі, – пытае Алег. “Зялёныя” аддаў, пра ход “аперацыі” прыёма-перадачы распавёў.

– Няправільна памятаеш. У сорак другім загінуў. Дакладна. Цёмная нейкая справа... Кажуць – ці то самагубца, у пралёт лесвічны скокнуў, ці то п’яны ўпаў... А мо гэб’ё скінула, невядома. Здаецца, нават, у тым гатэлі, дзе ты зараз быў, у “Маскве”. А што?

– Ды так, нічога. З папом ехалі ў купэ, заспрачаліся наконт Купалы... Нічога...

– Алежык, у мяне да цябе яшчэ адна просьбачка, апошняя гэтым годам. Дакладней – крайняя, – папраўляецца Сяргей. – Мы ў “Белым Легіёне” штогод ладзім закрыццё летняга лагернага сезону. Хлопцы, каторыя адбылі летнік, здаюць на “сталёвыя берэты”. Спачатку марш трыццаць кіламетраў па перасечанай мясцовасці, потым сілавыя практыкаванні і ў канцы – бой з дзесяццю кваліфікаванымі тай-баксёрамі, майстрамі спорту. З кожным па адной хвіліне. Хто не зламаецца да самага канца, вытрымае – атрымоўвае “сталёвы берэт”. Дык вось я падумаў, што ў тваіх мясцінах вельмі мясцовасць падыходзіць для гэтых выпрабаванняў. Балоты, рэкі, гушчары... Хачу, каб ты падрыхтаваў “трасу” для марша, спачатку на карце, потым на мясцовасці зрабіў кантрольныя кропкі. І месца для баёў. Рысталішча,

так бы мовіць... Праца гэтая, натуральна, як і ўсе астатнія – ганарарная! Зробіш? – Сяргей пранікнёна заглядае Алегу ў вочы.

– Ёсць харошая мясціна для "рысталішча"... На беразе ракі, чысцюткай, як сляза цнатліўкі, – кажа Алег. – І ад ганарару я адмаўляюся. Замест ганарару трэба, каб ты з хлопцамі прывёз туды мяхі чатыры цэменту, пясок, каменне ці цэглу, можна бітую. Прычэпа да легкавушкі хопіць... І каб хлопцы гадзіны чатыры-пяць папрацавалі. Там у аднаго дрэва, майго сябра, карыес. Вылечыць хачу...

* * *

...Чырвонае сонца падымалася над хмызамі, над абалонай ракі, завешанай вэлюмам ранішняга туману. Легкавік нетаропка рухаўся сярод росных траваў па каляіне, вытаптанай сялянскімі вазамі.

– Дарогу паказвай, не зблудзі... Тут налева ці направа? – пытае Міхась, напружана выглядаючы шлях перад машынай.

– Налева... Калі ты навучышся дарогу запамінаць? – Нязлосна бурчыць Алег.

– Глянь! Стаіць той дуб! Я думала ўпадзе! – Вішчыць ззаду Чэ. – Спыніся, Мішка!

– Ён яшчэ тысячу гадоў прастаіць, – задаволена кажа Алег. – Бачыце, якую пломбу легіянеры паставілі? Бетонную! Яму зараз аніякая бура не страшная. – Падае руку заўважна патаўсцелай у таліі Настассі: – Асцярожненька, Настачка, не забывайся аб сваім "цікавым стане".

Над наваколлем раскінуў зялёнае воблака лістоты, аточанае трывожна задранымі сухімі галінамі, таўшчэразны дуб. Нібыта плыве. У стагоддзі.

Віка Трэнас



...ты носіш у сэрцы чужыя смерці
а марыш несці жыццё пад сэрцам...

# Голас крыві

## *ВІЖЫ*

ты думаеш – зласліўцы і віжы
ў якіх няма ні лёсу, ні віроў сваіх, ні гнёздаў
прыйшлі ў спадзеве выжыць
рэжуць слых
бы чэргі аўтаматныя, радкі чужых прагнозаў

ты думаеш – схавацца ці ўцячы
або замоўкнуць – ды захрасла ў горле горыч
для вусцішы пакуль няма прычын
хай сціхне боль
прагорклы голас твой не зрушыць горы

не торгайся – крычаць не давядзецца
бо куля навылёт прашые сэрца

* * *

мы не біліся галавой аб мур
не імкнуліся яго абысці
быць замкнёным ва ўласнай сутнасці
значна лепей, бо выйсце ўнутры, таму

час спыніцца, каб карані пусціць
у прамерзлую глебу пад мурам
час адно ў аднаго пусціць карані
і яны гэты мур разбураць

* * *

Не вер таму, хто хоча пасадзіць цябе на ланцуг
І даць табе костку свабоды ўпоперак горла.
Бо ты не згодны, ты бачыш таго,
хто можа цябе пачуць.
Ты маеш годнасць, ты маеш голас.

## *ДАРОГА Ў АПРАМЕТНУЮ*

гэта ён – час раскіданых гнёздаў
зазірае мне ў вочы па-воўчы
і пытае ці смачная кава
на шляху Гродна – Вільня – Варшава
так – у горле камяк, а на дне філіжанкі – туга

гэта я – па шляхах як па лёзах
з асцярогай дзялю дні і ночы
каб было нам пароўну
ліўняў, сонца і поўні
каб адна на дваіх – смуга

гэта ён – важна важка сур'ёзна
і з прарочага шляху не збочыць
плойма лоўчых у словаў
процьма пастак для нотаў
калі ў словах і нотах – пяшчота

гэта я – разлітыя слёзы
па кілішках у тых, хто сочыць
за свабодай і пестуе жах
ці не мы на іхніх шляхах
каб халодным абліцца потам
каб пачысціць зброю – на потым

покуль вернуцца птушкі гаротныя
Варшава. Вільня. Гародня

### ТВАЯ ЖАНОЦКАСЦЬ

ты носіш у сэрцы чужыя смерці
а марыш несці жыццё пад сэрцам
змяніць у сусвеце сістэму мер ці
магчыма? Таму ты рыбіна ў сетцы

таму ты за злом назіраеш моўчкі
на злом галавы таму рызыкуеш
насуперак розніцы ўмоваў ды моў
імя яго пестуеш на языку

* * *

Ты кажаш: змагайся! Трымае мяне за руку
Пяшчота маланак і здушаны шэпт навальніц.
Усмешкаю ветлай, няхай мы заціснуты ў кут,
Збалелае сэрца крані.

Няхай не сабраць раскіданых для нас камянёў –
Маўчы, мой анёл.
Калі каралі без каронаў, а дрэвы без каранёў –
Цярпі, мой анёл.

* * *

Называй ты гэта як хочаш.
Цяжкая туга ці чуйная роспач,
чуццё, пачуццё ці голас крыві,
бо прыйдзе само – заві не заві.

Ісці за ім след у след – галоўнае,
бо калі завіруха ў галовах – не
ўратавацца – хіба што спёкай у сэрцы,
пясчынкай у пустцы ці птушкай у клетцы,
хоць і смага ад зноў не прамоўленых слоў.
У сутве не хапае ні сноў, ні слёз,
а стае толькі –
рэха ад слоў,
прорваў ад сноў,
солі ад слёз.
Ды не знаеш: ці ў вырай вярнуцца,
ці з віра напіцца,
ці жвірам засыпацца.

Перабіраеш горы драбніцаў.
Гора драбніцца.

Алесь Паплаўскі



...можна зрабіць крок уніз і застацца
ў гэтым горадзе мараў, а можна рушыць
у цемру і згубіцца ў маўклівай
непрадказальнай невядомасці...

# Lapido

***Аповесць***

## 1

Акуляры ў яго – кананічнае пенснэ. Такія рэдка цяпер хто носіць. Павядзе галавой, і сонца за сабой у шкельцах цягне. Зазірнеш незнарок у бліскучую люстраную бездань, а там нічога – нямая безжыццёвая прастора, ні літасці, ні спагады. Тут не тое, што да душы яго не дастукацца, тут хоць бы самому жывым ды здаровым з яміны той выбрацца. Нешта гіпнатычнае, запраграмаванае на знявагу і гвалт, тоіцца ў яго пранізлівым халодным позірку. Адным словам, слізкі і непрыемны тып. Лысы, выродлівы. Аматар прымераць на сябе справядлівасць Бога. Такія, як я, для яго – смецце. Маленькія вочкі за тонкаю абалонкаю шкла, толькі пасмейваюцца: "Усё, што мне трэба пра цябе ведаць, я ведаю, проста чакаю, калі ты сам гэта мне раскажаш..." Зрэшты, і яго можна зразумець. Калі жыццё – натуральны адбор, то праўда на ягоным баку. І я не зусім упэўнены, што ў свеце існуюць

словы, з дапамогай якіх можна вымаліць для сябе літасць і спагаду ў гэтага чалавека.

Хутка міне месяц, як цягнецца справа. І ўвесь гэты час ён размаўляе са мной на мове намёкаў, дабівае мяне, ломіць праз калена. Іншы раз мне здаецца, што не вытрымаю, дам задні ход, прызнаюся ў тым, чаго не рабіў ніколі. На гэта ён, відаць, і разлічвае.

– Гэта ты?.. – пачынае ён як заўжды здалёк. Робіць глыбокі ўдых і рэзка абрывае сказ. Словы павісаюць у паветры. Словы-сцвярджэнні?.. Словы-пытанні?.. Паспрабуй здагадайся, што ён хоча гэтым сказаць. Адчуваю, як пад кашуляй па целе бягуць дрыжыкі. Асоба ў акулярах нервова пагойдваецца ў крэсле – цягае за сабой у шкельцах палахлівае жнівеньскае сонца – і нешта запісвае ў нататнік. Першае, што прыходзіць у галаву ў такія хвіліны, гэта ўстаць і, не развітваючыся, сысці прэч. Хоць куды, абы толькі не патураць гэтаму вар'яцтву.

– Гэта ты? – паўтарае ён пакепліва праз хвіліну. З заўважным націскам, быццам бы хоча паведаміць нейкую важную навіну. І зноў паўза. І зноў невыноснае працяглае маўчанне. І зноў словы – намёк на тое, што ў кожнай бяссэнсіцы ёсць свой, вядомы толькі яму аднаму, сэнс. Акно адчынена. Лёгкі ветрык цярэбіць паркалёвыя фіранкі. За імі аблезлы карніз суседняга дома і неабдымнае, пазбаўленае летняй свежасці, неба. А яшчэ сонца – бляклае, выліялае ад нядаўніх зацяжных дажджоў. Дрэвы гнуцца і трывожна шапацяць лістотай. Узіраюся ў мутную заваконную шэрасць і імкнуся ігнараваць непрыемнага мне чалавека. Заглыбляюся ў думкі – нешта сваё, сарамлівае і ганебнае. Акунаюся з галавой, нібыта ў цёплы басейн. Як доўга ўсё цягнецца! Глядзіш і нічога не бачыш. Слухаеш і нічога не разумееш. І ніякіх пачуццяў, і ніякага ўяўлення, нічога, акрамя толькі пустэчы. Зборышча хлуслівых супярэчнасцяў ды хаатычнае наслаенне дэкарацый, дзе вечна што-небудзь здараецца, дзе ніколі не ведаеш, што ёсць сапраўднасцю, а што выдумкай, дзе ніколі і ні ў чым не ўпэўнены: ты гэта ці толькі рэха нечага выпадковага ўспаміну, скупы адгалосак людскога болю, прадчуванне таго, чаго не было ды й ніколі не будзе. Але як разабрацца, як зразумець тое, чаго зразумець нельга? Найвялікшая драма жыцця – жыць і не ведаць, дзеля чаго жывеш... Але навошта мне ўсё гэта знаць? Ёсць рэчы, непадуладныя разуменню. На іх нельга зацыклівацца. Пра іх дастаткова памятаць. Заўжды. Лёс! Смерць! Хіба гэта ўсё залежыць ад нашых жаданняў? Кожная рэч мае сваё прызначэнне, свой адзіны, спецыфічны пах, і адчуць яго могуць абраныя, на мяжы свядомасці, калі рвецца апошняя повязь з гэтым светам. Астатняе ўсё – прытворства, ілюзія, заблытанасць жаданняў, імкненне да выратавальных міфічных зменаў...

– Гэта ты?.. – прасочваецца аднекуль здалёк фальшывы, дакучлівы голас. "Так, гэта я! – лемантуе ад бяссілля мая сутнасць. – Дакладней, тое, што ад мяне засталося. І я бачу цябе наскрозь. Праз сваю слепату. Але гэта не значыць, што я лепшы за цябе. Проста я іншы, не такі, як ты. І мне непатрэбна твая спагада, тым больш шкадаванне. Не абражай мяне імі! Каму, як не табе ведаць, што апошняе слова ў гэтай гульні не за мной, што не бывае ніякага "заўтра". Бо хіба можа быць тое, да чаго ты не належыш, да чаго не датычны, у чым не бярэш удзел? Ненавіджу гэтае тваё спакуслівае, шматабяцальнае "заўтра"! Я гіну! Я паміраю! А той, што стаіць на краі бездані, мэтаю якога ёсць ратаваць такіх, як я, абыякава пазірае паўз мяне і робіць выгляд, што нічога не адбываецца.

– Гэта ты павінен быў памерці! – беспадстаўна пужае ён мяне. – Гавару табе не як следчы... Ты доўга блукаў па жыцці і табе самы час адпачыць... На турэмных нарах...

Чалавек за сталом зноў пачынае нешта запісваць. Чалавек за сталом – суцэльны камячок нерваў. У пакоі пахне вільгаццю і пылам. А яшчэ хлуснёй. Адчуванне трывогі і адчаю. Неймавернае жаданне жыць і абсалютная бесперспектыўнасць яго. За вакном звыклае вулічнае жыццё. За вакном стары брудны свет.

– Ты не той, кім прыкідваешся. Думаеш, я не ведаю, хто ты? Я вылічыў цябе!

Яго голас вымушае мяне ўздрыгнуць. Асоба ў пенснэ пільна вывучае кожны мой рух. Так і павінна быць. Я – аб'ект яго даследванняў.

– І хто ж я па-вашаму?

На яго пухкіх пачварных вуснах блукае непрыкметная здзеклівая ўсмешка.

– Ты? – затрымлівае ён на хвілінку дыханне. Чутна, як нешта хрыпіць у яго горле.

– Чакайце! – спыняю я яго, баючыся атрымаць чарговую порцыю хлусні. – Я сам скажу, хто я... Я – чалавек, абдзелены лёсам. І са мною можна абыходзіцца несправядліва...

Мае словы – апошняя кропка ў гэтай вар'яцкай псіхалагічнай гульні. Мой голас – завяршальныя ноткі ў ананімным музычным творы – араторыі жыцця і смерці. Але навошта мне ўсё гэта ведаць? Жаданне праваліцца скрозь зямлю. Упасці туды, адкуль няма вяртання. Верагодна, так расчышчае сабе дарогу жыццё, выціскаючы на збочыну непатрэбных і лішніх...

## 2

Я не збіраўся будзіць памерлых. Я хацеў толькі паглядзець уніз. Недзе там пад нагамі, за высокай драцяной сеткай, ляжаў незнаёмы мне горад. Адзін з самых прыгожых у Еўропе. Горад Кафкі і Гашэка. Мой горад. Я падышоў ушчыльную да парэнчын і дакрануўся дрыготкай рукой да халоднага жалеза. Тое, што адкрылася маім вачам, агаломшыла мяне. Усяго ў некалькіх сантыметрах ад майго цела ляжала ружовая маўклівая бездань. Побач паўзло жыццё, гэтак жа нячутна, як і мая неспазнанасць. Страх і прыгажосць змешваліся ў нешта адзінае, суцэльнае. Я глядзеў на падобныя да замкаў будынкі з чырвонымі чарапічнымі дахамі і адчуваў сябе растаптаным. Ранак фарбаваў неба памаранчавымі фарбамі. Прыгажосць уражвала і прыцягвала. Страх прыгнятаў і адштурхоўваў. Плынь эмоцый несла мяне па хвалях зруйнавальнай пагардлівай журботнасці, і я адчуваў, што гіну ў гэтай вірлівай бездані ўражлівасці. На балконе ў доме насупраць чарнела чалавечая постаць. Верагодна, гэта быў мужчына. Чалавек, з якім я ніколі больш не сустрэнуся, махаў мне рукой, і я адказваў яму тымі ж бессэнсоўнымі хаатычнымі рухамі. Час губляў сэнс. Усё губляла сэнс. Я дыхаў пахамі вечнасці, крыху саладжавымі, з прысмакам затхлай цвілі і задыхаўся ад хвалявання. "Гэтыя вуліцы забрукаваныя людскімі касцьмі!" – пульсавала крывёю ў скронях несупынная, надакучлівая думка. І сапраўды, тут, як ні ў якім іншым месцы, я адчуваў усю нікчэмнасць свайго быцця. Варта было толькі пералезці праз парэнчы, і ты – шэры контур на бруднай асфальтавай сцяжынцы, адзін з тых шматлікіх, чый адчайны крык назаўжды застыг у

гэтым паветры. Жахлівае і дэпрэсіўнае месца! Нездарма сюды едуць з усіх канцоў свету тыя, хто хоча звесці рахункі з жыццём. Не верыцца, але я стаяў на самым высокім у Чэхіі Нусельскім мосце. Рэлігійныя фанатыкі, банкроты-бізнэсмены, няўдачнікі-артысты, прычым не толькі чэхі, але і шведы, рускія, амерыканцы знайшлі тут апошні прытулак, сумна ўславіўшы гэты мост, зрабіўшы культавым, сусветна вядомым месцам самазабойцаў. Паблізу, за плячыма, па шасціпалосным аўтабане несліся ў невядомасць аўтамабілі. У ніжнім тунэлі грукатала коламі нябачнае метро. А на маім кішэнным гадзінніку стрэлкі набліжаліся да шасці гадзін раніцы. Я глядзеў на ранішнюю Прагу і не збіраўся канчаць жыццё самагубствам. Мне сігналілі і гукалі. Верагодна, прымалі за вар'ята. Але мяне гэта мала турбавала. Людзі былі ўсё тыя ж. І я ігнараваў іх наўмысна. Думкі аддалялі ад сапраўднасці. Я стаяў на краі жыцця і захапляўся сабой, сваімі нікчэмнасцю і недасканаласцю. Я ненавідзеў мінулае і баяўся будучыні. Мне хацелася застыгнуць у бясчассі, ператварыцца ў бронзавую статую, стаць адной з апораў гэтай жахлівай гіганцкай пабудовы. Цяпер я дакладна ведаў, што прыгажосць – гэта страх і расчараванне, а шчасце – паўза паміж адным няшчасцем і другім. Відавочна гэтыя ж думкі наведвалі і тых, незнаёмых мне людзей, якія збіраліся тут скончыць жыццё самагубствам. Я быў падобны да іх. Я глядзеў на горад "ста званіц" і не ведаў, што з гэтым рабіць. Мяне, як і тых добраахвотных пакутнікаў, вабіла неспазнанасць смерці. Хаця, калі шчыра, ехаў я сюды не па гэта. Я ехаў па прыгажосць і волю. Я ўцякаў ад абсурду, бязглудства і маразмаў маёй краіны, дзе ўсё было не як у людзей. Я шукаў паратунку ў Еўропе, не здагадваючыся, што, імкнучыся здабыць свабоду, сутыкаюся з такімі ж як сам дылетантамі. Але я не жадаў ведаць, што яны робяць тыя ж самыя памкненні, а таму іх свабода абмяжоўвае маю. Я быў чалавекам з дэфектам і, у адрозненне ад пераважнай большасці, меў талент не глядзець праўдзе ў вочы. Ніхто не застрахаваны ад зневажальнага самаразбурэння! У гэтым я быў цвёрда перакананы. А яшчэ ў тым, што ніхто не здольны выратаваць нас ад саміх сябе. Бо ў кожнага з нас свой вывіх. У маёй кішэні ляжала прыблізна каля двухсот даляраў, на якія я не мог шыкаваць у Празе. Але гэта і не ўваходзіла ў мае бліжэйшыя планы. Я хацеў толькі зірнуць на Вялікі Горад і наведаць магілу Кафкі. Гэта была даўняя мая мара, і яна, нягледзячы ні на што, павінна была некалі здзейсніцца. Дабіраўся я сюды аўтаспынам. І толькі мая настырнасць ды авантурны характар дапамаглі здзейсніць немагчымае. Зарабіць на звычайную турыстычную пуцёўку для такіх бедакоў, як я, у маёй краіне было нечым нерэальным і недасяжным. Я не належаў да кагорты разбэшчанай раскошаю моладзі, не быў сынком заможных бацькоў з касты высокапастаўленых чыноўнікаў, не меў свайго ўласнага офісу і не рабіў грошы з паветра. Мая вышэйшая адукацыя была цяжарам для дзяржавы. Я шмат што ведаў і шмат у чым разбіраўся, а такіх, безумоўна, было за што ненавідзець. Не патрэбнай была мая адукацыя і дзяржаўным установам, якія паступова ператварыліся ў сямейныя кланы, і, каб уладкавацца на больш-менш прыстойную працу з прымальным заробкам, неабходна было шмат яшчэ папацець. Я не ўпісваўся ў гэтае сямейнае кола. Я не ведаў, каму і колькі, а галоўнае – за што, даваць хабару. Калі шчыра, працаваць на лянівых, неадукаваных "пазванковых", я таксама не збіраўся. Усё, што мне засталося, гэта прымкнуць да маўклівай большасці суайчыннікаў і займацца тым, чым займацца без агіды і прыкрасці было немагчыма. Дзяржава заўжды "дбала" пра такіх, як я, і, каб мы маглі звесці

канцы з канцамі, прапаноўвала нам кабальныя крэдыты. Ад безвыходнасці большасць з нас заглынала гэтыя гачкі з “танным сырам” – хацелася ўсяго і адразу – але мінаў час, і нашае расчараванне не ведала межаў. Нас падманвалі, з нас рабілі дурняў. Як выяўлялася, усё мела кошт, нават магчымасць патрапіць у кіпцюры да сістэмы. Я нарадзіўся і жыў у самай чыстай і добраўпарадкаванай краіне. І пра гэты, бяспрэчна station… станоўчы факт, штодня нам талдычыла афіцыйная прапаганда. “Вы самыя талерантныя і добразычлівыя ў свеце людзі!” – запэўнівалі нас з манітораў тэлевізараў масцітыя ідэолагі. Мне ж здавалася, што мы глуханямыя, бяззубыя і бязвольныя. Я ненавідзеў слова “талерантны” як паняцце. Яно, на мой погляд, было сумніўным і неадпаведным таму сэнсу, які павінна было несці. Мяне абыходзілі бокам, прыпісвалі нелюбоў да радзімы, называлі апазіцыянерам... Што, па перакананні большасці, было адно і тое ж. Нянавісць у маёй краіне стала сродкам выжывання. У кожнага з нас былі свае прэтэнзіі адзін да аднаго. Улада ненавідзела апазіцыянераў за тое, што яны апазіцыянеры. Мае сябры ненавідзелі мянтоў за тое, што яны мянты. Нехта з суседзяў ненавідзеў гандляроў за тое, што яны гандляры. Я ненавідзеў людзей у гальштуках. У кожным з іх я бачыў патэнцыйнага злодзея. Я быў цвёрда перакананы, што не сістэма, а людзі ў гальштуках рабавалі маіх бацькоў, а цяпер рабуюць і мяне. Мне здавалася, што менавіта ад гэтых асоб залежыць будучыня маёй краіны. Лёс жа яе быў незайздросны. І я не мог дараваць ім гэтага. Калі шчыра, асаблівых прычын для нянавісці і не трэба было. Усе ненавідзелі адзін аднаго за нешта. Спытай за што канкрэтна, і наўрад ці хто з нас адазваў бы на гэтае рытарычнае пытанне. Нянавісць стала адною з прояваў генацыду майго народа. Але ніхто не жадаў пра гэта ведаць, тым больш – зацыкліваціца і разбірацца ў гэтым. Нас кармілі хлуснёй. І хлусіць стала зусім не сорамна, гэтак жа, як і дзяўчынкам-падлеткам агаляць сваё цела, дэманструючы мінакам майткі. Адно і другое стала паняццем сэксуальным. Дзяржава гвалціла нас, а мы задаволена ўсміхаліся. Мы падмянялі паняцці. Выдавалі жаданае за сапраўднае. “Абы толькі не было вайны!” – шапялявілі ля бажніц бяззубыя рты нашых старэнькіх бабулек. І мы паўтаралі за імі тое ж самае, як праклён: “Абы толькі не было вайны!” Не ведаю, што прывяло мяне ў гэтае сумна вядомае ў свеце месца, у раён, які дасюль усё яшчэ лічыўся бедным, які, як і раней, насялялі цыганы, злачынцы і прастытуткі. Да цэнтра было блізютка. Адразу за мастом пачыналася вуліца Легерава, якая выводзіла ў самае сэрца Прагі – да Вацлаўскай плошчы. Але я чамусьці стаяў тут, на Нусельскім мосце і мне хацелася перажыць тое, што перажылі некалі такія ж як я бедакі-няўдачнікі,чаго я ніколі не змог бы перажыць у нейкім іншым месцы.

Нехта штурхнуў мяне далікатна ў плячо. Я пахіснуўся і наваліўся ўсім целам на сетку. Тыя ж моцныя рукі імгненна, адным рыўком, адарвалі мяне ад яе і вярнулі ў ранейшае становішча. Усё адбылося настолькі хутка, што я не паспеў нават войкнуць. Пачуўся гучны вар’яцкі рогат.

– А-а-а!.. Баішся!?

Я азірнуўся і акінуў “жартаўніка” абыякавым позіркам. Аднаму Богу было вядома, якіх высілак гэта ўсё каштавала мне.

– Ні ў якім разе, – прамармытаў я, з цяжкасцю захоўваючы тактоўнасць. Здзівіла чыстае, амаль без акцэнту, вымаўленне незнаёмца. “Скуль ён ведае рускую мову?” – падумаў я, але пытацца пра тое не стаў. Нейкае шостае пачуццё падказвала мне, што незнаёмец – замежнік. Хаця, у маім

становішчы гэта паняцце было цалкам адноснае і некарэктнае. У любым выпадку, замежнікам у гэтай краіне быў я.

– Скуль вы ўзялі, што я рускі? – пацікавіўся я праз хвілінку па-ангельску. Пытанне прагучала неахайна, з заўважным рускім акцэнтам і мне стала няёмка за свае недасканалыя веды вялікай мовы. Мужчына перастаў усміхацца.

– У вас яскрава выражаны славянскі тып знешнасці, – адказаў ён заікаючыся. І я зразумеў, што ён хлусіць. Сакрэт, відаць, хаваўся ў нечым іншым. Відавочна, мяне выдавалі мае звычкі, бачныя толькі яму аднаму. Відаць, я паводзіў сябе не так, як паводзяць сябе еўрапейцы. Яно і зразумела, з гэтай краінай я быў на Вы. З ёю ніколі не былі звязаны ні маё жыццё, ні мае ўспаміны. Я быў госцем, чалавекам без статуса, а таму не меў права злавацца на такіх, як ён.

– Вы чэх? – пацікавіўся я ў незнаёмца пасля непрацяглай паўзы.

– Славак, – адказаў той і чамусьці зноў усміхнуўся. Нягледзячы на сваё лёгкае заіканне, яго голас падаўся мне ветлівым і мае нядаўнія перасцярогі, што гэты чалавек можа несці нейкую небяспеку, пакрыху сталі развейвацца.

– У такім разе, я беларус, а не рускі, – падкрэсліў я, працягваючы ўважліва вывучаць незнаёмца.

– О, а гэта нашмат ужо лепей! – не хаваючы свайго задавальнення, сказаў ён і паляпаў мяне па-сяброўску па плячы. Высвятляць, чаму лепей быць беларусам, а не рускім, я, вядома, не стаў. Счакаўшы, назваў сябе:

– Павал!

– Павел! – паўтарыў ён крыху нараспеў і, як мне падалося, наўмысна з акцэнтам. Што ён хацеў гэтым падкрэсліць, я так і не зразумеў.

– Не Павел, а Павал, – далікатна паправіў яго я.

– Павел, з табой усё ў парадку? – спытаў ён, ігнаруючы мяне. Я не спяшаў адказваць. Рашэнне перайсці на ты з яго боку, было цалкам апраўданым. Як мне падалося, мы былі аднагодкамі і выкаць не мела сэнсу.

– А з табой? – адказаў я пытаннем на пытанне.

Ён ліслівa асунуў бровы.

– Я ведаю, хто ты, – сказаў ён нечакана. У яго голасе я пачуў лёгкую іронію. – Ты Голем!.. – Ён зноў усміхнуўся і з зайздроснай упэўненасцю паўтарыў: – Так, так! Ты – Голем!

– Хто? – не зразумеў я.

– Голем!

– Хто гэта? – зірнуў я недаверліва.

– Персанаж падання аб пражскім гета, – адказаў незнаёмец. Памаўчаў хвілінку і дадаў: – Так звалі глінянага слугу, створанага равінам Львом бен Бецалелем у абавязкі якога ўваходзіла вядзенне гаспадаркі, чараўніцтва і абарона гета ад пагромаў. Нягледзячы на сваю мажнасць і выродлівасць, Голем быў дужым мужчынам...

“Няўжо я такі мажлівы і выродлівы?” – падумаў я, пакрыўдзіўшыся. Але чым далей слухаў гэтую міфічную гісторыю, тым выразней бачыў сваё падабенства з яе персанажам. Я, як і гэтая міфічная пачвара, увасабляў сабой толькі нейкую матэрыю. Безумоўна, у адрозненне ад яе, я меў душу, але затое я не меў свабоды выбару. Сістэма пазбавіла мяне магчымасці самастойна прымаць рашэнні, зрабіла істотай сярэдняга роду, створанай наўмысна для рабскай працы, а яшчэ, каб адпужваць сваёю выродлівасцю

тых, хто робіць замах на яе бяспеку. Яднала нас з Големам, верагодна, наша непрадказальнасць. Мы былі асуджаныя на вечны бунт, а таму мімаволі рабіліся небяспечнымі. Смяротная сіла, якая накаплялася ў нас вякамі, магла некалі быць разбуджанай і з намі ўвесь час неабходна было нешта рабіць. Сваім існаваннем мы пагражалі стваральнікам.

– Кожныя трыццаць тры гады Голем з'яўляецца на вуліцах Прагі, – адарваў мяне ад разваг голас незнаёмца. – І ў ноч, калі ён вяртаецца, у горадзе адбываюцца жахлівыя падзеі...

– Ты хочаш сказаць, што я прынёс у твой горад бяду? – сумна ўсміхнуўся я. Ён праігнараваў маё пытанне і палез у кішэню па цыгарэты.

– Ладна, пайшлі адсюль, – сказаў раптам мужчына. – Тут нельга доўга затрымлівацца.

– Гэта чаму? – здзівіўся я.

– Ёсць вялікая спакуса, застацца назаўжды.

– Завядзі мяне, калі ласка, да Кафкі, – нечакана папрасіў яго я. Мая просьба, магчыма, падалася яму нахабствам. Незнаёмец рэзка азірнуўся і я, не вытрымаўшы пранізлівага халоднага позірку, адвёў вочы.

– Ты дзеля гэтага сюды прыехаў? – спытаў ён.

У паветры павісла працяглая паўза. За нашымі спінамі несліся ў невядомасць аўтамабілі. З неабсяжнасці на нас здзіўлена пазіраў Вялікі Горад. Усё заставалася тым жа, што і некалькі хвілін таму. І усё ж адной дробязнай дэталі ў гэтай зайздроснай аднолькавасці не хапала. Не было чалавека на балконе. Мне ніхто не махаў больш рукой і не клікаў мяне. Я зноў быў сам-насам з гэтым незнаёмым мне месцам. Хаця, хлушу, цяпер нас было двое. І я адчуваў, што мы пасябруем. Я параўняўся з незнаёмцам і зазірнуў яму ў вочы.

– Я прыехаў сюды, каб пазбавіцца ад нянавісці, – ціха сказаў я.

## 3

"Такіх брыдкіх, непрыгожых жанчын, як яна, не бывае апрыёры! – думаю я і заплюшчваю вочы, каб уявіць яе побач з сабой у ложку. Майму нахабству можна толькі пазайздросціць. Але эратычныя фантазіі не маюць нічога агульнага з сапраўднасцю. Яе голас ацьверажае і вяртае мяне да жыцця. Жанчына какетліва ўсміхаецца і кладзе на столік меню. За той непрацяглы час, што мы з ёю не бачыліся, яна ні кропелькі не змянілася. Такая ж дагледжаная, грудастая і ружовашчокая. Такая ж ганарлівая і фанабэрыстая. Афіцыянткі такімі быць не павінны, перакананы я. Доўгімі, спрытнымі, як у піяністкі пальцамі, яна паспешліва занатоўвае на паперцы мой заказ, выціскае лісліваю, змушаную ўсмешку ў адказ на мой іранічны і не зусім да месца жарт, і, вульгарна пагойдваючы сцёгнамі, павольна плыве праз залу на кухню. Гляджу ёй услед і шчыра зайздрошчу. Вось яны, тыя паважлівасць і вышыня, якіх мне не дасягнуць ніколі. Я не варты іх. Я чалавек, які не ўяўляе сваёй будучыні. Чорная павута паклёпу, хлусні і несправядлівасці аблыталі маю душу і гэтая трохгаловая, пажадлівая пачвара, зжырае мяне знутры, выштурхоўвае з жыцця, падкрэсліваючы маю нікчэмнасць. Хіба да такой вышыні я імкнуўся ўсё сваё свядомае жыццё? "Ты такім быў заўжды!.. – даносіцца да мяне з глыбіні падсвядомасці нечы чужы, незнаёмы голас. – Ты толькі прыкідваўся, што ў цябе ўсё выдатна, дэманструючы калегам сваю задаволенасць жыццём, насамрэч усё было далёка не так, і

ты пакорліва валачыў цяжар непатрэбнасці і незапатрабаванасці. Дарэчы, ты быў заўжды чалавекам нежаданым. І ў гэтым уся справа. Жанчына, якую ты цяпер пазбягаеш называць мамай, рабіла ўсё ад яе залежнае, каб ты ніколі не нарадзіўся. Спачатку ты марыў стаць вайскоўцам, але цябе не ўзялі нават на тэрміновую службу. Ты старанна хаваў ад аднагодкаў сваю плоскаступнёвасць і, нягледзячы ні на што, узмоцнена займаўся спортам. Табе хацелася быць лепшым сярод лепшых. Ты імкнуўся стаць прыгажуном. І ты быў ім. Але твае дасягненні ніколі не ратавалі цябе ад адзіноты. Не людзі, а вялікі свет кніжак, стаў тваім дарадцам. “Навошта людзям памяць? – неаднойчы дапытваўся ты ў самога сябе. – Навошта ім гэты цяжар, без якога з лёгкасцю можна абыходзіцца?..” Адказ на гэтае рытарычнае пытанне, ты працягваеш шукаць і цяпер, калі жыць табе робіцца не пад сілу, калі сімбіёз мінуўшчыны і сучаснасці – існае пекла. Ты разумееш, што гэтае ненажэрнае “стварэнне” прысмакталася да цябе неадчэпна, нібыта заразлівы энцэфалітны клешч, што пазбавіцца табе ад яго самастойна без хірургічнага ўмяшання, ужо немагчыма. Але ты ўпарта чакаеш. Ты спадзяешся на цуд. Ты баішся прызнацца сабе ў тым, што табе насамрэч падабаецца гэты духоўны мазахізм, што ты зведваеш ад свайго нутранога болю пэўную асалоду, без чаго тваё жыццё – не жыццё... “Навошта людзям памяць? – чапляешся ты да мінакоў са сваім наіўным, неразумным пытаннем. На цябе пазіраюць скоса, як на вар’ята. Табе здзекліва ўсміхаюцца, цябе абыходзяць бокам. І толькі адзін чалавек – п’янтос і бабыль з суседняга дома сумна ўздыхае і шчыра выказвае сваю, зразумелую толькі яму аднаму, гіпотэзу:

– Каб плакаць па начах... У сне... Ад пяшчоты.

Цябе не здзіўляе адказ гэтага сталага і стомленага жыццём дзівака. Ты пачуў тое, што хацеў пачуць. Верагодна, вам сняцца аднолькавыя сны. Бо ночы, перакананы ты, – час для таго, каб пазбаўляцца ад слёз. Употай, каб ніхто не западозрыў у слабасці.

Табе не было і пятнаццаці, калі ты ўпершыню закахаўся. Ёй тады быў дваццаць адзін. І яна цябе не кахала. У яе быў хлопец і ты шчыра зайздросціў яму. Ён прыязджаў да яе штовечара на расфарбованай, як лялька, “Яве”, аб якой ты мог толькі марыць. А потым яны ехалі ў ноч. Надоўга. А ты чакаў. Табе нічога не заставалася іншага, акрамя як чакаць і на нешта разлічваць. Магчыма, яе шматабяцальныя ўсмешкі, якімі яна цябе неаднойчы адорвала, і былі той анастэзіяй, якая туманіла твой наіўны, юначы розум. Скуль табе было ведаць, што гэта ўсяго толькі гульня, у якую гуляць ты не ўмееш. І той утульны, дагледжаны дворык побач з яе домам стаў для цябе сапраўдным рэанімацыйным пакоем. Ты жыў ілюзіямі. Табе здавалася, што яна пакідае расчыненыя вокны наўмысна, для таго, каб ты змог забрацца ў пакой і чакаць яе там. На што ты быў здольны яшчэ, акрамя як не на фантазіі? Неаднойчы крадком ты прабіраўся да яе дома і падоўгу сядзеў ля расчыненых вокнаў, услухоўваючыся ў навакольную цішыню. Іншы раз табе шанцавала і сярод незлічонага мноства вечаровых пахаў, ты лавіў п’янкія пахі парфумы. Гэта былі яе пахі. І ты быў у тым перакананы. Аднойчы ты не стрымаўся і залез праз акно ў пакой. Здарылася тое пад ранак. Пачынала світаць і яны з хвіліны на хвіліну павінны былі вярнуцца. Але цябе гэта не спыніла. Ты залез да яе ў ложак і доўга ляжаў там, уткнуўшыся тварам у пярыну. Да рэчаіснасці цябе вярнула далёкае, агіднае вуркатанне матацыкла. То былі яны. Ты падхапіўся з ложка і, як ашалелы, кінуўся да акна. Потым вярнуўся.

На пісьмовым стале ляжаў стос старых кружэлак. Ты адшукаў сярод іх адну з яе здымкам. Такія кружэлкі былі модныя ў свой час. Іх запісвалі ў спецыяльных салонах гуказапісу. Але цябе не цікавіла змесціва кружэлкі, цябе цікавіў яе здымак. І яго ты будзеш захоўваць усё астатняе сваё жыццё. І гэты крадзёж, першы і апошні ў тваім жыцці, стане для цябе ўчынкам, за які табе ніколі не будзе сорамна. З пакоя ты выберашся незаўважна. Проста ім будзе не да цябе. Міне час і ты перарасцеш сваё першае захапленне. Але дасюль так і будзеш слухаць адну і тую ж песню з кружэлкі з сімвалічнаю назвай “Сизокрилий птах”. Пакутліва сапраўдны голас спявачкі будзе зноў і зноў вяртаць цябе ў тую далёкую мінуўшчыну. Ты будзеш слухаць яе голас, каб плакаць у сне. Ад пяшчоты... Ажэнішся позна. На яе пляменніцы. А праз восем гадоў вашага сумеснага жыцця, заспееш яе ў ложку са сваім лепшым сябрам. І гэтая кавярня на рагу двух пешаходных вуліц, стане для цябе яшчэ адным рэанімацыйным пакоем. Сюды ты будзеш прыходзіць тады, калі жыць табе будзе невыносна, як цяпер, пасля гэтага недарэчнага допыту ў следчым ізалятары, і напівацца ў дрызіну. Навошта людзям памяць? Навошта ім гэты цяжар, без якога можна лёгка абыходзіцца?..

Каб пра ўсё забываць!

“Але мы, гэта і ёсць тое, што захоўвае пра нас наша памяць,” – супрацiўляюся я свайму ўнутранаму голасу і імкнуся ўзгадаць хоць адну знакавую падзею ў жыцці за апошнія дзесяць гадоў. Мне ўсё яшчэ хочацца выбрацца з нары свайго “Я” і зірнуць на сябе з вышыні пражытага, ажывіць у памяці тое важкае і значнае, якое мог прапусціць, якое засталося жыць толькі ў марах. Мінае час, а я так і не знаходжу за што можна было б зачапіцца, чым не сорамна было б падзяліцца з людзьмі. Дзесяць год выпала з жыцця. Вырасла новае пакаленне. Нешта сцерлася, страціла свой былы лоск, ранейшую знакавасць. Утварылася яміна. Я выпаў з часу, у якім нарадзіўся, так і не прыжыўшыся ў часе цяперашнім. Я заблудзіўся ў сваіх сапраўдных пачуццях і поглядах. Разгубляў сяброў. Некаторыя з іх адмовіліся ад мяне. Ад некаторых адмовіўся я. Здарылася так, што цяперашнімі маімі калегамі сталі людзі нашмат маладзейшыя, і працяглыя дыскусіі з імі на тэмы маралі, канчаткова заблыталі мяне. Я сутыкнуўся з падменайпаняццяў, адчуў, што прапусціў нешта важнае, не заўважыў яго ў свой час і цяпер яно стала не маім. Час апярэдзіў мяне. Я цягнуся ў яго хвасце. І гэты марафон не па сілах мне. Мала таго, што мяне не разумеюць, мяне і не хочуць разумець. “Ніхто нікому і ні чым не абавязаны!” – папярэджваюць сябры. – Ты не пахан, а тым больш не будысцкі манах, каб чытаць нам пропаведзі!” Я задыхаюся ад крыўды, узмацняю голас. Мяне абзываюць псіхапатам і ігнаруюць. Я так і не здолеў знайсці дзеля апраўдання патрэбныя, аргументаваныя словы. Я сыходжу, уключаю маўчанне, знікаю з актыўнага жыцця. І чым даўжэй цягнецца гэты мой аскетызм, тым невыносней робіцца жыць...

Адрываюся ад думак і акідваю позіркам залу. Насупраць за суседнім столікам заўважаю маладога чалавека. Ён прыйшоў толькі што. Я прапусціў яго, не заўважыў за сваімі думкамі. Мужчына нагадвае нечым следчага. А можа, мне ўсё гэта толькі здаецца? Цяпер у кожным стрэчным я схільны бачыць людзей, падобных да следчага. Страх зрабіў сваю жудасную справу. І я не здольны супраціўляцца яму. Мужчына ўсміхаецца мне, і я не вытрымліваю, гляджу паўз яго. У людзях ёсць нешта гідлівае і неахайнае, у што заглыбляцца не хочацца. Але ад гэтага чалавека адасобіцца нельга.

Ён – касмічны магніт, які прыцягвае да сябе ўвагу. “Няўжо я таксама такі ж неахайны?” – думаю я і апускаю вочы. Хочацца зірнуць на сябе збоку. Хочацца пераканацца, што я іншы. Характары людзей, вычытаў я ў нейкім выданні, выяўляюцца па тым, як і што яны ядуць. Гэты сваімі манерамі нагадвае гадавалага кормнага падсвінка. Ён перакідвае са шчакі за шчаку ежу, гучна прыцмоквае языком і задаволена клацае сківіцамі. Ежа імгненна знікае з талеркі, і з бездані яго ненажэрнага чэрава вырываецца на волю гулкае рэха цыбульнай адрыжкі. Звоніць тэлефон, і мужчына, працягваючы жаваць, марудліва цэдзіць:

– Слухаю, мая любая!.. Так, маё любінятка!.. Безумоўна, мая радасць!.. Як скажаш, мая добрая!..

Ежа распырсківаецца са слінай. Мужчына гідліва зіркае ў мой бок, – я стаў сведкам таго, чаго бачыць быў не павінен – і просіць прабачэння. Пры гэтым, чамусьці, апускае вочы. Потым спешна хавае тэлефон і пачынае ікаць. Цягнецца да куфля з півам. Адпівае некалькі выратавальных глыткоў і з новым шаленствам накідваецца на недаедзены антрыкот. Мне здаецца, што канца гэтаму не будзе ніколі. Я імкнуся палюбіць яго, як аб тым сказана ў біблії, але акрамя агіды, ніякіх іншых пачуццяў разбудзіць у сабе ўжо не здольны. Я чэрствы і халодны чалавек! І ненавіжу сябе за гэта. Хочацца забыцца, не глядзець у яго бок. “Ну і дзянёк! – раздражняюся я. – Спачатку следчы, цяпер гэты тып...” Дастаю з пачка цыгарэту і прыкурваю. Думкі мімаволі вяртаюць мяне да нядаўніх жахлівых падзей. Тым незабыўным летнім надвячоркам я сядзеў у гэтай жа невялічкай кавярні і жлукціў кілішак за кілішкам гарэлку. Мне не хацелася жыць. І я думаў, што здрада, якую толькі што давялося зведаць з боку блізкага мне чалавека, ёсць найвялікшая несправядлівасць у свеце. Тады я не здагадваўся яшчэ, што наперадзе мяне чакае куды большае зло. І калі б я пра тое ведаў, магчыма, не быў бы такім наіўным...

## 4

Быць тым, кім хацелася стаць, не атрымлівалася. Мы ішлі з ім па ранішняй Празе і я адчуваў сябе тут чужаніцай. Мне здавалася, што я трапіў у зусім іншы свет. Я ўзіраўся ў маўклівыя твары выпадковых прахожых і рабіў выснову, што гэтыя людзі – поўная супрацьлегласць мне і тым, з кім даводзілася жыць на радзіме. І справа была, відаць, не ў іх ментальнасці, не ў іх разняволенасці, што кідалася ў вочы адразу, у гэтых людзей быў іншы выраз твару. На ім адсутнічала таўро трывогі і страху. Я недаверліва пазіраў на незнаёмых людзей, потым пераводзіў позірк на свайго спадарожніка і чакаў ад яго пэўных тлумачэнняў, быццам бы ён мне павінен быў іх даваць. Я не ведаў з чаго пачаць размову. Я не ведаў ні звычак гэтага народа, ні яго гісторыі, ні культуры. Усё, чым я мог пахваліцца, гэта, што крыху быў знаёмы з творчасцю Кафкі. Але кніжкі, гэта адно, а жыццё – зусім іншае. Мне хацелася мець зносіны з людзьмі напрамую. “Безумоўна, – думаў я, – кожны народ заслугоўвае таго, чаго заслугоўвае. І праблема не ў сістэмах, якія пануюць у тых ці іншых краінах, ні ў дыктатурах, тым больш не ў дыктатарах, як тое схільна лічыць пераважная большасць маіх сяброў, а ў нашых адносінах і стаўленні да жыцця. Але ці здольны я быў знайсці словы, з дапамогай якіх можна было данесці да гэтага, па-сутнасці незнаёмага мне чалавека, сваю пазіцыю?

Не мог жа я яму сказаць, што мяне і такіх, як я, задавальняе тое, што адбываецца ў маёй краіне...

У яго было прыгожае славянскае імя – Любо. І ў адрозненне ад мяне, ён быў чалавекам добрым. Адзінае, што мне не падабалася ў ім, гэта яго скрытнасць. Калі шчыра, я не зусім разумеў, як могуць ужывацца ў людзях гэтыя дзве прынцыпова розныя, у маім разуменні, якасці характару. Быць закрытым у гэтай краіне я не жадаў і, не тоячыся, пачаў расказваць свайму новаму сябру пра сябе і пра свой народ. Я перабольшваў, я хлусіў, я прыдумляў, я вымушаў яго паверыць у тое, ува што сам не верыў. Мне хацелася выказацца. Палітычная сітуацыя ў краіне навучыла мяне маўчанню. Змушанаму маўчанню на роднай мове. Але цяпер я быў за яе межамі, і быць нямым і глухім мне не хацелася. А вось дабрыні, трэба прызнацца, мне, сапраўды, не хапала. Дабрыня была раскошай для такіх, як я. Мы не залежылі ад саміх сябе, ад сваіх магчымасцяў і жаданняў. Мы былі рабамі чужога настрою, неймавернага апетыту і сквапнасці, скажонага да абсурду разумення свету. Усе свае заганы і недахопы мы спісвалі на свой лёс і сваю наканаванасць. Нам прапаноўвалі сваё разуменне дабрыні. Але ёй немагчыма было навучыцца. З ёю трэба было нарадзіцца. Я быў такім жа сентыментальным і слабавольным чалавекам, як і мноства іншых людзей, і гэтага ніколі ні ад кога не хаваў. Мне трэба было жыць, і за такую магчымасць з мяне вілі вяроўкі. Мне сорамна, агідна за сваю бяззубасць і генетычную меланхалічнасць. Мае недахопы і заганы рэзка вылучаюцца на фоне такіх людзей, як Любамір. І тады ўзнікае жаданне стаць іншым, растварыцца ў святле таго, хто нясе гэтае святло. Так я думаў...

Яго імя казала само за сябе. Праўда, я ведаў і іншага славака з такім іменем – саракавасьмігадовага забойцу Любаміра Гармана, крывавая гісторыя якога абляцела ўвесь свет. У мяне яна таксама ў свой час выклікала жах і расчараванне чалавекам разумным, дадатковы раз пераканала ў тым, што людзі – істоты загадкавыя, непрадказальныя, што іх пачуццямі і паводзінамі рухаюць жывёльныя інстынкты. Я баюся гэтай нашай непрадказальнасці. Са слоў блізкіх сяброў, той жа Любамір Гарман быў чалавекам таварыскім і ўраўнаважаным, але гэтыя якасці не сталі перашкодай на шляху да жорсткага злачынства. Узброены аўтаматам, ён уварваўся ў кватэру да суседзяў і бязлітасна расстраляў ні ў чым не вінаватую цыганскую сям'ю. Цяжка ўявіць сабе, але забойца зрабіў 242 стрэлы, у выніку чаго забіў сем і параніў пятнаццаць зусім выпадковых людзей. Адной з яго ахвяраў стаў дванаццацігадовы хлопчык, якога Гарман застрэліў зблізку на вачах у маці. "Скуль у нас гэтая жорсткасць?" – задаваўся я неаднойчы гэтым пытаннем і не знаходзіў на яго адказу.

Я наўмысна не стаў расказваць Любаміру гісторыю пра яго цёзку-забойцу, а загаварыў пра сусветна вядомага славака, паважанага і любімага мною футбаліста Любаміра Мараўчыка. Было заўважна, што яму падабаецца той факт, што яго землякоў ведаюць у свеце. Думаю, мне таксама было б прыемна чуць гэта. Мы доўга расказвалі адзін аднаму свае жыццёвыя гісторыі. Паводзілі сябе, як блізкія і даўно знаёмыя людзі. Безумоўна, я гаварыў больш, чым мой сябар. Любаміру даводзілася ўвесь час слухаць ды ківаць у адказ галавой. Аднак шмат чаго пра сябе расказаў мне і ён. Любо быў старэйшы за мяне на некалькі год – равеснікам сумна вядомых "пражскіх падзей". Яго бацькі, этнічныя славакі, жылі ў тыя часы ў Празе. Любо нарадзіўся ў год Малпы, магчыма таму, ён не верыў у Бога. Эвалю-

цыйная тэорыя Дарвіна набыла для яго сваеасаблівы кананічны сэнс. Яго горад тады быў спавіты суднаю цемрай, а па брукаваных вузкіх вулачках, высякаючы тракамі іскры-маланкі, да Вацлаўскай плошчы рухалася калона савецкіх танкаў. Менавіта той жнівеньскай ноччу ён знаходзіўся разам з маці ў адной з пражскіх бальніц. Пра іх выпіску рэч не ішла і яго бацька, вартуючы нязвыклую гораду цішыню, стаяў ля зачыненых наглуха вокан радзільнага аддзялення, усё яшчэ спадзеючыся ўбачыць сваіх родных праз запыленыя шыбіны зачыненых вокнаў. У калоне, у адным з танкаў з белаю апазнавальнай паласой, ехаў мой будучы бацька. Магчыма, жахлівы роў і грукат яго баявой машыны да смерці напужаў маленькага Любо, што стала потым прычынай яго пажыццёвага заікання. Лёс развёў нашых бацькоў па розныя бакі барыкад, і цяпер я саромеўся прызнацца ў гэтым Любо. Мне здавалася, што маё прызнанне сапсуе нашы далікатныя пакуль што адносіны, і я страчу яго назаўжды. А губляць мне нічога якраз не хацелася. Маімі пачуццямі кіраваў генетычны страх. Я баяўся ўсяго і ўсіх. Я дадумваў за іншых. Я пражываў чужыя жыцці. Але толькі не сваё. Гэтай прадбачлівасці і перасцярожлівасці мяне навучылі людзі.

Па прафесіі Любо быў музыкантам і ў вольны час падпрацоўваў у адным з вулічных джазавых аркестраў. Іграў на трубе. Скончыў ён пражскую кансерваторыю і атрымаў сярэднюю музычную адукацыю. Паступленне ў Акадэмію музычнага мастацтва выпала на гады так званага “нацыянальнага самавызначэння”. “Sametovy razvod”, як называлі падзел краіны чэхі, унёс значныя карэктывы ў яго жыццё. Бацькі падтрымалі незалежнасць і з’ехалі ў Браціславу. Ён жа, як і пераважная большасць насельніцтва былой ужо цяпер краіны, быў не гатовы да такога “сямейнага” падзелу. Таму ехаць з бацькамі адмовіўся. У акадэмію ўсё ж паступіў, але так і не скончыў яе. Праз год быў адлічаны па асабістай просьбе. Жыццё паставіла яго перад выбарам, вывела на першы план пытанні далёкія ад культурных. А час паступова зусім аддаліў яго ад ранейшых мараў.

– Тысячы турыстаў едуць сюды захапляцца Францам Кафкам, не падазраючы нават, што ён ненавідзеў гэты горад, – першым парушыў маўчанне Любо.

– Ненавідзеў?– здзівіўся я.

– Так, ненавідзеў! Я не агаварыўся. Кафка не любіў гэты горад. І неаднойчы збіраўся збегчы адсюль, – задумліва сказаў Любо і зірнуў на мяне вінавата. – Але так і не змог пакінуць яго. Прага не адпускае нас. Ні цябе, ні мяне. У гэтай матухны ёсць кіпцюры. Трэба скарыцца альбо... Падпаліць яе з двух канцоў, падпаліць Вышэград і Градчаны – тады можа быць атрымаецца вырвацца.

– Выходзіць, што сваімі героямі ён насяляў гэты горад ад безвыходнасці?

– Безумоўна. Кафка – турыстычны абраз Прагі! І шмат з таго, што гавораць вам – міф! Наўпрост горад нідзе не прысутнічае ў яго творах, – сказаў Любо.

– Але шмат у чым пазнаецца, – запярэчыў я яму, выхваляючыся свімі ведамі.

– Усё гэта – сюррэалістычныя гульні! Не болей за тое, – усміхнуўся Любо.

– Хіба наяўны, абсурдны свет Кафкі –не ёсць Прага? – спытаўся я.

– Прага – нешта большае. Ты ўпершыню тут?

– Так! – кіўнуў я.

– Ну, тады цябе чакае расчараванне.

– Гэта, чаму? – насцярожыўся я.

– Таму, што гэта, так бы мовіць, твая першая рэпетыцыя горада, а яна, як і само жыццё, падобная да накіду.

Я не зразумеў яго і чакаў дадатковых тлумачэнняў. Ён дастаў пачак з цыгарэтамі і прапанаваў мне. Потым закурыў сам.

– Напрыклад, Мілан Кундэра ставіў перад сабой наступнае пытанне...

Ён зрабіў паўзу і некалькі разоў запар зацягнуўся. Пераканаўшыся, што я разумею, пра каго ідзе рэч, працягнуў сваю думку далей: – Чаго вартае нашае жыццё, калі першая яго рэпетыцыя ёсць само жыццё? Жыццё падобнае да накіду, але і “накід” не дакладнае слова, паколькі накід заўсёды напісанне чагосьці, падрыхтоўка да той або іншай карціны, тады, як накід, якім ёсць наша жыццё – накід да нічога. Гэта ўсяго толькі “штосьці” не ўвасобленае ў карціну.

– Але якое дачыненне гэта мае да Прагі? – стрымліваючы сябе, спытаў я.

– Таму, што аднойчы – гэта ўсё роўна што ніколі, – адказаў Любо, працягваючы цытаваць думку Томаша, аднаго з галоўных герояў рамана Кундэры. Я выдатна памятаў словы знакамітага доктара, якому пад час савецкай акупацыі, давялося перакваліфікавацца ў мыйшчыка вокнаў, і таму працягнуў яе сам:

– Калі нам наканавана пражыць адзінае жыццё, гэта значыць – мы не жылі зусім.

– Менавіта, так! З Прагай тое ж самае. Каб зразумець гэты горад, тут трэба нарадзіцца, жыць і памерці. Прага ў кожнага свая, як і жыццё. Таму не здзіўляйся, калі раптам расчаруешся ў ёй. Наступным разам, калі сюды вернешся, мы пагаворым пра гэта больш грунтоўна.

Ён зірнуў на мяне з несхаваным і незразумелым сумам, ад чаго мне зрабілася таксама не па сабе. Я не паверыў яму і, каб скончыць непрыемную нам абодвум дыскусію, паспрабаваў змяніць тэму размовы. Аднак загнаў сябе яшчэ ў большы тупік.

– А тое, што пісаў пра яго Адам Градылек, праўда?

– Пра Кундэру? – перапытаў Любо і задумаўся. – Не думаю... Кундэра – не даносчык. Хоця ў пяцідзясятыя даносніцтвам займаліся многія. І гэта, безумоўна, на нашым сумленні. Але прыйшло гэта ўсё ад вас, з Крамля.

Я нервова ўздрыгнуў.

– Наколькі я ведаю, ёсць нават запісы гэтай размовы, – сказаў я, наўмысна згладжваючы вострыя моманты гаворкі.

– Запісы, пры жаданні, таксама можна падрабіць. І ўвогуле, гэта вельмі складаная і далікатная тэма. Я б не спяшаўся рабіць нейкія катэгарычныя паспешлівыя высновы. Ва ўсякім разе, фактаў пакуль вельмі мала. Але для людзей, схільных верыць, або не верыць, гэта не перашкода. Вера не патрабуе фактаў. Наогул, людзям трэба вучыцца сумнявацца...

Мы ішлі з ім праз Жыжкаў. Некалі даўно, у сямнаццатым стагоддзі, уладальнікі старога маёнтку Альшаны прадалі частку гэтых земляў гораду, каб хаваць тут памерлых ад чумы. З цягам часу Альшанскія могілкі сталі цэнтральнымі для правабярэжнай часткі горада. Цяпер яны займалі вялізную тэрыторыю амаль у цэнтры горада. Частку гэтых зямель аддалі пад захаванне рускіх эмігрантаў. І недзе тут, наколькі я ведаў, былі пахаваны

пісьменнікі Аркадзь Аверчанка і Васіль Неміровіч-Данчанка. Тут жа была пахавана маці Уладзіміра Набокава. Апошні спачын тут знайшлі і мае землякі Міхал Забэйда-Суміцкі, Пётра Крачэўскі і Васіль Захарка – першы і другі прэзідэнты БНР. Недзе тут быў пахаваны і Франц Кафка.

– Кафка пахаваны на габрэйскіх могілках, – нібыта ўгадаўшы мае думкі, сказаў Любо.

– Гэта далёка? – захваляваўся я.

– Ды не, – усміхнуўся ён, – адны і тыя ж могілкі. Проста падзеленыя на некалькі частак і Кафка пахаваны на габрэйскай. На гэтых могілках знайшлі свой апошні прытулак звыш за два мільёны чалавек.

– Зразумела, – кіўнуў я ў адказ. – Сэнс жыцця ў тым, што яно мае канец! Любо прамаўчаў, а можа, не зразумеў мяне. Тлумачыць яму, што я працытаваў толькі што Кафку, я не стаў.

Мы патапталіся некалькі хвілін ля замкнёных веснічак. Прайшліся ўздоўж высокай жалезнай загароджы і вярнуліся назад. Любо мітусліва зірнуў на кішэнны гадзіннік, потым на аб'яву, прымацаваную паверх замка, і папрасіў прабачэння:

– На жаль, у мяне вельмі мала вольнага часу. Могілкі адчыняюцца ў дзевяць, а мне ў дзевяць трэба быць у старым горадзе.

Я цяжка ўздыхнуў і таксама зірнуў на аб'яву. Яна была на чэшскай мове.

– Але я магу паказаць магілку Кафкі праз загароджу, тут недалёка, ідзем.

Мы рушылі ўніз па вуліцы. Праз некалькі крокаў я азірнуўся. Следам за намі ішлі тэлевізіёншчыкі. Маладая дзяўчына з мікрафонам у руцэ нешта заўзята распавядала на камеру.

– Не здзіўляйся, тут заўжды хто-небудзь ёсць, – усміхнуўся Любо. Я і не здзіўляўся, проста мне не хацелася патрапіць пад пільнае і ўсюдыіснае вока камеры. Хто ведае, скуль былі гэтыя людзі і з якімі мэтамі яны рабілі свой рэпартаж. Генетычны страх вымушаў мяне асцярожнічаць. Нават тут.

## 5

Спрабую выбрацца з-за стала. Раблю некалькі няпэўных крокаў і спатыкаюся. Захаваць раўнавагу не атрымліваецца. Валюся проста на стол. Гэта перабор. Звон перакуленых шклянак і разбітага посуду адгукаецца ў галаве гулкім рэхам. Гэтая шумлівая вар'яцкая цяганіна вяртае мяне да жыцця. Палахліва азіраюся і натыкаюся на нядобразычлівыя асуджальныя позіркі. І ніводнага спачувальнага. Неймавернае жаданне растварыцца ў неонавым хаосе. Знікнуць у невядомасці. Выцягваю з барсеткі слухаўкі і чапляю іх на вушы. Потым уключаю плэер. "О, сизокрилий птах, згубився шлях твій у житах... " Голас спявачкі заглушае ўсё астатняе. І гэта адзіны спосаб адмежавацца ад жорсткай і ненавіснай сапраўднасці. Але музыка паступова аддаляецца. Яна недзе ўжо па-за свядомасцю. Яна мёртвая, як і я. Яна не абуджае ніякіх эмоцый. Гукі, падобна да сціснутай пружыны, застыглі ў палахлівым чаканні. "...Даремне вітер переймав – тебе вже нема..." Прабіраюся паміж столікаў да дзвярэй. Стараюся нічога больш не зачапіць. Рука інстынктыўна цягнецца да дзвярной ручкі. Хучэй на вуліцу! Хучэй да святла!

– Мужчына, вы не разлічыліся! – спыняе мяне на парозе грудастая афіцыянтка. Тузае неахайна за рукаў. Счакаўшы, зрывае нахабна з вушэй слухаўкі.

– Вы не разлічыліся! – узмацняе яна голас.

Пружына расціскаецца. Позірк настойлівы і гідлівы. Без прытворства. Капаюся ў кішэнях. Шукаю грошы. Жанчына ўважліва сочыць за кожным маім рухам. Пырскі неонавага святла надаюць яе зрэнкам незвычайны металічны бляск. Нарэшце знаходжу некалькі скамечаных паперак і падаю іх жанчыне. Дзверы адчыняюцца з цяжкасцю. Раблю крок у невядомасць. Усё роўна куды. Абы толькі адсюль. Абы толькі на волю. Я бяздомны. Жанчына, якую я столькі гадоў кахаў, з якой жыў, з якой гадаваў сына, якой давяраў, на якую разлічваў і спадзяваўся, здрадзіла мне. Я заспеў яе ўчора са сваім лепшым сябрам. І таму сёння мне няма куды больш спяшацца. У мяне няма сям'і. Няма дома. Ці былі яны калі-небудзь? Ці не прымроілася мне ўсё гэта? Хацелася верыць, што я – чалавек, які мерае жыццё крокамі, а выявілася, я той, хто бессэнсоўна топчацца на адным месцы. Недзе непадалёк на стаянцы мяне чакае машына, але да яе яшчэ трэба дабрацца. Мне сорак, а я даўно адчуваю сябе на ўсе шэсцьдзясят. У мяне плойма праблем. І яны з кожным днём толькі назапашваюцца. Я не здольны самастойна разблытаць гэты клубок з калючага дроту. Я адзін на адзін са сваёй немаччу. І ўсё, што мне засталося, гэта прывыкаць да неймавернага. Усё правільна, каб зразумець, што такое ёсць людзі, неабходна аддаліцца ад іх.

Прахожыя палахліва шарахаюцца і абыходзяць мяне бокам. Узіраюся ў іх маўклівыя, задуменныя твары, шукаю сваё падабенства, генетычнае радство, векавую, глыбока схаваную духоўную повязь. І не знаходжу. Праблема не ў іх. Праблема ўва мне. І я разумею гэта, як ніколі. Мне страшна. Я наіўны летуценнік, якому няма месца ў гэтым гламурным горадзе гіпсавых статуй, дзе ахвяры шануюць сваіх катаў, усталёўваючы ім помнікі, называючы ў іх гонар вуліцы і плошчы – нечуваны гвалт культу тых, хто знішчаў і рабаваў некалі маіх продкаў. І няма нам спакою ні ад іх жывых, ні ад іх памерлых. Я адзін з тых маўклівых і цярплівых пакутнікаў, якому ніколі не адмежавацца ад гэтай ганебнай сапраўднасці. Я таксама маю да яе дачыненне. Гэты горад – мой надмагільны камень, з-пад якога мне не выбрацца ніколі.. Ён ціснe на мяне сваім векавым цяжарам, і я не здольны супраціўляцца яму. Мо таму і спяшаюся я сюды з далёкіх краёў, каб ненавідзець яго ўжо праз некалькі дзён. Але ад ненавісці да любові – адзін толькі крок. Усяго адзін. І я раблю яго заўжды, нягледзячы ні на што. Я люблю гэты горад гэтак жа, як люблю толькі сваю адзіноту. А яна – міласціна Божая, з якой людзі не ведаюць што рабіць, якой страшацца, ад якой бягуць і адхрышчваюцца, як толькі могуць. Мы эгаісты! І пераважная большасць з нас не здольная жыць, не нагадаўшы пра сябе сваім блізкім. "Я ёсць!" "Я тут!" "Вунь жа ён я!" А мне хочацца, каб пра мяне забылі. Усе. Хоць на дзень. Хоць на некалькі гадзін. Я не жадаю нікога чуць!.. Я не жадаю нікога бачыць!.. Дайце мне магчымасць, прывыкнуць да самога сябе. Пабыць сам-насам са сваімі думкамі. Са сваёй адзінотай. Вось ён мой горад, дзе я ёсць і дзе мяне няма. Я крочу ўздоўж аднатыпных дзевяціпавярховікаў і бачу з якой ненавіснай пільнасцю сочаць яны за маімі рухамі. Сотнямі запыленых вокнаў-вачніц утаропіўся на мяне гэты горад. І я не адчуваю перад ім ні захаплення, ні страху. Я крочу

наперад. За далягляд. Праз сваё асабістае “я”, праз сваю недасканаласць. На край свету. У вечнасць. Я самы шчаслівы сярод няшчасных. Я п’яны і мне мора па калена. Я цалуюся з дрэвамі ў прамым сэнсе гэтага слова. Абдымаю іх за таліі-камялі і прыпадаю гарачай шчакой да шурпатай кары. Мы цалуемся, я не перабольшваю. Калі б нехта заспеў мяне выпадкова за гэтым нязвыклым для людзей заняткам, пэўна вырашыў бы, што я вар’ят. Але я не вар’ят. Я звычайны сярод звычайных. Дакладней, адзін са шматлікіх. А таму не павінен задавацца пытаннем, хто і што пра мяне падумае. Свет прыгожы, і ў гэтым уся справа. Я ўдыхаю ў сябе яго пахі. Пахі тлену і вечнасці. На поўныя грудзі. Я шчаслівы сярод няшчасных. Гэта для мяне сёння спяваюць птушкі. І такога прыгожага каларытнага спеву, я не чуў яшчэ ніколі...

Але ўсё мае свой кошт. І раскоша адчуць сябе адзінотным – таксама. Дарма мне прымроілася, быццам бы я падмануў Бога, зразумеўшы, якое гэта шчасце быць адзінотным. Бога падмануць можна, людзей – ні за што. Людзі назойлівыя і дасціпныя. І ад іх нікуды не дзецца. Іх цікаўнасць знаходзіць мяне паўсюль. Яна не падуладна сумленню і сораму. Людзі здольныя вычапляць падобных сабе нават з адзіноты. “Не зводзь нас у зман! – недаверліва азіраюцца на мяне прахожыя. – Ты такі, як і мы. Ты таксама заняты пошукам ворагаў!..” Марная справа тлумачыць ім, што ўсё жыццё я толькі і раблю, што ўцякаю ад сваіх ворагаў. Тых, што жывуць ува мне.

Адрываюся ад думак. Насустрач мне рухаецца вясельная працэсія. Заўважаю гэты тлумны натоўп занадта позна. Нічога не застаецца, акрамя як ісці яму насустрач. Стараюся трымаць раўнавагу, аднак атрымліваецца гэта з цяжкасцю. Шанец пазбегнуць сораму і ганьбы да канца яшчэ не страчаны. Можна завярнуць у арку, а потым праз двор выйсці да аўтобуснага прыпынку. За ім – стаянка. Не раблю гэтага. Пераадольваю сябе і рухаюся далей, насустрач іншаму жыццю. Вочы затрымліваюцца на нявесце. Твару яе разгледзець нельга. Позірк яшчэ не здольны дасягнуць таго, што карціць убачыць. Узіраюся ў расплывісты сілуэт, захапляюся шлюбнай сукенкай. Яна доўгая. Яна крадзе дзявочыя рухі. Падол прытрымлівае шаферка. Жаніх побач з нявестай. Ён дробны і непрыкметны. Яго задача – ствараць ілюзію абрадавай цэльнасці. Вакол маладых завіхаюцца фатографы. Яны, нібыта альбатросы ля карабля, – сімвал абавязковай прысутнасці. Маладыя пазіруюць на камеру з розных пазіцый. Цалуюцца. Узіраюцца адно ў аднаго і не могуць налюбавацца сабой. Маладыя гуляюць у маладых. Працуюць на памяць. Адкуль ім яшчэ ведаць, што памяць кароткая, што яна – цяжар, ад якога хочацца пазбавіцца. Міне час і ім таксама, магчыма, давядзецца адхрышчвацца ад большасці сваіх неабдуманых, неразумных учынкаў. Толькі Богу вядома, як складзецца іх лёс. Час мяняе людзей. Робіць ворагамі – ненавіснымі і невыноснымі адно для другога. Час – ножніцы, прылада бязлітасная, але і яна не заўжды здольная абрэзаць канцы нітак, спавітых у каўтун, ад якога хочацца, але немагчыма пазбавіцца. Глядзіш і не бачыш вакол сябе нікога. Ні на здымках, ні ў жыцці. Ты адзін. Астатнія абрэзаныя нажніцамі часу. Як нешта непатрэбнае і выродлівае. Нават Бог не здольны мяняць мінулае.

Вясельны натоўп набліжаецца, і цяпер я маю магчымасць назіраць маладых зблізку. Дзяўчына непрыгожая, кірпатая. Твар у прышчах-крапінках. Верагодна, гэта і ёсць штучны панцыр жаноцкага шчасця. І вырасціла яна яго толькі што. Ва ўсякім разе, ён не паспеў яшчэ закасцянець, але

дзяўчына ўжо смела прыкрываецца ім, нібыта ахоўным шчытом. Ад мяне? Ад такіх, як я. Ад несправядлівасці гэтага свету. Ад людской бездухоўнасці і абыякавасці. Дурань! Не раўняй усіх па сабе. У гэтай пары ўсё будзе інакш. Не так, як у вас з Раданай. Не так. Дзяўчына пакуль яшчэ толькі ўзіраецца ў гэты свет. Невідушчымі вачыма. Яна яшчэ не здольная бачыць тое, што не паддаецца логіцы. І ўсё ж, лаўлю сябе я на думцы, яна такая ж нешчаслівая, як і многія з нас. Гэта жорсткая праўда. І мне хочацца, каб мае словы ніколі не спраўдзіліся. Я не жадаю апаганьваць сваёю прысутнасцю чужыя надзеі. Паскараю хаду і абмінаю вяселле. Больш не гляджу ім у вочы. Мы размінаемся, і я адчуваю ад гэтага сапраўдную палёгку. Божа! Якое шчасце не быць прарокам!...

Вось і машына. Мацаю па кішэнях, шукаю ключы. Потым адмыкаю дзверцу і саджуся на пасажырскае месца. Праз некаторы час перабіраюся за руль. Доўга гляджуся ў люстэрка. Кратаю трохдзённае шчаціннe і расціраю вільготнымі пальцамі пухліны пад вачыма. Усё кепска! Усё вельмі кепска! Усё не так, як таго б хацелася. Дастаю з кішэні пачак з цыгарэтамі і закурваю. Спяшацца нама куды. Дома ніхто не чакае. Ды і ехаць у такім становішчы я нікуды не збіраюся. Зацягваюся некалькі разоў і выкідваю недасмалак праз фортку. Кладу галаву на руль і заплюшчваю вочы.

## 6

Мінула гадзіна, як сышоў Любо, а могілкі так і не адчыніліся. Я бязмэтна кружляў па бязлюднай вуліцы, бавіў час у чаканні неверагодных цудаў. Відавочна, я быў падобны да вар'ята, якому даўно ўжо няма месца сярод жывых, а таму ён настырна імкнецца наладзіць стасункі з памерлымі. Нават дурню было зразумела, што маё чаканне – марная трата часу, а мае паводзіны – тое, што не падлягае асэнсаванню, выходзіць за межы агульна чалавечага мыслення. Усё правільна, калі не хапае паразумення з жывымі, узнікае жаданне паразумецца з памерлымі.

Маё працяглае бязмэтнае швэнданне прыцягнула ўвагу ахоўнікаў з будынка насупраць. У "акварыуме", як трапна назваў гэты шыкоўны шкляны гмах Любо, месцілася сусветная служба "Радыё Свабода" і ад дасціпных і ўсюдысных "амерыкосаў" можна было чакаць чаго заўгодна. Ва ўсякім разе, знаходзіцца пад іх пільным наглядам з кожнай хвілінай рабілася небяспечней. Мне здавалася, што яны даўно ўжо прынялі мяне за тэрарыста. І мая кідкая азіяцкая знешнасць ды набітая розным барахлом скураная торба толькі ўзмацнялі гэтыя падазрэнні. Апраўдвацца і даваць сумніўныя паказанні ў пастарунку не ўваходзіла ў мае бліжэйшыя планы, таму, счакаўшы, я хацеў было ўжо падацца да бліжэйшай станцыі метро, але нечакана заўважыў двух дзіўных асоб. Яны вынырнулі аднекуль з-за помнікаў і цяпер крочылі па сцяжынцы проста да мяне. Іх несапраўдныя запаволеныя рухі былі ўвасабленнем самой смерці. Ва ўсякім разе, мне так здавалася. Нягледзячы на сонечны, я б сказаў, нават спякотлівы ранак, гэтыя людзі, калі іх можна было назваць людзьмі, былі апранутыя ў доўгія, не па сезоне, плашчы. Іх твары разгледзець было нельга. Нас аддзяляла адлегласць у некалькі дзясяткаў метраў і высокая жалезная агароджа. Гэта была адзіная, па маім перакананні, станоўчая акалічнасць, якая ўсё яшчэ сяліла ўва мне нейкую надзею. Я паспешліва расшпіліў торбу і выцягнуў здымач. Рукі дрыжэлі і не падпарадкоўваліся. Я зрабіў некалькі

паспешлівых здымкаў, але суб’екты праігнаравалі, як мне падалося, гэтае маё дзейства і накіраваліся да магілы Кафкі. Наблізіўшыся да помніка, адна з істотаў выцягнула з блакітнай гаспадарчай торбы вялізную чорную посцілку і спрытна, адным рухам, разаслала яе побач на сцяжынцы. Скуль з’явілася ў яе руках торба, для мяне так і засталося быць загадкай. Ва ўсякім разе, яшчэ хвіліну таму гэтае стварэнне не мела яе. Высвятляць гэты важны і неаспрэчны факт не было ў каго, а таму зацыклівацца на ім таксама было нявартa. І ўсё ж, гэта адмоўна паўздзейнічала на мяне. Я адчуў, як па целе папаўзлі дрыжыкі. Крыху супакоіўшыся, я навёў на асобаў аб’ектыў і яшчэ некалькі разоў націснуў на гузік. Мужчына, а адзін з гэтых істотаў быў мужчына, і цяпер я выразна бачыў яго твар, незадаволена зіркнуў на мяне. Ад халоднага і пагардлівага позірку зрабілася не па сабе. Выпрабоўваць лёс далей я не стаў, хуценька схаваў здымач у торбу і затаіўся. Паплечніца мужчыны расправіла канцы чорнай магічнай посцілкі, потым гэтак жа спрытна, як і яе партнёр, адным рыўком, падхапіла яе з зямлі і накінула на помнік. Усё адбылося імгненна, нібыта на тэатральнай сцэне, я не паспеў нават усачыць, якім чынам яна гэта ўсё робіць. Мужчына яшчэ раз адарыў мяне варожым, гідлівым позіркам і падышоў да загароджы. Яго сціснутыя масіўныя кулакі і чырвоныя безжыццёвыя вочы, яго пляскаты шырокі лоб з дзіўным надпісам “zmet” – загіпнатызавалі мяне цалкам, выклікалі неймаверны жывёльны жах. Дрэвы адкідвалі на зямлю густыя і змрочныя цені. Узнікала ўражанне, што гэтая істота паглынае сабой святло. Ад безвыходнасці я ўціснуў галаву ў плечы і заплюшчыў вочы.

– Не варта прымаць усё за праўду! – данёсся да мяне нечы надрыўны, замагільны шэпт. – Трэба толькі ўсвядоміць неабходнасць усяго!.. Прысуд не выносіцца адразу! Само разбіральніцтва паступова ператвараецца ў прысуд!..

Сэрца шчымліва сціснулася. Па целе зноў пабеглі дрыжыкі. Я чуў ужо некалі гэтыя словы. Ад каго?.. Счакаўшы хвіліну, я расплюшчыў вочы і збянтэжана агледзеўся. Істота некуды знікла. Ля помніка таксама нікога не было. Толькі з вокнаў “акварыума” за мною па-ранейшаму сачылі пільныя вочы ахоўнікаў. Гэты факт яшчэ больш мацней усхваляваў мяне. “Выканаўшы сваё заданне, Голем ператвараецца ў прах! – успомніліся мне словы Любо. – Ды ну, глупства нейкае! Ніякай логікі...” – падумаў я і паспяшаўся прагнаць жахлівую думку прэч. Хучэй за ўсё, мне прымроіўся нечы сон. І я прыняў усё за чыстую манету. Счакаўшы некалькі хвілін, я павольна пайшоў уздоўж загароджы. Вуліца па-ранейшаму была бязлюднай. І раптам я ўсё зразумеў. Гэтыя здані, якіх я толькі што бачыў, былі, відавочна, тымі штучнымі, ажыўленымі па аналагу біблейскага Адама, канібалісцкімі істотамі, пра якіх мне нядаўна расказваў Любо. І ім, верагодна, было даручана выканаць нейкую невядомую мне пакуль, гістарычную місію. Ва ўсякім разе, гэтая нямая гліняная варта не пусціла мяне да Кафкі. Я спыніўся ў жахлівай роспачы і, калі чорная павута страху пакрыху пачала развейвацца, выціснуў з сябе нешта неймавернае, што напужала мяне да смерці і прымусіла паглядзець на сітуацыю іншымі вачыма.

– Няхай сабе я спазніўся, але я ўжо тут! – ціха прамовіў я.

Адзін з ахоўнікаў у вакне “акварыума”, як мне падалося, нахабна ўсміхнуўся. Я не здзівіўся гэтаму. Па ўсім відаць, “амерыкос” таксама здагадаўся, што мне толькі што нашапталі важную, выратавальную думку.

Хаця, якая розніца, пра што ён мог здагадацца. Важна было, што я сам зразумеў сэнс таго, што адбылося.

– Прысуд не выносіцца адразу! Само разбіральніцтва паступова ператвараецца ў прысуд! – паўтарыў я некалькі разоў застраглую ў падсвядомасці думку.

Усё правільна. Цяпер я дакладна ведаў, што ў бліжэйшы час вяртацца на радзіму мне нельга. Я намацаў у кішэні гаманец са сваім незайздросным скарбам і рушыў да бліжэйшай станцыі метро.

Рэштку дня прысвяціў знаёмству з горадам. Захапляўся прыгажосцю славутага Народнага музея, на сценах якога дасюль яшчэ захаваліся сляды ад савецкіх куль, да чаго, дарэчы, мог мець дачыненне і мой бацька. Здзіўляўся архітэктурнай размаітасці і адметнасці жылых будынкаў вакол Вацлаўскай плошчы. Фатаграфаваўся ля помніка Святому Вацлаву. Піў піва ў кавярні "Дэмінка", дзе па сцвярджэнні вядомага расійскага журналіста і літаратуразнаўцы Пятра Вайля, сустракаліся сусветна вядомыя класікі Кафка і Гашэк. Дарэчы, на маё наіўнае пытанне, так гэта ці не, бармэн толькі загадкава ўсміхнуўся і кіўнуў на аблепленыя шматкамі старых газет сцены, маўляў, чытай, там усё напісана. Чэшскай мовы я не ведаў, а таму знайсці патрэбную інфармацыю ў гэтых векапомных старых выданнях было не пад сілу мне. Потым я бадзяўся з гадзіну ля прыгожага будынка старой школы, што непадалёк ад трамвайнага прыпынку. Водзічкова, чакаў Любо, але той на прызначаную на тры гадзіны сустрэчу не прыйшоў. Не знайшоў я яго і на Карлавым мосце, дзе яго гурт, як ён сам тое сцвярджаў, павінен быў іграць джаз. Крыўдаваць на яго з-за гэтай дробязі, тым больш злавацца, было б неразумна. Мала якія жыццёвыя абставіны паспрыялі яго гэтай неабавязковасці, тым больш што знаёмыя з ім мы былі ўсяго толькі некалькі гадзін, і ніякія абавязкі нас пакуль яшчэ не звязвалі. Адчуўшы сябе чалавекам вольным і незалежным ад жыццёвых абставін, я забурыўся ў "MONTMARTRE". Кавярня гэтая месцілася ў старым горадзе, непадалёку ад Карлавага маста. Натрапіў я на яе чыста выпадкова. Як выявілася пазней, мне вельмі пашанцавала. І з цэнамі, і з асартыментам. Але самае галоўнае, што ў памяшканні, нягледзячы на невыносную спякоту ад якой задыхаўся Вялікі Горад, было даволі прахалодна. Пакой нечым нагадваў стары арачны склеп з масіўнымі цаглянымі сценамі, з высокай столлю ды абітымі жалезам дзвярамі. Бармэн занатаваў на паперцы мой няхітры заказ, на кожны пункт якога мне давялося тыцкаць пальцам у меню, і знік у падсобцы. Я дастаў з кішэні свой патрапаны скураны гаманец і ў каторы ўжо раз пачаў пералічваць свой "сямейны" бюджэт. Безумоўна, дэбіт з крэдытам не сыходзіліся. Будаваць планы на будычыню ў маім становішчы, было справай абсурднай і несур'ёзнай. І ўсё ж, я паспрабаваў спрагназаваць сваё жыццё хаця б на некалькі дзён наперад. Гэты занятак быў карысным для мяне хаця б ужо тым, што грошы любілі лік. А так як я не збіраўся ў бліжэйшы час вяртацца на радзіму, то мне неабходна было размеркаваць тое, што меў. Дэпартацыя свяціла толькі праз дзевяноста сутак, а гэта ні многа - ні мала, тры месяцы. І іх трэба было неяк пражыць. "Калі траціць па дваццаць даляраў у дзень, – разважаў я, – можна працягнуць дзесяць дзён. Калі па трыццаць – тыдзень..." Гэтыя тэрміны мяне цалкам задавальнялі. Пра тое, што станецца са мной потым, думаць пакуль не хацелася.

Вярнуўся з падсобкі бармэн з півам, бульбай і сасіскай. Згледзеўшы на

талерцы вялікі кавалак падсмажанай свіннай каўбасы, замест бледнага, як туалетная папера, соевага канцэнтрату, які на радзіме называлі сасіскай, я шчыра парадваўся выбару і ў знак падзякі нават выціснуў нешта накшталт: “Сэнк’ю!..” Бармэн усміхнуўся майму невуцтву і знік у падсобцы. Для таго, каб управіцца з ежай, хапіла пяці хвілін. Я задаволена аблізнуўся і адпіў з куфля некалькі глыткоў любімага мною напою. Спяшацца не было куды, таму метр за метрам я пачаў вывучаць памяшканне. Знешне яно выглядала неахайна. Старыя дубовыя сталы, такія ж непафарбаваныя і аблезлыя крэслы, абы як атынкованыя сцены з партрэтамі невядомых мне асобаў, з гравюрамі на гістарычныя тэмы – усё гэта не дадавала яму жаданага лоску і не ўпісвалася ў маё разуменне такіх вясельных установаў. Ва ўсякім разе, у маёй краіне яны мелі іншыя інтэр’еры. Калі шчыра, мне даспадобы быў гэты. Ён адпавядаў і настрою, і месцу, дзе я меў шчасце быць. Піва падалося таксама смачным. Меў рацыю Любо, калі раіў мне чорнага “Злата Козела”, “Піва для чэхаў – прадукт стратэгічны! – сцвярджаў ён. – Такі ж, як для Эміратаў нафта!” Цяпер я меў магчымасць увачавідкі спэўніцца ў справядлівасці сказанага. Чэхі маглі па праву ганарыцца гэтым напоем. Хто-хто, а я ў піве толк ведаў. Я зрабіў яшчэ некалькі сквапных глыткоў і скептычна ўсміхнуўся сваёй самадастатковасці. Потым пачаў разглядаць “Меню”. Яно таксама было незвычайным. Прызнацца, усё для мяне ў гэтым горадзе было незвычайным. Магчыма, я перабольшваў, але, за апошнія гады ўпершыню я адчуваў сябе вельмі шчаслівым чалавекам. Яшчэ б, я знаходзіўся ў адным з прыгажэйшых гарадоў Еўропы і піў піва ў кавярні, якую некалі аблюбаваў сам Кафка. Менавіта яго здымак я знайшоў на старонках так званага “Меню” сярод мноства іншых невядомых мне асобаў. Мне падалося нават, што чэшская мова падобная да польскай. І я паспрабаваў чытаць тлумачальныя тэксты насупраць кожнага здымка. Гэты факт надаў мне яшчэ больш аптымізму, як-ніяк у гэтай краіне я збіраўся жыць пэўны час, а таму веданне мовы было для мяне той неабходнасцю, без якой проста нельга зрабіць кроку. Нечакана мяне паклікалі. Я ўзняў галаву і зірнуў на маладога чалавека, які звяртаўся да мяне на ангельскай мове. Трэба зазначыць, што ў яго вымаўленні прысутнічаў яўны расійскі акцэнт. І гэтага нельга было схаваць нават ад такога невука, як я. Але калі быць шчырым, моўная практыка маладога чалавека была значна лепшаю за маю. З хлопцам былі яшчэ трое маладых людзей прыкладна яго ўзросту: дзве дзяўчыны і хлопец. Відавочна, я быў нашмат старэйшы за іх, аднак гэты факт не засмуціў мяне, тым больш не стаў прынцыповай перашкодай для нашых далейшых стасункаў. І зразумеў тое я ўжо праз некалькі хвілін. Хлопец ветліва павітаўся і папрасіў дазволу сесці за мой столік, бо іншыя месцы ў зале былі занятыя. Я згодна кіўнуў галавой і вырашыў адразу ж расставіць усе кропкі над “і”.

– Рускія? – спытаў я з зайздроснай бесцырымоннасцю. Кампанія здзіўлена пераглянулася.

– Беларусы! – адказаў за ўсіх белабрысы, той, што нядаўна “выхваляўся” веданнем англійскай мовы.

– Адкуль?

– З Мінску.

– О-о!.. Землякі!..

Кампанія, як выявілася, у Празе знаходзілася ўжо некалькі дзён. Дабіраліся яны сюды на сваёй машыне. Белабрысага звалі Зміцерам, а яго

сябра – Стасем, дзяўчат – Наталляй і Жэнькай. Наталля са Зміцерам не так даўно пажаніліся, а ў Прагу прыехалі, каб павянчацца. Аказваецца, існуе такая турыстычная паслуга і ёю шмат хто з моладзі карыстаецца. Цяпер у іх мядовы месяц. Стась жа з Жэнькай – шафер з шаферкай. Яны таксама збіраюцца пажаніцца. Вяртацца на радзіму ў бліжэйшы час кампанія не планавала. Як заўважыў сам Зміцер, усё будзе залежыць ад цуда-гаманца, гаспадыняй якога цяпер з'яўлялася спадарыня Наталля. Па тым асартыменце, што яны замовілі сабе на палудзень, можна было зрабіць выснову, што запасы ў ім хутка скончацца, бо жылі хлопцы на шырокую нагу, не тое, што я. Яно і зразумела, быў бы я на іх месцы, таксама не прамінуў бы пашыкаваць. За півам я расказаў ім сваю гісторыю, як і з-за чаго апынуўся тут, у чужой краіне, і падзяліўся сваімі бліжэйшымі планамі.

– Што ж, рашэнне разумнае. У тваім выпадку, я зрабіў бы тое ж самае, – адобрыў мой намер застацца Зміцер. – Думаю, пры жаданні можна нават уладкавацца на працу. Хоць на якую. Выбіраць тут ужо не даводзіцца.

– Наўрад ці, – засумняваўся Стась і зірнуў недаверліва на Зміцера: – Такіх жадаючых тут гаць гаці. Тым больш, што яго могуць шукаць праз Інтэрпол.

Я ведаў, што такіх, як я тут не магло быць шмат. Я быў адзін такі, але гаварыць пра гэта не стаў.

– Глупства. Ён што, злачынец? Каму ён патрэбен? – не пагадзіўся з сябрам Зміцер. У яго голасе чуліся ноткі няўпэўненасці.

– Не скажы. Пры жаданні, зробяць злачынцам. Насамрэч, усё вельмі проста. Думаю, яму ёсць сэнс прасіць палітычны прытулак.

У думках я згаджаўся са Стасем. З нашай размовы выцякала, што гэты хлопец быў больш практычны і дасведчаны, чым астатнія. А яшчэ, нягледзячы на свой узрост, ён быў чалавекам бывалым і адчайным. Зміцер жа быў злеплены з іншага цеста, больш закрытым, цынічным і схільным да непрыстойных жартачкаў. Мы дапівалі па трэцім куфлі піва, і такія неаптымістычныя размовы пачыналі адмоўна дзейнічаць мне на нервы.

– Неяк будзе, – сказаў я нявызначана і перавёў размову на іншую тэму.

– І ўсё ж, калі прыпрэ, можаш пажыць у манастыры, – вярнула нас да ранейшай гутаркі Жэнька. – Грошай манахі за пражыванне не бяруць. Можна паломнікам прыкінуцца, а яны сталуюцца з імі разам. Мы гэтак з сяброўкай у Полацак ездзілі. У гасцініцы дорага, а ў манастыры – бясплатна. Праўда, папрацаваць крыху давялося. Падлогі мылі, па гаспадарцы дапамагалі...

– А што! Дзельная ідэя, – пакепліва ўсміхнуўся Зміцер. – Глядзіш, сан потым прымеш.

Я не пакрыўдзіўся. Выказаная Жэнькай ідэя сапраўды была вартая ўвагі і, як варыянт, магла некалі мне спатрэбіцца. Я з непрыхаванай удзячнасцю паглядзеў на дзяўчыну і прамаўчаў.

Потым мы доўга гулялі яшчэ па старым горадзе. Пілі ў манастыры манастырскае піва, рэцэпт якога ведалі адны толькі манахі. Захапляліся са схілаў Петржынскага ўзгорку чырвона-чарапічнай Прагай. Наведалі сабор Святога Віта і выставу Франца Кафкі, якая месцілася на тэрыторыі былой цагельні Гергета. Здзівіў незвычайны фантан, дакладней, арыгінальнасць аўтарскай ідэі – двое мужчын спраўлялі прылюдна свае фізіялагічныя патрэбы ў ночвы, якія па сваёй форме нагадвалі абрысы Чэхіі. Фігуры ўвесь

час рухаліся, шчодра распырскваючы вакол сябе празрыстую вадкасць. Як патлумачыла нам гід, аўтар такім чынам хацеў падкрэсліць, што бедную і няшчасную краіну, па якой мы цяпер вандравалі, “паліваюць” і Усход, і Захад. Моладзь шчыра смяялася з арыгінальнай задумы, а я думаў, што гэткі ж лёс валачэ і мая краіна. Але на яе дружна мочацца шмат вякоў не толькі Усход ды Захад, але яшчэ і Поўдзень, і Поўнач. Верагодна, прымаць усё, як дадзенасць – наканаванасць малых краін.

З Любо ў той дзень мы так і не сустрэліся. Затое на Карлавым мосце я ўбачыў незвычайнага жабрака. Здзівіў мяне не сам факт яго існавання ў гэтым прыгожым і багатым горадзе, а знешні выгляд мужчыны і пастава, у якой ён жабраваў. Жабрак стаяў на каленях, упёршыся лбом у асфальт, і маліўся. Галава яго была схавана пад чорным каптуром, а таму твару разглядзець было нельга. Верагодна, па гэтай прычыне мне і хацелася ўвесь час адхіліць каптур і зазірнуць яму ў вочы.

– Яшчэ не факт, што бяздомны, – з веданнем справы сказаў Стась. – Я шмат падарожнічаў, таму ведаю, што міласціна – гэта адзін са спосабаў выжывання. Дарэчы, хочаш навучу цябе быць жабраком? – нечакана прапанаваў ён мне.

– Хіба гэтаму можна навучыць? – здзівілася Наталля.

– А ты думала! У любой справе ёсць свае сакрэты. Можна суткамі тут сядзець і ні цэнта не атрымаць. Найперш, ты павінен выклікаць у мінакоў шкадобу. А таму трэба мець акторскае майстэрства. Талент, калі жадаеце. Давайце паспрачаемся, што пад гэтым каптуром хаваецца адзін з нашых браткоў-славян.

– Жахліва! – перасмыкнула плячыма Жэнька і зірнула на мяне сваімі дзіцячымі шырока вылупленымі вачыма.

– Перастань! Нармальна! – не пагадзіўся з ёю Стась. – Голад не цётка. Захочаш жыць, не да такога яшчэ дадумаешся. Некаторыя з маіх сяброў палову Еўропы аўтастопам праехалі. І я ведаю...

– Не смяшы! – умяшаўся ў размову Зміцер. У яго былі жахліва кастлявыя рукі. Я глядзеў на іх, потым пераводзіў позірк вышэй, бачыў, як на шыі рухаецца ўніз-уверх кадык, як неахайна соўгаецца на целе, быццам бы на вешалцы, кашуля і скептычна ўсміхаўся. І ўсё-ткі ён быў прыгожым.

– Не верыце, і не трэба, – адмахнуўся ад нас Стась.

Я яшчэ раз зірнуў на жабрака. Мужчына ледзь заўважна пагойдваўся. Здавалася, ён медытуе. Насамрэч, ён імкнуўся схавацца, растварыцца ў пустэчы ад нясцерпнай духоўнай навалы. Ён нагадваў нечым скульптуру “Камандор”, якая ўвасабляла ў сабе Донну Анну, жанчыну без твару, якую мы толькі што бачылі ў старым горадзе. “Дык вось што чакае нас пасля смерці!” – падумаў я і рушыў да помніка Яну Непамуцкаму...

## 7

І сніцца мне Вавілонская вежа. Фантастычна прыгожая, як на карціне Пітэра Брэйгеля. Але ўражвае не яе прыгажосць, а незлічоная колькасць людзей вакол. Усе яны нейкія аднолькавыя, нібыта толькі што вылупленыя з інкубатара. У чорных шыкоўных касцюмах і белых сарочках.

– Хто гэтыя людзі і чаму іх так многа? – пытаюся я ў першага сустрэчнага. Чалавек гэты таксама з ліку тых, прыгожа апранутых асобаў. Ён на дзіва тактоўны і ветлівы.

– Гэтыя людзі – будаўнікі! – тлумачыць ён мне.
– Скуль яны? – здзіўляюся я.
– З усіх канцоў свету.
– Што прывяло іх сюды?
– Бог сцвярджае, што ганарлівасць.
– А што самі яны думаюць?
– Што іх прывяла сюды неспазнанасць.
– І што яны збіраюцца тут рабіць?
– Яны хочуць адбудаваць, разбураную Богам Вежу.
– Навошта? – здзіўляюся я.
– Каб зноў адчуць сябе людзьмі! – усміхаецца незнаёмец.
– А гэта што, па-вашаму? – паказваю я яму пальцам на брэйгелеўскі твор.
– Гэта муляж, напамін пра тое, што людзі ніколі больш не пабудуюць такога, – адказвае мінак. Чую ў голасе яго сум і шкадаванне.
– Выходзіць, вы пярэчыце Богу?
– Не!.. Мы пярэчым самім сабе...
Прачынаюся ад прадчування невытлумачальнай трывогі. У акенца настырна стукаюцца, а я не магу зразумець, дзе я. Праціраю вочы і гляджу на гадзіннік.
– Дапамажыце! – даносіцца да мяне знадворку.
Адчыняю дзверцу і выходжу з машыны. Нясцерпна баліць галава. Каламуціць. Маладая дзяўчына хапае мяне за руку і цягне за сабой.
– Хутчэй!.. Прашу вас!.. Яму трэба ў шпіталь. Тэрмінова. Я тэлефанавала ў хуткую, але яны нешта не едуць...
Малады хлопец без ніякіх пазнак жыцця. Ён ляжыць на траве ніцма. Побач з лаўкай. З цяжкасцю паварочваю яго дагары і намацваю на шыі пульс. Намацваецца ён з цяжкасцю.
– Званіце яшчэ раз у “хуткую” – загадваю я дзяўчыне.
Яна матляе ў адказ галавой і цярэбіць сумачку ў пошуках сотавіка.
– Не марудзьце!..
Расшпільваю пацярпеламу верхнія гузікі на кашулі і кладу пад галаву сваю барсетку. Мужчына цяжка стогне і раз-пораз нервова ўздрыгвае. Яго твар у крыві. Трава, дзе ляжаў, таксама.
– Што з ім? – звяртаюся я да дзяўчыны.
– Яго пабілі амапаўцы! – тлумачыць яна.
– Нейкая палітычная акцыя? – гляджу я на яе.
– Быццам бы... Я не ўдзельнічала.
Пад’язджае хуткая дапамога. Кладзем параненага на насілкі. Пасля чаго павольна крочу да сваёй машыны. На паўдарозе мяне спыняе нечы настойлівы вокрык. Азіраюся. Ля “хуткай” спыніўся міліцэйскі УАЗік. Чалавек у форме вяртае мяне назад. Праз хвіліну пад’язджаюць яшчэ некалькі машын без апазнавальных знакаў. Нас абступаюць людзі ў цывільным. Не разумею, што адбываецца. Распіхваю іх убакі, спрабую вырвацца з атачэння. Нехта неахайна штурхае ў плечы. Спатыкаюся, але ўтрымліваюся на нагах. Інстынктыўна азіраюся. Высачэзны амбал з квадратнай галавой незадаволена моршчыць лоб. На яго левай шчацэ глыбокі пачварны шнар. Усмешка ледзь заўважная, абразлівая – намёк на тое, што ад яго можна чакаць што заўгодна. Відавочна, гэта ён мяне толькі што штурхнуў. Яго калега, такі ж плячысты, з пляскатай бычынай шыяй,

крочыць з ім поруч. Твары ў абоіх смуглыя, загарэлыя. Валасы кароткія. І адзін і другі атлетычнага целаскладу, нібыта ў амерыканскіх фільмах. Заглядзеўшыся, зноў спатыкаюся. Малодшы лейтэнант утрымлівае мяне за локаць і штурхае да аўтазака. Гэтая яго бесцырымоннасць злуе мяне, і я бесперспектыўна тузаю рукой, спрабуючы вызваліцца.

– Адпусціце! – крычу я.

У адказ чую жывёльны рогат.

– Ён жа п'яны! І матам лаецца. Ах ты, сука!

– Я не п'яны, – апраўдваюся я.

– Супакойся! Высветлім, хто такі, адкуль, і адпусцім, – як мага ветлівей прамаўляе малодшы лейтэнант. Гляджу яму ў вочы і разумею, што гэтая ветлівасць даецца яму з цяжкасцю.

– Што вы збіраецеся высвятляць? – умешваецца ў размову дзяўчына. Яе завуць Настай. Мы паспелі з ёй пазнаёміцца. Дзяўчына на мяжы істэрыкі. – Што вы збіраецеся высвятляць? – дапытваецца яна. – Я толькі што з цягніка. Я не ўдзельнічала ні ў якіх акцыях. Я выпадкова тут апынулася. Вось мой пашпарт... У дадатак да ўсяго, я цяжарная!

– Заткніся! – спыняе яе мардаварот з бычынай шыяй. Голас ціхі, блізкі да шэпту.

– Сам заткніся! – распырсквае сліну дзяўчына. Хоча нешта дадаць, але пачынае заікацца. Словы застраюць у горле. Сэнсу разабраць нельга. Мардаварот падлятае да яе ўсутыч і рабром далоні наводмаш б'е ёй па твары. Дзяўчына хістаецца, але ўпасці ёй не даюць. Двое ў цывільным хапаюць яе пад рукі і валакуць да аўтазака.

– Адпусціце яе! Адпусціце! – лементую я. Адштурхваю ўбок лейтэнанта і кідаюся да людзей у цывільным. З носа дзяўчыны сочыцца кроў. Хапаю амбала за руку і адпіхваю ўбок. Дзяўчына вызваляецца.

– Дапамажыце! – крычыць яна, звяртаючыся ў пустэчу людскога натоўпу. Пажылы мужчына нервова тузае плячыма і рабіць крок насустрач, але яго спыняе жонка. Мужчына нехаця адыходзіць убок і паварочваецца да нас спіной. Тады дзяўчына кідаецца да купкі жанчын, што стаяць непадалёк, але амбал даганяе яе, хапае за валасы і цягне назад. Я гляджу на ўсё гэта і ад бяссілля плачу. Адчуваю тупы боль пад лапаткай. Праз хвіліну ён мінае, аднак слабасць застаецца. Нечакана робіцца млосна і, каб не ўпасці, аддаюся волі тым, хто мяне трымае.

– Адпусціце мяне! – паўтарае дзяўчына па інэрцыі. – Глядзіць на жывот, потым на малодшага лейтэнанта. У вачах яе боль і страх. – Я цяжарная!

Заўважаю ў позірку міліцыянера спачуванне. Хучэй, шкадобу.

– Адпусціце яе! – прашу я за дзяўчыну.

– Цяжарная? Сядзі, значыць, дома! – незадаволена бурчыць нехта за маімі плячыма.

– Нефіг па мітынгах лазіць! – падтрымлівае яго другі голас.

Твараў людзей не бачу. Мяне моцна трымаюць пад рукі двое ў цывільным. У аднаго з іх надакучліва пішчыць рацыя. Ён нешта адказвае ў мікрафон, потым збаўляе гучнасць і ківае мне на расчыненыя дзверы. Зазіраю ў чорны прарэх і маруджу.

– Таварыш капітан! Што з ёю будзем рабіць? – пытаецца малодшы лейтэнант у амбала. – Можа адпусцім?

Той незадаволена моршчыць лоб і нервова перасмыкае плячыма.

– Радчанка!.. Адставіць!

Што адбываецца далей, не бачу. Мужчына з глыбокім шнарам на шчацэ неахайна штурхае мяне да расчыненай дзверцы. Упарціцца бессэнсоўна. З буды высоўваецца галава яшчэ аднаго міліцыянера.

– Милости просим! – здзекліва ўсміхаецца ён. Пакорліва падаю яму руку. І мяне цягнуць у буду. Навобмацак паўзу да закратаванага акенца. Прыціскаюся плячыма да халоднага жалеза і заціхаю ў чаканні. Следам за мною цягнуць дзяўчыну. Наста б'ецца ў гістэрыцы ля маіх ног. Схіляюся да яе і мацаю лоб. Дзяўчына ўздрыгвае і намагаецца сесці. Дапамагаю ёй. Пачуццё крыўды і жалю прабірае да слёз. “Што мы зрабілі супрацьпраўнага? Што? Скуль столькі нянавісці да нас?” – пытаюся я ў сябе і не знаходжу адказаў на гэтыя пытанні.

– За што яны так з намі? – звяртаецца да мяне з гэтым жа пытаннем дзяўчына.

– Супакойцеся! – суцяшаю яе. Тая не звяртае ўвагі і ўпарціцца:

– Я ні ў чым не вінаватая, чуеце?

– Мы не вінаватыя, – папраўляю я яе.

– Ты гэта ім скажы! – даносіцца да мяне з цемры нечы картавы голас. Пазіраю ў той бок. На запясцях у маладога хлопца блішчаць кайданкі.

– Здаецца, гэтыя сукі выбілі мне зуб, – картавіць ён.

Праз хвіліну наша кампанія прырастае яшчэ двума маладымі хлопцамі. Іх таксама, відаць, моцна білі. Адзін з іх цярэбіць у руках разбітыя акуляры, другі трымаецца за шчаку і час ад часу сплёўвае на падлогу кроў. У яго таксама выбітыя зубы. Ва ўсякім разе, я схільны так лічыць. Сядзім моўчкі. На размовы не цягне. Праз хвілін пятнаццаць будзе ўжо больш за дзясятак арыштаваных. Нягледзячы на тое, што дзверы расчынены, катастрафічна не стае паветра. Жанчын сярод нас толькі дзве: Наста і журналістка нейкага замежнага тэлеагенства. Журналістка ўвесь час абураецца і страшыць міліцыянераў судом. Тыя іранічна пасмейваюцца і ў размову з ёй не ўступаюць. Нарэшце дзверы зачыняюцца. Нас вязуць у пастарунак. Машыну пагойдвае на выбоінах і гарэзлівы сонечны промень раз-пораз кранаецца майго твара. Гэта падобна на здзек. Я пазіраю праз малюсенькае закратаванае акенца на горад і ўзгадваю карціну са школьнага падручніка, на якой арыштанты кормяць праз краты галубоў.

– Дазвольце патэлефанаваць! – патрабуе ў міліцыянера журналістка.

– Тэлефануй! – здзекліва адказвае той.

– Вярніце мне сотавік! – настойвае журналістка. – Вы затрымалі мяне незаконна.

– Любая вы мая! Вас ніхто не затрымліваў, – нахабна ўсміхаецца капітан. – На вас напалі невядомыя... Так? І я падазраю, што гэта быў ён, – ківае капітан у мой бок. – Вы прасілі дапамогі? І мы яе вам аказалі. Фэрштэйн?

– Я нічога ў вас не прасіла.

– Прасілі, – выскаляецца міліцыянер. – Але гэта няважна. У вашай торбачцы, любая вы мая, мы знайшлі наркотыкі. Сумна, але факт!

– Якія наркотыкі? – шчыра здзіўляецца журналістка.

– Ландыш! Ландыш! Прыём! – хрыпіць надакучлівая рацыя. Капітан націскае на гузік.

– Ландыш на сувязі! Прыём!

– Што там у вас?

– Больш-менш парадак... Упакавалі па штату. Тут сярод затрыманых, – ён сквапна сапае ротам паветра і пазірае на Насту, – цяжарная. Што з ёю рабіць?

У паветры павісае паўза. З дынамікаў чуецца занудлівае змяінае шыпенне. Насцярожваюся. Разумею, вырашаецца лёс дзяўчыны.

– Адкуль ведаеш, што цяжарная?

– Сама сказала.

– Па жывату заўважна?

– Я б не сказаў.

– Вязі тады ў аддзел, там разбярэмся. Усё! Канец сувязі!

– Сукі! – не вытрымлівае хлопец з разбітымі акулярамі. Іх ён па-ранейшаму трымае ў руках. Яны без шкельцаў. Адна аправа. – Якія ж вы сукі!

Хлопец, які сядзіць насупраць мяне, уздымае галаву.

– Ты нечага іншага чакаў ад іх?

– Ненавіжу! – прамаўляе праз зубы той, што з акулярамі.

– Гэтага мала, – шапялявіць яго сябар. Я не памыліўся, у хлопца не хапае некалькіх пярэдніх зубоў.

– Нянавісць – гэта адзіная зброя, з дапамогай якой я магу з імі змагацца, – канстатуе хлопец ад бясілля. – Ненавіджу слова “ненавіджу”, але з кожным днём больш і больш разумею, што яно галоўнае ў маёй барацьбе. Яны прыніжаюць мяне. Яны ненавідзяць мой сацыяльны статус. Вы толькі паглядзіце на іх! Яны ж неадэкватныя! Нічога духоўнага, акрамя залепленага баксамі твару. Не гаўно, а так, насрана. Гэтыя сукі знішчаюць у мне тое светлае, дзеля чаго варта жыць.

– З жывёламі трэба размаўляць на іх жывёльнай мове. – бурчыць хлопец, які сядзіць насупраць мяне.

Той, што з акулярамі маўчыць. Я таксама. Машына рэзка бярэцца ўбок і ў будзе робіцца цёмна. Адчуванне, што едзем праз нейкі доўгі бясконцы тунэль. І наперадзе ніякага святла. Наста нервова ўздрыгвае і сіліцца дацягнуцца да закратаванага акенца. Моўчкі сціскаю яе за локаць. Адчуваю, як яна дрыжыць. Дзяўчына пачынае плакаць. Наўзрыд. Яе ніхто не суцяшае...

Адрываюся ад успамінаў. Мужчына насупраць, усё яшчэ не можа ніяк справіцца з антрэкотам. Ён доўга размаўляе па тэлефоне. Нарэшце ўстае і накіроўваецца да выхаду. Мая ежа стаіць не кранутай. Калі яе прынесла афіцыянтка, я не заўважыў. Выпіваю за адзін глыток гарэлку і выціраю рукавом вусны. Ежа не лезе. Хуценька разлічваюся і крочу да выхаду. Заўтра раніцай зноў на допыт.

## 8

Гатэль, у якім хлопцы здымалі невялічкі пакой, меў сімвалічную назву “Апалон”. Месціўся ён у рабочым Жыжкаве, а таму дабірацца да цэнтра адсюль было вельмі зручна, хвілін дваццаць язды на трамваі. Умовы пражывання таксама былі больш-менш ніштаватыя, а як па мне, дык і ўвогуле выдатныя. Сорак даляраў на зямлі не валяліся, а таму дазволіць сабе такой раскошы я не мог. Але барацьба вартая таго, каб змагацца. І я чапляўся за любую магчымасць, каб застацца як мага даўжэй з гэтай

кампаніяй. Я наўмысна марудзіў і падманваў час. Я адмовіўся нават ад сарамлівасці і сціпласці. Мяне запрасілі сюды ўсяго толькі на адну ноч, а я падумваў ужо аб тым, як застацца тут на больш працяглы час. І ўсё дзеля таго, каб пазбавіцца ад страху за заўтрашні дзень. Але моладзь сёння з'язджала. І гэты факт засмучаў мяне, надаваў майму і без таго незайздроснаму быццю, адбітак журботнай самотнасці. Абставіны нечакана змяніліся. Позна ўвечары патэлефанавала маці Наталлі і пасля іх непрацяглай размовы дзяўчына раптам абвесціла ўсім, што заўтра яны са Зміцерам з'язджаюць на радзіму. Кампанія моўчкі пачала пакаваць торбы. Высвятляць, што стала сапраўднай прычынай іх гэтай тарапліvасці я не стаў і з самага ранку, абмяняўшыся тэлефонамі, мы развіталіся. Сыходзіць у нікуды не хацелася. На развітанне я доўга ўзіраўся ў твары сваіх, цяпер ужо не сяброў, нібыта чакаў, што яны раптам перадумаюць і памяняюць рашэнне, потым моцна абняў кожнага, як свайго даўняга, блізкага знаёмага. Без іх мне цяпер сапраўды было сумна і адзінотна ў гэтым горадзе. Рвалася апошняя ніточка з радзімай. Я застраг недзе ў цэнтры Еўропы, згубіўся ў чужой краіне, у незнаёмым мне, містычным горадзе. Я не ведаў, з чаго пачаць.

Праезд на трамваі ў Празе, па маіх мерках, быў даволі не танным, таму, каб сэканоміць некалькі крон на піва, я вырашыў прайсціся пешкі. Пайшоў наўгад, уздоўж трамвайных пуцей. Вярталіся ўчора мы ў гасцініцу позна, таму дарогу запомніць я не здолеў. Ды і не да гэтага нам было, калі шчыра. Жыжкаў асаблівай адметнасцю не вылучаўся. Безумоўна, раён гэты быў сучасны і прыгожы, але далёка не такі, як гістарычны цэнтр. Ён нечым нагадваў мне рабочыя мікраараёны ў маім горадзе, праз якія даводзілася штодня дабірацца на працу. Я крочыў па яго ранішніх вуліцах да тэлевізійнай вежы. Прызнацца, гэта быў адзіны арыенцір, якога я прытрымліваўся, бо ведаў, адразу за вежай пачынаецца стары горад. З цікавасцю пазіраў на жылыя будынкі, якія цягнуліся ўздоўж і думаў пра Томаша, аднаго з галоўных герояў рамана Мілана Кундэры "Невыносная лёгкасць быцця". Гэта быў адзін з любімых маіх раманаў і я не мог яго не захапіць з сабой у дарогу. Дзеянне ў ім адбывалася пераважна ў гэтым горадзе, на гэтых вось вуліцах і, магчыма, менавіта ў адным з гэтых дамоў, якім я цяпер шчыра захапляўся, пад час савецкай акупацыі знакаміты ўрач Томаш мыў вокны, каб выжыць ды не прапасці з голаду. Мыльшчык вокнаў – гэта адзіная пасада, якую здолеў атрымаць малады, але перспектыўны хірург, пасля таго як яго беспадстаўна звольнілі з працы. Недзе тут жа, на гэтых вуліцах, ён сустракаўся з Тэрэзай і выгульваў Карэніна – сучку з лесбійскімі схільнасцямі, падобную целам да аўчаркі, а галавой да сенбернара. Я быў падобны да Томаша. Ва ўсякім разе, я быў такой жа легкадумнай асобай, з разраду тых, што не мяняюцца ні пры якіх абставінах. Я, як і Томаш, бег ад сябе, ад сваёй краіны, не маючы ніякай надзеі вырвацца з вечна замкнёнага кола супярэчнасцяў і выпадковасцяў. Мы плылі з ім па імклівай плыні жыцця і ні аб чым не шкадавалі. Кожнае пакаленне нараджае сваіх дыктатараў, быў перакананы я. Верагодна, Томашу прыходзілі ў галаву гэтыя ж думкі. Ва ўсякім разе, яму не было лягчэй. Ён мог стаць маім братам, дарагім і блізкім мне чалавекам, і няважна, што мы з ім ніколі не сустракаліся. Трагедыю яго жыцця я цягаю з сабой у торбе, як сваю. Яна стала і маім гарбом, прарасла на паперы літарамі, ажыла ў словах. Томаш – адзін з тых нешматлікіх, блізкіх мне людзей, якімі я

даражу, на каго спадзяюся і разлічваю ў гэтым чужым горадзе. Мы ідзем адзін аднаму насустрач. Даўно. І наша сустрэча – непазбежнасць.

Пачынаўся стары горад, з вузкімі людным вулачкамі, з гатычнымі шпілямі касцёлаў і з прыгожымі старымі будынкамі. Я павольна спусціўся ўніз, потым падняўся на мост і выйшаў да чыгуначнага вакзала. Недзе за ім, калі верыць Зміцеру, пачыналася Вацлаўская плошча. Я перасёк вуліцу і выйшаў да Народнага музея. Панарама, якая адкрылася мне з гэтага месца, агаломшыла мяне. Я глядзеў на горад з той самай кропкі, з якой на яго паглядаў некалі мой бацька. Вачыма чужынца і захопніка. Ва ўсякім разе, такім яго лічылі тыя, хто стаяў па іншы бок цемры. Безумоўна, ён не здагадваўся нават, што праз шмат гадоў, яго сын стане патэнцыйным жыхаром гэтага прыгожага месца, якое ён збіраўся скарыць. Я ўзіраўся ў сляды ад куль на карнізах манументальнага каменнага будынка і бязгучна плакаў. Узгадваў нядаўні сон пра Вавілонскую вежу і з жахам думаў: “Няўжо гэты горад таксама – твор людской ганарыстасці? Няўжо імкненне ствараць Прыгажосць і ёсць ганарыстасць? Толькі таму, што Богу Богава?.. Але разбураючы створанае, Бог сам робіцца Герастратам. Мімаволі. Ці ведае ён пра гэта? І калі мы – яго вобраз і падабенства, значыць гэтаму вандалізму мы навучыліся ў Яго. Не!.. Я не жадаў стаяць на руінах прыгожага манументальнага будынка Народнага Музея, няхай сабе і справядліва разбуранага маім бацькам! А ў сваёй справядлівасці ён, верагодна, тады не сумняваўся.

Я яшчэ раз зірнуў удалячынь і замест горада нечакана ўбачыў перад сабой руіны. Помнік Святому Вацлаву некуды знік, на яго месцы на пастаменце ўзвышаўся савецкі танк. З гарматы цэліўся проста ў мяне нехта нябачны. Над танкам у паветры вісеў падвешаны да аблокаў за ногі мёртвы конь, на пузе якога сядзеў зняважаны Святы Вацлаў. Вяроўкі сыходзілі крывёю. Недзе побач бесперапынна вылі сірэны. Чуўся адчайны і неймаверны людскі енк і лямант. Ад нясцерпнага грукату колаў сціскаліся да болю барабанныя перапонкі. Ля танка гарэў абліты саляркаю чалавек. Я бачыў яго вырачаныя, безжыццёвыя вочы. Яны былі поўныя болю, смутку і адчаю. Чалавек нешта шаптаў у цемру. Магчыма, ён маліўся. І мне раптам захацелася аслепнуць і аглохнуць, абы толькі не бачыць гэтага жаху і не чуць той адчайнай памінальнай малітвы.

Рэшту дня я правеў у самоце. А яшчэ, у бязмэтным блуканні па гораду. Бязмэтнасць быцця была для мяне тым неймаверным і разбуральным фактарам, якога я заўжды баяўся, якога імкнуўся не падпускаць да сябе блізка. Безумоўна, звычка быць з усімі і ні з кім, загартавала мяне, зрабіла абыякавым да адсутнасці людской увагі. Але ў гэтым горадзе я не жадаў адчуваць сябе іншародным целам. Тым больш, што мае блуканні не заўжды былі пустымі і бязмэтнымі. Я шмат што паспеў спазнаць, убачыць, шмат з кім пазнаёміцца і паразмаўляць. Ва ўсякім разе, цяпер я дакладна ведаў, што людзі могуць паразумецца адно з адным нават на розных мовах. І гэта абнадзейвала.

Начаваў я ў скверыку ля Народнага Музея. Яшчэ зранку я прыкмеціў там пад старой ліпай шырокую лаўку. Яна і стала для мяне ў тую ноч ложкам. Са сцежкі лаўка была незаўважнай, затое я мог бачыць усіх, хто праходзіў непадалёк. Месца гэтае падалося мне вельмі зручным і я начаваў тут некалькі начэй запар, пакуль у госці да мяне аднойчы не завітаў гэткі ж бяздомны, як і я. Ён марудна тлумачыў мне нешта, размахваў рукамі і

заходзіўся вар'яцкім смехам. Я не здольны быў зразумець яго і вырашыў, што займаю не сваё месца. Безумоўна, я перабольшваў. Магло стацца, што незнаёмец быў тым, выпадковым мінаком, якому нясцерпна хацелася падзяліцца з першым стрэчным сваёй адметнай жыццёвай гісторыяй, гэтак жа, як і некалі падзяліўся са мной сваёй гісторыяй Любо. Але выпрабоўваць лёс я не стаў і памяняў месца дыслакацыі.

Наступны дзень я правёў у Градчанах. У самым прыгожым раёне Прагі. Тут, як нідзе ў іншым месцы, я знайшоў шмат схованак, дзе можна было стаіцца ад дапытлівых людскіх вачэй. Цяпер я вышукваў іх наўмысна. Грошай з кожным днём менела, а мне трэба было жыць. Дакладней, выжываць. Ідэю, завесці знаёмства з манахамі, агучаную Жэнькай, я пакідаў на крайні выпадак, на даждлівую і нудную восень, калі жыць стане сапраўды невыносна. Ночы пакуль што былі цёплыя і дазвалялі мне начлегі на чыстым паветры. Маім прытулкам цяпер мог стаць любы скверык і любая лаўка ў ім.

Спяшацца мне не было куды. Таму, папалуднаўшы ў адной са шматлікіх кавярняў на Градчанскай плошчы, я сядзеў цяпер непадалёк ад прэзідэнцкага палаца і чытаў знакаміты раман Мілана Кундэры. У торбе маёй стаяла адкаркаваная пляшка са "Златым Козелам" і я спрытна час ад часу вывуджваў яе адтуль, рабіў некалькі сквапных глыткоў, пасля чаго хаваў яе назад у торбу. Піць піва адкрыта ў людных месцах не дазвалялася і я не хацеў лішні раз нарывацца на непрыемнасці.

– О!!! А я таксама чытала гэты раман, – пачуў я зусім блізка прыемны дзявочы голас. Адарваўся ад кніжкі і падняў галаву. Дзяўчына праз плячо зазірала ў кнігу. Не дачакаўшыся ад мяне належнай рэакцыі, яна вінавата перасмыкнула плячыма і адыйшла ўбок. У незнаёмкі быў дробны хваравіты твар з вялікімі чорнымі вачыма. Але гэтая прыродная дыспрапорцыя не рабіла яе непрыгожай, хутчэй наадварот. "Няўжо на маім твары напісана, што я беларус? – раздражнёна падумаў я і інстыктыўна пацягнуўся да торбы за півам. Дзяўчыне ж падалося, што я хаваю кніжку.

– Пачакайце! Можна паглядзець? – заспяшалася яна.

Я працягнуў ёй кніжку. Яна пагартала яе некалькі хвілін і вярнула назад.

– Я за вамі даўно сачу. Рускіх здалёк відна.

– Я беларус, – удакладніў я. І, адчуўшы сваю беспадстаўную агрэсіўнасць, папрасіў прабачэння.

– Падумаеш! – хмыкнула дзяўчына.

Памаўчалі.

– А вы, значыць, Тэрэза! – іранічна ўсміхнуўся я, наўмысна ўзгадаўшы адну з каханак Томаша.

– Што вы! Я Сабіна! – смела адрэагавала на маю іронію такой жа іроніяй дзяўчына.

– Тады нам ёсць аб чым з вамі пагаварыць, – нахабна сказаў я.

– Вы так лічыце?

– Безумоўна.

Яна зрабіла некалькі крокаў і азірнуліся:

– Як вам сабор Святога Віта?

Я пайшоў за ёй следам.

– Такую прыгажосць бачу ўпершыню ў сваім жыцці.

Змяркалася. Накрапваў дождж. Карлаў мост, праз які мы ішлі, пачынаў

набываць нерэальныя, містычныя абрысы. Жоўтыя ліхтары выхоплівалі з цемры задуменныя твары святых на скульптурах. Я пазіраў скоса на сваю новую знаёмую. Яе твар быў таксама жоўты, нібыта ў нябожчыка. Дзяўчыну звалі Ленай. А яшчэ яна была масквічкай. І гэта ўсё, што я пра яе пакуль ведаў. Размова не клеілася, і мы пераважна маўчалі. Колькі я не імкнуўся распачаць гутарку, яна абавязкова не мела працягу. Гэта пачынала раздражняць мяне. Нечакана дзяўчына прапанавала мне схадзіць на канцэрт арганнай музыкі ў сабор Святога Іллі. Я мімаволі пацягнуўся да кішэні за гаманцом, у якім амаль нічога ўжо не засталося, і падумаў, што не магу дазволіць сабе такой раскошы. Яна ўгадала мае думкі і заспяшалася:

– У мяне ёсць два квіткі. Сябар мой заняты іншымі справамі, так што, калі вы не супраць...

Касцёл быў фантастычна прыгожы. І звонку, і знутры. Нейкая маладая дзяўчына правяла нас у сярэдзіну. Я аглядзеўся. Лаўкі былі занятыя слухачамі. Лена выглядзела некалькі вольных месцаў і, як маленькага хлопчыка, пацягнула мяне за руку некуды ўглыб залы. Мы занялі вольныя месцы проста ля імправізаванай сцэны і прыціхлі ў чаканні. Пачулася музыка, як свежы павеў ветру. Прызнацца, я не ўпершыню слухаў у касцёле Баха, але гэты арганны канцэрт быў нечым неапісальным і фантастычным, тым, што не адпавядала маім ранейшым эмоцыям і ўяўленням. Гэта было захапленне, змешанае з жахам. Пасля Баха гучалі яшчэ Моцарт, Вэрдзі і Вівальдзі. Мы, як малыя дзеці, трымалі адно аднаго за рукі і патаналі ў замілаванні. Пасля канцэрта доўга гулялі па Старамесцкай плошчы. Захапляліся Пражскім гадзіннікам, на верхнім цыферблаце якога пад містычную музыку, што надавала яшчэ большую верагоднасць і пэўнасць таму, што там адбывалася, ажывалі розныя міфічныя фігуры: узнікалі шыбеніцы, скакалі конніцы, ваявалі рыцары, званілі ў званіцы шкілеты, з'яўляліся апосталы. Потым гулялі па начных цесных пражскіх вулачках. Лена захоплена расказвала мне пра містычную здань Смерці, якая нібыта ходзіць недзе побач і, як марыянетак, цягае за ніначку за сабою людзей. Я сціскаў халодную далонь дзяўчыны і мне было страшна. Я баяўся ёй у гэтым прызнацца. "Усе мы ідзем да смерці! – суцяшала мяне дзяўчына і шчыра дадавала: – Толькі ёй адной пад сілу аднолькавасць танца з каралём і жабраком, вучоным і селянінам...". Я слухаў яе і пакорліва плёўся следам. Мне было пляваць на ўсе цяжкасці гэтага жыцця. Я спытваў у гэтыя хвіліны неверагодную і невыносную лёгкасць быцця, як і некалі малады Томаш. Верагодна, інакш было нельга ў гэтым прыгожым і містычным горадзе. Я не здагадваўся нават, што дзяўчыне, якой я так захапіўся, за якой пакорліва хадзіў следам, жыць засталося лічаныя дні.

Мы спусціліся з маста ўніз і пайшлі ўздоўж Влтавы. Потым крыху збочылі і выйшлі на шырокі светлы прагал. Вузкая рачулка, якая цягнулася па правы ад нас бок, мела містычную назву – Чартоўка. Яна ўтварала гэтую выспу, якую турысты называлі пражскай Венецыяй. Мы выбралі больш-менш высокае сухое месца на беразе і селі на траву. Шапацелі лістотай векавыя дрэвы. Чуўся ціхі плёскат вады ля калёс старога млына. А на мосціку, што вёў да кавярні "Млыньска", нехта гучна кашляў. Потым усё сціхла. Цішыня гэтая была працяглай і невыноснай. Мы не прамовілі больш ні аднаго слова. Праз пэўны час падняліся з травы і рушылі да кавярні. Перад мастком дзяўчына спынілася і рэзка азірнулася.

– Бывай!

– Як так?.. Я не хачу з табой развітвацца.

– Не шукай мяне больш ніколі, чуеш! – катэгарычна сказала яна і рушыла ў цемру. І я зразумеў, што мне ніколі ў жыцці не знайсці тыя патрэбныя, выратавальныя словы, якія маглі б спыніць яе. Я стаяў і не ведаў, што мне рабіць. Рыпеў здрадліва коламі вадзяны млын. А мне здавалася, што гэта нехта нябачны скрабецца ля майго сэрца. Магчыма, гэта былі мае сум і адзінота.

## 9

Мяне не б'юць, не катуюць, са мной праводзяць выхаваўчыя прафілактычныя гутаркі. Пра тое сказаў мне сам следчы. Трое мардаваротаў у чорных масках уладкоўваюцца ў крэслах насупраць і моўчкі назіраюць. У размову яны не ўмешваюцца. Іх задача – прысутнічаць. Са слоў таго ж следчага, гэтыя людзі – панятыя. Безумоўна, ён гэтак жартуе. Бо хіба могуць быць панятымі глуханямыя? Кашулі ў амбалаў закасаныя да локцяў. Рукі ляжаць на каленях. Яны сціснутыя ў кулакі. і, нібыта цяжкія малаткі, застыглі ў чаканні чыйгося таемнага загаду. Неаднойчы думаю сабе: "Гэтыя рукі павінны былі б ствараць прыгажосць!.." Разумею абсурднасць гэтай жахлівай думкі і ганю яе прэч. Пераводжу позірк на следчага і пачынаю думаць аб несправядлівасці – той, што існуе ў свеце даўно, з часін стварэння самага чалавека. Допыты цягнуцца ўжо некалькі тыдняў і сённяшні, як я разумею, не апошні. Згодна пратаколу, мяне абвінавачваюць у датычнасці да несанкцыяваных палітычных акцый, якія нібыта справакавалі масавыя беспарадкі,. хаця гэта такая ж лухта, як і сам факт таго, што я тут знаходжуся. Допыты – нечы чужы, непрабудны сон, які сніцца чамусьці мне. Чаму? Я так ніколі, верагодна, і не зразумею. Ніякіх іншых абвінавачванняў мне пакуль што не прад'яўляюць, а аб сапраўдных мэтах такой узмоцненай зацікаўленасці да маёй сціплай асобы з боку спецслужбаў, я магу толькі здагадвацца. Са мной размаўляюць на мове намёкаў, якой я не разумею і разумець не хачу. Адзінае, што не выклікае ніякага сумнення, гэта тое, што я – ахвяра нечай жахлівай гульні, пешка, ад якой залежыць сыход усёй партыі. А таму справы мае дрэнь. "Але чаму я? Чаму?.. – думаю я неаднойчы і не знаходжу на гэтыя пытанні лагічнага адказу. Суцяшае адно, калі яны такія дасведчаныя ў маёй біяграфіі, калі адсочваюць кожны мой крок на працягу некалькіх тыдняў, то не могуць жа яны не ведаць, што палітыкай я не цікаўлюся, што ў сувязях з апазіцыяй западозрыць мяне нельга. Безумоўна, калі капнуць больш глыбей, калі вывернуць нутро навыварат, там, пры жаданні, можна шмат чаго накапаць небяспечнага і варожага. Бо я, як і пераканаўчая большасць людзей у маёй краіне, ціха ненавіджу гэтую ўладу, як ненавіджу і тую сямейную кланавасць, якую яна спарадзіла, з неймаверна высокімі заробкамі і хранічным невылечным гультайствам. Ненавіджу я таксама і той страх, тую зайздрасць і нянавісць, якія яна здолела пасяліць ува мне і якіх цяпер, верагодна, ужо ніколі не выкурыць са свядомасці, з якімі давядзецца жыць і мірыцца на працягу многіх гадоў. Але гэтая нянавісць мая толькі ў думках. Знешне яна нічым не праяўляецца. Я з ліку маўклівай большасці, якая выдатна разумее, што адбываецца вакол, але мяняць нешта ў іншы бок не здольная. Змагацца з ветракамі – справа вар'ятаў, перакананы я. Некаторыя ж з маіх сяброў схільныя лічыць, што ўсё, што адбываецца, адбываецца з маўклівай згоды

такіх, як я, што мы тыя, якія збіраюцца адсядзецца і адмаўчацца, але таго нам зрабіць не ўдасца. За намі таксама прыйдуць. Няхай сабе і не ў першую чаргу, але абавязкова прыйдуць. Я не згодны з імі. Мне хочацца верыць, што мая цярплівасць і асцярожнасць – генетычна-гістарычныя. Не заўжды трэба гаварыць дурням, што яны дурні!

Сённяшні допыт, калі гэты псіхалагічны спектакль можна назваць допытам, нічым не адрозніваецца ад папярэдніх. Праводзяць яго па завядзёнцы без адваката і мне пачынае здавацца, што асоба ў пенсне, ніякі не следчы, а турэмны псіхолаг, які рыхтуе мяне да нечага больш жахлівага і жудаснага, пра што я яшчэ не здагадваюся. З суседняга пакоя далятаюць увесь час нечыя неймаверныя пакутныя стогны і крыкі. Дзверы наўмысна адчыненыя, каб я мог іх чуць. Але чуць гэта ўсё невыносна. Размова ні аб чым цягнецца некалькі гадзін. Выслухваю яе стоячы. Сесці мне сёння не прапаноўваюць. Пытанні асобы ў пенсне выклікаюць псіхалагічны дыскамфорт. Спрабую нешта адказваць. Хаця, больш слухаю. Напрыканцы гутаркі следчы агучвае жахлівую рэч, што быццам бы з сённяшняга дня мяне бяруць пад варту і што ў ізалятары я павінен буду правесці, як мінімум трое сутак. На маё недаўменнае і адчайнае, “навошта?” і “вы не маеце права!”, ён толькі загадкава ўсміхаецца. Хаця на твары яго выразна напісана: “Памыляешся, маем! Прывыкай, хлопча, да казённых харчоў!..” Потым ён выклікае дзяжурнага і мы доўга з ім крочым па заблытаных калідорах правасуддзя з мноствам дзвярэй і мноствам размаітых шыльдачак на іх. “За кожнымі – па служыцелю, – думаю я, падлічваючы ад безвыходнасці колькасць наяўных кабінетаў. – Няўжо ўсё так кепска?..” Потым па лесвіцы мы спускаемся ўніз. Сквапна хапаю паветра. Яно цяпер з прымессю брудных пахаў, нямытага чалавечага цела і цыгарэтнага чаду. Ад усяго гэтага кружыцца галава і цягне на ваніты. З цяжкасцю стрымліваю пазывы.. “Чаму так?.. Чаму?..“ – не магу я ніяк зразумець. Мне здавалася дасюль, што я – чалавек законапаслухмяны, што са мною не можа адбыцца таго, што адбываецца. Я не павінен быць тут апрыёры. А можа гэта не я? Можа я граю нечую роль у чужым сне, сюжэт якога да канца яшчэ не напісаны?..”

У камеры смурод яшчэ большы. На парашы нязмытыя рэшткі чалавечай жыццядзейнасці. Спрабую пусціць ваду, аднак зліўны бачок не працуе. Нашу яе прыгаршчамі з умывальніка. Каб дасягнуць пэўнага выніку, раблю больш за дваццаць ходак. Ля сцяны на нарах нечае распластанае нерухомае цела. Спрабую наладзіць кантакт з незнаёмцам. На мае звыклыя, кароткія пытанні хлопец не рэагуе. Саджуся на цагляную падлогу ля батарэі і заглыбляюся ў думкі.

Дзяцінства маё было кароткім і незапамінальным. Таму выдзеліць нешта значнае з яго амаль немагчыма. У няпоўныя шаснаццаць мне падалося раптам, што я ведаю пра жыццё ўсё, што хлусня – гэта толькі адзін са спосабаў псіхалагічнай абароны, ні больш ні менш – акторская гульня, у якой людзі выдаюць сябе за іншых, не тых, кім яны ёсць на самой справе. З цягам часу я зразумеў, што хлусяць усе, што хлусня – неабходнасць, без якой не абысціся. І практыкавацца гэтаму рамяству я пачаў вельмі рана. Маме было ўсё адно, а з айчымам мае адносіны адразу не заладзіліся. Цяжар майго выхавання лёг на плечы незамужняй цёткі, мамінай роднай сястры, якая дагаджала мне ўва ўсім, заахвочваючы любыя мае выхадкі. Акрамя фанатычнага захаплення, ніякіх іншых пачуццяў мае фантазіі ў яе не выклікалі. Маці з цягам часу западозрыла ў нашых адносінах нейкі сха-

ваны фальш, і, як мне падалося, стала рэўнаваць цётку да мяне. На тым яе вольнасці ў маім выхаванні і скончыліся. Мама раптам адчула сябе мамай і паспрабавала даказаць гэта ўсяму свету. Прызнацца, яна заўжды душыла мяне сваёй нелюбоўю. Яна нагадвала нечым індыйскага факіра, які гіпнатызуе змяю гукамі сваёй дудкі. Пасля працяглых выхаваўчых лекцый на тэмы “так нельга”, або“гэтага нельга”, якія адбываліся цяпер рэгулярна, я замыкаўся ў сабе і імкнуўся нікога не дапускаць у свой свет. Пра філасофію Дастаеўскага “аб карысці эгаізму”, даведаўся ад сваёй класнай. Я хадзіў у яе ў любімчыках, і мне аднаму толькі было дазволена пускацца з ёю ў дыскусіі. Класная была выкладчыцай рускай літаратуры, і гэта яна выхоўвала ўва мне любоў да кніжак. Ратавала яна мяне таксама і ад недахопу бацькоўскай увагі. Погляды іх на большасць жыццёвых праяваў не супадалі, і часта, нават неістотныя, дробязныя спрэчкі, перарасталі ў працяглыя гнеўныя сваркі. Прычынай былі, звычайна, бытавыя праблемы. У такія хвіліны наш дом ператвараўся ў вар’ятню. Я адчуваў сябе закладнікам няпростых бацькоўскіх адносін, болей таго, я граў у гэтым усім першую скрыпку. Негатыў часткова перадаваўся і мне. І я ненавідзеў за гэта сваіх бацькоў. “Жыццё – камерцыйная дамова!” – навучала мяне цярплівасці цётка. – Задушы ў сабе страх, пазбаўся ад чужой залежнасці!.. Ты самы таленавіты! Ты самы разумны!..“ Насамрэч, я быў звычайны са звычайных і мала чым вылучаўся сярод аднагодкаў. Але яны мяне і не цікавілі. Ужо ў чатырнаццацігадовым узросце я паспрабаваў выдаліць з сябе ўсе свае ранейшыя дзіцячыя мары, як нешта нязначнае, лішняе і непатрэбнае ў жыцці. Я не здагадваўся тады яшчэ, што выцесненае мною, мае схільнасць аднойчы вяртацца. Прачнуўшыся нeяк наранку, я зірнуў на сябе ў люстэрка і з зайздроснай упэўненасцю сказаў: “Вось і ўсё, я дарослы! Я не залежу больш ад вашай паганай прысутнасці! Цяпер я магу ўсё!” Ад чыёй канкрэтна, удакладняць я не стаў. Гэта была доўгачаканая і жаданая свабода. Засталіся цяпер толькі дробязі, выявіць межы гэтай самай свабоды. І навучыцца іх парушаць...

Прачынаюся ад нясцерпнага болю. У камеры цёмна. Адсутнічае нават дзяжурнае святло. Нехта нябачны і неймаверна дужы асядлаў мяне і заламвае мае рукі за спіну. Другі незнаёмец, а іх двое, імкнецца надзець мне на галаву нешта слізкае і вільготнае. Паспяваю войкнуць і цапнуць зубамі незнаёмца за руку. Моцны ўдар пад рэбры робіць мяне больш пакорлівым. Катастрафічна не стае паветра. Задыхаюся. На маёй галаве цэлафанавы пакет, і мяне хочуць задушыць. Ад бяссілля брыкаюся і мукаю нешта незразумелае. Яшчэ хвіліна, і губляю прытомнасць...

Прыходжу ў сябе толькі на ранку. Нехта нябачны палівае мяне з кубка вадой. Расплюшчваю вочы і шукаю на нарах свайго напарніка. Яго там няма. У турэмным пакоі я адзін. Бразгаюць засаўкай дзверы, і ў камеру зазірае наглядчык. Візуальна аглядвае пакой, падыходзіць да мяне і, схіліўшыся, мацае мой лоб. Потым ідзе да дзвярэй. Чую, як аддаляюцца яго крокі. Потым усё сціхае. Спрабую падняцца з нараў. Галава кружыцца, і я зноў знясілена апускаюся на голыя дошкі. Дзень баўлю ў пакутах. Да баланды, што прыносіць мне наглядчык, не дакранаюся. Ноччу мучыць бяссонне. І страх. Засынаю толькі наранку, але спаць мне не дазваляюць. Прыходзіць дзяжурны і вядзе мяне да следчага. “Панятых” на гэты раз у пакоі няма. Асоба ў пенснэ моўчкі ківае на крэсла і пачынае разліваць у кубкі гарбату. Не адмаўляюся. П’ем моўчкі. У пакой нехта стукаецца. Гэта вярнуўся дзяжурны і прынёс мае рэчы: тэлефон і барсетку з дакумента-

мі. Следчы адмыкае шкафчык і вымае з зялёнай тэчкі некалькі паперак. Чытае сам, а потым падсоўвае іх мне.

– Правер па спісе і распішыся, – загадвае ён.

Чытаю тэкст праз радок. Мне ўсё роўна, што там напісана. Хочацца вырвацца хутчэй на волю. Стаўлю подпісы і вяртаю паперкі следчаму.

– А гэта вось сім-карта, – працягвае ён мне нейкі маленькі квадрацік. – Паставіш яе ў свой тэлефон. Прама цяпер, каб я бачыў. Нумар, дарэчы, не памяняўся.

Моўчкі ківаю галавой. Задаваць пытанні мне не з рукі. Чаму-чаму, а гэтаму правілу мяне навучылі.

– Спатрэбішся, выклічам! – лагодна паляпвае мяне па плячы следчы і праводзіць да дзвярэй. Выціскаю сціплую ўсмешку і пацiскаю на развітанне руку.

## 10

Да добрага прывыкаеш хутка. Да Прагі – яшчэ хутчэй. Але звыкнуцца з думкай, што ніколі больш не сустрэнуся з Ленкай, я не мог. Я шукаў яе тры дні запар. Падоўгу сядзеў у кавярні “Млыньска”, непадалёк ад якой мы гулялі тым вечарам, піў піва і пісаў лісты ў нікуды. Потым рваў іх і пісаў новыя. Іншы раз мне здавалася, што я звар’яцеў. Грошы даўно скончыліся, а разам з імі скончылася маё бестурботнае жыццё. Для самаактуалізацыі мне не хапала цяпер мізэра – ежы. Біблейскае вызначэнне “не хлебам адзіным” было не для мяне. Я прытрымліваўся тэорыі Маслоу і ў маім разуменні, ідэальным грамадствам было – грамадства накормленых людзей, без падставаў для страху і трывог. Усё правільна, толькі задавальняючы больш нізкія патрэбы, мы расчышчаем дарогу для больш высокіх – духоўных. Хлеб надзённы даводзілася здабываць цяпер крывёю і потам. Днём я гандляваў каляровымі дзіцячымі шарыкамі на Карлавым мосце, а як толькі пачынала змяркацца, пераапранаўся ў зрэбную вопратку і ішоў жабраваць. Маёй паперцю цяпер стаў невялічкі лапік брукаванкі ля помніка чэшскаму святому Яну Непамуцкаму. Непадалёк ад яго я прымаў позу будыскага манаха і нацягваў на галаву чорны каптур, каб схаваць ад прахожых свой твар. Схавацца ад сябе было нашмат цяжэй. Ля помніка заўжды было людна. Турыстаў сюды вабіла вера ў тое, што калі дакрануцца рукой да святога і папрасіць у яго для сябе што-небудзь, жаданне абавязкова збудзецца. Па легендзе Яну Непамуцкаму адрэзалі язык, а яго цела апусцілі ў Влтаву. І тады з вады паказаліся пяць зорак, якія і сталі святому німбам. Я такой святасцю пахваліцца не мог, я не ведаў ніводнай малітвы, а таму замест яе чытаў вершы. Іх я таксама няшмат мог успомніць, таму даводзілася ўвесь час паўтарацца і пераказваць адзін і той жа па некалькі разоў. Магчыма, менавіта таму выцерты турыстамі да боскага бляску бронзавы твар святога, выпраменьваў здзіўленне і незадаволенасць мною. Знаходзіцца доўга ў нязвыклай позе было заняткам не з лёгкіх. Нават пасля непрацяглага рытуалу “набажэнства” нясцерпна балелі калені. Цела заклякала і доўга не падпарадкоўвалася. Спачатку я мог вытрымаць позу лотаса не болей, чым гадзіну. З цягам часу прызвычаіўся і “маліўся” нашмат даўжэй. Даходы мае пачалі расці, і праз некалькі дзён я катэгарычна адмовіўся ад гандлю шарыкамі. Гэты занятак дастаўляў мне толькі клопат. Мала таго, што ён не даваў важкага прыбытку, але ён яшчэ і адбіраў вольны час. Цяпер жа я

зноў мог падоўгу гуляць па горадзе. Хацелася знайсці сваіх сяброў Любо і Лену. Калі б спытаў нехта, навошта, наўрад ці я змог бы адказаць ім нешта зразумелае. Магчыма, мне было нясцерпна адзінотна ў гэтым вялікім горадзе. Аднойчы ў кавярні "Млыньска" мне пашчасціла паразмаўляць з бармэнам. Людзей у зале было няшмат, і я за півам ля стойкі расказаў яму гісторыю пра рускую дзяўчыну. Нават выказаў сваю гіпотэзу, што яна павінна кватаравацца недзе ў адным з бліжэйшых жылых раёнаў. Бармэн уважліва выслухаў мяне і спахмурнеў. Тое, што ён расказаў, выбіла мяне з каляіны канчаткова. Ён успомніў гэтую безнадзейна хворую рускую дзяўчыну. Болей за тое, ён быў знаёмы з ёю асабіста. Дзяўчына лічылася заўсёдніцай у кавярні і аднойчы, калі ёй зрабілася кепска, ён выклікаў ёй хуткую дапамогу. Аб гэтым яго папрасіў малады чалавек, з якім Лена была ўвесь час. Гэты хлопец і расказаў яму гісторыю яе жыцця. Як выявілася, Лена была хворай на лейкемію і не магла не ведаць, што жыць ёй засталося нядоўга. Прыехала яна ў Прагу наўмысна, каб тут памерці. З таго часу, як яе забрала хуткая дапамога, ніхто яе больш у кавярні не бачыў.

У той дзень я напіўся ўшчэнт і ледзь было не патрапіў у паліцыю.

Мінула некалькі дзён і жыццё зноў прымусіла мяне заняцца нязвыклым і ганебным заняткам. Як толькі пачынала змяркацца, я, як і раней, спяшаўся заняць сваё месца ля помніка. Уладкоўваўся непадалёк, каб не замінаць турыстам, прымаў улюблёную позу і пачынаў чытаць вершы. Трэба прызнацца, я ніколі не глядзеў у вочы тым, хто ахвяраваў мне грошы. Мая галава заўжды была схілена долу, і я мог толькі бачыць ногі сваіх выпадковых і нявольных спонсараў. Тое размаітае мноства фасонаў туфляў і басаножак з усіх краін свету, якія я кожны дзень меў магчымасць назіраць, маглі б зрабіць з мяне сапраўднага спецыяліста-артапеда, а, магчыма, і мадэльера. Звінелі-сыпаліся ў абрэзаную пластыкавую бутэльку манеты. Іншы раз яны не траплялі ў посуд і падалі на брук. Я паспешліва падбіраў іх і паўтараў, як зачараваны: "Зорка Венера ўзышла над зямлёю, светлыя згадкі з сабой прывяла... Помніш, калі я спаткаўся з табою, зорка Венера ўзышла..." Аднойчы, калі я збіраўся ўжо сыходзіць, нечакана ўбачыў ля сябе сабаку. Дакладней, убачыў яго пярэднія дужыя лапы. Верагодна, гэта была аўчарка. Сабака лізнуў мне ліслівa руку, і я гідліва прыбраў яе. Потым прыпадняў каптур і аглядзеўся. Сабака візгліва адскочыў убок і стаў брахаць. Наморднік на ім быў зняты, і я падумаў, што ён можа папросту ўкусіць мяне.

– Карэнін! Карэнін! – паклікаў я наўгад.

Сабака працягваў брахаць на адлегласці. Аднекуль з'явіўся гаспадар і начапіў яму на пысу наморднік. Але сабака ўсё роўна не супакоіўся. Тады мужчына сілай адцягуў яго ўбок. І тут я пачуў сваё імя. Упершыню за ўвесь гэты час да мяне звярталіся, як да свайго знаёмага:

– Павел!

Я ўздрыгнуў і падняў галаву. Я не мог не пазнаць гэтага крыху заіклівага, з заўважным акцэнтам, голаса. Вядома, гэта быў Любо. І той факт, што мы нарэшце знайшліся, быў для мяне сапраўдным шчасцем.

– Не Павел, а Павал! – далікатна паправіў я яго. І, не хаваючы радасці, дадаў: – Любо! Ты так і не навучыўся правільна вымаўляць маё імя.

Мы абняліся, як блізкія людзі, і доўга не адпускалі адзін аднаго з абдымкаў. Сабака лагодна павізгваў побач ля нашых ног і звар'яцела кружляў вакол у зразумелым толькі яму аднаму рытуальным танцы.

– Я шукаў цябе, Любо! – шчыра прызнаўся я. – Быў час, калі мне цябе вельмі не хапала.

“Божа, што я раблю? – думаў я, папракаючы сябе за гэтую сваю сентыментальнасць. – Ці патрэбна яму мая гэтая адкрытасць?..”

Але я не хлусіў. Мне сапраўды не хапала яго. Вось толькі ці меў я права разлічваць на ўзаемнасць, на яго разуменне? Ці не наіўны і беспадстаўны я быў? Ці мог даверыцца сваёй інтуіцыі? Безумоўна, не мог. Мяне, як заўжды, перапаўнялі эмоцыі А яны, як вядома, – не самы лепшы дарадца і памагаты ў жыцці. Я ідэалізаваў гэты жорсткі вар’яцкі свет. Мне проста не хацелася верыць у тое, што Любо такі ж выпадковы мінак, як і ўсе тыя людзі, якіх я сустрэў у гэтым чужым мне горадзе. Так, я не хацеў у гэтае верыць. І толькі. Бо, калі на радзіме мне было напляваць на чужую любоў і спагаду, калі я наўмысна адмаўляў іх, то тут, у Празе, наадварот, я прагнуў гэтага. Мне катастрафічна не хапала людскога паразумення. Мая душа была безнадзейна хворая, атручаная нянавісцю, і лячыць яе можна было толькі дабрынёю. Любо не здзівіўся майму новаму занятку, болей за тое, ён нічога не стаў высвятляць і раіць. І за гэта я быў яму шчыра ўдзячны.

– Прабач, але я павінен ісці! Мяне даўно чакаюць! – сказаў Любо скупа, вызваляючыся з абдымкаў. Крыху памаўчаў і спытаў: – Хочаш паслухаць, як мы іграем?

– Так! – кіўнуў я ў адказ. Эмоцыі крыху сціхлі. І я зноў глядзеў на свет цвяроза.

– Тады пайшлі. Пасля працы можам папіць піва.

– А сабака? – спытаў я разгублена.

– Сабака? Сабаку зараз забяруць. Сябар папрасіў прыглядзець, – сказаў Любо і ўдакладніў: – Калега, з кім я іграю... З хвіліны на хвіліну павінна прыйсці яго дачка і забраць. Так што, – усміхнуўся ён, – не хвалюйся.

Як мне падалося, яго ўсмешка была больш падобная да разгубленасці.

Мы рушылі да Старамесцкай плошчы. Хаця, мне было ўсё роўна куды ісці. Я гатовы быў крочыць з ім хоць у пекла.

– Не люблю гэтае месца, – нечакана прызнаўся Любо, і я зразумеў, што гаворка ідзе пра Карлаў мост. – Тут заўжды людна... Заўжды процьма турыстаў. Іду сюды, як на катаргу. Ратуе толькі адно – разуменне, што сваёй музыкай, мы дапамагаем выжываць іншым. І то, іграем апошнім часам мы рэдка. Раней нас было чацвёра. Цяпер трое.

“Хіба не дзеля заробку вы тут іграеце? – карцела мне спытацца ў Любо. – Хіба не грошы ёсць той самы магніт, які цягне вас сюды?..”

– А вось і мае калегі, – апярэдзіў мяне Любо. Пытанне так і засталося неагучаным.

Мы падышлі да музыкантаў. Хлопцы былі прыкладна майго ўзросту. Таго, што сядзеў за барабанамі, звалі Ян. Таго, што з акардэонам – Анас. Ян быў чэхам, Анас – баснійцам. Ні Ян, ні Анас па-руску не разумелі. Ва ўсякім разе, я так чамусьці вырашыў. Размаўляць з імі даводзілася пераважна на ангельскай мове. У адрозненне ад мяне яны ёю валодалі дасканала, і я не заўжды разумеў іх. Шмат што даводзілася перапытваць, шмат чаго здагадвацца па сэнсу, а калі і гэта не давала вынікаў, звяртацца па дапамогу да Любо. Размова наша была непрацяглай. Праз пэўны час хлопцы пачалі іграць, і, каб не замінаць ім сваёю прысутнасцю, я адышоўся ўбок і пачаў слухаць іх на адлегласці. Першыя два музычныя творы былі з рэпертуара

Яна Гарбарыка. Я любіў і больш-менш ведаў творчасць гэтага джазавага музыканта, таму з першых акордаў пазнаў яго адметную музыку. Спытай у мяне ў гэты момант, што для мяне ёсць шчасце, я б не задумваючыся адказаў: Быць тут! Так, у гэтыя хвіліны я зноў быў самым шчаслівым чалавекам у свеце і пакуль яшчэ не здагадваўся, што гэты вечар для мяне – развітальны з гэтым горадам. Ціха гучала музыка. Побач чуўся шчаслівы дзявочы смех. А недзе ўнізе пад маімі нагамі плескацела хвалямі начная Влтава: з адлюстраваннямі гатычных шпіляў, з безліччу барадавак-агеньчыкаў на паверхні, з пяцізоркавым німбам чэшскага святара Яна Непамуцкага.

Потым мы сядзелі ў кавярні "У ката", што на вуліцы Яна Неруды. Зала зіхацела колерамі вясёлкі. Было даволі людна і шумна. Мы пілі піва і размаўлялі. З намі быў і басніец Анас. І ад яго я, трэба прызнацца, не чакаў для сябе нічога станоўчага. Верагодна, басніец спытваў да мяне тыя ж самыя пачуцці. Ва ўсякім разе, з яго боку да мяне адчувалася несхаваная варожасць. Я не мог зразумець сапраўдных яе прычын і камплексаваў. У Анаса быў вялікі казачны нос, нізкі лоб і купчастыя чорныя бровы. Менавіта пад гэтай маскай хавалася яго неспазнанасць. Пра такіх людзей звычайна гавораць, што яны не ёсць сапраўднымі, а толькі імкнуцца здавацца імі. Анас трымаў мяне ў нервовай напрузе ўвесь вечар. Родам ён быў з Тузлы, а ў Чэхію іміграваў у дзевяностых, ратуючыся ад "вядомых" усяму свету этнічных чыстак, учыненых лідарамі сербскіх баснійцаў. Даведаўшыся, што ён з Тузлы, я чамусьці занепакоіўся і вырашыў удакладніць для сябе некаторыя падрабязнасці яго біяграфіі.

– Ты, наогул, хто? – спытаў я ў яго бесцырымонна.

– У сэнсе? – не зразумеў ён.

– Ну, скажам, ты праваслаўны ці каталік?

– Я мусульманін, – сказаў ён груба.

Ад пачутага, заняло дых. Настрой сапсаваўся канчаткова. З мусульманамі ў мяне былі свае стасункі. Я баяўся іх. І не столькі іх, колькі іх веры. Я не ведаў ні яе гісторыі, ні яе сутнасці. Для мяне ўсе яны былі фанатыкамі-тэрарыстамі. Магчыма, гэта быў генетычны страх – пачуццё, якое перадаецца з крывёю ад продкаў, а, магчыма, падсвядомы – вынік шматгадовага ідэалагічнага абалваньвання. Я затаіўся і ні якіх іншых пытанняў яму больш не задаваў. Мы былі на добрым падпітку ўжо і мне трэба было тэрмінова сыходзіць. Ва ўсякім разе, заставацца далей у гэтай тлумнай кампаніі рабілася небяспечна. Я адчуваў гэта, але чамусьці марудзіў.

– Любо, прабач мне, калі ласка! – нечакана звярнуўся я да славака.

– За што? – шчыра здзівіўся той.

– Я хацеў бы табе ў сім-тым прызнацца.

– У чым? – насцярожыўся славак.

– Мне здаецца, што ў тым, што ты заікаешся, вінаваты мой бацька, – выціснуў я сарамліва. Любо вытрымаў паўзу. – А значыць, і я. Відавочна, гэта грукат яго танка напужаў цябе некалі ў маленстве...

Анас зірнуў на мяне падазрона. Наўрад ці ён зразумеў сэнс сказанага мною. Ва ўсякім разе, я на тое разлічваў. І ўсё ж ад яго пранізлівага, халоднага позірку мне зрабілася неяк не па сабе. Скуль мне было ведаць, што Анас выдатна валодае рускай мовай, аднак, па нейкіх, вядомых толькі яму аднаму прычынах, утойвае ад нас гэта. Любо прыняў мой пасаж без эмоцый.

– Не выдумвай! Маё заіканне – вынік нясчаснага выпадку, – сказаў ён і расказаў пра тое, што здарылася з ім у далёкім дзяцінстве. Па яго перакананні, гэты выпадак і стаў сапраўднай прычынай яго фізіялагічнага дэфекту.

Валік – агент КДБ. Яго нейкім чынам, прымусам ці як, завербавалі, і цяпер ён свядома адмаўляецца ад прапановы працаваць разам, каб не даносіць на мяне.

І я заплакаў. Ад нечаканасці, ад роспачы, ад бяссілля, ад злосці, ад нянавісці да тых, хто вырабіў такое над маім сябрам. (Вось і цяпер – пішу, і слёзы выступілі. Сентыментальныя нататкі).

Поўная ступень майго ідыятызму высветлілася, на шчасце, даволі хутка: рэдакцыя той газеты дапамагла яму купіць кватэру, і за гэта ён сапраўды мусіў адпрацаваць пэўную колькасць гадоў.

Ён проста казаў праўду, як тады з рускай мовай.

Проста праўду.

Проста.

## Генадзь М.

Пасля віскі галава не баліць.

Кожны раз гэтае філасофскае назіранне Генадзь М. робіць з інтанацыяй: неверагодна, але магчыма і, значыць, неабходна. Гэта мінімум на адзін ўзровень вышэй за Гегеля, які лічыў рэчаіснасцю проста адзінства існасці і існавання, якое стала непасрэдным.

Непасрэдна мы пазнаёміліся ў выдавецтве “Беларусь”, куды дырэктар, Валеры Дубоўскі, запрасіў мяне на пасаду галоўнага рэдактара (пасля звальнення з газеты я быў беспрацоўным). Дубоўскі быў смелы і энергічны менеджар, любіў рызыкаваць, заключаў неверагодныя кантракты з нечаканымі партнёрамі, ваяваў з начальствам, рабіў рэформы, спрыяў моладзі, і Гена быў галоўным мастаком.

Але паколькі гучна гаварыць ён не ўмее, дык я даволі доўга думаў, што галоўныя ў мастацкім аддзеле зусім іншыя людзі. З Генавай існасцю разабраўся толькі пад час путчу ў жніўні 1991-га, калі ён дапамог зрабіць спачатку ўлёткі, а потым адразу паставіў свой подпіс пад патрабаваннем прыбраць партарганізацыю з выдавецтва.

Пазней я ўведаў, што Гена быў ад пачатку ў легендарнай “Майстроўні”, усё жыццё гаворыць па-беларуску і займаецца самым бесперспектыўным відам мастацтва – каліграфіяй. Што гэты від самы бесперпектыўны, я думаў да таго часу, пакуль яго працамі не сталі адкрываць міжнародныя выставы і здымаць на тэлебачанні.

Ён аформіў сотні кніг, альбомаў, атрымаў кучу ўзнагародаў, і віртуоз беларускай мовы Рыгор Барадулін прысвяціў яму верш, які назваў на ўсякі выпадак па-лацінску: “Mater atrium necessitas”.

> Маці ўсіх мастацтваў – неабходнасць.
> Неабходна рупіцца,
> Каб жыць.
> Неабходнасць змусіць верагоднасць
> Да задумы плён прываражыць.

Atrium насамрэч не мастацтва, а вынаходства, але як трапна адзначае народны паэт, змусіць верагоднасць, калі неабходна, Гена сапраўды можа.

Шматразовы лаўрэат і сябра розных сумнеўных арганізацый не толькі паэт, але яшчэ і празаік Уладзімір Арлоў зайшоў яшчэ далей: на адкрыцці

персанальнай выставы каліграфіі заявіў, што толькі Генадзь ведае, якая літара беларускага альфабэта – самая эратычная. Дык Гена інтэрв'ю дагэтуль дае.

Ёсць яшчэ адна галіна, дзе ён мае аўтарытэт ад Улан-Батара да некаторых запаветных мясцінаў лідскага Панямоння ўключна. І гэта не каліграфія.

Паплылі мы з Генам неяк па Нёмане на лодцы. Як людзі разумовай працы, плылі ўніз па цячэнні, дзе кіламетраў праз дзесяць, на спецыяльна абсталяванай для культурнага адпачынку пляцоўцы пад дубам на беразе нас мусіў чакаць гаспадар лодкі з ужо гатовай юшкай.

Гаспадара звалі Юрам, і напярэдадні ўвечары, калі мы адзначалі пачатак адпачынку ў яго сядзібе пляшкай віскі, ён расказаў пра экзістэнцыйны выпадак са свайго жыцця. Паляцеў зімой на адпачынак у Егіпет, у Хургаду, і тур быў – "усё ўключана". Юра вярнуўся як прыстукнуты:

– Не магу зразумець іх бізнэс. Я там на адным віскі ўсю паездку адбіў. У чым сэнс?..

Гена спытаўся, ці закусваў ён. Дык усё ж уключана, сказаў Юра.

– Віскі не закусваюць, – сказаў Гена.

Ад такога ўдару па здаровым сэнсе Юра крыху ачомаўся, толькі калі ўведаў, што Гена – мастак і ў Егіпце ніколі не быў. Але ачомаўся не надоўга – бо высветлілася, што Гена быў у Манголіі. Там выпіў мангольскага віскі ў бары ў гатэлі і пайшоў у нумар, а потым узгадаў, што шапку забыўся. Вяртаецца – усё разгромлена, мэбля паламаная, люстэрка разбітае, і галаўнога ўбору няма. Не ўпэўнены, праўда, ці ў такой паслядоўнасці ўсё адбывалася. Але змусіў верагоднасць – і неабходнае знайшлося.

У выніку Юра Гену моцна запаважаў і далей размовы пра верагоднае вёў выключна з ім. А са мной гаварыў толькі пры неабходнасці, напрыклад, калі не было рэшты са ста тысяч: вазьмі яйкамі. Навошта мне яек на 95 тысяч – але аказалася, што столькі каштуе адно яйка, праўда, страўсінае.

Дык каб скончыць пра юшку, якая пачалася з прабачэнняў: меліся сядзець пад дубам, а давялося пад сасной. Якраз перад намі тапельца вылавілі, прыехала міліцыя, цела паклалі на стол для культурнага адпачынку.

– Я падумаў – там няёмка будзе, ты ж, Генадзь, мастак, – казаў Юра. І тлумачыў: – Ён яшчэ зімой патапіўся, ніякага віду.

Гена не пярэчыў. Тым больш, што шапку не вылавілі.

А яйка гэтае потым у Мінску чатыры чалавекі электрадрэллю свідравалі, і яечню тыдзень даесці не маглі.

Тут ужо нават Гена не здолеў верагоднасць змусіць. Не закуска гэта для віскі. Існасць не тая.

## Уладзя А.

– Слухай, Алесь, – кажа Ӯладзя.

І далей трэба не слухаць, а запісваць, бо заставацца адзіным слухачом было б дзеяннем антылітаратурным, хоць і прадугледжаным некаторымі артыкуламі крымінальнага кодэксу.

Словамі, канечне, усё не перадаць, як справядліва гаворыцца ў адной рэкламе інтымных паслугаў.

Вырашылі мы неяк з Уладзем А. і Генадзем М. праінспектаваць беларус-

кія этнічныя землі, а канкрэтна Смаленск. Гаварылі ўсюды па-беларуску, але, як высветлілася, там справа не ў гэтым.

На ўваходзе ў Свята-Успенскі сабор са знакамітым абразам “Адыгітрыя” стаіць чорная “Волга” з не менш знакамітым нумарам “00-07” – аказалася, належыць мясцоваму епіскапу.

– І якое ў яго званне, генерал? – цікавіцца Ўладзя ў служкі, і мы хутка апынаемся на ганку.

Пайшлі ў мастацкі музей – аказваецца, гэта не музей, а ізноў культавы будынак, проста вывеску не паспелі зняць. Ідзе рамонт, за якім даглядае маладая манашка з мабільным тэлефонам у руках. Расказвае пра цяжкасці паслушэнства ў недабудаваным манастыры, які суседнічае з цагляным шматпавярховым домам з пустымі ваканіцамі.

– Называецца той дом “Смерць камунізму” – тлумачыць яна. – За саветамі хацелі пабудаваць, каб быў вышэйшы за царкву, але ніяк не маглі скончыць. Бог не даў. Збіраюцца там алкашы ды наркаманы. Наколюцца, а потым падаюць з даху. Раніцай выйдзеш на ганак – труп ляжыць. Нядобрапрыстойна.

Тут Уладзя кажа: можна пытанне задаць? І задае:

– А можна вас пацалаваць?

Адказ мы чуем яшчэ на ганку.

Мастацкая галерэя на цэнтральнай смаленскай вуліцы ўжо закрываецца, але ўважліва агледзеўшы трох візіцёраў, гаспадыня, дама ў скураных штанах, срэбных бранзалетках і бурштынавых пацерках адчыняе дзверы. Праз паўгадзіны мы ўжо адкаркоўваем віно ў яе кабінеце, потым з’яўляюцца яшчэ дзве сяброўкі, дама чытае вершы, сяброўкі вось-вось заспяваюць і надыходзіць час выбару – альбо ўцякаць альбо далей праводзіць этнічную інспекцыю. Выбіраем першае, але аказваецца, што дзверы ўжо замкнёныя.

І тут на Ўладзю находзіць натхненне і ён чытае свой верш пра Заратустру і дзеўчыну, якую ціскаў за навапалацкай школай № 2, і якая потым ці то ўтапілася, ці то замуж выйшла. Верш сканчаецца наступнай высновай:

> Можа вось гэта: адны паміраюць зарана,
> Ну, а другія запозна... адкрыецца рана
> У памяці соннай знячэўку: філосаф засраны!
> Як яе клікалі? Аня, Ганулечка, Ганна!

– Дзеля рыфмы чалавека не пашкадуе,– тлумачыць полацкае ніцшэанства Гена. І мы ўжо на ганку.

У цягніку па дарозе назад у вагоне-рэстаране, пасля таго як спустошаны ўвесь чыгуначны запас чылійскага, аўстралійскага і паўднёва-афрыканскага віна (гэта толькі гучыць рамантычна, было ў іх усяго тры бутэлькі), адкрываюцца дзверы і заходзяць беларускія спецназаўцы ці амапаўцы – чатыры байцы ў чорнай форме, кожны пад сто кіло, і сядаюць за суседні столік. Гэта іх аўтастоп – ад Оршы да Мінска.

Уладзя паведамляе ім навіну:

– Жыве Беларусь!

– Жыве,– пасля паўзы пацвярджаюць двое з квартэту.

І мы ізноў на ганку. Чырвонае ўсё адно скончылася.

## Вячаслаў Р.

Слава Р. – чалавек-шампанскае. Хоць, калі ўзяць у яго аналіз крыві ў любой еўрапейскай сталіцы, дык гэты будзе аналіз піва.

У Празе яго ведаюць усе бармэны на Вінаградах, дыск-жакеі на дыскатэках, гардэробшчыцы ў саўнах. Адзінае, што ён, бліскучы тэатральны крытык, кандыдат мастацтвазнаўца, былы сябра рэпертуарнай калегіі мінкульта і супрацоўнік акадэміі навук, ніколі не робіць у Празе – не ходзіць у тэатр.

Верагодна, таму, што спекталі, якія граюцца ў барах начной Прагі, даюць магчымасць праявіцца яго першай прафесіі – актора, якім ён пачынаў у тэатры юнага гледача.

Не ведаю, ці граў ён катоў у ботах альбо без, але дар трагіка, безумоўна, прысутнічае ў яго драматычных сутыкненнях з былымі савецкімі грамадзянамі. І горш за ўсіх дастаецца пэўныму тыпу, якога ён называе “рюскі”.

Слава выбухае як батарэя шампанскага, эмоцыі б’юць у столь, аргументы рыкашэцяць аб сцены, келіхі зносіць са сталоў, пена валіць праз форткі на вуліцы, і ўсе прыгінаюцца, каб не зачапіла асколкамі.

Аднойчы ў яго зазваніў мабільны тэлефон – кватэру затапіла, спрацавала сігналізацыя, і мінская міліцыя, якая прыехала па трывозе, зрабіла кантрольны званок перад тым, як ламаць дзверы. Пэўная нязручнасць палягала ў тым, што Слава ў гэты момант стаяў на беразе Адрыятычнага мора ў плаўках і збіраўся даць нырца. (Так расказвае Гена, які быў побач, і хоць я ніколі не бачыў, каб у моры плавалі з тэлефонам, у гэтым выпадку веру).

Кошт роўмінга ў Італіі, пакуль ён вёў перамовы з аховай, перавысіў кошт новых дзвярэй. Але асноўны ўдар на сябе прыняў у той дзень бюджэт невялікага гатэля, дзе віно да вячэры падавалася па прынцыпе “ўсё ўключана”. Больш туды нікога з Беларусі не селяць.

Ён быў у складзе першай рады Фонда Сораса ў Беларусі, у ліку першага набору выкладчыкаў коласаўскага ліцэя ў Мінску, першым з аўтараў “Свабоды” выдаў тры кнігі сваіх перадачаў, потым стаў здымаць кіно, пасля чаго яго занесла аж у Галівуд. Што ён зробіць наступнае, не ведаю – можа, прыедзе ў Прагу і сходзіць на спектакль.

Слава, тут у тэатральных буфетах ёсць разліўное піва. Праздрой.

Двакрат!

## Ян Б. і Стэфан Б.

“Прысвячаецца чалавеку, які навучыў мяне, як жыць у СССР”, –
так падпісаў мне сваю першую кнігу мой бельгійскі сябар Стэфан.

Я нават не паспеў паслаць гэты надпіс у які-небудзь камітэт, дзе за розныя заслугі даюць, напрыклад, права на бясплатны праезд, як СССР ляснуў і ўся мая навука пайшла кату пад хвост. (Я маю на ўвазе, канечне, не той камітэт, які забяспечваў бясплатным праездам аж на крайнюю поўнач. Там, верагодна, і так ведалі). Цяпер ужо, баюся, не ацэняць мае заслугі кантралёры нават у тым адзіным месцы, дзе правільна прачыталі б маё прозвішча як надрукавана ў кнізе: Sasja Loekasjoek.

Калі ёсць у Еўропе краіна больш загадкавая і недарэчная за Беларусь, дык гэта Бельгія. Там мала што дзве дзяржаўныя мовы, дык яшчэ й ніводная з іх не бельгійская, мала што насельніцтва як у Беларусі, але бельгійцам па нацынальнасці можа лічыцца толькі адзін чалавек, дый той – кароль, мала што ў Брусэлі паставілі еўрапейскі рэкорд жыцця без начальства (больш за год не маглі абраць урад), але пры гэтым першым прэзідэнтам Еўразвяза стаў грамадзянін Бельгіі.

Такім чынам, нічога дзіўнага , што ў сярэдзіне 80-х Ян і Стэфан з Антверпена паехалі ў Мінск вывучаць рускую мову і спадарожную навуку піць усё, што еўрапейцу смерць, а журналістам здорава.

У выніку абодва сталі тэлезоркамі і свяцілі з Масквы, Вашынгтона і Пекіна, Мінска, Белграда і Кабула, з усіх куткоў СССР ад пачатку галоснасці да сённяшніх дыктатураў. Я дапамагаў ім са здымкамі на розных дэманстрацыях, мітынгах, блакадах і іншых палігонах дэмакратыі, а таксама ў згаданай вышэй спадарожнай навуцы.

Усё гэта адбывалася да Інтэрнэта, калі працягласць жыцця журналісцкага слова ў эфіры можна было адэкватна апісаць лексікай яшчэ старажытнага Рыма – verba volant.

А scripta, адпаведна, manent – і намовіць Стэфана пісаць кнігу было не так і цяжка, тым больш, што застольнае кола супадала з прафесійным.

У загаловак была вынесеная магічная формула, якая вырашала ўсе нашыя праблемы ў чыгуначных касах, аэрапортах, рэстаранах, тэатрах, гатэлях і іншых месцах, дзе чалавек сустракаўся з савецкай уладай: “Нельга але можна”.

Загаловак сам быў сваёй ілюстрацыяй: ад адсутнасці коскі розум за розум заходзіў не толькі ў карэктараў і не толькі ў Беларусі. Фламандская мова, на якой пісаў аўтар, таксама супраціўлялася як магла, але аказалася бяссільнай перад праўдай жыцця – кніга там выйшла пад назвай “Niets is mogelijk alles kan”.

Замест далейшых лінгвістычных даведак я дам тут сваю прадмову менскага выдання, якую з уласцівым мне лаканізмам назваў “Калі нельга”:

“Ззаду рознакаляровае рознагалоссе Брусельскага аэрапорту, вый турбінаў, ледзяное сонца ў ілюмінатары, і ашалелыя шасі ўжо рэжуць бетон якой-небудзь новай сталіцы і пачынаецца праца – горкі прысмак, калі цэнтральная рэдакцыя спачатку не верыць твайму прадчуванню, што ў Пекіне вось-вось нешта адбудзецца, і ты адлятаеш з Кітая за некалькі гадзінаў да пабоішча на Цянь-ан-мыне, потым пралом у Берлінскай сцяне, аксамітная рэвалюцыя ў Празе, растрэл Чаўшэску, сарваны голас аператара ў разгромленай Віленскай тэлевежы, лёгкі халадок ля сэрца, калі танкі ідуць па маскоўскай маставой на цябе і Яна, ці калі сербская артылерыя б’е па Сараеве, адкуль ты вядзеш чарговы рэпартаж пра чарговае перамір’е, і зноў Масква, Ерэван, Талін, ашалелая шкала дазіметра на радыёактыўным полі пад Магілёвам, гонкі са знятым матэрыялам у студыю, ліхаманкавы, да секунды дакладны мантаж, а потым вясёлая шчодрасць, і шаблі, і шампанскае, і піва, і лікер д’Антверп, і канечне, водка – з усяго гэтага зроблена твая кніга, але не толькі з гэтага, бо ты журналіст, і гэтая прафесія не проста частка твайго жыцця, а ўсё жыццё.

Твая Бельгія – найлепшае ў свеце каралеўства, і з каралём мы сябруем, прынамсі, кожны трэці ці пяты тост п’ем за яго здароўе, і гэта ўжо немалая лічба, і Ягоная Вялікасць, калі ўведае, чым-небудзь нас узнага-

родзіць, хоць мы п'ем зусім не дзеля манаршай ласкі, а таму, што чаму не, калі сустрэліся.

Першая сустрэча адбылася ў Маскве, у гатэлі "Расія" (які тады яшчэ стаяў на Краснай плошчы), ты і Мікі прывезлі мне запросіны ў Антверпен ад Яна, гэта было пасля землятруса ў Арменіі, які гэта быў год – канечне, 1988, і я расказваў пра свае два тыдні ў Ленінакане, прасякнутыя салодкім трупным смуродам, які расцякаўся з-пад руінаў панэльных дамоў, і высветлілася, што ты таксама там быў, і мы ізноў узялі гарэлкі ў буфеце для інтурыстаў, а потым яшчэ раз, і яшчэ, і па шляху на вакзал перад Крамлём, дакладна насупраць цэнтральнай літары "Н" у імені на багровым маўзалеі я спыніўся, не ў сіле трываць, і апаганіў памяць правадыра сусветнага пралетарыяту, прыгаворваючы з палёгкай "Вось вам за Ленінакан, за Сталінакан, за Брэжнеўакан"; партыя ў той час была яшчэ ў сіле і вяла бурную барацьбу за цвярозасць – норму жыцця, і калі б міліцыя апынулася паблізу, справа не скончылася б, як для Матыюса Руста, вызваленнем "з меркаванняў гуманізму", але ўначы неяк мярзотна пахаладала і сяржанты, верагодна, таксама недзе грэліся чым-небудзь вадкім.

Трагедыя журналістыкі ў тым, што яна нараджаецца, каб памерці, яе творы жывуць адзін дзень, адну гадзіну і менш, бо каму трэба ўчарашнія навіны, пытаўся я гасцей у рэстаране "Максім Горкі" ў цэнтры Антверпена на прэзентацыі тваёй кнігі, і гэтыя развагі ветліва слухалі хлопцы з выдавецтва "Крытак", якія выпусцілі кнігу як маланку, за два месяцы, дзясяткі журналістаў, дыпламаты, і твая маці, і ваш старэйшы сябар Гіда, гаспадар дома, дзе вы з Янам жылі, і наша знаёмая афіцыянтка Таня, бельгійка з расейскай арыстакратычнай сям'і, якая працавала ў гэтым дзіўным месцы "а-ля рюс", і адзін нелегал з Мінска, які мыў там посуд, толькі Яна, нашага найлепшага сябра, не было з намі, бо ў Маскве ішоў чарговы з'езд і трэба было рабіць рэпартажы пра лёс дэмакратыі, але Мікі і твой першы сын Ганэс былі, а кніга для мужчыны тое самае, што дзіця для жанчыны, пераконваў я Мікі, але яна моўчкі ўсміхалася і слухала сябе, дакладней, Мілана, які спазніўся на прэзентацыю і нарадзіўся, калі дадрукоўвалі трэці ці чацвёрты наклад гэтай кнігі, але пакуль шум у літаратурнай рэстарацыі, падобнай да булгакаўскага "Грыбаедава", нарастаў, нейкі кавалер навязліва цікавіўся, ці не выдадуць у Белай Русі яго белагвардзейскія мемуары, Таня падносіла гарэлку ў запацелых шкаліках і піла з намі, і белагвардзеец піў, і ўсе пілі, і раптам з балалайкай у руках чортам выскачыў русафіл-гаспадар "Максіма Горкага", ірвануў струны і на поўныя грудзі закаціў: "Оч-чи черные, очен к-красные!..", і мы ледзь не памерлі на месцы ад смеху.

У Мінску адзін ідыёт, загадчык аддзела ЦК, заявіў, што я ездзіў у Бельгію "па інструкцыі", і з таго часу любую высакародную вадкасць мы называлі інструкцыяй; пра інструктаж ніколі не забываліся, але больш за ўсё я запомніў першы прыезд у ваш з Янам і Гіда дом, дзе на ўсіх трох паверхах, на сталах, паліцах, падваконні стаялі пустыя бутэлькі, кардонныя ўпакоўкі з-пад віскі, а пад лесвіцай ляжала піўная бочачка, і мая жонка ціха пыталася, куды мы патрапілі, а проста ў доме напярэдадні была традыцыйная жнівеньская вечарынка, на якую прыйшло пад сотню гасцей, і на наступны год была такая ж вечарына, і зноў прыйшла сотня гасцей, я ізноў на ёй быў, але не было ўжо цябе, бо ты вёў рэпартажы з Вільні, і мы падключылі тэлефон да дынаміка, каб ты мог чокнуцца адразу з усімі,

але, здаецца, у цябе не было тады настрою чокацца, а потым ён з’явіўся праз паўгода апоўначы, калі ты пазваніў у Мінск і сказаў, што кніга, якую мы так доўга абмяркоўвалі, закончаная, я схадзіў на кухню, дастаў з лядоўні шампанскае, і мы выпілі ў Антверпене і Мінску адначасна – і вось яна ў вас у руках, кніга майго сябра Стэфана Бломарта, журналіста, якога дома нават дзеці пазнаюць на вуліцах, і хоць у Рэспубліцы Беларусь яна выйшла ў шэсць разоў марудней, чым у Каралеўстве Бельгія, я ўпэўнены, што кніга не састарэла, бо напісана чалавекам, які любіць што піша і, спадзяюся, аўтар стане і вашым сябрам таксама і, пры нагодзе, праінструктуйцеся за яго здароўе, каб і надалей яму шанцавала пры ўзлётах, пасадках, артабстрэлах, путчах, рэвалюцыях – адным словам, там, дзе быць нельга, але трэба і, значыць – можна.”

Так я скончыў прадмову з пяці сказаў да той першай кнігі Стэфана, якая тычыцца і Яна.

Потым яны казалі, што такіх даўгіх сказаў ніколі ў жыцці не бачылі – пакуль дачытаеш, вочы робяцца “очен красныя”.

А свае кніжкі я падпісваю ім так: бельгійскім сябрам, якія навучылі мяне, як жыць у Еўропе.

Зрэшты, прыкладна так можна падпісваць усім, каго тут згадваў.

Нават карацей, толькі трэба дзеяслоў незакончанага трывання – якія вучаць, як жыць.

І трываць, канечне.

## Зымбы

Усё тут напісанае – праўда. У той ступені, у якой напісанае можа быць праўдай.

Верагодна, таму замест поўных прозвішчаў – Уладзімір Арлоў, Аляксандр Байдак, Ян Бальяў, Стэфан Бломарт, Валянцін Жданко, Сяргей Дубавец, Генадзь Мацур, Сяргей Навумчык, Вячаслаў Ракіцкі, Сяргей Сцяблюк, Аляксандр Уліцёнак – у загалоўках толькі літары.

Не партрэты, а толькі траекторыя, толькі след палёта, які працягваецца. Непрадказальнага нават задняй датай, як палёт анёлаў, ці менш містычна – як палёт матылька, чые крыльцы, як сцвярджаюць, могуць выклікаць ураган і змяніць жыцці, лёсы, гісторыю.

З гэтым ураганам аўтару аказалася па дарозе. Пашанцавала з траекторыяй.

## Ганна Новік



...хто народжаны падаць,
Хай не зведае марнасць палёту...

# Закаханы вандроўнік

* * *

Пакуль ад самоты
наш дах не з’ехаў,
Не запрасіў лістапад
у бяздонне —
Куфлі вышэй!
Ды каб за небяспеку,
Права спяваць
і пра вартае мовіць.

Хай будуць дуб,
І пярсцёнак,
І хваля,
Насіцьмем краты на сэрцы
І прагу.
Куфлі вышэй!
Каб свабода надалей
Здолела знішчыць нясцерпную смагу.

Не.
        Палымяных параза не схопіць.
Неабыякавым
        слоту не высніць.
Куфлі вышэй!
        Прамяністыя, хопіць
Піць малако за абстрактную існасць.

## НЯМАЯ БЕЛАЯ ЛІЛЕЯ

Я крэмзаў па снезе крывёй і радкамі,
Святло рэзаў цемрай, а боль — цягнікамі
І лёс праклінаў, што няўмольна знікае
Нямая.

Шукаў панацэі ад згубы ды зману,
Свабоду не раз называў пробным камнем
І верыў, што будзе са мной набалелая
Белая.

Знікаючы, ведаў: праз процьму стагоддзяў
Хто-небудзь парэшткі мінулага знойдзе,
Пялёсткі твае зберажэ ад завеяў,
Лілея...

## ВАДОХРЫШЧА

Завітвай да мяне паваражыць,
Гады ў рады паверыць забабонам.
Я не скажу, што праўда пахне сконам,--
Завітвай да мяне паваражыць.
За крыўдай праўда, гоман за гамонам...
І схлусяць карты, і прымусяць жыць.
Завітвай да мяне паваражыць,
Гады ў рады паверыць забабонам.

## ІМЖА І ПРАКЛЁНЫ

...Як жадаеш. А мне б і адвечна
Нырцаваць у імжу і праклёны.
Як жа далей... Маркоціцца свечка
На мяжы пустаслоўя і плёну.

Ліставей развучыўся на памяць,
На дратах крумкачы, нібы ноты.
Не шалей: хто народжаны падаць,
Хай не зведае марнасць палёту.

Кожнадзённым — Садом і Гамора.
Вокамгненным — віно і верлібры.
Абыякавым — верыць крамоле
І запарваць на досвітку імбрык.

Памаўчым пра спакой, і не болей.
Будзь са мною адным, і не меней,
Хоць душу раскрыжуе надвое
Барацьба сотняў год і імгненняў.

І калісьці праз сто ліхалеццяў,
Сто гадоў адзіноты, сто мрояў
На гасцінцы два цені прыкмеціць
У імжу закаханы вандроўнік.

## ***ВОКНЫ***

Яны бываюць у Еўропу,
І адтуль часта дзьме сівер.
Бываюць чортавымі,
І, як казаў адзін уратаваны,
Праз іх бачна, як у пекле
П’юць і закусваюць райскімі яблыкамі.
І ёсць безліч такіх,
Што не маюць імя
Удзень,
Абыякава сочаць
Праз шкляныя свае акуляры.
І толькі зоры, што нядаўна самі прачнуліся,
Будуць гукаць іх паіменна:
Акно, густоўна аздобленае ліштвамі,
Акно з мармытлівым катом,
Акенца, захутанае ў цюлі,
Акно з водарам смажанай рыбы,
Акно з песняй Маўзэра... —
І не здолеюць вокны змаўчаць,
І да апошняга ліхтара будуць
Абменьвацца сваімі таямніцамі,
Не зважаючы ні на скразняк з Еўропы,
Ні на бясконцае “Будзьма!”
З пекла.

*  *  *

Спажыўцы інфармацыі
Патанулі у сеціве.
Цені цемру абмацвалі,
Ды мяне не прыкмецілі.

І з дажджовымі кроплямі
Цішыню смакавала я,
Як пацеркамі дробнымі
Яна з прыцемкаў падала.

Спалі вершы і вірусы
У кампутары змучаным.
Вецер здзьмуць зоры сіліўся
Ў абмялелыя лужыны.

Згаладалымі пашчамі
Хмары поўню надкусвалі,
І зязюля час лашчыла
У драўляным дамку сваім.

## *КОШТ ЦІШЫНІ*

...І пакуль спала шкло,
Патаемна шапталіся лічбы,
Вырашаючы, быць ці не быць
Вечароваму змроку і снегу, –

Вечарэла само.
Цяжкі маятнік—змучаны клічнік—
Ленаваўся раз-пораз прабіць
Апусцеламу змерзламу небу.

“Ты пабачыш, павер,
Цішыню. Хутка скончацца жахі”, –
У кавярні забытай шаптаў
Антыкварны гадзіннік ля стойкі.

Падаў снег за каўнер,
У душу, на бляшаныя дахі.
Час паволі, паціху сканаў,
Не пытаючы, што і па колькі.

* * *

Няма крыніц спатоліць смагу.
Зашмальцаваныя зняверам
Ізноў напоўнілі біклагі
І чорным воцатам, і белым.

Няма крыжоў уславіць памяць
Хмызом парослых папялішчаў.
Ізноў народжаныя падаць
Мяркуюць успаміны знішчыць.

Няма нябёсаў для збавення.
Удзень пустэчай ціснуць вочы.
Напаўжывыя людзі-цені
Спрадвечным светлым шляхам крочаць.

### NI4ЫЕ

Наша шэрае белым не будзе,
Наша змерзлае цёплым не стане.
На аскепкі ламаюцца людзі
На мяжы цішыні і світання.

Нараджаюцца з попелу здані.
Напаўняюцца шэранем грудзі.
Нераты... Напаўсцёртыя грані...
Нічыіх хай ніхто не асудзіць.

### ТАМУ

На скрыжаваннях незнаёмых,
Лінуўшы роспачы праз край,
Знікай,
Сціраючы каноны
Сваёй хлусні, і край замглёны
Пакінь і вечнасці аддай.
Знікай!

Пакуль пякельныя задумы
Растуць і множацца ў крыві,
Міні
Без выбуху і шуму,
І сёння не спазнаюць тлуму
Znічоў свяшчэнныя агні.
Міні.

Малі багоў (жывых і мёртвых)
І тых, што тут калісь жылі.
Малі!
Каб не балела мёртвым,
Каб свет не стаў суцэльным корстам,
Каб след твой сцёрся на зямлі.
Малі.

## Алесь Усеня



…Нашто тыя храмы, калі ў іх гучаць
крывадушныя словы, узносяцца малітвы
за “кесара”? Хіба гэта ўспадоб Богу?
Ратаваць трэба не храмы.
Ратаваць трэба душы…

# Мой лістапад…

*Заканчэнне. Пачатак у №№5-6 (54-55) за 2011 г., №№1-2 (56-57) за 2012 г.*

### Менталітэт вяртаецца…

Калі наведваюся ў родную вёску, і суседка Ганначка, і дзядзька Шайдула, і ўсе астатнія вяскоўцы з асцярогаю і шкадаваннем прадракаюць:

— Ой, заб’юць цябе, Сашка, за твае грошы. Ой, заб’юць...

Маці таксама, правёўшы да веснічак, з пакутаю ў вачах наказвае:

— Хоць бы, сынок, не забілі цябе за гэтыя грошы, не пасадзілі ў турму...

— А за што мяне забіваць? За што ў турму? — супакойваю з усмешкай. — Нікому дарогу не перабег, дый грошы не крадзеныя, зробленыя сваім гарбом, сумленна...

— Ну, глядзі, сынок, глядзі...

Чаму мае вясковыя землякі лічылі, што “вялікія грошы” тояць у сабе небяспеку? Таму што савецкая ўлада падраўняла нас пад адзіны грэбень. Для ўсіх, меркавалася, роўныя магчымасці. І калі ты вытыркаешся

з натоўпу, значыць, нешта тут нячыстае. Начальнік мае машыну, бо ён крадзе ў дзяржавы. Сусед жа, які ні з таго ні з сяго пабудаваў дыхтоўную хату, таксама ў некага ўкраў і за гэта паплоціцца...

Мяркуючы па тым, што многія бізнэсоўцы цяпер гніюць у турмах (часцяком нізавошта), вярнуліся і савецкі лад, і ранейшы менталітэт...

## Радня

На адпачынак выпраўляюся ў Харватыю. З аэрапорта аўтобус вязе турыстаў у гатэль. З дынаміка чую голас гіда і не веру сваім вушам: ён, прадстаўнік турфірмы, нешта распавядае нам па-беларуску! Нават на Радзіме толькі зрэдчас даводзіцца чуць родную мову з нечых вуснаў, і раптам такая нечаканка далёка на чужыне!

Не вытрымліваю, ускокваю з месца, каб бліжэй пазнаёміцца з чалавекам, які падарыў мне гэткую асалоду. Зусім малады хлопец. Карэнны мінчук. На мове зносіцца не дзеля бравады і ў асобных выпадках, а паўсядзённа. Мы так радыя адзін аднаму, што проста ўслодыч і ўволю размаўляем на розныя тэмы, ужо не зважаючы на іншых турыстаў. Кіроўца-харват спачатку пазірае на нас падазрона, а потым па-свойму цікавіцца:

— На якой гэта мове вы размаўляеце, калі і я ўсё разумею?

— На беларускай! — са смехам тлумачыць яму хлопец. — Мы ж славяне, адны карані... Дык што ж тут дзіўнага?

У гатэль, дзе мне выпадае жыць, гід наведваецца ледзь не штодзень, хоць пільнай патрэбы ў тым няма. Яму проста хочацца выказацца па-беларуску і ў адказ пачуць роднае слова.

Дзіўна, але факт: калі з нечых вуснаў чую беларускую гамонку, той чалавек, хай сабе і зусім незнаёмы, чамусьці здаецца мне амаль што раднёй. Можа, таму, што нас, беларускамоўных, гэтак мала?..

## Двойчы абкрадзеныя

Прыязджаю ў офіс і жахаюся: дзверы — насцеж, у кабінетах усё перавернута, са сталоў зніклі камп'ютары, дарагія тэлефоны, апараты, некаторыя каштоўныя рэчы. Ноччу нас абакралі. Сакратарка заспакойвае:

— Злодзеяў міліцыя затрымала! Усе ўкрадзеныя рэчы — там, у райаддзеле.

Еду ў міліцыю. Следчы пераказвае падзеі мінулай начы. Узламаўшы дзверы, зламыснікі згрэблі апаратуру ў пасціланкі і ўжо неслі яе па вуліцы. А тут насустрач едзе патрульна-паставы легкавік. Злодзеі ўсё кінулі і разбегліся ў розныя бакі. (Іх, дарэчы, потым так і не знойдуць).

Нам вяртаюць украдзеныя рэчы. Усё ў наяўнасці, акрамя дарагога наатбука, які належыць аднаму з арандатараў. А яшчэ — няма ніводнага тэлефоннага апарата.

Пытаюся ў следчага:

— Куды ж яны падзяваліся, калі злодзеі паўцякалі, кінуўшы, як вы кажаце, усе пасціланкі?

Следчы няўцямна пацiскае плячыма і, апусціўшы галаву, мармыча:

— Не ведаю... Тут усё, што было...

Выпадкова мой позірк спыняецца на тэлефонным апараце следчага

— старадаўнім, з круглым дыскам. І ў думках раблю выснову: “Ну, мент, заўтра будзе ў цябе новы тэлефон, імпартны”...

## Нявызнаныя шляхі Госпада

Пад час уступных экзаменаў на журфак жыву ў адным пакоі з Пятром Васючэнкам, хударлявым, у акулярах, хлапцом з Полацка. Вельмі разумны, начытаны, размаўляе выключна па-руску.

Ці ж можна было тады здагадацца, што неўзабаве ён стане кіраўніком кафедры беларускай мовы і літаратуры ў Лінгвістычным інстытуце, выдатным беларускамоўным пісьменнікам?

На першым курсе Таня Манёнак, ціхая вясковая дзяўчынка, піша лірычныя вершы па-беларуску дый зносіцца ў паўсядзённым жыцці на роднай мове. Хто ж бы тады паверыў, што з цягам часу Таня будзе працаваць эканамічным аглядальнікам у рускамоўнай газеце?

А хіба я, “шчыры беларус”, мог тады прадбачыць, што выдавацьму рускамоўную газету, дый яшчэ прысвечаную забойствам і гвалту, хоць сам не асмельваюся насадзіць на кручок чарвяка — гэтак яго шкада, як і ўсё жывое?

Нявызнаныя шляхі Госпада...

## Бацькаў чамадан

Не паспела адбалець душа за крадзеж у офісе, як новая навала. Ноччу, калі ўся сям’я адпачывала на другім паверсе дома, зламыснік залез у расчыненую фортку на першым. Ён вельмі спяшаўся, баяўся нас разбудзіць, таму толькі заскочыў у мой кабінет, схапіў фанерны чорны чамадан і выбраўся цераз уваходныя дзверы.

Гэты пацёрты чорны чамадан для мяне вельмі дарагі. Ён належыў майму бацьку.

Некалі бацька прывёз яго з Нямеччыны, дзе даслужваў пасля вайны. З ім адным ён хадзіў ад маці ў прочкі, калі маладзёны моцна перасварыліся, у ім захоўваў самыя дарагія для сябе рэчы. Ніхто з нас, дзяцей, нават не ведаў, якія яны — тыя рэчы. Чамадан заўсёды ляжаў пад бацькавым ложкам, і нам было забаронена нават дакранацца да яго...

Адчыніць чамадан я змог толькі пасля бацькавай смерці. Ніякіх каштоўнасцяў, апрача баявых і юбілейных узнагарод, у ім не было. Вайсковы альбом, пажоўклыя газеты, нейкія ведамасці (бацька ж служыў у лясніцтве “аб’ездчыкам”), брытва-небяспечка, хрушчоўскія аблігацыі, капейкі — дый увогуле шмат яшчэ рознай драбязы, якую бацька чамусьці пільна захоўваў. Здзівіла, што там знайшлося месца і мяшэчку гарбузікаў.

Нейкія ж асацыяцыі ў бацькі былі з імі звязаныя...

Грунтоўна разабрацца з ўсёй гэтай “бацькоўскай спадчынай” я планаваў трохі пазней, калі надарыцца вольная часіна. А пакуль перавёз чамадан з вёскі ў сталіцу, у толькі што адбудаваны дом, і паставіў яго ў сваім кабінеце.

І вось пасля нечаканага начнога нашэсця разгублена стаю на тым месцы, дзе яшчэ ўчора месціўся чамадан, і ад роспачы душа разрываецца на шматкі. Злодзей, безумоўна, вельмі расчараваўся, калі замест золата (а што ж яшчэ можна захоўваць ў такім старадаўнім чамадане?) знайшоў гарбузікі. А для мяне тое, што знаходзіцца ў чамадане, — даражэй за любое золата.

Так і не паспеў я як след разабрацца ў бацькавых рэчах. І праз іх ужо ніколі не змагу даведацца, чым ён жыў, чым даражыў, пра што думаў...

Цікава, што ў маім кабінеце побач з чамаданам стаяў пакет з грашыма (у той дзень я атрымаў дывідэнды за год), на які злодзей увагі не звярнуў. Хай бы ён замест чамадана забраў той пакет...

## Лешч

Мой намеснік, Эдуард Галай, — заўзяты рыбак. І не які-небудзь браканьер — ловіць толькі на вуду.

Аднаго разу напрошваюся ў кампанію да Эдуарда і ягонага сябра Артура. Яны збіраюцца "зрабіць вылазку" на Дзікае возера, што месціцца акурат на маёй роднай Старадарожчыне.

Бяром напракат лодкі. Я далёка не грабу, застаюся на прамым, як страла, і зарослым асакой канале. На кручок мае вуды Эдзік начапляе чарвяка (сам зрабіць гэта не асмельваюся, бо чарвяк слізгае, выгінаецца ў пальцах, і мне яго шкада). Хлопцы плывуць далей, у глыбіню возера, я ж, загнаўшы лодку ў асаку, закідваю ў канал вуду...

Ад доўгага чакання ўжо драмлю. Абуджаюся, бо хтосьці спрабуе вырваць вуду з маіх рук. Ды гэта ж нешта клюнула! Рыўком цягну вуду ўверх. Над вадою бліскае ладны лешч. (Гэта потым даведаюся, што менавіта лешч. Усе рыбіны для мяне, як кажуць, на адзін твар, хіба што карася ад шчупака адрозніць магу). Цягну бліжэй да лодкі і ўжо збіраюся плюхнуць рыбіну на днішча, як ірвецца леска, і лешч (імгненна прыкідваю на вока) павінен гупнуцца не ў лодку, а ў ваду. Рэакцыя ў мяне адмысловая. Паспяваю ў паветры пляснуць далонню па рыбіне, і яна ўсё ж падае ў лодку. Лешч падскоквае, разяўляе рот, а мне ад жаху здаецца, што нават і пішчыць.

Паступова лешч трохі супакойваецца, заціхае. Я здагадваюся, што патрэбна выцягнуць з ягонага роту кручок, і працягваю да амярцвелай, як здаецца, рыбіны сваю дрыжачую руку. Але як толькі дакранаюся да лускавіння, лешч зноўку ажывае і падскоквае ўверх, ледзь не давёўшы мяне да імгненнага інфаркту. Усведамляю, што сам зняць з кручка сваю здабычу не змагу. Трэба шукаць хлопцаў. І я адчайна ўзмахваю вёсламі, кіруюся ў глыбіню возера...

Для мяне забіць жывую істоту — цэлае выпрабаванне. Хіба што не ўздрыгне рука на каларадскага жука (бо шкоднік), камара ці муху. Зрэшты, неяк і з мухай узнікла праблема. Ужо глыбокай восенню я заўважыў яе ў сваім пакоі. Сонна-затарможаная муха нават не лётала, а толькі падскоквала на падлозе. Відавочна, што гэта была апошняя сёлетняя муха. Зусім адзінокая... Асірацелая... Мне яе чамусьці стала шкада.

— Не бойся, я цябе не заб'ю — сказаў я мусе. — Лепей ты памры сваёй смерцю...

Калі ў дзяцінстве каля нашага хлеўчука білі кабана і ён верашчэў на ўсё наваколле, я залазіў пад ложак і пальцамі затыкаў вушы. Вылазіў толькі тады, калі пачыналі гудзець паяльныя лампы.

І ўжо зусім жахлівае чакала мяне "на бульбе". Гаспадыня, у якой кватаравалі мы, трое студэнтаў, папрасіла нас закалоць ейную свінню. Дый не свіння там была, а нейкі паўгадовы падсвінак.

Двое маіх сяброў дагэтуль ніколі не жылі ў вёсцы і нават не ўяўлялі, як гэта — "закалоць кабана". Выходзіла, што браць у рукі шыла давядзецца мне...

Прынамсі, шыла якраз і не знайшлося. Гаспадыня працягнула мне нож з драўлянаю рукаяткаю.

Паваліць падсвінка нам удалося лёгка (анягож, самі такія бугаі). Ён верашчэў, як пажарная сігналізацыя. Мне належыла прыўзняць падсвінкаву нагу, пырнуць яму нажом у грудзі. Тое, што не абавязкова меціць у левы бок, мне яшчэ распавядаў дзядзька Семка. Сэрца, казаў ён, у свінні размешчана пасярэдзіне.

Перш чым пырнуць, я заплюшчваю вочы. Пры гэтым дзіўлюся, што нож увайшоў у свіную тушу, як у масла. "І чалавека, мусіць, забіць гэтак жа лёгка", — падумалася чамусьці. Аднак, на маё здзіўленне, парсюк не заціх, а заверашчэў яшчэ мацней. Не расплюшчваючы вачэй, я пачаў ліхаманкава тыкаць нажом куды папала (потым мы налічылі пятнаццаць дзірак). А падсвінак ніяк не здыхаў, пакуль хлопцы не дабілі яго каламі...

Толькі пад вечар мне ўдаецца знайсці на возеры Эдзіка і Артура. Лешч, да якога я так і не асмеліўся дакрануцца, ужо не трапечацца. Эдзік адчапляе ад яго кручок.

Дарэчы, за ўвесь дзень мае сябры так і не злавілі ніводнае рыбіны...

...Цікава, а ці змог бы я пад час вайны страляць у людзей?

## Убогія

У "Звязду" прыходзіць ліст з Пухавіцкага раёна. Бабуля скардзіцца на тое, што ёй вельмі дрэнна жывецца ў псіханеўралагічным інтэрнаце. Маўляў, і ежа там нішчымная, і догляду належнага нямашака.

Еду ў той інтэрнат, прылеплены да ўскраіны Мар'інай Горкі. У мяне не складваецца ўражанне, што хворых на галаву людзей у чым-небудзь абдзельваюць. Наадварот, пры галодным перабудовачным часе тут ежы ўдосталь, паўсюль чыста, прыбрана, утульна. Сустракаюся з бабулькай. Старой пайшоў ужо дзявяты дзясятак, аднак яна яшчэ жвавая, рухавая і, як мне падалося, "пры сваёй галаве", хоць і змушана дажываць век у асяроддзі псіхічна хворых насельнікаў інтэрната. Магчыма, у яе сапраўды ёсць якія-небудзь лёгкія "заскокі", але ў каго іх на старасці не бывае?..

Пытаюся ў бабулькі:

— Чаго ж вам тут не стае, хто вас крыўдзіць?

Яна адводзіць пагляд і шамкае бяззубым ротам:

— А ніхто мяне не крыўдзіць... Ета ж я, дзеткі, заныдзела тутака... У мяне ж і хата ёсцека, і соткі, і грады. Я от лепей бы цяперака картоплі капала... Прашу дачку, каб дадому мяне забрала, дак яна чамусьці не хоча...

Пешаком кіруюся да дачкі, балазе жыве яна ў недалёкай вёсачцы. Дзябёлая, ружовашчокая маладзіца тлумачыць, чаму яна выправіла маці ў "дурдом":

— А сіл ужо не было трываць. Што маці нямоглая зусім, дык гэта паўбяды. Але яна, бывае, такое вытварае, што і не пераказаць... Мясцовыя падшыванцы з яе здзекуюцца, дражняць...

У мяне хоць і ёсць жаданне папракнуць жанчыну ў чэрствасці да роднага чалавека, але я чамусьці яго не выкажу. Проста перад вачыма ўсплываюць яскравыя эпізоды з уласнага дзяцінства...

Да нашае дзіцячае гурмы гэты дзяцюк гадоў сарака стаў прыбівацца амаль штодня. Дагэтуль мы яго ніколі не бачылі. Ведалі толькі, што ён — малодшы брат вяскоўца Пракопа, а яшчэ хадзіла пагалоска, што прывезлі яго з дурдома,

куды ён патрапіў у маленстве. Мусіць, у псіхушцы палічылі, што гэты чалавек хоць і не вылечыўся як след, але небяспекі для людзей не ўяўляе, нікому шкоды не прынясе, дык няма чаго пераводзіць казённыя харчы.

Ён і праўда быў бяскрыўдным, безабаронным і прастакаватым, як дзіця. Таму і хеўру шукаў сабе ў дзіцячым асяродку, сярод сваёй разумовай раўні, бо дарослыя з ім зносіцца не жадалі. Хадзіць на працу ў калгас дзяцюк таксама не мог: адно што быў ён нехлямяжым, нягеглым, ростам акурат як мы, смаркачы, а другое — ну хто ж даверыць “вальтанутаму” чалавеку сахор ці сякеру?

У маёй памяці нават не адклалася імя таго несамавітага дзецюка, бо дзеці толькі і называлі яго прыдуркам. А яшчэ — здзекаваліся як маглі. Прымушалі грызці траву, давалі яму па зубах, а часцей дык проста адганялі палкамі, каб не “псаваў” кампанію. А ён хоць і адбягаў, але не сыходзіў, туляўся воддаль, нібы пабіты сабака, якога гаспадар за нейкую правіну выгнаў з двара. Яму, відавочна, не хацелася заставацца ў адзіноце, ён імкнуўся прыткнуцца хоць да якой гурмы, нават да дзяцей, хай сабе яны і здзекуюцца.

“Прыдурак” знік гэтак жа раптоўна, як і з’явіўся. Ці то Пракоп, які ведаў пра дзіцячы гвалт над братам, пашкадаваў яго, ці то ў дзецюка зноў адбыліся “зрухі ў галаве”, але стала вядома, што ён зноў патрапіў у псіхушку. Назаўсёды. Ва ўсякім разе болей яго я ніколі не бачыў...

...Гэтую старую ўсе звалі проста Крывашыяй, імя яе ведалі хіба што самыя старадаўнія жыхары вёскі, ейныя равеснікі. Яна сапраўды хадзіла са схіленаю набок галавою, відаць, такою нарадзілася. Таму, напэўна, ва ўсёй вялікай вёсцы і не знайшлося для яе абранніка.

Крывашыя спрадвек жыла ў прыгорбленай, забраснявелай хацінцы, тры на чатыры метры, з адным маленькім, як амбразура, акенцам. “У свет” яна выбіралася зрэдчас, толькі па неабходнасці, калі трэба было купіць у краме хлеба ці солі. А малалетнія падшыванцы быццам чакалі гэтага моманту і наляталі на яе, нібы зграя раз’юшаных шчанюкоў.

Асабліва здзекваліся Коля-Узбек і ягоны сябар, сын майго суседа Музыкі Сяргей з паганяйлам Сойка. Спачатку яны проста дражнілі старую, а калі яна не адклікалася, падбягалі ззаду, тузалі за спадніцу, таўхалі ў спіну. Крывашыя сваім пранізлівым голасам пачынала ці то галасіць, ці то слаць праклёны зламыснікам — слоў было не разабраць. Гэта прыносіла Узбеку і Сойку асаблівую асалоду, бо ейнае галашэнне доўжылася хвілін дзесяць — да тае пары, пакуль постаць Крывашыі не знікала ў прыгорбленай хаціне.

Я не ведаю, ці была Крывашыя “хвораю на галаву”. Ва ўсякім разе ніякіх ганебных ці неразумных учынкаў яна не рабіла. Аднак вяскоўцы чамусьці лічылі яе трохі “звіхнутай”.

А скончылася ўсё, як і варта было чакаць, трагічна. Падросшы і “адкінуўшыся” пасля чарговай сваёй ходкі на зону, Коля-Узбек вырваў прабой у дзвярах хацінкі і цэлую ноч бязлітасна гвалтаваў нямоглую, амаль стогадовую Крывашыю. Не памятаю, але, здаецца, пасля таго яна і памерла...

І Пракопавага брата, і Крывашыю мне, малому, было заўсёды шкада. Заступіцца за іх хоць і хацелася, але не выпадала: хіба ж пойдзеш адзін супраць усяе дзіцячае хеўры? Здзіўляла і абурала адно: чаму за іх не заступаюцца дарослыя, чаму не разганяюць гэтую неразумную смаркатую гайню? Здзекі ж вытвараліся не ўпотайкі, а на вачах усіх насельнікаў вёскі...

Спакон веку здзек над юродзівым лічыўся вялікім грахом, бо такіх людзей яшчэ называюць убогімі, гэта значыць, яны знаходзяцца пад апякунствам, пад крылом у Бога.

Існуе думка, што здароўе грамадства вызначаецца тым, як яно ставіцца да дзяцей і састарэлых. А мне дык здаецца, што пра здароўе грамадства можна меркаваць па ягоных адносінах найперш да ўбогіх...

## Першыя ахвяры

Адпачываю ў крымскай Алушце. З раніцы на вуліцах шматлюдна. Нават турысты не ідуць на пляжы, бурна абмяркоўваюць свежую навіну: да ўлады ў краіне прыйшоў так званы ГКЧП. А скінуты Гарбачоў адпачывае зусім непадалёку адсюль, у Фаросе.

Найбольш уражвае праезная частка цэнтральнай вуліцы. Яна ўся ўсланая кнігамі Гарбачова. Людзі ходзяць туды-сюды, на іх не зважаючы. Пад нагамі храбусцяць кардонавыя вокладкі. Згадваецца: калі ў Германіі Гітлер прыйшоў да ўлады, на вуліцах і плошчах запалалі вогнішчы з кніг.

І ўвогуле дзіўная заканамернасць: першымі ахвярамі дыктатарскіх рэжымаў чамусьці заўсёды з'яўляюцца кнігі...

## Народная любоў і званне

У кінатэатры “Кастрычнік” ладзіцца творчая вечарына Васіля Быкава. Такую значную падзею не абмінаем і мы, студэнты журфака.

Вялікая зала набітая людзьмі “па завязку”. Быкаў распавядае пра сваё жыццё, дзеліцца творчымі планамі. Затым чытачы задаюць пісьменніку пытанні: хто выходзіць на сцэну, хто проста перадае цераз галовы запіску.

На той час я “падхалтурваю” літкансультантам у газеце “На страже Октября” і, каб была падстава “цісkануць” у яе адпаведную заметку, крэмзаю ў запісцы сваё пытанне: “Вы шмат пішаце пра подзвіг савецкага народа ў час Вялікай Айчыннай вайны. Але ж і цяпер ёсць месца подзвігу. Узяць, да прыкладу, нашую міліцыю. Хіба ж не гераічна працуе яна ледзь не штодня? Дык ці не збіраецеся Вы напісаць аповесць пра нашых доблесных міліцыянераў?”

Калі даходзіць чарга да маёй запіскі і Быкаў зачытвае пытанне, па зале хваляй прабягае насмешлівы гул, хто-ніхто нават рагоча. Быкаў жа не зганяе з твару звыклай сур'ёзнасці і толькі коратка адказвае:

— Не.

У адной з запісак праскоквае абрывак фразы: “Вось вы — народны пісьменнік Беларусі...” Ніхто не заўважае гэтае недакладнасці (Быкаў тады яшчэ не меў афіцыйнага звання “народны”), і сустрэча працягваецца ў звыклым рэчышчы. А мой сусед, паэт-пачатковец, вельмі пільна сочыць за ўсімі літаратурнымі працэсамі і таму, натуральна, добра ведае, што ўлада не надзяліла Быкава гэтым званнем, зларадна ўсміхаецца. Яму вельмі карціць паказаць сваю дасведчанасць (а можа, “уесці” Быкава?), таму ён пасылае запіску з пытаннем: “А хіба ж Вы народны? Ніхто Вам такога звання пакуль што не прысвойваў...”

Іншы, напэўна, адклаў бы гэтую запіску ўбок, але ж Быкаў — чалавек не хцівы, просты, бескампрамісны як у адносінах з іншымі, так і з сабою. Ён, не вагаючыся, зноў жа коратка адказвае:

— Сапраўды, я не “народны”.

Што тут усчыняецца ў зале! Гул, абуральныя крыкі:

— Хто гэта напісаў? Няхай падымецца!

— Не зважайце, Васіль Уладзіміравіч! Вы для ўсіх нас, чытачоў, ужо даўно народны!

Мой сусед зніякавела ўціскае галаву ў плечы...

А народная любоў усё-ткі вышэй, чым званне.

## Сход

Пачатак 90-х. Беларусь робіць першыя крокі да сваёй незалежнасці. Афіцыйнымі становяцца герб-Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг, беларускай мове надаецца статус дзяржаўнай.

Ідзе сход жыхароў Серабранкі. У вялікай актавай зале, набітай людзьмі па самае “не магу”, вылучаюцца кандыдаты ў дэпутаты. Абмеркаванне надзвычай бурнае. Свае “тры капейкі” ўстаўляю і я, прычым на беларускай мове. Народ яшчэ не звыкся з тым, што яна можа гучаць не толькі з тэлевізара ці радыё, але і ў паўсядзённым жыцці, таму на мяне скіраваныя сотні цікаўных позіркаў. А слухаюць усе дык і зусім уважліва.

Раптам з крэсла на першым радзе падымаецца дзябёлая кабеціна ў беласнежным футры, паварочваецца да залы ўсім тулавам, паказвае на мяне пальцам і абурана пытаецца:

— Почему этот человек оскорбляет всех нас, разговаривая не на русском языке? Я, например, этой «мовы» совсем не понимаю и слышать ее не хочу...

Кабеціна, пэўна ж, чакае ўсеагульнай падтрымкі, аднак у зале ўсталёўваецца неймаверная цішыня. Нарэшце з месца ўскоквае хударлявы дзяцюк, мяркуючы па знешнім выглядзе — “рабацяга”, які толькі-толькі перабраўся ў сталіцу з вёскі, і палымяна дае кабеціне адлуп на “трасянцы”:

— Не панімаеш нашай мовы, дак і шуруй адсюль у сваю Расію!

Услед за ягонымі словамі зала ўзрываецца адабральнымі воклічамі, а хто-ніхто пляскае ў ладкі. Кабеціна ніякавее і моўчкі садзіцца на сваё крэсла.

Не сказаць, што апасля ўсе імкнуцца абмяркоўваць кандыдатаў у дэпутаты па-беларуску. Спрэчкі вядуцца як і раней — на “языке”, бо літаратурнай мовы ніхто не ведае, а на “трасянцы” выкладаць свае думкі сорамна. Ды ўсё ж адчуваецца, што з’явілася ў гэтай зале, павісла ў паветры нешта нацыянальнае, роднае, сапраўды беларускае...

Гэта быў залаты час, калі ў народзе прабіваліся нясмелыя парасткі нацыянальнай самасвядомасці, якія неўзабаве маглі забуяць, закаласіцца, даць плённы ўраджай. Не адбылося. Не сталася. Збэсцілі тыя парасткі. Затапталі.

І, мусіць жа, калі той сход праходзіў бы не ў недалёкіх 90-х, а сённяшнім часам, дык загалёкалі, зблоцілі б нашыя людзі не тую кабеціну, а мяне...

## Крэсла

У незалежнай Беларусі падзеі развіваюцца імкліва. Нарэшце з палёгкай уздыхаюць і журналісты: адмяняецца цэнзура.

Аднак жа, магчыма, для кагосьці і сапраўды палёгка, а для мяне яшчэ

большы цяжар. Створана Рэспубліканская камісія па барацьбе з прапагандай гвалту, жорсткасці і парнаграфіі. Мае выданні, асабліва "Частный детектив" і "Эрос", у гэтым сэнсе ходзяць, так бы мовіць, на вастрыі ляза. Дзе тая мяжа паміж апісаннем звычайнага забойства і "прапагандай жорсткасці", паміж эротыкай і парнаграфіяй? Ніякай акрэсленасці, тым болей заканадаўства, пакуль што не існуе, таму за любы артыкул тая камісія можа паставіць крыж на газеце. Каб пазбегнуць гэткай долі, я і яшчэ некалькі выдаўцоў такіх жа "сумніцельных" газет, загадзя аддаём "на камісію" арыгінал-макеты, каб атрымаць даведку (ведама ж, за немалыя грошы!), што ў газетах ніякай крамолы няма. Ну чым не тая ж цэнзура, ды яшчэ добраахвотная? Раней хоць грошы плаціць не даводзілася...

Пастутова высвятляецца, што камісія нашыя арыгінал-макеты і не разглядае, бо збіраецца яна гады ў рады, і тое дзеля таго, каб ацаніць замежную кінапрадукцыю. А лёс папяровае прэсы цалкам залежыць толькі ад аднаго чалавека, сакратара камісіі, які мае тут сталы заробак і таму ходзіць на працу кожны дзень.

Сакратары чамусьці мяняюцца, як настрой у цяжарнай жанчыны, і, нарэшце, прыходзіць чарга "заступіць на пост" адрузламу дзецюку, у якога барада сцелецца па грудзях да самага чэрава, пульхнага, як падушка. Ён заімшэлы халасцяк, жыве ў невялічкім пакойчыку інтэрната, тут жа, не абцяжарваючы сябе вылазкамі на працу, прымае ўсіх "хадакоў" з газетамі. Бывае, што на інтэрнацкім калідоры нават ствараецца чарга.

Аднаго разу заўважаю, што "эксперт па парнаграфіі і гвалце" на мяне касавурыцца, зыркае з-пад ілба, а гэта нічога добрага не зычыць.

— Штосьці ў маіх газетах не так? — пытаюся.

— Так, не так... — адрачона адказвае ён. — Ты вунь паглядзі, на чым я змушаны сядзець.

Скіроўваю позірк на ягонае "седала". Стул як стул. Ва ўсім інтэрнаце, мусіць жа, такія. Ды і ў маім кабінеце мэбля не лепшая. Пра гэта і кажу эксперту.

— Ты можаш сядзець на чым хочаш, а мне нязручна. — катэгарычна заяўляе ён. — Дый па статусе належыць мець не стул, а крэсла. Зразумеў?

А што тут разумець? Давядзецца мне купляць у краме самае дыхтоўнае крэсла, дый яшчэ каб круцілася, інакш маім газетам будзе гамон.

Надыбаўшы для эксперта крэсла, арыгінал-макеты я ўжо да яго не нашу, "аўтаматам" атрымліваю даведкі пра тое, што мае газеты цалкам прыстойныя і нават цнатліва-чыстыя — хоць да раны прыкладвай...

На жаль, бесклапотнае жыццё працягваецца не надта доўга, бо ў камісіі з'яўляецца новы сакратар-эксперт, дый неўзабаве ўжо даводзіцца звяртацца не ў камісію, а ў Міністэрства інфармацыі. А там крэслы дыхтоўныя, і ўсё як належыць...

Я хацеў распавесці не пра тое, што ў нашым грамадстве, як і раней, усё купляецца і прадаецца. Мараль зусім іншая. На жаль, хто-ніхто думае, што людзі мяркуюць пра ягоную значнасць па тым, якую шапку ён носіць і ў якім крэсле сядзіць...

## "Рэквіем" на пляжы

Адпачываю з сям'ёй на Кіпры. Ціхі пляж, плёскат марскіх хваляў, сонца яшчэ не пячэ, а толькі гладзіць цела сваімі пальцамі-промнямі... Здаецца,

што трапіў у рай, і думкі пра жыццёвыя клопаты засталіся недзе далёка-далёка, як быццам праблемаў не існуе ўвогуле...

Раптам гэтая ідылія парушаецца шумам-гамам. З гатэля, як гарох з торбы, на пляж высыпаецца гурт пузатых і не вельмі мужыкоў, дзябёлых беласкурых жанок. Яны атабарваюцца побач з намі. Некаторыя твары мне здаюцца знаёмымі. Так і ёсць: гэта ж артысты знакамітага маскоўскага тэатра “Новая опера”, іхнія партрэты красуюцца на шматлікіх афішах, развешаных у Ларнацы. Тут тэатр гастралюе.

Артысты галёкаюць, рагочуць на ўвесь пляж. Нямецкія цётухны, якіх большасць, касавурацца на “рускіх дзікуноў” і адсоўваюць свае лежакі як далей. Для нас такі бедлам не ў навіну, таму застаёмся на ранейшым месцы.

Аднак і мне становіцца млосна, калі нехта з артыстаў уключае магнітафон на ўсю моц і над пляжам (тут ужо і немцам не схавацца) гучыць не проста нейкая оперная арыя, а тужлівы “Рэквіем”, які раздзірае душу. І не пяць хвілінаў, не дзесяць, а цэлую гадзіну: калі стужка заканчваецца, уладальнік магнітафона яе перамотвае і зноў гучыць адзін і той жа самотны жаночы голас.

Немцы ці з-за сваёй тактоўнасці, ці з-за таго, што не ведаюць рускай мовы, ніякіх заўваг артыстам не выказваюць. Затое мову ведаю я, і мяне, як кажуць, дасталі гэтыя маркотныя спевы.

— Выключце, калі ласка, магнітафон, — прашу я ў “дзі-джэя”. — Людзі прыйшлі сюды адпачываць. Ім патрэбен спакой. У рэшце рэшт у кожнага свой густ...

Артыст з недаўменнем пазірае ў мой бок, і ў ягоных вачах чытаю: “Хіба ж можа не падабацца такі цудоўны твор? Гэта ж знакаміты “Рэквіем”! І выконвае яго таленавітая спявачка, якая знаходзіцца побач, на пляжы. За тое, каб пабываць на ейных канцэртах, людзі выкладваюць вялізныя грошы. А для вас гучыць той жа канцэрт, ды яшчэ бясплатна...”

Тым не менш “дзі-джэй” усё ж выключае магнітафон, і над пляжам усталёўваецца жаданая для ўсіх цішыня. Прынамсі, праз нейкія паўгадзіны “Рэквіем” зноў ускалыхвае абшар. І я ўжо разумею, што ніякія ўшчуванні ці заклікі больш не дапамогуць. Рускі чалавек добра ўспрымае толькі адзін аргумент — кулак. Не лезці ж мне ў бойку. Дый вельмі многа іх тут, “рускіх інтэлігентаў”...

“Рэквіем” бесперапынна гучацьме на пляжы і дзень, і другі, і трэці... Аж да тае пары, пакуль у Ларнацы не скончацца гастролі “Новой оперы”.

Магчыма, і той “Рэквіем”, і тыя артысты сапраўды геніяльныя. Магчыма. Але ж нават чорную ікру варта есці ў пэўны час і не цэлымі лыжкамі. Інакш заванітуе.

## Плявок на магілу

Круіз па Міжземным моры. У французскай Ніцы цеплаход прышвартоўваецца на цэлы дзень. Вольнага часу шмат, і падзець яго няма куды: гістарычных помнікаў у гэтым курортным гарадку амаль няма. Згадваю, што на мясцовых могілках пахаваны расійскі пісьменнік і філосаф Аляксандр Герцэн. Гэта пра яго было напісана ў савецкіх падручніках па гісторыі: “Дзекабрысты разбудзілі Герцэна...” А ён, у сваю чаргу, сваім “Колоколом” “разбудзіў” народавольцаў, а тыя — бальшавікоў...

З суседам па каюце вырашаем наведаць магілу слыннага “прадзеда” палымяных ленінцаў.

Могілкі доўга шукаць не трэба. Яны нібы навісаюць над Ніцай, высяцца ў глыбіні гарадка. Магілы прыткнутыя адна да аднае так шчыльна — пальца не праткнеш. Уся зямля ў бетоне і граніце.

Каб хутчэй знайсці магілу Герцэна, разыходзімся з суседам у розныя бакі. Праз нейкі час чую ягоны покліч:

— Знайшоў! Хадзі сюды!

На пастаменце Герцэн стаіць у поўны рост. Бронзавы помнік пакрыўся зялёным налётам.

Хвіліну-другую стаім у роздуме. Раптам сусед смачна плюе на чыстую, дагледжаную магілу Герцэна і голасна ўскліквае:

— Будзь жа ты пракляты, сволач! З-за цябе пачаліся ўсе нягоды ў Расіі, ты нарадзіў ненавісных бальшавікоў...

Мне непрыемна ні чуць гэтае, ні бачыць. Цягну суседа ад помніка як далей. У рэшце рэшт, калі разабрацца, Герцэн зусім не вінаваты ў тым, што савецкая прапаганда зрабіла яго “прадвеснікам рэвалюцыі”. Ён, бадай, і ўявіць не мог, у які рэжым увасобіцца барацьба з самадзяржаўем. І, можа, толькі і хацеў, каб было адменена прыгоннае права... Які ж з яго бальшавік? Хутчэй ліберал.

Усё-ткі не варта пляваць на чужыя магілы. Мы яшчэ не ведаем: магчыма, нашчадкам захочацца плюнуць і на нашыя...

## Хто інвалід?

Калі яшчэ вучуся ў школе, даю суседскаму хлопчыку Колю Касько, на чатыры гады за мяне маладзейшаму, пачытаць невялічкі зборнічак твораў рускага паэта Васіля Фёдарава. Не расзлічваю, што ён таксама прыахвоціцца да паэзіі, але на ўсялякі выпадак... Надта ж мне самому падабаюцца вершы гэтага аўтара. Напрыклад, вось такі:

Мы спорили о смысле красоты.
И он сказал с наивностью младенца:
— Я за искусство левое. А ты?
— За левое. Но не левее сердца...

Вельмі дзіўлюся, калі Коля праз тыдзень вяртае зборнік: аддаваў яму зашмальцаваны, з дзе-нідзе парванымі старонкамі, а атрымаў падчышчаны, падклееныя, абгорнуты ў газету. Коля кажа, што вершы Фёдарава яму вельмі спадабаліся (ён увогуле ўпершыню ўзяў у рукі кнігу паэзіі), і просіць “што-небудзь яшчэ гэтага аўтара”.

Кніг Васіля Фёдарава ў вясковай бібліятэцы болей няма, таму я прапаную малодшаму сябру іншыя, не менш цікавыя. І Коля, на маю радасць, трывала ўваходзіць у маляўнічы свет Паэзіі...

Скончыўшы прафесійна-тэхнічнае вучылішча, Коля Касько працуе ў “Мінгазе”. “Маладыя гады, маладыя жаданні...” Калі ўвечары злая вахцёрка інтэрната не пускае хлопца да любімай дзяўчыны, ён адважваецца залезці да яе па вадасцёкавай трубе. На чацвёрты паверх. Жаданае вакно ўжо зусім блізка. І раптам Колю здаецца, што труба адрываецца ад сцяны. Ён губляецца і з жахлівым крыкам ляціць уніз...

Зламаны хрыбетнік. Ніжняя палова тулава занямела. Дактары кажуць, што шанцаў зноў стаць на ногі амаль няма. Але пазмагацца варта. Трэба распрацоўваць мышцы. Коля робіць гэта да знямогі. Не вылазіць з лякарняў. І ніякай палёгкі.

Даведаўшыся, што ў крымскім паселішчы Сакі вось гэткія "спінальнікі" лечацца граззю, ён, напазычаўшы грошай, купляе там дамок. І жыве на чужыне, сярод незнаёмых людзей, зусім адзін, без аніякіх сядзелак! Не вылазячы з інваліднай каляскі, гатуе ежу, прыбірае ў пакоях, мые бялізну, ну, словам, робіць усё, як і належыць здароваму гаспадару жытла. Нават ухітраецца зарабляць грыўны — на мясцовым рынку абменьвае іх на валюту і наадварот.

Часам Коля наведваецца на радзіму (у Мінску ў яго таксама ёсць кватэра) і адразу тэлефануе мне. Я кідаю ўсе справы і імчу да яго, каб згуляць партыю ў шахматы, і пад кілішак гарэлкі паслухаць, якія змены адбыліся ў ягоным жыцці.

Хвалёная грязь Колю не дапамагла. Ног ён па-ранейшаму не чуе. Але надзею ўсё ж не губляе. Начамі вельмі часта сніць, як ходзіць па лесе, па роднай вёсцы...

Удзельнічае ва ўсіх мясцовых спаборніцтвах па шахматах і шашках. Гуляе ў настольны тэніс. Знясільвае сябе на трэнажорах, якімі абстаўлены ўвесь дом. Ягонае цела па пояс нагадвае глыбу. Калі я прапаную Колі падужацца на рукі, ён завальвае мае запясці на стол, як кажуць, адной левай.

Коля цікавіцца ўсім, што адбываецца ў свеце. Выпісвае шмат газет. Кніг прачытаў болей, чым я. Біблію вывучыў амаль на памяць.

Калі позна ўвечары вяртаюся ад Колі дамоў, у галаву закрадваецца крамольная, грэшная думка: "Ці стаў бы ён такім адукаваным, духоўна багатым, паўнавартасным чалавекам, калі б не тая трагедыя?" А яшчэ, аналізуючы ўласнае тлумнае жыццё, дабітае шкоднымі звычкамі здароўе, марную будзённую мітусню, задаю сабе пытанне: "Хто з нас болей інвалід — Коля ці я?"

## Кантраст

У газеце "Совет да любовь" раз-пораз мы друкуем лісты дзяцей, адрасаваныя Богу. Яны ўражваюць сваёй наіўнасцю і непасрэднасцю.

"Кажуць, што чалавек вяртаецца на зямлю ў выглядзе некага. Зрабі, калі ласка, так, каб я вярнуўся на зямлю ў выглядзе майго сабакі, а ён у выглядзе мяне, і мы зноў будзем разам".

"Калі Ты сатворыш канец свету, дык хто ж на Цябе будзе маліцца?"

"А вось свечкі ў царкве прадаюць — гэта Твой бізнес?"

"А што было спачатку: Адам і Ева ці дыназаўры?"

"Зрабі так, каб чалавеку пры нараджэнні выдавалі запасныя дэталі: ногі, рукі, піські і іншыя жыццёва важныя органы".

"Кажуць, Госпадзі, што ты — любоў. Прабач мяне, але любоў — Іра".

"Ну чаму Ты так часта п'еш з маім татам? Ён заўсёды, калі падымае чарку, ускліквае: "Ну, з Богам!"

"Я цябе не прасіў, а Ты ўзяў і адмяніў кантрольную. Класна!"

"Божанька, запрашаю Цябе на мой дзень нараджэння, які адбудзецца 4 жніўня ў 14 гадзін. Буду чакаць. Калі няма грошай, прыходзь без падарунка."

“Мы прыдумалі з хлопцамі яшчэ адну запаведзь: “Не куры нашча”.

Апошні ліст 11-гадовага хлапчука мяне крыху насцярожвае: добра, што нашча дзеці болей не кураць, аднак жа трывожна, што яны ўвогуле прысмакталіся да цыгарэт у такім раннім узросце.

І ў рэшце рэшт зусім “дабівае” ліст, адрасаваны не Богу, а ўжо самой рэдакцыі газеты: “Адкажыце, калі ласка: ці можна зацяжарыць, займаючыся аральным сэксам? Юля, 10 год”. Проста жах! І які кантраст з прастакаватымі лістамі да Бога!

Што гэта? Акселерацыя? Ранняя разбэшчанасць? І чаму так адбываецца?

Інтэрнэт, тэлебачанне, часопісы і газеты — усе яны імкнуцца пачаставаць народ “клубнічкай”. А яна ж даступная і для дзяцей...

Дык, можа, і сам я спрыяю гэтай разбэшчанасці, выдаючы газеты “Эрос” і “Совет да любовь”?..

## Два аркушыкі

З раніцы забіраю ў выдавецтве наклад сатырычна-гумарыстычнага зборнічка Ніла Гілевіча “Дзверы ў гісторыю” і тэлефаную аўтару:

— Ну вось, Ніл Сымонавіч, кніга ў багажніку маёй машыны. У другой палове дня прывязу яе Вам. Так што рыхтуйце для мяне прысвячэнне, якое напішаце на першым асобніку...

Кажу жартам, не маючы на ўвазе, што Народны паэт і сапраўды будзе напружваць мазгі, каб зрабіць звычайны надпіс на вокладцы кнігі.

Як жа дзіўлюся, калі бачу ў руках Гілевіча два аркушыкі з блакнота, тэкст на якіх пакрэслены ўздоўж і ўпоперак.

— Вы пачакайце, а я перапішу ўсё ў зборнік, — кажа Ніл Сымонавіч.

— А не трэба перапісваць! Вы лепей падарыце мне лісточкі, — прашу ў Гілевіча, бо разумею, што гэты чарнавік — даражэй за любы аўтограф.

Пасля невялікай развагі Ніл Сымонавіч працягвае мне лісточкі...

Зірніце на іх. Пабачце, колькі працы Народны паэт уклаў у звычайнае прысвячэнне. З якой жа тады ўвагай і карпатлівасцю ставіцца ён да сваіх вершаў?!

Не кожнаму з нас стае столькі адказнасці за напісанае. Мусіць, таму мы і не Народныя...



## “І звонкае “дзе”, і густое “чаго”...

Пры размове з Нілам Гілевічам прыходзім да адзінай думкі: дрэнна, што хтосьці спрабуе прыўнесці ў беларускую мову нязвыклую, можа, нават штучную фанетыку: “філялёгія”, “кляса”, “глёбус”, “Эўропа”...

— У народа і так ужо адабралі родную мову, — разважае Ніл Сымонавіч. — Ці ж шмат беларусаў ёю карыстаецца? Нам бы захаваць хаця б тую мову, якую большасць беларусаў вывучала ў школе, на якой размаўлялі іхнія бацькі і дзяды. Падобныя новаўвядзенні могуць выклікаць адчужэнне нават у тых, хто яшчэ захоўвае ў глыбіні душы рэшткі беларускасці. Мэтазгодным, арганічным для нашай мовы лічу толькі пашыранае ўжыванне мяккага знака. Як зусім нядаўна рабіў гэта “Дзеяслоў”.

— А мне яшчэ не падабаецца, што мову запаланілі паланізмы, — каламбуру ў дадатак. — Некаторыя нашы “заходнікі” паўсюль стараюцца ўставіць польскія слоўцы — абы толькі пазбегнуць рускамоўнай калькі...

Ніл Сымонавіч пагаджаецца і з гэтым.

Да ўсяго, мне заўсёды рэжа слых мяккае вымаўленне гука “ч”: “прачітаў”, “чямусьці”... Гэта ўсё ад рускай фанетыкі, бо ў нашай мове — “і звонкае “дзе”, і густое “чаго”.

І вось што заўважаю: той, хто нарадзіўся ў вёсцы, у каго беларуская мова, як кажуць, усмакталася з малаком маці, вымаўляюць “ч” цвёрда, як і след. А выхадцы з горада (тым лікам і літаратары), якія выраслі ў рускамоўным асяроддзі, так і не могуць “скінуць з языка” гэтае “чяго”. Нават Уладзімір Арлоў, вельмі паважаны мною літаратар, не пазбавіўся ад гэтай ненатуральнай для беларускай мовы асаблівасці.

Напачатку я трохі іранічна, нават з пагардай ставіўся да такой “заганы”. Маўляў, які ж ты беларус, калі не можаш размаўляць як і ўвесь народ. А потым у рэшце рэшт паразумнеў і прыйшоў да высновы: не з пагардай трэба ставіцца да такіх людзей, а з павагай і пашанай. Правільнае, натуральнае вымаўленне табе далося дзякуючы бацькам, табе не давялося рабіць ніякіх высілкаў. А яны, гарадскія, прыклалі столькі намаганняў, каб вывучыць, засвоіць, зрабіць роднаю мову, якой у дзяцінстве амаль не чулі. Рабілі яны гэта свядома, паводле шчырага пераканання, таму мова для іх нашмат даражэйшая, чым для тых, хто атрымаў мову ў спадчыну і якой часцей за ўсё пагарджае.

## Баль на касцях і крыві

Даўно хацелася наведаць Салаўкі — адначасна жахлівае і святое месца: схіліць у жалобе галаву перад ахвярамі сталінскага рэжыму, памаліцца перад кананічнымі для кожнага праваслаўнага верніка іконамі.

На палубу цеплахода “Пляханаў”, які павінен адшвартавацца ад Паўночнага рачнога вакзала Масквы, з беларускім пашпартам ступаю я адзін. Астатнія — расейцы, пераважна масквічы, немаладыя.

Калі цеплаход трапляе ў Беламорканал з ягонымі шматлікімі шлюзамі, сталага веку гід па рэпрадуктары расказвае пасажырам пра тое, як будаваўся гэты канал. Пра дзясяткі тысяч вязняў, закапаных уздоўж ягоных берагоў. Пра тое, што наперадзе нас яшчэ чакае колішні СЛОН (Соловецкий лагерь особого назначения) — першынец жахлівага ГУЛАГа... І так — штодзень.

Гід расказвае ўсхвалявана, узрушана, часам ягоны голас дрыжыць, але, падобна, сівагаловага апавядальніка мала хто слухае...

Пасажырам болей даспадобы забавы, якія бесперапынна ладзяцца арганізатарамі экскурсіі. А кожны вечар, натуральна, “на теплоходе музыка играет...” Танцы да знямогі.

Да аднае з забаўляльных вечарын рыхтуецца канцэрт мастацкай самадзейнасці. “Сюрпрыз” хачу зрабіць і я. Вершы кінуў пісаць даўно, аднак тут чамусьці “прарвала”. Можа, з-за таго, што абурае бесклапотнасць, абыякавасць затлусцелых у сваёй раскошы масквічоў, якія “плаваюць па крыві і ходзяць па касцях” продкаў, нават не задумваючыся над гэтым. Спадзяюся сваім вершам нагадаць ім пра жахлівае мінулае, разбудзіць сумленне. Верш, натуральна, пішу на рускай мове, а каб прагучала больш даходліва, пераймаю “Стихи о советском паспорте” Уладзіміра Маякоўскага.

І вось я выходжу на сцэну, пачынаю чытаць:

Я достаю
        из широких штанин
Дубликатом
        позорного груза —
Простите,
        когда-то я был гражданин
Советского Союза.
Я вас возвысил
        в период тот
Напрасно,
        товарищ Нетте.
И вот
        я ступаю на теплоход
Всем своим брутто
            и нетто.
И я иду
        на виду
у всех —
Рифма —
        увы! — плохая —
На теплоход,
        белый, как снег,
На теплоход “Плеханов”.
Плеханов,
        который
            кровавых дней
Был роковым предтечей.
Собрать бы вас,
        тех бунтарей,
И грохнуть по вам
        из всех батарей
Из той,
        соловецкой,
            картечи...

Чую, як у перапоўненай зале пачынае нарастаць незадаволены гул. Хто-ніхто ўстае з месца і ідзе на палубу. Ды ўсё ж працягваю:

Я много увидел,
        много узнал,

Как жилы во мне —
        “Беломорканал”
С кровью-водой игристой.
Когда-то была такая страна!
Теперь говорю я:
        пошли бы вы на...,
Товарищи коммунисты!
Даже ад
        вы повергли в шок!
Вас бы туда —
        чохом!
Когда-то поэму родил —
        “Хорошо!”,
Теперь написал бы —
        “Плохо!”.
Вас бы туда,
        геть вашу мать,
Пламенных
        и советских,
В шлюзы
        вручную
            воду качать
До островов Соловецких.
Вас бы туда,
        в гранитный забой,
Не было б места лени!
Сюда бы Сталина —
        да с киркой,
А рядом,
        с бревном тем,
            Ленин...

У зале ўжо не гул, а крыкі, быццам там сядзяць тыя самыя “товарищи-коммунисты”, якіх я “чохам хачу бачыць у пекле”:

— Прэч са сцэны!

— Не псуй нам святочны настрой!

— Мы тут адпачываць сабраліся, а не слухаць палітычныя лекцыі!

Тым не менш у гэтым гуле й гудзе, насуперак грамадзе, дачытваю апошнія радкі:

По берегам —
        мертвых рать.
Вот вам укор!
        И чтобы
Вновь написать
        и аз воздать,
Я
    восстаю
            из гроба!

Нарэшце, пад свіст і галёканне залы жылісты дзядок (відаць, сапраўды былы бальшавік), учапіўшыся ў руку, сцягвае мяне са сцэны. Лічы, абпляваны, іду ў сваю каюту. Баляванне працягваецца цэлую ноч...

...У Салавецкім манастыры некаторыя з тых, хто мяне абсвістваў, моляцца перад святымі іконамі. За каго яны моляцца, для каго просяць

літасці ў Неба? Мусіць жа, не за бязвінных ахвяр, чые косьці гніюць абапал “Беламорканала”, пад мураванымі сценамі гэтага манастыра.

“Паэт сказаў: п’ем за Айчыну! I кожны выпіў — за сябе...” Гэта Сыс.

## Дзяльба ў Храме

У ерусалімскім Храме, пабудаваным на месцы, дзе, як мяркуецца, узышоў на Галгофу і быў разапнуты Хрыстос, заўсёды шматлюдна. Паломнікі, ды і проста экскурсанты-разявакі, тоўпяцца ля калуквіі, каб патрапіць у невялічкае памяшканне, у якое, паводле рэлігійнага падання, пасля распяцця паклалі цела Госпада, і з якога перад праваслаўным Вялікаднем Патрыярх выносіць Дабрадатны агонь.

Грэчаскі святар, высокі, дужы, з пасівелай барадой і праніклівымі вачыма, дзядок, стаіць пры ўваходзе і сочыць, каб людзі не лезлі без чаргі, адлічвае па чатыры-пяць чалавек, якія могуць адначасна знаходзіцца ў калуквіі. Некаторыя на яго мала зважаюць, і тады святар пускае ў ход рукі, адштурхоўвае найбольш нахабных і, што мяне карабаціць, злосна на іх лаецца. “Як жа так? — думаю я. — У самым святым месцы — і лаянка?”

Потым даведаюся, што святары розных хрысціянскіх канфесій і паміж сабою не надта ладзяць.

Храм падзялілі на часткі, і кожная канфесія звычайна трымаецца сваёй “вотчыны”. Размеркаваны час, калі, напрыклад, каталікі ці армяне могуць маліцца ў святых месцах.

Тут увогуле падзелена ўсё, нават на лесвіцы пры ўваходзе ў Храм кожная канфесія мае адну сваю прыступку...

Ды гэта што! Нярэдка святары ўсчыняюць паміж сабою бойкі. Адну з іх пад час вялікага рэлігійнага свята ў прамой трансляцыі на ўвесь свет паказалі па тэлебачанні.

А нам, вернікам, даводзяць: “Бог ёсць любоў”...

## Нябожчыкі

З дзяцінства баюся нябожчыкаў. Калі па вуліцы вяскоўцы нясуць на сваіх плячах труну, а жанкі тужліва галосяць, бягу на поплаў і ўжо адтуль, здалёк, назіраю за жалобнай працэсіяй. Нават калі паміраюць баба Арынка, баба Каця і дзед Павел, я не падыходжу да труны і не іду ўслед за сваякамі на клады. Толькі ўжо потым, калі закапаюць, асмельваюся падысці да магілы і хвіліну-другую пастаяць каля свежага бугра жоўценькага пясочку.

— Каб не баяцца нябожчыка, — раіць маці, — ты вазьміся за вялікі палец ягонай нагі, і страх пройдзе.

Спрабую. Бяруся. I ўсё адно баюся.

Калі ўжо працую ў Старых Дарогах і жыву ў трохпавярховым доме, прыходзіць суседка знізу, былая настаўніца, і просіць забраць з морга ейную памерлую сяброўку, разам з якой дажывала век у адной кватэры. Адмовіцца нельга, бо ў суседкі ніякай радні нямашака, а на той час усе мужыкі, што жывуць у пад’ездзе, некуды сышлі.

Змушаны пагадзіцца, хоць унутры ўсё пахаладзела...

Разам з кіроўцам нанятага грузавіка заходзім у морг. У ноздры адразу б’е спецыфічны, уласцівы толькі трупярні пах. “Наша” нябожчыца ляжыць

на канапе ажно ў самым канцы калідора, з абодвух бакоў абстаўленага сталамі, на якіх ляжаць трупы. І міма іх мне трэба прайсці!

Стараюся не дыхаць, заплюшчваю вочы і наўздагад іду следам за кіроўцам. Ён абхоплівае плечы, я бяруся за ногі, і мы кладзём нябожчыцу на пасціланку, якую я адразу ж загортваю, каб не бачыць пажоўклае цела...

Як тады з маіх грудзей не выскачыла сэрца? Як я сам не стаў насельнікам тае самае трупярні?

Нешта загадкавае, таямнічае бачыцца мне ў пераходзе чалавека ў іншы свет. І гэтая таемнасць, як і ўвогуле ўсё неспазнанае, палохае.

Пазбавіўся ад страху перад нябожчыкамі толькі тады, калі пачаў наведваць царкву. Цела — яно нішто, калавак мёртвай матэрыі. А душы, якая яшчэ не паспела адляцець у нябёсы, чаго баяцца? Яна — часцінка Бога...

## Смерць маці

Як ні па-блюзнерску гэта гучыць, але я жадаю смерці маці.

У яе цяжкая і пакуль што невылечная хвароба — Паркінсона. У апошняй стадыі. Нават самыя дарагія лекі, прывезеныя мною, не даюць рады.

Цэлымі днямі маці сядзіць на канапе і бяздумна глядзіць у адну кропку. Калі ж яна спрабуе падняцца, цела пачынае калаціцца, і маці, шаркаючы па падлозе, можа зрабіць толькі некалькі крокаў да стала ці да вядра, бо да борні, што за хлявом, ёй ужо не дабрацца.

Перавожу маці ў Мінск, у свой дом. Але яна вытрымлівае толькі тыдзень, просіцца назад у вёску. Там суседкі, сяброўкі. Яны хоць як разнастаяць панылае існаванне.

Пра сваё блюзнерскае жаданне наконт смерці маці пазней раскажу суседу цераз вуліцу Мішу Караленю, якога напаткала яшчэ горшае. Ягоная маці, Ганначка, нямоглай не стала, але кранулася розумам. І тое, што яна яшчэ рухавая, дадае толькі болей клопатаў сыну і нявестцы Ніне. Часам Ганначка падымаецца з ложка, ідзе немаведавама куды, і шукаць яе даводзіцца да самае начы. Яна, бывае, вытварае такую непатрэбшчыну, што і казаць не хочацца.

Міша мяне разумее і кажа, што ў яго ёсць такое ж жаданне...

А памерла мая маці зусім нечакана. У цёплы летні дзянёк захацела выбрацца ў двор, пабачыць сонейка. Ды спатыкнулася, упала і зламала шыйку бядра. Для старых людзей гэтая траўма — як смяротны прысуд.

Мучылася маці тыдзень. Крычала ад болю, у трызненнях клікала мяне. Але я да яе прыйсці не мог, бо нічога не ведаў. З сям'ёй адпачываў на далёкім іспанскім востраве, а сотавых тэлефонаў тады яшчэ не было... Паспеў толькі на пахаванне.

Дагэтуль не разабраўся, ці трэба мне дакараць самога сябе за тое, што жадаў смерці маці? Магчыма, Бог пачуў маю просьбу і сапраўды прыспешыў трагічную развязку?..

Адно добра ведаю: тады я спрабаваў уявіць сябе на ейным месцы і разумеў, што і для сябе я прасіў бы ў Бога смерці, а ў дзяцей і жонкі — атруты. Ну які сэнс існаваць, так бы мовіць, раслінай, пакутаваць без аніякай надзеі на выратванне і пры гэтым дадаваць клопатаў і душэўных пакут радні?

Жадаць чалавеку смерці можна не толькі ад лютай нянавісці, але і ад вялікай любові...

## “Я рапартую…”

Беларускае тэлебачанне паказвае рэпартаж пра сустрэчу прэзідэнта з мітрапалітам Філарэтам. Іх, гэтых сустрэч, апошнім часам аж занадта — з нагоды і без яе. Улада (і гэта відавочна самаму простаму абывацелю) імкнецца надаць сваёй дзейнасці рэлігійны напыл, маўляў, во, глядзіце, сам Бог бласлаўляе і накіроўвае нашага правадыра, хоць і лічыць ён сябе “праваслаўным атэістам”. Асабліва гэта кідаецца ў вочы пад час уручэння дзяржаўных узнагарод за “духоўнае адраджэнне”, калі мітрапаліт, нямоглы, стары чалавек, змушаны больш як гадзіну стаяць пасярод вялізнай сцэны, і ўся ягоная роля толькі ў тым, каб “блаславіць” чарговага прыўладнага лаўрэата. Усё гэта штучна, паказушна...

Але асабліва мяне ўзрушвае і нават абурае тэлевізійны сюжэт, калі мітрапаліт, стоячы перад прэзідэнтам амаль што па стойцы “смірна”, урачыста кажа:

— Аляксандр Рыгоравіч, я рапартую...

Ну акурат як некалі “ўдарнікі сацыялістычнага спаборніцтва” дакладвалі камуністычным лідарам, ці чыноўнік ідэалагічнага аддзела райкама партыі — свайму начальніку-сакратару. У мяне адразу ж нараджаецца фельетон, які я так і не надрукаваў, бо тады палічыў, што “царква — гэта святое”. Прыводжу толькі апошнія радкі таго фельетона:

> “Я рапартую”...
> Вы ж не слесар,
> Які прапіць зарплату змог...
> Хай мае кесарава кесар,
> І мае, што належыць, Бог.

Дык ці правільна я палічыў, што, як вернік, не маю права асуджаць і ганьбіць ліслівы ўчынак галоўнага праваслаўнага святара Беларусі? Мусіць, не.

Царква — гэта зусім не велічныя храмы з залацістымі купаламі, не рэлігійнае чынавенства, якое мае гэткую ж, як і ўлада, прыступчатую іерархію ад Патрыярха да сельскага святара. Царква — гэта мы, простыя вернікі, аб’яднаныя адзінаю вераю Богу. (Дарэчы, правільна трэба казаць менавіта так — “веру Богу”, а не “веру ў Бога”, бо Госпаду абсалютна ўсё адно, верым мы ў яго ці не. Нам самім патрэбная вера — у тое, што Бог ніколі не пакіне нас у роспачы і адчаі, падкажа правільны шлях, і ў гэтым Яму верым).

Тое, што вышэйшае праваслаўнае чынавенства апошнім часам стала “ідэалагічным аддзелам” нашай улады, зусім не азначае, што само праваслаўе, як плынь хрысціянства, нейкае хібнае, крывадушнае, прыстасавальніцкае. Мітрапаліты прыходзяць і адыходзяць. У рэшце рэшт былі сярод іх і змагары, і пакутнікі. Аб “правільнасці” той ці іншай рэлігіі трэба меркаваць зусім не па “вышэйшым чынавенстве”, якое час выкінуў на паверхню жыцця і якое на нейкі тэрмін быццам бы ўвасабляе ўсю рэлігію. Варта глядзець глыбей, у далячынь вякоў...

Прынамсі, некаторыя святары-прыстасаванцы, каб патлумачыць сваю лаяльнасць да “кесара”, спасылаюцца на тое, што “ўся ўлада — ад Бога”. Аднак жа не казаў Хрыстос гэткіх слоў, няма пра тое згадак і ў Евангеллях. А належыць гэты выраз апосталу Паўлу, хоць і паважанаму прапаведніку хрысціянства, але ўсё ж жывому, зямному чалавеку...

Як выказаўся праваслаўны нямецкі святар Аўгусцін, царква — не з уладай, царква — з праўдай. Дык дзе ж яна, праўда, калі прыхільнікі дэмакратыі гнобяцца ў турмах, насуперак Божым запаветам выносяцца смяротныя прысуды, а вышэйшыя праваслаўныя чыны — маўчаць? Ці, можа, забылі, што галоўны абавязак царквы — не спрыяць уладзе, а абараняць ад яе ўсіх зняважаных і пакрыўджаных?

Часам з вуснаў праваслаўных святароў гучыць і яшчэ адно апраўданне: маўляў, жывём мы ў злагадзе з уладай, дык і маем пэўныя прэферэнцыі, без перашкод будуюцца і аднаўляюцца храмы...

А нашто тыя храмы, калі ў іх гучаць крывадушныя словы, узносяцца малітвы за “кесара”? Хіба гэта ўспадоб Богу? Ратаваць трэба не храмы. Ратаваць трэба душы.

## Жоўты колер “чарнухі”

У тэлефоннай слухаўцы — дзявочы голас:

— Я — студэнтка факультэта журналістыкі. Мы рыхтуем вучэбную газету, і хацелася б узяць у вас інтэрв’ю...

У свой час самому давялося быць амаль заўсёдным рэдактарам падобных выданняў, да таго ж, “папляцкаць” языком перад дыктафонам — не такая ўжо вялікая напруга, таму ў думках даю згоду, але на ўсялякі выпадак пытаюся:

— Пра што будзем размаўляць? Якая тэма вашай вучэбнай газеты?

— Тэма — “жоўтая прэса”, — нязмушана і нават неяк узнёсла адказвае студэнтка.

Я на хвіліну “прыкусваю язык” і, нарэшце, цікаўлюся:

— А чаму вы звярнуліся менавіта да мяне?

— Ну як жа! — недаўменна ўскліквае дзяўчына. — Вашая газета “Частный детектив” — акурат і ёсць флагман “жоўтай прэсы” ў Беларусі!

“Флагманам”, вядома ж, быць прыемна, аднак ейныя словы для мяне — як сярпом па адным месцы. Я без разваг і з непрыхаванаю крыўдаю адказваю:

— Вазьміце інтэрв’ю ў некага іншага. Вы трапілі не на адрас...

Так ужо сталася, што выраз “жоўтая прэса” — абзыванка зняважальная, нават ганебная. А каму ж хочацца чапляць на сябе гэткі ярлык?

Для заспакаення знаходжу ў часопісе Беларускай асацыяцыі журналістаў артыкул, у якім малады публіцыст Сяргей Пульша напісаў: “Адзін мой зусім не дрымучы знаёмы пастаянна купляе газеты накшталт “Частный детектив”. Пытаюся: “Як ты можаш чытаць гэткую “чарнуху”, дзе на кожнай старонцы згвалтванні і забойствы?” А ён у адказ: “Сярога, на самай справе гэта і ёсць жыццё”. Як ні круці, ён мае рацыю: і згвалтаванні, і забойствы, і ўбоства душы чалавечай — неаспрэчны факт нашага жыцця”.

Хоць і слушна выказаўся Сяргей Пульша, але ягоныя словы чамусьці не ўсталявалі ў маёй душы злагаду. Жыццё — яно разнастайнае, а мая газета адлюстроўвае самыя цёмныя яго бакі. І што ні кажы, а “Частный детектив” кіруецца прынцыпамі скандальнай, “жоўтай” прэсы, у аснове якой ляжаць тры “с”: сэкс, смерць, спорт. Так што змушаны пагадзіцца, хоць і не дае мне гэта ніякай асалоды: студэнтка журфака звярнулася акурат “на адрас”...

Аб сваіх справах, аб сабе мы часта думаем так, як нам хочацца. А насамрэч выглядаем гэтак, як бачаць нас староннія...

## Галоўная каштоўнасць

У серыі “Беларусь літаратурная” выдаецца кніга “Арэскія крыніцы”. У ёй змешчаны творы аўтараў, якія маюць хоць нейкае дачыненне да Старадарожчыны (зборнік рупліва падрыхтаваў Кастусь Цвірка пры дапамозе мясцовых журналістаў Міхася Татура і Нэлі Астрэйка). З гэтае нагоды раённае кіраўніцтва ладзіць прэзентацыю ў толькі што адбудаваным Доме культуры. На яго запрашаецца ўся мясцовая інтэлігенцыя, аўтары, творы якіх апублікаваныя ў кнізе, само сабою, кіраўнікі выдавецтва, якое пры дапамозе спонсараў выпусціла зборнік у свет.

У Старыя Дарогі еду разам з Кастусём Цвіркам — у маёй службовай машыне. На прэзентацыю трапляем “упрытык”, урачыстасці павінны пачацца праз дзесяць хвілін, таму кіруемся адразу ў Дом культуры. Зала ўжо запоўненая. Перад уваходам у яе сядзіць маладзіца, якая размяркоўвае, куды і каму належыць сесці. Кастуся Цвірку яна пазнае і ветліва паказвае на рад пасярэдзіне залы, прызначаны для раённага кіраўніцтва і ганаровых гасцей. Пачуўшы маё прозвішча і зверыўшы са спісам, маладзіца кажа:

— А вашае месца на першым радзе. Туды мы садзім усіх літаратараў-пачаткоўцаў, каб ім бліжэй было ісці да сцэны, калі давядзецца выступаць.

Гэтае “пачатковец” у адносінах да мяне, шчыра кажучы, трохі бянтэжыць, бо ўжо пражыў амаль паўвека і маю з дзясятак уласных кніг. Прынамсі, я гатовы пасуседзіцца са сваімі былымі выхаванцамі, творы якіх рэцэнзаваў і даводзіў да ладу яшчэ трыццаць гадоў таму, калі працаваў у мясцовай райгазеце. Скмеціўшы разгубленасць на маім твары, Цвірка раіць:

— Ды не слухай ты нікога! Пайшлі са мною, вунь у “ганаровым” радзе і месцы вольныя ёсць.

Іду за ім услед...

Пасля ўрачыстае часткі прэзентацыі для “ганаровага рада” падрыхтаваны “нязмушаны” працяг у рэстаране. Я адчуваю, што мая прысутнасць там у планы арганізатараў не ўваходзіць (ды мне ніхто і не прапаноўвае), аднак, плюнуўшы на ўсё, трымаюся побач з Цвіркам. Мне няма куды падзецца, у рэшце рэшт трэба ж завезці дадому, у сталіцу, свайго старэйшага сябра.

Нейкім чынам да асяродку “ганаровых” прыбіваецца яшчэ адзін, гэткі ж, як я, “лішні” — немалады дзяцюк з Бабруйска, верш якога змешчаны ў кнізе. Ён не наўмысна імкнецца трапіць на той банкет, проста яму цікава пазнасіцца з вядомымі літаратарамі, таму ідзе побач з імі, пра нешта расказвае, штосьці распытвае і міжволі апынаецца ў невялікай зале рэстарана, дзе загадзя накрыты шыкоўны стол. Гаспадарам, вядома ж, няёмка гнаць дзецюка прэч, тым болей што месца хапае ўсім.

Прамовы, віншаванні, тосты... На “пачэсным” месцы стала сядзіць не кіраўнік раёна, а дырэктар выдавецтва. Ён трымаецца ўпэўнена, самавіта, па-гаспадарску. Побач — ягоныя падначаленыя, досыць вядомыя пісьменнікі. За сталом рэй вядзе дырэктар. Калі ж адзін з пісьменнікаў выказвае думку, якая не стасуецца з ягонаю, дырэктар кідае на “апанента” цяжкі позірк і пагрозліва кажа:

— Ты не забывай, што ў выдавецтве ляжыць рукапіс тваёй кнігі і яшчэ невядома, ці дам я дазвол на яе выданне...

Пісьменнік прыкусвае язык, абсякаецца.

Калі ўжо пасля трэцяй-чацвёртай чаркі зала напаўняецца звыклым для

такога мерапрыемства гулам-гаманой, са свайго месца падымаецца “лішні” дзяцюк з Бабруйска і просіць увагі.

— Я хачу пачытаць вам свае вершы, — нечакана прапаноўвае ён і дастае з-за пазухі некалькі аркушаў.

Ніхто не пярэчыць, бо ўсе разлічваюць, што гэты “самадзейны паэт” прадэкламуе два-тры кароценькія творы — дый годзе. Чаму б не паслухаць? Аднак аўтар чытае і адну хвіліну, і другую, і пяць... Аркушаў, як высвятляецца, шмат, і ўсе яны спісаныя дробным почыркам. Да таго ж, вершы слабенькія, амаль што вучнёўскія. Тым не менш ніхто паэта не спыняе, бо гэта выглядала б непрыстойна, а сам дэкламатар успрымае маўчанне як адабрэнне і стымул. Не вытрымлівае дырэктар выдавецтва. Ён рэзка ўстае і зычна перабівае няўрымслівага паэта на паўслове:

— Што вы нам чытаеце сваю ахінею? Во, тут, побач са мною, сядзяць слынныя пісьменнікі, творы якіх — не раўня вашым, але ж яны маўчаць, не высоўваюцца. Хопіць тлуміць нам мазгі!

Збянтэжаны дзяцюк глытае сліны, каўтае паветра і пакорліва ўрастае ў сваё крэсла. Ён робіцца нейкім прыгорбленым, пабітым, зняважаным... Мне вельмі шкада гэтага чалавека, у нечым я яго разумею, хоць і самому, па праўдзе, на падпітку не надта хочацца слухаць каструбаватыя вершы. Ён, “самадзейны паэт”, можа, упершыню ў жыцці дарваўся да сапраўдных літаратараў, і зараз яму гэтак карціць пачытаць ім свае творы і, магчыма, пачуць нейкую пахвалу. А тут такі адлуп...

Я падымаюся і кідаю дырэктару разгневаныя словы:

— Хто вам даў права гаварыць ад імя ўсіх нас? За што вы зняважылі гэтага чалавека? У рэшце рэшт не вы тут гаспадар...

Дзіўна, але дырэктар недаўменна пазірае на мяне, затым акідвае паглядам усіх прысутных, быццам шукаючы падтрымку (а яе няма), і моўчкі куляе чарку. Дырэктару не ўяўлялася, што ў гэтай зале нехта можа яму запярэчыць.

Калі мы ўжо выпраўляемся ў дарогу, да машыны падыходзіць той самы бабруйскі паэт, моцна паціскае мне руку, гаворыць нейкія ўдзячныя словы і нават спрабуе ўзяць у абдымкі...

Мне здаецца, кожнаму, хто сядзеў за сталом, хацелася выказаць дырэктару тыя ж словы, што выказаў я, але ўсе маўчалі. Гаспадары — з-за пачцівасці да госця, падначаленыя літаратары — з-за сваёй залежнасці ад кіраўніка. А з майго боку не назіралася ніякага геройства, проста мне былі “да лямпачкі” адносіны з гэтым чыноўнікам, бо я ніколі не пайду да яго з рукапісам, магу нават сам каму хочаш выдаць кнігу...

Галоўная каштоўнасць — незалежнасць. Як для чалавека, так і для краіны.

## Грошы не пахнуць

З Кастусём Цвіркам зноў выпраўляемся ў Старыя Дарогі. Загадчыца раённай бібліятэкі запрасіла яго выступіць перад сябрамі мясцовага літаратурнага аб’яднання, я даў згоду “падкінуць” пісьменніка-земляка на сваёй машыне. Шчыра кажучы, мне і самому карцела папрысутнічаць на той сустрэчы, пабачыцца са старымі знаёмымі, творы якіх правіў, рэдагаваў, перапісваў, выдаючы за свой кошт тры іхнія калектыўныя зборнікі.

Сустрэча атрымліваецца цікавай, карыснай і радаснай. Гутарку запіс-

вае на дыктафон журналістка Нэлі Астрэйка, якая сама спрабуе нешта тварыць, і яна збіраецца зрабіць рэпартаж для мясцовага радыё, даць артыкул у газету.

Напрыканцы мы дарым бібліятэцы свае новыя кнігі. Цвірка акурат напярэдадні выдаў аповесць “Воўчая выспа”, а я дык увогуле пладжу сатырычныя зборнікі што ні год. На ўсялякі выпадак папярэджваю загадчыцу бібліятэкі:

— Мае кнігі вы асабліва не выстаўляйце, каб не мець непрыемнасцей...

У мяне ёсць падставы для такой перасцярогі. Сатырычныя творы маю магчымасць друкаваць толькі ў “нячэсных” выданнях, ды і тое пад псеўданімам. А зборнікі ці па нечай забароне, ці з-за перастрахоўкі крамы прадаваць не асмельваюцца. Неяк Сяргей Законнікаў параіў звярнуцца ў “Акадэмічную кнігу”: там, маўляў, да “крамольнай” літаратуры ставяцца лаяльна. І праўда, загадчыца магазіна пагадзілася ўзяць для продажу некалькі асобнікаў. Праз кароткі час іх раскупілі, аднак, калі я прывёз другую партыю, яе не ўзялі. “Ну, вы самі разумееце...” — скіраваўшы позірк долу, патлумачыла таваразнаўца.

Загадчыца бібліятэкі абяцае не браць падораныя мною кнігі на ўлік і ўвогуле захоўваць іх далей ад чытацкіх вачэй.

Неўзабаве старадарожскі паэт Віталь Юрэвіч мне паведамляе: ужо на наступны дзень пасля тае сустрэчы ў бібліятэку завітаў “дзядзька з райвыканкама” і забраў ўсе мае сатырычныя зборнікі. Дзе яны цяпер — ці прыхаваныя, ці знішчаныя — невядома. І ні ў раённай газеце, ні па мясцовым радыё пра сустрэчу з пісьменнікамі-землякамі — ніводнага слова...

Мінае яшчэ нейкі час. Мне тэлефануе галоўны раённы ідэолаг. Просіць падсабіць з грашыма, бо ў гарадку запланавана нейкае масавае свята, а сродкаў катастрафічна не стае. Ягоная просьба не ў навіну, бо я ўжо не раз дапамагаў і раёну, і роднай школе, і асобным жыхарам Старадарожчыны. Здзіўляе тое, што ён, ужо ведаючы пра маё стаўленне да ўлады, не грэбуе прасіць грошы, так бы мовіць, у ізгоя, “пракажонага”. І, мусіць жа, менавіта ён сам “канфіскаваў” мае кнігі ў бібліятэцы...

Некалі рымскі імператар Веспасіян, каб папоўніць казну, увёў падатак на карыстанне гарадской каналізацыяй. Так і з’явіўся выраз — “грошы не пахнуць”. Для нашай улады яны не пахнуць таксама.

## Насуперак

Мой старадарожскі сябар Міхась Татур прывёз падшыўку раённай газеты. Гартаю старонкі і не веру сваім вачам: амаль кожная публікацыя на рускай мове. А яшчэ ж зусім нядаўна, калі газету рэдагаваў сам Татур, раёнка была беларускамоўнай. Дый гэта не дзіўна для глыбінкі, якой можна лічыць маю Старадарожчыну і дзе яшчэ можна пачуць амаль літаратурную беларускую мову.

Што за метамарфоза? А справа ў тым, што газету ўзначаліла кабеціна, якая мову не ведае і не пераносіць яе на дух. Калі вясковая жанчына прынесла ў рэдакцыю спачуванне на беларускай мове, рэдактарка прымусіла яе перапісаць тэкст па-руску...

Гэтую рэдактарку я ведаю яшчэ з ейнага маленства. У Старыя Дарогі яна разам з бацькамі пераехала з Расіі. Прыносіла ў рэдакцыю вершы

на рускай мове, часам ніштаватыя, я рыхтаваў іх да друку. І вось што атрымалася...

Але ж трэба нешта рабіць, біць у званы, ратаваць раёнку. Самому звяртацца да старшыні райвыканкама не выпадае, хоць ён таксама старадарожац і, паводле логікі, павінен шанаваць мову сваіх бацькоў і дзядоў: у ягоным уяўленні я для ўлады вораг.

Тэлефаную Кастусю Цвірку, паведамляю непрыемную навіну і прашу, каб да старшыні райвыканкама звярнуўся менавіта ён, бо ў раёне Кастуся Аляксандравіча паважаюць і, як мне падаецца, ізгоем не лічаць.

(Звярніце ўвагу: імя па бацьку Цвіркі Аляксандравіч, а не Аляксеевіч, як засведчана ў шматлікіх даведніках і энцыклапедыях, як называюць яго ў літаратурным асяродку. Бацьку Цвіркі звалі Алесем, пра што ён "па сакрэце" распавёў мне першаму і зусім нядаўна).

Цвірка таксама абураны, не паленаваўшыся, ідзе ў бібліятэку, гартае падшыўку, пераконваецца, што ўсё менавіта так, як я сказаў, і адразу ж у яго адбываецца тэлефонная размова з кіраўніком раёна. Чыноўнік абяцае "неадкладна выправіць становішча"...

Праз два месяцы зноў чытаю раёнку. А божухна-бацюхна! Калі дагэтуль у газеце можна было зачапіцца вокам хоць за дзве-тры нататкі на беларускай мове, дык цяпер і таго нямашака.

Выходзіць, сваімі намаганнямі мы з Цвіркам толькі нашкодзілі. Няўжо Кастусь Аляксандравіч таксама ўжо лічыцца ў раёне "ізгоем"? Інакш чым можна растлумачыць тое, што ўсё зроблена не ў злагадзе з ягонай просьбай, а насуперак...

## Споведзь і пакаянне

Калі ў роднай вёсцы наведваю царкву, сярод нешматлікіх прыхаджан заўсёды звяртаю ўвагу на мясцовую жанчыну, якая пасля кожнай літургіі становіцца ў чаргу да святара, каб паспавядацца. Мяне здзіўляе, чаму яна імкнецца выкласці перад Богам душу гэтак часта. Няўжо за кароткі час паспявае так награшыць, што ўзнікае патрэба пакаяцца? Магчыма, п'яніца? Ці, можа, занядбала-закінула сваіх дзетак? Цікаўлюся ў землякоў, і яны адказваюць, што жанчына вельмі прыстойная і ўсё ў ейнай сям'і як след. І для мяне яшчэ болей незразумела, што прымусіла яе бесперапынна прычашчацца і каяцца.

Святары даводзяць нам, што споведзь, пакаянне ніколі не бываюць лішнімі. І нават чым часцей "рабіць справаздачу" Госпаду, тым лепей. У мяне на гэты конт іншая думка.

За ўсё сваё жыццё я ніводнага разу не спавядаўся. Каяўся (і не аднойчы), але ў душы, не перад амбонам. Па гэтай прычыне я ні для каго не стаў хросным бацькам, не павянчаўся з жонкаю, бо, каб прычасціцца да гэтага таемства, трэба прайсці ў царкве абавязковую працэдуру — споведзь. Аднак спавядацца я не хачу. І не таму, што не маю грахоў (гэта было б проста смешна), а паводле цвёрдага ўласнага пераканання, што, паспавядаўшыся і пакаяўшыся перад Богам, я гэтым самым учыню яшчэ большы грэх.

У чым сэнс споведзі і пакаяння? У тым, што чалавек усвядоміў: дагэтуль ён рабіў нешта не так, не прытрымліваўся запаведзяў, жыў хібна і заганна. Адным словам, грашыў. І вось цяпер, адважыўшыся на споведзь, чалавек прызнае ўсё гэта і просіць у Бога, каб ён не проста прабачыў,

але і дапамог стаць на праведны шлях. А галоўнае — спаведнік дае абяцанне Богу, што ўжо ніколі свядома не ўчыніць тыя грахі, у якіх толькі што пакаяўся. Інакш выходзіць, можна красці, забіваць, гвалціць, затым, паспавядаўшыся і пакаяўшыся, атрымаць ад Бога "індульгенцыю" і жыць па-ранейшаму.

Падобнае пакаянне — гэта крывадушша перад Госпадам. А крывадушнічаць перад Ім я не хачу, бо разумею, што ў мяне не хопіць сіл і нават жадання, каб стаць на праведны шлях, не паўтараць былых, хай сабе і "адмоленых" грахоў.

Таму, як мне здаецца, чалавек павінен спавядацца і каяцца толькі аднойчы. Перад смерцю. Тады ўжо сапраўды ёсць гарантыя, што ён спавядаецца шчыра, новых грахоў учыніць не паспее і Богу не хлусіць...

## Вазон

Апошнім часам даводзіцца гэтак часта ставіць свой подпіс, што ўжо абрыдла. Таму не надта значныя паперы даручаю падпісваць намесніку. А некалі ж было зусім інакш, і, мусіць, сённяшні тлумны абавязак — ставіць подпіс — для мяне як кара...

Недзе ў сёмым класе я пачынаю лічыць сябе паўнавартасным, спелым чалавекам, да таго ж яшчэ і пісьменнікам, хай сабе пачаткоўцам. А пісьменніку абавязкова патрэбен уласны, адметны подпіс, каб раздаваць аўтографы. Уважліва вывучаю, як падпісваюцца знакамітыя літаратары (кніжак з іхнімі аўтографамі маю ўдостатку — "Бярозка" і "Піянер Беларусі" сваіх аўтараў узнагароджваюць імі часцей за ўсё), і выбіраю, на мой погляд, самую прыгожую загагуліну: спачатку выразна пазначаны дзве першыя літары імя аўтара, а пасля — няўцямна накрэмзанае прозвішча.

Трэніруюся, "набіваю руку" на чым толькі можна: на шматках паперы, на газетах, у сшытках і нават на школьнай парце. Дзе б яшчэ пакінуць свой аўтограф? У кабінеце біялогіі мая парта месціцца каля акна, а на падаконніку стаіць прыгожы вазон з яркімі пунсовымі кветкамі і дробнымі лісцікамі. Акурат на кожным з іх я і пакідаю свой подпіс. Прычым, каб на зялёнай паверхні застаўся след ад пасты, мне даводзіцца добра-такі націскаць на ручку, ад чаго на лісціках застаюцца барозны і з іх капае сок.

Праз дзень настаўніца біялогіі заўважае на вазоне маю пісаніну, хапаецца за галаву, выганяе мяне з класа і потым распавядае пра выхадку вучня ўсім педагогам: маўляў, бач, якім ганарыстым расце.

А вазон неўзабаве засыхае...

Гордасць (у рускай мове ёсць больш дакладнае слова — "гордыня") уласцівая большасці з нас яшчэ з дзяцінства і прыносіць толькі шкоду. Нават вазону.

## Малітва

Некалі пад час набажэнства адзін з прыхаджанаў спытаўся ў Васіля Блажэннага:

— Як ты думаеш, колькі людзей зараз моліцца?

— Толькі я ды яшчэ адзін чалавек, — адказаў знакаміты юродзівы.

А ў царкве, між іншым, была процьма людзей...

Што ж меў на ўвазе Васіль Блажэнны? Тое, што гэтыя двое шчыра

звяртаюцца да Бога, моляцца ўсвядомлена, з разуменнем, а астатнія толькі прысутнічаюць пры набажэнстве, у думках жа яны зусім далёка ад храма.

Зрэдчас я таксама наведваю царкву. І, на жаль, не малюся, а толькі прысутнічаю. Як і ўсе прыхаджане, за рэдкім выключэннем.

У праваслаўных храмах набажэнствы праводзяцца на стараславянскай мове, якую цяпер мала хто ведае, і таму, натуральна, большасці з нас зусім няўцям, пра што чытае малітву святар. Мы стаім, як балваны, і толькі пачуўшы словы “во имя Отца и Сына, и Святага Духа”, абуджаемся, бо ў гэты час належыць перахрысціцца. Нягледзячы на шматлікія просьбы прыхаджанаў вышэйшае праваслаўнае духавенства не пагаджаецца праводзіць набажэнствы на зразумелай для людзей мове (хай сабе і рускай). Маўляў, стараславянская мова намоленая спрадвеку, таму нельга парушаць традыцый, а вернік, калі ён сапраўды шчыры, не палянуецца і яе вывучыць. Ага, разгоніцца дый пабяжыць вясковая бабулька ў бібліятэку, каб даведацца, што азначае гэтае “пакі-пакі”...

Аднак жа не ў тым бяда, што мы не разумеем слоў, якія прамаўляе святар, не ўнікаем у іх сэнс. Хай ён гаворыць што хоча. У рэшце рэшт малітва — справа асабістая, глыбока інтымная. І звяртацца да Бога мы можам пры дапамозе любых слоў і дзе заўгодна — нават лежачы ў ложку. Галоўнае — каб усё ішло ад сэрца. А ў царкву варта хадзіць не з-за таго, што адтуль нашыя малітвы дойдуць да Бога хутчэй, “напрасткі”, а таму, што ў храме ёсць магчымасць адхінуцца ад свецкіх спраў, у належнай атмасферы засяродзіцца на сваіх перажываннях, на тым, што табе хочацца сказаць ці папрасіць у Госпада.

Дарэчы, а што ж мы звычайна просім, з чым звяртаемся? Каб было паболей грошай, каб мець належны дабрабыт, каб захавалася здароўе... Бог такія малітвы не ўспрымае. Ён чакае, што мы найперш папросім помачы ў выратаванні душы, калі ж “вымольваем” нешта матэрыяльнае, дык рабіць гэта неабходна ў імя агульнага дабра, а не для ўласнай карысці. Зрэшты, і не прасіць аб нечым трэба Госпада, а дзякаваць Яму за тое, што падарыў нам радасці і нягоды жыцця...

Вось напісаў я гэтыя словы, а калі ў чарговы раз апынуся ў царкве, зноў, як балван, буду стаяць-прысутнічаць на набажэнстве, думкі ж мае будуць далёка-далёка, і кіравацьмуцца яны на свецкія справы, а не на шчырую малітву...

## Продкі і нашчадкі

На вочы трапляецца жахлівая нататка ў газеце. Гарадскія ўлады папярэджваюць: калі на Кальварыйскіх могілках не будуць упарадкаваныя занядбаныя магілы, іх проста зраўняюць з зямлёй. І ўдакладняецца: усе недагледжаныя пахаванні зроблены ў XVIII-XIX стагоддзях.

З’яўляецца жаданне напісаць фельетон, аднак колькі ні спрабую прыдумаць сатырычны сюжэт, нічога не атрымліваецца. Чамусьці хочацца не смяяцца, а плакаць.

Безумоўна, у тых, хто ляжыць пад пахіленымі крыжамі і забраснявелымі помнікамі, ёсць нашчадкі. Магчыма, яны жывуць побач з тымі могілкамі, штодня ходзяць міма іх на працу і нават не здагадваюцца, што за агароджаю ляжаць іхнія прашчуры. На жаль, мала каго цікавіць уласны

радавод, а калі хто-небудзь і парупіўся скласці сваё генеалагічнае дрэва, дык толькі дзеля інтарэсу. Дзе і ў якім стане месцяцца магілы продкаў — да гэтага справы няма.

Нашыя думкі ўвогуле болей скіраваныя на будучыню, а не на мінуўшчыну. Для нашчадкаў у падмуркі помнікаў і дамоў замуроўваюцца капсулы з пасланнямі, мы рупімся, каб пакінуць паслядоўнікам належную спадчыну, ды і ўвогуле часта задаёмся пытаннем: а што падумаюць пра нас наступнікі?

А трэба акурат наадварот. Нашыя нашчадкі залежаць ад нас. І мы вызначаем, ці з'явяцца яны ўвогуле на свет. Самі ж мы атрымалі жыццё дзякуючы продкам. Таму менавіта пра іх павінны думаць і дбаць найчасцей і найбольш.

Тыя, што знайшлі спачын на Кальварыйскіх могілках, мусіць жа, некалі таксама ў сваіх думках сягалі ў будучыню і спадзяваліся, што нашчадкі іх не забудуць. Яны памыліліся. Мы не апраўдалі іхніх спадзяванняў. Таму атрымаем ад сваіх нашчадкаў тое ж самае...

## У санаторыі

Выпраўляюся ў санаторый. У сталым узросце набіраецца гэтак шмат "балячак", што не ведаеш, якую з іх варта лячыць найперш. Зрэшты, планую не столькі паправіць здароўе, колькі ўдалечыні ад гарадской мітусні пасядзець за пісьмовым сталом. Тым болей што санаторый месціцца ў прыгожым сасновым бары, непадалёку ад маёй роднай вёскі.

Ледзь не кожны вечар у санаторыі — танцы. Пакуль на дварэ стаяла непагадзь, яны ладзіліся ў вялікай актавай зале, а як толькі сонца расштурхоўвае хмары, разносіцца кліч, што наступныя "бугі-вугі" адбудуцца на танцпляцоўцы — крыху воддаль ад будынкаў санаторыя.

Надвячоркам да танцпляцоўкі падступаецца прыхарошаны люд. Большасцю гэта дзябёлыя, мажныя жанчыны немаладога веку, якія панадна зыркаюць на нешматлікіх "кавалераў". Яны, кавалеры, далёка не першай свежасці, магчыма, ніводная з гэтых кабецін дзе-небудзь у горадзе і не зірнула б у іхні бок, а тут за кожнага перастарка ўзнікае суперніцтва. І то праўда: у краіне сляпых крывы і кароль.

Маладжавая кабеціна, тутэйшы масавік-забаўнік, на ўсю моц свайго голасу звяртаецца са сцэны:

— Мужыкі! З актавай залы трэба перанесці сюды музычную апаратуру. Падсабіце, калі ласка...

І яна шыбуе да будынка, пэўна ж, маючы спадзеў, што ўслед цугам пацягнуцца памагатыя. Ага, хаця б яны подбежкам не рушылі...

Ніводзін не кратаецца з месца. Са стракатага натоўпу даносяцца апраўдальныя галасы:

— У мяне на хрыбетніку грыжа...

— А я пазалетась інфаркт перанёс...

— Нямоглы я зусім, каб нешта цягаць. Гады не тыя...

Адным словам, выходзіць, што тут сабраліся адны калекі.

Маладзіца-забаўніца выцягвае з залы калонку-ўзмацняльнік і на гарбе валачэ яе да танцпляцоўкі. У натоўпе — цішыня. Усе моўчкі назіраюць, як маладзіца пнецца-сапе, усцягваючы калонку на сцэну.

Калі забаўніца кіруецца на другі заход, я іду следам. І больш ніхто.

Зрабіўшы некалькі ходак, мы ўдваіх перацягваем усю груваслкую апарату-

ру. Пачынаюцца танцы. Я, як і зазвычай, стаю воддаль, за агароджай, проста назіраю, бо ў самога ніколі не было жадання “патрэсціся-пакрыўляцца” пад гучную музыку. Лепей ужо зрабіць прабежку па лясной сцежцы...

А “нямоглыя кавалеры” ўвесь вечар жвава брыкаюць нагамі, размахваюць рукамі, віхляюць задніцамі, выказваючы перад жанкамі самцовы імпэт і патэнцыял...

Раблю выснову, што ў гэтым санаторыі хворы толькі я.

### Парваныя калготкі

Аднаго разу выпадае нагода “ўзяць чарку” ў судзейскай хеўры. За сталом, апрача мяне ды майго намесніка, спрэс жанкі (у раённых судах чамусьці працуюць пераважна асобы жаночага полу). П’янка адбываецца ў кабінеце адной з суддзяў, якая акурат сядзіць поруч са мною. Збоку, на крэсле, заўважаю з дзясятак пульхных папак, складзеных у стос.

— Што гэта за справа? — мімаходзь пытаюся ў суседкі, ківаючы на тыя папкі.

— Махлярства, крадзеж... — абыякава адказвае яна. — Дзялок палез у палітыку. Супраць улады папёр. Вось на яго і завялі справу, каб для іншых была навука...

Я чуў пра гэтую справу і ведаю прозвішча таго дзялка — яно ва ўсіх газетах. Дэмакратычная грамадскасць сапраўды лічыць, што ўлада хоча заканапаціць бізнэсоўца ў турму за ягоную палітычную пазіцыю, насамрэч ніякага крыміналу нямашака.

— Колькі ж яму “свеціць”? — цікаўлюся ў суддзі.

— Ды шэсць гадоў упяку! — упэўнена паведамляе суразмоўца, хоць разгляд справы яшчэ не пачынаўся.

— А ты не баішся, што гэтая ўлада некалі сыдзе і табе давядзецца трымаць адказ за неправамерны вырак?

Жанчына недаўменна пазірае на мяне, затым ейны твар робіцца змрочным. Бачна, што яна сапраўды дагэтуль не думала пра “нявечнасць улады” і пра магчымыя непрыемныя наступствы для сябе. У рэшце рэшт вымаўляе:

— А што мне застаецца? Развядзёнка, адна гадую сына...

Гэтую тэму мы болей не развіваем, а слова “развядзёнка” натхняе мяне на больш рашучае заляцанне. Жанчына сімпатычная (ды яшчэ на п’яныя вочы), мае спакуслівыя формы, таму мая рука ўсё часцей кладзецца на ейныя калені. Няўзнак і рука, і позірк слізгаюць яшчэ вышэй...

Мая жарсць астывае ў адно імгненне. У калготках, каля самага “не трэба”, я заўважаю вялізную дзірку, якая жабаю расплываецца на сцягне...

З той жанчынай ні сумесных п’янак, ні сустрэч болей не будзе. Дзялку-“дзермакрату” яна сапраўды ўпячэ шэсць гадоў.

Пазней яе прозвішча ўсплыве, калі будуць ісці працэсы над удзельнікамі Плошчы. “Падапечныя” гэтае суддзі атрымаюць “па самую завязку”.

Будзем спадзявацца, што ўлада суддзю належна аддзячыла, і жанчына, нарэшце, зможа купіць сабе новыя калготкі.

### Межы

Адзін з чытачоў “Народнай Волі” наракае на тое, што Беларусь беспадстаўна падзелена на адміністрацыйныя адзінкі: вобласці, раёны, сельсаветы.

Ён выказвае думку, што для нашай невялікай краіны хапіла б адных раёнаў, якімі можна было б кіраваць са сталіцы. А так і чынавенства напладзілі без меры, і цэлыя рэгіёны існуюць адасоблена адзін ад аднаго.

Мяне прапанова вельмі ўзрушвае, бо сам стаў ахвяраю гэтых “падзелаў і межаў”.

Вёска Пасека, у якой я нарадзіўся, некалі ўваходзіла ў склад Асавецкай воласці Бабруйскага павета. Затым яна стала Случчынай, а яшчэ праз нейкі час — Старадарожчынай. Здавалася б, толькі тае бяды: называй хоць гаршком... Дык у тым жа і закавыка, што пры кожным падзеле праводзіцца адпаведная адміністрацыйная мяжа, на сённяшні дзень — паміж раёнамі. Як ні круці, хочаш не хочаш, а кожны раён жыве сваім жыццём, адасоблена. Пэўны транспартны рух, гаспадарчыя сувязі, агульнае кіраўніцтва, у рэшце рэшт свая раённая газета. Таму ў Старых Дарогах я пабываў сотні разоў, ведаю райцэнтр, як сваіх пяць пальцаў, а гарадок Любань, які месціцца ад маёй вёскі не далей, чым Старыя Дарогі, наведаў толькі аднойчы, і тое ў сталым узросце.

Уся мая радня па мацярынскай лініі паходзіць з блізкай да Пасекі вёскі Асавец. Там, відавочна, пахаваныя мае самыя далёкія прашчуры. Але ў дзяцінстве я апынуўся ў Асаўцы таксама толькі аднойчы — калі заблудзіўся, шукаючы грыбы. Чаму ж для пасечукоў вёска Асавец, якая знаходзіцца за лесам, здаецца такой далёкай? Таму што гэта ўжо Любаншчына. Між тым, і ў адной, і ў другой вёсцы ўсе прозвішчы заканчваюцца на “ня”, што характэрна акурат для палескай Любаншчыны, а не для Старадарожчыны, і што сведчыць пра бяздумны падзел, калі рэзалася па жывому...

Штучныя межы, пракладзеныя ўладаю, пралягаюць не толькі паміж абласцямі, раёнамі, сельсаветамі, калгасамі, палямі і загонамі. У рэшце рэшт яны пакідаюць след і ў душах людзей.

## Размінуліся...

Газета “Літаратурная Беларусь” назвала мяне “сучасным Кандратам Крапівой”. Між тым, з самім класікам сатырычнага жанру мне давялося сутыкнуцца толькі аднойчы. Прычым сутыкнуцца ў літаральным сэнсе.

Зусім яшчэ маладзён, я шыбую ў Дом літаратара. Ён пакуль што належыць Саюзу пісьменнікаў, і ўвайсці ў будынак можна не з тарца, а праз галоўныя дзверы — манументальныя і масіўныя.

Я імпэтна хапаюся за ручку і рву дзверы на сябе. Адчуваю, што яны паддаюцца надзвычай лёгка, мусіць, нехта штурхае іх з другога боку. І праўда, калі з разгону імкнуся ў праём, раптам тыцкаюся носам у грудзі высокаму хударляваму дзеду.

— Прабачце... — машынальна вымаўляю я і мімаходзь скіроўваю позірк на твар чалавека, якога толькі што ледзь не збіў з ног. І... слупянею. На мяне глядзіць партрэт з хрэстаматыі па беларускай літаратуры.

— Якія ж вы, маладыя, жвавыя... — незадаволена буркае сабе пад нос Кандрат Крапіва, ступае на тратуар і, дзюбаючы кульбакай, няспешна клыпае ў бок праспекта.

Я нейкі час заворожана гляджу яму ўслед, затым, пераскокваючы цераз тры прыступкі, бягу па лесвіцы ўверх...

## Царква

У маёй роднай вёсцы вельмі часта сталі паміраць людзі. У тыдзень — нябожчык, а то і два. Выказваю сваю трывогу настаяцелю старадарожскай Свята-Мікалаеўскай царквы айцу Ігару. Ён едзе ў Жыровіцкі манастыр, дзе яму раяць пабудаваць у вёсцы хаця б капліцу.

“Ну што тая капліца? — разважаю. — Калі ўжо будаваць, дык адразу царкву”.

Выдаткоўваю неабходныя сродкі, айцец Ігар, як сапраўдны прараб, наймае рабочых, закупляе будматэрыялы, кантралюе ход будоўлі.

Тады і здараецца таямніча-загадкавая і адначасна трагічная гісторыя.

З будоўлі сталі прападаць будматэрыялы: дошкі, бярвенне, плітка для агароджы. Вяскоўцы мяркуюць, што ўсё гэта крадзе сямейка, якая жыве цераз дарогу ад будоўлі. Але доказаў няма. У міліцыю ніхто не заяўляе.

Ці сапраўды быў злодзеем цалкам лысы (за што і атрымаў мянушку “Хрушчоў”) гаспадар суседскай сядзібы — невядома. Аднак жа, зусім яшчэ мацак, ён раптам ні з таго ні з сяго памірае. Праз паўгода ягоная жонка накідвае на сваю шыю пятлю і таксама знаходзіць сабе месца на кладах, каля якіх акурат і будуецца царква. (Адзін мой знаёмы неяк пажартуе: “Гэта добра, што царква будзе стаяць каля могілак. Яна — як мытня на той свет...”). Цяпер ужо вяскоўцы ўголас кажуць, што Бог пакараў сям’ю за спакусу на святое. (Каля царквы, якая стаіць ужо дзесяць год, да гэтае пары ляжаць у кучы рэшткі пліткі, але на яе ніхто не пасягае...).

Будоўля скончана, са сталіцы, каб асвяціць царкву, прыязджае на “Мерседэсе” мітрапаліт Філарэт. Затым — шыкоўны банкет у галоўным старадарожскім рэстаране, на якім, акрамя высокіх гасцей, прысутнічаюць кіраўніцтва раёна і ўсе, хто мае дачыненне да будоўлі. Мяне садзяць побач з Філарэтам, па ягоную правую руку. Тосты, віншаванні, падзякі...

На першым часе айцец Ігар (дарэчы, вельмі сумленны, шчыры чалавек і сапраўды без аніякай чарвяточыны святар) служыць у царкве сам. Затым прысылаюць новага святара, маладога, які праз год-другі змушаны пакінуць Пасеку (займеўшы царкву, яна ўжо стала сялом), хоць я і купіў для яго хаціну паблізу царквы. Маладому святару, які ўжо мае сям’ю, проста няма за што жыць. Людзі ў царкву не пайшлі. Цяжка назваць “прыходам” трох-чатырох чалавек, якія толькі на Радаўніцу ставяць свечкі за сваіх памерлых родзічаў...

(Неверагодная, проста містычная акалічнасць, пра якую даведаўся, паставіўшы апошнюю кропку ў гэтых нататках. З’ехаўшы з Пасекі ў іншую вёску, дзе пабудавалі новую царкву, малады святар дазволіў жыць у купленай мною хаце прышлым аднекуль людзям. Калі яны былі ў лесе, у хату ляснула маланка. Згарэла ўсё датла, тым лікам і прыбудовы. Адметна тое, што ў Пасецы апошні раз падобны выпадак адбыўся ледзь не пяцьдзясят год таму, калі маланка падпаліла хлеў дзеда Карпея...).

І вось цяпер, праз дзесяць год, канчаткова прыходжу да высновы: будаваць гэтую царкву я не меў права.

Маю радзіму можна смела назваць краем бязбожнікаў. Бальшавікі зрабілі сваю справу — забралі ў людзей веру ў Бога. Хоць, дарэчы, некалі зямля вакол вёскі была царкоўнаю, а сама царква, паводле паданняў, чамусьці правалілася скрозь зямлю (гэтае месца і дасюль называюць Глыбокай

Ямай). Я ніколі не бачыў, каб мае бабулі хрысціліся, хоць абразы віселі над покутам у кожнай хаце.

Людзі жылі без Бога і не адчувалі ў ім ніякай патрэбы. Яны былі хутчэй паганцамі, а не хрысціянамі. І толькі дзеля блізіру, па завядзёнцы, здзяйснялі традыцыйныя рэлігійныя рытуалы: хрысцілі дзяцей, каледавалі, на Вялікдзень фарбавалі яйкі, ставілі на магілах крыжы... Але ж сапраўдная вера — гэта зусім не рытуалы. Вера — гэта ў першую чаргу духоўная праца над сабой.

Дык ці былі падрыхтаваныя да гэтага мае землякі?

Калі задума пабудаваць царкву яшчэ толькі нарадзілася, мне прысніліся два яскравыя, каляровыя сны. Першы: святар чытае малітву, а ў царкве, не зважаючы на яго, з кута ў кут сноўдаюцца мае аднавяскоўцы, жартуюць, смяюцца і лузгаюць семечкі... Другі: на прыгожым караблі, запоўненым людзьмі, я плыву па рацэ. Наперадзе, на берагах, бачацца абрысы белых-белых храмаў з залатымі купаламі. Адтуль, з храмаў, ільецца чароўная музыка, прыцягальна звіняць званы, а мне чамусьці робіцца страшна-страшна — такога страху я і на яве ніколі не адчуваў, як у тым сне. Зусім няшмат не даплыўшы да храмаў, карабель раптам пачынае нахіляцца на адзін борт, я адчайна спрабую зачапіцца за што-небудзь на палубе, каб не скаціцца ў ваду, і нічога не трапляецца пад рукі...

Кажуць, што такія яскравыя сны, тым болей калі яны запамінаюцца на ўсё жыццё, — прарочыя. Мусіць, Бог і сапраўды даваў мне знак, што царкву ў вёсцы будаваць не трэба...

Чаму ж я да Яго не прыслухаўся? Ды з-за звычайнага славалюбства, пыхлівасці – гардыні. Вядома, мне хацелася, каб у маёй вёсцы не паміралі людзі, каб яны займелі свой храм, маглі памаліцца і ў радасці, і ў горы. Але ж недзе ў глыбіні душы стрэмкаю ўсё ж сядзела фанабэрыстая надзея на тое, што некалі землякі будуць з удзячнасцю згадваць мяне — як фундатара царквы. Выходзіла, што і не храм зусім будаваў, а помнік самому сабе. На першым часе было нават жаданне павесіць на царкве шыльдачку, якая нагадвала б, на чые сродкі яна пабудавана. На шчасце, у апошні момант устрымаўся, хоць ужо і цікавіўся, колькі грошай давядзецца заплаціць за гэтую шыльдачку...

Дый назваць царкву я хацеў карысліва — у гонар сваёй маці Надзеі. Добра, што айцец Ігар падказаў: ёсць святыя Вера, Надзея, Любоў і маці іхняя Сафія, паасобку яны не ўшаноўваюцца. А я ж пра гэтых святых дасюль нічога не ведаў і толькі потым, зацікавіўшыся іхнім духоўным подзвігам, вырашыў напісаць раман пра часіны рымскага імператара Адрыяна...

Пішу гэтыя радкі ўвечары. Заўтра з раніцы будзе Радаўніца, і я паеду ў роднае сяло, да родных магіл. Я ведаю, што той самы малады святар, які некалі перабраўся ў іншае паселішча, усё ж расчыніць дзверы царквы (ён робіць гэта толькі на вялікія святы), але памаліцца перад абразамі, паставіць свечкі за спачын сваіх бацькоў і дзядоў прыйдуць усяго два-тры чалавекі...

Самае жахлівае відовішча — храм, які не наведваюць вернікі. Менавіта такі храм я пабудаваў. І ў гэтым мой самы вялікі грэх перад Богам...

## Крыжык

Калі будаўніцтва царквы, якое я фінансую, блізіцца да завяршэння, айцец Ігар, вельмі паважаны мною святар, дастае срэбны крыжык, замацаваны да ланцужка з гэткага ж металу, і з непрыхаванай узнёсласцю

чапляе на маю шыю. На адным баку крыжыка выява распнутага Хрыста, а на другім — словы “Спаси и сохрани”.

Дагэтуль ніякіх ланцужкоў, амулетаў, а тым болей крыжыкаў я не насіў. Таму спачатку прысутнасць металічнага прадмета на сваіх грудзях адчуваю нават фізічна. З часам крыжык становіцца нібы часцінкаю майго цела, і я не здымаю яго ніколі, нават у лазні.

Калі наведваю Ерусалім, асвячаю крыжык самым доказным чынам, паклаўшы яго на пліту, дзе некалі пасля распяцця паклалі Хрыста...

Аднаго разу прачынаюся, праводжу рукою па сваіх грудзях і раптам адчуваю, што на іх няма крыжыка. Жах, які мяне перапаўняе, пераказаць немагчыма. Некалі ўбіў сабе ў галаву: калі страчу гэты крыжык, дык адразу сканаю. Па гэтай прычыне папрасіў жонку замяніць срэбны ланцужок на вяровачку, бо ён, ланцужок, часта ірваўся, і мне даводзілася поўзаць па падлозе ці абмацвацца за пазухай, каб знайсці крыжык.

Звыклае поўзанне па падлозе, ператрэсванне пасцельнай бялізны плёну не прыносяць. Нават пыласос, які добрасумленна прашураваў па усіх пакоях, нічым мяне парадаваць не можа. Крыжыка няма. І я нават не магу ўцяміць, дзе і калі ён быў “пасеяны”.

Жыццё маё губляе сэнс. З-за крыжыка я стаўлю на сабе крыж, бо лічу, што неўзабаве сыйду ў іншы свет. Кідаюся ў запой. У душы адчайна прашу Бога, каб ён вярнуў мне крыжык, забраўшы ўзамен усе матэрыяльныя даброты, якія маю. Не хочацца ні чытаць, ні пісаць, ні ўвогуле што-небудзь рабіць...

Калі ўжо зусім губляю душэўныя сілы, мне сніцца сон. Голас, які належыць немаведама каму, паведамляе:

— Сёння ты знойдзеш свой крыжык.

Дзіўна, але я веру гэтаму голасу і ўскокваю з ложка бадзёрым і ўзрушаным. Сваёй радасцю пра “голас” дзялюся з жонкаю, хоць яна ставіцца да гэтага скептычна...

Чамусьці ў мяне ўзнікае жаданне абкасіць перастаялую траву вакол дома. Калі ў чарговы раз узмахваю касою, раптам заўважаю на свежай пожні срэбны бляск...

Чаму ж Бог на нейкі час забраў у мяне крыжык? Мусіць, даваў знаць, што не так жыву, не тое раблю...

І хто цяпер пераканае мяне, што Бога няма?

### Замест эпілога

Пра тое, што адбылося ў маім жыцці блізкім часам, я напісаў не надта шмат. І не таму, што не было яркіх падзей ці сустрэч з цікавымі людзьмі. Хутчэй наадварот. Проста самае значнае, самае адметнае пакуль што не выкрышталізавалася ў маёй душы, у маёй памяці. Патрэбен нейкі час, каб асэнсаваць перажытае, разгледзець і адчуць менавіта тое, што вартае ўвагі, аддзяліць, так бы мовіць, зерне ад шалупіння. “Лицом к лицу лица не увидать, большое видится на расстоянии”, — напісаў некалі Сяргей Ясенін.

Гэтыя нататкі задумваліся як эксперымент, натхнёны словамі Сяргея Законнікава (“Напішаш успаміны — памрэш”). І мне так хочацца верыць, што эксперымент яшчэ не завершаны...

Анастасія Грук



...маўчы, калі не ведаеш праўды,

не маўчы, калі праўду ведаеш...

# Сэрцу не загадаеш

***Апавяданне***

Мы пазнаёміліся ў сацыяльным сеціве. Я памятаю тыя непаўторныя хвіліны, калі ты пісаў, што кахаеш мяне, што табе лепей не было, няма і ўжо ніколі не будзе, як са мною.... Затым ты прасіў сустрэчы. Я не адразу згадзілася, але калі ты прыехаў, пашкадавала, што ўпарцілася.

Са мной было цяжка жартаваць, проста размаўляць, бо я ўсё гэта ўспрымала як гульню, ці не, хутчэй нават, як стары-знаёмы фільм, дзе я кожнае слова ведала на памяць. Я ведала, што далей павінна было адбыцца паводле твайго сцэнару. Дзякуй Богу, са мной яшчэ такога не здаралася, але сяброўкі шмат чаго распавядалі. А ты так стараўся рассмяшыць мяне, ці хаця пабачыць на маім твары ўсмешку. А я слухала твае забаўныя гісторыі, як слухаюць недарэчныя выдумкі закаханага хлопчыка.

Праз гадзіну нашай нязмушанай размовы, а даклад-

ней, тваіх маналогаў, да мяне нешта пачало даходзіць, а калі прыйшоў час ехаць табе дадому, не хацела цябе адпускаць. Не, не таму, што закахалася, ты проста быў цікавым суразмоўцам. Час ішоў, мы тэлефанавалі, сустракаліся, каталіся, жартавалі. Ты падарыў сваю ўсмешку і вярнуў мне радасць, смех. Я стала зусім іншым чалавекам і праз нейкі час зразумела, што кахаю цябе.

У твае вочы я цяпер зазірнула па-іншаму, твае дзівакаватыя расповеды сталі мне такімі цікавымі, такімі значнымі – я не магла без іх заснуць. Для мяне не існавала больш нікога, апрача цябе. Усё было добра: ты ўвесь час тэлефанаваў мне, цікавіўся, чым я займаюся, расказваў, што сам робіш...

Але той шэрай асенняй раніцай, калі плакаў дождж, ты раптам не пазваніў... Дождж быў моцны, ён збіваў пажоўклую лістоту з дрэў, а вецер звар'яцела падкідваў яе ўверх. Усё было спавітае трывогай, як быццам хацела сказаць пра нешта страшнае... Пра што?!

Зазваніў тэлефон.

– Ён! – радасна падумала я.

Але гэта была твая мама. Яна плакала. Яна сказала, што цябе толькі што забрала "хуткая". Як праз сон ехала я, не – ляцела ў бальніцу.

– Доктар, што з ім? – толькі і вымавіла я не сваім голасам.

– Ён памірае. Патрэбна тэрміновая перасадка сэрца.

– А маё – можна? Дык я ўжо тут. Я – гатова!..

...І вось я астатні раз гляджу на цябе, апошні раз шапчу: "Кахаю!" Мне штосьці ўкалолі, і я заснула. Напэўна, ты хочаш ведаць, ці бачыла я яркае святло ў канцы тунэля? Не, не бачыла. Я нават не паспела падумаць пра тое, што будзе са мною пасля таго, як я засну. Ці не пасмела?.. Галоўнае – каб ты жыў.

...Холад... Ноч... Дзе я? У раі ці... ўсе спяць, ці што? – ціха запыталася я.

– Доктар, яна прачнулася! – усклікнула медсястра.

Увайшоў мужчына ў белым халаце:

– Аперацыя была вельмі складаная, але ўсё скончылася добра. Зараз ён у рэанімацыі.

– Доктар, а як жа я... Я ж...

– Не хвалюйцеся, вы і так вельмі перахваляваліся. І нам давялося ўкалоць вам снатворнае. Як вы сябе адчуваеце? – ён усміхнуўся аднымі вуснамі...

...Ішлі дні, тыдні, месяцы.

І вось мы разам з тваімі бацькамі едзем дадому. У іх вачах – два моры: мора радасці і мора горычы. Дзіва што! Яны вярнулі аднаго сына і страцілі другога. Вядома, ты нічога не ведаў, пакуль дома не ўбачыў пусты інвалідскі вазок, дзе заўсёды сядзеў твой няшчасны старэйшы брат. Цяпер там ляжаў кавалачак паперы. Няроўныя літары з-пад аслабелай рукі:

"Сашачка! Калі я ўбачыў, што ў цябе спынілася сэрца... Прабач. Я не магу дапусціць, каб ты памёр у дзявятнаццаць гадоў. Ты – здаровы, моцны. Табе жыць і жыць. А я... усё роўна нікому не патрэбны. Я не шкадую, што сыходжу. Я так вырашыў – і ты павінен мяне зразумець. Прабач і бывай! Жыві доўга і памятай – у цябе будзе біцца маё сэрца. Будзь шчаслівы! Алег!"

Я назаўсёды запомніла той момант, калі ты чытаў гэтыя радкі. Па тваіх шчоках павольна каціліся слёзы. А потым ты часта прыходзіў на Алегаву магілу, то размаўляў з братам, а то проста моўчкі падоўгу сядзеў на кладах. У вачах тваіх былі разгубленасць і недаўменне.

...Званок. Будзільнік? Не – тэлефон. Ну, вядома, гэта звоніш ты! Нарэшце! Я хіба заснула ля тэлефона ў чаканні твайго званка? Дык гэта быў толькі сон?! Вядома, сон! За акном па-ранейшаму гарэза-вецер ганяе пажоўклую лістоту, але дождж перастаў. І – працягваецца жыццё... Дзень добры, раніца! Добры дзень, мілы!..

## Непрычасаныя думкі

***

Зрэж галінку – заплача дрэва.
Зрэж дрэва – заплачуць галінкі

***

У старой шафе ляжала кніга.
Вырвалі старонку –
згубілі пакаленне

***

Не ўсе людзі паміраюць,
некаторыя проста вечна спяць

***

Душа і сэрца жыццё дораць,
а словы– адбіраюць

***

Сарока крычыць, ды сутнасці не разумее.
Чалавек разумее. А крычыць...

***

Маўчы, калі не ведаеш праўды,
не маўчы, калі праўду ведаеш

***

Язык гаворыць,
вушы слухаюць,
а мозг не паверыць,
пакуль вачыма не праверыць

***

Учора не будзе ніколі,
не прыйдзе да нас больш учора

***

Зіма будзе датуль,
пакуль не зразумее,
што ўжо прыйшла чарга вясны

дэбют

Вераніка Кашкан



...Чую ззаду нясмелы я шоргат

Гэта новыя крылы растуць...

# Не пакідай мяне, голас!

* * *

Я сёння забіла апошнія дзверы
Зышла ў нябёсы глухая сцяна
Тут тысячу год пражыві – не паверыш
Ні ў бога, ні ў чорта – тут веры няма

Тут коцяцца весела ў бездань галовы
Са спевам нясуць аўтаматы ў руках
Тут кожнае слова – апошняе слова
Прапісваюць страх на жывёльных ілбах

Паветра працятае духам бяздушша
Бязвольныя вучаць тут волі дзяцей
З экранаў, з газетаў крычыць крывадушша
Стабільна “ў парадку”, стабільна “вашшчэ”

Я сёння забіла апошнія дзверы
Зыходзіць ў нябёсы глухая сцяна
Тут тысячу год пражыві – не паверыш
Ні бога, ні чорта, ні нас тут няма

* * *

Мне не забыць першай усмешкі сяброўкі
Першыя слёзы над збітай далонькай
Першае крыўды палынны смак горкі
Першае слова “люблю” наўздагонку

Мне не забыць паху травеньскіх кветак
Першай сустрэчы пад восеньскім небам
Першых стаптаных ў дзве пары ног сцежак
Паху рук маці ад цёплага хлеба

Мне не забыць першай вольнае думкі
Немага выкрыку: “Кім я завуся?”
Твой запавет: не зысці з накірунку
І не зракацца сваёй Беларусі

Мне не забыць чэрствых позіркаў ў спіну
Мне не забыць тых, што поруч стаялі
Тых, што кляліся: за край свой – загіну!
Тых, што пад ногі нам злосна плявалі

Мне не забыць некранутага снегу
Мне не забыць зіхоткую мрою
Мне не забыць тое сіняе неба
Над неўміручай вялікай Зямлёю

* * *

Страшна адной мне, холадна
У абдымках цагельных,
Унутры мёртвага горада
Сярод глыбаў каменных

А за маім акном – вецер
Сумныя песні спявае
Ды па ўсім белым свеце
Шчасце маё раскідае

А на маім стале – д’ябал
Карты свае раскладае
Робіць мяне слабай
Веру маю адбірае

І ў галаве маёй – боязь
І ў душы маёй – цемра..
Не пакідай мяне, голас!
Я не хачу стаць зверам.

* * *

сястрычка.
сяброўка.
знаёмая.
распісаны ролі і функцыі...
свая і чужая для кожнага
спакойная...
буйная...
слушная...
і восень
мне косы
распусціць

паўзу я на неба
саслізгваю
за косы мае зачапіўся ўвесь свет
і заблытаўся
ў золаце жніўня
сястрычка.
дачка.
незнаёмая...
праходзяць
праносяцца
паўз
мігценне світанкавых кропель
з вачэй
ці са шкла накацілася...

ваганне прамежкавых фраз
у горле булькоча
і падае

на самае дно распранутай душы

і ноччу
ў самотнай
цішы
так хочацца
проста
быць
самай каханаю..

* * *

доўгая дарога
куды яна вядзе?
побач – анікога
думкі – анідзе

марнае блуканне
спаміж марных спраў
спрэс апанаванне
зманлівых праяў

што хавацца ў процьме
непатрэбных слоў?
прыкрывацца цяжарам
зменлівых умоў?

свет сам не змяняецца
колькі б ні чакалі
за лепшае – змагаюцца
а не плывуць па хвалях.

* * *

Пакацілася, панеслася
маё шчасце па руках
І было яно бязгрэшнае,
І не ведала пра страх.
А цяпер яго за волас
Прыцягнулі на кірмаш
Прадаюць, пускаюць колам
А музыкі граюць марш.
Рэквіем па нашых мроях
Вецер лісцем праспяваў
Ў сэрцы аддаліся болем
Словы, што ты не сказаў.
Мой адчай, твая – памылка
Усё ў жыцці не проста так
Адпачні, калі стаміўся,
Мой сумуючы манарх

* * *

Мне воля не патрэбная, верыш?
Хачу з табою быць
Толькі дзверы, вакно і шкло, цагляныя блокі
Падлога, сцены, дах, твае крокі

Цягну руку табе праз аблокі
Свінец у сэрцы...
Цяжкая восень
Цягну-цягну шчымлівае штосьці
Мне страшна, чуеш?
Без цябе, анёл, тут іншае сонца

* * *

Буйнымі кроплямі слёз нябёсаў
Абмыты твар мой колеру попелу
Жыццё разышлося мільёнам злых лёсаў
Бы ў багну зацягвае край невядомасці

Сціхаюць крокі навокал апошнія
Ніводны гук не спудзіць маўклівасці
І толькі пад гнілымі, чорнымі дошкамі
Сэрца ірвецца маё, баліць

Я стрываю. Я здолею.
І ў душы сваёй стомленай
Быццам ката, бы лютага ворага
Забіваю абрыдлага зломка

Вось мяне не стае. Не стае маёй боязі.
Ад мяне злыя думкі ідуць.
Чую ззаду нясмелы я шоргат
Гэта новыя крылы растуць.

Яўгенія Руль



...кожны дзень парашуцік наведвае

два месцы: ручай і могілкі...

# Два парашуцікі

***Апавяданне***

Дзверы пад'езда адчыніліся – на вуліцу выйшаў чалавек гадоў сямідзесяці.

– Парашуцік, хадзем са мной!

Маленькі сабачка паслухмяна пабег за гаспадаром.

Дзядуля быў вельмі рухавы, а рухі яго такія ціхія, што не заўважыў бы яго ніколі, калі б не бачыў. А бачылі яго часта. Ён жыў на пятым паверсе дванаццаціпавярховага дома і кожны дзень выходзіў на вуліцу з Парашуцікам. Усе бачылі, ды ніхто не ведаў яго. І з ім ні душы не было, акрамя вечнага сябра – сабачкі.

Яны былі нават нечым падобныя. Дзед маленькі і надта ж сухенькі, з запалымі вачыма і чорнымі плямамі пад імі, кірпатым, дзіцячым носам, шэрымі і вельмі добрымі вачыма. На вуснах яго было шмат маленькіх трэшчынак з запечанай кроўю. А валасы сівыя, рэдкія і мяккія, як пух. У яго быў выгляд пакутніка, прычым

пакутаваў ён усё жыццё. Але ўсё жыццё, нягледзячы на небяспечныя яго звароты, заставаўся мірным жыхаром, цвёрдым і непахісным перад сваім болем. Здавалася, ён быў добрым бязмежна. Паглядзіш на яго – і толькі радуешся, а разам і спачуваеш.

Сабачка так шпарка перабіраў лапкамі, як і гаспадар. Ён быў зусім худзенькі – косці ды скура. Жывоцік быў уцягнуты, быццам прыліп да спіны. Кароткашэрсны, з чорнымі, а на сонцы з сінявой, вялікімі вачыма, ён больш быў падобны да цацкі. Яго чорна-шэрая шэрсць здавалася нейкім пушком, толькі прыгладжаным па тоненькім хрыбецiку.

“Два парашуцікі”, – называлі іх між сабой суседзі.

Яны абое хуценька перабіралі ножкамі, але ж крокі іх былі такімі маленькімі, што ў выніку хада іх была ўсё роўна маруднай. Здавалася, яны гэтай хадой дэманстравалі сваю рухавасць і адначасова тое, што не трэба спяшацца жыць. Ды і куды ім было спяшацца? Звычайна яны хадзілі да ручая, які цёк за паўтара кіламетры ад дома. Працей сказаць, што гэта была вялікая лужына ў нізіне. А вакол – цудоўны парк, дзе будаваўся спартыўны комплекс. Былі тут і зімовыя атракцыёны. Але наведвальнікаў няшмат. Дзядок часта пытаў у Парашуціка:

– Гэй, Парашуцік! І чаму маладыя не ходзяць сюды? Гэта ж месца ціхае, хоць і ў горадзе. Такое спакойнае... Ці гэта толькі такія, як мы з табой, любяць спакой? Можа, ім шумныя кампаніі патрэбны?

Парашуцік у адказ толькі схіліў галоўку, быццам адчуваючы сябе вінаватым, што не можа дапамагчы дзеду. А ў тога на твары раптам з’явіліся сляды глыбокага роздуму.

– Дзе яна зараз – Марынка?...

А хто была тая Марынка? Старая Гэля, суседка па паверсе, калісьці распавядала бабам гісторыю кахання гэтага дзеда. Ды кожны раз з’яўляліся новыя дэталі. Адно толькі не мянялася: каханую дзеда звалі Марынай.

– Сёння сядзеў на лаўцы і трымаў у руках яе фотакартку!

– І якая яна, прыгожая? – цікавілася Ніна.

– Я-то добра не бачыла, але валасы рыжыя, амаль чырвоныя, а вочы вялікія, здаецца, блакітныя...

– У рыжых звычайна зялёныя вочы.

– А можа і зялёныя...

Усё, што пра дзеда ведалі ў двары, – толькі дадумкі вось такіх суседак.

А Марынка сапраўды існавала. У яго памяці, у яго сэрцы. І не важна, кім яна была і што за жыццё зрабіла, а для яго яна была самай лепшай. Нават Парашуцік ведаў мала. Тое, што дзед яе вельмі кахаў і да гэтай пары кахае. А яшчэ тое, што пасля яе смерці ён ні з кім фактычна не гаварыў, акрамя маленькага адданага сабачкі.

– Хачу да яе, Парашуцік. Хачу, як раней, пісаць ёй вершы і маляваць яе, такую незямную. Яе вочы, ці то як неба, ці то як мора. Але на каго цябе пакінуць?

Сабачка лізнуў рукі дзеда.

– І што б я без цябе рабіў?

Парашуцік закрыў вочкі лапкамі. Выглядала гэта так, быццам ён плача і хаваецца ад усіх. Ён ніколі не брахаў. Мог толькі ціхенька заскуголіць, каб дзед яго зразумеў. І той разумеў. Ён бачыў у Парашуціку найлепшага слухача і таварыша.

***

Вось ужо колькі дзён дзеда не было відаць. Тая самая Гэля раптам пачула сабачы брэх. Прыслухалася – ён ішоў з-за дзвярэй кватэры дзеда. Старая спалохалася. Паклікала мужа, Міхала. Той, доўга не думаючы, выбіў дзверы. За парогам стаяў Парашуцік, яшчэ больш худзенькі, чым заўсёды.

– Ах, мамачка... – загаласіла Гэля.

Голас у яе быў такі брыдкі, які маюць, можа, і нядрэнныя, але надакучлівыя бабы. Хутка на яе крык збегліся іншыя суседзі.

Дзядок ляжаў у пакоі на сваім маленькім ложку. Рукі былі складзеныя на жываце, а на твары, што дзіўна, добрая ўсмешка. Парашуцік падбег да ложка, ускочыў на грудзі дзеду і пачаў таптацца лапкамі на месцы і лізаць яго шчокі. Людзі назіралі за гэтым, і розныя пачуцці ахапілі іх. Кагосьці, найбольш з мужчынаў, спачуванне. Іншых, такіх, як Гэля, проста дзікі жах.

Нарэшце Міхал не вытрываў: схапіў Парашуціка і панёс у сваю кватэру.

***

На могілкі сабраўся ўвесь дом. І жаль быў на тварах тых, хто нават і не ведаў нябожчыка. У апошні шлях праводзілі яго моўчкі. Ніхто нічога не сказаў, але кожны думаў, які добры то быў чалавек. Ніхто не сумняваўся ў праваўдзівасці сваіх думак.

Адзін Парашуцік выў увесь час. І ад таго рабілася яшчэ больш горка. Калі пачалі сыпаць па тры жмені пяску, Парашуцік кінуўся ў яму.

– Госпадзі! Выцягніце сабаку! Міхал, чаго ты стаіш? – загаласіла Гэля.

Міхал асцярожна дастаў сабачку са словамі:

– Цяпер ты будзеш жыць у нас.

...Кожны дзень Парашуцік наведваў два месцы: ручай і могілкі. Па адным і тым жа сцэнары. А потым вяртаўся да новых гаспадароў. Міхал і Гэля не спынялі яго. Толькі дзівіліся такой адданасці жывёлы чалавеку.

Аднойчы ён не вярнуўся. Знайшлі яго каля магілы дзеда... Пахаваў яго Міхал побач. Потым змайстраваў драўляны крыж, на якім выдрапаў “Два парашуцікі”...

*Лістапад 2010 г.*

Любоў Турбіна



...не трывожце

праху Еўфрасінні...

# У вечнасць пасланне

## Цёплай тугі глыток

***“Сябры – гэта самае істотнае, самае дарагое, што набываеш цягам жыцця”, – сказала Любоў Турбіна ў інтэрв’ю “Дзеяслову” пяць гадоў таму.***

***Ажывае карцінка: у вітальні-развітальні шчыльным табарам, так, што й не павярнуцца, “прыселі на дарожку” сябры Любы – гэтулькі нас прыйшло правесці гаспадыню на вакзал, калі яна ўрэшце наважылася на канчатковы пераезд у Маскву, на “гістарычную радзіму”. Пасля дзесяцігоддзяў, пражытых тут.***

***Новы міленіюм Любоў сустрэла на новым месцы, з крэўнымі, і, паводле ейнага прызнання, яшчэ доўгі час баялася наведваць Мінск – нібыта наведваць сябе мінулую: засцерагалася “раздваення асобы”. І другая боязь: вярнуцца – і не заспець “таго, што раньш было”, так бы мовіць, не застаць сябе дома. У тойсамай гутарцы яна прыгадала шатландскую легенду пра паэта, які затрымаўся быў на гадзінку-другую ў лесе між феяў, а***

***тымчасам у ягоным родным паселішчы праплылі стагоддзі – ён вярнуўся, а там нічога не пазнаць і ніхто яго ведаць не ведае.***

***Але трапіць у Мінску ў падобнае становішча Любе пакуль дакладна не пагражае. За апошнія дванаццаць гадоў тут сапраўды шмат што змянілася, але чароўны хатні салон Турбіной застаецца месцам уяўнага паломніцтва для тутэйшых паэтаў, музыкаў, мастакоў, навукоўцаў, так-так, фізікаў таксама. Зорачку тутэйшага творчага бамонду, што ні дзень, з пяшчотаю ўзгадваюць і цытуюць менскія сябры, калегі.***

***"У Мінску я пачувалася ледзь не аксакалам, а ў Маскве апынулася зноў пачаткоўкай, без скідкі на ўзрост". І высветлілася – ёсць рэзервы. Ва ўсякім разе, страхі, нарэшце, адступіліся. І вось ужо нашая паэтка аб'яўляецца ў горадзе сваёй маладосці то "ў сценах" былога фізфаку (які скончыла), то цяперашняга філфаку (дзе выкладала паэтыку), то ў Інстытуце літаратуры Акадэміі Навук (дзе даследавала літаратурныя ўзаемасувязі), то на Стральцоўскіх чытаннях – з перакладамі і прысвячэннямі Майстру, вылучнасць якога тонка адчула, поруч з якім прайшла незабыўны адрэзак жыццёвага шляху.***

***А непадалёк ад славутай пісьменніцкай Лысай Гары, на адзін чыгуначны прыпынак бліжэй да Мінскага мора ёсць Крыжоўка — куток натхнення, Турбінскія Пенаты, з асірацелым бацькоўскім лецішчам, куды Любоў зрэдчасу ўцякае ад летняй маскоўскай спёкі, да "роднага беларускага лесу", які сніцца начамі (тады як "у чужы, невядомы лес тут пад Масквой ісці зусім не хочацца").***

***Затое ў самым сэрцы Масквы, у Інстытуце сусветнай літаратуры (ИМЛИ), у асобе паэткі Любові Турбіной беларусы маюць "свайго чалавека", надзейнага сябра, што "вядзе" тамака беларускую тэматыку, спрыяе, як можа, творчым кантактам паэтаў адной і другой сваіх радзімаў.***

***Расіянка з вядомага шляхецкага роду піша вершы, пэўна ж, па-руску. У Мінску выйшлі ў свет яе паэтычныя зборнічкі "Улица детства" (1981), «Город любви» (1988), «Наша надежда жива, если плачем...» (1991), «Сны города» (1993), «Четыре портрета» (1997), «Ускользающее чудо» (2002), кніга вершаў і прозы «Огни на воде» (2009).***

***Апроч таго, Любоў перакладае творы сугучных ёй паэтаў, сярод якіх – пачэсны шэраг беларусаў: Максім Багдановіч, Міхась Стральцоў, Уладзімір Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк, Галіна Каржанеўская, Анатоль Сыс ды іншыя. Настала нашая чарга адказаць узаемнасцю. Увазе чытача прапануюцца вершы Любові Турбіной у перакладзе на беларускую мову.***

**Галіна Дубянецкая.**

* * *

Восень.
Лунае душа ў апусцелых прасторах,
Быццам бы лісцік,
у прожылках тонкіх і ўзорах.
Кожны скрэслены ліст –
гэта ў вечнасць пасланне.
Восень.
З галіны ўпаду
і пачну вандраванне
Ўсцяж па старонках пажоўклых,
мінулых эпохах...
Нехта нябачны
прагледзіць лісты адным вокам.
Дзе мы? – гукаю.
Няма на пытанне адказу.

Дачныя домікі стынуць да лета
без газу,
Голае поле, і вёскі – пустыя,
там бедна...
Легчы, суняцца і знікнуць навекі,
бясследна.
Толькі не скончыць, бунтоўнай,
нязраднага бегу –
Аж да суцішнае белі,
да першага снегу.

* * *

Час імкнецца ў незваротнасць...
Прагучала – надта позна!
З перакручанага крана –
нітка млявая вады.
Прарасло сумнення зерне –
а за вокнамі марозна,
Рана точыцца крывёю,
набрынялыя сляды.

Час, што мкнецца ў незваротнасць,
я кляну і плачу горка:
Ўсё ад холаду застыла,
сэрца змоўкла ад бяды...
Цяжка вытрываць чаканне,
ды міргае з неба зорка:
Што здараецца аднойчы – застаецца назаўжды!

*Пераклад Людкі Сільновай.*

* * *

*М. С.*

1.

Вы слоўца забытае кінулі мне –
«прошвырнёмся»,
І вось мы сышлі
і вярнуцца назад не бяромся,
Дзе шыльдачка «Шлях Старавіленскі»,
моўчкі праходзім,
Адно аднаго, ледзь кранаючы,
ўсё не знаходзім...
Былыя каханні прачнуліся нашы
з вясною,
Нябачнай ракою цякуць
паміж Вамі і мною.

*Пераклад Сержука Сыса.*

2.

Полацак, пяшчота і Сафія –
Грознае чарнобыльскае лета...
Землі пракаветныя, святыя,
Як злучыць, як выказаць ўсё гэта?
Не трывожце праху Еўфрасінні –

Заслужыла доўгаю дарогай...
На гары высокай, па-над плынню,
Падступае тайная трывога.
І з’яўленне дзіўнае Скарыны –
Сквер у прыцені, будынкі, сутарэнні...
Год ды месяц да твайго спачыну.
Слёзныя бяссонныя маленні.

Не ўратуе мудрая Сафія,
Несуцешны плач – не быць нам разам!
Папярэджанні чые гучаць скупыя,
Будучыні змрочныя наказы?

*Пераклад Сержука Сыса.*

3.

Ацерусіўшы лісцяў пошап,
Замкнуўся лёс на эпізодзе.
Не спамінай той дзень апошні,
Ў слязах аблічча пры сыходзе.

Мой свеце ясны, да разрыву
Была прыдзірлівай і колкай,
Ды не забудзься й той, шчаслівай,
На вулцы з весняю вясёлкай.

Цень ад вясла, празрыста-ценькі,
Кранае роўнядзь залатую...
Запомні ў лёгкай той сукенцы,
Што, ты казаў, мне так пасуе.

Куст ядлаўцовы даастачы
Схаваўся ў гурбе ля прыпынку.
Ты быў, ты ёсць – навошта плачу?
Забыцце гоіць нас узімку.

*Пераклад Галіны Дубянецкай.*

## ПА ВУЛІЦЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

І вось што ў сне адбылося са мною –
Бацькоўскі дом абыйшла стараною,
Паўз Свіслач, а дом каля парку,
І вокны, што свецяцца ярка.

А вуліца ціха спаўзала ў цямрэчу...
Каменны той дом на рагу каля рэчкі
Па вуліцы Янкі Купалы
І голас – “Ну дзе ты прапала?”

Пазнала я мамін, ды хуценька нізам,
Мастком, а мне ўслед толькі рэха “Вярніся!”
Схавалася ў цень і прамокла.
А тата ўглядаецца ў вокны.

А побач са мной нехта быў альбо не?
Як пільна зірнеш – сілуэт мільгане.
Пакінула дом і адразу
Там з даху пападалі вазы.

*Пераклад Сержука Сыса.*

### МОСТ

Гэты мост праз рачулку ў тумане –
прабегчы таропка!
Толькі дошчачкі-костачкі хруснуць,
абрынуцца й кропка.
А вада ледзяная, густая, глухая, пад ёй зеляніна...
Ды сюды не прыводзіць да часу нікога сцяжына.
А на беразе тым толькі конь,
толькі стог пад навесам,
Ды ў вакенцы агонь –
толькі недзе далёка за лесам.
Хто каня выганяе на пашу –
пабачыш праз поле.
Каля самай вады
не дазволена смагу спатоліць.
Гэта месца – знаёмае быццам –
наўмысна забыта.
Вусны памяці ніткай суворай трывала зашыты.
Зніклі лебедзі-гусі-ганцы
на заходзе, бы згадкі,
Да пары. На шчаслівай кашулі –
адно толькі латкі ды латкі.
Ні парома, ні чоўна – адно толькі мост,
нетрывалы, трухлявы,
І туман над ракой падымаецца
шчыльны, бялявы.

### ДЗЕНЬ НАПАЧАТКУ ЛІСТАПАДА

Восень! Вось твае ўборы –
Ў золаце і крыві...
Рэзкі разрыў прасторы,
Выспа былой любві.

Як і тады, калісьці:
Парк, парадыз, сад,
Шоргат сухога лісця –
Рэха мінулых страт.

Музыкі зводдаль хвалі,
Цёплай тугі глыток,
Перш чым вятрыска шквальны
Сарве астатні лісток.

### *ПЕР ГЮНТ*

І нечакана зайгралі Грыга.
Святло настала, і звон з вышынь.
І душа мая, цяжкая, запыленая кніга,
Прачынілася – і ўзнікла далячынь.

Прыгажэйшай за песню аб вечным блукальцы
Я не чуў, але ўдалечы бачыў вагні.
І нерашучыя снежныя пальцы
Перагортваюць абляцелыя дні.

...А ў залі мяцеліца ўсцяж курэла,
Зіхацеў і паўз люстры слізгаў сняжок.
І тут, нібыта раптоўным стрэлам
Маёй думцы ўбогай далі штуршок.

Я набыў маўленне і, быццам замову,
Прыгадаў: я любіў вас, я вас любіў...
І душу маю, выстылую да асновы,
Снег сваім чыстым святлом атуліў.

* * *

Ды штосьці гэткае было
(Я пэўна ведала: не сніцца!)
Такая крохкая драбніца,
Штораз гатовая згубіцца,
Ёй і найменне не ўзышло.
А без яе ўсё проста тло,
І нават поспех клаўся ніца,
І з рук выпырхвала сініца,
Каб вышынёю падражніцца,
З мазайкі выпадала шкло.

Усё між пальцаў працякло.
Стамлёна гасне вечарніца.
Адна яшчэ надзея цьміцца,
Што зноў цудоўная драбніца
Паможа выкрасаць святло.

*Пераклад Галіны Дубянецкай.*

## Петэр Мілчак



...тое, што з неасцярожнасці
ўпадзе на зямлю, з’есць зямля...

# Віктар, Караль і мядзведзі

### Усё, што прагне Караля

У Караля на языку расце трава. Віктар сказаў, што ў Караля замест языка – сапраўдны луг. На ім мог бы пасвіцца статак кароў.

Караль кажа, што, калі б ён быў каровай, яму не давялося б шукаць сакавітыя пашы. Ён мог бы паціху скубці свой уласны язык.

Калі б Караль быў каровай, на шыі ў яго гайдаўся б званочак. Кожны гук каровінага званочка прываблівае анёла.

Над статкам каровіных званочкаў лунае чародка анёлаў.

Калі б у Караля на языку пасвіўся статак кароў, меў бы Караль на языку неба.

*Пераклад са славацкай – Святланы БОГУШ.*

## Віктар, Караль і марачок

Калі марачок выйшаў з трума кардоннай каробкі, ён убачыў, як Віктар і Караль сядзяць насупраць адзін аднаго за сталом.

У марачка быў зарослы твар, цёмныя нагавіцы пад калена і цяльняшка. Пад ёй, на моцных загарэлых грудзях, якіх не было бачна, у яго не было наколкі ні маяка, ні нават якара.

Марачок добра ведае, што яму не суджана даплыць да порту прызначэння. У гэтай гульні яму дазволена толькі памерці.

Паводле правілаў, гэта можа адбыцца трыма спосабамі. Бязглуздай смерцю, калі варожая частка каманды выкіне яго ўночы за борт; геораічнай смерцю пры абароне карабля, калі шабля аднаго з піратаўзахопнікаў пратне ягонае сэрца; і ганебнай смерцю, ад рукі п'янага марака ў партовай карчме.

Марачок нерухома стаіць на палубе і ўзіраецца ў неспакойныя хвалі. Ён так моцна прагне, каб Віктараў кубік вызначыў, што гэтым разам ён памрэ бязглуздай смерцю.

Ён не будзе зноў ажно да знямогі чакаць на паверхні, ані больш не стане лёгкай здабычай акулы.

Ён нырне ў марскія глыбіні і будзе плыць да недасяжнага дна, дзе яго ўжо чакае Сірэна, дакладна такая, якую ён хавае пад цяльняшкай.

## Караль і Віктар

Караль і Віктар – крэўныя браты.

Некаторыя кажуць, што Караль без Віктара не змог бы, а іншыя ў сваю чаргу – што Віктар без Караля ніяк не абышоўся б.

Караль ведае, што ў ім блукае кропелька Віктаравай крыві, а Віктар у сваю чаргу адчувае, што ў ім вандруе на адну, Каралеву, кропельку крыві больш.

У небяспецы яны заўсёды стаяць поплеч.

Віктар кажа, што, калі ў такую хвіліну ён стаіць пэўна і непахісна, як скала, паўз яго пракатваюцца лавіны страху. І калі здаецца, што ён дужэе і расце ўвышыню, у ім уздымаюцца клубы пылу, быццам бы ён упаў на калені.

Можа, ён і здолеў бы ўсё адужаць, але яму бракуе Каралевай адвагі.

Караль зусім спакойны. Ён кажа, што ў небяспечнай сітуацыі ён аніяк не можа страціць адвагі, калі бачыць, што поплеч стаіць Віктар, пэўны, як скала.

## Мой анёл і Віктар

Майго анёла завуць Нагтаной. Ён пухлы і маленькі, яго можна было б калыхаць.

У яго далёка пасаджаныя вочы. Можа падацца, што ён і не бачыць мяне, бо мусіць глядзець на абсалютна іншыя рэчы.

Часам яго вочы заплюшчаныя і ён амаль не дыхае. Нібыта ён быў не на варце. А потым ён пачынае прамаўляць незразумелыя словы, якія аднойчы трэба будзе зразумець.

Але Віктар ужо цяпер сцвярджае, што анёл кажа: “Я не прыйшоў бы на месца, на якім бы ніхто мяне не чакаў”.

## Віктар, Караль і мядзведзі

У Караля ёсць ножык з мядзведзем, выгравіраваным на тронку. Віктар кажа, што Каралеў мядзведзь мог бы ажыць, бо ён яшчэ ніколі не быў сапраўдным мядзведзем.

Пакуль што ён проста названы набор рысак, злучаных на ўзор іншых, жывых мядзведзяў, якія для таго, каб можна было зноў ажыць, мусілі спачатку стаць падобным наборам рысак.

Караль збірае заплечнік і выпраўляецца ў лес шукаць дрэва з дуплом, з якога чуецца гудзенне лясных пчол. Там, пад гэтым дрэвам, ён пакіне свой нож.

## Караль, Віктар і спажытак

Каб дайсці туды, куды ён хоча, Віктар мусіць харчавацца на хаду. І калі ён укладае ў вусны адзін кавалак за другім, ён адначасова правай рукой корміць вецер і птушак, якія пралятаюць побач, а левай рукой – лісіцу ў капелюшы, якая прыбілася да яго з зусім іншай гісторыі. Тое, што з неасцярожнасці ўпадзе на зямлю, з’есць зямля.

Караль кажа, што Віктар хоча накарміць усе галодныя стварэнні, бо гэта добра – дзяліцца сваім спажыткам. Аднак Віктар ведае, што для таго, каб ён і далей мог крочыць далей і трапіць туды, куды хоча, усё, прынамсі да той хвіліны, мусіць заставацца на сваім месцы.

*Вершы ўзятыя са зборніка “Брум” (“Brum”, 2012).*

Ніл Гілевіч



...Што гэта такое? Нават Свята Волі не аб'яднала!
Што з намі робіцца? Нават тут — не разам!
Дык чаго ж мы даб'емся, братцы?
Ай, як горка, як балюча на ўсё гэта глядзець!..

# Год дзве тысячы першы

***Выбраныя старонкі дзённіка***

*Працяг. Пачатак у №№4-5 (53-54) за 2011 г. №№1-2 (56-57) за 2012 г.*

*12-га студзеня.* У першыя дні Новага года (3-га? 4-га?) я пагадзіўся весці ў "ЛіМе" публіцыстычную рубрыку — персанальную, сваю. Пытанне ўзнікла ў звязку з тым, што мне была прысуджана "ЛіМ"аўская прэмія па гэтай намінацыі за мінулы год. Пагадзіўшыся, прыдумаў назву: "Сам-насам з Радзімай і з часам". І вось — першы кавалак, казаў бы той, "выскачыў". Наперад ведаю: ніхто добрага слова не скажа. Ніхто!..

*20-га студзеня.* Учора быў ў "ЛіМе" другі кавалак. І гэты прамоўчыцца, як і той. Па зразумелай прычыне: мы жывём у Беларусі. Мы — беларусы. Г. зн. самаеды.

Ездзіў у Лагойск, на юбілей "раёнкі". Па запрашэнні рэдактара Т. Ігн. Біран. Баявітая жанчына! Родам з Мядзельшчыны, з Мікольцаў на Нарачы, праз якія я праязджаў сотні разоў. Юбілей — тыповы, і юбілейная вячэра — тыповая. Тосты, затым танцулькі каля сталоў; не выходзілі ў круг толькі двое: Сасноўскі і я. А мой аднакурснік В.Н. ого як "тупаў на

гарачай блясе" ("Кот на гарачай блясе" — любімая прымаўка Ніны). Праз увесь час у застоллі Сасноўскі бурчэў (уголас), што газета выходзіць на дзвюх мовах, што раней ніколі гэтага не было (да баявой жанчыны, якая сама перадавіцы піша па-руску). А вазіў мяне ў Лагойск на службовай машыне Ул. Глушакоў, таксама госць юбіляркі. Усю дарогу маўчаў — і туды, і назад.

*23-га студзеня.* У Чырвоным касцёле — прэзентацыя новых кніг Л. Рублеўскай і В. Шніпа. Кніг гэтых я не бачыў і не чытаў, таму ў сваім слове гаварыў пра ранейшыя. Добра гаварыў, бо яны гэтага заслугоўваюць. Нават прачытаў 2-3 вершы Шніпа — з ранейшых, якія ён сам не чытаў гасцям імпрэзы. Усё абышлося вельмі хараша. Скобла вёў вечарыну дасканала, — цягне на Заслужанага Тамаду Рэспублікі.

*24-га студзеня.* Ездзіў у "Юнацтва" па ганарар за нейкі калектыўны зборнік. Затым быў на Радзе СП — прымалі ў Саюз маладых, у тым ліку 88-гадовага Анішчыка з Вільні. Па яго кандыдатуры браў слова і я, — мы даўно знаёмыя (пазнаёміў нас М. Танк у Вязынцы, на святе паэзіі, — купалаўскім).

*26-га студзеня.* Трэці кавалак у "ЛіМе". Пра П. Глебку. Паспрабаваў паказаць, што ён выдатны лірык. Напэўна, гэта не ўсім спадабаецца, бо многія выкінулі яго з гісторыі нашай літаратуры наогул. Але ж менавіта таму я і прысвяціў яму сваё чарговае слова.

*30-га студзеня.* Учора ў шэсць вечара аддаў А. Казловічу публіцыстыку — а сёння ў шэсць вечара ўжо трымаў у руках нумар газеты з ёю. Такая аператыўнасць! Хоць, зрэшты, усё зразумела: лыжка дарага к абеду! А вялікі ганебны "абед" пачынаецца заўтра.

*31-га студзеня.* За ўвесь дзень наконт маёй учарашняй публіцыстыкі пазванілі: прафесар Савіцкі, Стасевіч, Мацкевіч (Радашковічы), Ярашук (Мінск).

*1-га лютага.* Прайшла нарада па пытаннях культуры. Ганебнае шоу ў мэтах падкупіць інтэлігенцыю. Сорамна было глядзець. Сорамна было слухаць нашых дзеячаў культуры. Да чаго дакаціўся М.К.! Паабяцаў Вялікаму Меламану выканаць у яго гонар сімфонію Чайкоўскага! Усякае чуў я на сваім вяку — але такое? І ў кашмарным сне не магло прысніцца. Усе выступілі як халуі і папрасімцы — усе! За выняткам адной Вольгі Іпатавай. Адзіны мужчына на 500 чалавек у зале!..

*2-га лютага.* Чарговы кавалак у "ЛіМе". Пра культ маральных пачвараў — на прыкладзе Гітлера. Занёс У. Лапцёнку тры сатырычныя паэмы (Ведзьмака-Лысагорскага, Дамавіка-Крывіцкага, Раскапэнды-Бабэцкага) — для зборніка, які будзе пачынацца класікай XIX ст. ("Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе").

Вечарам быў У. Конан. Ён даў згоду напісаць артыкул пра Н.Г. для 4-га тома Гісторыі беларускай літаратуры XX ст. Хто яго ўгаварыў на гэта — я так і не спытаў. Бо Каваленка быў знайшоў нейкага постмадэрніста, і той навурволіў. Пачаў чытаць — валасы сталі дыбам. Якая пайшла навука аб літаратуры! О, Божа!..

*5-га лютага.* 50 гадоў Я. Мальцу. Сціплая вечарына ў бібліятэцы ДЛ. Сказаў некалькі слоў і я, прачытаў яго лірычныя вершы, вельмі хараша прынятыя аўдыторыяй. Сімпатычны дзяцюк!

*9-га лютага.* У "ЛіМе" — пра А. Чобата: адкрываю яго як выдатнага паэта,

аўтара "Тутэйшай сагі". Ніхто яшчэ такой ацэнкі (заслужанай!) ягонай паэзіі не даваў. А ў "Н.В." — новы кусок публіцыстыкі. Усё аб тым жа!.. Усё аб тым жа!.. Наколькі яшчэ мяне хопіць — не ведаю. Адчуваю, што на нядоўга.

*12-га лютага.* Сустрэча з І. Драчом у амбасадзе Украіны. Былі: Бураўкін, Зуёнак, Законнікаў. (Двух апошніх запрасіў я, бо раніцой Драч званіў мне з Кіева, каб я, апрача Б-на, прывёў яшчэ каго-небудзь з хлопцаў. А ў Амбасадзе на такую "кучу" не разлічвалі — як выяснілася ў застоллі.) Іван падарыў аж тры новыя кніжкі — свой зборнік паэзіі (выдатны, толькі "прабег") і дзве кнігі, да якіх меў дачыненне: Алеся Ганчара і Дз. Гнацюка.

"Н.В." заўтра дае яшчэ адзін мой публіцыстычны кавалак. Усё аб тым жа!.. Усё аб тым жа!..

*13-га лютага.* Схадзіў на Кірмаш, на які і прыязджаў І. Драч. На адкрыцці І.Ф. вазьмі дый скажы: "Горка, што не бачу самых выдатных беларускіх пісьменнікаў, і кніг іх не бачу. Ніл Сымонавіч Гілевіч, на шчасце, тут, а Васіля Быкава не бачу, няма..." Вось такі зрабіў утык правадырам Беларусі.

Пасля Кірмаша зайшлі з С.З. да мяне, доўга гутарылі. Пра тое, што ў "Полымі" ляжыць — ужо даўно — урывак з майго "Паланеза", — прамаўчаў.

*16-га лютага.* Пазваніла Н. Семашкевіч: прынеслі сігнальны экзэмпляр майго Трэцяга Тома. З'ездзіў — каб пераканацца: ці праўда, — настолькі ўжо не верылася, што выйдзе. Ад Ганада Чарказяна даведаўся, чаму Том быў перанесены на 2001 год: далі каманду зверху — усе рэсурсы паперы і грошай пусціць на непланавае выданне двух тамоў Шамякіна, — паводле пастановы Урада аб яго юбілеі. Вось так і на гэты раз І.П. падставіў мне падножку. Мой том да друку быў падпісаны 8 лістапада, і да канца года абавязкова выйшаў бы, каб не пісьмо І.П.

*17-га лютага.* Ездзіў на юбілей Ліны. 75 адгрукала. Дакладней — заўтра, 18-га, але збіраліся і адзначылі сёння. Вельмі аслабела сястрыца, вельмі! Ад інсульту яшчэ не зусім адышла, рука яшчэ амярцвелая.

*20-га лютага.* Дзве сустрэчы з чытачамі за дзень: у 14.00 — ДЛУ імя Танка (арганізаваў М.У. Грудзінскі), а ў 19.00 — у філармоніі: "Зніч", з М. Лявончыкам.

*21-га лютага.* Занёс у "Юнацтва" том — запланаваны да майго 70-годдзя. На 8 аркушаў. Рэдактар — У. Мазго, сімпатычны хлопец і таленавіты паэт, мой колішні студэнт. Дырэктар А. Камароўскі абяцае да юбілею выдаць. Хочацца верыць.

*22-га лютага.* Быў на канцэрце "Свята". Люблю гэты калектыў — і з прыемнасцю паглядзеў і паслухаў. Перакінуўся парай слоў з В. Купрыяненкам і з яго дзяўкамі. Божа! Яны атрымліваюць па дваццаць з гакам тысяч у месяц! Так працуючы, так выкладаючыся!..

*23-га лютага.* Быў, па запрашэнні У. Коласа, на спектаклі ліцэістаў у ТЮГ. Таленавітая моладзь! З некаторых, напэўна, будуць артысты. Можа, і з Іллі Паплёўкі, сына настаўніка з Гайны. Даў бы Бог! Вельмі духавіты хлапчук. Першакурснік.

У "ЛіМе" — кавалак пра Архіў БНР, выдадзены С. Шупам. Лічыў сваім абавязкам сказаць у друку пра гэту яго капітальную навуковую працу.

*28-га лютага.* Нейкі паскуднік з дэмакратаў (Ю. Свірко) у "НН" абліў мяне брудам. Пачуў, што я ў краме сказаў "ізюм" (замест "разынкі") — і прысуд: на-

родны паэт не гаворыць па-беларуску. І пра гэта — вельмі смярдзюча. І адкуль толькі гэтыя паскуднікі бяруцца?! Колькі ў іх пад сэрцам дзярма месціцца!..

*2-га сакавіка.* Прачытаў інтэрв'ю Ул. Някляева. Не ўсцешыўся. Нібыта смела, ваяўніча, але... смеласць якаясьці франдзёрская. А наконт лёсу СП — і зусім кепска. Лічыць, што і яшчэ цэлы год будзе кіраваць ім з-за мяжы. На маё разуменне — гэта проста безадказнасць.

У Доме ветэранаў глядзеў пастаўлены В. Мазынскім спектакль “Вечар” — па п'есе Дударава (запрасіў сам Аляксей, якога ўжо даўно не бачыў). Спектакль — выдатны! Без агаворак. Калісьці гэту п'есу бачыў на сцэне Віцебскага — запомнілася. Потым — у Купалаўскім. І вось — на Вольнай сцэне. Адно магу сказаць: здорава!.. Лёс беларускай вёскі, а па сутнасці — лёс Беларусі пададзены як горкая, балючая, страшная трагедыя.

*6-га сакавіка.* Спектакль па “Родных дзецях” у Чырвоным касцёле. З нястомным Лявончыкам і пры маім удзеле. Усё яшчэ слухаюць, і нават з непрытворнай увагай. Радасна, што ў зале была амаль адна моладзь.

*14-га сакавіка.* Ездзіў у Навапольскі с/г тэхнікум на сустрэчу — па запрашэнні былой маёй студэнткі, выкладчыцы тэхнікума Н.І. Чарнавусавай. Роўна дзве гадзіны слухалі так, што аж сама выкладчыца здзівілася. У каторы раз думаю, як шмат добрага для роднай мовы робяць такія сціплыя беларускія жанчынкі, настаўніцы. У тэхнікуме да мяне было ўжо багата паэтаў.

*15-га сакавіка.* Юбілейная вечарына П. Місько. У бібліятэцы СП, г. зн. звышсціпла, пры жменьцы людзей. Давялося ўзяць слова і мне. Гаварыў толькі пра яго лірыку, пра новую кнігу, прачытаў некалькі вершаў, якія сапраўды сведчаць пра добрыя паэтычныя здольнасці. А сам ён, дзівак, у канцы вечарыны, доўга чытаў нецікавыя, нясмешныя пародыі і эпіграмы на паэтаў, чым амаль не разбурыў агульнае прыемнае ўражанне ад яго юбілейнай сходкі. І што іх цягне на гэтыя пародыі, нашых многіх і вершатворцаў і празаікаў? Талент парадыста — вельмі рэдкі.

*16-га сакавіка.* На Радзе СП прынялі рашэнне правесці ў канцы траўня чарговы, XIII З'езд пісьменнікаў — з тым, каб выбраць новае кіраўніцтва і нарэшце развязаць завязаны Някляевым вузел. Напэўна, яму такое рашэнне не спадабаецца, але — іншага выйсця няма.

*20-га сакавіка.* “Чырвонка” змясціла мае адказы на пытанні В. Целяшук (студэнтка), у тым ліку і на пытанне аб мове. Трохі здзівіўся, што Карлюкевіч цалкам усё прапусціў наконт асіміляцыі і вынішчэння беларушчыны. Дзе тут “зарыты сабака”? Трохі дазволена? Каб мець факты: маўляў, калі ласка, друкуем, не баімся, свабода слова!?.

*24-га сакавіка.* Рада ТБМ, прысвечаная 500-у нумару “Нашага Слова”. У нумары — мой Зварот да настаўнікаў. Усё аб тым жа!.. А У. Содаль апублікаваў успаміны, як ён прыдумаў назву бюлетэню ТБМ “Наша Слова”. Ну, гэта ўжо чорт ведае што! Назву прыдумаў я, яшчэ вечарам напярэдадні, і ведаў, што ніякай іншай, якія будуць прапаноўвацца, не ўступлю. І калі я абвясціў і пачаў абгрунтоўваць — Содаль падтрымаў, і тут жа намаляваў на лістку, — і ўсе, у тым ліку Брыль, пагадзіліся з назвай “НС”. Так было ў сапраўднасці.

У 16.00 прыехалі з Брылём у НАЦ — на падпісанне прынятага на III з'ездзе

Акта незалежнасці Беларусі. Ён быў прыняты як пацвярджэнне актаў 1918, 1990, 1991, 1994 гадоў, але хітрыя хлопчыкі абставілі ўсё так, нібыта пачалося вось цяпер, з іх, з гэтага Акта. Калі рыхтаваўся III з'езд — у сустаршыні аргкамітэта (хто і дзе, чаму без майго ўдзелу?) выбралі Б. і Б. — ад літаратуры. Але за апошнія 10 гадоў я выступіў публічна (у друку і з трыбуны) у сто разоў больш, чым яны разам узятыя (гэта лёгка праверыць). Чаму ж у сустаршыні не выбраны Ніл Гілевіч? Сотні тры артыкулаў (прамоў, зваротаў, інтэрв'ю) і столькі ж публіцыстычных вершаў у абарону свабоды, незалежнасці, мовы! А колькі ў Р.І.? Тры-чатыры артыкулы ды тры-чатыры інтэрв'ю. Чыімі ж гэта рукамі ўсё рабілася? Што — у іх больш правоў на гэту ролю было — кіраваць З'ездам, быць сустаршынёй і цяпер падпісваць Акт? Здарова атрымліваецца! Як у класіка марксізма: "пакуль пралетарыят змагаецца, буржуазія рвецца да ўлады". Дарэчы, пасля З'езда прайшло 8 месяцаў: 8 месяцаў рыхтавалі Акт да падпісання! Але ж і варушыліся! 8 месяцаў здабывалі паўкіло паперы высокага гатунку! Не маглі гэта зрабіць адразу ж! Ды падпісаць галоўны першы экзэмпляр (на любой паперы!) трэба было на З'ездзе, у прысутнасці ўсіх дэлегатаў! А пасля ўжо тыя копіі-экземпляры, якія трэба рассылаць! Як жа да гэтага не дадумаліся шаноўныя сустаршыні?

*25-га сакавіка.* На маніфестацыю пайсці не змог: залажыла ў грудзях, відаць, зноў ВРЗ, дзярэцца і перацінае ў горле. Ды і куды і з кім ісці? Частка БНФ сабралася на пл. Незалежнасці, другая палова пайшла на Юбілейную плошчу. Што гэта? Што гэта такое? Нават Свята Волі не аб'яднала! Што з намі робіцца? Нават тут — не разам! Дык чаго ж мы даб'емся, братцы? Ай, як горка, як балюча на ўсё гэта глядзець! Якая трагедыя!..

На плошчу Незалежнасці не пусцілі, дык Ю. Беленькі скамандаваў: разыходзіцца і святкаваць дома, у сем'ях. А тыя з Юбілейнай плошчы пайшлі да Стэлы Мінска, дзе іх пабілі і чалавек 15 схапілі, будуць судзіць (так перадала "Свабода").

*26-га сакавіка.* Сустракаліся з Брылём, але толькі для абмену прэсай, дык не пагутарылі. Ды і не здаровіцца мне. Прыходзіў Алесь Хмыз з вершамі. Расце хлопец. Можа быць, што-небудзь добрае і выйдзе. Павінна. Адчуваецца характар і тэмперамент.

*27-га сакавіка.* У "НВ" — здымак "герояў нацыі", з якіх я вітаю і прызнаю толькі двух. Ды Бог з імі! Было б толькі ўсё гэта справай, а не гульнёй!..

Хадзіў у "Нёман", на вячэру да А. Кудраўца. 65 адгрукала ўчора (не па пашпарту, а па памяці маці). Назад ішлі з У. Гніламёдавым, ад якога і пачуў: "Вам у свой час вельмі нашкодзіў трацкіст Р.Б. Ён задаў тон несправядлівых адносін да Вас, якія і цяпер працягваюцца". І далей: "Ён быў разумны, галавасты, але нацыянальнае ў нашай літаратуры было для яго чужое".

*28-га сакавіка.* Заходзіў У. Паплёўка з сынам, забраў кнігі, плакаты і іншыя дакументы і здымкі для музея ў школе.

*29-га сакавіка.* Заходзіў самадзейны кампазітар з Магілеўшчыны Яцкоў М. Ад. з жонкай Ал. Міх. Падарыў касету са сваімі песнямі, чатыры з іх на мае вершы. Прыемна слухаць, ёсць мелодыя, ёсць лірычны настрой.

*30-га сакавіка.* Быў у СП, на прэзентацыі балгарскай анталогіі і зборніка перакладаў Н. Вылчава. Вёў Вярцінскі. Найдаўжэй гаварыў я — свайго роду даклад зрабіў. Усё гэта — зусім у духу старых часоў, бо разгляду перакладаў не было;

хоць я і зачытваў некаторыя, а што толку: хто ведае балгарскую мову? Адна М. Абрагімовіч ды трохі Ул. Анісковіч. Таму — гаворка на ўзроўні: трэба, дзякуем, трэба, дзякуем. Трэба, вядома!.. К. Цвірка пачынае новую серыю “Хрэстаматый замежных літаратур”. Прасіў, каб балгарскую ўзяўся рыхтаваць я.

У кабінеце Вярцінскага доўга гутарылі з А. Яскевічам. Падпісаў мне сваю кнігу “Библия: переводы, язык”. Цікавы ўсё-такі чалавек у нашай літаратурнай навуцы, у мовазнаўстве, ды і ў філасофіі. “Арыгінал”. А з Конанам — не ладзяць.

*31-га сакавіка.* Купіў “Крыніцу”. Пагартаў усё, што пра маю міласць. Не ведаю, чаму, але — не расхваляваўся, не ўзрадаваўся амаль ні трохі. Больш таго, — апанавала сумненне: а ці трэба было ўсё гэта? Два гады адбіваўся ад Галубовіча, ад Разанава, а летась вясной здаўся. І вось — маю. Ну, вядома, прысутнасць Конана ў гутарцы — вагу надала. Як і раней, ён і тут узяў глыбока. Цікава, як зрэагуюць “чытачы” на інтэрв’ю са мной і на артыкул Стасевіча пра “Лысую гару”.

Днём быў у М. Тонкавіча. Вельмі хораша пасядзелі, пагутарылі. Узяў дадому рукапіс яго зборніка. Трэба неяк дапамагчы яму выдацца (у якасці рэдактара і аўтара прадмоўкі). Можа, у «Бібліятэцы “Маладосці”»? Ці ёсць там узровень для такога выдання? Пабачым. Чалавек-то здольны.

*4-га красавіка.* Хадзіў на сарачыны па І. Цішчанку. Надта прасіла ўдава. Апантаны ў арганізацыі і падрыхтоўцы фальклорных выданняў, паспеў нямала і напісаць (часам крыху неахайна і мнагаслоўна). Меў і літаратурныя задаткі. А яшчэ... А яшчэ помню, як выказаў мне ў пісьме крыўду М.І. Забэйда, што Ц. выграб у яго палавіну архіва — нібыта для публікацыі, для папулярызацыі Спевака. І ні слова! І помню, як ён з М. Паўленка у годзе 64-65 прыходзілі да мяне слухаць песні Забэйды і заводзілі размовы. З Паўленкам! Знайшоў аматара беларускіх песень!..

*6-га красавіка.* Два гады, як не стала Карпенкі. Былі каля магілы. Там гутарыў з П.П. Казлоўскім, дамовіліся аб сустрэчы; ён будзе вылучацца кандыдатам на прэзідэнта. А 16-й сабраліся ў “Батлейцы” на памінкі. Бралі слова: Людміла Піліпаўна, У. Глод, С. Багданкевіч і я. Там пагутарыў з М. Шлындзікавым і Багданкевічам. Яны ўсур’ёз думаюць: ці не “раскруціць” кандыдатуру А. Дабравольскага. Вельмі здзіўлены такім іх думаннем. І засмучаны. Значыць, справы нашы кепскія, калі і такі варыянт узнікае. У сваім слове я заклікаў не паўтарыць памылку 1994-га, калі дэпутаты-дэмакраты правалілі вылучэнне Карпенкі (адазвалі свае подпісы; подлую падножку падставілі).

*16-га красавіка.* Заходзіў П.П. Казлоўскі. Гутарылі не менш трох гадзін. Зразумеў, што сітуацыя досыць складаная. Утвараецца кааліцыя (Ганчарык, Казлоўскі, Чыгір — і плюс Домаш, Калякін, можа, яшчэ хто). Ствараецца арганізацыйны камітэт, арганізуецца збор подпісаў вядомых людзей пад Зваротам да народа (ад Кааліцыі). Прасіў майго ўдзелу і дапамогі. Ініцыятарам арганізацыйнага камітэту — В.С. Лявонаў. Гэта я ўспрыняў з радасцю, гэта чалавек ва ўсіх адносінах надзейны. Моцны беларус! Вельмі моцны! Казлоўскаму я даў згоду, хоць разумею свае фізічныя магчымасці.

*17-га красавіка.* Каля 4-х гадзін прабыў у Чырвоным касцёле — на сустрэчы з настаўнікамі Мінскага раёна. Незвычайна цёплая, сардэчная сустрэча! Шмат чытаў ім, адказваў на пытанні. У канцы выступалі і яны, нагаварылі мне ўсякіх празмерна высокіх слоў, падарылі дужа пекны букет руж. Але галоўнае — гэта іх настрой. Які баявіты, патрыятычны настрой! “Пераможам і змяцём! А Беларусь будзе жыць!” — так і сказалі. Амаль адны жанчыны.

Сёння развіталіся з суседам І.М. Кучкоўскім, мужам сястры Караткевіча. Вельмі шкада: добры, чулы быў чалавек.

*18-га красавіка.* Учора пазваніў І. Сярэдзіч, запрасіў на "важную сустрэчу" — на сёння, на 14.30. Як і чакаў — гэта пачатак вялікай работы па стварэнні Кааліцыі. Для пачатку — аргкамітэт. Сёння былі Лявонаў, Бураўкін, Оргіш, Сярдзіч, Асташкевіч і Гуляеў. Б., О. і мне — даручылі напісаць Зварот да народа, дакладней — давесці яго да "кандыцыі", бо аснова ўжо ёсць. Дамовіліся сабрацца ў сераду — дзеля Звароту, а ў пятніцу (27) — аргкамітэт. Сядзелі каля трох гадзін, шмат спрачаліся (асабліва неўгамонны быў Сярэдзіч). Боязна мне, што ў спрэчках, у раздраі можа ўсё і патануць.

*27-га красавіка.* Быў у Лапцёнка. Занёс яму ідэю (з абгрунтаваннем) — выдаць кнігу анкет "Вядомыя людзі Беларусі: кароткія споведзі". Л. зразумеў, якая гэта выйгрышная ініцыятыва, і ўхапіўся абедзвюма рукамі. Будзе рабіць.

*4-га траўня.* Хадзіў у "Крыніцу" па заробак, доўга чакалі касірку, дык нагаварыўся з А. Бельскім, які сказаў мне шмат цікавага, у прыватнасці, пра "Родных дзяцей", якіх яны з жонкай чыталі ў дарозе, у электрычцы.

*10-га траўня.* Збіраліся ў Інстытуце гісторыі, у Л.М. Лыча, наконт ВБА. Былі: Конан, Крукоўскі, Ліс, Лыч і я. Яшчэ раз пераканаўся: добрая задума, але ажыццявіць надта цяжка — няма каму. Сам я выдыхся так, што нічога не міла; астатнія "дзяды" — занадта "беларусы". Патрэбен "жыдок", каб варушыцца, бегаць, дзейнічаць... Ці знойдзецца гэтакі?

Званіў з Самары сябра ваеннага дзяцінства Л. Кулакоўскі — гадоў сорак не бачыліся. "Дык што, пытае, незалежнасць?" — "Толькі незалежнасць!" — "Правільна, я таксама "за". Вось адно кепска: у Самары 40 тысяч беларусаў, і ўсе лічаць сябе рускімі".

*20-га траўня.* Адбыўся Сёмы з'езд ТБМ. Трусаў арганізаваў яго бліскуча — за паўдня "ўсё зрабілі". Мая прысутнасць была "ганаровай", упершыню без ніякага слова.

Заявіўся Някляеў, прыехаў на З'езд пісьменнікаў. Іпатава вельмі захалеравала.

*21-га траўня.* Адбыўся сход ініцыятыўнай групы народнага руху "За новую Беларусь". Сабралася чалавек сто. Гонар адкрыць Сход дастаўся мне — як самаму "маладому". Былі ўсе эвентуальныя кандыдаты на прэзідэнта, шмат кіраўнікоў партый, шмат журналістаў. Зварот да народа быў прыняты. Быў выбраны Выканкам Руху на чале з В.С. Лявонавым. Увайшоў у ВК і я. Задума разумная, канструктыўная, памажы, Божа, ажыццявіць!..

*22-га траўня.* Быў на Радзе СБП, апошняй перад З'ездам. Іпатава — як напятая струна, ад прысутнасці Някляева. На абмеркаванні пытання — хто будзе балатавацца на старшыню? — самаадвод узялі: Іпатава, Далідовіч, Бураўкін. Г. у які ўжо раз сказаў: "Трэба было гэта рабіць 10-15 гадоў назад — тады я быў гатоў і згадзіўся б, але тады вы мяне не бачылі!.."

Пазняк апублікаваў у "Нашай Ніве" артыкул, у якім сцвярджае, што В. Ганчар жывы, "яго трымаюць у якасці "чорта з табакеркі", каб пры неабходнасці выставіць яго "героем-пакутнікам" і яшчэ раз ашукаць Беларусь". Вось такая заява лідара БНФ. Чытай, беларус, і думай, што хочаш. І вер, каму хочаш. Чорт ведае, што робіцца!..

*23-га траўня.* У “Нашым Слове” Вал. Гракун дала бліскучую водпаведзь пісьменніцы Бондар, якая апошнім часам проста азвярэла ў сваёй нянавісці да “народных” — задушыла б іх тут жа, каб можна было!.. (“Якія яны народныя! — крычала па радыё. — Яны ідуць супроць народа! Ганьба ім!”)

*29-га траўня.* Адбыўся З’езд пісьменнікаў. Адкрыць яго Рада даручыла мне. Слова пісаў доўга і цяжка, разумныя думкі падказала Ніна. Калі верыць сябрам у зале — слова ўдалося (Адамчык з трыбуны сказаў “святое слова Гілевіча”). Многія-многія падыходзілі, дзякавалі, віншавалі... Апрача некаторых самых блізкіх сяброў. (Не хапіла мужнасці. Ці ўпершыню?) Моцна выступілі В. Адамчык, С. Законнікаў, А. Баршчэўскі (уласна — гэта і былі ўсе, каму сёння можна верыць), больш занялі часу прыхлябаі і чыноўнікі. Прыхлябаі пелі ва ўнісон адну песню: не трэба палітыкі, не трэба змагання, аб’яднаемся і палюбімся ў імя... ну-ну, у імя чаго? У імя аб’яднання з рускім народам у адзін народ, Беларусі з Расіяй — у адну дзяржаву.

Калі Л. Гуляка зачытаў прывітанне ад Начальніка Дзяржавы — у зале, без энтузіязму пляснулі ў ладкі 6-7 чалавек — на фоне авацый Нілу Гілевічу. І каму ж гэта спадабаецца?

Старшынёй СБП выбралі В. Іпатаву. У канцы з’езда я зразумеў, што яна аж памірала, як хацела гэтай пасады, толькі — каб гэтай яе жарсці ніхто не заўважыў, каб бачылі, што яна “не хоча”. Адсюль і самаадвод на Радзе. Ой, жанчынкі, жанчынкі! То ж дай Бог, каб наш давер усё-такі апраўдаўся. Зрэшты, выбар быў невялікі. На З’ездзе зноў адмовіліся Далідовіч, Законнікаў і ... — бедны-бедны Бураўкін, які — і тут, як на Радзе, — сказаў: “а дзе ж вы былі 10-15 гадоў назад, калі я быў гатоў і г.д.”. На старшыню не прайшоў М. Мятліцкі, хоць яго вылучаў і вельмі хваліў І. Шамякін. Думаю, што галоўная прычына — яго імя ў спісе 63-х. З кулуарных размоў зразумеў, што амаль усе жанчыны залы прагаласуюць супроць Іпатавай. Тут ужо і літаратура і палітыка ні пры чым, тут ужо чыстая псіхалогія.

На З’ездзе М. Дзямчук вельмі прасіў мяне прыняць удзел у Свяце паэзіі і песні ў Маладзечне 8-9 чэрвеня. Пабачым.

На выбарах Рады я зняў сваю кандыдатуру — не хачу! Не хачу! Не хачу! Калі ўсё даехала да такога ўзроўню — не хачу. Хай Бог мне даруе. І хай паможа мне мабілізаваць усе астаткі сіл душы і сэрца, каб не саступіць у галоўным і не апусціцца!..

*9-га чэрвеня.* Учора вечарам у Маладзечне адкрыўся Фестываль беларускай паэзіі і песні. Той, які быў заснаваны Карпенкам пры маёй падтрымцы (вітаў ад ВС РБ першы ў 1993 годзе — я). Сёння я павінен быў быць там — на сустрэчы з чытачамі ў бібліятэцы, спецыяльна для мяне арганізаванай. І аднак жа паехаць не змог, пабачыўшы па тэле адкрыццё. Вітаў удзельнікаў і гасцей Фестывалю Гэны. Прыехаў і ўзяў слова на Фестываль імя Карпенкі! Які цынізм! Хто працягвае яго святую справу!? А імя Ген. Дзм. на адкрыцці нават і не прагучала, ніхто і не ўспомніў. Гэта — абраза яго памяці. Як жа я мог паехаць і святкаваць гэта свята? Выступаць у рамках аднаго свята разам з Гэным? Каб так і было запісана ў паперках, і адзначана ў друку? Як шкада, што я непрадбачліва даў маладзечанцам згоду на прыезд!..

Прачытаў карэктуру “Шчаслівых хвілін”. Яшчэ раз пераканаўся: якая выдатная балгарская дзіцячая паэзія! Асабліва класічная. Але здаецца, што чытача ў яе менш і менш. Яна трымаецца на матывах вечных, у гэтым яе моц-сіла і хараство, а сённяшні чытач ужо жыве пераважна надзённым, ужо — маленькі прагматык, асабліва дзіця горада. Гэта паэзія — вясковая і для дзяцей вёскі, ад зямлі...

Праслухаў вечарам касету з песнямі А. Рашчынскага, якую ён мне падарыў, на канцэрце выпускнікоў у музвучылішчы. Усе песні ў выкананні студэнтаў. Як нябесная ласка на душу сышла! Асабліва хараша гучыць хор "Паклон табе, мой родны краю!". Адна з лепшых песень на мае вершы. Як бы гэта скантактавацца з ім і зрабіць том песень з нотамі — з тых запісаў (стужак і касет), якія ў мяне ўжо колькі гадоў ляжаць "мёртвым капіталам"? Якія ёсць там шэдэўры народнай лірыкі!..

*19-га чэрвеня.* Сустрэча і размова з В. Лявонавым (па яго просьбе). Прапануе напісаць зварот да народа Расіі — ад імя беларускай інтэлігенцыі. Сказаў: магу толькі ад сябе і не да народа (хто я такі — каб да ўсяго народа Расіі?), а да рускіх пісьменнікаў і дзеячаў навукі і мастацтва. На тым і пагадзіліся. Буду пісаць.

*22-га чэрвеня.* "День" апублікавала мае адказы на пытанні Аксаны Яноўскай. Усё яшчэ змагаюся, усё яшчэ на барыкадах. Сёе-тое ўдалося сказаць істотнае — і пра паэзію, і пра стаўленне паэтаў да ўлады, і пра мову, і пра Гэнага. Нават Ніна сказала: "густа замясіў" — гэта яе вышэйшая ацэнка.

На выканкаме Руху "За Н.Б." адмовіўся пісаць Ліст да Пуціна ад імя беларускай інтэлігенцыі. Адказаў: занадта моцна не прымаю гэтага чалавека, каб звяртацца да яго з нейкімі просьбамі. І пацвердзіў сваю згоду напісаць слова да рускай інтэлігенцыі (творчай і навуковай).

*4-га ліпеня.* Сёння павінен быў паехаць на прыём да пасла ЗША — у Раўбічы, але чалавек, які паабяцаў узяць мяне ў сваю "каляску", забыўся, відаць, — так і астаўся мой прыём дома. Можа, гэтак і лепш: няўтульна чуюся ў тых тусоўках, нейкая не мая п'яная публіка, і сам раблюся на іх падобным.

Пачалася мая "юбілейная кампанія" — першыя просьбы даць што-небудзь у вераснёўскі нумар (ад "Алесі", "Вожыка", "Пачатковай школы", "Маладосці, "Беларусі" і інш.).

*24-га ліпеня.* Званіла з Лагойска Л-ва — ці атрымаў запрашэнне на яе 60-годдзе, — і каб абавязкова прыехаў! "Ой, божа ж мой, божа!" — усё, што сказаў, каб не сказаць мацней. Мадаме і ў галаву не прыходзіць, чым я жыву і ў якім стане. Ах, гэтыя мадамы ад паэзіі!..

Званіў Лаўшук — наконт артыкула пра Н.Г. у том IV "Гісторыі беларускай літаратуры". Напісаў Ул. Конан, я ўжо ведаю гэта, ён скарыстаў свой уступны да 6-томніка. Цяжка пісаць такі артыкул пра "шматстаночніка": пра паэзію (лірыку, паэмы, сатыру) памясцілася, а пра навуковыя працы — пункцірна, а пра публіцыстыку — ніяк, і пра пераклады — адным радком, і пра п'есы і аповесць — гэтак жа, і пра творы для дзяцей ніяк... Н.Г. — без публіцыстыкі? Які ж гэта Н.Г.! Вярцінскі назваў у "Звяздзе" маю "Любоў прасветлую! "Евангеллем ад Ніла", — дык жа евангеллем! — галоўная кнігай душы і для душы, для людзей!.. Хіба ў маім жыцці, у маёй працы публіцыстыка нешта другараднае?

*17-га жніўня.* Чытаў карэктуру зборніка "малюткі" — "Лесам песня ішла", — здаецца, выбраў строга, нічога лішняга не трапіла, павінна быць файная кніжачка. Набіраў — малы Лапцёнак, Андрэй. Талковы хлапец. Калі пашанцуе — да юбілею ў "Кнізе" выйдуць два зборнікі. Так што будзе і радасць.

*29-га жніўня.* Быў на прыёме ў амбасадара Украіны. Падарыў мне шыкоўнае выданне "Кабзара".

*11-га верасня.* Сустрэча ў Бібкалектары, па пробе У. Лапцёнка. Расказаў пра выдавецтва “Кніга”, пра яго першыя выданні і планы, прачытаў некалькі вершаў. Быў там ад “Мастацкай літаратуры” і Марчук, сказаў: можа, і 5-ы том Н.Г. выдадзім (не пры ўсіх, а мне на вушка). Значыць, ведае кошка, чыё сала з’ела. А мне ўжо не верыцца нават у тое, што і 4-ы выйдзе. Здаецца, што на гэтых трох і кропка. Бібліятэкарам я расказаў, якую камедыю ўтварылі выдаўцы, перарабіўшы “на пераправе” 6-томнік у 4-томнік. Не ведалі прысутныя гэтага і былі здзіўленыя.

*25-га верасня.* Быў у нямецкага пасла на развітанні — ён ад’язджае, будзе паслом у Нарвегіі. Не ведаю чаму, з чыёй ласкі я запрошаны на гэтую вячэру ў вузкім коле (былі Роўда, Сёмуха, Садоўскі, Трусаў, Арлоў — з маіх знаёмых). Свабодна мог бы не пайсці. Нічога цікавага, усё тое ж, віно і закусь. І балбатня — абы пра што і абы з кім.

Ад майго вечара ў ДЛ адмовіўся — катэгарычна, калі даведаўся пра некаторыя абставіны. Аказваецца, нягледзячы на тое, што я сказаў Іпатавай на пахаванні Адамчыка (па дарозе з могілак), яна наважылася рабіць маю юбілейную вечарыну ў ДЛ (2.Х.) па ўсіх канонах мінулых часоў, з запрашэннем афіцыйных асоб. Больш таго, паслала ў СМ, Ярмошыну, ліст наступнага зместу (перапісаў з камп’ютара ў Ір. Львоўны): “Творчы і працоўны шлях Н.С.Г. заслугоўвае быць адзначаным уладай Рэспублікі Беларусь, на карысць і дабрабыт якой ён шчыра працуе з 1946 года”. Вось так, значыць. Па-першае, гэты ліст ёсць просьба, у завуаляванай форме, дазволіць Саюзу такое святочнае “мерапрыемства” — юбілей Н.Г.; па-другое, гэта падказка начальству, каб яно адшкадавала юбіляру які медалёк ці хоць грамату. Выдатна! Шчыра ўдзячны за клопат, толькі трэба было ўсё ж пацікавіцца, што я сам думаю наконт гэтага. Можна было б і ведаць, што я думаю і як я ўспрыму знакі ўвагі ад начальства. Напісаў заяву прыкладна такога зместу: паколькі кожны з нас жыве адзін раз на зямлі, я, зразумела, быў бы рад падараваны мне Богам дзень завяршэння вялікага этапу жыцця адзначыць сярод сяброў менавіта ў былым Доме літаратара — у адабранай у нас, пісьменнікаў, роднай хаце. Але, узважыўшы ўсе абставіны і акалічнасці, лічу гэта немагчымым. Рашэнне маё канчатковае, і на гэтым кропка.

Заяву аддаў Ір. Л-не. Нават не пазванілі начальнікі. Значыць, зразумелі.

*26-га верасня.* Ужо два тыдні чытаю ў друку, слухаю па “Свабодзе” каментары да вынікаў “выбараў” прэзідэнта. На душы — усё больш цяжка, сумна і прыкра. Іншых вынікаў нельга было і чакаць. Можна толькі пашкадаваць, што ўключыліся ў гэту непрыстойную гульню — пасля таго, як чатыры ўмовы апазіцыі не былі прыняты. Загадзя ж было вядома, якія будуць вынікі! — хоць 100 тысяч назіральнікаў пастаў, — гэта нічога не дасць, калі выбары адбудуцца па савецка-сталінскім сцэнары?! Так і сталася. Асабіста я іншага і не чакаў. І шкадую, што не заявіў публічна аб марнасці ўсіх намаганняў апазіцыі (як у свой час заявіў у ВС аб інстытуце прэзідэнцтва — у сакавіку 1994). Вельмі шкадую.

*27-га верасня.* Амерыка рыхтуецца да вайны з Афганістанам, з талібамі. Рашуча настроілася адпомсціць за жахлівы ўдар тэрарыста Усамы бен Ладэна. Настрой амерыканцаў можна зразумець, але — чым гэта кончыцца? Няўжо Белы Дом сур’ёзна думае, што тэрарысты спалохаюцца, прыцíхнуць, пашкадуюць аб учыненым зверстве і “больш не будуць”? Ды ні ў якім разе! Адной ваеннай помстай праблему не здымеш. А што рабіць? Не ведаю. Вось пра гэта і трэба думаць. Усім. Усім, усім! І тым, хто сёння думае, як задушыць незалежную Беларусь.

*29-га верасня.* Заўтра мне 70. Прыйшлі першыя тэлеграмы, паштоўкі, надрукаваны ў суботніх нумарах артыкулы, вершы (старыя). Заўтра збярэцца на абед радня, на 1-га на вячэру запрошаны бліжэйшыя сябры (з жонкамі). 4-га будзе вечарына ў Чырвоным касцёле, ТБМ ладзіць. Ніна выбіваецца з апошніх сіл — у забеспячэнні закуссю, цягае торбы і з крам, і з рынку. Гэта — пры яе здароўі. Трохі памагае Сяргей. А больш няма каму.

*1-га кастрычніка.* Учора балявала радня, — як і заўсёды, у добрым настроі. Быў і Я. Ст. з жонкай, прыхапіў і гармонік і праспяваў для гасцей "песні прапашчага"; уразілі песні надзвычай (асабліва "Студэнтачка" і "Не для мяне"). Коля крычаў: гэта геніяльна! (Добра, што ён, непітушчы, значыць — не пасля чаркі). Геніяльнага там нічога няма, але гучаць песні здорава, сам да слёз кранаюся.

Ну, а сёння былі сябры: Бураўкіны, Кудраўцы, Казькі, Жукі, Дударавы, Лісы, Вярцінскія, Пісьмянковы, Конан, Далідовіч, В. Блакіт, Зуёнак. А Законнікаў не прыйшоў — прыхварнуў якраз. Нагаварылі мне сябры столькі, што да смерці хопіць. Пілі, дзякаваць Богу, добра, і было весела.

Учора раніцой пазваніў з Франкфурта Быкаў, пасля трубку ўзяла І.М. Спытаў у яго: як маешся? Як здароўе? Адказаў: дрэнна, на самым краёчку. Кажу: дык, можа, вяртайся, можа, дома лепш будзе? Адказаў: ды, мабыць, скора вярнуся. Кажу: вечарам заўтра ў мяне будуць хлопцы... — Ну перадай ім прывітанне...

*5-га кастрычніка.* Учора адбылося нешта незвычайнае. Вечарына ў Чырвоным касцёле планавалася ў дольнай зале — на 250 чалавек. А прыйшло на сустрэчу з юбілярам 1500, а можа і больш. Катастрофа! І тады пробашч Ул. Завальнюк прыняў рэвалюцыйнае рашэнне: перавёў гэтую грамаду людзей у вялікую, галоўную залу (670 месц на лаўках, і столькі ж чалавек могуць стаяць на праходах, на абочынах і ў канцы залы). Юбіляр сядзеў на алтары, туды ж падымаліся віншаваць; вершы, па просьбе Завальнюка, чытаў з амбона. Як гаварылі прамоўцы: гэта — гістарычны вечар! Такога гісторыя беларускай літаратуры не ведала і наўрад ці яшчэ калі-небудзь зведае. Гэта — як па волі самога Госпада Бога. Такое не паўтараецца, такое не заплануеш. Гэта была найвышэйшая паэту ўзнагарода, — якая толькі можа быць. І паэт нарэшце зведаў, што такое шчасце, і глытаў спазмы, і выціраў вочы. Ён быў шчаслівы бачыць сапраўдную пашану і любоў тых, дзеля каго жыў і працаваў, — пашану і любоў беларускага народа.

*26-га кастрычніка.* Юбілейныя сустрэчы працягваюцца — насуперак маім планам праседзець гэту паласу ціхенька.

5-га — у Нацыянальнай бібліятэцы, дзе (малайцы, дзяўчаты!) адкрыта і выстава кніг і фатаграфій юбіляра.

12-га — у Нясвіжы, у РДК. Вялікая зала была поўненькая, пераважна — моладзь.

17-га — у Азярыцкай Слабадзе, у школе, дзве сустрэчы ўзапар — з малымі (4-6 класы) і старшакласнікамі. Дзеці гавораць па-руску. А ўчора, 25-га — у Маладзечне. Паўтарыўся касцёльны варыянт, толькі ў меншых маштабах. Планавалася сустрэча ў зале на 200 чалавек, унізе. А прыйшло — каля 500. Давялося пераходзіць у вялікую залу-чытальню наверх, дзе сяк-так патоўпіліся. У касцёле вечарына доўжылася тры гадзіны, і тут амаль столькі ж. І шчырасці, і цеплыні, і пашаны-любові было таксама, бадай, не меней.

24-га быў на выставе А. Марачкіна "Разам з Пагоняй". Прачытаў верш "Мастак", прысвечаны А.А., які давядзецца дашліфоўваць (пакуль — гэта чарнавік, але па задуме варты таго, каб над ім яшчэ пашчыраваць).

*29-га кастрычніка.* На прыёме ў турэцкага пасла пані Сойсал Шуле пагутарылі з М. Казінцом — першы раз за апошнія чатыры гады. Забыў спытаць, ці чытаў ён прысвечаны яму верш, — так і не ведаю, не абазваўся тады. Загарэўся, калі я сказаў, што магу перадаць ягонай Акадэміі пяць тамоў балгарскіх песень з нотамі — звыш 10 тысяч нотных запісаў. Толькі ці магу — ці не рана? Яшчэ мне патрэбны тэксты.

*30-га кастрычніка.* Дзень пайшоў на Гомель — выехалі ў 6.30, вярнуліся каля гадзіны ночы. У 12.00 — сустрэча ў ГДУ, у 16.00 — у абласной бібліятэцы. І там і там сустрэлі найлепшым чынам, было народу “бітком” і было безліч пытанняў, у тым ліку шмат такіх, якіх я чакаў — аб нашым набалелым . Вельмі прыемнае ўражанне засталося ад фальклорнага кабінета філфака — ва ўсю выдаюць народную творчасць Гомельшчыны! Кнігу за кнігай. І даследуюць. І адчуваецца, што ўсё з патрыятычным запалам. Кіруе кафедрай праф. Штэйнер, І.Ф., мой былы студэнт, талковы, таленавіты, сімпатычны, — паздароў яго, Божа!

*31-га кастрычніка.* Традыцыйная сустрэча на філфаку педуніверсітэта, як і заўсёды — надзвычай цёплая, сардэчная, і, як заўсёды, цягнулася не менш дзвюх гадзін. Вельмі мілы малады беларускі народ! Вялікую справу робяць Рагуля і Васілевіч.

*1-га лістапада.* У бібліятэцы СП была прэзентацыя чыквінскіх “Тэрмапілаў”. Быў і сам пан Ян з жонкай Галінай. Я чытаў не ўсе нумары, таму і слова маё было абмежаванае. Хваліў за дэмакратычнасць зместу, за “подых” сапраўднай беларушчыны і... Еўропы, за высокую паліграфічную культуру выдання. А выдаюць (робяць часопіс) удваіх — сямейкай. Здарова!..

*14-га лістапада.* Яшчэ адна сустрэча ў Маладзечне — на гэты раз у школе Бароўскага Б.В. (для дзяцей, хворых на скрыўленне пазваночніка) і ў музвучылішчы імя Агінскага, — у Р.С. Сарокі. Зноў — надзвычайная цеплыня і сардэчнасць, зноў пытанні, пытанні, пытанні... Паглядзіш вось так, паслухаеш — і так не хочацца верыць, што ў нас Роднае Слова ў загоне і што ўсё ідзе на заняпад.

*16-га лістапада.* Нарэшце мой юбілей дакаціўся і да землякоў, цэлы дзень прабыў у роднай школе, у Гайне. Чатыры гадзіны (з перапынкам) цягнулася сустрэча, пераважна — канцэрт вучняў і настаўнікаў у мой гонар, віншаванні, успаміны (у тым ліку майго школьнага настаўніка У.А. Рыбчыка, аднакурсніка В. Несцяровіча, маіх былых студэнтак, мясцовых паэтаў і празаікаў і інш.). Заскочыў на некалькі хвілін да Ліны — толькі каб пабачыць і павітацца. Хворая-хворая, ледзьве ходзіць. Божа літасцівы, калі прабегла жыццё?!.

*18-га лістапада.* У 11.00 быў у Федэрацыі Прафсаюзаў, па просьбе Лявонава. Баславілі (канчаткова) Статут грамадскага аб’яднання “За абнаўленне” — для рэгістрацыі ў Мінюсце. Маглі б ужо такога дзеда і не цягнуць, абышліся б і без мяне. Амаль палавіны выканкама не было, а я хаджу на кожнае пасяджэнне...

*19-га лістапада.* Юбілейная вячэра ў Вярцінскага, шмат пілі і елі, як заззычай — скалілі зубы, ну і гаварылі віншавальныя тосты. Пайшоў раней, першы, бо быў не ў гуморы і баяўся сапсаваць свята зайздросна маладому Ільічу. “Саўсім не тое, што было!..” У застоллі былі: Бураўкіны, Законнікавы, Зуёнкі, Сіпакоў, Шабалін, Каршукоў, Іпатава, Пісьмянковы...

*20-га лістапада.* Вечарына ў Музеі Купалы — апошняя ў маёй юбілейнай эпапеі, якая расцягнулася аж занадта — амаль на два месяцы. Прайшла выдатна. Упрыгожыў урачыстасць хор студэнтаў музвучылішча пад кіраўніцтвам майго земляка Алеся Рашчынскага. Ах, як жа хораша яны спявалі — на вершы Купалы і юбіляра! Таленавіты кампазітар — Алесь, належнае яму, на жаль, не аддадзена. А пстрыкунам... Як для мяне — дык радасна-сімвалічна, што кропка на святкаванні юбілею пастаўлена менавіта ў хаце Купалы.

Цудоўна гаварыла пра юбіляра Л.С. Давідоўская, — гэта ў яе атрымліваецца, малайчына. З сяброў уважылі прысутнасцю Бураўкін, Блакіт, Конан. Чытаў шмат вершаў.

*23-га лістапада.* Апублікаваў у "НВ" адкрыты ліст Зносаку — Нікіцію — каб даў адказ, хто ж забараніў ставіць "Тутэйшых" у тэатры Купалы. Злосна паіранізаваў. Зачапіў і старшынь двух творчых саюзаў — Іпатаву і Дударава. Ніна, разумеючы маё абурэнне, усё ж сказала: "Страціў яшчэ двух сяброў, і табе гэта адрыгнецца". Напэўна, так. Бо Купала нікому непатрэбны, а патрэбна мыш пад памялом...

*30-га лістапада.* Горкая, сумная навіна — памёр Віктар Астаф'еў. Напісаў для "НВ" развітальнае слова, у заўтрашні нумар. Непапраўная страта. Цяпер паскудства ў рускай літаратуры разгуляецца з яшчэ большай сілай.

*5-га снежня.* Учора хадзіў на адкрыццё выставы рукапісных кніг беларускіх татар, у бібліятэцы НАН. І. Канапацкі папрасіў, каб і сказаў некалькі слоў. А сказаць ёсць што — і не крывячы душою. Успомніў і Сц. Александровіча.

На ўрачыстасці была і брала слова пасол Турцыі Ф. Сойсал Шуле, з якою мы даўно знаёмы.

"НВ" апублікавала сёння мой вялікі артыкул "Крызіс ці трагедыя". Адразу ж пайшлі званкі, нават ад каго не чакаў.

*7-га снежня.* Як і трэба было чакаць, прыйшоў ліст ад Іпатавай. Не ліст, а абвінаваўчы акт. Страшны. А ж не магу паверыць, што гэта не фальсіфікацыя. Тры машынапісныя старонкі паклёпаў і бруду! Жах! Я чакаў, што будзе крыўда за папрок наконт "Тутэйшых", — гэта я зразумеў бы. Аказалася, што яна доўгія гады збірала на мяне дасье і цяпер усё вываліла. І што я некалі славіў КПСС, і што выгнаў БНФ з ДЛ, і што атрымліваў вялікую зарплату ў СП (250 — пасля 400 ў БДУ), і што я ў адной кампаніі з Бондар і Пашковым, і што мне важна не праўда, а падхалімства, і што прысвоіў грошы за прададзеныя Каралішчавічы, і што прынізіў В. Тараса, і што ўеў на ўсё жыццё Г. Булыку, і што таплю яе цяжарам сваіх бронзавых бюстаў і г.д., і г.д. І як цяпер быць? Абвяргаць усю гэту гнюсь не збіраюся, але ж і проста так "праглынуць" не атрымаецца. Ну і падчапіў Ніл Сымонавіч!..

*14-га снежня.* Хадзіў на вечарыну ў гонар 80-х угодкаў Сц. Х. Александровіча. Народу было мала (у музеі Коласа), але паслухаць было каго. Успаміналі Сц. Х. і Брыль, і Лыч, і Клышка, і Чамярыцкі, і Канапацкі, і Р. Александровіч. Далі і мне слова.

Начальніца з Капыля прывезла музыкаў. Сказалі пра гэта — я ўзрадаваўся: ну, думаю, парадуюць! Выйшлі два гітарысты і спелі тры бяздарныя сучасныя песенькі на рускай мове. Называецца — прыехалі з беларускай глыбінкі, з народа. І ведалі ж — куды ехалі, у Хату Коласа. І ведалі — на чые ўгодкі, якога патрыёта Беларушчыны.

А Янка зрабіў выгляд, што маіх апошніх публікацый не чытаў. "Цэнтральная газета" апублікавала размову са мною, якую вяла з месяц назад Алена Кліменка.

Упершыню ў жыцці сказаў у друку добрае слова пра Ніну, пра яе самаахвярнасць як у дачыненні да сям'і наогул, так — і асабліва — да мяне, да маёй працы. Не толькі самаахвярная памочніца, але і самаахвярная заступніца-абаронца.

*15-га снежня.* Фотамайстар Г.Л. Ліхтаровіч, па дзеду мой зямляк, з Жыліч, прынёс цудоўны альбом краявідаў і помнікаў Беларусі — ягонай работы, з ягонымі ж вершамі, зусім не благімі, упэўненай рукой напісанымі.

Па абедзе заходзіў Анд. Лапцёнак, абмяркоўвалі вокладку да “Споведзяў”. Рашылі — трэба рабіць новую, гэта — зусім не адпавядае зместу.

*16-га снежня.* Быў на радзе ТБМ, выказаўся наконт “Стратэгіі развіцця беларускай мовы”. Прапанаваў назваць: “Стратэгія ратавання беларускай мовы”, або “Стратэгія барацьбы за беларускую мову”. Абгрунтоўваў так, што наша мова ў такім жахлівым становішчы, што яе трэба ратаваць, трэба змагацца за ўмовы, у якіх мова будзе развівацца — без ніякай стратэгіі, сама па сабе, натуральна, як развіваецца ў нармальных умовах жывы арганізм, як расце дрэва, калі да яго даходзіць святло, сонца (а калі спрэс у засені — чэзне і гіне).

*17-га снежня.* Напісаў два лісты — Белакозу і Чобату.

*26-га снежня.* Стасевіч прывалок партрэт, выкупіў у мастака М. А. Моўчана за 200 дол. Канечне ж, лепшы з усіх маіх партрэтаў.

*(Працяг будзе)*

дзённікі

Алесь Жук



…Нельга пісьменніку бегчы ў жыцці.
Ён робіцца тады нейкім зашораным,
свету божага не бачыць…

# Лісты абляцелыя

***Дзённікавыя згадкі: 1974-2000***

*Заканчэнне. Пачатак у №2 (57).*

Зранку халодна, ветрана і дажджліва. Свежая зеляніна лісця на яблынях неяк цямнее, сталее ад гэтага дажджу і холаду. Часта так у прыродзе задумана – у час цвіцення дажджы і холад. Каб вучылася выжываць будучае жыццё, якое яшчэ хоча толькі пачацца? Зараз бы дзе ў лес, у напаленую хату, быць аднаму, пісаць ці чытаць, глядзець праз акно на дождж і ад гэтага быць шчаслівым.

Новая прыгода. Супрацоўнік аддзела прапаганды ЦК З. выклікаў да сябе Валодзю Марука, які працуе ў газеце “Звязда,” і катэгарычна патрабваў заўтра ж прынесці рэпліку на публікацыю вершаў у “ЛіМе” Валянціны Коўтун паўгадовай даўнасці за тое, што там часта сустракаюцца словы “крыж”, “свечка” і г. д. Адным словам – царкоўшчына, папоўшчына і суцэльнае цемрашальства. Марук пісаць пра гэта адмовіўся, прыйшоў і расказаў мне. У той жа дзень З. выклікаў і мяне да сябе. Паказаў выразку з газеты, пакрэсленую чорнай ручкай.

Запатрабаваў тлумачальную, якую я прынёс яму назаўтра. Напісаў, што словы ўжываюцца не ў культавым сэнсе, што вершы лірычныя самі па сабе, інтымныя, і ніякага там цемрашальства няма. Шкода, што панёс сам, трэба было паслаць па пошце. У гаворцы З. глыбокасэнсоўна намякнуў, што не можа сказаць, адкуль усё ідзе. Я і так ведаю, што ў першую чаргу ад яго шэфа Савелія Паўлава, калі і не ад самога З. Тым не меней той ж З. зноў выклікаў Марука да сябе і пагражаў выключэннем з партыі, што выганяць з работы і выкінуць назад у "раёнку", бо ён не меў права расказваць пра гэты "наезд" Сяргею Законнікаву. Марук агрызнуўся: а чаму З. не заўважыў аналагічныя вершы Коўтун у часопісе "Беларусь", якія былі надрукаваны адразу ж за артыкулам самога З.?...

Урэшце ўся гэтая тузаніна з публікацыяй у "Звяздзе" была спынена А.Т. Кузьміным, які палічыў непатрэбным мецць лішнія згрызоты з творчай інтэлігенцыяй.

Пасля гэтага Савелій Паўлаў пазваніў Сяргею Законнікаву: калі яшчэ раз станеш на маёй дарозе, я табе хрыбет зламлю, не такім ламалі, крывёю будзеш харкаць.

Пазаўчора выклік у ЦК да Івана Іванавіча Антановіча. Па даручэнні Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна вёў гаворку пра тое, каб лішне не лез, не нарываўся на пытанні помнікаў, мовы, некаторых пытанняў гісторыі і г. д.

Гаворка спакойная, без наездаў, у пажадальным плане, без канкрэтных спасылак і зачэпак. Хаця зачэпка вядомая: артыкул Дзянісава і Пазняка "Выбух" пра лёс будынка, дзе ўпершыню была пастаўленая "Сялянка". Артыкул атрымаў рэзананс.

А перад гэтым званіў намеснік Паўлава Гаўрыіл Міхайлавіч Конанаў. Сказаць і намесніку, і супрацоўнікам, каб пазбягалі друкавання Дубаўца, Вячоркі... Сказаў, што "ёсць думка зачыніць друк для маладых нацыяналістаў."

З панядзелка захаладала, хаця яшчэ сама жнівень. Паўночна-заходні вецер, неба ў хмарах. Непрыемныя халодныя дажджы, якія сіноптыкі называюць кароткачасовымі. Жаўцізна на бярозах, на ліпах. Гэта не ад восені, ад сухаты.

Бяруць лён. Авёс гатовы. Канюшына даспявае на насенне. Ажно не верыцца, што нейкі тыдзень назад было Палессе. Добрых дзесяць дзён гарачыні нават у цяні. Белы пясочак на беразе Случы перад упадзеннем яе ў Прыпяць, падмыты паводкам дуб у вадзе, раскошная дуброва. Быў з малым Алёшкам. Летняя раскоша, рыбалка. Хаця тут, у Віці Казьковай Вільчы, Случ не на многа шырэйшая, чым памятаю яе дзіцем у Слуцку. Там, у Вільчы, не адчуваў бяссоння, а вярнуўся дадому і зноў пачынаю трызніць, а не спаць.

У другой палавіне ночы пайшоў дождж, густы, спорны. Ляжаў і слухаў дождж. Жнівень. Восень. Туман. Іржышча. Мая пара. Не стае душэўнай раўнавагі.

Звечара чытаў дзявяты том Мележа. Ужо вядомае мне ў асноўным. У дзённіках ніякай дробязнасці. Балючыя думкі за літаратуру, культуру. Бачыў і адчуваў, як хвароба мяшчанства раз'ядае людскія душы.

Горка ўяўляю, што і ў асабістым жыцці ён быў адзінокі. Недзе ў глыбіні душы адчуваў і разумеў патрэбнасць робленай ім работы, што ніхто не збярэ і не выдасць яго "Жыццёвыя клопаты" без яго. А "разумныя" асуджалі, што падчышчае астаткі пісанага, выдаўцы чынілі перашкоды і "ўразалі", а развязка была ўжо зусім блізка... Ад Мележа думкі перакідваюцца на Караткевіча...

Пераглядаў "Былое і думы" Герцэна, якога высока цаню як пісьменніка. Усё ж ён быў рэвалюцыянер ад забяспечанага жыцця. "Деньги – независимость,

сила, оружие. А оружие никто не бросает во время войны, хотя бы оно было и неприятельское, даже ржавое. Рабство нищеты страшно, я изучил его во всех видах, живя годы с людьми, которые спаслись в чем были от политических кораблекрушений. Поэтому я считал справедливым и необходимым принять все меры, чтобы вырвать что можно из медвежьих лап русского правительства».

Пазаўчора мароз ад трыццаці за ноч скінуўся да плюсавой тэмпературы, пайшоў такі густы снег, як фіранку з марлі павесілі.

Учора нарада ў Кузьміна. Ініцыятар Паўлаў. Сутнасць яго выступлення ў тым, што рэдактарам трэба быць уважлівымі, каб крытыка не пераходзіла межы і не давала падстаў каментатарам радыёстанцыі «Свабода». А калі каменціруюць, то гэта ўжо мінус у рабоце рэдакцый, не хапае пільнасці і чуцця. І яшчэ – барані Божа мусіраваць тэму, што беларускае лепшае за рускае, ці тым больш падымаць на шчыт старажытнасць Беларусі і яе перавагі над Масковіяй.

У Паўлава хвора, неяк аж расшырана блішчаць вочы.

Перад выхаднымі званок з ЦК таго ж З.: вось вы далі інфармацыю пра вечар эсперантыстаў, яны там свой гімн спявалі, а гімн у нас адзін, а кіраўнік іхні сіяніст замаскаваны. Аказваецца, у доме культуры будтрэста беларускае таварыства эсперантыстаў, якое афіцыйна існуе пры палацы Белсаўпрофа, правяло ўрачысты вечар да юбілею стварэння эсперанта. Яны маюць свой ВІА, на мове эсперанта і свой гімн саспявалі. Аўрал, крамола. Ну, няхай жывуць гэтыя эсперантысты, ды не думаю, што іх і разганяць будуць. А вось жа начальнікі ад друку «бдзяць», вышукваюць. І рэдактару «Вячоркі» перапала...

Сяджу ў Каралішчавічах, зімна, снежна, бязлюдна. Тут Авер'ян Сафронавіч Дзеружынскі, які называе сябе «князем Каралішчавіцкім», бо сядзіць ужо тут амаль паўгода. Стары Мікола Улашчык прыехаў з Масквы, піша кнігу пра сваю родную вёску, яшчэ ёсць Люба Турбіна з сястрой. Вось і ўвесь кантынгент. Ці не апошні гэта каралішчавіцкі сезон? Няма лыжні, няма і лыжаў. Ходзім на прагулкі з Улашчыкам, Мікалай Мікалаевіч расказвае ўспаміны, а я слухаю.

Канцылярыя ўніверсітэта і кабінет Пічэты знаходзіліся ў доме насупраць цяперашняй гасцініцы «Мінск». Прыйшлі да яго групай здаваць залік. Першай здавала дзяўчына, і ў адказ на першае пытанне пачала несці такое глупства, што і самі студэнты здзівіліся. Пічэта слухаў, угнуўшы галаву, потым падхапіўся на ногі, затупаў:

– Як вы смееце з такімі ведамі ісці да мяне, да рэктара?

І тупае нагамі:

– Ідзіце вон!

У дзяўчыны з перапалоху анямелі ногі, потым неяк выграблася з кабінета.

А Пічэта шморгае сябе за гальштук. Студэнты ведалі, што гэта найвышэйшая ступень яго раззлаванасці, хацелі падацца следам.

– Не, сядайце.

Пасадзіў і прыняў залік.

Яшчэ ўспамін пра невядомага мне акадэміка Сямёна Вальфсона. Ён будучы прафесарам працаваў у БДУ, потым у наркамаце асветы. З-за невялікага росту яго завочна звалі Сёмачкам. Прынцыпова не гаварыў ні слова па-беларуску.

Да яго на прыём прабіўся настаўнік са Строчыцаў. Граміла, твар губаты, бандыцкі. Маленькі Сёмачка за сталом. Настаўнік тлумачыць: сшыткаў няма, падручнікаў няма, алоўкаў няма. Сёмачка – няма і не будзе. Настаўнік падняўся, за ножку крэсла і аб сцяну. Сёмачка пад стол. Крэсла рассыпалася на кавалкі. Сёмачка вылез з-пад стала:

– Ну что вы такой нервный? Мы с вами можем договориться.

Настаўнік атрымаў запіску і потым усё патрэбнае на складзе. У трыццатыя гады Сёмачка пачаў пісаць «куды трэба», пайшоў у Акадэміі навук угору па службовай лесвіцы, стаў і акадэмікам.

Калі пачалася вайна з усім назбіраным дабром вырашыў падацца ў эвакуацыю самастойна. Наняў фурманку, напакаваў яе куфэркамі і разам з жонкаю рушыў у дарогу. Дзесьці за Смалявічамі з’ехаў у лясок пераначаваць. І адтуль больш не выехаў, і ніхто яго больш не бачыў. Відаць, кінулася некаму ў вочы дабротна напакаваная фурманка.

Авер’ян Сафронавіч на адной з пустуючых верандаў у доміку прытупвае нагамі, спявае свае новыя песні, і ў пустой верандзе яго голас як усярэдзіне звона, добра чуваць яму самому і цешыць яго.

Над лесавою дарогаю ад вялікага снегу амаль да долу нахілены вяршынямі маладыя бярозкі, ідзеш, як скрозь тунэль. Гэтыя дрэвы не разагнуцца болей. Верхнія галіны пачнуць цягнуцца ўгору, кожная маючы сябе за дрэва, і сваім цяжарам абарвуць карэнне і пакладуць ствалы на зямлю, і прападзе гэты гаёк без свайго карэння.

Падумалася і пра нас саміх, якія пішам і мкнем у неба вечнасці, і ў класікі, амаль не маючы карэння.

Пазаўчора сустрэў на вуліцы Заіра Азгура. Стаяў, глядзеў на сваю новую майстэрню. Павёў паказваць. Яшчэ толькі пераязджае, не ўсё перавезена і расстаўлена. Цяжка хадзіць, прыселі на лаўку ў пакойчыку. Гаворыць:

– От каб узяў і ўстаў Кузьма Чорны, ці паверыў бы, што я гэта нарабіў, той маленькі жыдок з Сорак. Да чаго дажыта!

За ўсёй мітуснёй з пераездам палёгка, упэўненасць, што напіша завяшчанне і падорыць усё гораду. Няхай людзі ходзяць, глядзяць.

– Няфёд яшчэ гадоў пяць таму, быццам жартам, але ўсюды гаварыў, што я галоўны беларускі рабін.

Пра гэта спакойна і сумна.

Зноў чарговы тарарам. На першай паласе далі здымак скульптуры Шатэрніка «Векапомнае»: жанчына-славянка з мячом, які апушчаны ўніз вастрыём, глядзіць у далячынь. На ручцы мяча белая галубка.

Намесніца загадчыка культуры Паўла Пятроўна Украінец на Міколу Гіля ажно нагамі тупала: «Навошта на першую паласу далі гэтую Рагнеду!» Аказваецца, скульптура спачатку называлася «Рагнеда», яе мастакі нават хацелі паставіць у Заслаўі. Вядома ж, ім гэтага не дазволілі. Цяпер са змененай назвай скульптура трапіла на выстаўку «Мы будуем камунізм».

Званілі яшчэ і чыноўнікі з міністэрства, і з таго ж аддзела культуры ЦК.

У іх цяпер ужо ад перапалоху за свае пасады імя Рагнеды гучыць як лаянка.

Марозік ноччу пад пятнаццаць. Удзень сонечна, марозік лёгкі. Сонца нават прыгравае ў зацішку. Вечаровае неба чыстае, зялёнае, а ноччу густое і зорнае. Лёгка можна чытаць сузор’і, якія я ўжо пачынаю забываць. Каб памятаць сузор’і, на неба трэба глядзець пастаянна.

Учора ў ашчаднай касе сустрэў жонку Кулакоўскага. Пераафармляла на сябе ўклад. Даверанасць падпісана галоўурачом, напісана рукой лечачага доктара.

На выхадзе спытаўся ў яе, як Аляксей Мікалаевіч. Адказала горка і коратка – інсульт.

А за тыдні два бачыў яго. Стаяў у скверыку перад домам. Вечарэла, сонца і марозік, вада на ноч пачала падмярзаць на тратуары. Пагаварылі пра рэцэнзію на яго, якую Шамякін усё не можа напісаць. Дапамог перайсці яму цераз лядок да сухога тратуара. Саромеўся дапамогі, але не адмовіўся. Падтрымка яму была патрэбна. Пакуль гаварылі ўжо на тратуары, спрабаваў адзець пальчатку на руку – і не мог. Правая рука ўжо тады валодала дрэнна. Зноў жа з сарамлівай пакорлівасцю згадзіўся, каб адзеў пальчатку на руку. Каб правёў дадому, адмовіўся, сам дойдзе, пастаяць яшчэ на паветры хочацца. А адвячорак быў малады, вясновы, нават святочны.

Чамусьці тады згадаў, як Іван Пятровіч Шамякін расказваў, што чытачы востра ўспрымалі вобраз Бародкі з яго рамана «Крыніцы». Вобраз гэты адышоў у нябыт хуткім часам, як і сам той раман. На «Дабрасельцаў» Кулакоўскага рэагавалі па-іншаму: з рэдактарскай пасады знялі, кнігай выдаваць аповесць забаранілі, пісьменніцкі хрыбетнік чалавеку зламалі...

Прайшоў пісьменніцкі з’езд з неспадзяваным вынікам для мяне. На другі дзень, калі я збіраўся пасля галасавання пад’ехаць у рэдакцыю падпісаць да друку палосы, у пакойчыку для прэзідыума затрымаў Кузьмін. Прыселі да невялікага століка, закурылі.

– Жук, пойдешь секретарем союза.

– Аляксандр Трыфанавіч, у мяне і свае каламуты хапае, – толькі і знайшоўся адказаць.

– Ну, тут пожиже будет, да и не совсем твоя.

У пакойчыку недарэчы з’явілася Паўла Пятроўна Украінец. Кузьмін устаў, патушыў цыгарэту.

– Ну, так как?

– Калі на пленуме будзе названа мая кандыдатура, у хамут біць не стану.

А я то ведаў, што перад гэтым гаворка папярэдняя ў ЦК была з некалькімі чалавекамі, болей таго, пагаворвалі што некаторым з іх пасада нават была і паабяцана і яны чакаюць яе. Добра, што хоць мяне ні на якія гутаркі не цягалі, і я свабодна нават і ў гэты дзень з сябрамі пацягваў шампанскае, мог і мацнейшае, але непадпісаная газета не дазваляла.

Арганізацыйны пленум Саюза вёў А.Т. Кузьмін. І кандыдатура мая была названа і пленумам зацверджана.

Ужо ў новым статусе трэба было вячэраць з пасланцамі на з’езд ад кіраўніцтва СП СССР. Потым праводзіць іх да цягніка.

З нейкай палёгкай думаецца, што не трэба будзе хадзіць у тыя знаёмыя калідоры, у той кабінет, пісаць тлумачальныя наконт «нацыяналізму»...

Скончыўся нейкі адрэзак у маім жыцці.

Сонечнае маладое лета. І непрыемнае адчуванне, што ўсё навокал атручана. На старонках усесаюзнай прэсы найперш ці ў Маскве не трапляе ў страву радыяцыя. Тэма раскручваецца на поўным сур’ёзе. Пра засыпаную радыяцыяй Беларусь ні слова. Напісалі ж з радасцю, што, слава Богу, вецер тады дзьмуў не на Маскву, а на Беларусь. І чаго хвалююцца? На крамлёўскія сталы радыяцыя не трапіць. Там посуд мыюць нават не хіміяй, а гарчычным парашком.

У Маскве памерла Канстанцыя Буйло. Легенда беларускай літаратуры, чалавек яшчэ з дзевятнаццатага стагоддзя. І няма каму з нашых тытулаваных у паэзіі паехаць і сказаць слова над магілай. Знайшлася добрая і адкрытая душа

– Мікола Федзюковіч. Ён не забыўся, што жывучы ў Маскве, заходзіў да яе, і яна яго прывячала.

На прэзідыуме Васіль Вітка палымяна агітуе ехаць пісьменнікам у забруджаныя раёны, у арганізацыйным парадку. Пакуль нехта не ткнуў: давайце, едзьце, пакажыце прыклад. Замоўк на паўслове: пра такі варыянт не думаў.

На сакратарыяце паўдня слухалі Бюро прапаганды. Вакол яго склаўся стабільны актыў у пераважнай большасці з тых, хто мала і дрэнна піша, але нястомна выступае перад чытачамі. У іх за многія гады цэлы спіс «асвоеных» арганізацый па ўсёй рэспубліцы, а вось з «неасвоеных» прыходзяць абуральныя пісьмы за халтуру выступленняў. Чаму так любяць Бюро прапаганды? Праз яго ў месяц пракручваецца дзесьці 200 тысяч...

Раніцай вярнуўся з Масквы са з'езда пісьменнікаў СССР. З'езд арганізавалі з размахам. У Вялікай Крамлёўскай зале. Перад з'ездам правялі пленум, а потым арганізавалі паседжанне партгрупы. Выступалі ў асноўным масквічы, зводзілі нейкія не ўсім нам нацыяналам зразумелыя рахункі. Яўген Яўтушэнка нешта шукаў у барадзе крытыка Фелікса Кузняцова, той у сваю чаргу літаральна спіхаў з трыбуны Юліяна Сямёнава за тое, што той зняць Міхалкова. З усяго гэтага дасціпна і тонка панасміхаўся Віктар Розаў.

На з'ездзе праз хвілін пятнаццаць пасля пачатага даклада з-за трыбуны вывелі самлелага Георгія Маркава, даклад старшыні дачытваў да канца Уладзімір Карпаў. Заапладзіравалі, сагналі з трыбуны і Чакоўскага, і Танка, і Грыбачова – за пустапарожнасць. Хораша і мужна выступіў Барыс Алейнік у абарону мовы. Яму апладзіравалі...

А назаўтра ў «Праўдзе» пры кароткай інфармацыі са з'езда – здымак, у цэнтры якога і Маркаў, і ўсе тыя, каго заапладзіравалі. І ў выніку галасавання Маркаву накідалі галасоў «супраць», але ён застаўся старшынём, Карпаў першым сакратаром, і ў цэлым стары баявы надзейны касцяк застаўся кіраваць Саюзам. Брыля не аказалася ў членах праўлення. Не могуць даравацць таго выпаду ў «Нёмане» супраць Чакоўскага?

Увогуле з'езд пампезны. Цікава было глядзець, як вартавыя пры Спаскіх варотах праводзілі позіркамі нязвыклы для іх кантынгент, які раніцай пасля начных сяброўскіх пасядзелак праходзіў у Крэмль. На паседжанні ішлі, таму што стаіць велізарная спякота, а ў зале працуюць кандыцыянеры, а вось буфета няма. У гонар заканчэння ўрадавы прыём у Крамлёўскім палацы з'ездаў, абсалютна алкагольны.

З прыемнага са з'езда – была магчымасць пахадзіць па Крамлі, пабыць у той жа Георгіеўскай зале. Генадзь Бураўкін пазнаёміў з Віктарам Астаф'евым. Ён чытаў маю аповесць у «Дружбе народаў», і яна яму спадабалася. Запрашаў прыехаць да яго пагасціць, паглядзець ягоны край.

Хораша вячэрамі ў нумары Бураўкіна з Нілам Гілевічам, Віктарам Казько.

Астаф'еў на здзіўленне ўсіх нас саспяваў беларускую песню, якую беларусы прывезлі ў Сібір. Вялікі фальклярыст Ніл Сымонавіч прызнаўся, што чуе гэту песню ўпершыню... Назаўтра раніцай Віктар Пятровіч павінен быў ісці на прыём да Гарбачова. Такое ж папярэдняе запрашэнне меў і Васіль Быкаў, але Гарбачоў яго так і не прыняў, хутчэй за ўсё з-за таго, што Быкаў на пару з Адамовічам і так «дасталі» яго на сесіях Вярхоўнага Савета з-за Чарнобыля.

У шостым нумары «Маладосці» толькі зараз прачытаў мудры верш Ніны Мацяш «Засцярога». З горыччу падумаў – як наша крытыка не ўмее падхапіць

такое золата і вынесці, данесці да чытача, бо народ не можа зрабіць гэта сам ад непавагі да сваёй мовы.

Другі дзень ідзе даўно патрэбны дождж пад бульбу, якая пачынае зацвітаць. Ячмень засвятлеў вусам, а знізу яшчэ і зялёнае праглядае. На пагорках ён бедны, амаль зусім спелы. Жытнёвае поле адно амаль усё жоўтае, а другое зялёнае яшчэ. І адно, і другое патапталі дажджы і вятры, быццам хмары пакачаліся з боку на бок па палетках. Пшаніца на пагорках абазначылася амаль спелым зернем, у лагах зялёная яшчэ. Наогул, палі, калі зірнуць на іх зверху, падобныя на акварэлі з няўлоўнымі пераходамі колераў і адценняў, якія мяняюцца пры самым лёгкім павеве ветру. Хутка яны будуць гатовы легчы пад жаткі камбайнаў, ад іх застанецца толькі іржышча, а потым і асенняе ворыва. Даспявае лета.

Пяцідзесяцігадовы юбілейны вечар Бураўкіна ў Віцебску, поўная зала людзей, удзячная, уважлівая. Добрае неказённае слова сакратара Расонскага райкама. Святочна і нават крыху пышна. Потым вячэра ў рэстаране, музыка, песні. Барадулін развесяліўся, станцаваў польку з артысткамі, а потым і «Лявоніху»...

Назаўтра зранку дарога на Мінск. Туман за самыя Бешанковічы, спыніліся ў лесе, на беразе азерца. Быкаў маўклівы і задумёны, амаль не прымаў удзелу ў снеданні, абмежаваўся толькі франтавой чарачкай, карміў з рук паляўнічага сабаку, які прыблукаў к нам. На памяць засталіся здымкі Уладзіміра Крука. А за Бярэзінскім запаведнікам выглянула сонца, і на лагойскіх пагорках такая залатая восень адкрылася! Уздых Васіля Уладзіміравіча, і ўслых ціха сказаныя самому сабе словы: «Осень, ты которая в жизни моей?». Само сабой вырвалася аднекуль з душы. Я сядзеў ціхенька, баючыся патрывожыць яго сумоту. Перад Мінскам заехалі ў «Партызанскі Бор» паснедаць. Там афіцыянткі пазналі Васіля Уладзіміравіча, частавалі нейкім сваім фірменным напіткам, зробленым на мёдзе і на травах. І Васіль Уладзіміравіч пакрысе павесялеў, пачаў расказваць пра гродненскія прыгоды Піліпа Пестрака, Аляксея Карпюка. Расказваў весела, добразычліва, ужо і на вуліцы, на прыдарожнай абочыне, пад цёплым восеньскім сонцам. Потым змоўк і нечакана сказаў, што ёсць адчуванне: быццам некага не хапае тут з намі. Прымоўклі, кожны падумаў пра сваё, я пра суседзяў па адным доме – Караткевіча і Семашкевіча... Потым нібы каб зглядзіць гэтую хвілінку, Васіль Уладзіміравіч пачаў расказваць, як ляцеў па гэтай дарозе праз Бараўляны на сваёй «Волзе», у якой сапсаваўся карбюратар, перагрэты матор не глохнуў і пры выключаным запальванні, тармазамі спыніць машыну не ўдавалася... Пры гэтым прызнаваўся, што кіроўца з яго наогул быў «ахавы», таму ўрэшце ён і адмовіўся ездзіць на машыне.

Званіў з навагоднімі віншаваннямі. На стале томік з вершамі Буніна. Разгарнуўся на такім блізкім мне, пра якое быў і забыўся.

> Ты странствуешь, ты любишь, ты счастлива...
> Где ты теперь? – Дивуешься волнам
> Зеленого Бискайского залива
> Меж белых платьев и панам.
>
> Кровь древняя в тебе течет недаром.
> Ты весела, свободна и проста...
> Блеск темных глаз, румяец под загаром,
> Худые милые уста...
> Скажи поклоны князю и княгине.
> Целую руку детскую твою
> За ту любовь, которую отныне
> Ни от кого я больше не таю.

Дыхнула гэтакай жа пранізлівасцю ўспрыняцця, як і ў тыя гады, і верш нават прагучаў голасам Рыгора Семашкевіча. А яму ўжо не пазвоніш, і болей разам не пачытаем вершы.

Сёння са мной сыгралі харошы спектакль. Пазваніў Валера Скварцоў і сказаў, што ёсць даручэнне схадзіць на ўрачыстасць да 50-годдзя філармоніі. У сем гадзін іду ў філармонію з адрасам і з кветкамі, сяджу ў прэзідыуме. Але мне ніхто і не збіраўся слова даваць і мае віншаванні слухаць. Выйшаў з прэзідыума пасля ўрачыстай часткі і не ведаў, куды тыя кветкі дзець і адрас. Пакінуў у фае на століку разам з іншымі адрасамі – не адзін я такі аказаўся.

І смех і грэх, і нават ніякай злосці за змарнаваны вечар.

Бондар збірае подпісы пад пісьмом у ЦК, дзе граміць кіраўніцтва Саюза за бяздзейнасць. Больш актуальнай тэмы няма, чым унутраныя разборкі. Ні з мовай няма, ні з выданнем кніг, ні з тыражамі часопісаў – ад чаго непасрэдна залежыць развіццё літаратуры.

У сувязі з гэтым згадваецца шляхта, якая сеймікавала і тады, калі ўжо нават не было чым голы зад прыкрыць. Але ў шляхты хоць шабелькі яшчэ заставаліся, а на нашых літаратурных сейміках давядзецца толькі бабскімі спадніцамі махаць. Хаця, калі ёсць «спадніцы», то да іх і прыспаднічнікі знойдуцца.

Пісаць для народа... А дзе той народ, і што напісаць для яго такое, каб змог схамянуцца, на сябе азірнуцца? Яго нават Чарнобыль не схамянуў. Насельніцтва, гусі дамашнія, якім хоць нешта, але ў карытца будзе насыпана. А з'явіся ў гэтай чарадзе дзікі, лятучы, самі заклююць і абскубуць, каб лётаць не мог.

На стале абвестка на партыйны сход. Першы пункт «Аб пераадоленні інертных з'яў у сучасным літаратурным працэсе» (Дакладчык доктар філалагічных навук П. Дзюбайла).

Гучыць як пародыя не толькі на сам партыйны сход, але і на ўсю аб'яўленую ў краіне перабудову.

Вецер. Мароз. Бясснежжа. Але, відаць, надвор'е будзе мяняцца, таму адчуваю сябе разбітым, стомленым. Учора зранку ездзіў запісвацца на тэлебачанні, потым да вечара сядзеў на рабоце. Пачаў крыху адыходзіць толькі цяпер, к гадзінам адзінаццаці вечара.

Учора пазваніла жонка Мележа наконт выдання збору твораў Івана Паўлавіча ў Маскве. Аказалася, што там ніхто нічога не плануе, нават і пра пісьмо з нашага Саюза аб выданні збору твораў у Маскве быццам чуюць упершыню.

Усё ж удалося высветліць, што рыхтуецца да выдання шасцітомнік Шамякіна. Наконт яго ніякіх пісем не пісалася. Нябожчык можа пачакаць і да наступнай пяцігодкі. Пазвоніць яшчэ раз Лідзія Якаўлеўна – што і як гаварыць ёй?

Гілевіча выклікалі «наверх». Вярнуўся і даў каманду назаўтра сабраць прэзідыум. На прэзідыум прыбыў загадчык аддзела культуры ЦК Яўген Канстанцінавіч Вайтовіч і Анатоль Іванавіч Бутэвіч. Кастусь Кірэенка патрабуе растлумачыць – з-за чаго гэты аўральны збор? Калі наконт заявы Віктара Казько аб яго вызваленні ад пасады сакратара – то гэта рабочае пытанне.

І кола закруцілася. Ці ёсць у ЦК пісьмо, якое арганізоўвала Таіса Бондар? Пісьмо ёсць. Патрабуюць зачытаць яго. Зачытваюць. Там паўстаронachкі машынапіснага тэкста з агульнымі абвінавачваннямі і чалавек пятнаццаць падпісантаў.

Я звярнуў увагу, што на пісьме няма штэмпеля агульнага аддзела ЦК, значыць, яно не зарэгістравана, а таму фількіна грамата.

Шамякін не адстае ад Ніла Сымонавіча: «Ніл, дык ты ж падаваў дзве заявы, каб цябе вызвалілі ад пасады. Дзе яны?»

– Ну няма іх больш, Іван Пятровіч. Паклікалі наверх і сказалі, што мне яшчэ трэба папрацаваць. І я працую.

– Дык як жа так, га? – шчыра вырвалася ў Івана Пятровіча.

І так валтузіліся некалькі гадзін, урэшце, вырашылі, што нечарговы пленум збіраць не патрэбна, а на чарговым абмеркаваць работу сакратарыята па выкананні рашэнняў пісьменніцкага з'езда. А тое пісьмо ў ЦК неяк само сабой выпала ў асадак. Адным словам – перабудова ў дзеянні.

Пахаванне Кастуся Кірэенкі ў Саюзе, у каміннай зале. Ён з твару чысты, не змучаны доўгай хваробай і цяжкай канчынай. Генадзь Бураўкін расказаў, што ён пазваніў на радыё, папрасіў запісацца без чаргі, тлумачыў, што ідзе ў бальніцу класціся, што можа не ўспець. Прыехаў, запісаўся і па дарозе са студыі ў машыне яго і не стала. Гавораць, што доктар не адпускала з кабінета, прымушала легчы. Не лёг. На пахаванні сына яго старэнькая маці.

На агульным сходзе вылучэнне кандыдатуры ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР ад нашага Саюза пісьменнікаў.

Брыль сваю кандыдатуру зняў адным сказам:

– Таварышы, хоць я і стары ўжо, але ж яшчэ не страціў адчування гумару.

Ехаў дадому і не мог надыхацца пахам жыта праз адчыненае акно машыны. Думаў, што пайду ў поле, надыхаюся і перастане балець у грудзях.

А ноччу навальніца, потым лівень, і назаўтра ўвесь дзень дождж. І ніякіх пахаў, толькі мокры пах дажджу, ды яшчэ і не па-летняму халоднага.

Учора пахаванне Міхала Дубянецкага. Пахмура, дожджык, журботна. Бел-чырвона-белыя сцягі, кветкі, жалобная музыка. Быкаў з сумам сказаў:

– Як нязменна: калі добры чалавек памірае – дождж і на зямлі панура.

І яшчэ словы Васіля Уладзіміравіча пра «што новага чуваць?»

– Нічога новага чуць не хочацца, бо калі новае, то зноў нейкая брыдота.

Скарынаўскі вечар у оперным тэатры. Многа месцаў пустуе, а на Саюз пісьменнікаў выдзелілі толькі 25 запрашэнняў. Мне білет «дастаў» Толя Жалязоўскі, і на прыём таксама. У новай гасцініцы «Беларусь» накрыты фуршэтныя сталы, шампіньёны ў соўсе на далікатэс. На пачатак гарэлкі пакрысе наліта ў кілішкі, а потым дзяўчына ходзіць з паўбутэлькаю пад фартушком і пакрысе падлівае жадаючым. Праўда, на «прэзідыумным» фуршэтным стале спіртное стаіць у бутэльках. Вечар жа праводзіцца на ўрадавым узроўні, прыём таксама.

Што датычыць нашага суверэнітэту і самапавагі. Мы пішам пісьмо старшыні Саўміна, тлумачым, што падтрымка нашых літаратурных перыядычных выданняў была б канкрэтным дзеяннем па ажыццяўленні культурнай, моўнай праграмы ў рэспубліцы.

У нашай цэнтральнай газеце за восьмае чысло, лічы, атрымалі адказ. Кіраўніцтва Вярхоўнага Савета краіны жаліцца, што ў дзяржавы грошай на культурную праграму, на праграму па беларускай мове няма, а таму на месцах трэба шукаць унутраныя рэсурсы і грошы пералічваць на рахунак таварыства мовы. Сёння гэта

гучыць як заява, што культурную, моўную праграму можна не выконваць, што гэта справа не дзяржаўная і не абавязковая, а аматарская, добраахвотная.

Сама залатая восень. Дарогаю з вёскі ў горад машыну разоў з пяць палівала дажджом. А за паласой дажджу пачыналася сонечная паласа, і дзікія грушкі у лесе збоч дарогі, здавалася, аж сцякалі долу барваю.

Учора вечарам у банкетнай зале гасцініцы «Беларусь» прэзентацыя кнігі «Тэхналогія бізнэсу» і адначасова прадстаўленне творча-вытворчага цэнтра «Паліфакт», пры якім дзейнічае і выдавецкая група «Прадпрымальнік». Нарадзілася ўсё гэта ў Маскве, дзейнасць разгортваецца і ў нас. Прыехалі прадстаўнікі расійскага Вярхоўнага Савета, вядомы публіцыст Генадзь Лісічкін і іншыя знакамітасці. З нашых прысутнічае С.С.Шушкевіч, невядомыя мне чыны з Вярхоўнага Савета і Саўміна.

Працуе тэлебачанне, кніжны кіёск з дэфіцытнымі дэтэктывамі. Потым прэс-канферэнцыя пад шампанскае. Жонкі чыноўнікаў у гэты час глядзяць паказ мод.

Потым шчодра накрытыя сталы, каньяк, гарэлка, шампанскае. Сыгралі напачатку паланэз Агінскага, потым загучалі амерыканскія блюзы. Пад іх працягваецца паказ жаночых строяў, чамусьці летніх, хоць зараз позняя восень. Падпітыя мужыкі круцяць шыі ўслед лёгка апранутым маладзенькім дзяўчатам. Потым пачынаюцца і танцы...

Арганізуе ўсё гэта і камандуе Яўген Будзінас. Ён у гэтым толк ведае, і калі ўжо запрасіў, – напоіць пад завязку. Час неабмежаваны, магчымасьці таксама. На ўсё ёсць згода, і надалей будзе, будзе і папера, і паліграфічныя магчымасці – гэта тыя друкарні, якім нявыгадна друкаваць нашы часопісы.

Мы пацiху сышлі з хлопцамі, калі баль сама разгараўся, таньчыць пайшлі ўсе на поўную выкладку. Нам заўтра трэба быць у рабочай форме. Часопісы стаяць.

У кніжным выдавецтве разлікі павінны рабіцца па новых стаўках, але не робяцца, бо ў пастанове не запісана, адкуль узяць грошы. А міністэрства і тых выдзеленых на беларускую кнігу не пералічвае, круціць імі. Так што ў суверэннай беларускай дзяржаве на правах беднае сіраты беларускасць.

Беларускія сродкі масавай інфармацыі. Калі ўзяць колькасць беларускіх выданняў на рускай мове, іх аб'ёмы, тыражы і мільённыя затраты на іх выданне ў суадносінах з беларускамоўнымі выданнямі, – кропля, якая пры дэмакратах стала меншая, чым была пры камуністах.

Поўня гэтага спякотнага жніўня ноччу затуманеная, зажураная, зажаўцелая. Хоць ты збярыся і ідзі ў поле гуляць пад ёй. Толькі поля тут няма. Раніцы харошыя, на лістах ягадніку дробненькія кропелькі расы. Трава сухая. Сёлета жнівень амаль без росаў. У дзевяць гадзін раніцы ўжо душна.

Панчанку сёння давезлі ў рэанімацыю ў стане комы. Анатоль Вярцінскі і Сяргей Законнікаў паўдня шукалі па горадзе лякарства для Пімена Емяльянавіча. Дало нейкае малое прадпрыемства, якое прадае яго толькі за валюту. Ахвяравалі народнаму паэту, і тое добра. А чыноўнікі з запасаў Лечкамісіі не ахвяравалі.

У пісьме (першым) беларускага народа вялікаму Сталіну былі персанальна адзначаны два дзеячы, якія выйшлі з недраў кампартыі Беларусі:

Яднаў Кагановіч у Гомелі сілы,
У Віцебску сілы згуртоўваў Яжоў.

Пасланне школьнікі павінны былі завучваць на памяць, пазней без прозвішча Яжова. А аўтары вершаванага пераказу пісьма беларускага народа былі адзначаны граматамі ЦВК і СНК БССР. Гэта Купала, Колас, Александровіч, Броўка, Глебка, Харык.

У рэанімацыі сучасная медсястрычка ці санітарка заявіла Пімену Емяльянавічу, што гэтакіх выжыўшых з розуму старых трэба трымаць не ў бальніцы, а ў доме для ненармальных. Гэта сказана чалавеку, якога толькі што вярнулі з таго свету на гэты, і пакуль што яшчэ трымаюць. Так што ці трэба быць паэтам, ды яшчэ і народным...

Доктар у рэанімацыі сказаў нам з Сяргеем Законнікавым: хлопцы, трэба, каб ваш сябра сам пачаў есці, а інакш уся работа была марная. Хоць хвост сялядца каб палізаў, чырвонага сухога віна ўзяў у рот, кроплю каньяку. Схадзілі ў магазін, купілі і сухога віна, і каньяку, і селядца. У гэты час да Пімена Емяльянавіча прыйшла жонка Зоя Кірылаўна. Адмаўляўся, не хацеў нічога браць у рот, а потым запатрабаваў, каб і мы з доктарам выпілі з ім. Доктар аднекваўся: на дзяжурстве, але вымушаны быў выпіваць. А Пімен Емяльянавіч прыкрыкнуў на Зою Кірылаўну: што ты даеш мне дэсертную лыжку, доктар сказаў – сталовую.

– Ну я табе дам дзве дэсертныя, чаго ты хвалюешся?

Хутка адчулі, што ён ужо стаміўся, і следам за доктарам пакінулі палату.

Пазаўчора адбылася сустрэча паноў Шушкевіча і Кебіча з беларускімі пісьменнікамі. Сустрэча адбывалася ў былым будынку ЦК, у зале паседжанняў бюро. Бюро ўжо няма і не ўвесь пісьменніцкі прэзідыум запрасілі. А толькі сакратароў, рэдактараў і некалькіх пісьменнікаў. Як і ў старыя часы пісьменнікі жаліліся на жабрачы стан літаратуры, мовы. Як і раней ім указвалі, што трэба рабіць (Яфрэм Сакалоў рэкамендаваў Васілю Быкаву лепш бычкоў гадаваць). Цяпер парэкамендавалі не лезці ў палітыку, а займацца сваімі справамі (ісці ў школы і дзеткам мову і літаратуру выкладаць, якую як прытоптвалі зверху, так і прытоптваюць). І яшчэ кіраўнічы сын пісьменніка наківаў пальцам: не думайце, што дзяржава будзе вас утрымліваць. Рынак ёсць рынак, мецэнатаў шукайце. А і сам не ведае, ці дажыве яшчэ да таго рынку і да таго часу, пакуль нацыянальныя міліянеры-мецэнаты нарастуць.

Затое ў заключэнне ўручылі Рыгору Барадуліну дыплом народнага паэта, а Івану Чыгрынаву медаль Скарыны. Усё ж праявілі клопат.

Мудрыя Купалавы радкі ў якія яшчэ гады напісаныя:

> Куды ні глянеш – людзі, людзі.
> Куды ні глянеш – шэльмы, шэльмы.
> Куды ні глянеш – б'юцца ў грудзі,
> А значыць: правільныя вельмі.

На сённяшні час – адзін да аднаго.

Трынаццатага, у дзень памяці Якуба Коласа збор на яго магіле. Людзей не меншае ў параўнанні з мінулымі гадамі, нават болей.

Нехта прыгадаў, што ў дзень памяці Купалы ў касцёле была адслужана служба, чаму б такое не зрабіць і зараз. Думку падтрымліваюць і тыя, хто некалькі гадоў назад, будучы пры ўладзе і пры пасадзе, ніколі б не дапусціў такога.

Даніла Канстанцінавіч на прапанову адказаў коратка і катэгарычна, што бацька ніколі не быў набожным чалавекам, і праз трыццаць сем гадоў пасля яго смерці ладзіць у даніну модзе малебны ён не будзе.

Зранку сонца, а потым туман, ціхі, асенні, грыбны. У лесе шэрыя радоўкі, роўненькія, чысценькія. Цэлае вядро. У вялікім і сапраўдным лесе павінны пайсці баравікі, хаця ў людзей у вядзерцах найболей бабкі і чырвонагаловікі.

Азірнуўся сам на сябе і жахнуўся: паспрабаваў прысесці і не змог. Адчуў, які я хворы ўвесь ад галавы да кончыкаў пальцаў на нагах. Быццам робат, які доўга быў на дажджах і ўвесь заіржавеў. Падумаў пра пакуты Пімена Емяльянавіча, у якога ўсё збалелае цела, а нутро яшчэ жыве. А што душа, адчуваючы ўсё гэта? Відаць, пакутуе, але хоча трымцець на гэтым свеце.

Вядомы савецкі публіцыст Анатоль Стрэляны на хвалях радыё «Свабода» выступае ў адной танальнасці са сваімі колішнімі артыкуламі на старонках «Правды» і «Известий». Тады ён мацаваў сацыялізм, цяпер успомніў, што ён украінец і раскручвае тэму галадамору на Украіне. Выступае на рускай хвалі “Свободы”.

Старыя прымаўкі добра пераіначваюцца і на сучасны лад. Што датычыць нашых кіраўнікоў, то старая прымаўка ў новай рэдакцыі можа гучаць і так: “Скажы, хто твой памочнік ці саветнік, і я скажу, які ты кіраўнік”. Па гэтай прыкмеце ў нас дзіўная рэч атрымліваецца: большасць і памочнікаў, і саветнікаў у нашых кіраўнікоў – былыя апаратчыкі кампартыі.

Чытаю мемуары пра сярэбраны век у рускай літаратуры і спрабую спасцігнуць, які магутны культурны ўклад жыцця быў, што потым абрынулі, і гэтулькі дзесяцігоддзяў разбуралі – і колькі спатрэбіцца, каб стварыць новы ўклад. А ў нас зараз толькі крыкі і абяцанні, як на плошчах у сямнаццатым і пасля яго.

Гэта напісана А.С. Пушкіным: «Зависеть от царя, зависеть от народа – не все ли нам равно? Отчета не давать...»

Бог болей не жыве на Беларусі, на Беларусі жывуць Яфрэмы са сваімі свінакомплексамі і ўсімі сваімі свінымі рыламі. А свінням і свінячы лёс, і свінячая доля, і хлеў замест вольнага поля.

Падкінуліся маразы. Прагноз у газетах на бліжэйшыя дні, а дакладней, ночы – да мінус трыццаці і нават болей. Шкадую, што не магу паехаць у вёску.

Наконт нашых плачаў, што ў нас няма сапраўднай літаратурнай крытыкі, што ўзровень яе даволі нізкі. «Состояние критики само по себе показывает степень образованности всей литературы». Гэтак думаў Пушкін і хутчэй за ўсё не памыляўся.

Чытаю, ці, дакладней, перачытваю, дзённікі Міхаіла Прышвіна. Абсалютнае бачанне і разуменне хто і што ёсць Сталін, і што можа быць наперадзе. А ў дзённікі запісваў і старанна хаваў іх. Можа, гэтае разуменне і дало магчымасць выжыць і не апынуцца ў той страшнай малатарні. А звяртаўся ж да Троцкага з просьбай дапамагчы ў друкаванні «Мирской чаши». І атрымаў заключэнне, у якім аповесць прама была названа контррэвалюцыйнай. Відаць, у час уцёк у лес і пачаў «пісаць пра сабачак», як потым сказаў той жа Сталін.

Яшчэ з дзённікаў Прышвіна. «Уметь жить – это значит так сделать, чтобы ко всем людям без исключения стоять лицом, а не задом.

Уметь умереть – это значит сохранить лицо свое перед Господом. Лицо свое удержать как лицо в последнее мгновение жизни.»

І яшчэ запіс. «Тагор в Москве! Вот приехал из Индии смотреть, а я не хочу из Сергиева ехать в Москву. Тут много личного. Тагор богатый, я нищий. У него народ, в который он верит, у него школа. У меня народ как бы исчезающий...»

З аўторка да пятніцы ў вёсцы. Было і марозіку крыху, і крыху адлігі, а звечара нават і намяло было, напытлявала крыху мякенькага снегу. А назаўтра і чыста, і сонечна, прыгрэў, якога хапіла, каб закапала са стрэх, якіх цяпер ужо няма, а толькі дахі.

На ўсю вёску толькі чатыры вучні, і тыя з аднае сям'і. За цэлы дзень можна не ўгледзець на вуліцы чалавека, калі няма патрэбы выходзіць з двара.

Прыход у рэдакцыю Быкава. Прынёс апавяданне. Зроблена дабротна, выпісана. І выбар тэмы выдатны. Ноч, машына крытая, ці не з надпісам на баку «Хлеб». Дарога ў Курапаты, да жоўтага пясочку. Добрая назва «Жоўты пясочак». Сярод тых, каго вязуць расстрэльваць, ёсць усе – і былы буржуй, і паэт, і камуніст, і селянін, і чэкіст, і рабаўнік. Першы нумар будзе чым пачаць. І навіна прыемная: шэсць з паловай тысяч падпіска, болей, чым у папярэднім квартале.

Пазаўчора паездка ў Цімкавічы на адкрыццё літаратурнага музея Кузьмы Чорнага. Праз пяцьдзясят гадоў пасля яго смерці «ўзнагарода знайшла героя» – музей стаў дзяржаўным. Дасюль існаваў пры школе, настаўнікі хадзілі на станцыю вагоны разгружаць, каб пабудаваць будынак. Раманенка Зінаіда Іосіфаўна, ініцыятар стварэння музея, прыехала таксама. Старэнькая ўжо, у старэнькім вынашаным паліто. І пастарэўшая, але даволі рухавая і жвавая дачка Чорнага Рагнеда Мікалаеўна. Звадзіла нас на магілы бацькоў Чорнага.

Парадавала арганізацыя і адносіны да адкрыцця і саміх музейных работнікаў, і мясцовых улад. Скрыган Лена Мікалаеўна, апошні першы сакратар Капыльскага райкама прыехала таксама. І вячэра ў старыцкім рэстаране на беразе возера, гасцінная, без лішняй выпіўкі. І прыемная начная дарога да Мінска ў лёгенькім тумане. Чамусьці люблю начныя дарогі, пустэльнасць на іх, утульнасць у цяпле машыны.

Апошнія вершы Вялюгіна ў «Полымі», па-майстэрску чаканныя, простыя і мудрыя, і быццам здзіўленне, што вось такое магло здарыцца з ім: хвароба, якая вядзе за сабой смерць. А вершы надзіва – як сляза чыстыя, горкія і такія патрэбныя.

Заходзіў у рэдакцыю Васіль Уладзіміравіч Быкаў. Сказаў проста, што хвароба ў мяне відна на твары. Успомніў сваё, перасцярог наконт цыгарэты, чаркі і яшчэ ад лішніх хваляванняў, параіў не рабіць рэзкіх рыўкоў да адыходзячага аўтобуса. Згадаў Адамовіча, яго ўзрушэнне ў тым маскоўскім судзе, што каб не яно, то жыў бы яшчэ Алесь Міхайлавіч. Ён шкадуе яго. Яшчэ сумна гаварыў, што з нашым народам нічога нельга змяніць у грамадскім жыцці. Ён будзе слухацца тых, хто стаіць пры ўладзе, а вяршыць лёсы будуць тыя, хто стаіць за гэтай уладай. Добрае і сумнае ўражанне сённяшняга дня.

На Беларусі наўрад ці дзе на вясковых могілках знойдзеш надпісы па-беларуску. Па гэтым можна меркаваць, што Беларусь даўно ўжо пахавала сябе як нацыю. На амерыканскай зямлі надпісы на магілах беларусаў па-беларуску...

У «Звяздзе» пісьмо Шамякіна да прэзідэнта з клопатам пра лёс беларускай мовы і літаратуры. Сумна ад гэтага пісьма і яшчэ больш ад таго, што толькі адзін Іван Пятровіч уголас абазваўся пра лёс мовы і пісьменніцтва, нават і сам Саюз пісьменнікаў прамаўчаў...

Раніца, баляць суставы так, што і на ногі станавіцца не хочацца. Адгарнуў Блока і ў «Возмездии» наткнуўся на радкі:

Не также ль и тебя, Варшава,
Столица гордых поляков,
Дремать принудила орава
Военных русских пошляков.

Калі Варшаву прымусіла драмаць, то Беларусь у свой час проста растаптала.

Учора да абеду Вярхоўны Савет за нейкіх пяць хвілін праштампаваў рашэнне аб працягу паўнамоцтваў Цэнтрвыбаркама да выбрання дэпутатаў усіх узроўняў, а другім пунктам прыняў пастанову, што выкананне абавязкаў старшыні ўскладваецца на намесніка, гэта значыць на мяне. Ніколі і прысніцца не магло, што к пяцідзесяці гадам мяне ўвяжуць у палітычныя гульні. Супрацьстаянне В.С. і прэзідэнта я назіраю і ведаю, што ў бліжэйшы час ніякіх выбараў адбывацца не будзе.

Світанне, а дакладней досвітак, ранні, а сонца да нас з-за лесу засвяціла толькі пасля шасці гадзін. Дразды пачалі раскашаваць яшчэ да сонца, іх сёлета цэлая плойма, і, без сумнення, ягады яны сёлета «дагледзяць» дашчэнту. Чалавека яны не баяцца.

Спадабалася чытаць публіцыстыку Генрыха Бёля больш, чым яго прозу.

«Слова действительны, это мы узнали на собственной шкуре, слова могут подготовить войну, могут спровоцировать ее, но не всегда слова могут восстановить мир. Слово, предоставленное бессовестному демагогу, чистейшему тактику, оппортунисту, может стать смертельным приговором для миллионов людей; машина, формирующая общественное мнение, может стрелять словами, как пулемет пулями: четыреста, шестьсот, восемьсот в минуту; любая, слишком четко классифицированная группа сограждан может быть словом обречена гибели.»

Учора, васямнаццатага кастрычніка дзевяноста шостага года на імя Шарэцкага С.Г. адвёз на сесію Вярхоўнага Савета заяву, што з сённяшняга дня спыняю выкананне абавязкаў намесніка старшыні Цэнтрвыбаркама і выходжу з яго складу. Сеў у машыну і з палёгкай паехаў у вёску. Згодна заканадаўству адстаўку не могуць не прыняць.

За ноч вырашыла зрабіцца зіма. Раніцаю пяць градусаў марозу, зямля злёгку зацярушана сняжком. Пасля абеду пайшоў большы снег, вецер халодны, вільготны.

У апошнія дні адбыўся прэзідыум, дзе мяне рэкамендавалі на пасаду галоўнага рэдактара «Нёмана», адбылася гутарка з міністрам Бельскім, дзе я паставіў свой подпіс на кантракце, на якім яшчэ ні даты не былі прастаўлены, ні подпісу самога міністра не было...

Мароз і халады не адпадаюць, і ніяк не закончыцца гэты пракляты высакосны год...

Учора званок Дранько-Майсюка. Просьба адказаць на тры пытанні: якімі галоўнымі падзеямі пазначана мінулае тысячагоддзе, дваццатае стагоддзе і чым засведчыць сябе ў гісторыі чалавецтва першае стагоддзе новага тысячагоддзя. Трэба ж і сапраўды быць вясёлым чалавекам, каб у сённяшняй неразбярысе і жыццёвым бедламе думаць пра такое. Адкажу так: заслуга прамінулага тысячагоддзя ў тым, што прыйшло да чалавецтва ў друкаваным выглядзе яго вялікасць Слова ў выглядзе Кнігі, прыемна, што да гэтага дачыніўся беларус Скарына. Дваццататае стагоддзе застанецца адметным таму, што чалавецтва пераступіла парог у Космас. Наступнае стагоддзе адзначыцца шэсцем па планеце панамерыканізму, і небезпаспяховым.

Міністэрскае чынавенства па-свойму паклапацілася пра наш уваход у новую эру: абяцала выдзеліць на часопіс мільярд, а выдзеліла 350 мільёнаў, і тыя дойдуць да нас пасля Новага года. Радуйцеся, святкуйце. Часопіс стаіць, яго не хочуць друкаваць у пазыку.

На ноч, прапусціўшы грунтоўны ўступны артыкул Аверынцава, чытаў вершы Мандэльштама.

Век мой, зверь мой, кто сумеет
Заглянуть в твои зрачки
И своею кровью склеит
Двух столетий позвонки?

Як нельга пісьменніку бегчы ў жыцці. Ён робіцца тады нейкім зашораным, свету божага не бачыць. Два дні пабыў на бальнічным, няспешна ішоў у паліклініку і з радасцю ўгледзеў на дымчатай цяньшаньскай ялінцы і пад ёю, дзе і сняжку зусім мала, чародку звычайных вераб'ёў. Пры гэтай перадзімовай беднасці яны, нашатыраныя ад холаду, а таму быццам і вялікія, шэрыя, з карычневым пер'ем на крыльцах, глядзяцца, як зімовыя кветкі.

Кастусь Цвірка



...Мае кнігі, — гэта я.
Зрэшты, як я — і мой сад-агарод,
мая сядзіба, наша наваколле. Дый уся Беларусь,
увесь свет, уся светабудова...

# Дні мае, падарункі

***Вясковы дзённік, 2010***

* * *

На Дзядзюлевым дварэ новы гаспадар сядзібы мінчанін Яўген (як жа яго прозвішча?) косіць траву, якая ўжо тут па калена — так запусціў падворак. Ды каса ў яго руках толькі скача па гэтай траве, клычыць яе. Выйшаўшы на свой ранішні «прамінаж» і ўбачыўшы такую «касьбу», я заходжу ў яго двор і, павітаўшыся, бяру з рук гаспадара касу.

— Ды яна ж тупая, — кажу, паспрабаваўшы касіць. — Як жа вы косіце?

Ясеў Ванька, які таксама падышоў сюды і назіраў за гарадскім касцом, смяецца:

— Калі добрае плячэ, то й тупіца сячэ.

Ды ў шчуплага Яўгена «плячэ» не такое ўжо і добрае. Бяру брусок, вастру касу і зноў пачынаю касіць. Дайшоўшы да плота, яшчэ раз мянташу касу і падаю гаспадару. Ды яна ў яго руках ізноў то скача паверху, то проста ўторкваецца дзюбкай у зямлю, і гаспадар тузаецца, каб яе адтуль вырваць.

Дасціпны Ванька і тут знаходзіць (ці выдумляе экспромтам?) яшчэ адну прымаўку:

— Няўмека — што і калека.

*Працяг. Пачатак у №2 (57).*

* * *

У адну вёску вярнуліся з вайны двое мабілізаваных. Праз раненне. Адзін быў паранены ў нагу, на якую моцна накульгваў, другі ў левую руку, якую абкручваў нейкай анучкай. На іхных хатах вывесілі таблічкі з зорачкай і надпісам: «Дом социальных услуг». Як пацярпелыя франтавікі, яны карысталіся ўсімі дабротамі.

Ніхто не дапытваўся, як іх параніла. І от цяпер, калі абодва ўжо нябожчыкі, добра знаёмая мне жанчына, блізкая сваячка аднаго з іх, раскрыла перада мной сакрэт іхных раненняў, не палічыўшы патрэбным яго ўжо таіць. Аказваецца, трапіўшы разам у адно вайсковае падраздзяленне, сябры-вяскоўцы дамовіліся ў час бою адзін аднаго параніць. Адзін прастрэліў свайму земляку нагу, а той яму — руку. Санітары даставілі іх з поля бою ў лякарню. Пасля лячэння абодвух адпусцілі дадому.

Цікава, колькі ў вайну было такіх раненых?

* * *

Якіх толькі ахвяр не было ў тую вайну!

Расказваў мой сваяк, франтавік. Яго вайсковая часць пры нашым наступленні размясцілася ў адной невялікай вёсачцы. Разышліся па хатах, спалі дзе папала. Палеглі ў адной з хат салдаты на пасланай на падлозе саломе, а гаспадыня, старая шапялявая бабка, залезла спаць на печ. Калі ўсе паснулі, адзін малады салдат ціхенька прабраўся да яе на печ, заціснуў бабулі рот, загаліў спадніцу і спагнаў сваю мужчынскую прагу.

Назаўтра бабка дапыталася камандзіра і паскардзілася яму на гвалтаўніка. Камандзір сабраў салдат і, расказаўшы перад строем пра ўчынак іх таварыша, аб'явіў прыгавор: за згвалтаванне шаноўнага веку жанчыны салдата расстраляць!

Малады салдат заліўся слязамі, пачаў каяцца і прасіць даравання, божачыся, што больш нічога такога не будзе. Ды камандзір быў няўмольны. Загадаў тут жа прывесці прыгавор у выкананне.

Недзе ў вёсцы была ў салдата маці, малодшыя брацікі і сястрычкі. Мой сваяк не ведаў, што напісалі ім штабныя пісары. «Загінуў у баях за Радзіму» ці «Прапаў без вестак»? Ці што-небудзь яшчэ стандартнае? Толькі ж, мусіць, не так, як было папраўдзе: «Расстраляны за згвалтаванне...»

Гэтай гісторыі быў і працяг. Калі гэты «прынцыповы» камандзір павёў салдат у атаку, хтосьці з сяброў расстралянага неўзаметку стрэліў яму ў спіну, і той упаў нежывы. Такая от была плата камандзіру за «прынцыповасць».

* * *

У Магілёве Лукашэнка заявіў перад студэнтамі: «Нет более прароссийского человека, чем стоящий перед вами президент».

Калі ж будзе ў нас «прабеларускі» кіраўнік Беларусі?

* * *

Чытаю Валянціна Пікуля. Як разняволена, размашыста ён піша, колькі падае невядомых фактаў, як бліскотна раскрывае расійскую гісторыю! Беларусам бы такога Пікуля! Каб убачылі, што і ім ёсць чым ганарыцца, што і яны — вялікая нацыя.

* * *

Яшчэ з мінулага лета заняўся будаўніцтвам. Да сцяны дзедавага хлява, які «акультурыў» пад свой маленькі этнаграфічны музей, паслаўшы там падлогу і прывёўшы ўсё ў парадак, надумаў зрабіць прыбудоўку. Для кніг. Гучна кажучы — бібліятэку.

Набываць кнігі пачаў са студэнцкіх гадоў. Не, я не быў бібліяфілам, як Барыс Сачанка, не ганяўся за рарытэтамі. Проста купляў тое, што мяне цікавіла. Мастацкая літаратура, гісторыя (у першую чаргу Беларусі), этнаграфія, фальклор, прырода, слоўнікі і энцыклапедыі. За многія гады назбіралася столькі кніг, што заваліў імі ўжо сваю мінскую кватэру.

Каб неяк яе разгрузіць, пачаў памаленьку перавозіць кнігі сюды, у Зялёную Дуброву.

Толькі як упарадкаваць іх тут?

Помніцца, вандруючы з Львом Мірачыцкім па Наваградчыне, мы заехалі на яго роднае селішча ў Асташыне, і мой хаўруснік паказаў мне на гары бацькоўскай хаты свой кнігазбор. Кніг было там многа. Ды яны былі звалены ў бязладную кучу, з якой на скасабочаных вокладках вока выхоплівала знаёмыя імёны аўтараў — Гогаля, Чэхава, Кузьмы Чорнага, Доўнар-Запольскага, Уладзіміра Караткевіча...

Не, такое не па мне. Мне трэба, каб кожная кніга была перад вачыма, каб стаяла на сваім месцы.

Таму і задумаў гэтае будаўніцтва. І от цяпер расстаўляю кнігі па новенькіх, акуратна выштукаваных паліцах. Яны ўжо будуць навідавоку: падыходзь, бяры любую, гартай, чытай, перачытвай.

Без кніг я проста не ўяўляю свайго існавання. Яны, мае кнігі, — гэта я. Зрэшты, як я — і мой сад-агарод, мая сядзіба, наша наваколле. Дый уся Беларусь, увесь свет, уся светабудова. От так!

* * *

Толькі прачнуўся, як чую ў пярэдняй тэлефонны званок. З Мінска. Нейкая жанчына з маладым голасам хоча даведацца, якія кнігі «Беларускага кнігазбору» плануецца выдаць бліжэйшым часам.

О, плануецца іх вышэй галавы! Толькі дзе ўзяць фінансы на гэтыя рамансы? Вечны галаўны боль!

Я сам хацеў бы многа каго бачыць у вокладках нашай, як назвалі людзі, залатой серыі. Прыкладам, Аркадзя Куляшова, які з юнацтва захапіў мяне сваёй пранізлівай лірыкай («Пайшла й ніколі ўжо не вернешся, Алеся, бывай, смуглявая, каханая, бывай. Стаю на ростанях былых, а ў паднябессі самотным жаўранкам звініць і плача май»), Анатоля Вялюгіна («Зялёны дым: услед узнятай слонцы арэшнік пылу воблака атрос. Нібы ў палац, сюды заходзіць сонца — у мокрым лесе светла ад бяроз»), Валянціна Таўлая з яго самаахвярнасцю ў змаганні за разняволенне роднага краю («Можа, нашым шляхам не сысціся, мая дарагая: затанулі даўно яны ўдалеч — адзін і другі... Ты пазнаеш па песні, хто ў звонкім агні дагарае і вяснянае сэрца бароніць ад шэрай астрожнай тугі»), Аляксея Пысіна з яго незагойным болем па палеглых у баях сябрах («Стралковая рота сопку ўзяла... Пад намі зямля, над намі зямля»), Сцяпана Гаўрусёва («Я вырас пад гарматнымі ствваламі, я мераў час секундай, а не днём, я вызначаў свой рост не пад сталамі — пад расчахлёнай пашчай, пад агнём»), Уладзіміра Дубоўку («О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет! У ветры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасцеш»), Пімена Панчанку («А калісьці і я прачынаўся ў бацькавай хаце. Чэрвень. Раніца. Росы і цішыня. На гародзе спявае паціху маці пра жаўнера маладога, пра гнядога каня»), Васіля Вітку («Мы на Случы ўсе — сакуны, завомся сакунамі. Спрадвеку хлеб наш сакаўны і мова сакаўная»), Яўгенію Янішчыц («Ты пакліч мяне. Пазаві. Мы забудземся ў хмельных травах. Пачынаецца ўсё з любві. Нават самая простая ява»).

Сюды, у беларускі кнігазбор, вельмі хацелася б пазваць Вячаслава Адамчыка з «Чужой бацькаўшчынай», усёй яго чыстай, як шкло, прозай, Івана Чыгрынава з «Плачам перапёлкі» і апавяданнямі, Барыса Сачанку з «Вялікім Лесам» і «Барвамі ранняй восені», Міхася Стральцова з «Блакітным ветрам» і «Ядлоўцавым

кустом», Міколу Лупсякова з «Дняпроўскай чайкай» і «Міхалавым дубам», Паўла Місько з «Морам Герадота» і «Градабоем»...

А як добра было б уваскрасіць хоць творамі загубленых нелюдзямі адданых сыноў Беларусі Уладзіслава Галубка, Язэпа Лёсіка, Фабіяна Шантыра, Цішку Гартнага, Янку Нёманскага, Макара Краўцова, Андрэя Мрыя, Кастуся Езавітава, Леапольда Родзевіча, Васіля Сташэўскага, Міхася Чарота, Васіля Шашалевіча, Адама Бабарэку, Сымона Баранавых, Міхася Зарэцкага, Платона Галавача, Алеся Дудара, Васіля Каваля, Лукаша Калюгу, Юлі Таўбіна...

Даўно б пара вярнуць дадому (таксама ж — лепшымі творамі) гвалтоўна адлучаных ад радзімы нашых слаўных літаратараў-эмігрантаў Уладзіміра Дудзіцкага, Хведара Ільяшэвіча, Янку Золака, Міхася Каваля, Уладзіміра Клішэвіча, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва.

Назаўсёды павінны быць з намі, у лоне нашай літаратуры і пісьменнікі з адабраных ад Беларусі зямель Францішак Багушэвіч і Францішак Аляхновіч (Віленшчына), Юрка Віцьбіч (Смаленшчына), Алесь Барскі і Сакрат Яновіч (Беласточчына).

Цяпер — самы час «збіраць камяні». Таму пара вызваляць з-пад пальшчызны і нашых пісьменнікаў XVIII–XIX стагоддзяў, якія змушаны былі пісаць на чужой нам польскай мове, бо яна была тады ў нас мовай літаратуры, мовай усяго друку і справаводства. Хай загавораць нарэшце па-беларуску са сваім народам сыны Беларусі Францішак Багамолец (Віцебшчына), Ігнат Быкоўскі (Міншчына), Францішак Князьнін (Віцебск), Юльян Нямцэвіч (Брэстчына), Антоні Гарэцкі (Вільня), Габрыэля Пузыня (Вільня), Ева Фялінская (з-пад Клецка), Антоні Эдвард Адынец (Ашмяншчына), Эдвард Масальскі (Нясвіжчына), Ігнат Ходзька (з-пад Вілейкі), Ян Ходзька (Мядзельшчына), Вінцэсь Каратынскі (Наваградчына).

Шырока хацелася б расчыніць дзверы ў «Беларускім кнігазборы» і для сучасных беларускіх пісьменнікаў, якія сказалі сваё важнае слова ў нашай літаратуры.

Я хацеў бы, каб усе названыя і не названыя пісьменнікі былі заўсёды са мной, на маіх кніжных паліцах, як ужо цяпер са мной Ян Чачот, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Жылка, Ян Баршчэўскі, Янка Брыль, Кузьма Чорны, Эліза Ажэшка, Ларыса Геніюш, Паўлюк Трус, Іван Мележ, Цётка, Наталля Арсеннева, Янка Купала, Алесь Гарун, Адам Міцкевіч, Францішка Уршуля Радзівіл, Васіль Быкаў, Рыгор Крушына, Францішак Аляхновіч, Змітрок Бядуля, Сяргей Грахоўскі, Якуб Колас, Аляксей Карпюк, Кандрат Крапіва, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Максім Гарэцкі, Рыгор Кобец, Уладзімір Някляеў, Алена Васілевіч.

Усе яны са мной. І я не ўяўляю, як можна жыць без усіх іх.

* * *

На вуліцу выйшла паважнага веку наша дуброўская жанчына, стала каля сваіх варотцаў. У руках пакручвае ключ ад хаты з чырвонай завязачкай (ясна — каб не так губляўся). Бровы ссунуты на пераноссі, на чале — цень нейкай збянтэжанасці, трывогі.

— І чаго гэтак М. задумалася? — пытаюся трохі жартоўным тонам, праходзячы міма.

— Задумалася... Як тут не задумацца?

— А што?

— А тое, што злыдні сярод людзей ніяк не перавядуцца.

І расказала, што знайшла на сваім двары ўгрэбенае ў пясок курынае яйка.

— На ліха нехта зрабіў. Я падумала была, што гэта работа той ведзьмы Г. Але ж яна яшчэ ад дзяцей з Мінска не прыехала. То пахадзіла тут другая, маладзейшая вядзьмарка — Л. Гэта ж, скажы ты, спяць і сняць, каб гадасць якую

ўчыніць людзям... Якога ж ліха чакаць мне цяпер?.. Хоць бы з дзецьмі што не зрабілася...

От так, і гэтае цямноцце вякоў перанеслі мы ў наша ракетна-інтэрнэтнае Дваццаць Першае стагоддзе.

* * *

Узяў на душу грэх: забіў сёння Божае стварэнне — гадзюку. Мяне аж скаланула, калі ўбачыў яе проста на маёй градзе, на якой нядаўна тое-сёе высеяў. Скруціўшыся, выгравалася сабе на сонцы.

І гэта — не першая мая сустрэча на сядзібе з гадамі. Раз напаткаў быў гадзюку ў сваім прымітыўным склепе — укапаным у зямлю цэментовым коле, што асталося ад калодзежа. Я ледзь не наступіў быў на яе, залезшы ў гэты «склеп» і выкідваючы адтуль зляжалую салому, якой прыкрываў на зіму бульбу. А то вясной знайшоў быў змяіны вылузак пры калодзезі — шукала вады?

Змеі — вельмі непажаданыя на сядзібе госці. Так і бойся, што джыгане за пятку.

Што ж да вужоў, то яны трапляюцца на вока часцей: жывуць у мяне і пад хлявом, і пад хатай, адкуль — не-не дый высунецца каторы проста на дворную дарожку. Жонка аж падскочыць, калі ўбачыць перад сабой гэтага пакручастага, у касыя серабрыстыя палоскі падсуседзя з жоўтымі вушкамі. Але вужоў я не чапаю: гэта ўсё ж стварэнні бяскрыўдныя, а ў нечым, кажуць, і карысныя. Адзіная іх віна: што часам могуць добра напалохаць каго. Расказвала Анцікава Зіна (яе хата другая з нашага канца). Устала Зіна раніцай з пасцелі і чуць пад столь не падскочыла: пасярод хаты, на мяккім дыване, вылежваецца, скруціўшыся, даўжэзны гад! А тут жа спяць дзеці, унукі. Прачнуцца — на смерць перапалохаюцца. Пабегла па качаргу і прыдушыла беднае паласатае стварэнне. Вынесшы з хаты, закапала за сядзібай — каб і духу не чуваць было.

* * *

Які сёння ласкавы і мройлівы дзень! Цёплы, але не спякотны. З сонцам і воблакамі. Першы раз сёлета выйшаў на вуліцу босы. Як гэта слаўна — чуць пад нагамі зямлю з яе плыткім, амаль бязважкім, як мліва, пяском, з усімі яе камянькамі і купінкамі. Некалі ў маленстве мы ўсе, дуброўскія дзеці, толькі і насіліся па вуліцы босымі, свецячы пяткамі ды лыткамі. Босы ганяў я на пашу цялят і кароў, часта раніцамі па расе босы ішоў за плугам, нават выпраўляючыся ў лес, у грыбы, ніколі не абуваўся. Запомніўся адзін выпадак: стаўлю паміж сучкоў нагу, і гэтыя сучкі раптам ажылі, заварушыліся: сям’я гадзюк! Скокнуў ад іх як падсмалены. Падэшвы ног у нас рабіліся цвёрдыя, як камень. Гэтакія былі нарosты. З ранняй жа вясны і да позняй восені, ад снегу да снегу, а часта і па снезе, усё гэтак жа — басанож і басанож. Ногі — хоць рэпу сей. Затое ніякая прастуда і ніякая трасца ніколі нас не брала.

* * *

Адзін маленькі казус.

Іду пасярэдзіне вуліцы босы, радуюся поўнай разняволенасці.

І тут насустрач — легкавая машына. Параўняўшыся са мной, прымарудзіла ход, паволі прасунулася каля мяне, як бы збіраючыся спыніцца. Але не спынілася. Набраўшы раптам хуткасць і абдаўшы мяне дымком з выхлапной трубы, пагазавала далей.

Уперадзе бачу на вуліцы сястру Валю. Расказвае: гэта ж пыталіся ў яе, як сустрэцца з Кастусём Цвіркам, дзе ён жыве.

— А вунь ён ідзе, — адказала Валя.

Уяўляю: думалі ўбачыць паважнага, вельмі сур'ёзнага пісьменніка, у прыстойным дарагім касцюме, пад гальштукам, у модных, наваксаваных да бляску чаравіках, а тут ідзе ў расхрыстанай сарочцы, у спартыўных, ведама ж, не з іголачкі, штанах з белымі «лампасамі», на галаве — нейкая несур'ёзная панамка і ні ў што не абуты нейкі вулічны басяк! Не, не будзем сунімацца, едзем далей!

* * *

Уверсе, за маім агародам, чую птушыны гвалт. Гэта каршун нясе ў лапах шпака, а следам цэлая гамарня дробнага птаства. З усіх бакоў кідаюцца птушачкі на драпежніка, каб дзюбнуць, адабраць свайго сабрата. Невядома, ці ўдалося б ім гэта, калі б не блізкі Адамішын лясок. Каршун нырнуў у яго густалісце, як у ваду. Птушыная чарада, тыцнуўшыся аб лясное голле, крутнулася і павярнула назад, кожная птушачка паляцела сваёй дарогай: усё — забыла задранага шпака! Ці не так бывае часам і ў людзей?

* * *

Віцця палівае грады і, убачыўшы, што і я гэта раблю на сваім агародзе, кажа:

— Хай усё будзе, як Дунай.

— Як гэта — «як Дунай»? — пытаю.

— Ну, харошае, бучнае.

Другі раз чую я пра гэты Дунай. Першы раз — у недалёкім ад нас Дрычыне, кудой я хадзіў некалі да сваёй бабкі Сымоніхі ў Суцін. Жанчына, з якой я быў разгаварыўся, з замілаваннем расказвала пра сваіх унукаў:

— Такі харошы мой унучак, як Дунай. І ўнучачка — Дунайка.

Адкуль усё гэта? І чаму так часта чуем мы пра Дунай у народных песнях? Няўжо і праўда мы, славяне, прыйшлі, перасяліліся некалі з Дуная, як цвердзяць некаторыя вучоныя, і праз тысячагоддзі асталася ў народзе настальгія па страчанай некалі радзіме?

* * *

Якая ўсё-такі жывучая ў народа гістарычная памяць. Адзін толькі прыклад. У 1819 годзе ў баладзе «Наваградскі замак» Ян Чачот пісаў:

І сёння расказваюць людзі старыя,
Як шведы людзей нашых клалі
На воз, бы снапы, і жардзінай, ліхія,
Як толькі маглі, прыціскалі.
А дзетак маленькіх стаўлялі за лавы
І лавай душылі пад крык іх,
Такія во страшныя гулі-забавы
Былі у тыранаў тых дзікіх.

Якое ж было маё здзіўленне, калі пра гэтыя ж лавы, якімі недзе на пачатку XVIII стагоддзя шведы душылі беларускіх дзяцей, расказаў мне і мой далёкі сваяк Антон Цвірка. Праз 150 з лішнім гадоў пасля Яна Чачота і праз 250 пасля вайны Пятра Першага са шведамі.

* * *

Сама цвітуць за плотам пасаджаныя мною кусты шыпшыны. Якія ў яе пяшчотныя, светла-ружовыя кветкі! Глядзець — не наглядзецца. Як бы дапаўняючы святочна расквечаныя кусты дзікай шыпшыны яркай чырванню разгарэліся ўздоўж дваровай дарожкі і прыземістыя кусты шыпшыны садовай. Папраўдзе райскім пахам напоўнілася ад шчодрага яснацвету мая сядзіба.

Гэты сонечны яснацвет, які так радуе душу, нагадаў мне густа абсаджаныя яркімі ружамі дарожкі перад будынкам пісьменніцкага Дома творчасці ў Гаграх, дзе мне пашчасціла некалі пабываць з сям'ёй.

Выходзіць, кожны можа зрабіць на сваёй сядзібе ўласныя Гагры!

* * *

Па вуліцы, бачу, праязджае знаёмая блакітная машынка. Ага — старшыня сельсавета (ці як яго цяпер называюць?). О, ды ў яго прагрэс: з багажніка тырчыць ужо не простая каса, як летась, а бензакасілка! Такі ўсклалі раённыя ўлады абавязак на сельскага старшыню: скошваць на вуліцах падуладных яму вёсак траву — для парадку. Колькі ж у руках цяперашняга кіраўніка цэлага сельсавета ўлады, калі самому прыходзіцца выконваць такую чарнавую работу?

* * *

На вулічнай лавачцы — дзве жанчыны. Абаім — за 80. Падсаджваюся да іх і я.

Гаворка зайшла пра тэлевізар.

— Я дак «Паследнія ізвесція» не гляджу, — кажа адна. — Калі ні ўключыш — раве Лукашэнка.

— Як гэта «раве»? — пярэчыць другая. — Складна, талкова гаворыць.

— Гаварыць — не рабіць.

— Ды і робіць. Пра нас, старых, дбае. Пенсію дае.

— А многа ты купіш за тую пенсію? Каб не мой агарод ды не куры, ногі працягнула б па той пенсіі.

— Не грашы, дзеўка. Цяпер усе адзеты, абуты. Помні, як мы рады былі некалі, калі даставалі дзе якога паркалю на сукенку...

Абапіраючыся на палку і моцна кульгаючы, падыходзіць яшчэ адзін пажылы чалавек, інвалід вайны (прыехаў аднекуль да сваёй унучкі), таксама падсаджваецца да нас на лаўку. Прыслухаўшыся, пра што гаворка, устаўляе і свой грош:

— А я за яго, Лукашэнку, — свой чалавек. Усё робіць для нас. Я пры ім хоць хлеба ўволю паеў.

Такія от вясковыя палітыкі.

* * *

Схадзіў у блізкі лес, навысякаў у хмызняку палак на падпоры для памідор. Дома паўтыкаў іх пад кожнае каліва. Асцярожна трымаючы ломкія сцябліны, акуратна прывязаў іх да колікаў. Завязваючыся, наліваючыся, набіраючы ад сонца чырвані, гэта ж так будуць радаваць вока, лагодзіць душу гірлянды пунсовых, а дзе і жоўценькіх, памідорын вакол іх!

Ці не такія маленькія радасці і трымаюць чалавека на зямлі?

* * *

Бачу: і Вікця на сваім агародзе падвязвае на калкі памідоры ды абтыкае лапушнымі галінкамі клёну.

— А нашто іх абтыкаць? — пытаю.

— Каб той губаты чорт не паламаў.

— Які гэта губаты чорт?

— Ды вецер.

* * *

У маім садзе паспелі ягады бружмелю. Прадаўгаватыя, сінія, кісленькія. Першыя праўдзівыя ў годзе ягады. Вітаміны!

Лезу ў загушчаны куст зрываць іх. Ды раптам з-пад самага носа — пырх! Нейкая птушачка. Гляджу — між галінак ушчэмлена гняздо. Пяць роўненькіх рабенькіх яечак. Што рабіць? Усё ж абіраць куст, каб прыдбаць так патрэбныя вясною вітаміны? Але ж тады доўга не прыляціць сюды птушка, астынуць яечкі. Чуў, калі такое здараецца, птушкі адцурваюцца свайго гнязда з яечкамі. Пастаяў, паглытаў слінкі, смакуючы ў думках ягадкі бружмелю, і ўсё ж наважыў адысці ад куста, пакінуў гняздо ў спакоі. Хай астануся без вітамінаў, затое на маёй сядзібе зазвіняць, будуць лашчыць мой слых пяць новых песень!

* * *

Са спрадвечных часоў людзі вызначалі час па пеўнях, якія з выпрацаванай тысячагоддзямі перыядычнасцю, слухаючы нейкі свой унутраны, закладзены прыродай гадзіннік, прачыналіся сярод ночы на седале і спявалі — кожны на ўвесь свой голас, перагукваючыся адны з другімі. За вякі ўсталяваліся тры паказчыкі часу: першыя пеўні, другія пеўні і трэція пеўні. Першыя пеўні апавяшчалі поўнач, паказвалі прыкладна 12 гадзін, другія пеўні — тры гадзіны ночы, трэція пеўні — пяць гадзін, перадранне. Памаглі мне сёння зверыць пеўневыя «гадзіннікі» з завадскімі Вікця і Броня, з якімі я гутару на вуліцы. Пеўні заўсёды падказвалі ім, руплівым гаспадыням, калі можна спаць і сніць самыя салодкія сны, калі падкінуць каню ў яслі сена, калі занесці карове паранку, калі яе падаіць, каб не апазніцца выпусціць на ранкі.

* * *

Вікця: «Ён вялікі напроці іх...»

Гэта значыць, «у параўнанні з імі...»

І яшчэ ў нас кажуць: «Напроці чарнаты лесу ясна выдзялялася яе белая хустка».

Гэтым «напроці» (ці «насупраць») народ спрадвеку абыходзіўся без запазычаных з рускай мовы «на фоне» (у сваю чаргу ўзятага з лацінскай, дзе fundus — дно, аснова) і польскай «на тле».

Вядома, без запазычанняў не абыходзіцца любая мова. Тым не меней не трэба, мусіць, забываць і спрадвечную мову свайго народа. Таму да тых значэнняў слова «напроці» («насупраць»), што падаюцца ў нашых слоўніках, можа, варта было б дадаць і гэтыя два?

* * *

Ядвіся Цвірка пра хлопца, які кінуў вучобу, недавучыўся: недавука. Зазіраю ў нашы беларускія слоўнікі: ці не забыліся мовазнаўцы пра гэтае, кожнаму зразумелае слова? Не, не забыліся, але скалечылі, падрэзаўшы: недавук. Чаму? Дзе так гавораць? Для мяне гэты «недавук» вельмі рэжа вуха, гучыць ненатуральна. Яно ж сваёй формай аналагічнае такім звычайным нашым словам, як недарэка (а не недарэк), разявака (а не разявак), бадзяка (а не бадзяк), забіяка (а не забіяк), небарака (а не небарак), задавака (а не задавак), сабака (а не сабак) і г. д., і г. д.

* * *

— Дзеці ізноў паехалі ў горад на работу, а я тут раюю, — кажа Вікця.

«Раюю» — ад слова «рай».

Дзіўлюся, як натуральна і лёгка прыходзяць на язык нашым людзям словы. Прытым часта вельмі рэдкія, нечаканыя, але заўсёды кожнаму зразумелыя. Яны так і просяцца ў слоўнікі. Падам толькі некалькі прыкладаў: «дападная» (о, яна дападная да работы, г. зн. так да яе дападае, што не адцягнуць), «стопак» (стаптаны лапаць ці чаравік; у нашых слоўніках чамусьці, як і ў рускіх, «атопак»),

«зачынка» (дошчачка ў калодным вуллі, якой зачынялі адтуліну для вымання мёду), «падарэка» (жабрак, той, хто просіць нешта яму падарыць), «завіранец» (ад слова «вір», сінонім «свавольніку»), «пацягака» (той, што ўсюды цягаецца, сінонім «валацугу»), «пакліканка» (нанятая, пакліканая плачка на пахаванні), «перасядка» (ад слова «перасядаць» з месца на месца), «закласціся» («язмін заклаўся на цвет») і г. д. Такіх рэдкіх, але «меткіх» слоў можна нямала пачуць у кожнай з тысяч нашых вёсак і сёл. Каб усе іх сабраць, якое б гэта было багацце! Дзе наш беларускі Даль, збіральнік не існуючага пакуль што «Слоўніка жывой беларускай мовы»?

* * *

Здаўна ведаў, што ў нас фарбавалі тканіну ў чорнае адварам мучану. Прытым толькі не сукно. Сукно ён «не браў». Вадзіму Дубовіку (які гадоў 50 чытаў лекцыі на журфаку нашага БДУ) маці сшыла была некалі світку з суконнай клятчатай пасцілкі. Пафарбавала мучанам, але клеткі ўсё роўна былі відаць. Так і хадзіў у школу будучы выкладчык універсітэта ў старой клятчатай світцы. Я не надта цікавіўся раней, чым там жанчыны нешта фарбавалі, і не ведаў, што гэта за мучан. А сёння папытаў пра яго ў Броні. Гэта, растлумачыла яна, трава ў лесе, падобная на бруснічнік, толькі яна «сцелецца па зямлі». Усё паставіла на месца сястра Яня, якая рабіла ў Старых Дарогах у аптэцы і трымала ад людзей розныя зёлкі: мучанам у нас называюць вядомую ўсім лекавую расліну талакнянку, якая, выходзіць, служыла і як фарба, чорная фарба. Мучанам (або мучаннікам, мучальнікам, мучарнікам, мучанічнікам), як сведчыць «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», называюць гэтую расліну па ўсёй Беларусі. Толькі ў слоўніках сваю беларускую назву мы замянілі на рускую.

* * *

Вікця на свайго праўнука:

— Ізноў недзе пакруціўся, завіранец гэты...

Якое супадзенне: сёння ж, чытаючы «Скіп'ёўскі лес» Кузьмы Чорнага, наткнуўся на такое ж: «Пакруціўся недзе ў свет...»

У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» слова «пакруціцца» ў такім сэнсе не ўбачыў. Мо таму, што гэта ўсё ж слова вобразнае?

* * *

У Залужжы пры краме.

— О, што гэта ў цябе з пальцам?

— Ды кабан адкусіў.

— Як?

— Калолі, дык я ўзяў яго за вуха, а ён — хоп за палец. І от без пальца астаўся.

— І які палец? Указальны?! О, вельмі кепска!

— Чаму гэта?

— Маліцца ж не будзе чым!

* * *

Чэрвень, а ўжо гарачынь. Даўно — ні дажджынкі. Кабачкі, гарбузы, агуркі, перцы паапускалі вушы. Не памагаюць і палівы. Вікця паказвае на траву за вуліцай, на ялавіне:

— Учора яшчэ была зялёная, а гэта — унь як высахла. Згарэла на сонцы.

Перад лесам — як дымок: смуга.

Нават вецер, які часам нойдзе аднекуль, — гарачы. Так і абдасць твой твар нагрэтаю хваляй. Нібы з напаленых камянёў у лазні, калі на іх лінуць вадою з карца.

Кожны вечар глядзім, як заходзіць сонца. Кажуць, калі яно апускаецца за хмару — чакай заўтра дажджу. Ды на захадзе — ні хмурынкі. Ізноў, чырвонае, нібы толькі што з горана, сонца свабодна апускаецца за лес.

Асабліва крыўдна, што Мінск ужо каторы дзень проста залівае вадой: лівень за ліўнем. Да Зялёнай Дубровы дакочваюцца толькі глухія грымоты. Нібы падражніваюць усіх нас.

Старыя жанчыны вінавацяць у такой спякоце і бездажджоўі лесніка: ён да Благавешчання гарадзіў плот. Бо што-небудзь рабіць да гэтага свята — вялікі грэх. Нават птушка і тая да Благавешчання гнязда не ўе.

Праўда, калі той, хто гэтак награшыў, адаб'е ў тым плоце хоць адну штыкеціну, абалье яе вадой і прыб'е назад, тады неба злітуецца і расшчодрыцца дажджом.

* * *

Каля аўтакрамы бядуюць жанкі:

— Не будзе сёлета бульбы — такая суш...

— І я мацала: пад карчом — як гарох...

Усіх асаджвае Насця Акуліч:

— Што тут надта плакаць? Сто коп ці адзін сноп — усё роўна перазімуем, нідзе не дзенемся.

Спрадвечны народны аптымізм!

* * *

Ядвіся: «Малая аслабла ад неядзі».

«Неядзь» — мусіць, не зусім тое ж, што «недаяданне»?

* * *

Стаю на вуліцы з Насцяй Акуліч, слухаю яе гаворку:

— Мая ўнука даўно ўжо сваю вучобу кончыла...

«Унука». Адзначаю для сябе гэтае слова. Усё правільна, лагічна: малая — «унучка», вялікая — «унука». Гэтак жа, як «унучак» і «ўнук». Слова «ўнука» сустрэў у замалёўцы Фёдара Янкоўскага «Пастух і крыніца». Так кажуць на Беларусі людзі. Ды от дзіва: абмінаюць гэтае вельмі натуральнае слова нашы мовазнаўцы, не пускаюць яго ў слоўнікі. Чаму?

* * *

Цяжкі дзень. Сёння мы назаўсёды развіталіся са сваёй незабыўнай цёткай Волькай — Вольгай Канстанцінаўнай Рымашэўскай, роднай мацерынай сястрой. Апошняй з усіх нашых цётак і дзядзькоў. Памерла яна на 93-м годзе жыцця. Цяпер наша цётка будзе ляжаць побач з бацькам і маткай у роднай Зялёнай Дуброве. Пра гэта яна марыла апошнім часам.

Цётка Волька — адна з безлічы тых нешчаслівых жанчын, жаніхоў якіх забрала вайна і якім так і не ўдалося зладзіць сваю сям'ю. Пра тое, што перажылі гэтыя жанчыны-незамужкі, ведаюць толькі яны самі: хто калі заглядаў у іхныя душы?

Жыла наша цётка пры сваіх сёстрах-удовах, спярша ў нашай сям'і, потым — разам з Алімпай, памагаючы ім у цяжкія часіны, узгадоўваючы іхных дзяцей. Сваю дабрыню, сваю нерастрачаную пяшчоту яна аддавала нам, сваім пляменнікам.

Чым жа заплацілі ёй мы за цеплыню і ласку?

* * *

Цэлы дзень гурчыць сёння бульдозер за Ванькавай сядзібай, разрабляе ад кустоўя пляц для новага пасяленца — Максіма Восіпава, мінчаніна, вельмі прыемнага і прыветлівага чалавека. Родам ён з недалёкіх Борак, але для свайго лецішча

выбраў Зялёную Дуброву. Усцешна, што разам з жонкай упадабаў нашу зацішную вёсачку. А яшчэ больш радуе тое, што насуперак чыноўнікам, якія залічылі яе ў бесперспектыўныя, асудзіўшы на выміранне, Зялёная Дуброва аднаўляецца, пашыраецца, а значыць, жыве і будзе жыць. Ды як жа не жыць, не сяліцца тут, калі кругом — першародная цішыня, грыбныя ды ягадныя лясы, цудоўнае лясное возера Скачальскае, аб'яўленае раённымі ўладамі зонай адпачынку?

* * *

— Шкадоўны, — кажа Вікця пра свайго сына Казю, што часцяком прыязджае сюды з падмінскага саўгаса, дзе робіць механізатарам. — Шкадуе птушачак усякіх: унь колькі дамкоў нарабіў ім ды паўсцягваў на дрэвы.

* * *

— Каб у цябе галава адвалілася, дурніца дурная, — лае сама сябе Вікця. За тое, што, не дачакаўшыся зяця з канём, папрасіла трактарыста абагнаць бульбу, а ён зрабіў гэта абы-як: адны бульбяныя карчы заараў, заваліўшы зямлёю, а другія зусім павыварачваў плугамі.

* * *

Не перастаю здзіўляцца, як густа перасыпаюць мае землякі сваю мову прымаўкамі ды прыказкамі.

От сядзяць на лаўцы дзве пажылыя жанчыны, разважаюць пра «ўпраўных» суседскіх дзяцей.

— Такія ж ухваты, як і бацька.

— Яблык ад яблыні недалёка падае.

— Якое дзерава, такі клін, які бацька, такі сын.

* * *

А якія нечаканыя і звонкія, бы выстрал, рыфмы знаходзіць часам народ для сваіх прыказак і прымавак.

Разважаючы пра дзяцей, Насця Акуліч зазначае:

— Паслушны баіцца ківа, а непаслушны не баіцца і кія.

А Вікця паглядзела на маю арабінку пры варотцах і дзівіцца:

— Як урадзіла рабіна! Кажуць, калі многа рабіны, увосень будзе гразі па драбіны.

А гэтую прымаўку я прывёз з Фаліч, ад 90-гадовай Стэфкі Цвіркі, удавы аднаго з дуброўскіх «Банэдыкаў», маіх фамільятаў. Калі я папытаў, як памагаюць ёй дзеці і ці не забывае яе радня, адказала:

— Радня да дня, а сонца зайдзе — ён цябе не знайдзе.

* * *

Разам з Алесем Усенем — у Старадарожскай раённай бібліятэцы. Сустрэча з тутэйшымі літаратарамі. Вельмі прыемна гутарыць з людзьмі свайго круга, людзьмі зацікаўленымі, якія любяць літаратуру і самі нешта хочуць у ёй сказаць. А сабралася такіх нямала. Калі ў 2008 годзе я рыхтаваў да друку кнігу літаратараў Старадарожчыны «Арэскія крыніцы» для выдавецтва «Мастацкая літаратура», то баяўся, ці набярэцца на яе, кажучы па-газетнаму, матэрыялу. Бо ўсё ж Старадарожчына не раўня такім багатым на літаратурныя славутасці раёнам, як, скажам, Слуцкі, Капыльскі, Стаўбцоўскі ці Навагрудскі. Але, як выявілася, і ў нас б'юць жывыя крыніцы паэзіі, і не толькі паэзіі. Усцешылі мяне сваімі творамі Уладзімір Праташчык, Ганна Перамей, Аркадзь Пенязь, Уладзімір Сітнік, Віктар Лелюкоў, Людміла Ананіч, Марыя Захарава, Людміла Антанюк, Алесь Шчэрба, Зінаіда Кур'яновіч, Галіна Малец, Мікалай Грузд, Валянціна

Яфіменка, Тамара Дзмітрук, Леанід Чабатароў, Віталь Юрэвіч, Святлана Астроўская, Таццяна Цывіс, Наталля Розум, Нэля Астрэйка, Вольга Солтан, Кацярына Барысевіч, Алена Сойка, Алена Міхайлава. У кожнага з гэтых аўтараў ёсць свая «божая іскра», толькі ад іх саміх залежыць, ці разгарыцца яна ў полымя.

Адно радуе: усе названыя аўтары выбралі ў сваёй творчасці родную беларускую мову. І гэта нягледзячы на яе занядбанне самымі высокімі чынамі, якія, раўняючыся на свайго русафільскага патрона, дружна, нібы ад якой праказы, адварочваюць ад яе насы, ад мовы народа, на плечы якога ўсселіся з пугай. Толькі на глебе роднай мовы можа вырасці, на ўсю шырыню разгарнуць свой талент сапраўдны пісьменнік.

Не сумняваюся, што такі літаратурны падлесак падрастае і ва ўсіх іншых рэгіёнах Беларусі. У ім, у гэтым няўстрымным падлеску, мне бачыцца шчаслівая будучыня нашай літаратуры. А гэта значыць, будзе жыць, не загіне наша слова, будзе жыць Беларусь. Хоць і пафасна кажу, але гэта так.

* * *

Са Старых Дарог мы з Алесем Усенем вымкнуліся на прыроду — на наша возера Скачальскае.

Старадарожскі лясгас зрабіў тут выдатную зону адпачынку. Ачысціў ад асаковага куп'я і, пазасыпаўшы жоўтым пясочкам усе яміны, добра ўпарадкаваў бераг новай купальні, панарабляў на ім з дошчачак усякіх раздзявальняў ды мосцікаў для ныранія.

Мы з Алесем аблюбавалі пастаўлены «стацыянарна» на ўкапаных кругляках доўгі стол з дошак у разрэджаным рухлівым цяні стройкіх хвояў, што сышліся сюды дзівіцца на шырокі разліў неспакойнай вады пад белымі воблакамі. Нам добра было сядзець за гэтым сталом пад лагодны плёскат разгайданых вятрамі хваляў і на ўсе грудзі дыхаць густым, нагрэтым на сонцы настоем смалы з дамешкам азёрных пырскаў, што далятала да нас. Да гэтага азёрна-ляснога водару дадаўся скора і не менш прыемны пах шашлыкоў, якія прыхапіў з сабою Алесь і якія цяпер падсмажваў на агні ў спецыяльна адведзеным месцы Алесеў шафёр і сябар Эдуард, праўдзівы тут майстар.

Часу нам ставала, і мы змаглі гутарыць пра ўсё. А гаворка болей схілялася ў нас да таго, што найболей цікавіла абаіх: да літаратуры.

Сам Алесь са школьных гадоў пісаў вершы. Але потым надоўга іх закінуў. Тут, як гэта ні прыкра мне ўсведамляць, ёсць нейкая доля віны і мая. Калі я рабіў у часопісе «Полымя» як загадчык аддзела паэзіі, ён прыслаў мне некалькі сваіх вершаў для публікацыі. Звычайна я стараўся зрабіць усё, каб падтрымаць кожнага маладога аўтара, пусціць яго творы на старонкі часопіса. А ў выпадку з Алесем мне хацелася зрабіць гэта ўдвайне: ён жа — са Старадарожчыны, зямляк. Ды як я ні круціў у руках яго вершы, колькі разоў ні перачытваў, выбраць штонебудзь з іх для публікацыі мне не ўдалося: яны здаліся мне не адпаведнымі строгім патрабаванням нашага старэйшага савецкага выдання.

Нядаўна я ўважліва перачытаў Усеневы вершы ў яго кнізе «Я хачу на сваю планету». Калі з тых, што ён прапаноўваў тады для «Полымя», былі такія, сапраўдзе таленавітыя творы, як «Сон», «Сустрэча», «Заваражыў», «Сто грамаў слёз», «Балада пра ногі», «Паляўнічы», то я — той жа недавука. Не надта суцяшае мяне тое, што артадокс Кірэенка, галоўны рэдактар часопіса, ніколі не прапусціў бы такіх далёкіх ад савецкага стандарту твораў.

* * *

Ціхая радасць: іду ў грыбы. У лісічкі. Хоць яшчэ толькі сярэдзіна чэрвеня, адгукнуліся, бач, на шумныя, струменістыя дажджы, што нядаўна прашугалі.

Хадзіць у грыбы, у любыя — ці не найлепшы адпачынак для душы. Шукаючы іх па лесе, забываеш пра ўсё на свеце, адмятаеш ад сваёй, як казаў Іван Курбека, галавешкі ўсе турботы-згрызоты, усе нелады.

Лісічкі — першыя пасля вяселікаў грыбы, што выскачылі сёлета: да мяне іх прыносілі ўжо суседзі.

Вышукваць лісічкі іду ў мясціны, у якіх знаходзіў іх яшчэ ў маленстве: яны не надта кідаюцца мяняць родныя селішчы. І праўда: у даўно пастарэлым, але ўсё тым жа бярэзніку бачу ў прагалках паміж верасу нешта жоўтае. Мо пажаўцелыя ліскі бяроз? Не, яны, лісічкі! Цэлая сямейка!

Масквіч Дзмітрый Зуеў у кнізе «Дары русского леса» назваў лісічкі надта прыземлена — «живой омлет леса». Мне ж яны здаюцца маленькімі жывымі істотамі, што, нібы лісяняты, выскакваюць на сонца пагрэцца, але, убачыўшы чалавека з нажом у руках і не паспеўшы схавацца пад галінку верасу ці ў кусцікі чарнічніку, застываюць на месцы.

Укленчыўшы, бяру іх у пальцы, мяккаватыя, далікатныя, але заўсёды крэпенькія і чыстыя, падразаю і адну за адной кладу ў кашэль. Люба іх браць, прыемна прынесці дадому, дзе неўзабаве з кухні заструменіцца па хаце такі густы, ні на што не падобны лясны пах-водар.

* * *

Кожны вечар па вуліцы паволі ідзе-сунецца, голасна піпікаючы, машына-пікап. Гэта нарыхтоўшчык чарніц са Старых Дарог. Прымае іх за добрую цану — зважвае і тут жа расплачваецца. Вельмі выгадна. Хто хоча падзарабіць, бяжыць і бяжыць у лес.

Бяруць цяпер у лесе ягады не пальцамі, як некалі, а «камбайнамі» — адмысловымі прыстасаваннямі, якімі абшморгваюць галінкі з чарніцамі. Хто толькі гэтак «разумна» іх назваў — «камбайн»? Ядвіся ж кажа на гэтае прыстасаванне проста — дзярпак.

Цікава, што зарабіць на ягадах ідуць у лес толькі пажылыя і паджылыя жанчыны: яны змалку прывыклі да гэтай работы. Сённяшніх жа маладых дзяўчат такія заработкі не спакушаюць. Ніякімі пернікамі іх не заманіш у лес. Што гэта — мяняецца свет? Расце змена спажыўцоў?

* * *

Трэцяга ліпеня, дзень вызвалення Мінска ад нямецкіх прыхадняў. Слухаю па тэлевізары ветэрана вайны, яшчэ даволі моцнага, бадзёрага, добра дагледжанага. Расказвае, як ён са сваім вайсковым падраздзяленнем увайшоў у адну беларускую вёску і там савецкія воіны-вызваліцелі, убачыўшы на вуліцы малога хлапчука ў мундзіры нямецкага афіцэра, тут жа расстралялі яго. «Такая была ў нас нянавісць да фашыстаў», — без ценю раскаяння, нават з дрэнна прыхаванай усмешкай патлумачвае самазадаволены ветэран, апраўдваючы забойства бязвіннага беларускага хлопчыка.

А мне ўспомнілася, як мы, дзеці вайны, жылі пад акупацыяй. У нас жа не было ў што абуцца-адзецца. Шмат каму з дзяцей даводзілася праз гэта ўсю зіму сядзець у хаце. Шукалі ўсякія транты, каб накінуць на сябе, акрыцца ад холаду. За вялікае шчасце было для нас знайсці дзе-небудзь у лесе кінутае вайсковае адзенне, усё роўна — савецкае яно ці нямецкае.

* * *

Ужо ліпень, а яшчэ нават камароў не было. Здавалася б, добра. Ды Насця з Вікцяй, з якімі я стаю на вуліцы, не радуюцца гэтаму, кажуць: «Камарно — пакармно». Бо камары бываюць, калі мокра. А калі мокра, то і ўраджай будзе ў полі і ў агародзе, а значыць, будзе і «пакармно».

* * *

Як бальзам на душу — шум дажджу за акном. Ён разбудзіў мяне сярод ночы. Дождж роўны, без грымотаў. Спакойна шамаціць у лісцях прысадаў, глуха цюкаюць аб дол, спадаючы з шыфернага даху, частыя кроплі.

Дождж перастаў толькі раніцай. Як свежа, як здорава на двары! З разарваных кудзелістых хмар выглядае сонца, на траве, на лісцях кустоў і дрэў паблісквае дажджавая раса. На вуліцы — лужынкі.

Вочы самі сабой скіроўваюцца на грады. Як ажылі, устрапянуліся там усе расліны! А з імі — і душа гаспадара.

* * *

Упершыню за ўсю гісторыю існавання наш родны «ЛіМ» пачаў друкаваць артыкулы, хай і ва ўкладышы «Кніжны свет», побач з беларускай і на рускай мове. Двухмоўе ў дзеянні? А папраўдзе — пашырэнне ганебнай русіфікацыі, удаўкі на шыі Беларусі.

* * *

Заехаўшы веласіпедам у Залужжа, зазірнуў у тутэйшую бібліятэку. Бібліятэка не з бедных: усе паліцы шчыльна запоўнены кнігамі, самымі рознымі. Цікаўлюся ў загадчыцы бібліятэкі Таццяны Гельвер, хто што чытае. Адказ — не суцяшальны. Асноўныя чытачы — старыя людзі, пенсіянеры. Няшкольная моладзь зусім сюды не заглядвае: «Усе сядзяць за кампутарамі». Зрэшты, гэтак жа, здаецца, і ў Мінску, усюды.

Яшчэ не вельмі даўно Максім Танк трывожыўся: «Можа, мы — апошнія паэты, што вось так цікавяцца зямлёй». А цяпер усім тым, хто зжыўся з кнігаю, мусіць, трэба казаць так: «Можа, мы — апошнія земляне, што вось так цікавяцца кнігамі».

Толькі няўжо кампутар ці кіно можа замяніць ні з чым не параўнаную радасць чытання-перачытвання «Новай зямлі», «На ростанях», «Кургана», «Яна і я», «Людзей на балоце», «Скіп'ёўскага лесу», «Каласоў пад сярпом тваім», «Трэцяй ракеты», «Плачу перапёлкі», «Мёртвых душ», «Пана Тадэвуша», «Вайны і міру», «Ціхага Дона», «Фаўста», «Лісцяў травы»? Як абкрадвае сябе наша новае пакаленне!

* * *

Толькі цяпер прачытаў хвалёны «Авадзень» Э. Войніч. Вельмі пасрэдны раман. Чаму ж так высока ўзносілі яго ў савецкія часы? Ну, ясна: за антырэлігійную накіраванасць, што так імпанавала бальшавіцкім правадырам. Адзінае, што запомнілася ў рамане, — гэта нарада рэвалюцыянераў адной еўрапейскай краіны. Шукаліся спосабы барацьбы з абсалютызмам. Адзін з прысутных (Бела) сказаў, што супраць дыктатуры «самая смертаносная зброя — гэта смех». Як жа карыстаюцца гэтай дзейснай зброяй змагары з сённяшнімі дыктатарамі?

* * *

У маёй дуброўскай хаце — госці з Мінска: бард Аляксей Жбанаў і артыстка Алена Прохарава. Звялі мяне з імі колішнія філаматы і філарэты. На аснове маёй кнігі «Філаматы і філарэты» Аляксей зладзіў цэлую канцэртную праграму, з якой выступае па ўсёй Беларусі. Я не раз бачыў, як свяціліся ў людзей вочы, калі яны слухалі ў яго цудоўным выкананні філамацкія песні, напісаныя на вершы Яна Чачота і Адама Міцкевіча (пераважна ў маім перакладзе), з якой цікавасцю распытвалі пра антыцарскія згуртаванні беларускай моладзі, што ўзніклі на пачатку XIX стагоддзя ў Віленскім універсітэце і былі разгромлены ўладамі. Шкада толькі, што праз сваю занятасць у Міністэрстве замежных спраў Аляксей Жбанаў не заўсёды знаходзіць час на свае вельмі яркія выступленні.

Сёння пачула яго песні і маё возера Скачальскае, куды мы пад’ехалі на машыне. Калі, прысеўшы на беразе, Аляксей заспяваў, іграючы на гітары, паслухаць яго сышліся дзяўчаты і хлопцы, што адпачывалі тут у палатках. Яны не толькі слухалі, а пачалі дружна падпяваць Аляксею. Ну, а мне прыемна было падумаць, што зерне, пасеянае кнігай «Філаматы і філарэты», упала не на камень.

* * *

Разам з мінскімі гасцямі з’ездзіў у Старыя Дарогі. Аляксей Жбанаў вельмі хацеў паглядзець музей-сядзібу Анатоля Белага.

На жаль, гаспадара дома не засталі: быў якраз у Мінску. Усё ж паказаць наш музей Анатоль прыпаручыў (па тэлефоне) свайму брату Міхасю.

Музей, трэба сказаць, унікальны. Багаццем найцікавейшых экспанатаў ён можа паспаборнічаць з любым дзяржаўным. Яго стварэнне — праўдзівы подзвіг Анатоля Белага, які заслугоўвае самых высокіх дзяржаўных узнагарод і званняў. Ды от нешта не ўпісаўся яго музей у «государственную идеологию». Чым? Сваёй беларускасцю? Патрыятызмам? Ці ж не абсурд гэта?

А тое, што музей-сядзіба Анатоля Белага — выдатнага школа беларускага патрыятызму, сведчаць усе яго экспанаты. Пытаюся ў Міхася, ці наладжваюць тутэйшыя і больш далёкія школы сюды экскурсіі. Адказ вельмі здзівіў: не, не наладжваюць. Абыходзяць міма. Адмахваюцца ад сваёй культуры, ад гісторыі. Ад Беларусі. Ад саміх сябе.

* * *

Адправіўшы мінскіх гасцей, якія прабылі ў мяне два дні, выйшаў на вуліцу. А там ідуць з нашага канца трохі расчырванелыя жанчыны.

— А чаму ж цябе не было на памінальным стале? — глядзіць на мяне, спыніўшыся, Манька.

Я вылупіў вочы, пытаю з трывогай:

— Які стол?

Аказваецца, памерла Сымонава Волька! Яна гэтым летам і не паказвалася ў Зялёнай Дуброве: яшчэ з восені жыла ў Залужжы, у дзяцей, бо моцна расхварэлася.

Бавячыся з мінскімі гасцямі, я нават і не чуў пра яе смерць. Звычайна ж пры такой невясёлай нагодзе я аддаю даніну павагі нябожчыкам-дуброўцам: усе ж мы ў той ці іншай ступені свае, далёкая ці блізкая радня.

Волька-Сымоніха была простай калгасніцай, пакорліва хадзіла кожны дзень за «палачкі» на работу. Ціхая, баязлівая жанчына. У вайну яе, тады яшчэ маладую і поўную сіл, схапіў у недалёкім Дрычыне, адкуль яна родам, нямецкі хапун і разам з вялікім гуртам моладзі патарабаніў у «цывілізаваную» Германію ў рабства. Я быў рады памагчы ёй атрымаць ад нямецкіх улад за гэта належную ёй кампенсацыю.

Хоць была Сымоніха непісьменная, мне заўсёды было цікава з ёю пагутарыць. Яна з дзяцінства зберагла незасмечаную ніякімі ўплывамі нашу вельмі каларытную беларускую мову. З яе вуснаў так і бліскалі жывыя перліны рэдкіх, незалітаратураных слоў ды выразаў. Я планаваў сёлета як найдаўжэй пагутарыць з ёю, запісаць яе народную мову на сваім дыктафончыку. Чакаў толькі, калі яна прыедзе з Залужжа. І от прыехала. Толькі ніколі ўжо яна нічога мне не раскажа. Гэтак вот адкладваем мы часта на потым, можа, самае важнае і спахватваемся занадта позна.

* * *

У нас адрозніваюць тры стадыі адносін паміж мужчынам і жанчынай: сімпатыя, любоў (яна не заўсёды ўзаемная) і каханне (калі пачынаецца фізічная блізасць, узаемная адданасць).

* * *

За маім агародам зацвілі сонцы. Назву гэтых кветак я пачуў у адным з сваіх падарожжаў па Беларусі, на захадзе Міншчыны (як іх называюць у нас, я ні ў кога не дапытаўся). Ярка-жоўтыя, з вузкімі даўгаватымі пялёстачкамі-промнямі, яны — як праўдзівыя сонейкі! Трохі нагадваюць кветкі падбела, але большыя і болей падобныя на сонца. Да таго ж, калі ў падбелу на кароценькай сцяблінцы адна кветка, тут на высокай пруткай сцябліне яны сабраны ў роўны прыгожы пучок — гатовы букет. Букет сонцаў!

Гэта, здаецца, расліна не лекавая, дый на корм жывёле яе не ўжываюць. Не засмечвае яна і поле: расце дзе-небудзь на ўзмежку ці на ялавінах між бадылля. Мусіць, таму не надта і заўважаюць яе ў нас. Слізгане хто вачыма і праходзіць міма. А калі б сарваў які малады чалавек і паднёс любай дзяўчыне на адной сцябліне тыя шэсць ці сем сонцаў, як бы яна сама засвяцілася ад шчасця і ўдзячнасці!

* * *

Перачытваю «Запіскі паляўнічага» Івана Тургенева. Нібы хаджу разам з ім пескавымі палявымі дарогамі з запалавелым жытам ды сінімі разлівамі расквітнелага лёну абапал, кладуся на сіўцовыя купіны адкрытых небу мройлівых паўдзённых лугоў з астраўкамі купчастых вербалозаў ды прарэзлівым крыкам кнігавак, зачэрпваю даланямі і п'ю сцюдзёную, аж заходзіць у зубы, чысцюткую ваду з прытоенай у задзірванелым яры жывой крынічкі, шамачу асеннім жаўталісцем лясных дарог і звярыных сцежак.

Як жывыя, устаюць перада мною і людзі, што сустракаюцца ў паляўнічых блуканнях, найболей простыя прыгонныя сяляне, бедныя сваім адзеннем, але гэтак багатыя душой!

Са школьных гадоў зачытваўся я тургенеўскімі раманамі «Рудзін», «Дваранскае гняздо», «Бацькі і дзеці» і нават не «жалаваным» крытыкамі «Дымам». І ўсё ж «Запіскі паляўнічага», думаю — самая значная кніга вялікага рускага пісьменніка. У іх жа — не прыдуманыя, пісаныя з самой натуры карціны сялянскага жыцця Расіі сярэдзіны XIX стагоддзя, цудоўныя апісанні прыроды, так блізкай нашай, беларускай.

Чытаць «Запіскі» хочацца яшчэ і таму, што, узяўшы іх у рукі, з нашага многашумнага цывілізаванага свету нібы апынаешся ў затрыманым пяром Тургенева свеце непарушнай цішыні, першабытнай прыроды, дзе яшчэ і блізка няма гэтага няўціхнага машыннага гуду і смуроду. На палявых дарогах і шырокіх бальшаках пачуеш там хіба толькі тарахценне мужыцкіх калёс ды шляхецкіх брычак, іржанне ды пафыркванне коней.

*(Заканчэнне будзе)*

памяць

Мікола Купрэеў



...багемнасць і бамжоўства

ўжываліся ў ім адпрыродна...

# Вандроўнік вечнага часу

***Да 75-годдзя Міколы КУПРЭЕВА***

Я пазнаёміўся з Міколам Купрэевым, калі яму было 55 гадоў. І ўжо тады ён выглядаў даволі старым чалавекам. Фізічна. Жыццё трапала яго... з малалецтва... Пра гэта можна прачытаць у яго выбудаваных на падмурку ўласнай біяграфіі аповесцях (ад “Дзіцячых гульняў пасля вайны” да “Лістоў з млына”).

Ён жыў на два светы: унутраны (ілюзорна-паэтычны, надуманы, створаны ўласна ім) і свет вонкавы (рэальны, жорсткі, неспагадлівы да яго лёсу). Як пісаў ён сам:

> ...ця**я**гнуць мяне з маім чорным лёсам
> д’ябал – у пекла, анёлак – у рай...
> Між Ладам тваім і маім Хаосам
> от і жыві тут – хоць памірай”

*Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў – Леаніда ГАЛУБОВІЧА.*

Да яго жыцця, так ці інакш, спрычынілася шмат дабрадзейных і спагадлівых людзей. Значна больш, чым нягоднікаў і абыякавых. Калі, працуючы ў “ЛіМе”, я наважыўся прапанаваць кіраўніцтву холдынга выдаць літаратурную (найперш

празаічную) спадчыну Міколы Сымонавіча, з гэтым, нечакана для мяне, тадышняе начальства (Алесь Карлюкевіч) не толькі пагадзілася, а нават актыўна і зацікаўлена падтрымала такую задумку. Так на першапачатковым энтузіязме і выйшаў першы з двух запланаваных тамоў – ёмкая і салідная кніжка прозы Міколы Купрэева "Палеская элегія", складзеная з пяці аповесцей, уступнага артыкула пра жыццё і творчасць аўтара і колішняй прыжыццёвай гутаркі з ім. У розных рэгіёнах берасцейшчыны адбыліся прэзентацыі кніжкі. Выданне атрымала запар дзве прэміі: адну афіцыйную – літаратурную імя Уладзіміра Калесніка ад Берасцейскага аблвыканкама, а другую, прыватную, – "Мядовую прэмію" ад фермера-пчаляра з Пружаншчыны Міколы Папекі. Папекі (пра *неатрыманне* ад новай суверэннай улады напрыканцы 90-х гадоў Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і ўручэнне "наўзамен" ад пакрыўджанай пісьменніцкай арганізацыі Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова ўжо не раз згадвалася, у тым ліку і ў "Дзеяслове"). Аднак другі том, спатыкнуўшыся на фінансавай, а пасля непатлумачанай кіраўніцтвам холдынга сітуацыі, так да гэтага часу свету і не пабачыў. Хоць быў скампанаваны і гатовы да рэдагавання. Туды ўвайшлі дзве апошніх аповесці, недрукаваныя ў зборніках вершы і даволі аб'ёмны шэраг успамінаў, большасць з якіх паступова былі выдрукаваныя на старонках тыднёвіка "ЛіМ". Я думаю, тыя з іх, якія тут прапануе часопіс "Дзеяслоў", дададуць чытачам разумення і ўражлівасці ад неардынарнай і неадназначнай творчай постаці і чалавечай жыццёвай сутнасці таленавітага паэта і пісьменніка.

Так, Міколу Купрэеву многія дапамагалі ў яго бадзяжным і пакутлівым жыцці. І што?! Ён перайначыўся, пераламаў свае паводзіны, груба кажучы, ачалавечыўся ў фізічным і бытавым плане? Ды не. Чаму? А таму, што быў *хворы*. Ён быў *хворы* на дадзены Богам талент... у дадатак з нажытым алкагалізмам і валацужніцтвам. Багемнасць і бамжоўства ўжываліся ў ім адпрыродна. Як і Анатоль Сыс, не зважаючы на падтрымку людзей, – і матэрыяльную, і псіхалагічную – Мікола (міжволі) імкнуўся да самавызначальнай ізаляцыі ад грамадства і, як вынік, – скончыў па сутнасці самазгубствам. Калі Сыс *свядома* ішоў шляхам *выклятага паэта* (дазволю сабе такі выраз), то Купрэеў прыйшоў да таго ж выніку натуральным чынам.

Памятаю, пры першай нашай сустрэчы з Міколам у яго вядомай "панскай" мансардзе ў Папялёве, у прасторных узвышаных апартаментах лётаў прыгожы markdownознакаляровы матыль. Тэлевізійны рэжысёра Валодзя Таміла (ужо нябожчык, пухам яму зямля), узрадаваўся гэтаму і пачаў здымаць паэта ў такім *прыматылёвым* лятучым антуражы... Аднак, калі той "абжыўся" ў сітуацыі і пачаў назойліва лезці ў камеру ды на ўзмакрэлую ад юпітэраў лысіну Купрэева, узяўся выганяць матыля, грозна махаючы газетай, не на жарт стараючыся таго прыбіць... І тут Мікола паўстаў на жорсткую абарону свайго "кватаранта". Што і казаць, калі для рэжысёра матыль быў часовым мілым антуражам для тэлездымак, то ў Купрэева – штодзённай прыроднай з'явай яго правінцыйнага жыцця (мансарда стаяла літаральна ў ста метрах ад шлагбаума на ўездзе ў Белавежскую пушчу)...

Элітарны ў сярэдзіне 90-х гадоў часопіс "Крыніца" ад часу публікацыі прозы Купрэева добра дапамагаў яму ў матэрыяльным плане. Галоўны рэдактар Уладзімір Някляеў падпісваў Міколу ганарар па самай высокай стаўцы, а да таго ж яшчэ, тут-сюд, і розныя грашовыя прэміі дадаваліся. Таму аднойчы, гледзячы на заношаны Міколаў выгляд, вырашылі ўсёй рэдакцыяй, што я, узяўшы ў бухгалтэрыі немалыя Міколавы грошы, завяду яго ва ўнівермаг ды нанова па-шляхетнаму апрану. Купілі яму ўсё – ад шкарпэтак да зімовай шапкі – уключна з касцюмам, кашуляй, швэдарам, курткай, чаравікамі і... гальштукам). Але як ён, бедны, умольваў мяне вачыма ды ўпрошваў не купляць нічога

лішняга, гледзячы на драбнеючы ў маіх руках жмут грошай... “Хопіць, Лёня, хопіць, каму гэта ўсё?!” Так баяўся, што мала застанецца на *прычашчэнне*. З універмага я завёў яго на сваю кватэру і добра-такі выкупаў у гарачай ванне, а пасля склаў у цэлафанавы пакет і выкінуў на сметнік усе ягоныя абноскі... Прыадзеўся Мікола – франт-франтам, хоць ты Нобелеўскую прэмію давай! А ўжо назаўтра вечарам тэлефануюць мне з Дома літаратара: забярыце тут у нас шалік, пальчаткі і шапку свайго сябра... Выпіў і пакінуў іх у гардэробе Мікола Сымонавіч, а сам паехаў электрычкай на сваю Пружаншчыну, далей спазнаваць свет прыроды і чалавека... Такім быў Купрэеў у жыцці. І іншым – таксама быў. Іначай не застаўся б знаным творцам у гісторыі нацыянальнай літаратуры.

У мяне захоўваецца вялікі эпісталярый М. Купрэева (100 на 100 лістоў нашага больш чым дзесяцігадовага ліставання). Час ад часу з’яўляюцца на свет і асобныя праявы яго творчай спадчыны. Аднак арыгіналаў яго вялікай прозы апошняга часу, на жаль, не захавалася. Прычына простая, нават банальная: папера, на якой пісаліся творы (на калене, на пні, на краі ванны ў сухотным дыспансеры), была такой *спрацаванай* (зацёрханай і зашмальцаванай), што захоўваць яе было вышэй усякіх сіл. Бог даў яшчэ, што вычытку і рэдагаванне іх я ўсё ж зрабіў належным чынам, расчытаўшы каравы почырк аўтара...

Ці быў ён, як некаторыя пішуць, маргіналам, у поўным сэнсе гэтага слова? Складана сказаць адназначна. Ён выбіраўся з традыцыйнага беларускага балота на выспу шырокага светагляду, мосцячы гаць лаўжамі ўласнага жыццёвага вопыту, – ішоў сваім натуральным, а не інтэлектуальна запазычаным з Усходу ці Захаду шляхам. Хоць, безумоўна, вучыўся і браў урокі шмат у якіх творцаў свету.

Але, найперш дзякуючы яго ўласнаму арыгінальнаму мастацкаму мысленню і стылю, лепшыя паэтычныя і празаічныя творы Міколы Купрэева запатрабаваныя нашым часам і, ёсць спадзяванне, будуць узятыя з яго літаратурнай спадчыны нашымі нашчадкамі. Яны таго вартыя.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ.**

## Вяртанне ў юнацтва.

***Успамін жонкі пісьменніка Таццяны Гаўрыс***

Маё юнацтва прыпадае на студэнцкія гады (1957-1962, Брэсцкі педінстытут імя А.С. Пушкіна, філалагічны факультэт), паездку на цаліну, сяброўства з Міколам Купрэевым, якое хутка перарасло ў каханне.

Добра памятаю першую сустрэчу. Ужо даўно ідуць заняткі, мы старанна вучымся, слухаем лекцыі, канспектуем іх. Нечакана ў аўдыторыі з’яўляецца новы студэнт. Ён уладкаваўся па-суседску якраз за маёй спіной і страчыў эпіграмы, вершы і нават паэмы. Гэта і быў Мікола Купрэеў. У адрозненне ад нас, учарашніх школьнікаў, ён ужо меў жыццёвы вопыт, шмат чаго пабачыў, вандруючы па краіне. Івацэвіцкую школу скончыў у 1955 годзе, спрабаваў паступаць у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на факультэт журналістыкі, ды не прайшоў па конкурсу. Лёс занёс яго ў геалагічную партыю і кудысьці яшчэ, аб чым успамінаць тады не хацеў і не любіў. Праз год быў залічаны ў Брэсцкі педінстытут, але займацца не стаў – узяў акадэмічны водпуск (адпачынак). І вось цяпер сядзіць побач і дасылае мне запіскі-гумарэскі: “Я б давно уже уехал в Тавриз иль в какой-нибудь полуденный Шираз, если б не было здесь, в Бресте, Гаврис и её сверлящих и суровых глаз...”

Чытаючы іх, я глядзела на Колю з дакорам, гаварыла, што займаецца глупствам, лепш бы слухаў выкладчыка і запісваў “разумнае, добрае, вечнае...”



Мікола Купрэеў з жонкай Таццянай. 1960-я.

Неўзабаве прыйшла першая студэнцкая вясна, зацвілі акацыі і каштаны. Рыхтуючыся да экзаменаў, мы, першакурснікі, адпраўляліся ў крэпасць, дзе было пустынна, ніхто не перашкаджаў. Па дарозе дамоў (у інтэрнат) аглядалі разваліны, любаваліся зараслямі (зараснікамі) чаромхі і бэзу. Разам з намі, стайкай вясёлых гарэзных дзяўчат, часта блукалі і юнакі (іх у групе было ўсяго пяць), яны дарылі нам букеты чаромхі і палявых кветак. Коля стараўся быць побач са мною і маёй сяброўкай-зямлячкай Жэняй Баранковай. Рамантычны юнак, цікавы субяседнік, ён мог падоўгу пранікнёна дэкламаваць вершы і паэмы Аляксандра Блока, Сяргея Ясеніна і свае таксама. Я ўжо ведала, што вырас ён без маці (яе ў вайну немцы застрэлілі), бацька ажаніўся на маладой жанчыне (з маладой жанчынай), якую Коля і яго сястра Валя амаль не цікавілі, а сваіх дзяцей ёй Бог не даў. Стала вельмі шкада сімпатычнага таленавітага юнака, вершы якога хваліў сам Уладзімір Калеснік (ён выкладаў у нас сучасную беларускую літаратуру і кіраваў творчым гуртком, дзе абмяркоўваліся “першыя пробы пяра”). Я паверыла ў яго дар, раіла не пісаць на рускай мове, бо на роднай яго лірыка лепш гучыць, мацней кранае сэрца. А ён працягваў гаварыць мне пра сваё каханне па-руску: “Отдай мне свой пламень, отдай на века – все годы твои пронесу на руках...” (недзе гады два яшчэ пісаў на дзвюх мовах, пакуль не пасталеў).

Пасля летняй сесіі ў ліпені 1958 года нас, першакурснікаў-камсамольцаў, направілі ў Казахстан на ўборку цаліннага ўраджаю ў Акмолінскую вобласць, прычым арыентавалі на летнія месяцы, а затрымалі аж да замаразкаў (вярнуліся дахаты ў лістападзе). Аб гэтай цаліннай эпапеі раскажа ў сваіх успамінах Вольга Іванаўна Ратнікава, наша абаяльная аднакурсніца Волечка Жыткоўская.

Другі студэнцкі год быў азнаменаваны частымі спатканнямі, я ўжо і маму нават пазнаёміла з Колем, калі яна прыязджала да мяне ў госці. Ён жа папрасіў у яе маёй рукі, ды пачуў у адказ, што яшчэ рана заводзіць сям’ю, трэба спачатку закончыць вучобу. Мудрая маміна парада засталася па-за ўвагай, бо мы ў жніўні 1959 года зарэгістравалі свой шлюб у Брэсцкім ЗАГСе.

Паэзія саступіла месца Прозе. Адразу ж пазнаёмілася з бацькам Колі, і Сямён Іванавіч расказаў пра цягу сына да алкаголю пасля таго, як яго, яшчэ хлапчука, у геалагічнай экспедыцыі “частавалі” гарэлкай. Прызвычаіўся там да чаркі. “Нічога, – сказала я, – ён кахае мяне, дапамагу яму справіцца з гэтай нагодай.” Бацька толькі паківаў галавой...

На трэцім курсе пачаліся і матэрыяльныя праблемы. Пакой у інтэрнаце нам не далі, прыйшлося ісці на кватэру, пасля зімовай сесіі стыпендыю Коля не атрымаў і таму перавёўся на завочнае аддзяленне (1960 г.), уладкаваўшыся на працу ў рэдакцыю Драгічынскай раённай газеты, дзе, відаць, не ўсё ў яго зала-

дзілася, бо прыязджаў да мяне ў Брэст заўсёды галодны, без грошай, шукаў іншае месца. І знайшоў. З 1 студзеня 1961 года стаў настаўнічаць у Пранчакоўскай сярэдняй школе Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, выкладаў там беларускую літаратуру. Туды адразу ж тэлеграмай вызваў і мяне (“Без тебя пропаду здесь!”). Здаўшы экзамены на павышаную стыпендыю (гэта 50 рублёў), я перавялася на завочнае аддзяленне і паехала “ратаваць” мужа. З 1 лютага я ўжо працавала там настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў старэйшых класах. Мой заробак складаў 57 рублёў (стаўка з незакончанай вышэйшай адукацыяй была тады 60 рублёў, з вышэйшай - 80), а ў Колі і таго меней, ды і не заўсёды даносіў грошы дамоў: было многа іншых шляхоў – “сябры” чакалі ў Ляхавічах, Баранавічах, Ганцавічах... Цяжкасцей хапала. Кватараваць давялося на хутары, у хаце не было электрычнасці, рыхтавацца да ўрокаў і правяраць сшыткі трэба было ля керасінавай лампы (лямпы), а страву варыць на керагазе ў халодных сенцах. Але гаспадыня была добрая, спагадлівая, прадавала нам малако, дапамагала парадай.

Нягледзячы на ўсё гэта, працаваць было цікава і радасна. Школа размяшчалася ў былым панскім маёнтку, месца жывапіснае, калектыў дружны, узначалены мудрым кіраўніком Іванам Васільевічам Мальцам. Жонка яго працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры. Жылі яны ў новым доме каля самай школы, дзе пазней кватаравалі і мы, калі Малец І.В., прадаўшы дом, пераехаў у Дзяржынскі раён Мінскай вобласці. Дарэчы, сам таго не жадаючы, Коля “пастараўся”, каб школа страціла добрага дырэктара. А было гэта вось як. Для прысваення звеннявой калгаса “Героя Сацыялістычнай Працы” ёй прыпісалі ўраджайнасць цукровых буракоў у некалькі разоў большую, чым было на самой справе. Мы, настаўнікі, разам з вучнямі выбіралі буракі і падлічылі, колькі іх вырасла на калгасным полі. Лічбы былі далёка не тыя, што друкавалі раённая і абласная газеты. Коля абурыўся, захацеў вывесці на чыстую ваду мясцовых партыйцаў і напісаў аб гэтай “ліпе” ХХІІ з’езду КПСС. Памятаю, як мой няўрымслівы муж збіраў подпісы. Дарэчы, я адмовілася падпісацца і пацікавілася, што думае аб гэтым пасланні дырэктар. Зразумела, што ён не адобрыў такога парыву і як у ваду глядзеў. Пісьмо з Масквы адаслалі мясцовым уладам, тыя арганізавалі праверку школы і як вынік – дырэктара зволілі (звольнілі) з пасады.

Вучні любілі нас, маладых настаўнікаў, а мы стараліся праводзіць цікавыя гутаркі на ўроках, літаратурныя вечарыны, хадзілі з імі на экскурсіі і ў паходы па родным краі.

А працаваць было нялёгка: на 4 курсе я практыку прайшла толькі ў 5-7-ых класах, а выкладаць давялося ў 9-10-ых, і класным кіраўніком назначылі ў 10 клас, а ў Колі наогул не было практыкі – толькі рэдакцыйныя будні. Прыходзілася многа чытаць, займацца самаадукацыяй і мерацца сілаю з “зялёным змеем”.

Мне яшчэ верылася, што каханне ўсё пераадолее, а Чалавек паднімецца над сваімі слабасцямі, калі захоча.

Думала, змагу дапамагчы. Не дала рады. Нават нараджэнне дачкі ў 1962 годзе нічога не змяніла. З ёю паехалі мы здаваць дзяржаўныя экзамены, на якія Коля амаль не звяртаў увагі, як і на мяне з дзіцем. Ён прападаў вечарамі на творчых сустрэчах, ездзіў па сёлах і райцэнтрах Брэстчыны, дзе чытаў свае вершы, з’яўляўся на кватэру раніцай, радасны і акрылены. Я ж, не спаўшы ўсю ноч (у дачушкі рана пачалі рэзацца зубкі), хвалявалася і за яго, і за экзамены, якія належала здаць. І ўжо тады, у 23-гадовым узросце, я зразумела, што ні я, ні дзіця, ні вучоба, ні праца майго мужа не цікавяць, што галоўнае яго прызначэнне – творчасць, і ён па-юнацку вітае ў нябёсах, шукаючы натхнення ў новых сустрэчах, у прыродзе, а магчыма і ў выпіўцы...

Здаўшы выпускныя экзамены, атрымаўшы дыпломы, мы разбегліся: Коля застаўся ў Брэсце, а я паехала дамоў у Клецкі раён адна з 6-месячным дзіцём,

а ў Сіняўцы нас сустрэла мама, у якой мы адпачылі да пачатку новага навучальнага года.

Праз два тыдні з’явіўся туды і муж, папрасіў прабачэння за свае загулы, абяцаў ледзь не залатыя горы. Хацелася верыць, што ён пасталеў і ўсё ў нас наладзіцца... Коля шмат пісаў, рыхтаваў да друку ў раённай газеце новыя вершы і часта падоўгу гуляў на беразе Начы (была жывапісная рачулка ў вёсцы Панача, багатая рыбай, ракамі і крынічкамі. На жаль, цяпер яна ператварылася ў канаву – пастараліся меліяратары).

Хутка час настаў вяртацца ў Пранчакі, бо водпуск (адпачынак) скончыўся. Там я і даведалася, што ў мужа многа даўгоў (і сельскіх, і брэсцкіх – добра “замочваліся” нараджэнне дачкі і атрыманне дыплому), а разлічвацца трэба мне, так у нас павялося. Грошай жа не было... “Любовная лодка разбилась о быт”. Непаразуменні раслі, што не спрыяла зближэнню. У мяне пачаліся нелады са здароўем. Таму летам 1964 года мы пакончылі з сямейным жыццём, і Коля паехаў настаўнічаць на Палессе (Ганцаўшчыну), а я засталася ў Пранчаках.



*Мікола Купрэў. Канец 1980-х.*

І хоць мы працавалі ў адным раёне, лёс нас не зводзіў болей разам. Жыў Коля як вольны вецер. Дачку не наведваў, аліменты не плаціў (я адмовілася). Сустракаліся мы толькі ў раённым судзе, які нас не разводзіў – усё давалі выпрабавальныя тэрміны. І толькі Брэсцкі абласны суд (выязны, г. Баранавічы) у сакавіку 1965 года скасаваў наш шлюб, і я зноў атрымала дзявочае прозвішча.

Ведаю, што афіцыйна Коля яшчэ два разы жаніўся, ад трэцяга шлюбу нарадзіўся сын Андрэй, недзе на 4 гады малодшы за нашу дачку.

Адзінае, што засталося ў мяне на памяць – першы зборнік вершаў “Непазбежнасць” (1967 г.), куды ўвайшлі лепшыя творы, напісаныя ў пачатку 60-х гадоў, і прозвішча дачкі... Я заўсёды сачыла за яго творчым ростам, чытала публікацыі ў “ЛіМе”, “Маладосці”, “Нёмане”, “Полымі” і “Крыніцы”. Мяркую, што ён змог бы надрукаваць значна болей, каб не губляў запісныя кніжкі і сшыткі з вершамі, нарысамі і замалёўкамі многіх рэчаў.

На жаль, рана пайшоў Мікола з жыцця. Цярністым быў яго шлях і не нам судзіць паэта. Бязгрэшных людзей няма. Цяпер адзін Бог яму суддзя, дарэчы, як і ўсім нам. Непрыемна чытаць публікацыі тыпу (кшталту), колькі рублёў і ў каго пазычаў паэт і не разлічыўся...

Галоўнае, што творы яго жывуць, лірычная споведзь кранае сэрца і, здаецца, што ён тут, побач з намі, жартуе, усміхаецца, разважае...

Пісаць успаміны было балюча. Хочацца пажадаць усім маладым і таленавітым не губляць свой дар, Богам дадзены, а берагчы і развіваць яго.

*Жнівень 2007 г.*

## Погляд са студэнцкіх часоў

### *Успамін аднакурсніцы Ядзвігі Бычковай (Асецкай)*

Якім я помню Міколу Купрэева?

Для мяне гэта не зусім простае пытанне. Я вучылася з ім у адной групе Брэсцкага педагагічнага інстытута толькі два першыя курсы, прычым жыла не ў інтэрнаце, дзе жыў Коля. І ўсё ж я яго добра памятаю: такія людзі не забываюцца.

Калі гавораць пра Колю, я чамусьці бачу як ён заходзіць у аўдыторыю, як шукае вачыма Т. Г. і садзіцца бліжэй да яе. Я бачу яго русыя, трошкі закучараўленыя валасы і, як памятаецца, чубок над ілбом , яго светлыя вочы, – па-мойму, яны ў яго былі блакітныя, хоць я не ўпэўнена ў гэтым, магчыма, і шэрыя.

Але не ў колеры сутнасць тых вачэй. Галоўным, мне думаецца, было ў іх выяўленне нейкай адстароненасці, нейкай адсутнасці там, дзе мы былі, і ў той жа час гэта было выяўленне поўнай незалежнасці ад усяго іншага. Вочы Колі, здавалася, былі ледзь прытушаны (але не затуманены, як гэта іншы раз бывае – гэта зусім розныя рэчы). Здавалася, Коля жыве нейкім сваім багатым унутраным жыццём. Так яно і было. Гэта была творчая і светлая асоба. Як паэт ён ужо тады, на 1-м курсе, назіраў за жыццём сваім купрэеўскім зрокам і бачыў яго ў абсалютна розных праявах, фарбах, адценнях. Так, Коля ўжо тады адрозніваўся ад другіх сваёй вельмі заўважнай нестандартнасцю, складанасцю. Гэтага нельга было не заўважыць і ў яго нешматслоўных выступленнях на семінарах, і ў яго рэдкіх рэпліках на перапынках паміж лекцыямі.

Вядома, Коля кахаў Т. Нельга было не бачыць, з якім захапленнем глядзеў ён на яе доўгія цёмныя валасы, з якой пяшчотай глядзеў у яе строгія сінія вочы. І таму зусім невыпадкова нарадзіліся ў яго радкі ў ясенінскім стылі, якія гулялі па факультэце ў розных рэдакцыях. Да мяне дайшлі ў такой рэдакцыі:

> Я бы поехал в какой-нибудь Тавриз
> Или в какой другой Шираз,
> Если бы не было в Бресте Гаврис
> И её прекрасных синих глаз.

І яшчэ ўспамінаецца: студэнцкі інтэрнат, доўгі стол з рознымі прысмакамі, нашы студэнты, дзе галоўныя Коля і Т. Валасы ў Т. ужо не доўгія спадаючыя, а забраныя ўверх у вялікі цяжкі вузел. Там я бачу і сябе з В. Б. (студэнтам-медыкам з Мінска, які пасля стаў маім мужам)... Цікавы быў, малады час.

Коля здаваўся рамантыкам і, вядома, быў ім. Калі я цяпер успамінаю Колю, я бачу яго светла-шэры пінджак і ўвогуле бачу чамусьці ўсё светлае, што звязана з ім, з яго жыццём, з яго напоўнай тонкім адчуваннем і псіхалагізмам творчасцю. І гэты самы псіхалагізм падказвае мне вядомую біблейскую мудрасць: “Не судзі...”

Вельмі хочацца прачытаць усё ім напісанае...

## Блакітны каптанік у карунках…

### *Ліст ад сястры Міколы Купрэева Валянціны да Леаніда Галубовіча*

Піша Вам сястра Міколы Купрэева Валянціна. Я даўно ўжо хацела сказаць Вам, Леанід Міхайлавіч, вялікі дзякуй за памяць аб маім браце, за добрыя Вашы адносіны да яго яшчэ пры жыцці. Ваш ліст да Колі (так я яго заўсёды называла)

і цяпер берагу, калі-нікалі перачытваю, каб яшчэ і яшчэ раз адчуць, што ёсць у нашым жыцці і цудоўныя таварыскія адносіны адзін да аднаго, і спагада да чужой бяды. Гэта я маю на ўвазе апошні ліст Ваш (з працягам) да Колі ў Лясную, які прыйшоў туды за тры дні да яго смерці. Брат ужо не змог прачытаць яго сам. Чытала яму медсястра. (Яна і аддала яго мне), расказаўшы, што калі яна чытала, Коля ляжаў і слухаў неяк быццам безуважліва, але, калі яна скончыла чытаць, то ўбачыла, як па яго шчоках ціха цякуць слёзы...

Я так доўга збіралася Вам, Леанід Міхайлавіч, напісаць, таму што смерць брата зусім падкасіла маё і без таго не вельмі моцнае задроўе. Тым больш, што гэта была трэцяя смерць у нашай хаце за апошнія дзевяць месяцаў. 25 студзеня 2003 года памёр бацька, 5 сакавіка 2004 года не стала маці і вось (надышоў) чорны дзень 19 верасня, калі не стала і брата. Усе гэтыя страты закончыліся маім інсультам, ад якога я ніяк яшчэ не магу аправіцца. Праўда, дзякуючы сваёй дачушцы, я не ляжу, а хаджу і па хаце, і па двары, дапамагаю глядзець маленькую ўнучачку Іначку, якая нарадзілася 2 гады назад. Старэйшая, 10-гадовая Алінка помніць дзядзьку Колю, часта расказвае, пра што яны з ім гаварылі, якія гасцінцы ён ёй прывозіў, ганарыцца ім. Ну, усё гэта невялікае адступленне ад таго, што я хацела сказаць.

Я, ведаеце, Леанід Міхайлавіч, ужо ніколі не змагу пазбавіцца ад успамінаў пра апошнія 2 месяцы жыцця Колі, ад таго, калі ён ляжаў яшчэ ў пружанскай бальніцы. Дзён дзесяць я жыла ў яго кватэры, каб быць бліжэй да яго. Наведвала яго па два разы на дзень. Хаця ў памяці яго наступалі нейкія правалы, ён заўсёды прасіў мяне прынесці пачытаць газеты, асабліва “ЛіМ”. Яшчэ прасіў прынесці цыгарэт і вельмі злаваўся, калі я не выконвала яго просьбы, даказваючы яму, што ў палаце ж нельга курыць. А ён гаварыў, што выйдзе пакурыць на вуліцу. А як жа ён выйдзе пакурыць на вуліцу, калі нават на бок не можа павярнуцца самастойна, такія глыбокія і балючыя пролежні былі ў яго. Урач сказала, што нічым яму ўжо нельга дапамагчы ў бальніцы. Трэба яго адпраўляць у Дом інвалідаў і састарэлых. У маім уяўленні гэта былі светлыя Дамы, дзе жывуць паўнапраўным жыццём адзінокія людзі, якія знаходзяць сабе там сяброў, займаюцца любімай справай, а пры жаданні могуць і пайсці адтуль да сваіх блізкіх. Карацей, у маім уяўленні гэта былі кіношныя Дамы састарэлых (тыпу Ждановічаў). Я так і думала: “Вось Коля пабудзе ў Лясной, пролежні там яго загояцца (уколы яму ж рабілі, мазалі нечым). Словам, будуць рабіць тое, чаго я сама не здужаю. А поым ён будзе жыць у бацькоўскай хаце, а мы будзем дапамагаць яму...

А што ж было на самой справе? Ганна Хадаровіч, завёзшы Колю ў Лясную, пазваніла мне і расказала, як ён паводзіў сябе па дарозе. Казала, што ён неяк ажывіўся, гаварыў, што ён некалі быў тут, у Лясной. Прасіў, каб яму прывезлі паперу, ручку: будзе пісаць. Мне крыху лягчэй стала на душы. Праз 3-4 дні я паехала наведаць брата, накупіўшы яму і паперы, і ручак, і яшчэ таго-сяго.

Падыходзячы да Дома, адчула нейкую трывожнасць у паводзінах яго жыхароў. Потым высветлілася, што ў Доме рыхтаваліся да пахавання аднаго з яго жыльцоў. Зайшоўшы ў палату, дзе ляжаў брат, я спынілася каля парога, ашаломленая ўбачаным. Іх было двое. На ложку каля акна ляжаў худы, нагала стрыжаны чалавек з дзіцячымі вачамі. І столькі ў іх было болю, тугі, гора. Гэта быў Коля. Я падышла да яго. Ён неяк падаўлена доўга ўглядаўся ў мяне, нібы пазнаючы, а потым сказаў: “Валя, ты чуеш? Гэта ж мяне хаваюць.” І так паўтарыў некалькі разоў. “А з кім жа гэта я размаўляю? – сказала я. – Ты ж тут, Коля, жывы, і я прыехала да цябе!” Пастунова ён вяртаўся да рэальнасці і ўрэшце рэшт сказаў: “А віна ты мне прывезла, а курыць?” Брат так прасіў таго віна, што я, грэшная, схадзіла ў магазін і купіла яму бутэльку. Прынёсшы, наліла грамаў 200. Коля выпіў, павесялеў, пачаў распытваць, чым я прыехала, сказаў, каб доўга не сядзела каля яго, а то яшчэ спазнюся на электрычку. Запытаў, ці прыйшоў яму ганарар. Я, канечне, нічога не ведала пра яго ганарары,



*Леанід Галубовіч ля магілы Міколы Купрэева. Івацэвічы, 2006 г.*

але сказала, што яны былі і іх атрымала Ганна Уладзіміраўна. (А яно, аказваецца, гэтак і было). І яшчэ спытаў, ці званіў яму Лёня Галубовіч, і я зноў сказала, што званіў і абяцаў наведаць яго. Ён зусім паспакайнеў і кажа: “Ну, то ўжо едзь , а то там Алінка цябе чакае. Завязі ёй шакаладку ад мяне.”

Я пайшла ад яго крыху суцешыўшыся. А яшчэ праз дні тры яго наведаў Рымач са сваёй маладой дачкой. Як расказваў Рымач, Коля пазнаў і яго, і яго дачку, успомніў, як яе завуць. Яны нават распілі бутэльку віна і, як кажа Рымач, Коля выглядаў болей-меней бадзёра. Праз тыдзень я зноў паехала да брата. Ляжаў ён у той жа палаце, але ўжо на другім ложку. Мяне ён пазнаў, але быў нейкі згаслы. Расказваў мне: “А я сёння быў там (паказаў наверх), і ты там была.” А пасля зноў стаў прасіць, каб я яму купіла цыгарэт: “ Схадзі, Валя, тут жа блізка.”

– А дзе гэта, блізка? – пытаюся. – А вось за гэтым вуглом.” І паказвае на дзверы. Я дала яму банан. Як маленькаму, адломвала кавалачкамі, клала ў рот і ён доўга-доўга жаваў іх, а потым павярнуў галаву набок, узяў маю далонь і заснуў на ёй, як малы, так соладка. Пасядзеўшы з паўгадзіны, я пачала збірацца на электрычку. Асцярожна выцягнула сваю руку, стала папраўляць коўдру на Колі і аслупянела. Вы ведаеце, у чым ён быў адзеты (а правільней – тое было накінута цераз галаву на адно плячо)? Брат ляжаў у блакітным жаночым каптаніку з карункамі. Ну, гэта быў проста здзек над чалавекам. Ці можна так ставіцца да людзей, хай сабе і хворых. І я зразумела, што справы Колі вельмі дрэнныя, калі з яго так паздзекваліся. Каб хоць трохі было ў яго памяці і сіл, ён не дапусціў бы гэтага.

Я ішла да вакзала, як у сне. Перад вачыма стаяў блакітны каптанік у карунках...

Была яшчэ праз тыдзень у Колі. На гэты раз ён ляжаў у палаце яшчэ з адным чалавекам. Коля ляжаў у чыстай майцы (мужчынскай), есці нічога не хацеў, толькі зноў трошкі з’еў банана і нібы задрамаў. Я пасядзела, пачала збірацца, паабяцаўшы, што прыеду зноў праз тыдзень. Ён паківаў галавой у знак згоды і ціха пацiснуў руку і доўга не выпускаў яе. Было вельмі трывожна і цяжка.

Пасля я ўжо даведалася ад дырэктара Дома, за тыдзень да смерці яму званілі з Брэста і яшчэ аднекуль, распытвалі пра здароўе Купрэева, расказвалі пра яго. І я здагадалася, адкуль такая палата, мужчынская майка, чысценькая пасцелька... Вось так.

На наступную нядзелю (тыдзень) мы дакапалі бульбу, наняўшы трасучку (трасілку). Я радавалася, што ўрэшце пакончана з гэтай работай, і заўтра, думала я, паеду да Колі. Але тут пазванілі. Гэта быў званок з Лясной. Нам паведамілі, што

памёр наш Коля. Трохі сабраўшыся з сіламі, я пазваніла супрацоўнікам рэдакцыі (Мергес) на дом. Папрасіла, каб паведамілі Рымачу і ўсім, хто ведаў брата. Я, нават, мела надзею, што мне дапамогуць з транспартам, каб прыезці брата ў Міханавічы. Нікога і нічога я не дачакалася. Зяцю ўдалося наняць машыну ў ДЭУ. Я сама паехала па яго. Дзякуй дырэктару Дома, які спагадліва аднёсся да майго гора. Хуценька былі афармлены ўсе дакументы. Адтуль, з Дома, я пазваніла ў Пружаны Хадаровіч, сказала, калі будзем хаваць.

Людзей на пахаванні было мала. Былі толькі мае сябры, некалькі былых суседзяў з вёскі. З рэдакцыі Івацэвіцкай і з бібліятэкі не было ніводнага чалавека. Вялікі дзякуй Ганне Уладзіміраўне, Міколу Антаноўскаму, Папеку, якія прымчаліся з Пружан і паспелі на пахаванне.

Мусіць, ужо хопіць, Леанід Міхайлавіч, тлуміць вам галаву. Яшчэ раз вялікі дзякуй Вам за добрую памяць аб маім браце.

**Валянціна БАСАЛАЙ.**

## Прага свабоды

***Такіх пісьменнікаў ва ўсіх літаратурах мала. Але ў савецкай рэчаіснасці яны глядзеліся зусім богведама як.***

***Уявіце сабе паэта – мадэрніста, інтуітывіста, і рознага іншага “іста” – у вёсцы, у палескай глухамані, дзе на лясным прасёлку лёгка можна сустрэць усю Чырвоную кнігу БССР.***

***Шукаючы адапаведнікаў у расійскай літаратуры, я ўспамінаю толькі хіба Аляксандра Дабралюбава. Але і таму – было адкуль сыходзіць (ад сімвалістаў, гашышных брусаўска-гіпіўсаўскіх салонаў).***

***Міколу Сымонавічу Купрэеву не было адкуль сыходзіць. І не было куды ісці. Неверагодна, як можна пражыць з такім светасузіраннем шэсцьдзесят сем гадоў.***

***Можна, вядома, вылічваць яго “дасягненні ў педагагічнай дзейнасці, удзел у літаратурным жыцці Берасцейшчыны” і г. д. Аднак праўдзівей было б гаварыць пра свядомы “няўдзел”, адмову ў “саўдзеле”, які шырыўся і сярод літаратараў, і сярод педагогаў, і шмат дзе яшчэ, не разбіраючы прафесіі і вучонага звання.***

***“Саўдзел” адмаўляў свабоду. Купрэеў адмаўляў “саўдзел”.***

***Прага свабоды асвятляе яго. Гэтая паходня, што з’явілася нават у слабаватых ранніх вершах, вызначае ўсё: паэтыку, статус, пазіцыю.***

***Тое самае і з прозай.***

***І трэба разумець, што так было ў Купрэева адпачатку, як і ва ўсіх нашых вялікіх было – Караткевіча, Быкава, Стральцова, Багдановіча, Купалы. Бо, як адны кажуць, з чым народзіцца паэт, з тым ён і памрэ. А паэзія пакажа, дзе ўдалося не замыліць “інварыянт”, а дзе – не.***

***Гэтае апавяданне – адзін з першых празаічных тэкстаў Купрэева па-беларуску. У рукапісе не хапае некалькіх абзацаў, а магчыма, некалькіх словаў. Апошняя старонка не захавалася.***

***Дзіўна, што наогул нешта захавалася. Наогул, асобнага фонду Міколы Купрэева ў архівах не існуе. Разасобленыя рукапісы яго цяпер збольшага знаходзяцца ў прыватных сховішчах. Літаральна некалькі месяцаў таму адкрылася яшчэ адна знаходка: сын пісьменніка, Андрэй, перадаў шэраг рукапісаў бацькі 1960-х гадоў Ганцавіцкаму краязнаўчаму музею.***

***Большая частка новазнойдзеных аўтографаў і машынапісаў – рускамоўная. Менавіта па-руску былі напісаныя першыя купрэеўскія творы ў прозе. Маецца ў папках і машынапіс першай кнігі “Непазбежнасць”, перапіска***

***пісьменніка з жонкай, лісты ад У. Калесніка, В. Бечыка. Ёсць дзясятак старых фотаздымкаў. Думаецца, што ў ганцавіцкім музеі ставіцца будуць да гэтай часткі асабістага архіву Купрэева з пашанай.***

***Застаецца толькі падзякаваць сп. Андрэю за перахоўванне бацькавых памятак, а музею і асабіста яго старшаму навуковаму супрацоўніку Віталю Герасіменю за садзейнічанне публікацыі твора.***

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ.**

## Мікола Купрэеў

# Пахла ракою

### *Апавяданне*

На світанні – пасля купальскай ночы – у тумане, па дарозе над рэчкай паціху ехалі калёсы. Малады рыжы конік парываўся бегчы, але лейцы стрымлівалі яго, і ён толькі хрыпеў, кідаў галаву ўверх, звінеў цуглямі, глытаў туман, нецярпліва збіваў капытамі расу. Звон цугляў, хоць і глухі ў тумане, абуджаў алешнік. Сонныя птушкі, пацепваючы крыллем, нехаця ўзляталі над кустамі і, праляцеўшы крыху, зноў, сціхаючы, хаваліся ў лісці. І зноў звон цугляў, тарахценне колаў на карчах трывожылі іх.

Алешнік кончыўся. Калёсы выехалі на травяністы высокі бераг. Блішчэлі расой чорныя галавешкі: ішлі тут некалі да самых зор купальскія кастры.

Учора, як і ў такі ж сама вечар год назад, не гарэў касцёр. Галавешкі – з мінулага.

Калёсы сталі.

– І-эх-хэ-хэ!

Чалавек на калёсах, у палукошку, уздыхнуў цяжка і ціха. Пераваліўся на другі бок, абапёрся на локаць. У палукошку запахла падсохлай свежай канюшынай. Чалавек сказаў другому – маладому хлопцу, што ляжаў за яго спіной, закінуў рукі за галаву і, не міргаючы, вялікімі чорнымі вачыма глядзеў угору, слухаў, як у чаротах, ля берагу, сонна плёхалася рыбіна, трымаў у мяккіх поўных губах вільготную канюшыну.

Той сказаў хлапцу:

– От тут мы з ёй выходзілі з туману... – адвярнуўся ўбок, дастаў з кішэні нямецкага шыняля мяшэчак з тытунём. – Са светлага туману, – дадаў ён і злосна, звонка плюнуў уніз, на галавешкі.

Вочы хлапечыя ажылі. Ён узяўся рукою за край палукошка, падцягнуўся і звесіў галаву ўніз – паглядзеў на галавешкі. Убачыў празрысты камячок сліны на чорнай скуры недагарэлага палена – яна мала чым адрознівалася ад буйных кропель расы на ім. “От так”, – сказаў ён – сама сабе. І зноў лёг дагары – закінуў рукі за галаву, неспакойна мяў губамі вільготную канюшыну.

Чалавек у пацёртым нямецкім шынялі здзіўлена глянуў на яго і так і не зразумеў: ці то слязіна трымціць у хлапца на вейцы, ці – кропля расы.

Мужчына павярнуўся да хлапца шырокай спіной. Здаровыя жылы яго на шыі напяліся. Ён сцебануў пугаю па кані, і калёсы лёгка і мякка пакаціліся з пагорку ў прырэчны туман.

Той, ззаду, больш не мог глядзець ні ў нізкае шэрае неба, ні на шырокую шэрую спіну і ненавісную жылістую шыю, – “у-ух!” – прастагнаў ён у роспачы, надрыўна, моцна сціснуў даланямі скроні і ткнуўся гарачым ілбом у акруглы куток слізкага палукошка.

Мужчына азірнуўся на яго з-за пляча, зарагатаў – громка і надоўга: “Ах-ах-ах!..” – бязлітасна рассякаючы гэтым “ах!” туман, раніцу, неба на вострыя кавалкі, на кавалкі – “Ах-ах-ах!” – і хлапец ззаду сцяўся ўвесь, трымцеў, біўся галавой аб слізкую сцяну палукошка – у сцяну! – “Прашу вас, прашу: перастаньце!” – шаптаў ён быццам аднекуль з зямлі і глуха, па-дзіцячаму, плакаў.

– Нічога, нічога, Ванюша! – стрымаўшы рогат, сказаў мужчына. – Нічога, юнаша, гэта мы зробім раз-два, кляпсь – і гатова, ты і спужацца не паспееш... Нічога, юнаша, нічога!

Хлапец сеў на калёсах. Ён шырока глядзеў убок, на рэчку, мокрымі вачыма.

– Маўчыце, – прашаптаў ён.

У голасе яго была вялікая-вялікая, як маленне, просьба, і мужчына больш не сказаў ні слова.

Туман спадаў, гусцеў ля самай зямлі. Вышэй, па баках ужо чыста скразнілася. Дарога крута павярнула ад рэчкі – на пагорак, па мокраму глыбокаму жвіру, у сасоннік, над якім – ужо блізка – распасцёр бурыя шаты стары дрымучы лес.

Хлопец саскочыў з калёс. Нехаця паплёўся ўслед – мясіў ботамі цяжкі спатнелы жвір.

“Нічога, юнаша, гэта мы зробім раз-два...”

Ён плёўся за калёсамі па жвіру – апусціў галаву; як ад назолы-авадня, хацеў адмахнуцца ўраз рукою ад думкі пра тое, што ён павінен быў сёння зрабіць, але рукі нема і цяжка віселі зусім аслабелыя. Пакусаныя губы дрыжэлі ад ранішняга холаду.

А лес збоч дарогі ажываў. Нецярпліва хлопаючы вільготным крыллем, пераляталі праз дарогу, перад самым носам, птушкі. Дзікі галубок адзін нават быў прысеў на драбіну калёс ззаду, скокнуў у палукошак і, нічога там асаблівага не знайшоўшы, падскочыў угору, пакружыў над канём і паляцеў у змрок лесу, натужна вуркочучы – быццам хто дастаў з грудзей сэрца і біў, біў, біў ім па нябачных, тонкіх, як лязо, струнах....

“...Ці даруеш ты мне калі, мама, як даведаешся? Ты ж усё роўна будзеш ведаць: я ж табе сам раскажу некалі, бо я ж табе ніколі не мог зманіць ці ўтаіць. Ты будзеш ведаць пра ўсё. Як я здаровы, ні разу не паранены дваццаць пятага чэрвеня папаў у акружэнне, як цэлы год пражыў за сваяка на хутары ля Шчары – у таго чалавека, які сядзеў у той дзень на калёсах у нямецкім шынялі. Як аднойчы ранкам да нас на хутар з лесу прыйшлі партызаны, і мы пазабівалі ў хаце дзверы, вокны дошкамі і пайшлі ў лес. Як незадоўга перад тым з хутара збегла яго гаспадыня Палашка, якую гэты чалавек узяў некалі гвалтам сабе за жонку – хаця і ў іх калісьці, амаль у дзяцінстве, нешта было харошае, і гэты чалавек сёння паказваў мне, дзе яны выходзілі з ёю з лесу, з купальскай ночы. Як яна тады збегла з хутара, і мы нічога пра яе не ведалі, і толькі ў лесе гаспадар мой пачуў: жонка яго доіць кароў ляснiку Асосу на яго хутары – за кіламетраў дзесяць ад нашага. І мы ў той дзень ехалі, каб забіць яго... Ляснік, мамачка, аказаўся правакатарам, і ў лесе яму прысудзілі смерць. Тое, што ён правакатар, было ўстаноўлена дакладна, нават сам палонны камендант пацвердзіў. Гэта праз яго, праз лесніка, праз яго хутар загінула група нашых хлопцаў, аж восем чалавек, іх расстралялі, патравілі аўчаркамі. У лесніка – я раз бачыў яго ў атрадзе – на адным воку бяльмо, вадзяністае, бруднае бяльмо, а сам ён магутны, і спіна шырай, і жылы на шыі таўсцей, чым у таго чалавека... Ці даруеш ты мне калі, мама? Ты ж усё роўна будзеш пра ўсё ведаць. Бо я ж табе ніколі не мог зманіць ці ўтаіць... Я ж ніколі яшчэ нікога не ўдарыў нават. У тэхнікуме нас вучылі быць настаўнікамі. Мяне вучылі вучыць дзяцей лічыць, чытаць і пісаць. Мяне вучылі вучыць жыць... Гэтаму чалавеку, які некалі даў мне на сваім хутары прытулак, загадалі выканаць прысуд, а ён мой камандзір, і ён загадаў мне, мама, ён загадаў мне – ехаць з ім...”

Апошняе, “з ім”, хлапец сказаў уголас ¬– мужчына на калёсах азірнуўся і зноў сказаў, як падалося там, ззаду, сказаў у тысячны раз адно і тое – жудаснае, шырокае, шэрае і жылістае:

– Нічога, юнаша, ні-ічога, гэта мы зробім раз-два...

“Дзядзька Гаўрыла. Ён даў мне прытулак. Я ненавіджу яго. Гэта цёмны чалавек. Я ненавіджу яго. Тады, ноччу, калі я, знямоглы, пастукаў у яго акно на хутары, ён выйшаў, вялікі, агромністы, у белых сподніках – як здань – і гаркнуў на мяне: “Чаго тут швэндаешся! Будзе тут кожны папярэчны ноччу...” – ён схапіў мяне за руку і проста кінуў у сенцы. Праўда, хоць і мацюкаючыся, ён тут жа, не запальваючы агню, напаіў мяне малаком, даў пераадзецца, больш не выпусціў з хутару... Я не разумею яго – таму ненавіджу. Грубы чалавек, ваўкалак...Я не паспеў, мама, як след навучыцца разумець людзей, нас гэтаму не вучылі...”

– Ні-ічога, юнаша...

“Самае незразумелае: чаму ён выбраў мяне? Ты не думай, мама, што ў мяне слабыя рукі – ты ж ведаеш, што я займаўся штангай і боксам. Яны, рукі мае, зараз, мама, апушчаны... Я ж, мама, гэтымі рукамі яшчэ нічога жывога не ўзрасціў: ні дрэўца – неяк так здарылася, ні травінкі. Нікога ў жыццё не вывеў. І вось – я, такі, адразу – забіць чалавека...”

– Ні-ічога, Ванюша...

Голас быў далекавата. Ён абудзіў Івана, і хлопец стаў. Ён раптам зразумеў, што зараз павінна нешта вырашыцца канчаткова. Што? – ён яшчэ і сам не ведаў. Але яно, тое нешта, ужо надыходзіла, наплывала на яго са спакойных старых, разлапых ялін, апускалася з блакітнага ціхага неба, ішло зялёным подыхам з лясных нетраў, з невядомых яму дагэтуль глыбінь яго самога. Але не паспела: на павароце дарогі стаяў і зпадылба рашуча і недвухсэнсоўна глядзеў на яго – чакаў – Гаўрыла.

– Ну! – сказаў ён. Іван знаў, што гэты чалавек заўжды пачынаў груба, да жудасці груба, а канчаў мякка. – Хутчэй, Ванюша.

Хлапец пайшоў уперад. Сеў на калёсы. Не лёг, як раней, звесіў ногі з палукошка, сашчапіў рукамі калена і бяздумна глядзеў у лес – ні пра што больш не думаў і нічога не бачыў, не адчуваў, увесь аддаўшыся аднастайнаму рыпенню колаў, каляіне, якая кудысьці вяла, глыбокай каляіне, Гаўрылу...

Як сеў Іван цяпер на калёсы, дык да самага вечара не сказаў ні слова.

І толькі быццам праз тоўшчу лесу, чуўся хрыплы бас Гаўрылы.

Ехалі калёсы па вузкай лясной дарозе – дзе трушком, дзе паціху, трасучыся на карчах. Малады конь хрыпеў – грыз адчайна цуглі.

– П-падла, т-такую тваю маць! Дажыўся, сцерва!.. І хто падумаць мог?.. Яшчэ калі мы былі мальцамі, дык я яму быў раз па мордзе даў. Кусок сала быў украў у нас. Злавілі пастухі ў алешніку – хаваў у кусце... Н-но, н-но, Орлік!.. А аднаго разу пайшлі мы гуртам у канаву ўюноў лавіць, дык жа, мярзотнік, нейчы кошык з рыбай перавярнуў сабе пад ногі і крычыць: от гэта маё месца, ад гэтага да таго куста, – трохі пашарыў у гразі рукамі ўпустую, счакаў і стаў тады кідаць прыгаршчамі ўюноў у свой кошык, а тыя хлопцы можа і здагадаліся, ды ўсе меншыя, слабейшыя ад яго былі, баяліся, а ён кідае ўюноў і рагоча... А ў школе? Падлюга!.. Заходзіць настаўнік у клас і пытае: ктуры ўчора по дроге до косцёлу кідал сен грудкамі по собаце ксёндзовэй? Дык ён падымаецца і тыкае пальцам: гэты, гэты, гэты... А сам жа папаў ледзяком у самае вока сабаку... Н-но, Орлік! Ужо скора... Ні-ічога, Ванюша, ні-ічога, дарагі... Н-но! Куд-ды! Нажарэшся аўса лесніковага – н-но!.. Я яму прыпомню, я яму ўсё прыпомню! Ён мне скажа перад тым, як адыйсці ў рай, ён мне скажа, які ён рай устроіў і Грышку з Гуты, і Кастусю з Замошша, і Нячаеву, і Мухтару... Я яго застаўлю па слядах іх паўзці і траву тую цалаваць! Н-но, Орлік!.. Ты толькі, Іван, лярву тую далей у лес завядзеш, к дрэву прывяжаш, кляп у рот заб’еш – хай, хай

перачакае, хай не бачыць і не чуе: баба ўсё-такі... Жэншчына!.. Д-да, жэншчына.. Нічога, Ванюша, нічога, мы ўсё-такі партызаны, людзі культурныя, не бандзіты ж... Ж-жэншчына!.. Так-кую яе!.. Закурым, Ваня? А, ты ж не курыш... Хал-лера, бумага кончылася... Ну, Орлік, давай у лес... К-куды! Н-но! От сюды, сюды, но-но...Та-ак. Стой, Орлік, тпру.

Калёсы сталі. Людзі збочылі з дарогі ў гушчар на метраў дзвесце. Гаўрыла рашучымі, упэўненымі рухамі распрог каня, прывязаў яго за лейцы да яліны, высыпаў з палукошка каню пад ногі канюшыну. Вакол яліны расла густая сакаўная трава з кісліцай – конь здаволена фыркнуў, матнуў мордай, рассыпаўшы рыжую густую грыву, і стаў скубсці траву.

– Мо' перакусім? – сказаў Гаўрыла хлапцу.

Той крутнуў галавой: не.

– За мной! – загадаў Гаўрыла.

Далей пайшло ўсё вельмі хутка, так хутка, што потым Іван не мог успомніць драбніц таго дня.

На краі лесу, на высокім пагорку, Гаўрыла спыніўся. З-за маладзенькіх сасёнак віднелася шырокая даліна, на тым баку каторае таксама быў лес – вялікі, цёмны. Ля таго лесу стаяла прасторная новая хата, жоўтая ад сонца, збоку і крыху далей ад лесу – гумно, злева ад хаты – агарод. На агародзе – некалькі яблынь. Іван нават убачыў яблыкі – у лісці белыя шарыкі. Ад гумна да хаты бегалі на ланцугу два вялізныя чорныя сабакі.

Іван ужо ведаў: там жыве той, каго яны павінны сёння "казніць". Як і чаму гэта здарылася – Іван потым не мог успомніць: але тады, там, на пагорку, ён быў раптам моцна сціснуў рукой у кішэні пісталет. Ён ужо не валодаў сабой, ён быў поўнасцю падуладны таму, што яны павінны былі зрабіць.

Гаўрыла рушыў управа – трэба было абыйсці даліну лесам. Іван бяздумна ішоў за ім – ступаў след у след. Было млосна ад паўдзённае спёкі, ад назолы-павуціння, за каўнер з сасёнак сыпалася сухое цёплае шыгаллё.

Яны зноў выйшлі на ўзлесак. Хутар быў ужо зусім блізка. Але яны стаялі так, што адтуль іх ніхто не мог бачыць.

– Сядзем, – сказаў Гаўрыла.

Яны сядзелі ў глыбі саснячку. Між дрэўцаў ім добра глядзелася. Яны бачылі ўсё, што робіцца на дварэ лесніка.

Гаўрыла кусаў губы: яму хацелася курыць. Спадылба глядзеў на хутар. Іван, так сабе, не ўдумваючыся ні ў якія там сутнасці, назіраў за бойкай пеўняў ля гумна. Пеўні былі чырвоны і белы. Яны на поўным сур'ёзе раз'юшана разыходзіліся і зноў сыходзіліся, прынікшы долу дзюбамі, б'ючы крыллем па траве. Раптам чырвоны пабег. Белы быў пусціўся за ім, але скора спыніўся і, задраўшы голаў – "кох-кох-кох", – пайшоў да курэй.

На хутары бразнула клямкай. Дзверы з хаты адчыніліся – на ганак выйшла Палашка, клубастая, шырокаплечая, босая.

Вочы Гаўрылы ўспыхнулі – раз'юшаныя, дзікія. Ён вылаяўся адрывістым шэптам.

– ...

Палашка трымала ў руцэ даёнку. Яна паўзіралася крыху з-пад рукі ў сасняк – проста на іх, сышла з ганку, кінула з даёнкі прыгаршча зерня курам і, матляючы задам, пайшла за гумно – у даліну. І толькі тады яны ўбачылі стракатую, чорна-белую карову – далекавата, ля алешніку, які зелянеўся пад узгоркам, на якім яны толькі што стаялі.

– Карову пайшла даіць...

Голас у Гаўрылы быў лагодны, – гэта было нечаканасцю для Івана. "Чортведама што, – сказаў сам сабе Іван і паўтарыў: – Чортведама што".




*Алесь Каско, Мікола Папека, Мікола Купрэеў. Уручэнне "Мядовай прэміі". Пружаны, 2002.*

– Карову пайшла даіць, – задуменна і яшчэ цішэй сказаў Гаўрыла і ўвесь знік, абвяў. Але раптам страпянуўся, дрыжачымі пальцамі нацягнуў платней на лоб шапку, нахіліўся да Івана, прашаптаў:

– Самы раз!.. Калі дома... Пайшлі!

Яны рушылі краем лесу – бліжэй да хаты.

– Стоп, Ваня, – сказаў шэптам Гаўрыла. – Пасядзім яшчэ крыху. – Хлопец недаўменна глянуў на свайго "гаспадзіна". – Нічога, юнаша, гэта мы раз-два... А от малака свежага хай яшчэ пап'е... апошні ж раз... хай пап'е... усё-ткі ж чалавек... хоць і звер... Пасядзім, Ваня... Што ты ўсё маўчыш? Надзьмуўся ¬– на мяне? На мяне?

Іван зацята маўчаў.

Скрыпнулі вароты гумна: адтуль выйшаў Асос. Пацягнуўся шырока, пазяхнуў – аж сківіцу набок вывернуў.

– Звяруга...

Што здарылася потым, Іван помніць, як тую даўнюю кінастужку з лятучымі кадрамі – яны мільгаюць, ірвуцца на кавалкі. Усё змяшалася – Асос, Гаўрыла, лес, дзікі, нечалавечы хрып, вырваная з карэннем трава, кроў на траве...

Асос ішоў са двара ў лес – проста на іх. Іван памкнуўся быў падняцца – сысці з Асосавай лініі, але Гаўрыла моцна схапіў яго за каўнер, прыціснуў да зямлі. Захлыналіся ад віску, ірваліся з ланцугоў сабакі на двары. Асос азірнуўся на хутар, нерашуча патупаў на месцы і зноў пайшоў – але не так борзда. Іван ачуняў, па-змоўніцку даверліва глянуў у вочы Гаўрылу – яны былі зусім блізка. Гаўрыла кіўнуў: будзь гатовы. Асос набліжаўся. Ужо чутно было яго цяжкое, грудное дыханне. Івану на момант здалося, што ён нават адчуў на сваім твары пар з роту Асоса.

Асос зайшоў за арэхавы куст – з іх боку, – стаў спускаць штаны.

Гаўрыла аж зубамі заскрыгатаў.

Іван адвярнуўся ўбок. Ён нават з палёгкай уздыхнуў: жудасны момант адцягваецца.

І раптам Гаўрыла падняўся. Громка кашлянуў. У правай руцэ пісталет – дулам уніз.

Нягромка, але цвёрда загадаў:

– Падымі штаны, Асос.

Іван, ашаломлены, ляжаў на зямлі.

Асос быў страпянуўся, але потым застыў на месцы і па-над сасёнкамі ўбачыў твар, плечы Гаўрылы. Потым натужна-ветліва ўсміхнуўся і – хоць бяльмо набрыняла крывёю, – як ні ў чым не бывала, сказаў:

– Гэта ты, Гаўрыла?

Іван глядзеў на Асоса знізу, ад зямлі – той стаяў якраз у прагалку між сасёнкамі. Цяжкія Асосавы сківіцы здрыгануліся: ён усё зразумеў.

І яшчэ раз сказаў:

– Гэта ты, Гаўрыла?.. Хе-хе...

– Я. Але ведай: я тут не з-за бабы. І не адзін.

Іван не помніць, як устаў з зямлі. Доўга не мог злавіць у кішэні рукаятку пісталета, але – дастаў, нарэшце, узвёў курок.

Не зводзячы налітых крывёю вачэй з Гаўрылы, Асос стаў хіліцца бокам за куст, потым ірвануўся – кінуўся за другі, трэці куст, увабраўшы галаву ў шыю, прыгнуўшыся да зямлі. Гаўрыла цяжка, напралом кінуўся за ім. Іван імгненна, – сэрца замерла, – выляцеў з узлеску і ледзь не наступіў на Гаўрылу з Асосам. Моцна абняўшыся, яны з дзікім хрыпам, стогнучы, качаліся на траве, кусалі адзін аднаго зубамі, цягнуліся рукамі да горлаў.

Адзін з іх павінен быў застацца жыць.

Іван улучыў зручны момант, выстраліў...

...Яны спыніліся ў глыбі лесу, у яловым гушчары. Гаўрыла, змораны ўшчэнт, шмякнуўся на карнявішча пад елкаю, прыхінуўся спіной да шурпатага ствала. Цяжка дыхаў, вочы яго былі шырока расплюшчаны, дрыготкімі пальцамі грэбаў чорную вільготную зямлю на карнявішчы. Іван ляжаў крыху зводдаль – уткнуўшы галаву ў стары брудны мох, распасцёршы рукі. Ён плакаў – па-дзіцячы, тонка, доўга.

– Ні-ічога, – прастагнаў Гаўрыла.

Нават тут было чутно, як захлыналіся, ірвалі ланцугі сабакі на хутары, галасіла Палашка.

Потым усё там сціхла – неяк адразу, наглуха.

Гаўрыла сказаў:

– Адвязала сабак. А сама – у Гуту... напэўна... Там бацька... гэтага.

Гаўрыла плюнуў сабе пад ногі, устаў, ацёр пот з ілба. Пастаяў – рашаў нешта важнае і – зноў сеў, абмяк пад ялінаю. Уздыхнуў – хрыпла, грудзямі:

– А ў мяне ж таксама магла быць зараз карова. І Палашка даіла б яе... У-ух... тваю маць!..

А Іван ужо стаяў – шырока расставіў ногі ў старых шэрых ботах. Стаяў і зусім сухімі і крыху прыжмуранымі вачыма глядзеў, задраўшы галаву, на вяршаліну сасны: там растрывожана лопаў крыллем дзікі галубок.

"От, калі чалавек паплача, то быццам нанова на свет паглядзіць", – сказаў Гаўрыла сам сабе.

...Вечарэла, калі яны прыцягнуліся да калёсаў. Конь неспакойна біў капытамі ў зямлю, сцябаў хвастом – разганяў машкару.

Вакол, у міждрэўі, на зямлі, на лапах ялін, у лісці бярозы стаяла такая цішына,

што, здавалася, чутно было, як вечар цямнее, глыбіцца, распасціраецца. Самае жудаснае, што магло здарыцца ў чалавечым жыцці, было ўжо далёка ззаду – таму Івану было так лёгка на душы, як ніколі.

Гаўрыла абапёрся на драбіны – тварам у палукошак і нешта думаў.

– Трэба было нам, – кажа ён, не падымаючы галавы, – пахаваць яго, Ванюша... усё-ткі чалавек... як-ніяк... Палашцы цяжка будзе... – Скрыгатнуў зубамі. – Ат, сцерва! Паліцэйскія закапаюць.

Іван маўчаў – ён зацята гнаў прэч ад сябе ўсякі напамін пра тое, што было далёка ззаду.

– От што, Ванюша... ты пачакай тут мяне... я скора прыду.

– Не трэба, дзядзька Гаўрыла.

Гэта быў, нарэшце, голас Івана.

– Загадваю, – няўпэўнена сказаў Гаўрыла і пайшоў у цемру.

Калі след яго сціх, Іван сеў – амаль упаў – на бярэмца канюшыны, прыхінуўся спіной да кола – яно прыемна пахла дзёгцем – і адчуў, як адразу павекі яго лёгка і мякка паплылі ўніз...

Колькі ён спаў – невядома. Калі прачнуўся – адчуў на сваёй галаве цёплую Гаўрылаву далонь і ў прагалку між сосен убачыў далёкія трапяткія зоркі. І зноў заплюшчыў вочы – бо далонь была надта цёплая і надта прыемна, па-дамашняму, пахла дзёгцем і канюшынай і пафырквай конь над ялінай. І чулася праз сон:

– ...Думаў: выцягну, забяру з сабой – аж няма... знікла... Хацеў пахаваць – не знайшоў лапаты...

“Каго забраць? каго няма? і хто там знік? і нашто лапата? – думаў праз сон Іван і тужыўся ўспомніць, дзе ён і што з ім – і ніяк не мог успомніць і зноў пытаўся:

– Каго забраць?..”

Гаўрыла завалок яго ў палукошак, накрыў шынялём, запрог каня...

Калёсы ехалі па лесе, па ночы.

Каб не заснуць, каб не быць у адзіноце, Гаўрыла думаў-разважаў услых. Словы яго чуў Іван праз сон. І ўсё гэтак жа пахла дзёгцем, канюшынай...

Іван зразумеў, што ён не спіць, не, – ён проста яшчэ там, дзе стаялі калёсы, адкараскаўся ад гэтага лесу, ад гэтай зямлі, ад дзядзькі Гаўрылы, ад самога сябе і адплыў, лёгка і вольна, кудысьці высока, і...*

*Падрыхтоўка да друку і публікацыя апавядання –*
*Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА.*

*Рукапіс абрываецца

Сяргей Абламейка



...Мне не па дарозе з маёй краінай
і маім народам... Хіба што яны самі некалі
захочуць пайсці за такімі, як я?...

# Палац з акном у восень

Пад маім пражскім акном стаяць некалькі маладых суседскіх бяроз. З вышыні трэцяга паверха мансарды, дзе месціцца кабінет, я гляджу на іх амаль згары. Нічога асаблівага ў тых дрэвах няма, звычайныя бярозы – дзве вышэйшыя, адна ніжэйшая. Але вось паглядзеў я на іх у палове лістапада – і сэрца зайшлося... Якая прыгажосць! Няўтульны восеньскі ранак, з вечара па даху і шыбах барабаніць лянівы халодны дождж, я адчыняю вакно і раптам... выбух і бліскатанне жоўта-чырвона-рудай барвы, мокрае лісце іскрыцца і пераліваецца колерам залатое сонечнае восені, цёплым яркім настроем дому, родных і дзяцінства. Смуглявы авал, у які зліліся тры пажоўклыя кроны, нібыта казачны ліхтар асвятляе ўсё навокал і маю душу ўзасаб...

Некалькі імгненняў, вакно зачыняецца, і на ўвесь дзень душа захавае тужлівы і цёплы настрой. Чаму я так люблю восень? Хіба што ніколі ў маім жыцці восенню не здаралася нічога радасна важнага, лёсаноснага. За выключэннем таго, што я ўвосень нарадзіўся. А, зрэшты, не. Пра адну важную падзею жыцця я забыўся – даўно

было! Некалі ўвосень я закахаўся і праз два гады таксама ўвосень пабраўся шлюбам. А так... і дрэннага шмат восенню бывала...

Цяпер вось думаю, можа яшчэ нешта добрае здарыцца?

Кажуць, што мы ў любым узросце падманваем сябе ўяўнай жыццёвай перспектывай, дакладней, наш мозг падманвае гаспадара, пазбаўляючы яго ад стрэсу развітання і даючы надзею. Надзеі ад нас вымагае і хрысціянская вера, нашы нябёсы. Атрымліваецца, што і восень для мяне – пара надзеі? Выглядае, што так, хоць неяк сумнеўна... Калі пад нагамі шаргоча восеньскае лісце, больш дарэчы настрой ціхага суму і развітання. Што ж тут прыемнага?

І тым не менш, у восеньскім парку мне вельмі добра. Зрэшты, і адказ – чаму – я ведаю. Прыгажосць. Навокал прыгожа, і гэтым усё сказана – вычарпальна і поўна.

Як аказалася яшчэ ў мае зусім маладыя гады, прыгажосць бывае падманліваю. Я імкнуўся да яе ўсюды, у тым ліку і сярод людзей. І ўжо зусім маладым чалавекам зразумеў, што прыгожыя знешне людзі бываюць, мякка кажучы, не вельмі дасканалыя ўнутры. Балюча бачыць гэта ў прыгожых жанчынах... Каб ўратаваць сваё пачуццё прыгожага, я яшчэ юнаком зрабіў выснову, што падманвае не прыгажосць, а яе носьбіты. Прыгажосць ёсць прыгажосць. Тым не менш з часам прага эстэтычнага прывяла мяне ў сферу нематэрыяльнай прыгажосці – я захапіўся літаратурай, мастацтвам, архітэктурай і дасканаласцю праўды ў веры. Зрэшты, не разлюбіў я і прыгожых людзей – я ўсё так жа імі захапляюся. Проста цяпер я стараюся не даць ім сябе падмануць...

З іншага боку, падман і самападман нам патрэбныя гэтак жа, як і ежа. Мы хочам быць і бываем падманутыя, не толькі сваім мозгам, але і сябрамі, калегамі і каханымі, а таксама сямейнікамі, блізкімі і роднымі. Падман – найлепшы псіхатэрапеўт.

Прыгажосці і дасканаласці цэлае сваё жыццё я шукаю і для маёй Бацькаўшчыны. Тут таксама хочацца бачыць прыгожую і дасканалую краіну, у якой жыве прыгожы і дасканалы народ. А такою можа быць толькі спелая краіна, збудаваная спелай нацыяй – і тут, значыцца, восень... Восень народа і краіны. Але дзе ж тая наша восень, калі мы ўсё яшчэ з юнацтва ніяк не выберамся?

Зноў гляджу за вакно ў восень, на бярэмя чырвона-жоўтага лісця, у якое зліліся тры суседскія бярозы. Складаецца верш:

А недзе ёсць, я веру, недзе ёсць
Палац з акном у восень.
Там залатое лісце скрозь
Па залах скразняком разносіць.

Там залатое лісце скрозь
Ляжыць наўкола пазалотай,
Нібы нябачны нехта-хтось
Абліў яго святлом употай.

Там недзе ёсць, я веру, недзе ёсць
Асенніх сцежак кругавінне.
І навакол там, бачу, скрозь
Блішчыць на сонцы павуцінне.

Палац той, бачу я, стаіць
На беразе лясное азярыны,
У люстры возера спалохана трымціць
Дрыготкі цень самотнай аблачыны.
Там ля вады, я бачу, ля вады

Рады старых прысадаў.
Туды хачу...

Там змые плёс ўсе сляды
Маіх аблудаў і панадаў...

Гэты палац з акном у восень для мяне – метафара прыгожай, дасканалай і выспелай Беларусі, з якой на шчасце ці, хутчэй, на няшчасце назаўсёды зніталася маё светаадчуванне і ці не ўвесь мой эмацыйны свет... А Беларусь тая – вельмі жаданая, што магла б даць столькі эмоцыяў і столькі новага сэнсу жыццю – застаецца пакуль такой недасяжнай... І намёку на яе няма на маім жыццёвым далягдядзе.

***

Восенню мне і думаецца добра. Упершыню я не стаў натаваць ураженні з апошніх сваіх падарожжаў у Беларусь, але ўзяўся парадкаваць думкі і эмоцыі ўжо за пісьмовым сталом, ля вакна, за якім палае восеньскі пейзаж суседскага саду. "Постбеларускія" думкі мае і эмоцыі зусім не паэтычныя. Тым не менш, я іх акуратна занатую, цалкам ведаючы і ўсведамляючы, што мае развагі пра стыль і стыльнасць, пра гісторыю і сучаснасць Беларусі большасці нашых людзей чужыя, абыякавыя, магчыма, нават, варожыя. Ведаю таксама, што ні водгуку, ні душэўнага зруху амаль ні ў кога яны не выклічуць. І тым не менш, я гэта пішу.

***

Мая ў будучым прыгожая, дасканалая і выспелая Беларусь пакуль што выглядае і пахне вельмі недасканалай, савецкай і правінцыйнай старонкай... Разумею, што мы не вінаватыя, што нас такімі зрабілі, але і не казаць пра гэта не магу.

Вось еду ў аўто, слухаю беларускае дзяржаўнае радыё. Нейкі чыноўнік гаворыць:

– Как гаварыли в старыну (а эта изрэчэние актуальнае и севодня), кадры рэшают всё...

А вось у іншы дзень – 15 лютага, у чарговую гадавіну вываду савецкіх войскаў з Афганістана – нейкая настаўніца (!) расказвае па радыё пра вечарыну, якую наладзілі ў яе школе з гэтай нагоды. Ясна, што былі запрошаныя і ветэраны тае афганскае вайны.

– Мы не должны забывать о своих корнях, мы должны помнить своих героев...

У шызафрэнічнай прасторы навачаснай Беларусі Сталін, які сказаў пра кадры, жыў у "старыну", а настаўнікі шукаюць свае карані ў падзеях 20-гадовай даўніны ў Афганістане. І там жа шукаюць сваіх герояў. З такімі плыткімі каранямі наўрад ці некалі тая вучыцелька даведаецца, што адзін з яе герояў сядзіць цяпер без віны і без зубоў, якія выпалі ад цынгі, у страшнай сваімі парадкамі калоніі "Ваўчыныя норы" ля Івацэвічаў.

***

А вось я з сябрам іду ў рэстарацыю на былой вуліцы Койданаўскай пры яе сутыку з Феліцыянскай (Рэвалюцыйнай і Камсамольскай па-цяперашняму). Выбраў я яе таму, што месціцца яна ў лёхах старой камяніцы з барочна-класічнымі скляпеннямі. У кожны свой прыезд я шукаю новую такую рэстарацыю і іду пасядзець пад скляпеннямі старога Менска. Добра, што іх з'яўляецца ў апошніх рэштках старога горада ўсё болей.

Ну а прыйшоўшы, амаль заўсёды з вялікім намаганнем прымушаю сябе забыцца пра шызафрэнічную атмасферу навачаснай радзімы. Прымружыш вочы, пракаўтнеш камяк раздражнення і незадаволенасці, што сціскае горла, паглядзіш на прыгожую беларускай прыгажосцю кельнерку, якая хоць і не гаворыць па-беларуску, але цудоўна вас з сябрам разумее, і памалу супакойваешся – за ежай і прыемнай размовай, аглядаючы інтэр'еры з рабрыстымі скляпеннямі і валунамі падмурка, што тырчаць са сценаў і падлогі канца XVIII – пачатку XIX стагоддзяў, вечар праходзіць амаль прыемна. Ды што там "амаль", проста прыемна ён праходзіць, бо вы не толькі ясцё і п'яце, вы яшчэ з сябрам марыце пра час, калі гэтых шызафрэнічных рэаліяў вакол не будзе, а рэстарацыя застанецца, і прыгожыя маладыя кельнеркі таксама застануцца, і вы, яшчэ не зусім старыя, таксама захопіце той светлы час.

А пакуль што рэаліі такія. Меню называецца "ПрейскурантЪ" з дарэвалюцыйным расейскім цвёрдым знакам. Рэстарацыя называецца "Пр. Преображенский". Я, натуральна, пытаю, што такое "Пр." Аказалася, "профессор". Ага, кажу, дык гэта з Булгакава, "Сабачае сэрца"? Так, адказваюць мне з гонарам. Я смяюся, бо гаспадары рэстарацыі тужаць па старой Расеі і не ведаюць, што слова прафесар трэба скарачаць як "проф.", а не "пр." Ну але гэта пытанне культуры і адукацыі. Адкуль ім узяцца, калі карані беларускіх настаўнікаў сягаюць у Афганістан 80-х гадоў XX стагоддзя?

Аглядаем сцены. На іх паразвешаныя ў рамках старыя фотаздымкі царскіх афіцэраў з сем'ямі, нейкіх царскіх вяльможаў XIX стагоддзя з вялікімі зоркамі-ордэнамі на мундзірах з высокімі каўнярамі, а паміж гэтых настальгічных расейскіх здымкаў... партрэты Шарыкава з кінафільма "Сабачае сэрца", дзе ролю прафесара Прэабражэнскага выканаў актор Яўгеній Еўсцігнееў, прычым партрэты даволі рамантычныя, зробленыя з паўабарота, у той момант фільму, калі Шарыкаў стаў чыноўнікам-жывадзёрам і насіў скураны паліто і капялюш.

І вось так, пад барочна-класічнымі скляпеннямі старога Менска, з Шарыкавым і белымі афіцэрамі на сценах, з расейскімі цвёрдымі знакамі ў "прэйскуранце", у рэстарацыі цэлы вечар круцяць песні... Фрэнка Сінатры...

А ежа была добрая. Такога смачнага яблычнага штрудзеля з лёдавам я не еў і на яго радзіме ў Аўстрыі.

Як сказаў мне пасля іншы сябар, "яці" і цвёрдыя знакі мы пасля прыбярэм, а добрыя рэстарацыі застануцца...

***

Дачуўся я неяк, што беларускі Экзархат Расейскай Праваслаўнай царквы вырашыў кананізаваць мітрапаліта літоўскага Іосіфа Сямашку. Навіна моцна ўразіла. Але пісаць я не стаў. Вырашыў пачакаць месяцы тры, можа нехта з праваслаўнай беларускай інтэлігенцыі выкажацца. Усё ж шмат у нас пісьменнікаў, навукоўцаў, журналістаў праваслаўнага веравызнання, нехта, думаў я, абавязкова выкажацца, напіша, засцеражэ беларусаў ад такога кроку.

Ніхто нічога не напісаў...

Што ў нас сёння ведаюць пра Сямашку? Што ён арганізаваў далучэнне "западно-русских униатов" да Расейскай Праваслаўнай царквы. Яшчэ гэтую падзею называюць "ліквідацыяй Уніі". Змест гэтай падзеі ў нашых галовах – чыста канфесійны. Маўляў, была Унія, стала Праваслаўе. Мы думаем, што такі акцэнт на канфесійнасць прымушае нас рабіць наша трагічная гісторыя. Гэта так і не так. Насамрэч, гэты канфесійны падыход да гісторыі нам навязала ў XIX стагоддзі праз сваю гістарыяграфію Расея.

А падыход можа быць не толькі канфесійны. Ён можа і, на маю думку,

павінен быць нацыянальны. Вось прыклад, як сам 1839 год і дзейнасць Сямашкі могуць быць трактаваныя з нацыянальных пазіцый.

У 1839 годзе ЎПЕРШЫНЮ ў гісторыі датуль больш за 500 гадоў самастойную беларускую мітраполію, якая ў розныя гістарычныя перыяды бывала то ўніяцкаю, то праваслаўнаю, то зноў уніяцкаю, далучылі да расейскай царквы, да Масквы. Гэта значыць, саму беларускую царкву ўпершыню тады далучылі да расейскай. У 1839 годзе наша царква, якая да таго, паўтараю, бывала то праваслаўнаю, то ўніяцкаю, перастала існаваць.

Сёння самы важны змест акту 1839 года – страта ПАМЕСНАЙ беларускай царквы адметнай, самастойнай традыцыі – ад нас трывала схаваны канфесійным падыходам да гісторыі. У часы ліквідацыі Уніі сам мітрапаліт Сямашка не раз гаварыў, што вярнуў спакушаных і адарваных вернікаў ва ўлонне царквы-маці – РПЦ. Хоць, насамрэч, ні Маскоўская мітраполія, ні Маскоўскі патрыярхат НІКОЛІ не былі царквой-маці для беларусаў і ўкраінцаў.

Нашай царквой-маці ад X стагоддзя быў Канстанцінопальскі патрыярхат і, у больш вузкім плане, – Літоўска-Наваградская мітраполія, якая існавала ад 1316 года. У палове XV стагоддзя адбылося канчатковае раздзяленне мітрапoліяў Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ. Падставай для гэтага стала прыняцце Уніі Канстанцінопальскім патрыярхам, візантыйскім імператарам і Праваслаўнай царквой ВКЛ. Ад 1448 года Масква самастойна выбірала сабе мітрапаліта, а беларусы, выбраўшы мітрапаліта, атрымлівалі пасля зацвярджэнне ад патрыярха. Спачатку Маскоўскія мітрапаліты ў тытуле захоўвалі назву і “Кіеўскага”, але ад 1448 года пачалі звацца Маскоўскімі і Ўсяе Русі. А нашы афіцыйна ў паперах ад патрыярха менаваліся Кіеўскімі, Галіцкімі і ўсяе Русі, але часцей, у тым ліку і ў грэцкіх паперах, называліся Літоўскімі мітрапалітамі або Літоўска-Наваградскімі. Большасць нашых мітрапалітаў XIV-XVI стагоддзяў жылі ў Наваградку, і большасць з іх там пахаваныя. Пазней мітрапаліты жылі ўжо і ў Вільні, і ў Варшаве, але абсалютная большасць іх былі этнічнымі беларусамі.

У XVII стагоддзі, як вядома, Кіеўская мітраполія падзялілася на два лагеры – уніятаў і дэзунітаў, з’явіліся і два мітрапаліты. Тым не менш абедзве гэтыя часткі захоўвалі старую ўсходнехрысціянскую традыцыю ў абрадах, набажэнствах і спевах. Пры гэтым асноўная, значна большая за праваслаўную, частка Кіеўскай мітраполіі працягвала сваё гістарычнае паместнае існаванне ў абліччы Грэка-каталіцкай царквы. Уніяцкія мітрапаліты захоўвалі тытул Кіеўскіх, Галіцкіх і ўсяе Русі.

У 1686 годзе багатая і моцная Масква, якая ў 1589 годзе абвясціла ў сябе патрыярхат і ў 1654 годзе далучыла да сябе левабярэжную Украіну, подкупам і шантажом прымусіла збяднелы пад панаваннем турак Канстанцінопальскі патрыярхат адмовіцца ад юрысдыкцыі над Кіеўскай праваслаўнай мітраполіяй і перадаць яе Маскве. Так царква-дачка – РПЦ – аформіла захоп праваслаўнай паместнай часткі сваёй царквы-маці. А ў 1839 Расейская Праваслаўная царква закончыла захоп Кіеўскай мітраполіі і ліквідавала нашу самастойную ўсходнехрысціянскую традыцыю, якая хоць і зазнала пэўныя змены ў часы Уніі, але ўсё ж захоўвала, паводле сведчанняў шматлікіх даследчыкаў, ВЕЛІЗАРНЫЯ адрозненні ад традыцыі маскоўскай.

Так мы страцілі сваю паместную царкву. І дагэтуль яшчэ думаем, што нам тады вярнулі веру продкаў.

У дзвюх частак адной старажытнай Кіеўскай мітраполіі раней ці пазней мог бы з’явіцца шанц аб’яднацца. Ужо ў XVII стагоддзі ўніяцкі мітрапаліт Язэп Вельямін Руцкі стварыў план аб’яднання дзвюх частак расколатай Кіеўскай мітраполіі – уніяцкай і дэзуніцкай – пад уладай адзінага Кіеўскага патрыярхату.

Я наўмысна пішу "ўніяцкай і дэзуніцкай", бо мала хто ведае, што ўніяты таксама называлі сябе праваслаўнымі – у 1722 годзе Кіеўскі ўніяцкі мітрапаліт Леў Кішка нават выдаў для сваёй царквы на беларускай мове катэхізіс, славутае "Сабраніе прыпадкаў...", у поўнай назве якога двойчы сцвярджалася, што гэта выклад Праваслаўнай веры. А калі б аб'яднацца і не ўдалося, дык існавалі б дзве памесныя царквы свайго права – Праваслаўная і Уніяцкая, кожная з якіх па-свойму захоўвала б традыцыі беларускай царквы X-XVI стагоддзяў. Гэта, аднак, не ўваходзіла ў імперыялістычныя планы Расеі.

***

Мы, між тым, пра гэта сёння не думаем, а нашы гісторыкі пра гэта зусім не пішуць. У беларускіх галовах практычна цалкам адсутнічае гісторыя першага хрысціянскага тысячагоддзя, як, зрэшты, і гісторыя другога хрысціянскага тысячагоддзя, асабліва яго пачатку і сярэдзіны. Нават свядомыя нацыянальна гісторыкі і філосафы аперыруюць толькі расейскай версіяй царкоўнай гісторыі, крайне няпраўдзівай і перакручанай да непазнавальнасці. Здаецца нават, што гісторыкі сёння ўжо і не хочуць ведаць альтэрнатыўныя канцэпцыі – напрыклад, з працаў заходнееўрапейскіх гісторыкаў, або хаця б польскіх ці ўкраінскіх калегаў. Нашы проста задавольваюцца расейскім гістарычным эрзацам.

Ніхто не піша, напрыклад (і, адпаведна, не лічыцца з тым фактам), што разрыў паміж Канстанцінопалем і Рымам 1054 года не датычыўся Кіеўскай мітраполіі, якая 3 гады перад гэтым сама адпала ад Канстанцінопаля. Не пішуць, што пасля разрыву 1054 года паміж Рымам і Візантыяй кіеўскіх мітрапалітаў на просьбу князёў часам прызначаў Папа Рымскі, што кіеўскі мітрапаліт яшчэ ў 40-я гады XIII стагоддзя разам з іншымі кардыналамі браў удзел у нарадзе ў Ватыкане з нагоды татарскай агрэсіі ў Еўропу. Не пішуць, што Беларусь канчаткова адпала ад Рыма толькі ў XIII стагоддзі з-за агрэсіі нямецкіх крыжакоў. Не пішуць, што яшчэ ў 1250 годзе князь Даніла Галіцкі пачаў перамовы аб Уніі з Рымам. Не пішуць, што ўжо ў XV стагоддзі наша царква шэсць разоў станавілася ўніяцкаю і што ў 1596 годзе яна ўсяго толькі заключыла сёмую Унію з Рымам, якая найдаўжэй праіснавала. Не пішуць, што гэта ўсё была наша самастойная ўсходнехрысціянская царква, з адметнай і вельмі адрознай ад маскоўскай традыцыяй у мастацтве, архітэктуры, абрадах, спевах і нават канонах!

Вось так не пісалі, не пісалі, а тут раптам бах! – і кананізацыя Сямашкі.

Не буду шмат пісаць пра гэтага расейскага царкоўнага дзеяча. Прывяду толькі тры цытаты. Яны важныя для фармавання менавіта нацыянальнага падыходу да ацэнкі дзейнасці мітрапаліта Сямашкі.

***

Першая паходзіць з нарыса пратаіерэя Аляксандра Мацкевіча пра Сямашку, апублікаванага ў "Литовских епархиальных ведомостях" у 1884 годзе. Мова ў гэтым урыўку ідзе пра бацьку мітрапаліта, айца Іосіфа Сямашку, які скасавання Уніі не прыняў, і праз год пасля гэтай падзеі, у 1840 годзе, зладзіў у сябе на кухні ўніяцкую каплічку, дзе служыў набажэнствы і вянчаў людзей.

"Тогда, подарив выстроенный им вблизи костела дом сыну своему Николаю, бывшему в Илинцах вольнопрактикующим врачем, он купил себе другой vis-avis, и здесь из кухни, которая составляла помещение, отдельное от дома, устроил молельню... В этой молельне в январе 1840 года старики Семашки устроили по униатскому обряду брак их дочери Елены, любимой сестры православного уже тогда преосвященнаго Иосифа. Женихом был

Виктор Гомолицкий, нынешний виленский кафедральный протоирей, а брак совершен униатским священником Федором Кудрицким, проживавшим в то время в предместье города Липовца Гайсине, и нарочито для этого сюда вызванным...

Приняв православие, преосвященный Иосиф в конце тридцатых и начале сороковых годов писал не раз отцу своему в Илинцы, убеждая и с сыновнею покорностию упрашивая последовать его примеру... Но никакия убеждения почтительнаго и нежнаго сына не действовали на престарелых родителей. Наконец в 1846 году высокопреосвященный Иосиф прибыл лично в Илинцы к свои родителям, имея отрощенныя на голове волосы и бороду, но и это не повлияло на отца относительно перемены веры...

Отец архимандрит Модест в упомянутом некрологе митрополита Иосифа говорит между прочим, что родитель его вполне сочувствовал мыслям его о возсоединении униатов и когда последовал акт воссоединения, охотно принял православие. Зная его лично, и притом близко, могу утверждать лишь противное... Фанатизм и ненависть к православию особенно сильно выразились в сыне его священнике Иоанне Семашке, который и умер вне православной веры, и о родном брате своем митпрополите Иосифе всегда отзывался так: przeklęty! sam siebie potępił i naród zgubił. В бытность его у меня в Липовце я показал ему портрет его знаменитого брата; он с бешенством бросил портрет на пол и, при звуках разбитого стекла, тот час же убежал. Умирая, он завещал похоронить его при Илинецком костеле, и ксендзы уже принялись было за исполнение его воли; но православные священники отобрали его у ксендзов и погребли при православной илинецкой воскресенской церкви, чем остался доволен брат умершего, митрополит Иосиф и священникам погребавшим прислал денежное вознаграждение...”

Я дадам, што бацьку свайго мітрапаліт Сямашка сілай у 1847 годзе перавёз пад Вільню і зрабіў яго святаром праваслаўнай царквы ў Дзікушках, але бацька і там служыў па-ўніяцку, на што ўсе вакол былі вымушаны заплюшчыць вочы... Так, “неўз’яднаным”, стары айцец Іосіф Сямяшка і памёр. Як бачым, мітрапаліт Сямашка быў пракляты за адступніцтва сваёй сям’ёй. Ён нават па-блюзнерску парушаў апошнюю волю сваіх памерлых блізкіх...

Калі нехта зверне ўвагу на польскую мову брата мітрапаліта і ўспомніць расейскі аргумент пра “паланізацыйную ролю Уніі”, то хай задумаецца і пра тое, на якой мове з паловы XIX стагоддзя пачалі гаварыць і цяпер яшчэ гавораць праваслаўныя бацюшкі ў Беларусі. Цяжка спрачацца з фактам, што як многія сённяшнія расейскамоўныя людзі ў Беларусі лічаць сябе беларусамі, так і многія тагачасныя польскамоўныя жыхары краю лічылі сябе ліцвінамі-русінамі.

***

У пачатку XIX стагоддзя польская была мовай зносінаў у Беларусі, але ўніяцкія святары не забываліся і на родную. Пра гэта – другая мая цытата. Паходзіць яна з мемуараў аўтара першага слоўніка беларускай мовы Івана Насовіча “Воспоминания моей жизни”.

“Когда я в 1815 году был инспектором мстиславского уездного духовного училища и учителем высшего отделения, то дворянин Юрковский арендовал петруляндское имение Петра Станиславовича Крогера. У него было двое сыновей Иван и Александр, обучавшихся в мстиславском езуитском 6-классном, на степени гимназии, училище, и Юрковский пригласил меня на все вакационное время давать ежедневно помянутым сыновьям его уроки русского языка и русской словесности... В конце каникул 29 августа все се-

мейство Юрковского, хотя и было римского исповедания, как бы нарочито, собралось идти к обедне в тамошнюю униатскую церковь. Сам Юрковский предложил мне сопутствовать им. С ними был экономический землемер Маевский и два посторонних гостя, все без исключения католики, кроме меня, православного. Я, признаться, удивился, что католикам в этот день пришла охота быть у обедни в униатской церкви. По совершении литургии священник велел поставить среди церкви аналогий для молебствия и, украшенный крестом за 1812 год, вышедши с Евангелием и какою-то бумагою, положил Евангелие на аналогий, а в руках держа, по словам его, указ... начал говорить ко всем нам... так:

– Вот, правоверные христиане. Господь Бог по великому смутку послав нам великую радосць; великий Наполеон, як в гэтом указе пишецца, хвала Богу, воцарився в свое государство (с острова Эльбы) и знову идзець к нам. Помолимся ж Господу Богу о том, чтоб Бог ему помог...”

На гэтым я цытату скончу. Нягледзячы на не вельмі ўдалую графічную перадачу Насовіча, добра бачна, што ўніяцкі святар Ракоўскі ў 1815 годзе гаварыў на літаратурнай беларускай мове. Калі ўспомніць, што ў той час у нашых краях польская мова была ўжо агульнапрынятай, гэтак сама як сёння расейская, і што за палітычныя рэаліі панавалі тады ў Расейскай імперыі, то мы зразумеем, што Іван Насовіч зафіксаваў у сваіх успамінах выдатны грамадзянскі ўчынак святара. Бо і сёння яшчэ ў Беларусі, каб загаварыць падчас нейкага афіцыйнага мерапрыемства да прысутнай расейскамоўнай публікі па-беларуску, чалавеку патрэбная пэўная грамадзянская мужнасць і адпаведныя патрыятычныя перакананні, не кажучы ўжо пра змест самой прамовы святара. Айцец Ракоўскі, як бачым, такія перакананні і мужнасць меў. Другі важны момант, пра які цытата сведчыць, – палітычныя антырасейскія погляды ўніяцкага клеру. Якраз пра іх сведчыць арганізацыя малебну за поспех Напалеона і за тое, каб ён зноў прыйшоў у Беларусь і вызваліў народ ад расейскага ярма...

Вось такую царкву дапамог знішчыць мітрапаліт Іосіф Сямашка.

***

І нарэшце трэцяя цытата. Паходзіць яна з працы беларускага палітычнага дзеяча і гісторыка Аўгена Калубовіча “Мова ў гісторыі беларускага пісьменства”.

“Поруч вывазаў ішло нішчэньне, ад якога найбольш пацярпела пісьменства ў нацыянальнай беларускай мове – дакумэнты беларускай гісторыі й кнігі вуніяцкай (дакладней – былой праваслаўнай і вуніяцкай) літаратуры XVII-VXIII стст.

Шмат іх было спалена ў агні... У 1832 г., на загад зь Пецярбургу, пачалася акцыя адбіраньня старых вуніяцкіх служэбнікаў і іншых кніжок і замены іх на расейскія праваслаўныя кнігі. З цэркваў і манастыроў цэлае Беларусі ў Полацкую духоўную кансысторыю звозіліся для паленьня выданьні беларускіх вуніяцкіх друкарняў. У дадатках да тых кніг у беларускай мове друкаваліся арыгінальныя навукова-тэалягічныя й мастацкія, галоўна вершаваныя, творы беларускай літаратуры: усе яны, за рэдкім выключэньнем, беззваротна загінулі ў агні, разам з багаслужбовымі кнігамі. Вуніяцкія сьвятары спрабавалі ратаваць іх: ведамы выпадак, калі 2 красавіка 1834 года ў Навагрудку на рукі яп. Язэпа (Сямашкі) 56 сьвятароў злажылі пратэст, але, на загад цара, усе былі пакараныя за гэта годам манастырскай турмы.

Аб тым, як “уніатскія книги... преднамеренно уничтожались”, яшчэ лепей сьведчаць паленьні іх у Жыровічах. Туды ўжо па ліквідацыі ў 1839 г. вуніяцкае царквы яны звозіліся з павуніяцкіх (вуніяцкіх і былых праваслаўных) цар-

коўных і манастырскіх бібліятэк і, на загад праваслаўнага мітрапаліта Язэпа (Сямашкі), у 1841-44 гг. спальваліся ў манастырскіх печках. Дзеля таго, што такі спосаб нішчэньня кніг быў марудным, і частка кніг раскрадалася, у 1844 годзе мітрапаліт загадаў вынесьці кнігі на манастырскі пляц і спаліць іх на вогнішчы адразу. У 1853-55 і 1857 гг. паленьне іх зноў працягвалася. Колькі тут было спалена – невядома: афіцыйна называецца лічба каля 2000 кніг, аднак сам мітрапаліт зазначае, што спалена іх было болей, чымся афіцыйна паказана...”

Тут я спынюся, хаця Яўген Калубовіч яшчэ шмат старонак з дакладнымі навуковымі спасылкамі на крыніцы пералічае, як і што палілася ў наступныя гады і дзесяцігоддзі, у тым ліку, як было спалена Тураўскае Евангелле XI стагоддзя, або як наўмысна ў 1898 годзе быў спалены Смаленскі царкоўна-археалагічны музей з беларускімі старадрукамі, рукапісамі і дакументамі.

Побач з кнігамі мітрапаліт Сямашка тысячамі паліў і старыя беларускія праваслаўныя і ўніяцкія абразы. У выніку да XX стагоддзя, калі абразы пачалі збіраць па цэрквах, дайшлі толькі лічаныя з іх. Пры Сямашку ж пачаліся і першыя перабудовы нашых старых еўрапейскіх цэркваў на расейскі ўзор. Гэта трэцяя цытата сведчыць пра ролю Герастрата беларускай культуры, якую адыграў мітрапаліт Іосіф Сямашка.

***

З пункту гледжання свядомага беларуса (без розніцы веравызнанняў) мітрапаліт Іосіф Сямашка мае ацэньвацца адназначна: гэта быў знішчальнік самастойнасці беларускай мітраполіі, а таксама магільшчык беларускай мовы і культуры.

І вось сёння РПЦ задумала Іосіфа Сямашку кананізаваць. Што ж? Расейскі народ мае права ўшаноўваць сваіх герояў і нават маліцца ім. Але пры чым тут беларусы?..

Часам мне здаецца, што так народы і паміраюць... Гэта, відаць, ужо – кантрольны стрэл...

***

У кожны са сваіх прыездаў у Менск я дзень, або і два-тры, блукаю па горадзе амаль без мэты. Хаджу па вуліцах, гляджу на людзей, заходжу ў крамы і кнігарні, перабіраю кнігі на паліцах, слухаю, пра што пытаюцца ці гавораць людзі, гляджу на твары... Заўсёды заходжу ў рэшткі гістарычнага цэнтра і з прыкрасцю адтуль сыходжу. Нехта, можа, радуецца, што там сёе-тое аднаўляецца, а я з болем гляджу, як знікаюць апошнія магчымасці рэгенерацыі Замкавай гары і Старога гораду з Нямігай – паркінгі і хмарачосы забіваюць апошнія надзеі. Хто б мог падумаць 15 гадоў таму, што з Менскам такое зробяць цяперашнія валадары?... Цяжка глядзець на старой вуліцы Зыбіцкай на ідыёцкія дамкі з сілікатнай цэглы і з сайдынгам на сценах... У Польшчы металачарапіцай крыюць сялянскія дамы ў вёсках, а нашы калхознікі – рэнесансна-гатычныя і барочныя храмы ў цэнтры Менску. Ні эстэтыкі, ні густу, ні меры. Эклектыка ў галовах, у сэрцы і ў душы.

Хочацца нечага некранутага і аўтэнтычнага. Тады я іду ў амаль знішчанае Ракаўскае прадмесце, каб пастаяць каля рэштак гарадскога вала пры сутыку даўно знішчаных і наноў забудаваных вуліц Замкавай і Шпалернай... Там можна забыцца пра бачанае напярэдадні па дарозе ў Дзяржынскі архіў брыдкае дзіва – аграмадныя саламяныя скульптуры з валкоў на высокіх адхонах ля Берасцейскай шашы. Пазнішчалі гістарычныя цэнтры старых гарадоў і многіх мястэчак, разбураюць ужо апошнія артэфакты высокага мастацтва і...

ставяць уздоўж шашы аграмадных саламяных цётак у хустках! Якая ганьба, якая эклектыка, які сорам!

Калі прыняць пад увагу блізкасць у апошнія стагоддзі Беларусі да Расеі і прымяніць аналогію нашай цяперашняй сітуацыі з расейскай пасля 1917 года, дык я разумею, што дакладна належу да лагера, умоўна кажучы, “бунінцаў”, якія адмаўлялі супрацоўніцтва з хамамі, і нічога агульнага не маю са сменавехаўцамі, якія заклікалі прызнаць бальшавікоў законнай уладай за тое, што яны адстаялі тэрытарыяльную цэласнасць Расеі і пачалі адраджаць вялікадзяржаўнасць. І за гэта, дарэчы, сменавехаўцаў усіх (некаторых яшчэ ў цягніках па дарозе ў Расею) ліквідавала ЧК, а тыя, што паспяхова даехалі ў Расею з Берліну і Парыжу, скончылі на Салаўках або ў падвалах губчэка...

***

Блукаю я па горадзе, бо шукаю нечага, што не магу назваць дакладна. Па дарозе ў Менск мару пра сустрэчы са старымі сябрамі, даю сабе цвёрды зарок пазваніць і сустрэцца з тым ці іншым з былых знаёмцаў і... не званю. Нешта не дае... У Празе я з болем і любоўю ўспамінаю некаторых сваіх былых таварышаў, тужу па іх, а прыехаўшы ў Менск, не знаходжу ў сабе сілаў і часу знайсці іх, каб абняць, пасядзець, пагаварыць...

Магчыма, я падсвядома не забываю пра сваю канстатацыю, што дзеці не дзеляць свет, яго дзеляць дарослыя? Можа, я баюся гэтых сустрэчаў, бо не ведаю, як мяне былыя сябры сустрэнуць? А можа, нават, гэтае імкненне да мінулай чысціні і шчырасці адносінаў засталося толькі ў мяне? Цяжка сказаць. Я ж таксама столькі гадоў не шукаў кантактаў са сваімі былымі таварышамі і таварышкамі. А з іншага боку, і яны столькі гадоў не шукалі кантактаў са мной, хоць я, у пэўнай ступені, асоба публічная, і мае кантакты можна лёгка знайсці ў інтэрнэце... Зрэшты, можа якраз таму, менавіта я меўся зрабіць першы крок?

Нехта з вялікіх сказаў, што пад канец жыцця мы памятаем аб ім не больш чым пра змест некалі прачытанага рамана. Гэта дакладна так. Я, спадзяюся, жыву яшчэ не ў канцы свайго жыцця, але з болем і здзіўленнемназіраю, як знікаюць у прорве часу і трацяцца незваротна цэлыя кавалкі ўласнага лёсу разам з тагачаснымі сябрамі, тагачаснымі пачуццямі, радасцямі і замілаваннямі. Ірвуцца ніці маёй памяці.

Іду па Камсамольскай вуліцы, і раптам мяне спыняе былы прыяцель. Я ведаю, хто гэта, пытаюся, ці займаецца ён яшчэ той справай, якой займаўся ў пачатку 90-х... Але не памятаю ні імя, ні прозвішча! Той смяецца, расказвае пра нашых агульных знаёмцаў, пераказвае сустрэчу з маімі бацькамі, і толькі, калі мы развітваемся і падаем адзін аднаму руку, у мяне вырываецца: “Ну, Коля, пакуль...” Так я ўспомніў імя, а прозвішча, перабіраючы розныя варыянты, успомніў толькі вечарам...

А было аднойчы, што я спусціўся па Музычным завулку на Гандлёвую, каб далей пакіравацца на кніжны кірмаш ля ВДНГ. З паркінгу каля офіснага цэнтра ў рэстарацыі “Журавінка” выехаў чорны BMW X-5 і спыніўся каля мяне. Хлопец-кіроўца адкрыў акно і пытаецца: “Сяргей?” Я кажу: “Так”. А той: “Я Раман, мы ў Сашы Швеца перасякаліся, памятаеш?” Я тупа гляджу ў твар, які, бясспрэчна, ведаю, але хто гэта, і хто такі Саша Швец – не памятаю... Склероз мазгоў. Ці адрыў ад радзімы? Раман прапануе падвезці некуды, яго ззаду сігналамі падганяюць іншыя кіроўцы, што таксама выехалі з паркінгу, я адмаўляюся, і ён збянтэжана кінуўшы: “Ну, яшчэ ўбачымся”, з’язджае. Сустрэў мяне вельмі прыязна, ледзьве не кінуўся абдымаць, а з’ехаў расчараваны. Я два дні думаў, хто такі гэты Раман, і што гэта за Саша Швец, і нарэшце

такі ўспомніў, але позна, позна. Чалавек быў мне рады, амаль шчаслівы, а я нават не паціснуў яму рукі... Так мы губляем наш свет, нашае кола, нашае жыццё... Праклятая эміграцыя і праклятая калхозная рэальнасць на радзіме, якая гоніць людзей адсюль!

А так у Менску... родна. Вельмі шмат прыгожай моладзі. У кожны свой прыезд у Менск я выпадкова чую на вуліцы беларускую мову, і асабліва часта – ад моладзі. Часам, я з такімі маладымі людзьмі знаёмлюся і яшчэ больш захапляюся імі. Ім усяго па 20 гадоў, калі ў 1994 годзе памянялася ўлада і пачала згортвацца беларусізацыя, ім было ўсяго па 3-4 гады. Адкуль жа ў іх столькі нацыянальнага пачуцця, адкуль у іх мяккія знакі ў допісах? Некаторыя прызнаюцца, што бацькі іх нічога агульнага з беларушчынай не маюць. Гэта містычная таямніца, агарнуць якую не могуць і нашы ворагі – відаць, яго вялікасць, сам наш наРОД, не хоча сыходзіць у нябыт з гэтай планеты...

Радуе і фізічны тып гэтых высокіх і прыгожых хлопцаў і дзяўчат. Іх асабліва прыемна бачыць на фоне многіх вульгарных твараў, бо падзеі апошніх 20-30 гадоў вымылі з вёсак рэшту беларускага генафонду. Я неяк гутарыў з доктаркай навук з Акадэміі, якая ўсё жыццё займаецца археалагічнай антрапалогіяй. Яна кажа, што цяпер мае месца выраджэнне нашага вясковага генатыпу і трэба маліцца на змешаныя шлюбы (хаця б у межах розных рэгіёнаў краіны), бо менавіта ад іх атрымліваюцца найбольш прыгожыя, актыўныя і энергічныя людзі. Здаецца, я недзе чытаў адваротнае, але доктарка, відаць, ведае, пра што кажа. У кожным выпадку, вульгарныя твары неяк прамінаюцца, а прыгожыя – наадварот, заўважаюцца і застаюцца ў памяці.

***

Зноў хаджу па Менску, зноў і зноў думаю пра тое, што ў родным горадзе дзеецца, і зноў і зноў вяртаюся думкамі да канфесійнай сітуацыі ў краіне. Яна, насамрэч, значна больш важная і значна больш уплывае на нас, чым мы гэта заўважаем і разумеем. Гэта, відаць, сапраўдны праклён Беларусі – яе царкоўная гісторыя. Не хочацца мне зноў і зноў кранаць гэтую тэму, але і абыйсці яе не магу.

Зноў думаю пра кананізацыю мітрапаліта літоўскага Іосіфа Сямашкі. Здаецца, галоўная і найтрагічнейшая "заслуга" гэтага царкоўнага дзеяча ў тым, што беларусы сёння думаюць, што ходзяць у праваслаўныя цэрквы, хоць, насамрэч, яны ходзяць у цэрквы расейскія...

Думаю, што ўшаноўваць Сямашку ў Беларусі, тым больш маліцца да яго, можа толькі той, у каго нянавісць да іншай канфесіі пераважае над любоўю да свайго народа і да сваёй радзімы. А гэта ўжо – фанатызм, які не мае нічога агульнага з хрысціянскай мараллю.

Нашую гуманітарыю, нашу свядомасць і нават мараль наўсцяж працінае канфесійнасць. Тое вынікла з нашай трагічнай гісторыі, і мы сёння такія слабыя і маніпуляваныя больш моцнымі суседзямі таму, што не можам гэтай канфесійнасці пазбыцца і замяніць яе на адзіна правільны нацыянальны падыход да ўсяго. Падыход інтэграваны і ўсёдаравальны – усё, што з намі было, усё наша.

А ў выніку адсутнасці такога падыходу і нашай духоўнай несамастойнасці адбываюцца фатальныя для народнай маралі падзеі. Мараль наогул – ці не самае важнае, што народу для нацыянальнага існавання і нацыянальнага імунітэту патрэбна. Многія знакавыя і сімвалічныя рэчы, што з намі адбываюцца і якія сведчаць пра няўхільны скон нашай народнай душы і самога нашага народа, маюць найперш маральнае вымярэнне.

Вуліцы Суворава ў беларускіх гарадах, помнікі Леніну, лінія Сталіна,

вандалізм у Курапатах і сама цяперашняя палітычная сістэма ў краіне – усё гэта найперш праблемы маральнага і духоўнага стану народа. І кананізацыя мітрапаліта Сямашкі, у прынцыпе, гэта яшчэ адна вуліца Суворава ці яшчэ адна Лінія Сталіна. Але ёсць тут адно “але”, адна папраўка, і сфармуляваць яе можна так: спачатку быў Сямашка, а пасля з’явілася ўсё астатняе. Не было б Сямашкі, не было б і лініі Сталіна, і вуліцы Суворава ў нашых гарадах ужо даўно пазнікалі б, і цяперашняй улады ў Беларусі магло б ніколі не быць. Сямашка – галоўны антыгерой беларускай гісторыі XIX стагоддзя і галоўны герой Расеі таго часу, гэта менавіта ён, а не Мураўёў-вешальнік зрабіў найболей для перамогі расейскай справы ў Заходнім краі...

А маленькіх “лініяў Сталіна” (або вуліцаў Суворава etc.) у Беларусі ўсё болей і болей. Адну з іх у лютым 2012 года я знайшоў на Вайсковых могілках у цэнтры Менска.

У 2010 годзе ў сталіцы Беларусі пачалася адбудова царквы Святога Духа на Пляцы Волі. Царква гэтая была храмам двух уніяцкіх базыльянскіх манастыроў, муры якіх шчасліва захаваліся побач з царквой да нашых дзён, прычым, адзін з іх, жаночы, з’яўляецца найстарэйшым мураваным будынкам сённяшняга Менска – яго аснова сягае ў XVI стагоддзе. У 1936 годзе перабудаваная ў XIX стагоддзі на расейскі праваслаўны катэдральны сабор Святадухаўка была ўзарваная. Выбух не толькі разбурыў сцены, але і пашкодзіў некаторыя пахавальныя крыпты ў лёхах царквы. І вось калі ў 2010 годзе будаўнікі раскапалі падмуркі Святадухаўкі, яны знайшлі і шэраг чалавечых парэштка ў. Да таго ж, будаўнікі разбурылі і непашкоджаныя пахавальныя крыпты ў падмурках, дзе знайшлося і адно нятленнае цела ў царкоўным аблачэнні. Бедныя менскія грэка-католікі прасілі ўлады, каб людскія парэшткі аддалі ім для належнага ўшанавання і перапахавання, служылі ля будаўнічай пляцоўкі малебны – нічога не дапамагло. Улады круцілі-муцілі, абяцалі вярнуць косці ў царкву і нават аднавіць крыпту ў лёхах новазбудаванай копіі храма, але ўрэшце нятленнае цела аказалася ў Акадэміі навук “для вывучэння”, а косці без следу зніклі.

Зрэшты, у 2011 годзе яны знайшліся. Аказалася, што праваслаўныя (!) святары пахавалі іх у брацкай магіле на вайсковых могілках у Менску. На маленькай непрыкметнай магіле паставілі крыж з дзікім, як на маё разуменне, надпісам: “Здесь покоятся останки христиан, обретенные при строительстве концертного зала детской филармонии на пл. Свободы в Минске”.

Крыж той за год ужо двойчы ламалі, ляжыць ён зламаны і цяпер... Нехта ўсё не можа супакоіцца. Канфесійны падыход не дае.

А насамрэч падзея, якую я апісаў, – страшная. Яна паказвае, у якой маральнай прорве знаходзіцца беларускае грамадства ў выніку канфесійнага падыходу да сваёй гісторыі. Заснавальніцай базыльянскага манастыра ў Менску была дачка вялікага канцлера літоўскага, стваральніка статута 1588 года Льва Сапегі Кацярына Сапяжанка, яна была першай ігуменняй менскіх базыльянак і ў царкве Святога Духа была пахаваная. Таксама ў царкве Святога Духа ў сярэдзіне XVII стагоддзя супакоіўся і фундатар царквы, кіеўскі ўніяцкі мітрапаліт Антоні Сялява. Гэта – выдатныя асобы і персанажы беларускай гісторыі без увагі на іх канфесійную прыналежнасць, і калі б нават падазрэнне было на тое, што іх парэшткі могуць аказацца сярод раскапаных касцей, іх трэба было б належным чынам ушанаваць. А тут жа ніякага падазрэння – гэта дакладны гістарычны факт, што ігумення Кацярына Сапяжанка і кіеўскі мітрапаліт Антоні Сялява былі пахаваныя ў гэтай царкве. І вось іх парэшткі апаганеныя і ананімна пахаваныя ў брацкай магіле пад цынічным расейскім надпісам...

Насамрэч, выкіданне мошчаў са Святадухаўкі – гэта гвалт над нашымі духоўнымі каранямі. Парэшткі беларускіх дзеячоў, нашых неабвешчаных святых – ігуменні Кацярыны Сапяжанкі, мітрапаліта Антонія Сялявы (як і сотняў іншых, якія былі апаганеныя і яшчэ будуць апаганеныя) – былі сапраўдным духоўным карэннем нацыі, метафізічным сховішчам нашага нацыянальнага духу, яго апірышчам. Нацыянальны дух нябачна і неадчувальна бруіўся і бруіцца адтуль, з-пад зямлі, і падмацоўвае жывы арганізм нашага народа. Такім містычным духоўным апірышчам і крыніцай духу з'яўляюцца наогул усе старажытныя муры нашых гарадоў і мястэчак. Таму ворагі заўсёды драталі і дратуюць не толькі гісторыю, памяць і матэрыяльныя яе ўвасабленні, але і магілы продкаў, могілкі. У 2010 годзе растапталі і апаганілі яшчэ адну містычную крыніцу народнага духу ў падмурках менскай Святадухаўкі.

Сама Беларусь, як і вялікая частка яе гісторыі і культуры, якую можна акрэсліць адным словам "Унія", засталіся сёння без гаспадароў і абаронцаў. А гэта чатыры з паловай стагоддзі існавання народа, у тым ліку апошнія 250 гадоў неперарыўнага існавання Уніі перад 1839 годам.

Таму і ляжыць нятленны Леў Сапега ў Вільні ўсімі забыты. Я кажу нятленны, бо прыхільная да беларусаў літоўская супрацоўніца музея ў віленскім касцёле святога Міхала дазваляла ў 80-я гады талакоўцам адсунуць вечка каменнага саркафага Сапегі і паглядзець на яго нятленнае засохлае цела з трэснутай скурай на лбе. У выпадку такой нятленнасці хрысціян абвяшчаюць святымі. Але беларускі нацыяналіст і творца Уніі Леў Сапега сёння нікому не патрэбны. Ні рыма-католікам беларусам, ні палякам, ні літоўцам – бо не іхні. Ні расейцам і праваслаўным беларусам – бо не іхні таксама. І няма каму да яго маліцца. Купка сённяшніх уніятаў у Беларусі не мае сілаў нават для таго, каб выпрасіць для сябе біскупа ў замілаванага Расеяй Ватыкана, а не тое, што абвясціць Сапегу святым. Пакутніка ГУЛАГу, уніяцкага архімандрыта Андрэя Цікоту – і таго цяпер кананізуюць расейскія католікі, а не беларусы.

Адзіна слушны і адзіна правільны падыход да гісторыі нам у XIX стагоддзі падмянілі падыходам канфесійным. І сёння ўжо не разабрацца, дзе, што і як перакручана ў беларускіх галовах, нават у лепшых з іх.

***

Перагледзеў у цягніку па дарозе ў Прагу кнігу Алега Латышонка "Нацыянальнасць – Беларус". Бачыў у друку станоўчыя водгукі. Мне сумна, бо разумею, якую вялікую небяспеку Беларусі, яе самаідэнтыфікацыі, самаўсведамленню і яе будучыні нясе Алег. Вельмі нетыповую, лакальную сітуацыю Беласточчыны ён пераносіць на ўсю Беларусь і спрабуе навязаць нам свае канцэпцыі. Сэнс думак Латышонка такі: не шукайце ніякага ліцвінства, гэта падман і польская інтрыга, не была Унія беларускай верай, нашто вам тая Літва, Беларусь – старэйшая за Літву і ВКЛ, мы з Полацку, мы адтуль, са Старажытнай Русі, мы праваслаўныя, мы... рускія. Лагічны ланцужок, які адкідае нас аж за Смаленск. Я б сказаў, далёка за Смаленск.

І што самае сумнае, такія ж самыя заклікі адмовіцца ад ліцвінства і спадчыны ВКЛ сёння гучаць і з іншага боку, з Масквы, а таксама і ад нашых уласных западнарусаў. Як дзіўна і як яскрава тыя, хто адкідае Унію, злучаюцца ў сваім пафасе і ў сваіх закліках з расейскімі імперцамі!

Насамрэч, у канцэпцыі Латышонка сканцэнтраваная ўся гістарычная трагедыя Літвы-Беларусі. І гэта сапраўдная трагедыя, калі такія выдатныя навукоўцы, як Латышонак і Сагановіч, шукаюць гістарычныя карані прыдуманай расейцамі назвы нашай краіны – Беларусі.

Насамрэч, сёння я магу адназначна сцвярджаць, што не можа існаваць

праваслаўнай дзяржавы “Беларусь” з беларускай дзяржаўнай мовай. Як яе сёння і няма. Многія і многія людзі, лепшыя людзі Беларусі, кандыдаты і дактары навук, не разумеюць, што не можа ўжо ў прынцыпе быць праваслаўнай Беларусі, а можа быць толькі праваслаўны расейскамоўны Паўночна-Заходні край. Праваслаўная Балгарыя магчымая, праваслаўныя Сербія, Румынія і Расея магчымыя, а вось Беларусь – не. Беларусь можа быць толькі шматканфесійнай.

Латышонак забірае ў нас 500 гадоў гісторыі, якія мы былі ў складзе ВКЛ. Яго канцэпцыя забірае ў нас усё, чым мы ганарымся. Калі б так, як Латышонак, думаў Уладзімер Арлоў, яго фундаментальная непераўзыдзеная кніга “Краіна Беларусь” страціла б дзве траціны свайго аб’ёму. Усё, чым мы сёння захапляемся, чым ганарымся і што любім у нашым мінулым – лепшыя часы, залаты век XV-XVII стагоддзяў – гэта часы ВКЛ, Уніі і ліцвінства.

Насамрэч, мы, канечне, Русь Літоўская, якая стагоддзямі вяла барацьбу з Руссю Маскоўскай за аб’яднанне ўсходнеславянскіх земляў. Цяжка раздзяліць у беларускай сутнасці рускае з літоўскім, якія зніталіся ў нас намёртва. Якраз гэтая сінтэтычная тоеснасць вытварыла наш народ – гэта і два этнічныя субстраты – славяне-балты, дзве цывілізацыйныя прасторы – Усход і Захад, дзве канфесіі – Усходняя і Заходняя, якія ў нас (упершыню ў гісторыі чалавецтва) нарадзілі свой сінтэтычны кампрамісны варыянт – Унію, якая паспела выйсці на ўзровень канонатворчасці.

Не хочацца зноў паўтараць (усё роўна ніхто не пачуе), што недасканалае асэнсаванне гістарычнага шляху Літвы-Беларусі наўпрост звязана і наўпрост выцякае з глыбіннага, карэннага няведання і неразумення царкоўнай гісторыі Беларусі. Шасцёра мітрапалітаў з адзінаццаці ў XV стагоддзі заключалі Унію з Рымам. Не ведаючы пра гэтыя шэсць Уніяў XV стагоддзя, пачынаючы з Уніі мітрапаліта Рыгора Цамблака 1417 года і канчаючы Уніяй мітрапаліта Іосіфа I Балгарыновіча 1500 года, нельга зразумець, чаму лепшыя “праваслаўныя” цэрквы Беларусі – віленская Траецкая, Супрасльская, наваградская Барысаглебская, Сынковіцкая і Мураванкаўская – гатычныя паводле сваёй архітэктуры. Не ведаючы, што ж за памежная, заходне-ўсходняя духоўнасць панавала ў нас у XV стагоддзі, нельга зразумець уніяцтва Францішка Скарыны, які, як вядома, вызнаваў каталіцкія дагматы ў сваіх выданнях, пакідаючы іх праваслаўнымі па форме. Пра ўніяцтва Скарыны чамусьці ведае і піша прафесар Гудавічус з Літвы, і не ведае (прынамсі, не піша) ніводзін прафесар у Беларусі.

Памежнасць, уніяцкасць Беларусі XV-XVI стагоддзяў нельга зразумець без ведання і без разумення больш даўняй царкоўнай гісторыі. Але навязаны беларусам расейскі канфесійны падыход да гісторыі не дазваляе сягаць і ў першае хрысціянскае тысячагоддзе – перашкаджаюць і там наварочаныя расейцамі горы няпраўды ці паўпраўды. Праблема заўсёды ў трактоўках.

***

Вось тыповы прыклад расейскага канфесійнага падыходу да гісторыі. У Беларусі шмат хто ведае праваслаўнага святара, кандыдата багаслоўя айца Сергія Гардуна. Гэты айцец – адзін з нямногіх праваслаўных святароў нашай краіны, які ўмее гаварыць па-беларуску, і нават упаўнаважаны сваім начальствам на гэта. Неяк айцец Гардун выступіў у часопісе “Дзеяслоў”* з рэзка крытычным водгукам на кнігу Паўла Севярынца “Люблю Беларусь”. У артыкуле пад назвай “Я таксама люблю Беларусь” ёсць шмат дзіўных для XXI стагоддзя пасажаў, напрыклад такі: “...Праўда яны таксама называюць

*Гл.: “Дзеяслоў” №2 (39) за 2009 г., с. 320-325.

сябе цэрквамі (лютэранская царква, англіканская царква, рыма-каталіцкая царква, баптысцкая царква і г.д.), але падставаў для гэтага няма аніякіх...” Паводле айца Сергія Гардуна, у пералічаных цэркваў няма ніякіх падставаў называцца цэрквамі... Мне было б цікава даведацца, як бы рэагавалі на такія перакананні праваслаўнага багаслова тыя пратэстанцкія і каталіцкія спонсары з Заходняй Еўропы, якія ў апошнія 25 гадоў выдаткавалі мільёны і мільёны на адбудову і адраджэнне Расейскай Праваслаўнай царквы.

Але тут мне больш цікавы менавіта расейскі канфесійны падыход да гісторыі. Айцец Гардун піша: “У Х-м ст. Сусветная Хрысціянская Царква адміністрацыйна ўяўляла сабою садружнасць пяці патрыярхатаў, роўных паміж сабою (пентархія) – Рымскага, Канстанцінопальскага, Александрыйскага, Антыяхійскага і Ерусалімскага. І вось у 1054 г. папа Рымскі Леў ІХ пасылае ў Канстанцінопаль дэлегацыю на чале з кардыналам Гумбертам. Кардынал не дасягае паразумення з патрыярхам Міхаілам Керулярыем і пасля гэтага 16 ліпеня 1054 г. падчас богаслужэння ўваходзіць у алтар храма Святой Сафіі ў Канстанцінопалі і кладзе на прастол храма анафему на Міхаіла Керулярыя і ўсіх ягоных аднадумцаў. Так рымская Царква аддзялілася ад Сусветнай Хрысціянскай Царквы ў 1054 г. і стала існаваць асобна”.

Самы смешны ў гэтай цытаце, вядома, апошні сказ пра “аддзяленне Рыма ад Сусветнай царквы”, але маю ўвагу найперш прыцягнуў яе пачатак, сцверджанне пра тое, што ў Х стагоддзі існавала “пентархія” або “садружнасць пяці патрыярхатаў, роўных паміж сабою”. Айцец Гардун наўмысна забыўся дадаць фразу пра першынство Рыма ў пентархіі. І гэтае першынство ўжо некалькі стагоддзяў запар аспрэчвалі (самі прэтэндуючы на яе) Канстанцінопальскія патрыярхі. Рабілі яны гэта то пад націскам імператараў, а то і па ўласнай волі і амбіцыі. Як кіраўнік сусветнай царквы, Папа меў права на адлучэнне ад яе раскольнікаў, што ён і зрабіў у 1054 годзе.

Міжволі ўспамінаецца сумная канстатацыя Чэхава ў яго лісце да Суворына: “...на Руси страшная бедность по части фактов и страшное богатство всякого рода рассуждений”. Сапраўды, расеец Чэхаў зразумеў самую сутнасць расейскай праблемы – мала сапраўднага ведання, затое вельмі шмат разважанняў і хлусні.

Айцец Гардун невыпадкова пачынае свой аповед з Х-га стагоддзя, да якога ён адносіць існаванне “пентархіі”. Расейскія праваслаўныя прапагандысты добра адпрацавалі схему сваёй маніпуляцыі гістарычнымі фактамі. А гістарычная праўда такая. У І-м стагоддзі – стагоддзі Хрыста, калі адразу пасля ўзнясення Стваральніка яго вучні паводле яго запавету пачалі ствараць і пашыраць хрысціянскую царкву, на Блізкім Усходзе і ў Еўропе ўзніклі дзясяткі епархіяў на чале з епіскапамі. Чатыры з гэтых епархіяў, дзе першымі епіскапамі былі вучні Хрыста – апосталы, атрымалі права называцца патрыярхатамі. Гэта – Рым і Антыяхія, дзе першым епіскапам быў апостал Пётр, Ерусалім (апостал Якуб) і Александрыя (апостал Марк). У 324 годзе н. э. імператар Канстанцін перанёс сталіцу Рымскай імперыі ў маленькі грэцкі гарадок у пярэдняй Азіі – Візантыю, якую ў VII стагоддзі да н. э. заснаваў палкаводзец Візант. Новую сталіцу назвалі Канстанцінопалем і разбудавалі да памераў вялікага гораду ўсяго за шэсць гадоў. У 330 годзе Канстанцінопаль меў ужо сталічны выгляд. Да пераносу сталіцы імперыі ў Візантыі хрысціянамі кіраваў шараговы епіскап. Калі ж горад стаў сталіцай імперыі, Канстанціну захацелася мець там мітрапаліта, а пасля і патрыярха. З мітрапалітам было лягчэй, а вось з патрыярхам выйшла загвоздка. Ніводзін з апосталаў не быў першым біскупам у Візантыі. Тады і прыдумалі паданне аб тым, што апостал Андрэй быў там першым біскупам. Урэшце імператары вырвалі ў папы рымскага згоду на прызнанне

заснаванага імі раней ў Канстанцінопалі некананічнага патрыярхату, а калі ў 451 годзе на Халкідонскім саборы прызналі, што патрыярхатам з'яўляецца і Александрыйская мітраполія, бо там першым біскупам быў апостал Марк, тады і ўзнікла так званая "пентархія" – сукупнасць пяці патрыярхатаў. Але ўвага (!) садружнасць патрыярхатаў да самага 1054 года існавала пры першынстве Рыма і пад кіраўніцтвам папы. Пра гэта сёння можна прачытаць, хіба, на ўсіх мовах свету і нават у Вікіпедыі, але толькі не на рускай мове ў Беларусі. І якраз гэта хавае ад нас услед за сваімі расейскімі настаўнікамі айцец Сергій Гардун. Папы кіравалі сусветнай царквой, зацвярджалі пастановы Усяленскіх сабораў, аднаўлялі хрысціянскае адзінства падчас схізмаў Акакія і Фоція, калі гэтыя канстанцінопальскія патрыярхі пад ціскам імператараў адпадалі ад Рыма, але агулам у першым тысячагоддзі заўсёды ўдавалася аднавіць хрысціянскае адзінства.

Тэарэтычна кожная епархія лічыцца як бы паўнавартаснай царквой – яна мае кананічную паўнату: вернікаў, пастыраў і архіпастыра. Але памятаючы словы Хрыста, звернутыя да Пятра ў Евангеллі паводле Мацвея, "І Я кажу табе: ты Пётр, на камені гэтым Я збудую царкву Маю, і брамы пякельныя не адолеюць яе. І дам табе ключы Царства Нябеснага: і што звяжаш на зямлі, тое будзе звязана ў нябёсах, і што развяжаш на зямлі, тое будзе развязана на нябёсах", хрысціяне ў першым стагоддзі адразу вызналі біскупа Пятра першым сярод роўных і прызналі за ім (а пасля яго пакутніцкай смерці і за яго наступнікамі на рымскай катэдры) права кіраваць усёй хрысціянскай царквой.

Гэта прызнавалі і самі апосталы, што пацвярджае наступная цытата з Дзеянняў, якая апісвае як у 51 годзе ўсе вучні Хрыста сабраліся на першы сабор у Ерусаліме: "Апосталы і прасвітары сабраліся для разгляду гэтае справы. Па доўгіх развагах Пётр, устаўшы, сказаў ім: мужы браты! Вы ведаеце, што Бог ад дзён першых абраў з нас мяне, каб з вуснаў маіх паганыя пачулі словы Евангелля і паверылі..."

Або вось яшчэ цытата з Дзеянняў, якая паказвае, як першыя хрысціяне ставіліся да кіраўніка хрысціянскай царквы: "Так што выносілі хворых на вуліцы і клалі на пасцелях і ложках, каб хоць цень праходзячага Пятра асяніў каго з іх".

Як бачым, не дарэмна айцец Гардун пачаў з X стагоддзя – яму так найбольш выгадна.

Тое самае з яго сцверджаннем наконт рымскай царквы, якая ў 1054 годзе нібыта сама аддзялілася ад нейкай "Сусветнай Хрысціянскай Царквы". Насамрэч, віна Рыма ў хрысціянскім падзеле другога тысячагоддзя сапраўды была – гэта крыжовыя паходы, у тым ліку агрэсія крыжакоў у Беларусі ў XIII-XIV стагоддзях. У выніку Антыяхійскі патрыярхат адпаў ад Рыму ў 1100 годзе, у 1188 годзе адпаў і Ерусалімскі патрыярхат. Александрыйскі патрыярхат пратрымаўся ў лучнасці з Рымам аж да 1218 года. Так што смешна і горка чытаць пасажы кандыдата расейскага багаслоўя, што Рым аддзяліўся ад сусветнай царквы ў 1054 годзе. Беларусы таксама 150 гадоў з Рымам не кантактавалі, а ў пачатку XV ст. пры Вітаўце пачаліся спробы вярнуць страчанае адзінства. Але, зноў кажу, пра гэта сёння можна прачытаць на ўсіх мовах свету. А паколькі ў Беларусі на іншых мовах амаль не чытаюць, значыць у нас пра гэта і не ведаюць.

***

Вось пішу гэта і думаю, ці прачытаюць мяне правільна, ці зразумеюць, што тэкст гэты – не апалогія Уніі і каталіцтва? Ці зразумеюць, што я, крый Божа, не заклікаю нікога пакідаць праваслаўе і пераходзіць у Унію ці лацінскае каталіцтва. Крый Божа... Хай кожны застаецца там, дзе яго трымае ўласнае

сумленне. Проста цяжка глядзець на туман у галовах, на аблуды і чужыя схемы ў беларускіх розумах.

Вядома, гісторыя наша была няпростаю. Былі праблемы, быў уціск, было процістаянне, былі і трагічныя міжканфесійныя канфлікты. Асабліва багатае на іх – XV-е стагоддзе нашай гісторыі. Палітыка Ягайлы, які даў прывілеі каталіцкай знаці, прывяла да шэрагу паўстанняў і адыходу ў Маскоўскую дзяржаву цэлых знатных родаў. Быў рэлігійны ўціск і няроўнасць і пазней. Усё гэта так. Але і без ведання пра хістанні нашай царквы паміж Канстанцінопалем і Рымам у XV-м стагоддзі, без ведання таго, напрыклад, што Кіеўскі мітрапаліт Ісідар быў адначасова і кардыналам Рымска-каталіцкай царквы, нельга зразумець і ўсвядоміць саму асаблівасць нашага гістарычнага шляху, нельга зразумець нашай адметнасці і тоеснасці. Без ведання пра Уніі XV-га стагоддзя нельга зразумець (зноў паўтаруся), адкуль у нас узялася праваслаўная гатычная архітэктура, нельга зразумець, чаму айцы Берасцейскай Уніі гаварылі не пра злучэнне з Рымам, але пра аднаўленне адзінства...

Без ведання ўсяго гэтага нельга зразумець і асаблівасці таго, што гісторыкі называюць Заходнерускай праваслаўнай царквой.

Насамрэч ад 988 года да 1839 усё гэта была адна беларуская царква, якую расейцы канчаткова ліквідавалі ў XIX стагоддзі. І гэтага мне асабліва шкада. Шкада старой праваслаўнай традыцыі, шкада асаблівага заходнерускага абраду, шкада музыкі і спеваў, якія ў Уніі дажылі да канца XVIII-га стагоддзя і былі замененыя на маскоўскія, шкада беларускага варыянту царкоўнаслявянскай мовы і асаблівага яе вымаўлення, шкада асаблівай сінтэтычнай заходне-ўсходняй архітэктуры нашых храмаў...

Шкада і Уніі, якая захавала многія традыцыі заходнерускай царквы і якая, на маю думку (і я пра гэта ўжо пісаў), стала галоўным укладам беларускага народа ў сусветную культуру, бо дасягнула пад канец XVIII-га стагоддзя ўзроўню ўласнай канонатворчасці, чаго больш нідзе ў свеце не было. Дзе яшчэ можна было ўбачыць такія цэрквы, як у нас, ды яшчэ з такім інтэр'ерам – каб і арганы, і іканастасы, і лаўкі, і пакутніцкі шлях Хрыста на сценах – Кальварыя, але з праваслаўнымі сюжэтамі замест каталіцкіх на некаторых абразах... І каб былі сёння ў кіраўніцтве разумныя людзі, то маглі б паказаць замежным турыстам (дый самім сабе) усю прыгажосць і незвычайнасць беларускай іканапіснай школы і архітэктурнай традыцыі, якія засталіся нам у спадчыну ад Уніі...

***

І вось я думаю, што гісторыя і гістарызм з'яўляюцца нарожнымі камянямі культуры і прагрэсу. Без гісторыі і гістарызму наступае заняпад, народ, які забываецца на сваё мінулае і прымае яго чужыя версіі як свае, занепадае культурна, маральна, і, урэшце, перастае існаваць.

Якраз таму і маюць месца ўсе гэтыя, на першы погляд, бяскрыўдныя рэчы кшталту заявы чыноўніка, што выраз "кадры рэшают всё" паходзіць са "старыны", менавіта таму настаўніцы шукаюць свае карані ў афганскай вайне 80-х гадоў XX стагоддзя, і менавіта таму зносяць апошнія рэшткі старога Менска і ставяць саламяных баб уздоўж транзітнай шашы на Маскву. Хай замежнікі любуюцца артэфактамі новай Беларусі і яе новага народанасельніцтва – без культуры, мовы і памяці.

Зрэшты, з цягам часу пустое чымсьці запаўняецца, і тады прыходзяць суседскія гісторыя і культура або гісторыя і культура заваёўнікаў, што ў беларускімі выпадку – адно і тое ж.

***

Я таксама думаю, што гэты мой палац з акном у восень – прыгожая, выспелая і дасканалая Беларусь – застаецца для мяне не толькі міражом, але і муляжом. Адзін заходні навуковец падлічыў, што за апошняе тысячагоддзе менавіта на тэрыторыі Беларусі загінула найболей людзей у розных войнах і паўстаннях. Беларусь, паводле яго – гэта чорная дзірка Еўропы, нейкія вялізарныя еўрапейскія могілкі. Я неяк заўважыў, што колькасць парафіяў у Беларусі ў XVI і ў канцы XX стагоддзяў была прыблізна аднолькаваю... І сапраўды, калі задумацца, дык шчыльнасць насельніцтва ў нас заўсёды была меншая за суседзяў, і заўсёды людзі з Беларусі адыходзілі. Як яны адыходзяць і цяпер. Тысячамі едуць і едуць прэч.

Мы – як гной гісторыі, мы ўзбагачалі і ўзбагачаем суседнія народы... А калі пачынаем супраціўляцца, яны нашых лідараў выбіваюць.

І вось калі б нам удалося некалі пабудаваць Беларусь беларускую, дэмакратычную і заможную, дык яна, у значнай меры, была б муляжом. Дакладней, не яна, але матэрыяльныя артэфакты новай-старой беларускай культуры. Амаль усё, створанае геніем нашага народа, з Беларусі вывезена захопнікамі і акупантамі, суседзямі далёкімі і блізкімі. Усё нашае захоўваецца за мяжой.

Раскрадзеная і нашая гісторыя. Усё нашае прысвоена літоўцамі, палякамі, украінцамі і расейцамі. Як паглядзіш, дык Грундвальдскую бітву выйгралі расейскія смаленскія палкі, люблінскі замак пры Ягайлу размалявалі расейскія майстры, мітрапаліты ў Навагрудку і Вільні жылі Кіеўскія, значыць – украінскія, Кірыла Тураўскі – украінскі святы, Вільня і Віленшчына то польскія, то літоўскія, і нідзе, нікога і нічога няма беларускага, дзірка – не было такой дзяржавы і такога народа, і канец... І так думаюць ці не ўсе навукоўцы на Захадзе...

Гарады і замкі нам (а ў апошні час – і мы самі) разбурылі. Нам застаецца цяпер толькі рабіць копіі, муляжы. Муляжы гістарычных цэнтраў гарадоў, муляжы зброі, рыцарскіх латаў, шляхецкага і магнацкага адзення, муляжы слуцкіх паясоў... Прыблізна так, як у Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання муляжамі з’яўляюцца і станкі, і кнігі...

Ну, але я быў бы за муляжы. Лепш муляж, чым нічога. Пара пакаленняў – і ніхто пра муляжы не ўспомніць...

***

Міражы, муляжы... А бярозы за вакном усё блішчаць пад цёплым дажджом... Усяго за тысячу кіламетраў на паўночны ўсход адсюль – краіна і народ, неад’емнай часткай якіх я з’яўляюся, пра якія думаю штодзень і якім болей за ўсё на свеце хачу дабра... Але яны крочаць і крочаць туды, куды я вельмі і вельмі не хачу. Я не рускі, не праваслаўны, не брат суседзям, не казак, не купаюся ў палонцы на Вадохрышча і г.д. Я люблю рэшткі еўрапейскага ў Беларусі, якія наш народ цяпер актыўна знішчае...

*Лістапад 2009 – люты 2012. Прага.*

СЛОВЫ

Алена Масла



...літаратура –

гэта радасць!..

# "Дарогу адолее той, хто ідзе", або Беларуска-шведскія паралелі ў дзіцячым кнігавыданні

***Гутарка з Янінай АРЛОЎ***

***"Феномен шведскай дзіцячай літаратуры" – гэты выраз, які разумеюць і прымаюць і тыя, хто вывучае дзіцячую літаратуру на прафесійным узроўні, і тыя, хто абірае кнігі для чытання сваім дзецям ва ўсім свеце. Ну, а дзеці могуць і не ведаць навуковых азначэнняў – яны проста вітаюць цудоўныя кнігі, створаныя шведскімі аўтарамі.***

***Згодна статыстыцы, з 2003 года адзначаецца істотнае ажыўленне, а па выніках 2006 года канстатуецца, што выданне дзіцячых кніг у Швецыі пабіла ўсе рэкорды. Самі шведы лічаць, што гэтаму спрыяла некалькі істотных фактараў: кампаніі па прапагандзе чытання, зніжэнне падаткаў на кнігавыданне, рост нараджальнасці і агульны пад'ём дабрабыту.***

***Крыху іншакш у нас. Беларусь, у якой з 1982 па 2002 год працавала ўнікальнае дзіцячае выдавецтва “Юнацтва”, толькі праз дзесяць гадоў пасля яго страты пачынае звяртаць пільную ўвагу менавіта на “дзіцячую” галіну кнігавыдання. З аднаго боку, крыўдна, што ўпушчаны каштоўны час: кніжны рынак, па-сутнасці, здадзены расійскім кнігавыдаўцам і, нягледзячы на багатыя традыцыі кнігавыдання, беларусы апынуліся ў нейкім сэнсе… напачатку шляху. Так імкліва развіваюцца тэхналогіі, ідзе абмен творчымі ідэямі, думкамі, што – дагнаць страчанае будзе надзвычай складана!***

***З іншага боку, калі заглыбляешся ў праблемы шведскага кнігавыдання (каб мець іх прыклад развіцця за ўзор альбо проста ўважаць іх вопыт як варты ўвагі і вывучэння), апынаешся перад не аднойчы пацверджаным жыццём фактам: дарогу адужае той, хто ідзе.***

***Хацелася б, каб у нашай кароткай гутарцы з Янінай Арлоў (Janina Orlov), шведскай перакладчыцай, літаратуразнаўцай, крытыкам дзіцячай літаратуры калегі пачулі менавіта гэтую ісціну.***

**Алена Масла:** – ***Спадарыня Яніна, падчас удзелу ў семінары па дзіцячай літаратуры ў Стакгольме (2009 год) я зрабіла для сябе нечаканае адкрыццё. У Швецыі, дзе штогод выходзіць 1500-1800 кніг для дзяцей; дзе працуе Інстытут дзіцячай кнігі; дзе самыя буйныя газеты краіны штотыдзень даюць агляд дзіцячай літаратуры; дзе ёсць Юнібакен – незвычайны музей дзіцячай кнігі, урэшце, там, дзе заснавана прэстыжная міжнародная прэмія па дзіцячай літаратуры імя Астрыд Ліндгрэн, якая па сваёй значнасці прыраўноваецца да Нобелеўскай – гучалі скаргі крытыкаў дзіцячай літаратуры на тое, што дзіцячай літаратуры ў вас надаецца не столькі ўвагі, колькі хацелася б… А вы падзяляеце гэту незадаволенасць?***

**Яніна Арлоў:** – Гэта праўда – і няпраўда адначасова. Заўжды афіцыйна лічыцца, што дзіцячая літаратура – вельмі важная справа, ёй трэба займацца, развіваць, падтрымліваць. Аднак ёсць розніца паміж тым, што канстатуюць і як ставяцца насамрэч да дзіцячай літаратуры. Але я кажу сваім студэнтам, што мы не павінны гэта нават падкрэсліваць, бо кожны раз, як толькі мы гэта паўтараем, факт пацвярджаецца і замацоўваецца...

Але, бясспрэчна, такая праблема ёсць. І гэта датычыць не толькі рэцэнзій на дзіцячыя кнігі. Напрыклад, шведская Акадэмія навук, найпершая задача якой – праца са шведскай мовай, дапамога ў яе развіцці, выдае вельмі шмат стыпендый і грантаў... Але каб дзіцячы пісьменнік атрымаў гэтыя грошы – выключная рэдкасць. І гэта вельмі дзіўна з іх боку.

***– А ў чым вы бачыце праблему такога стаўлення?***

– Мне здаецца, яны проста зусім не разбіраюцца ў дзіцячай літаратуры, не разумеюць, што гэта такое – хаця вельмі любяць паразважаць пра тое, як гэта важна. Дадатковая праблема палягае яшчэ ў тым, што да дзіцячай літаратуры наогул ставяцца як да нейкага маналіту. Гэта – найвялікшая памылка спецыялістаў: вылучэнне дзіцячай літаратуры як асобнага жанра. Дзіцячая літаратура – шматжанравая, як і літаратура для дарослых. І ў гэтым сэнсе тут ёсць рэчы добрыя і дрэнныя, не якасныя.

***– Цалкам падтрымліваю вас. На вялікі жаль, у нас апошнім часам наогул нейкая мазахісцкая мода пайшла ў дачыненні да беларускай дзіцячай літаратуры – усё не так! Проста па азначэнні.***

– Ну, так дакладна быць не можа!

***– З аднаго боку, магчыма, так балюча ламаюцца менавіта традыцыі дыдактычнасці, маралізатарства, размовы з дзецьмі “зверху ўніз”… І ўсё ж, абсалютна слушна вы заўважылі, калі бясконца паўтараць негатыўнае***



Яніна АРЛОЎ.

***сцвярджэнне, яно толькі пацвярджаецца і замацоўваецца... Такі негатыў, на маю думку, здольны толькі пагоршыць сапраўды вельмі складанае становішча беларускай дзіцячай кнігі. А складанасць сёння не ў апошнюю чаргу звязана з адлучэннем ад роднай мовы. На жаль, вельмі часта беларускім дзецям даводзіцца проста тлумачыць беларускую лексіку, а не пра вартасці твора разважаць...***

***У звязку з гэтай праблемай дазвольце ў вас запытацца: згаданая практыка падтрымкі шведскай акадэміяй роднай мовы – гэта вымушаная мера? Англійская мова ў Швецыі – як другая родная...***

– Не, я б не сказала, што ёсць пагроза выцяснення шведскай мовы англійскай, асабліва калі датычыць правінцыі. У вялікіх гарадах, канечне, англійскай мовай карыстаюцца вельмі актыўна, але ўсё адно мы можам гаварыць не пра пагрозу, а толькі пра значны ўплыў англійскай мовы. Моўнай праблемы ў нас, на шчасце, не існуе.

***– Вы выдатна ведаеце скандынаўскую і рускую дзіцячыя літаратуры. Згодна вашаму прызнанню, марыце вывучыць беларускую мову – і тады пачытаць нашыя дзіцячыя кнігі. І ўсё ж, паколькі Беларусь – частка постсавецкай прасторы, а таму ў нас ёсць агульнае савецкае мінулае і агульныя традыцыі ў дзіцячай савецкай літаратуры, якія датычаць і Беларусі, хацелася б пачуць аб прынцыповых адрозненнях і агульных рысах паміж скандынаўскай і нашай дзіцячай літаратурамі.***

– Вельмі шмат агульнага. Але, як мне падаецца, скандынаўская дзіцячая літаратура знаходзіцца на ўзроўні дзіцяці. Тое ж, што я чытала ў рускай літаратуры – часцей за ўсё павучальная літаратура, калі дзіця трэба чамусьці навучыць. Гэта выхаваўчая літаратура. Але не ўся, ёсць выключэнні...

***– Гэтыя выключэнні, як правіла, і становяцца пасля любімымі кнігамі.***

– У тым і справа. Ёсць, да прыкладу, расійскі казачнік Сяргей Сядоў – вельмі смешны, крыху абсурдны, у стылі Данііла Хармса. Але такіх імёнаў зусім не шмат у рускай дзіцячай літаратуры. Я ўвесь час чакаю, што нешта павінна адбыцца.

***– Шведская дзіцячая літаратура таксама пачыналася з павучальнай – "Прыгожае і надзвычайнае для паненак" – кніга, выдадзеная ў Швецыі***

***ў 1591 годзе, ад якой вядзе адлік гісторыя дзіцячай шведскай кнігі. Пасля была Сэльма Лагерлёф, і яна зрабіла важкі ўнёсак у развіццё літаратуры для дзяцей... Наогул, якія этапы вылучаеце вы?***

– Адкрыю вам сакрэт. Я цяпер пішу гісторыю шведскай дзіцячай літаратуры і спрабую даказаць, што насамрэч шведская дзіцячая літаратура мае ўзрост нават большы, чым 400 гадоў – ёсць факты, якія кнігу “Прыгожае і надзвычайнае для паненак” адсоўваюць на другое месца. Ну, але падрабязнасцяў пакуль што не буду расказваць, пра іх – як скончу сваю навуковую працу!

Пераломным жа этапам у шведскай дзіцячай літаратуры лічыцца 1945 год, калі ўпершыню выступілі Астрыд Ліндгрэн, Тувэ Янсан, Ленард Хельсінг... Гэтыя аўтары стварылі пазітыўныя, радасныя, у мастацкім сэнсе якасныя творы для дзяцей. Яны не столькі павучаюць, але звяртаюць увагу на свабоду дзіцяці, яго індывідуальнасць, гуляюць з мовай.

У пасляваенны час гэта было асабліва важна. Шведскае грамадства не жадала больш вайны, не хацела выхоўваць дзяцей у прыгнечанай атмасферы, расціць з іх салдатаў.

У нас вялікае развіццё атрымала кніжка-карцінка, а таксама літаратура для падлеткаў (у якой, трэба прызнаць, адчуваецца вялікі ўплыў амерыканскай літаратуры).

Да гэтай пары на дзіцячую літаратуру Швецыі вялізарны ўплыў аказвае Астрыд Ліндгрэн. Яна – сапраўдная зорка. Пра кожнага шведскага дзіцячага пісьменніка можна сказаць, што Ліндгрэн мела на яго ўплыў – незалежна ад таго, любіў ён яе ці не. Не ўсе ж любяць творчасць Астрыд Ліндгрэн, не ўсім яна па душы – але, тым не менш, усе маюць нейкае дачыненне да яе творчасці.

***– Што цалкам натуральна, бо ў кожнага свае перавагі, у тым ліку і ў літаратуры.***

– Безумоўна. Аднак асабліва для замежжа шведская дзіцячая літаратура – гэта найперш Астрыд Ліндгрэн.

***– А сёння ёсць у вас зоркі такой жа велічыні, як Ліндгрэн? Усё ж 1500-1700 кніг для дзяцей штогод, з іх 40 адсоткаў – перакладныя, а 60 адсоткаў – арыгінальныя шведскія кнігі. Гэта шмат! Відаць, усе, хто піша для дзяцей, усе і выдаюцца!***

– Дзе там! Багата і тых, хто піша ў стол, або выдаецца за свой кошт невялікімі накладамі не ў сапраўдных выдавецтвах!

***– У такім разе, хто цяпер складае літаратурнае ядро дзіцячай літаратуры Швецыі?***

– Асобныя імёны не хачу называць, скажу пра тэндэнцыі. Цяпер у нас дужа папулярны жанр дэтэктыву. На жаль, вельмі часта гэта слабыя кнігі. Яны як цукерка для дзіцяці – ён з’есць яе, але вяртацца да яе не будзе. Гэта танная літаратура – як паўсюль у свеце, ёсць гэта і ў нас.

А вось лідарства ў сучаснай скандынаўскай дзіцячай літаратуры належыць цяпер не Швецыі, а Нарвегіі і Даніі; гэта кніжкі-карцінкі.

***– Гэтыя кнігі такія папулярныя таму, што ўзроставыя, для маленькіх чытачоў?***

– Наогул, канечне, так. Але менавіта нарвежскія і дацкія кніжкі-карцінкі перайшлі ўсе ўзроставыя межы. Гэтыя кніжкі-карцінкі ўжо нельга назваць дзіцячымі. Я тут не хачу называць імёны аўтараў, скажу толькі, што гэта творчы дуэт – муж і жонка, яна мастачка, ён паэт. У іх цяпер з’явілася пяць кніг на такія тэмы, што нават у Швецыі іх прадаюць з-пад прылаўка.

***– Раскажыце хаця б, што гэта за кнігі.***

– Адна з кніг называецца “Лагер”. Выкарыстоўваць тэму канцлагера ў дзіцячай кнізе надзвычай цяжка. Аўтары наогул даводзяць, што тэма канцлагера ў іх

– гэта метафара, што яны хацелі абудзіць дарослых і паказаць ім, якое дзяцінства патрэбна дзецям, а якое – не. Насамрэч, атрымалася жудасная кніга. І яны дадумаліся ў Польшчу з прэзентацыяй такой кнігі ехаць, дзе тэма канцлагераў надзвычай балючая. Не дзіва, што публіка там іх не прыняла.

Другая кніга гэтых жа аўтараў называецца “Ідыёт”, і распавядае яна пра жудасную сямейную сітуацыю. Сын дэбільны, маці не вытрымлівае жыцця з ім, таму труціць сына таблеткамі і сама іх п’е. У выніку – два трупы. Прабачце, дык гэта інструкцыя па тым, як знішчыць уласнае дзіця? Як растлумачыць, навошта такая літаратура? А крытыкі захапляюцца...

***– Гэта, даруйце, падобна на парнаграфію. Калі эротыка ўжо не ўзрушвае…***

– Вось-вось, менавіта так. Гэта літаратура, дзе ўсё можна. І ў Нарвегіі ёсць такі рух, але там усё ж крыху спакайней. Там у жанры кніжкі-карцінкі таксама працуе сямейная пара. Іх кніга пра вельмі складанае жыццё ў сям’і, дзе бацька п’е, б’е маці, а хлопчык шкадуе бацьку ды імкнецца зразумець яго – страшная, але харошая.

***– Мне падаецца, такія кніжкі-карцінкі толькі традыцыйна, менавіта з-за мноства ілюстрацый, лічацца дзіцячымі. Хутчэй яны як SOS для дарослых, спроба прыцягнуць іх увагу да нейкай азначанай тэмы: кароткі тэкст на вострую сацыяльную праблему, шмат карцінак… Сучасны чалавек з кліпавым мысленнем, для якога вольны час – ці не найвялікшы дэфіцыт, такую кнігу дакладна адужае.***

***А вось імкненне пагрузіць дзіця з дапамогай кнігі ў жорсткую рэчаіснасць, пабытовы гвалт у кнігах для дзяцей – для мяне, прынамсі, сведчанне таго, што свет стаў жорсткім у стаўленні да дзяцінства. Кажуць жа – якое жыццё, такія і песні (ці, перафразаваўшы, кнігі). Бясспрэчна, што дзецям трэба дапамагчы разабрацца ў тым, што адбываецца вакол. І жахліва ад таго, з якімі праблемамі, створанымі ў рэальнасці дарослымі, дзецям даводзіцца жыць...***

– Гэта так...

***– Спадарыня Яніна, і ўсё ж, вяртаючыся да кнігавыдання ў Швецыі. Як шведскія кнігавыдаўцы абіраюць кнігі для выдання? Ці вядуцца на густ масавага чытача?***

– Добрае пытанне. У Швецыі шмат старых буйных выдавецтваў. Вось яны ў асноўным і друкуюць кнігі для масавага чытання. А ёсць маленькія выдавецтвы, і яны больш адважныя. У асноўным гэта яны выдаюць сёння добрую літаратуру. Гэта здзіўляе, бо ім цяжэй на рынку. Але, разам з тым, яны аказваюцца больш мабільнымі.

***– А вы можаце сказаць, што ў сучаснай шведскай дзіцячай літаратуры кніга для масавага чытача пераважае?***

– О так! Я б нават сказала, што зашмат кніг выходзіць у нас штогод, можна было б напалову меней.

***– Акрэсліце, калі ласка, задачы крытыкаў дзіцячай літаратуры ў Швецыі. Як справіцца з такой колькасцю кніг, як дапамагчы зарыентавацца чытачам?***

– У Швецыі сёння на дастаткова добрым узроўні крытыка дзіцячай літаратуры. У буйных газетах кожны тыдзень выходзіць агляд дзіцячых кніг, у Сеціве шмат рэцэнзій. Вялікія газеты, у асноўным, пішуць пра добрыя дзіцячыя кнігі. Рэцэнзія ў салідным выданні – як своеасаблівы знак якасці. Таму шмат пакрыўджаных аўтараў, якія не разумеюць, чаму пра адны кнігі пішуць і пішуць шмат, а іншыя зусім не згадваюцца: адвечная праблема.

***– А як вы ставіцеся да знішчальнай крытыкі?***

– Знішчаць – гэта вельмі проста і ні да чаго добрага не вядзе, толькі можа забіць чалавека. Наогул, такая крытыка – ад прафесійнай бязграматнасці.

***– Як вам бачыцца далейшае развіццё дзіцячай літаратуры ў Швецыі?***

– О, гэта надзвычай складанае пытанне! Ёсць асаблівасці дзіцячай кнігі – для ўзроста, калі ўжо патрэбна не традыцыйная кніжка-карцінка, а кнігі для падлеткаў яшчэ зарана... Гэта літаратура для дзяцей ад 7 да 10 гадоў. Для гэтай групы чамусьці цяпер мала добрых кніг. І калі даюцца розныя прэміі, кніг для гэтага ўзросту чамусьці не відаць.

Нават не магу сказаць, чаму так адбываецца. Магчыма, з-за таго, што існуе перакананне: кніжка-карцінка і падлеткавая літаратура – гэта тое, што прэстыжна ствараць. Кніжка-карцінка сама па сабе – яскравая з'ява. Падлеткавая ж літаратура падобная ўжо да "вялікай". А вось міжузроставая кніга застаецца па-за ўвагай аўтараў. Хацелася б ліквідаваць гэты прабел.

***– Наколькі я ведаю, тэма вайны ў шведскай літаратуры для дзяцей зусім не развітая. Ці, магчыма, яна забароненая?***

– Не, што вы, у нас няма забаронаў. Іншая справа, што пра вайну не пішуць па аб'ектыўных падставах: усё ж у Швецыі 200 гадоў не было вайны. Я сама родам з Фінляндыі і час ад часу ўражваюся нячведаннем шведаў пра вайну. Але сучасная Швецыя сатканая з розных культур, тут жыве шмат бежанцаў з розных гарачых кропак – таму будзе няпраўдаю сцвярджаць, што гэта тэма не актуальная для нашага грамадства. Тэмы вайны, сапраўды, няма ў шведскай дзіцячай літаратуры. Але калі няма досведу – не варта пра гэта пісаць, каб пазбегнуць фальшы. Бо заўжды паўстае пытанне, як апісваць цяжкія тэмы. А тэма вайны якраз і належыць да цяжкіх, таму, калі няма асабістага досведу, перажыванняў – лепей не пісаць. Вось шведы і не ведаюць, як падступіцца да гэтай тэмы.

***– У нас па шэрагу прычынаў папулярная фальклорная літаратура – кнігі прыказак, прымавак, народных казак... А ў Швецыі?***

– Фальклорныя творы ў нас таксама выдаюцца, але каб яны былі папулярнымі – не скажу. Хаця зазначу: шкада, бо гэта найцікавейшы пласт культуры.

***– Беларусь – краіна, вельмі адкрытая свету. Мы, да прыкладу, вельмі ахвотна выдаем казкі розных народаў. Шведы ж насцярожана ставяцца да прысутнасці твораў іншых культур у кантэксце свайго літаратурнага працэсу.***

– На жаль, гэта сапраўды так. Выдаюцца кнігі, блізкія нам па менталітэту – у асноўным, пераклады англамоўнай літаратуры, тых народаў, культуру якіх мы ведаем. Выдаўцы не рызыкуюць, лічаць, што астатняе – чужое, чужароднае. Насамрэч, гэта глупства, і шкада, што яно існуе. Я лічу, гэта старамодна – думаць, што нейкая тэма складаная для дзіцячага ўспрыяцця.

***– Я ведаю, што ў сучаснай Германіі, перапоўненай эмігрантамі, выдаецца шмат кніг, наўмысна напісаных спрошчанай нямецкай мовай – для людзей, якім яна не родная. Ці ёсць такія кнігі ў Швецыі?***

– Так, ёсць.

***– На маю думку, беларусам варта было б звярнуць увагу на гэту практыку, але ўжо не дзеля таго, каб нас разумелі не толькі прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, а самі ж беларусы...***

– Прынамсі, рэаліямі жыцця нельга пагарджаць. Неабходна ўлічваць узровень валодання мовай пры стварэнні кніг.

***– Вы ўжо другі раз у Беларусі і сустракаліся з беларускімі чытачамі ў Пінску, Магілёве, Мінску. На гэты раз у вас надзвычай прыемная нагода для візіту – кніга славутага шведскага пісьменніка (і, дадамо для чытачоў, вашага мужа) Ульфа Старка "Дыктатар" перакладзена на беларускую мову і выйшла ў выдавецтве "Логвінаў". Шэраг прэзентацый адбыўся, частка – наперадзе. І на ўсіх мерапрыемствах прысутнічаюць дзеці. Што, на ваш погляд, родніць і адрознівае беларускіх і шведскіх дзяцей?***

– Вельмі шмат агульнага. Дзеці (як і дарослыя) самі па сабе розныя. Калі ім сумна, яны сыходзяць з сустрэчы. Таму не варта перад імі прыкідвацца, яны адразу гэта адчуваюць. Хаця, з іншага боку, у дзяцей таксама можа быць кепскі густ...

***– І што з гэтым рабіць? Як абмінуць гэту праблему? Як тут не займацца выхаваннем?***

– Ну што ж паробіш! Мы маем права сказаць пра нейкую канкрэтную кнігу, што яна кепска напісаная, слабая. Але калі чалавеку падабаецца – калі ласка, няхай чытае, значыць, гэта кніга яго ўзроўню.

***– Цяпер шмат гаворыцца пра тое, што дзеці мала чытаюць...***

– Так, ёсць такая праблема. Але варта не забывацца, што, калі яны не чытаюць кнігі, то ўсё адно чытаюць тэксты – у Сеціве, з мабільніка. Так што праблема з чытаннем складаная, але не настолькі.

***– Вызначце, калі ласка, месца кнігі ў фарміраванні асобы – на вашу думку.***

– Даволі часта, калі мы гаворым пра дзяцей, карыстаемся адпачатку няправільным сцвярджэннем: каб стаць добрым чалавекам, трэба шмат чытаць. Усё не так адназначна. І благія, і добрыя людзі бываюць як аматарамі кніг – так і не.

Іншая справа, што ў кнізе можна сустрэць сябе, з дапамогай літаратурнага твора знайсці адказы на пытанні, што цябе хвалююць. Зноў жа, калі знаходзішся ў натоўпе – добра мець пры сабе кнігу. Гэта нібы адчыніць дзверы ў іншы свет і адасобіцца ад астатніх.

***– Дзе ў Швецыі вывучаюць дзіцячую літаратуру?***

– Дзіцячая літаратура вывучаецца курсамі ва ўсіх гуманітарных навучальных установах, абавязкова – усімі выкладчыкамі, у тым ліку і гісторыкамі, і матэматыкамі.

***– У Швецыі ёсць праграма па літаратурнаму чытанню, ці гэта рэкамендацыйны спіс?***

– Так, у Швецыі ёсць абавязковая праграма, але кожная школа выбірае для сябе кнігі для чытання. Некалькі гадоў таму была размова, што трэба ствараць канон літаратуры для школьнікаў, але ён да гэтай пары так і не створаны. У Даніі, напрыклад, такі канон ёсць. На мой погляд, гэта не патрэбна. Сучасная Швецыя – шматнацыянальная краіна, прадстаўнікі шматлікіх культур насяляюць яе. Так што вельмі складана гаварыць пра тое, што такое наша культурная спадчына і якія кнігі павінны чытаць людзі.

***– Як вы лічыце, што спрыяе развіццю кнігавыдання ў Швецыі – нізкія падаткі, любоў да чытання...***

(перапыняе). – Канечне, нізкія падаткі! (Падатак на дададзеную вартасць тавараў у Швецыі складае 25%, на прадукты харчавання ён – 12%, а на кнігі – 6%. Таму кнігавыданне ў Швецыі – сапраўды выгадны бізнэс, і штогод на 9 мільёнаў жыхароў у гэтай краіне выдаецца толькі дзіцячых кніг да 1800 найменняў. – А.М.).

***– Спадарыня Яніна, вы можаце назваць складальнікі сапраўднай дзіцячай кнігі?***

– У маім разуменні да літаратуры трэба ставіцца як да твора мастацтва. Літаратура не ёсць інструмент, з дапамогай якога нешта дасягаецца. Важна памятаць пра мову твора. Літаратура будуецца на мове, мы гэта ведаем. Важна, аднак, разумець, што мова – не толькі нешта сур'ёзнае, з мовай можна гуляць, эксперыментаваць, атрымліваць асалоду. Літаратура – гэта радасць.

***– Пасля гэтага аптымістычнага сцвярджэння дазвольце запытацца: што б вы пажадалі беларускім аўтарам і кнігавыдаўцам?***

– Не баяцца эксперыментаў і – працаваць. Усё павінна атрымацца!

*Фота Алены Казловай.*

# СЛОВЫ



Валер Прычынец



...непараўнальнасць, унікальнасць і адметнасць кожнай асобы павінна быць нормай, а не выключэннем...

## "Кожнаму паэту не павінна быць роўных"

***Гутарка з Віктарам ЖЫБУЛЕМ***

***— Віктар, ці памятаеш ты свае першыя спробы ў вершаскладанні і на якой мове яны былі? Цікава, у якім часопісе ці газеце была першая публікацыя?***

— Пісаць вершы я пачаў у 5 гадоў на рускай мове – іншай у дзіцячым садку я тады, на жаль, не чуў. Па-беларуску мы спявалі на музычных занятках толькі адну песню – "Купалінку". Дык я не разумеў, што такое "ружы збірае", і думаў, што гэта песня пра партызанку, якая на полі бою "ружья собирает". Калі цікава, то першы мой верш гучаў прыкладна так:

Шнурок развязал,
Носок потерял.
Грязные ушки
На подушке.
Кто это такой?
Мальчик плохой.

Ну, а на беларускую мову канчаткова перайшоў у 16 гадоў. Мае першыя публікацыі з’явіліся ў 1995 годзе ў часопісе “Першацвет”, літаб’яднанне пры якім я наведваў.

***— Ці паспрыяла твайму літаратурнаму развіццю філалагічная адукацыя?***

— Так, безумоўна, паспрыяла. Спачатку я збіраўся паступаць на гістарычны факультэт, але потым перадумаў і пайшоў на філалагічны. Пра што не шкадую. Вучыўся я на ангельска-беларускім аддзяленні, і гэта давала магчымасць у вялікім аб’ёме знаёміцца з літаратурамі розных краінаў. Менавіта на філфакаўскіх лекцыях я адкрыў для сябе многія творы сусветнага прыгожага пісьменства. Адзіны мінус тут – тое, што гэты аб’ём часам звальваўся на нас такой лавінай, што прачытаць за кароткі тэрмін агромністыя стосы кніг (па ўсіх прадметах адразу) было праблематычна.

***— Ты з’яўляешся чальцом авангарднага літаратурнага руху “Бум-Бам-Літ”. Як ты мяркуеш, гэтае аб’яднанне прыўнесла ў беларускую літаратуру нешта кардынальна новае? І ўвогуле, што пасадзейнічала стварэнню такога “нестандартнага” аб’яднання?***

— “Бум-Бам-Літ” утварыўся ў сярэдзіне 1990-х, калі беларускія літаратары-авангардысты адчулі патрэбу аб’яднацца для сумесных выступаў у друку і на сцэне. Захацелася неяк ускалыхнуць, разварушыць, ажывіць літаратурную сітуацыю. Дзякуючы ў тым ліку і нам шмат хто з маладога пакалення зразумеў, што беларуская літаратура – гэта не толькі нешта загнанае ў рэзервацыю школьных падручнікаў, што гэта такая самая жывая і арганічная з’ява, як, скажам, рок-музыка. На нашых імпрэзах мы чаргавалі паэтычныя выступы з музычнымі, актыўна супрацоўнічалі з мастакамі, самі займаліся сінтэзам мастацтваў, паэтычную дэкламацыю часта спалучалі з элементамі тэатралізацыі, перформансу, выкарыстоўвалі нетрадыцыйнае гукавое аздабленне, розны рэквізіт. Апошнія гады на Беларусі атрымала пэўнае развіццё такая з’ява, як слэм – спаборніцтвы па артыстычным выкананні вершаў. Дык вось, мы ў падобнай манеры пачыналі выступаць яшчэ ў 1990-х, хіба што спаборнічаць адзін з адным не думалі. Можна сказаць, што мы вывелі беларускую літаратуру за межы ўласна літаратуры, бо ёй даўно ўжо стала зацесна ў межах самой сябе. Я кажу тут найперш пра беларускамоўны кантэкст, бо на рускай мове Дзмітры Строцаў разам з асацыяцыяй “Беларускі клімат” рабіў штосьці такое яшчэ ў канцы 1980-х.

Ну і, вядома ж, кожны з нас стварыў нейкі свой адметны індывідуальны стыль, а часам нават – літаратурна-мастацкі метад. У Сержа Мінскевіча і Алеся Туровіча гэта транслагізм, у Арцёма Кавалеўскага – логафармізм. Але галоўным тэарэтыкам “Бум-Бам-Літу” і беларускага авангардызму ўвогуле быў і застаецца Юрась Барысевіч – аўтар “рэвалюцыйных” тэарэтычных распрацовак у галіне сучаснага мастацтвазнаўства. У Змітра Вішнёва на пэўным этапе дамінавала афрыканская тэма (ён нават называў свой кірунак афрыканізмам), у Дзяніса Хвастоўскага – шатландская. Цыкламі сцёбных соц-артаўскіх вершаў пра Леніна, рабочых і Дзедаву Нагу адзначыўся ў свой час Усевалад Гарачка, якому паспяхова ўдаецца пісаць і філасофскую лірыку. Атрымалі прызнанне ў свеце і актыўна перакладаюцца на замежныя мовы проза Альгерда Бахарэвіча і паэзія Вальжыны Морт. Застаецца верным кірунку трансгрэсіўнай прозы Ілля Сін. А Віктар Лупасін, які далучыўся да “Бум-Бам-Літу” апошнім, – яскравы прадстаўнік канцэптуалізму, стваральнік шматлікіх літаратурных іміджаў і масак. Ёсць цікавыя знаходкі і ў творах Ганны Ціханавай, Міхася Башуры, Алены Кіені. Нават такі, здавалася б, традыцыйны паэт як Сяргей Патаранскі, падчас свайго перабывання ў “Бум-Бам-Ліце” апублікаваў некалькі “завумных” вершаў, стылізаваных пад шаманскія мантры. Але, напэўна, лепей пра нашыя дасягненні вырашаць даследчыкам. Вунь,



*Віктар ЖЫБУЛЬ.*

скажам, некалькі гадоў таму ў Польшчы выйшла кніга Катажыны Бартноўскай "Лірыка пакалення Бум-Бам-Літу" – там сёе-тое пра нас напісана.

Нейкі час нас называлі ледзьве не першымі беларускімі постмадэрністамі, а цяпер ужо – поставангардыстамі. На маю думку, другое вызначэнне больш карэктнае. Постмадэрністамі на Беларусі ўпершыню абвясцілі сябе не мы, а «Верш-гурт "Дыяген"» з Горадні. А ў нашай творчасці постмадэрнізм выявіўся ўсё ж не ў выглядзе цэласнай сістэмы, а ў выглядзе нейкіх асобных дэталяў і элементаў.

***— 5 красавіка адбылася прэзентацыя тваёй новай кнігі "Стапеліі", чым абумоўлены выбар такой назвы?***

— "Стапеліі" – гэта рэінкарнацыя маёй ранейшай кнігі "Finita la tragedia", якая была падрыхтавана яшчэ ў канцы 1990-х гг., але так і не выйшла. Але калі з'явілася магчымасць выдаць яе цяпер, давялося падумаць пра змену назвы. Бо, па-першае, за гэты час акурат такую самую назву паспелі выбраць для сваіх твораў яшчэ некаторыя паэты і музыканты, і я выглядаў бы тут ужо не арыгінальным, а па-другое, частку вершаў я замяніў на новыя, і гэта атрымалася ўжо іншая кніга, якая патрабавала і нейкага новага "імя".

Стылістыка зборніка вытрымана часткова ў рэчышчы готыкі і постдэкадансу, часткова – філасофска-іранічнай лірыкі з экзістэнцыйным падтэкстам, часткова – адлюстроўвае атмасферу сноў, падсвядомых чалавечых комплексаў і дзіцячых страхаў. Я падумаў, што да такой стылістыкі ідэальна пасавала б назва якіх-небудзь прыгожых, але атрутных кветак. Распавёў пра гэта Веры Бурлак, а яна сказала: "Навошта абавязкова атрутных? Можна проста з рэзкім пахам. Вось, напрыклад, стапеліі – прыгожыя, але пахнуць, як гнілое мяса". Гэтае слова мне спадабалася ўжо нават самім гучаннем, і я вырашыў спыніцца менавіта на назве "Стапеліі".

Цяпер жа, карыстаючыся выпадкам, хацеў бы распавесці ўжо не пра назву, а пра вокладку, бо з ёй сапраўды адбыўся казус. Думаючы, што б такое паставіць на вокладку, я спыніўся на фотаздымках, зробленых летась у будынках закінутай дзіцячай бальніцы, што месціцца на вуліцы Петруся Броўкі. Фатаграфаваць старыя дамы і індустрыяльныя аб'екты – маё даўняе захапленне. Часам гэта проста фіксацыя аблічча горада, які ўвесь час змяняецца: сёння гэты дом стаіць, а заўтра яго ўжо зруйнуюць або радыкальна перабудуюць. А часам я адмыслова ці

выпадкова знаходжу такія ракурсы, у якіх знаёмыя гарадскія краявіды паўстаюць у нязвыклым выглядзе. Ці здымаю такія куткі Менска, якія тыповы Менск мала і нагадваюць. Фатаграфую пераважна звонку, але часам прабіраюся і ўнутр. Падчас вандровак з фотаапаратам я не мінаю ўвагай і сляды чалавечай дзейнасці ў закінутых будынках, у якіх адбываецца, так бы мовіць, "жыццё пасля жыцця". Дом на нейкі час можа стаць прытулкам для бамжоў, месцам тусоўкі панкаў, гульнёвай прасторай для ралевікоў альбо творчай пляцоўкай для мастакоў-графітчыкаў. Дом пачатку ці сярэдзіны XX стагоддзя з адзнакамі сённяшняй субкультуры як бы адначасова перадае настрой той эпохі, калі быў пабудаваны, і распавядае пра думкі, пачуцці, музычныя і мастацкія прыхільнасці сучаснікаў, галоўным чынам "нефармалаў". Найбольш цікавыя "сучасныя адзнакі" трапляюць у мой аб'ектыў. Бо заўтра іх замажуць. Ці зруйнуюць разам са сценамі.

І якое ж здзіўленне мяне ахапіла, калі я, увайшоўшы ў адну з будынін закінутай бальніцы (падобна, што гэта было нейкае падсобнае памяшканне ці, магчыма, пральня), пабачыў на сцяне ля акна наклееную на паперы ці плёнцы вялікафарматную рэпрадукцыю выявы часоў галандскага рэнесансу. Як я даведаўся пазней, тут быў скарыстаны фрагмент карціны Яна Вермеера "Жанчына з вагамі". Вагі жанчына трымае маленькія – як я тады вырашыў, аптэкарскія. І падумаў, што, відаць, яна тут захавалася яшчэ з часу функцыянавання бальніцы і была калісьці часткай афармлення. А афармленне з нестандартным, творчым падыходам мяне таксама заўсёды вабіла. Не сфатаграфаваць пабачанае я, зразумела ж, не мог. І праз некалькі дзён вывесіў гэтае фота разам з іншымі здымкамі з "бальнічнай" серыі ў сваім фотаальбоме "Ў кантакце" – яны сапраўды аказаліся аб'яднанымі нейкім агульным настроем, такім сумнавата-настальгічным, з лёгкім адценнем містычнай тагабочнасці. Шмат хто пaглядзеў фоткі, некаторыя сябры выказалі захапленне альбомам... Некалькі здымкаў я прапанаваў дызайнерцы, якая рабіла вокладку маёй кнігі. І яна выбрала менавіта той самы, што, зрэшты, супала і з маім уласным густам.

І вось толькі літаральна ў дзень прэзентацыі кнігі я даведаўся, што аўтар рэпрадукцыі на сцяне – мастак Андрэй Бусел, вядомы сваімі працамі ў галіне стрыт-арту, асабліва праектам "Aeternus et momentum", у рамках якога на сцяне будыніны і з'явілася "Жанчына з вагамі". Гэты праект акурат і заснаваны на пераасэнсаванні шэдэўраў Рэнесансу і размяшчэнні іх на сценах сучасных, пераважна занядбаных, будынкаў. Улетку 2011 г. у Галерэі "Ў" у Андрэя Бусла адбылася выстава, якая, на жаль, неяк абмінула мяне. Я, праўда, рабіў свае "бальнічныя" здымкі яшчэ да выставы і ні ў якім разе не думаў займацца плагіятам. Тым болей, што подпісу, манаграмы ці яшчэ нейкіх апазнавальных аўтарскіх пазнакаў я на "Жанчыне з вагамі" не пабачыў. Увогуле, стрыт-арт – мастацтва незалежнае і збольшага ананімнае, але творчасць Андрэя Бусла, як я пераканаўся, – у сваім родзе ўнікальная: такімі рэчамі ніхто ў нас больш, напэўна, і не займаецца, а яго леташняя выстава – першая на Беларусі персанальная выстава мастака, які спецыялізуецца на стрыт-арце. Узнікла вельмі няёмкая сітуацыя, у якой пацярпеў ні ў чым не вінаваты выдавец кнігі Зміцер Вішнёў: ад некаторых прадстаўнікоў мастацкага асяродку на яго пасыпаліся паспешлівыя абвінавачанні ў тым, што гэта ён, маўляў, сцягнуў здымак з сайту Галерэі "Ў" і без дазволу мастака паставіў на маю вокладку. Асабліва незадаволеныя былі куратары галерэі. З самім Андрэем Буслом я нядаўна пагутарыў – ён мяне зразумеў, і мы прыйшлі да агульнага кампрамісу. У чымсьці ўся гэтая гісторыя стала для мяне ўрокам: буду цяпер сачыць за мастацкім жыццём больш уважліва. І пры кожнай нагодзе згадваць імя мастака, чыя творчасць так вось нечакана для яго самога перакрыжавалася з маёй.

***— Славамір Адамовіч сцвярджае, што ён паэт нумар адзін у Беларусі і што яму няма роўных, ці можаш тое самае сказаць пра сябе? Назаві колькі прозвішчаў улюбёных аўтараў, якія, магчыма, паўплывалі на твой светапогляд і творчасць?***

— Паэты "пад нумарамі"? Мне здаецца, што першым можна быць у нейкім канкрэтным, асобна ўзятым конкурсе, спаборніцтве, слэме. Але вось так каб "ува ўсёй Беларусі"... Я гэтага не разумею. Усё ж такі паэзія – не спорт, і ў ідэале кожнаму паэту не павінна быць роўных. Бо калі ён сапраўды паэт, ён мусіць выказваць штосьці такое, што акрамя яго выказаць, напэўна, ніхто не здолеў бы. Мы часта неахайна і недастаткова адчувальна ставімся да таго месца, якое адведзена нам Богам у гэтым свеце і пачынаем альбо займацца не сваёй справай, альбо ўвогуле бяздзейнічаць. І гэта датычыць не толькі паэзіі. У савецкія часы грамадства жыло паводле прынцыпу "незамяняльных людзей няма". Гэта таму што да людзей ставіліся як да нейкай біямасы, як да сродку ў дасягненні нейкай эфемернай мэты кшталту пабудовы камунізму. А я лічу наадварот – што кожны чалавек незамяняльны і павінен адчуць і выбраць для сябе аптымальную прастору для самарэалізацыі. Непараўнальнасць, унікальнасць і адметнасць кожнай асобы павінна быць нормай, а не выключэннем.

Але для Славаміра Адамовіча, магчыма, такая ўстаноўка ("я паэт нумар адзін") з'яўляецца нейкім псіхалагічна неабходным стрыжнем, за які ён трымаецца, каб не ўпасці, – у такім разе я нічога супраць не маю. Дарэчы, яго ранняя творчасць мне падабаецца. Увогуле, прозвішчаў улюбёных аўтараў я магу назваць даволі шмат. Спынюся толькі на некаторых: Змітрок Бядуля, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Лукаш Калюга, Мікола Бацюшкоў, Янка Юхнавец, Алесь Наўроцкі, Алесь Разанаў, Мікола Купрэеў... З сусветнай літаратуры – Льюіс Кэрал, Франц Кафка, Гіём Апалінэр, Альфрэд Жары, Раймон Кено, Барыс Віян, Сэмюэль Бекет, Джуліян Барнс, Том Стопард, Самусь Тале, Данііл Хармс, Уладзімір Сарокін, Аляксандр Ірванец... Не магу сказаць, хто з іх і ў якой ступені паўплываў на мой творчы светапогляд, але кожны чымсьці па-добраму ўразіў – гэта так.

Творчасць некаторых беларускіх аўтараў я адкрыў для сябе, працуючы ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэта найперш наш выдатны крытык, празаік і філосаф, адзін з найвыбітнейшых інтэлектуалаў 1920-х гг. Адам Бабарэка, збор твораў якога я ўкладаў і рыхтаваў да выдання разам з дырэктаркай архіва-музея Ганнай Запартыкай. Шмат уражанняў на мяне зрабілі неапублікаваныя пры жыцці творы паэтаў, якія ў 1920-1930-х гг. мусілі выступаць у друку з тыповымі для таго часу рэвалюцыйнымі і агітацыйнымі вершамі, а "ў стол" пісалі творы зусім інакшыя – поўныя драматызму, адчаю, нявызначанасці, расчараванасці ў жыцці. Маю на ўвазе Віктара Казлоўскага і Алеся Пруднікава. Пра Казлоўскага я хацеў бы нават зрабіць матэрыял для "Дзеяслова". На маю думку, гэта быў досыць яркі паэт дэкадэнцкага кшталту, які ў 2-й палове 1930-х пасля допытаў у НКУС апынуўся ў псіхлякарні, а потым жыў у зямлянцы і так і не здолеў вярнуцца да паўнавартаснага жыцця.

***— Твае вершатворы перакладаліся на розныя мовы свету, перакладам на якую мову ганарышся найбольш?***

— Так сталася, што больш за ўсё мае творы перакладаліся на нямецкую мову. Пры жаданні з іх можна было б скласці цэлую кніжку. Дзякуючы гэтым перакладам (іх рабілі Андрэ Бём, Хендрык Джэксан, Томас Вайлер) мае вершы друкаваліся ў выданнях не толькі Нямеччыны, але і Швейцарыі і Аўстрыі. У Швейцарыі, дарэчы, некалькі гадоў таму я выступаў разам з Верай Бурлак і Андрэем Хадановічам у рамках культурніцкага праекта "Араў – Беларусь". На жаль, сам я нямецкай мовы не ведаю, але дэманстраванне тэксту перакладу на экране – сёння звычайная практыка.

А летась у Францыі выйшаў зборнік з дзевяці п'ес беларускіх аўтараў, якія, на думку ўкладальнікаў, яскрава рэпрэзентуюць сучасную беларускую драматургію. Дзіўна, але і я нейкім чынам трапіў у гэтую дзявятку, хоць сістэматычна драмутургіяй і не займаюся.

***— Назаві ўзнагароду, якой сапраўды ганарышся больш за ўсе астатнія?***

— У мяне яшчэ не астылі ўражанні ад атрымання “Залатога апострафа”. Іншых падобных літаратурных прэмій (менавіта прэмій) я пакуль, здаецца, і не атрымліваў. Хоць, вядома ж, адчуваць сябе пераможцам Першага беларускага слэму таксама прыемна.

***— Якую сваю кнігу лічыш найбольш удалай і чаму?***

— Думаю, што найбольш удалая кніга ў мяне яшчэ не напісана. Ці, у скрайнім выпадку, яна атрымаецца тады, калі я паадбіраю найбольш удалае з усіх іншых кніг і выдам пад адной вокладкай. Выбраныя творы, карацей. Ну а з тых кніг, што ўжо выйшлі, мог бы адзначыць апошнюю – усё ж, да свайго выхаду ў свет яна праляжала доўга, за гэты час я яе некалькі разоў перарабіў – удасканаліў, як мне падаецца. У ёй прадстаўлены як старыя, так і новыя вершы, і ў той самы час ёсць нейкая агульная канцэпцыя, якая іх аб’ядноўвае, – пра гэта я ўжо трохі распавёў. Карацей, усё б нічога, калі б не гэтае непаразуменне з вокладкай...

***— Віктар Жыбуль вядомы яшчэ як паэт-эксперыментатар, аўтар некалькіх паліндромных паэм, шмат часу займаюць такія шэдэўры?***

— Калі я пісаў сваю першую паліндромную паэму “Рогі гор”, я яшчэ вельмі цьмяна ўяўляў сабе, што з гэтага атрымаецца. Проста збіраў словы, выразы і кароткія сказы, якія чытаюцца аднолькава злева направа і справа налева. Калі іх заўважна паболела, яны ў мяне пачалі складацца ў асобныя паэтычныя мініяцюркі, а тыя потым нарэшце – у паэму. Паэма, зноў жа, не адразу набыла свой канчатковы выгляд – перыядычна дапаўнялася новымі радкамі. Калі казаць пра час ад першай сабранай жменькі словаў-паліндромаў да апошняй пастаўленай кропкі ў паэме – дык гэта прайшло недзе каля васьмі месяцаў. На наступныя паэмы – “Кацёл клёцак” і “Палігон ног і лап” пайшло больш часу, таму што я рабіў большыя перапынкі паміж іх напісаннем. Але, нягледзячы на складанасць формы, сам творчы працэс прыносіў мне вялікую асалоду.

***— Вельмі шмат вядзецца дыскусій на тэму значнасці беларускай літаратуры ў Еўропе, як лічыш, у нас ёсць аўтары еўрапейскага або (не пабаюся гэтага слова) сусветнага маштабу?***

— Калі казаць пра сусветны маштаб, дык тут лепей зірнуць на беларускую літаратуру вачыма нават не еўрапейца, а прадстаўніка больш далёкай культурнай цывілізацыі. Аднойчы мне давялося сустракацца з японцам, які вельмі цікавіцца беларускай культурай і ведае беларускую мову. Я спытаў у яго, каго з беларускіх пісьменнікаў у Японіі больш за ўсё ведаюць і перакладаюць на японскую мову. Ён адказаў: “Святлану Алексіевіч”. Цяжка патлумачыць, чым больш абумоўлены такі выбар: тым, што японцы любяць вострую дакументалістыку, альбо тым, што ў іх бракуе знаўцаў беларускай мовы, у адрозненне ад рускай, на якой піша С. Алексіевіч. Але не ўсё так адназначна: папулярнасць у Японіі набываюць і раманы Уладзіміра Караткевіча – ён другі найбольш чытаны ў гэтай краіне беларускі пісьменнік. У сваю чаргу швейцарскія беларусісты, напрыклад, цэняць творчасць Яна Баршчэўскага. У многіх краінах беларускую літаратуру па-ранейшаму ведаюць дзякуючы Янку Купалу, Якубу Коласу і Максіму Багдановічу. А яшчэ – Васілю Быкаву. Расейцы нават спрабавалі скрасці ў нас Быкава, па-імперску прысвоіць яго сабе, выдаўшы яго перакладзеныя творы ў серыі “Современная русская проза”. Факт непрыемны, але паказальны: каб не быў гэта аўтар еўрапейскага (а мо’ і сусветнага маштабу) – дык, пэўна, не чапалі б.

Вядома ж, каб казаць пра месца беларускай літаратуры ў Еўропе, – трэба каб яна была годна прадстаўлена перакладамі на іншыя мовы. Але насамрэч гэтага мала. Твор можа быць добра перакладзены, але пры гэтым не кранаць, успрымацца як нешта такое занадта экзатычнае ці ўвогуле перыферыйна-маргінальнае. Акрамя зразумелай еўрапейскаму чытачу мовы твор павінен утрымліваць і нейкі

адмысловы код, агульны для людзей з рознай этнічна-культурнай свядомасцю. Калі пісьменнік здолее "патрапіць" у гэты код, то і робіцца цікавым і нават запатрабаваным сярод прадстаўнікоў іншых краін. Чаму з сотні беларускіх пісьменнікаў, якія пісалі пра вайну, замежныя перакладчыкі і чытачы выбіраюць менавіта Васіля Быкава? Таму што ў яго творах прыцягвае ўвагу не толькі канкрэтная Другая сусветная вайна, але і складаныя ўніверсальныя сітуацыі маральнага выбару – пра гэта ўжо шмат казалася і пісалася. З сучасных аўтараў, у якіх "ёсць за што зачапіцца" замежніку, назаву Алеся Разанава, Уладзіміра Арлова, Ігара Бабкова, Андрэя Хадановіча, Адама Глобуса...

***— Акрамя літаратуры ты яшчэ займаешся і музыкай (гурты "За...ралі казарму", "Князь Мышкін", "Левае зазямленне" etc. Музыка дапамагае раскрыцца яшчэ больш? Ці творчы чалавек павінен быць майстрам ва ўсім?***

— Паэзія і музыка існуюць ува мне амаль неадлучна адна ад адной, і часам цяжка вызначыць, дзе заканчваецца паэзія і пачынаецца музыка. Я магу яшчэ не адчуваць, пра што ў мяне нараджаецца верш, але ўжо чуць яго інтанацыю, рытм, мелодыку – я нават ужо ведаю, на якіх галосных гуках будзе трымацца гэты верш. І толькі потым гэта трансфармуецца ў нейкія асэнсаваныя ці напаўасэнсаваныя словы. А часам і не трансфармуецца. Часам у маёй галаве пачынае граць мелодыя без словаў, мною самім і прыдуманая. Прычым ужо ва "ўдасканаленым" варыянце – я нават выразна чую партыю кожнага інструмента. На жаль, сам я музычнай адукацыі не маю, таму не магу ніяк увасобіць свае музычныя фантазіі ў жыццё. Так што я музыкант у душы, але не на практыцы. Такі вось майстар-ламайстар.

"Засралі казарму" быў гурт, які шмат у чым "выязджаў" за кошт панкаўскага драйву і канцэртнага шоу. Мы стваралі на сцэне атмасферу вясёлага нязмушанага музычна-тэатралізаванага вэрхалу, і вядома ж, мне падабалася рабіць і свой унёсак у гэты вэрхал – адным словам, эксперыментаваць. Цікава было здабываць гукі, напрыклад, з прэпараванай магнітолы, гітары з адмыслова спушчанымі струнамі альбо розных свісцёлак з, так бы мовіць, нетрадыцыйным гучаннем. Музыку і тэксты для гурта ў нас пісалі як мінімум чатыры чалавекі, у тым ліку з маім удзелам створаны песні "Маньякі", "Аналіз", "Інсектыцыд", "Рукапіс з гары", "Наша брудучыня" і яшчэ некаторыя. Шкада, што гурт спыніў існаванне, так і не запісаўшы ў нармальнай якасці ніводнага альбома. Але я хацеў бы і надалей супрацоўнічаць з якім-небудзь рок-гуртом – у якасці аўтара тэкстаў. У гэтым сэнсе я адкрыты для супрацы.

Ансамбль "Рацыянальная дыета" – гэта іншае. Там граюць прафесійныя музыкі з вышэйшай музычнай адукацыяй. Ім блізкая мая паэзія, мне блізкая іхняя музыка, і, супрацоўнічаючы, мы вядзем такі вось паэтычна-музычны дыялог: яны граюць, а я дэкламую вершы. Музыканты падбіраюць мелодыю, арыентуючыся на мае тэксты, а мяне, у сваю чаргу, музыка настройвае на патрэбныя інтанацыі, дапамагае скарэктаваць выканальніцкі настрой, а часам падказвае і сцэнічныя рухі.

Дэкламую я не толькі свае вершы. Вось з Верай Бурлак і "Князем Мышкіным" мы выдалі сумесны дыск, у які ўвайшла даволі аб'ёмная літаратурна-музычная кампазіцыя "Ноч з днём пасярэдзіне", створаная на словы аўтараў "рэпрэсаванага пакалення". Тут нас аб'яднала агульная любоў да беларускай паэзіі 1920-х гг. – музыканты самі прапанавалі зрабіць супольную праграму, а я склаў сцэнар, адабраўшы вобразныя і адметныя па гучанні вершы Жылкі, Дубоўкі, Пушчы, Таўбіна і іншых паэтаў, а таксама філасофска-лірычныя празаічныя мініяцюры Адама Бабарэкі. Вядома ж, мы хацелі, каб нашыя слухачы звярнулі ўвагу на гэты прывабны і, на жаль, напаўзабыты пласт беларускай літаратуры.

***— Ці дапамагае ў напісанні вершатвораў жонка, вядомая паэтэса і празаік Вера Бурлак (Джэці), напрыклад, рыфму падабраць? Ці можа, ты ёй дапамагаеш?***

— ...А яшчэ мы з Верай літаратуразнаўцы. І калі пішам артыкулы, то можам

адно з адным кансультавацца, раіцца, як прыгажэй пабудаваць сказ ці які тэрмін лепей ужыць, каб гучала кампетэнтна ў навуковым плане. Але напісанне вершаў – справа больш інтымная, і тут мы абсалютна незалежныя адно ад аднаго. Хоць ува ўсім бываюць выключэнні, і прыклад нашага паэтычнага ўзаемадзеяння – сумесны зборнік “Забі ў сабе Сакрата!” (2008). Назву кнігі і яе раздзелаў мы з Верай прыдумлялі разам, пры адборы вершаў раіліся адно з адным, паставілі творы ў кнізе так, каб яны крыху паміж сабой перагукаліся. Ёсць там і Верын верш “Няма вушэй у птушак...”, які заканчваецца словамі “Я больш не буду ежу лопаць, / Я буду лётаць”. Дык вось, гэтыя радкі мне прысніліся. Я пра гэта сказаў Веры – ёй спадабалася, і яна зрабіла іх фіналам свайго верша.

***— На тваю думку, чаго не хапае беларускай літаратуры? Каго б ты вылучыў з беларускіх літаратараў на Нобелеўскую ўзнагароду?***

— А вось тут я буду надзіва канкрэтным. На маю думку, беларускай літаратуры не хапае:

1) рамана, у якім ні разу не сустракаецца літара “а” – няхай гэта быў бы нават пераклад рамана Жоржа Перэка “Знікненне”, у якім адсутнічае лацінская літара “е” – самая распаўсюджаная ў французскай мове;

2) фантастычна-філасофскага дэтэктыўнага рамана, у якім забойцам урэшце аказваецца чытач;

3) дэтэктыўнай аповесці, у якой следчы, ахвяра і злачынец аказваюцца адной асобай;

4) рамана, усе дзеянні якога адбываюцца цягам 10 хвілін – але адначасова ў розных кропках планеты; героі рамана – людзі, звязаныя паміж сабою сваяцкімі, сяброўскімі, працоўнымі і проста містычнымі сувязямі, а сюжэт разгортваецца не ў дыяхраніі, а ў сінхраніі і ад гэтага не перастае быць сюжэтам;

5) рамана, пабудаванага паводле прынцыпу “матрошкі”: галоўны герой трапляе ў паралельную рэальнасць, а з яе – яшчэ ў адну, а адтуль – яшчэ і яшчэ, і вось, апынуўшыся ў самай аддаленай рэальнасці, ён вырашае, што пара б ужо вярнуцца дадому, але гэта магчыма зрабіць толькі правандраваўшы праз усе пройдзеныя рэальнасці яшчэ раз;

6) рамана, галоўны герой якога мае адну незвычайную псіхічную асаблівасць: ён цягам усяго твора, ува ўсіх абставінах прамаўляе толькі адну і тую фразу, але ўсе, хто трапляецца яму навокал, у залежнасці ад кантэксту, разумеюць штораз гэтую фразу па-новаму;

7) рамана (а можа, хопіць і апавядання), дзе кожны наступны сказ аспрэчвае папярэдні і надае яму новае сэнсавае адценне.

Вядома ж, акрамя фармальнага “каркаса” кожны з гэтых твораў у ідэале павінен быць аб’яднаны і якой-небудзь філасофскай ідэяй ці псіхалагічным назіраннем. Усё гэта я мог бы напісаць і сам, аднак вось, на жаль, мяне на ўсё не хапае – таму хай маёй падказкай скарыстаецца хто-небудзь іншы.

Ну а цяпер адкажу на другую частку твайго пытання. З беларусаў вылучаліся на Нобелеўскую прэмію Рыгор Барадулін і Уладзімір Някляеў. У прынцыпе, я згодны, чаму б і не. Таленавітыя, паважаныя паэты, працуюць на літаратурнай ніве ўжо шмат дзесяцігоддзяў. Яшчэ дадаў бы да гэтага спісу Алеся Разанава.

***— Як вядома, сям’я ў Вас творчая. Ці бачыш у бучыні сына Кастуся ў шэрагу беларускіх класікаў?***

— Класікам чаго? Так, Кастусь складае вершы і даволі цікава малюе – нядаўна ягоныя малюнкі экспанаваліся на выставе. Але найбольшыя здольнасці ў яго, як мне здаецца, у матэматыцы. Таму, магчыма, калі-небудзь з яго атрымаецца неблагі праграміст. А ўвогуле, хай стане тым, кім атрымаецца – галоўнае, каб знайшоў у гэтым жыцці сабе арыенцір і каб абраны занятак падабаўся яму самому.

Кацярына Безмацерных



...важна збіраць

свой пачуццёвы досвед...

# "Я буду маляваць так, як хачу!"

***Гутарка з мастакамі Глебам і Веранікай ГЕРАСІМАВЫМІ***

***Глеб Герасімаў і Вераніка Герасімава (да замужжа – Верамейчык) – цікавая сямейная пара. Цікавая сваёй маладосцю: мастакі толькі распачынаюць самастойнае творчае плаванне, сканчваюць сёлета Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў.***

***Але акрамя завабнай маладосці, прызнаюся шчыра, яны прыцягнулі маю ўвагу сваім прозвішчам. Бацька Глеба – жывапісец Віталь Герасімаў, маці Алена Бараноўская таксама жывапісец. Гэтаксама, як і дзед – Анатоль Бараноўскі. "Ну, толькі бабуля ў нас не мастак", – кажа Глеб.***

## Быць мастаком у трэцім пакаленні: як гэта?

*Нашая гутарка адбываецца ў майстэрні Акадэміі мастацтваў, дзе ўладарыць адданасць мастацтву: у прасторным памяшканні толькі карціны мастакоў, некалькі крэслаў – і больш нічога. Тут, дзелячы прастору на двух, пад кіраўніцтвам*

*прафесара Віталя Герасімава, яны шчыруюць над дыпломамі. Энергетычна моцны жывапіс, з палкасцю і натхненнем, з рамантычным захапленнем беларускай гісторыяй... Але ж зусім хутка – бывай, Акадэмія ды выкладчыкі! І... "Як намацаваць свой непаўторны шлях у мастацтве?" – такім пытаннем заклапочаныя сёння маладыя творцы.*

*Вераніка і Глеб нарадзіліся ў 1988 годзе. Ды яшчэ і ў адным вясновым месяцы красавіку: ён 14-га, а яна – 8-га.*

***– Вераніка і Глеб, якое яно, вашае пакаленне?***

**Вераніка**: Ну, вядома, моладзь у нас розная. Некаму класіка больш цікавая, камусьці перформансы... Цяпер усё больш сюды прыходзяць розныя наватарскія ідэі. Шмат інфармацыі. Гэта цяжка і фізічна, і маральна. Атрымліваецца, што на нас вялізная нагрузка падае.

**Глеб**: Проста ў нас у мастацтве цяпер эпоха постпостмадэрнізму. У кожнага свая праўда! Калі ў эпоху класіцызму была пэўнасць, то цяпер эклектыка поўная. Інтэрнэт змяніў многае ў жыцці. І мы менавіта тое пакаленне, якое ўвабрала Інтэрнэт у поўнай меры. Суцэльная лавіна інфармацыі! Кагосьці можа і паглынуць. Але трэба развівацца, каб не патануць у гэтай інфармацыі. Трэба адбіраць, фільтраваць яе.

***– Глеб, а згадай пакаленне твайго дзеда – жывапісца Анатоля Бараноўскага. Няма адчування, што цяперашняя моладзь – больш паверхневыя, менш грунтоўныя людзі?***

***Г.:*** Можа, і ёсць праўда ў гэтых словах. Калі казаць пра майго дзеда, то гэта чалавек, які ўсё сваё жыццё прысвяціў мастацтву, пошуку. Не было тады ніякіх прынтараў, Інтэрнэтаў. Нічога такога, што магло б дапамагчы ў маляванні. З аднаго боку гэта добра, а з іншага дрэнна. Добра тое, што чалавек сам больш і больш практыкаваўся. Але дрэнна, што адну і тую ж рамесную працу даводзілася шмат разоў рабіць. А я лічу, што няма нічога кепскага ў тым, што з дапамогай сучасных тэхнічных сродкаў можна паскорыць нейкі марудны этап.

***В.:*** Мне здаецца, што ўсе людзі аднолькавыя ў цэлым. І тады, і цяпер. Проста творцы па-рознаму ставяцца да працы.

***Г.:*** Так, гэта ў першую чаргу ад асобы залежыць. Цяпер столькі форм для самарэалізацыі! Галоўнае, каб форма не была вышэйшай за змест. Заўсёды мусіць быць пяцьдзясят на пяцьдзясят.

***– Глеб, як гэта – быць прадстаўніком творчай дынастыі?***

***Г.:*** Ну, прадстаўніком дынастыі быць, скажу шчыра, даволі цяжка. Бо ты ведаеш, што на табе ляжыць вялікая адказнасць. Мне падаецца, прасцей тым, у каго бацькі не мастакі. Увогуле ж, самае непрыемнае пытанне, калі казаць пра нейкую дынастычнасць, то гэта калі людзі, якія не шмат разумеюць у мастацтве, пытаюць: "А як ты будзеш маляваць? Так, як мама, як тата ці як дзед?" Я буду маляваць так, як хачу я!

***– А вось ты, Вераніка, не з сям'і мастакоў. Адчуваеш, што па-рознаму ў вас жыццё складваецца?***

***В.:*** Не адчуваю. Ну, і я ж цяпер таксама ў яго творчую дынастыю ўвайшла!..

## І бацька родны, і настаўнік жывапісу…

*Было цікава паслухаць, што ж гэта за жарт такі, калі роднага бацьку штодзень яшчэ і на вучобе сустракаеш!*

***Г.:*** Гэта складана, псіхалагічна цяжка. Заўсёды ад цябе патрабуюць у два разы больш, чым ад астатніх, бо ты сын. Глядзяць, каб не расслабіўся.

***В.:*** Прыходзіш дахаты з вучобы, а там зноў ён – выкладчык! І ты не можаш выкрасліць тое, што ў першай палове дня ў Акадэміі было. Дзень на вучобе складваўся паспяхова ці не – гэта і дома працягвае адчувацца.



*Вераніка і Глеб ГЕРАСІМАВЫ.*

***– А ў каго-небудзь іншага не было жадання вучыцца?***

***Г.:*** Не, не было жадання... Вось Май Вольфавіч Данцыг быў раней на кафедры. Але ў нас у сям'і склаўся свой светапогляд, згодна з якім я і выхоўваўся. І як у мяне будзе настаўнікам Май Вольфавіч Данцыг? Займацца сацрэалізмам я не хацеў. Канечне, мастак ён добры, але не той чалавек, у якога я хацеў бы вучыцца. Увогуле, напрацягу шасці гадоў навучання праходзіш праз шмат рук. Мяне не толькі бацька вучыў. Уладзімір Антонавіч Тоўсцік, напрыклад, пакінуў свой адбітак. Ён у мяне выкладаў малюнак напрацягу трох гадоў. Таксама ў гімназіі-каледжы імя Ахрэмчыка ў мяне выкладаў Рыгор Сямёнавіч Сітніца. Ён заклаў асновы малюнка ў мяне.

***– Вераніка, а на цябе хто паўздзейнічаў?***

***В.:*** Я з першага курса ва Уладзіміра Ганчарука вучылася. Потым Таццяна Кандраценка, Уладзімір Тоўсцік, Аляксандр Ксяндзоў... Таццяна Кандраценка, канечне, вельмі ўразіла, бо яна яшчэ ў аспірантуры вучылася, калі ў нас выкладала. Ну, і гэта быў такі свежы вецер! Сваім падыходам яна адрознівалася, не патрабавала акадэмічнасці і рэалістычнасці, была вельмі тактоўная, вельмі прафесійная... Яна давала магчымасць выявіцца творчай індывідуальнасці.

***– Якім было вашае дзяцінства – дзяцінства будучых мастакоў?***

***Г.:*** Я быў добрым хлопчыкам, які любіў маляваць, у якога былі добрыя бацькі. Я заўжды ведаў, што добра малюю. Не было ў мяне іншага любімага занятку, іншага хобі. Канечне, паўплывала ў першую чаргу тое, што бацькі мае былі мастакамі.

***В.:*** А я расла ў Салігорску. Памятаю яшчэ ў дзіцячым садку мае малюнкавыя “подзвігі” ўсіх уражвалі, усім падабаліся. Калі было сумна, я малявала – гэта быў

занятак, якім заўжды можна было час забіць. Да Акадэміі вучылася ў мастацкай школе, хадзіла ў студыю, дзе рыхтавалася паступаць у ВНУ.

## Перадаваць нешта праз простыя рэчы – стопрацэнтны поспех!

***– А з іншых відаў мастацтва што вас фармуе, што на вас асабліва ўздзейнічае?***

***Г.:*** На мяне асабіста шмат што ўздзейнічала. Музыка, напрыклад. Люблю цяжкую музыку. Яна можа зачапіць мае думкі і эмоцыі. Маё пакаленне расло ў 90-я гады, калі моднымі былі “Metallica”, “Ария”. Гэта хрэстаматыйныя гурты. Я іх і цяпер люблю. Таксама мне вельмі падабаюцца “Rammstein”, іх альбом “Mutter”. Ozzy Ozbourne, “Scorpionce”. Мне дае энергію такая музыка!

***В.:*** У нас з Глебам супадаюць густы. Праўда, я яшчэ магу якую-небудзь лёгкую “Massive Attack” паслухаць.

***Г.:*** Кіно ўздзейнічае моцна.

***В.:*** Раман Паланскі нам падабаецца.

***Г.:*** Падабаецца псіхалагізм у яго фільмах. Я лічу псіхалагізм – гэта вельмі важна ў мастацтве.

***– А што такое псіхалагізм?***

***Г.:*** Псіхалагізм з’яўляецца тады, калі адчуваеш, што мастаку, рэжысёру, музыканту цікава тое, што ён робіць... Для мяне псіхалагізм гэта і індывідуальнасць яшчэ. Узгадваю працу Стэнлі Кубрыка “Ззянне” з Джэкам Нікалсанам. Вось гэта для мяне псіхалагізм! Яго можна, напрыклад, проста праз вочы паказаць...

***В.:*** А яшчэ важна збіраць свой пачуццёвы досвед. Вось проста разглядаеш творы розных мастакоў – і гэта становіцца ўжо тваім досведам. Кажуць жа: падрыхтаваны глядач ці непадрыхтаваны.

***– Раскажыце, як вы вольны час бавіце?***

***Г.:*** Вольнага часу ў нас няшмат. Для нас вольны час не значыць, што мы зоймемся якой-небудзь дробяззю, сяброў запросім альбо проста тэлевізар будзем глядзець. Гэта таксама ёсць часам, але для нас вольны час – культурнае мерапрыемства ў першую чаргу. Яшчэ я бацьку дом дапамагаю будаваць. Падабаецца таксама кудынебудзь з’ездзіць. Мы цікавімся гісторыяй, архітэктурнымі помнікамі Беларусі.

## Хіба не цуд? Спаткаць адзін аднаго, быць разам…

***– Як так здарылася, што вы цяпер разам?***

***Г.:*** У нас аднолькавае светаўспрыманне, аднолькавыя эстэтычныя каштоўнасці. Такім людзям проста немагчыма было размінуцца! Усё неяк само арганічна атрымалася... Калі па ўсіх пунктах падыходзіш адно аднаму, то потым галоўнае, каб прайшла іскра. І ў нас яна была... Мы заўсёды свае пытанні вырашаем разам. Адзін аднаму дапамагаем не толькі ў побытавым жыцці, але і ў творчым... Увогуле ж магу сказаць, што ў пошуку сваёй другой паловы не трэба думаць, што я вось кудысьці пайду, з кім-небудзь пазнаёмлюся ці яшчэ штосьці. Яно само павінна адбывацца! Я ўпэўнены ў адным: калі ты свядомы і нармалёвы чалавек, то ў тваім лёсе ўсё само па сабе складзецца добра.

***– Мне здаецца, гэта цуд жыцця! Сустрэліся ў адной групе, па ўсіх пунктах супалі. І цяпер разам у майстэрні, разам дома, што вельмі цэласна, ніхто нікому не надакучае…***

***Г.:*** Так, гэта цуд! Канечне, мы адразу і не падазравалі, што будзе шлюб, але ж вось, натуральна склалася...

*Фота Ганны Леванковай.*

мінулае

Леанід Маракоў



...у грозныя 1930-я гады на Савецкай вуліцы не было такога дома, у якім бы не пабывалі няпрошаныя, з цвёрдым прыжмурам вачэй, начныя «госці» ў сінім галіфэ з чырвонымі пятліцамі і кабурой...

# Галоўная вуліца Мінска

***Прадмова да новай кнігі***

Калі я працаваў над біяграфіямі рэпрэсаваных у гады сталінскай дыктатуры жыхароў Беларусі і, у прыватнасці, яе сталіцы Мінска, мне неаднаразова трапляліся на вочы два словы, якія калісьці выклікалі зусім іншыя, чым сёння, асацыяцыі: вуліца Савецкая[1]. Назва паўтаралася, і таму, нібы штосьці прадчуваючы, я пачаў лічыць. Дзесяць, дваццаць, пяцьдзясят, сто, дзвесце, трыста... І часцей за ўсё: вуліца Савецкая, д. 24 (найпрыгожы дом дваранкі Ядзвігі Адамаўны Кастравіцкай, «неабачліва» пабудаваны ёю незадоўга да пачатку «бальшавіцкага жаху»). Дом вытрымаў дзве страшныя вайны, але не вытрымаў хрушчоўскай «адлігі». Вуліца Савецкая, д. 31[2] (гэтак званы 1-ы Дом Саветаў[3] — месца прапіскі многіх вышэйшых партыйных, дзяржаўных і гаспадарчых дзеячаў БССР. Як кажуць: бі сваіх, каб чужыя баяліся! Вуліца Савецкая, д. 148[4] — «Дом спецыялістаў» — небывалы дагэтуль у бальшавікоў збор навуковай і тэхнічнай інтэлігенцыі. А інтэлігенцыя, вучыў Уладзімір Ільіч, — ёсць... ну вы памятаеце хто...). Вуліца Савецкая, д. 4, 6, 8, 22, 28, 33,

35, 41... Зрэшты можна назваць любую лічбу да 185[5]. Менавіта столькі стаяла на вуліцы дамоў да 1937-38 г. (большая частка — не меней за 177[6] — пабудаваная да 1911 г.; «вялікіх» дасягнулі бальшавікі поспехаў за 20 гадоў Савецкай улады![7]). У грозныя 1930-я гады на Савецкай вуліцы не было такога дома, у якім бы не пабывалі няпрошаныя, з цвёрдым прыжмурам вачэй, начныя «госці» ў сінім галіфэ з чырвонымі пятліцамі і кабурой з любімым для яго ўладальніка прыгрэтым на правым сцягне «Наганам». «Самы надзейны», — ухвальна хіталі яны галавой і, як звяры перад паляваннем, аблізвалі вусны. Станавілася не па сабе. Гэтыя два словы — вуліца Савецкая — проста ўеліся ў памяць. І ўеліся разам з пачуццём турботы. Сустракаючы іх чарговы раз, я пачынаў задыхацца, слязіліся вочы. Здавалася, гэтыя два словы раз'ядаюць іх. Я ўставаў, прымушаў сябе супакоіцца, проста прадыхацца. Прамываў вочы халоднай вадой. Лягчэла. Зноў сядаў перад кампутарам — а куды дзенешся? — і, як раней, з хваляваннем і гаркотай думаў: няўжо ўсе гэтыя знаходкі памруць разам са мной? Няўжо чарговая старонка гісторыі роднага Мінска адыйдзе ў нікуды, растворыцца ў моры абыякавасці? І аднойчы я вырашыў, скамандаваў сабе: ты проста абавязаны распавесці пра перасследы таталітарным рэжымам жыхароў галоўнай вуліцы сталіцы Беларусі — галоўнай артэрыі Мінска. Высветліць, чаму менавіта на ёй у 1920-1930-я гады жыць было шмат небяспечней, чым на амаль паўтысячы іншых вуліцаў, завулкаў, пляцаў і гэтак званых нумарных лініяў? Колькі і хто з жыхароў галоўнай вуліцы змог выжыць у канцлагеры і вярнуцца дахаты? І ці былі такія?

Ішоў час, ішла і праца над кнігай. І паступова, падчас збору інфармацыі — дакументаў, фатаграфій, перыёдыкі, успамінаў, я зразумеў і іншае: для больш поўнага і шырокага паказу гісторыі вуліцы ў яе неабходна ўключыць і звесткі пра



*Целы мінчукоў забітых чэкістамі на Камароўцы ў першай палове 1919 г. Над імі стаяць члены камісіі па расследаванні злачынстваў бальшавікоў: афіцэр польскай арміі Л. Дзванькоўскі (злева), палкоўнік амерыканскай арміі (жанчына), ваенны лекар Абязерскі Марыян Яхімавіч (гл. таксама д. 69—71).*

першых яе «дарэвалюцыйных» уладальнікаў — дзяржаўных дзеячаў, дваранаў, гандляроў, прадпрымальнікаў, службоўцаў, працоўных, сялянаў — усіх тых, хто яе насяляў, усіх тых, хто яе будаваў і ствараў, а ў 1919 быў бальшавікамі ашуканы, абрабаваны, выгнаны ці забіты. Пасля сыходу немцаў з'явіліся «свае», якія аказаліся горшымі за чужых, горшымі, чым захопнікі, горшымі за самых выклятых ворагаў. Са студзеня па ліпень 1919 яны ўвесь Мінск ператрэслі. Не, горш — яны яго па жывым парэзалі. Захоп закладнікаў, рабаванні, арышты, расстрэлы[8].

Рабаванні — рабуй нарабаванае. У Маскве прыдумалі, як іх «узаконіць». Рада народных камісараў РСФСР 30 кастрычніка 1918 выдала дэкрэт пра «надзвычайны рэвалюцыйны падатак у 10 мільярдаў рублёў». З Мінскай губерні пастанавілі вырваць 60 мільёнаў (палова з іх — з Мінска). Але як толькі 10 снежня 1918 бальшавікі ўвайшлі ў Мінск, сума «падатку» з горада без усякага тлумачэння і абгрунтавання была павялічана амаль у 7 разоў — 200 мільёнаў. Яе падзялілі на «абраных» жыхароў Мінска. Таго з іх, хто не мог выплаціць прызначаную спецкамісіяй суму, бралі ў закладнікі. Хай сваякі падумаюць, як дапамагчы блізкім на волю выйсці. Арыштавана вышэйзгаданая дваранка Я. Кастравіцкая. За волю ад яе запатрабавалі 1 000 000 руб. Схоплены тысячы іншых. Сумы «справядліва» вар'іраваліся — ад 5-10 тысяч (для шаўцоў, краўцоў, кавалёў, слесараў, вазакоў, рымараў і г. д.) да 5-10 мільёнаў (сярод абкладзеных — Сальман І.М. — адзін з саўладальнікаў д. 35/5 на скрыжаванні вуліц Каломенскай (Свярдлова) і Захар'еўскай; сёння на гэтым месцы знаходзіцца частка гасцініцы «Мінск», размешчаная насупраць д. 19 па вул. Савецкай). Нярэдка «падаткі» ў разы, а то і на парадак перавышалі ўсю маёмасць сям'і. Даніну-выкуп патрабавалі не толькі ад уладальнікаў дамоў (нават калі гэта былі трухлявыя драўляныя будынкі першай паловы 19-га стагоддзя), а і ад тых, хто ў іх наймаў пакоі ці проста за «непрацоўную» прафесію, хоць дасталася і працоўным. Прыход у Мінск, услед за бальшавікамі, іх чорнай гвардыі — чэкістаў, быў падобны налёту на горад галодных, азвярэлых бандытаў.

Расстрэлы — налева і направа, без суда і следства. «Першым» тут быў начальнік ЧК і старшыня «тройкі» Іосіф Тарашкевіч[9]. Гібрыд падхаліма, панікёра, баязліўца і рабаўніка, гвалтаўніка, садыста, забойцы. Такіх у народзе завуць — шакалы. Прыняўшы немалую дозу спіртнога і пакатаваўшы арыштаваных, ён любіў пахваліцца, што толькі за чэрвень асабіста 167 чалавек расстраляў. І нярэдка бацькоў на вачах дзяцей, і дзяцей на вачах бацькоў. Першым ён — аж за месяц да ўступлення ў Мінск палякаў! — уцёк са сваёй бандай з нарабаваным. І цяпер я ўпэўнены, што першая хваля масавых рэпрэсій нарынула на Беларусь не ў 1929, а на 10 гадоў раней. Атрымліваецца, што бальшавікі галоўную вуліцу Мінска «зачышчалі» не шэсць разоў (1930, 1933, 1936-38, 1939-41, 1944-45, 1947-49), а сем (яшчэ і ў 1919-м). І гэта патрабуе асобнага даследавання... Здавалася «памяркоўных» беларусаў Сталін выразаў пры любой магчымасці, а значыць — такімі іх не лічыў.

Неабходна распавесці і пра тых, ужо «савецкіх», жыхароў вуліцы Савецкай, якім у «сталіншчыну» пашэнціла пазбегнуць арыштаў, а разам з імі – пра школы і інстытуты, у якіх яны вучыліся, установы, у якіх працавалі, кінатэатры, якія наведвалі, крамы, у якіх куплялі ежу, адзенне, кнігі, увогуле, спрабавалі жыць, дакладней, выжыць, нягледзячы ні на што. Ні на сімвалічныя, мізэрныя зарплаты, калі іх можна так назваць, ні на бясконцыя «суботнікі» з «нядзельнікамі», дэманстрацыямі і мітынгамі «ў падтрымку прыгнечаных капіталістамі працоўных на Захадзе: свабоду несправядліва абвінавачаным пралетарам Міколу Сакка і Барталамею Ванцэці»![10] «Пралетары»! Адзін «проста» бандыт. Другі бандыт і забойца.

Так, савецкія часы былі няпростыя. Днём глядзелі-перажывалі ў «Спартаку»[11],

«Інтэрнацыянале»[12], «Чырвонай Зорцы»[13] ці ў дабітых толькі «перабудовай» «Навінах дня», як змагаецца за светлае заўтра «Чапаеў», нібы зноў жа «жылі» светлай будучыняй разам з героямі фільмаў Рыгора Мармоненкі (публіцы больш вядомы, як «аматар Галівуду» Аляксандраў): смяяліся-расслабляліся з уцёсаўскімі «Вясёлымі рабятамі», лёталі з бясклапотным смельчаком пад купалам «Цырка», плавалі — амаль ляцелі — па матухне «Волзе-Волзе». А бывала, калі пашанцуе, і на чаплінаўскія «Агні вялікага горада» ці ў «Новыя часы» траплялі, і ў «Вялікім дыктатары» не бачылі свайго, нашмат больш «вялікага». Першы яшчэ да пачатку 2-й сусветнай загнаў у лагеры ці пазабіваў тысячы людзей сваёй краіны (галоўным чынам цыганоў і габрэяў), другі вынішчыў — мільёны! І не знайсці на велізарных абшарах захопленай нелюдзем шостай часткі планеты не кранутай ім нацыянальнасці.

А ўначы пачыналася іншае, начное жыццё. Жонка ўкладвала дзяцей у ложкі, а часцей на посцілкі на падлозе, а перад тым, як легчы самой, правярала, ці не забылася пакласці мужу ў клунак на выпадак арышту тытуню, хлеба, бялізны. І так кожны дзень і кожную ноч... «Эх, хорошо в стране советской жить»...

А хтосьці, скажам, малады пісьменнік Мікалай Аўрамчык — у тагачасным ГУМе[14] (не блытаць з сённяшнім) летнім гарачым днём стаяў у неапісальнай «шматпластовай» цісканіне-чарзе, рызыкуючы зламаць косткі за гарнітур, які ў бліжэйшыя гады будзе для яго адзіным, і на які да гэтага гады два, а то і тры грошы збіраў.



*Паштоўка (1934 г.) з калекцыі вядомага калекцыянера і лекара Васіля Іванавіча Каляды (1914-1995) падпісана так: «Менск. 1-ы Дом Советаў». І цалкам лагічна за першы Дом Саветаў усе прымалі будынак на пярэднім плане (зараз — Савецкая, д. 19 — былое ўладанне Людзвіга Уняхоўскага; правей яго пачынаецца вул. Свярдлова). Аднак даследаванні паказалі, што «1-ы Дом Саветаў» — ёсць будынак, пабудаваны ў 1912 банкірам і аматарам спорту Эмануілам Абрампальскім (адрас да 1938 — Савецкая, д. 31, пасля — д. 17), змешчаны ззаду дома на пярэднім плане і бліжэйшы да касцёла св. Сымона і Алены (над абодвума дамамі відаць адна з яго вежаў). Удалечыні — за дрэвамі — правы бок Дома Ураду. Злева ад яго — 2-павярховы дом мешчаніна Сямёна Сушы (адрас у 1910 — Захар'еўская, д. 7, пасля 1914 — д. 9, знесены ў пасваенны час). 4.9.1937 НКВД арыштавала і асудзіла за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК яго сына Аляксандра (нар. 9.12.1882 у Мінску, меў вышэйшую юрыдычную адукацыю).*

*У 1910-я г. у доме жылі вядомая мецанатка княгіня Магдаліна Радзівіл, член Мінскага земскага ўпраўлення Антон Ваяводскі, землеўласнікі Рамуальд Хялхоўскі, Леў Ванькові, генерал арміі Міхаіл Іванаў, дырэктар сіндыката Мечыслаў Пагоскі, інжынер Яўген Гібнер і інш.*

*У 1930-я г. у доме жылі і былі арыштаваны наркам земляробства Дзмітрый Прышчэпаў, яго намеснік Аскар Сапрыцкі, сакратар ЦВК БССР Максім Ляўкоў, загадчык сакратарыяту ЦК КП(б)Б Георгій Каўцэвіч, партыйны і дзяржаўны дзеяч Адам Славінскі (Качароўскі), шэраг іншых найвышэйшых партыйных і гаспадарчых кіраўнікоў, культурных і грамадскіх дзеячаў БССР.*

Праўда, у Рурскіх каменнавугальных шахтах, у якія Мікалай патрапіў у 1942, гарнітур нядоўга насіўся.

А хтосьці, вядомы засланым з Масквы чэкістам па «крымінальнай справе», як Мікалай Раманоўскі, а ў школах і бібліятэках Беларусі, як класік айчыннай літаратуры Кузьма Чорны, знаходзячыся літаральна праз сценку, і выкліканы ў той жа вечар ці, што часцей было — уначы на допыт, уласнай крывёй захлынаўся. І гэта яшчэ была не самая страшная на допыце сітуацыя. Гэта толькі пачатак допыту. Слугі вусатага д'ябла катаваць людзей па «мемуарах» інквізітараў вучыліся.

Такія былі часы. Сталінскія, несправядлівыя, несумленныя, непрадказальныя і жорсткія.

Першыя два будынкі злева — дамы, канфіскаваныя бальшавікамі ў мешчаніна А. Машкілейсона (цяпер на іх месцы знаходзіцца ў тым ліку і правае крыло Цэнтральнай кнігарні — праспект Незалежнасці, д. 19). Перад кастрычніцкім пераваротам 1917 у першым доме знаходзіліся нумары гасцініцы «Адэса» М. Разенталя (у 1920-я г. — «савецкі» інтэрнат № 3), рэстаран «Мядзведзь» М. Ліўшыца і В. Голуба (пасля — «сталоўка працаўнікоў», адкрытая між іншым да 1.00 ночы) і шэраг прадуктовых і прамтаварных крам. У другім доме знаходзіліся таксама нумары гасцініцы «Адэса» і шэраг падобных, можна сказаць, канкурэнтак-крам. У абодвух дамах нумары на другіх і трэціх паверхах «Адэсы» галоўным чынам наймалі «ворагі працоўнага народа» — службоўцы і гандляры, большасць з якіх выехала з гасцініцы (галоўным чынам у Варшаву, Вільню і Кіеў) да прыходу бальшавікоў у снеж. 1918.

Перад гэтымі дамамі таксама знаходзіўся даходны аднапавярховы дом Машкілейсона (ён ёсць на іншых фатаграфіях кнігі; сёння тут частка левага крыла Цэнтральнай кнігарні). У першай палове 1910-х г. у ім знаходзілася папулярная піўная Суднікава, а пазней абсталяваны па апошнім слове тэхнікі нават па еўрапейскіх мерках «Новы тэатр» (электра-тэатр) братоў Вайнераў (пасля — «пралетарскі» кінатэатр «Спартак»).

Далей ідзе 3-павярховы даходны дом купцоў Лур'е (д. 63). На 1-ым паверсе размясцілася прадстаўніцтва і крама кампаніі па выпуску швейных машын «Зінгер» і сетка крам таварыства грамадскага спажывання Лібава-Роменскай чыгункі. Другі паверх займаў прысяжны паверaны. На трэцім жылі гаспадары. Пры бальшавіках на ўсіх паверхах над «павышэннем узроўня камуністычнай свядомасці савецкага чалавека» ў розныя гады працавалі супрацоўнікі тузіна газет ад «Звязды» і «Савецкай Беларусі» да «Młot» (на польскай мове) і «Раўдонасіс артаяс» (на летувіскай).

Справа — 2-павярховы будынак з балконам — і ёсць той самы знакаміты ў 1930-я г. «Дом пісьменнікаў» (да «рэвалюцыі» належаў Б. Гольдбергу і Мінскай габрэйскай богаўгоднай установе). Акрамя пісьменнікаў, большасць з якіх неўзабаве будзе арыштавана і расстраляна, у ім месцілася і рэдакцыі часопіса «Полымя», газеты «ЛіМ» і яшчэ з дзясятак іншых арганізацый. Сёння на гэтым месцы — д. 18 па пр. Незалежнасці.

Падчас збору інфармацыі я тройчы кідаў працу над кнігай. Ахоплівала роспач. Выявіць, хто жыў і працаваў у амаль 300 дамах (насамрэч у 500-600, бо да кожнага дома прыкладаўся ўчастак зямлі, на якім стаяла яшчэ некалькі будынкаў) на працягу 60 гадоў, вылічыць іх нумарацыю, якая не раз змянялася ў далёкі ўжо «дакастрычніцкі» і пасля бальшавіцкага перавароту міжваенны перыяд, здавалася задачай зусім невыканальнай. «Вось чаму яна (праца) за доўгія дзесяцігоддзі і не была зроблена», — з жахам усведамляў я. Але дакладна кімсьці сказана: вада камень точыць. І паступова, вельмі павольна — дом за домам — карціна стала высвятляцца.. Дапамог і падзел адной вялікай працы на шэраг меншых. Разбіў

вуліцу на 14 умоўных кварталаў. Кварталы на ўчасткі, дамы... Моцна дапамагло і вывучэнне нумарацыі дамоў, якія стаяць на вуліцах і завулках, што перасякаюць ці прылягаюць да Захар'еўскай-Савецкай. Шматкроць злева і справа, знізу і зверху спраўджваў кожны дом. З-за памылкі (асабліва на пачатку вуліцы) магла пасыпацца ўся нумарацыя. Моцна дапамаглі і чыста інтуітыўна замоўленая ў адным з архіваў «справа» пра падаткі, што выплачваюцца ўладальнікамі нерухомасці Мінска за 1915-16 год, якая, дапамагла выправіць шэраг недакладнасцяў. А



*Вуліца Савецкая пасля скрыжавання з вул. Камсамольскай (былой Багадзельнай) у кірунку вул. Леніна (былой Губернатарскай, з 1920-х г. — Ленінскай, пазней — Леніна). 1-я палова 1930-х гг.*

*Першыя два будынкі злева — дамы, канфіскаваныя бальшавікамі ў мешчаніна А. Машкілейсона (цяпер на іх месцы знаходзіцца ў тым ліку і правае крыло Цэнтральнай кнігарні — праспект Незалежнасці, д. 19). Перад кастрычніцкім пераваротам 1917 у першым доме знаходзіліся нумары гасцініцы «Адэса» М. Разенталя (у 1920-я г. — «савецкі» інтэрнат № 3), рэстаран «Мядзведзь» М. Ліўшыца і В. Голуба (пасля — «сталоўка працаўнікоў», адкрытая між іншым да 1.00 ночы) і шэраг прадуктовых і прамтаварных крам. У другім доме знаходзіліся таксама нумары гасцініцы «Адэса» і шэраг падобных, можна сказаць, канкурэнтак-крам. У абодвух дамах нумары на другіх і трэціх паверхах «Адэсы» галоўным чынам наймалі «ворагі працоўнага народа» — службоўцы і гандляры, большасць з якіх выехала з гасцініцы (галоўным чынам у Варшаву, Вільню і Кіеў) да прыходу бальшавікоў у снеж. 1918.*

*Перад гэтымі дамамі таксама знаходзіўся даходны аднапавярховы дом Машкілейсона (ён ёсць на іншых фатаграфіях кнігі; сёння тут частка левага крыла Цэнтральнай кнігарні). У першай палове 1910-х г. у ім знаходзілася папулярная піўная Суднікава, а пазней абсталяваны па апошнім слове тэхнікі нават па еўрапейскіх мерках «Новы тэатр» (электра-тэатр) братоў Вайнераў (пасля — «пралетарскі» кінатэатр «Спартак»).*

*Далей ідзе 3-павярховы даходны дом купцоў Лур'е (д. 63). На 1-ым паверсе размясцілася прадстаўніцтва і крама кампаніі па выпуску швейных машын «Зінгер» і сетка крам таварыства грамадскага спажывання Лібава-Роменскай чыгункі. Другі паверх займаў прысяжны паверэны. На трэцім жылі гаспадары. Пры бальшавіках на ўсіх паверхах над «павышэннем узроўня камуністычнай свядомасці савецкага чалавека» ў розныя гады працавалі супрацоўнікі тузіна газет ад «Звязды» і «Савецкай Беларусі» да «Młot» (на польскай мове) і «Раўдонасіс артаяс» (на летувіскай).*

*Справа — 2-павярховы будынак з балконам — і ёсць той самы знакаміты ў 1930-я г. «Дом пісьменнікаў» (да «рэвалюцыі» належаў Б. Гольдбергу і Мінскай габрэйскай богаўгоднай установе). Акрамя пісьменнікаў, большасць з якіх неўзабаве будзе арыштавана і расстраляна, у ім месцілася і рэдакцыі часопіса «Полымя», газеты «ЛіМ» і яшчэ з дзясятак іншых арганізацый. Сёння на гэтым месцы — д. 18 па пр. Незалежнасці.*

галоўнае, лічу поспехам, сталася тое, што з самага пачатку па невытлумачальнай нават для сябе прычыне я пачаў уводзіць адшуканую інфармацыю не ў праграме Word (тэксты), як гэта робіцца звычайна, а ў Word Excell (табліцы). І праца закіпела, але большасць крыніц спраўджвалася па мноству разоў...

Кніга, якая неўзабаве выйдзе — гэта своеасаблівы даведнік, у якім, здавалася б, прыводзяцца толькі сухія факты: дакументы, фатаграфіі, планы. Але шматстайнасць гэтых фактаў і толькі фактаў і стварае нескажоную гісторыю. Гісторыю вуліцы Савецкай — цяперашняга праспекта Незалежнасці — галоўнай вуліцы Мінска — сталіцы адной з еўрапейскіх дзяржаў.

---

[1] Да ліп.1919 — вул. Захар'еўская (заснавана ў 1801 г. і названа ў гонар першага (1796-1806) губернатара Мінска — Захара Эмануілавіча Карнеева). Падчас польскай акупацыі (8.8.1919-11.7.20 гг.) — вул. Адама Міцкевіча (перайменавана не раней верас. 1919). Пасля зноў — Захар'еўская. З ліст. 1922 — Савецкая. Падчас нямецкай акупацыі — Hauptstrasse (Галоўная вуліца) і Імя 25 сакавіка (з 25.3.1944). Пасля прыходу Чырвонай (Савецкай) арміі — зноў Савецкая. У другой палове 1952 г. падоўжана за кошт вул. Пушкіна (да 1910 г. — Барысаўскі тракт, потым вул. Захар'еўская, у 1920-я — 1930-я г. зноў — Барысаўскі тракт, у 1937 г. — пераназваны да 100-годдзя з дня смерці паэта ў вул. Пушкіна, пасля вайны — Пушкінскую) — працяг праспекта на ўсход ад месца, на якім цяпер знаходзіцца плошча Якуба Коласа і перайменавана ў праспект імя Сталіна. У 1961 г. праспект Сталіна пераназваны ў Ленінскі праспект і Савецкай застаўся адрэзак вуліцы — ад вул. Мяснікова (былой Нова-Маскоўскай) да вул. Свярдлова (дамы з 1 па 19). З 1991 г. — праспект Францыска Скарыны. З 2005 г. — праспект Незалежнасці.

[2] Сучасны адрас: вул. Савецкая, д. 17. Адзначым, што ва ўсіх вядомых на 2010 г. працах пра гісторыю Мінска ён "апазнаецца", як дом № 19 (вул. Савецкая ці вул. Захар'еўская, 33). Дзіўна і не зразумела і тое, як чэкістам у 1924 г. атрымалася "ўгаварыць" дасведчанага канспіратара, даволі вядомага Барыса Савінкава зайсці ў дом на вул. Захар'еўскай, 33 (цяпер — Савецкая, 19), у якім размяшчалася "Галоўнае ўпраўленне міліцыі" і амаль усе яго падраздзяленні пад кіраўніцтвам ардэнаносца Ефіма Кроля, расстралянага ў студзені 1940 г., нягледзячы (як пісалася ў прадстаўленні да ўзнагароды) на "заўзятую і самаадданую дзейнасць на працягу 4-х гадоў на чале міліцыі і крымінальнага вышуку рэспублікі" ў першай палове 1920-х г. Упраўленне, у якім "самаадданае" жыццё проста "по определению" не цішэла ні днём, ні ўначы.

[3] У 1920-х г. 1-ым Домам Саветаў называлі дом № 17 (некалі ўласнасць Бейлінга Х. Ш.) на пл. Волі (былой Саборнай). 2-ім Домам Саветаў называлі гасцініцу "Еўропа", а ў 1930-я г. — дом на рагу вул. Ленінскай (Губернатарскай) і К. Маркса (Падгорнай) (сённяшні адрас: вул. К. Маркса, д. 30/13). 3-ім Домам Саветаў называлі дом на рагу вул. Пралетарскай (Паліцэйскай, цяпер — Я. Купалы) і Аляксандраўскай (сённяшні адрас: вул. М. Багдановіча, д. 23/2).

[4] Разбураны ў 1941 г.

[5] Ужо падчас працы над кнігай было вырашана даследаваць і Барысаўскі тракт, а гэта яшчэ каля 100 дамоў.

[6] У 1910-х г. у іх жылі некалькі тысяч чалавек галоўным чынам (больш 80%!) габрэйскай і рускай (у меншай ступені) нацыянальнасцяў.

[7] За сем спакойных і, я б сказаў, пад'ёмных гадоў (1908-14) на галоўнай вуліцы пабудавана ці перабудавана — і як! — больш дамоў, чым за чвэрць стагоддзя савецкай улады.

[8] "Створана камісія для расследавання бальшавіцкіх зверстваў, здзейсненых імі ў апошнія дні гаспадарання ў Мінску. Адкапваюцца магілы ахвяр бальшавіцкага тэрору.

Камісія створана па ініцыятыве амерыканскай місіі ў Варшаве. У яе склад уваходзяць: палкоўнік амерыканскага войска (жанчына), дактары Рагоўскі, Абязерскі і член польскага суда Мурзіч.

На сёння раскапана 60 магіл. У кожнай не меней 5-6 трупаў, але ёсць і такія магілы, у якія закапана да 30 чалавек. У большасці ахвяр рукі злучаны дротам. Шэраг ахвяр закапаны жыўцом: на іх не знайшлі ніякіх слядоў, якія б сведчылі пра іншае. Астатнія расстраляны. Галоўным чынам гэта грамадзянскае насельніцтва. Толькі ў адной магіле знайшлі 3-х польскіх уланаў у наручніках. Сведкі (дочкі лесніка) сказалі, што гэтыя ўланы месяц таму былі ўзяты ў палон і расстраляны. Ёсць трупы, злучаныя дротам разам (па некалькі чалавек).

Ахвяры закапаны неглыбока, таму шмат трупаў выкапалі сабакі і пагрызлі.

Асаблівы жах наводзіць магіла на Койданаўскім тракце, у якой знайшлі 26 чалавек. Ва ўсіх рукі і ногі пераламаны, відаць, перад тым, як закапаць свае ахвяры, бальшавікі іх збівалі.

Акрамя Койданаўскага тракту, такія ж магілы выяўлены на Камароўцы, у лесе Ваньковіча і каля Лошыцы (сядзіба Любанскага) за 3 кіламетры ад Мінска...

Частка ахвяр расстраляна ў лясах, а частка ў падзямеллі "Чрезвычайки" на вул. Петрапаўлаўскай, дзе знаходзіліся ўсе арыштаваныя бальшавікамі і скрозь сцены чулі, як расстрэльвалі іх таварышаў.

Тым часам, адкапалі і труп мінскага адваката Яльца (сваяка вядомых беларускіх грамадскіх дзеячаў братоў Луцкевічаў). Ён быў закапаны жывым. Твар яго ўжо моцна разлажыўся і апазналі яго па заручальным пярсцёнку і парыку.

Так азвярэлыя бальшавікі распраўляліся ў апошнія месяцы свайго гаспадарання ў Мінску з "контрреволюционерами". Ахоплівае жах ад аповядаў сведкаў. Сярэднявечная інквізіцыя здаецца дзіцячай забавай". («Biełaruskaje Życcio» («Беларускае жыццё»). 1919. № 11. С. 7-8).

[9] Тарашкевіч Іосіф Уладзіміравіч. Нар. 1.8.1884. Скончыў царкоўна-прыхадскую школу, працаваў слесарам. У 1915 мабілізаваны, радавы. З 10.9.1917 — у 56-ым запасным пяхотным палку ў Маскве, старшыня ротнага камітэта 15-й роты. Уступіў у РСДРП(б) (чэрвень 1917). Дэмабілізаваны 28.1.1918. Са жніўня 1918 — следчы ЧК. З 12(ці 27).5.1919 старшыня Мінскай губернскай ЧК (змяніў свайго аднагодка Вацлава Багуцкага, праз 18 гадоў расстралянага былымі калегамі ў гарачым снежні 1937 г. у Маскве за "шпіянаж на карысць буржуазнай Польшчы"). З 1.9.1919 старшыня Смаленскай губернскай ЧК. З 1923 начальнік Смаленскага гарадскога аддзела ГПУ, начальнік Пензенскага губернскага аддзела ГПУ. З 1929 начальнік Вяцкага акруговага аддзела ГПУ. У 1931—32 нам. паўнамоцнага прадстаўніка ОГПУ па Ніжагародскім краі па міліцыі, начальнік Ніжагародскага краёвага кіравання рабоча-сялянскай міліцыі. З 11.12.1934 да канца 1935 начальнік Сароўскага выпраўленча-працоўнага лагера УНКВД па Горкаўскім краі (на 1.1.1935 у лагеры лічылася 3 349 зняволеных; год кіравання І. Тарашкевіча перажылі толькі — 2310). З 1937 — у Маскве. Ганаровы працаўнік ВЧК-ГПУ. Стары бальшавік, заслужаны ветэран і г. д. Уяўляеце, прыходзіць такі заслужаны да дзяцей у школу...

І яшчэ, як гаворыцца, за прозвішча крыўдна. Цяпер пры згадванні нявінна забітага аўтара беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча, міжволі ў галаве ўсплывае і прозвішча забойцы многіх і многіх.

[10] За забойства касіра і двух ахоўнікаў абутковай фабрыкі асуджаны ў ЗША да смяротнага пакарання ў 1921, але пакараны ў 1927.

[11] Цяпер раён кнігарні "Цэнтральная" (пр. Незалежнасці, 19).

[12] Сёння правае крыло ўніверсама "Цэнтральны" (пр. Незалежнасці, 23).

[13] Знаходзіўся амаль насупраць "Інтэрнацыянала" (пр. Незалежнасці, 22).

[14] Адкрыўся ў 1934. Зараз правае крыло будынка вядомай арганізацыі, што размясцілася насупраць сквера, які пачынаецца з помніка "палымянаму барацьбіту за правую справу" (насамрэч — левую) Ф. Дзяржынскаму.

Дзяніс Марціновіч



...адсутнасць новых павеваў

раней ці пазней пераўтвараецца ў архаіку...

# Музычны тэатр. Час адраджэння?

***Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр з’яўляецца адным з вядучых айчынных калектываў, які з зайздроснай рэгулярнасцю запрашае гледачоў на новыя прэм’еры і праграмы. Але мінае час. Учарашнія шэдэўры сыходзяць з рэпертуару і паступова пераўтвараюцца ў тэатральную гісторыю. У савецкія часы яе вывучэнне з’яўлялася адным з галоўных накірункаў у дзейнасці акадэмічных інстытутаў. Але цяпер такія даследаванні амаль не ладзяцца, саступаючы месца бягучай крытыцы. Напрыклад, раздзел “Музычная камедыя і аперэта”, напісаны даследчыкам Надзеяй Юўчанка для двухтомніка “Музычны тэатр Беларусі”, даведзены толькі да пачатку 1990-х.***

***Між тым, два апошнія дзесяцігоддзі прынеслі шмат пераўтварэнняў у дзейнасці Музычнага тэатра: ад змены назвы, кіраўніцтва да навацый у рэпертуарнай палітыцы. Акрамя таго, на сцэну прыйшло новае пакаленне выканаўцаў, а ў залу – зусім іншыя гледачы.***

***Куды рухаецца тэатр? Ці адпавядае ён назве Музычнага? Ці варта казаць пра перыяд яго адраджэння?***

***Дадзены артыкул з’яўляецца спробай адказаць на такія пытанні. Аўтар паспрабаваў таксама акрэсліць тэндэнцыі развіцця гэтага калектыву на сучасным этапе і ўвесці іх у кантэкст беларускай тэатральнай гісторыі.***

## Старонкі гісторыі. На шляху да Музычнага тэатра

Уласная гісторыя трупы налічвае чатыры дзесяцігоддзі. Аднак у цяперашняга Музычнага існавалі папярэднікі, дзейнасць якіх была звязана з Бабруйскам. Спачатку там працаваў гарадскі драматычны тэатр, на аснове якога ў 1962 годзе быў створаны Бабруйскі музычна-драматычны тэатр. У яго складзе існавала дзве трупы (драматычная і музычна-камедыйная). Праз тры гады аказалася, што ім цесна пад адным дахам. Таму музычная трупа стала асновай Магілёўскага абласнога тэатра музычнай камедыі. А на аснове часткі яго трупы ўжо ў 1970-м быў заснаваны Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР. У 1971-м ён адкрыўся прэм’ерай гераічнай музычнай камедыі Ю. Семенякі “Пяе “Жаўранак”.

Перыядам назапашвання вопыту і творчага патэнцыялу зрабіліся 1960--1970-я гады, калі калектыў арыентаваўся на пастаноўкі музычнай камедыі (і яе разнавіднасць – гераічную камедыю), а таксама класічнай аперэты. Балетная трупа ў тэатры існавала, але выконвала пераважна ўстаўныя нумары ў венскіх і неавенскіх аперэтах. Оперных спектакляў наогул не было. Такія асаблівасці з’яўляліся тыповымі для большасці калектываў савецкай прасторы. Аднак лепшыя з іх паступова пашыралі ўласны дыяпазон за кошт іншых жанраў.

У 1980-я гады сталі складвацца перадумовы для пераходу калектыву на больш высокі мастацкі ўзровень. Пра гэта сведчыла адкрыццё жанру мюзікла: як заходняга, першым увасабленнем якога стала “Мая цудоўная ледзі” Ф. Лоў у пастаноўцы С. Штэйна, так і мюзікла для дзяцей (“Трубадур і яго сябры” Г. Гладкова). Нельга не згадаць адну з самых вядомых і скандальных пастановак тэатра – “Гора ад розуму” ў рэжысуры Р. Вікцюка. На сцэне тэатра адбылася першая і адзіная за савецкі час харэаграфічная прэм’ера. Гаворка пра балет “Паненка і хуліган” Д. Шастаковіча (пастаноўка Віктара Саркісьяна). У другой палове 1980-х яркія спектаклі былі ажыццёўленыя рэжысёрам Вячаславам Цюпам: “Сірано” С. Пажлакова, “Гуляем у прынца і жабрака” А. Журбіна і асаблівa фолк-опера “Клоп” У. Дашкевіча.

У 1987-м у трупе здарыўся канфлікт паміж галоўным дырыжорам А. Лапуновым і В. Цюпам. Абодва, як і асобныя салісты (у прыватнасці прымадона тэатра Наталля Гайда), былі вымушаны часова або назаўсёды сысці з калектыву. Зрэшты, няпростая сітуацыя паўплывала на прыход у музкамедыю Сяргея Косціна, які спалучыў пасады дырэктара і мастацкага кіраўніка (1990-1995). На думку многіх, гэта быў лепшы кіраўнік за ўсю гісторыю тэатра. З аднаго боку, чыноўнік, тагачасны намеснік старшыні Саюза тэатральных дзеячоў, з другога боку, творчы чалавек, выпускнік Белдзяржкансерваторыі з дыпломам “педагог па вакалу”. Пры непасрэдным удзеле С. Косціна адбыўся прарыў адразу ў некалькіх накірунках.

Па-першае, гледачам адкрыўся феномен “беларускага мюзікла”. Пастаноўкі ў гэтым жанры былі ажыццёўлены яшчэ ў 1980-я. Але менавіта спектаклі 1990-х – “Джулія” і “Шклянка вады” У. Кандрусевіча, у якіх галоўныя партыі выконвала непараўнальная Н. Гайда – сталі надзвычай яркімі падзеямі музычнага жыцця таго часу. Высокі ўзровень пастановак, які выяўляўся ў арганічным адзінстве музыкі, рэжысуры, сцэнаграфіі і акцёрскай ігры, абумовіў яшчэ большую цікавасць да жанру. Неўзабаве на сцэне тэатра з’явіліся спектаклі “Хэло, Долі” ў рэжысурыцы В. Цюпы і “Мая дарагая Памэла”– Б. Уторава.

Па-другое, дзякуючы намаганням новага галоўнага балетмайстра тэатра Ніны Дзьячэнка з'явіўся "Мінск-балет", фактычна самастойная трупа з паўнавартасным рэпертуарам, якая абнавілася і павялічылася пераважна за кошт выпускнікоў Беларускага харэаграфічнага каледжа. У выніку на сцэне тэатра паўстала як класіка ("Дон Кіхот", "Жызэль", "Зачараваны прынц"), так і новыя, сучасныя пастаноўкі ("Мефіста", "In pivo veritas"). Ярка раскрыліся індывідуальнасці Юліі Дзятко і Канстанціна Кузняцова, Рыны Івакіры і Рыгора Крукоўскага, Віталя Краснаглазава і Вольгі Лядскай і іншых.

Па-трэцяе, прэм'ерай "Viva la mamma! Ці пікантныя кашмары тэатральнага жыцця" Даніцэці (1993), увасобленай рэжысёрам Ю.Аляксандравым, была зроблена заяўка на ўваходжанне ў рэпертуар новага жанра – камічнай оперы.

І нарэшце, апошняе. Асобным, унікальным накірункам стала дзейнасць Дзіцячай музычна-тэатральнай студыі "Казка", стварэнне якой ініцыяваў дырыжор Глеб Аляксандраў. У 1991-1996 гадах на сцэне тэатра было пастаўлена ажно 7 спектакляў ("Дзіцячы альбом", "Гісторыя Кая і Герды", "Вясновая песня" і іншыя), у якіх разам з прафесійнымі акцёрамі на сцэну выходзілі музычна адораныя дзеці. Фактычна ў краіне нараджаўся дзіцячы музычны тэатр.

У сярэдзіне 1990-х з-за тэатральных інтрыг С. Косцін быў вымушаны сысці з калектыву. Новым дырэктарам стаў мастацтвазнаўца Расціслаў Бузук, галоўным рэжысёрам і мастацкім кіраўніком – Барыс Лагода (1997-2001). Кіраўніцтва адмовілася ад падтрымкі ДМТ "Казка", але спрыяла развіццю іншых накірункаў. Сярод пастановак таго часу прыкметныя прэм'еры мюзіклаў ("Дарагая Памэла", «Цалуй мяне, Кэт!»), камічнай оперы ("Даратэя"), балетаў ("Новыя амазонкі", "Жызэль"). На жаль, стан тэатра істотна залежаў ад не лепшай фінансавай сітуацыі. Напрыклад, у 1999-м адбылася ўсяго адна прэм'ера ("Севастопальскі вальс").

У 1990-я гады трупа афіцыйна яшчэ заставалася Тэатрам музычнай камедыі, але па ўзроўню, патэнцыялу ўжо з'яўляўся правобразам будучага Музычнага тэатра. Падкрэслю, пад апошнім неабходна разумець калектыў, у рэпертуары якога гарманічна прадстаўлены самыя розныя музычныя жанры – аперэта, мюзікл, камічная і нават "сур'ёзная" опера, балет, сімфанічныя праграмы. У 2000-м тэатр атрымаў сучасную назву і стаў Беларускім дзяржаўным музычным тэатрам. Гэта ўспрымалася як заканамернае прызнанне заслуг яго калектыва і выхад на прынцыпова новы ўзровень.

## Пераходны перыяд

З 2001 года новым дырэктарам Музычнага стаў Аляксей Ісаеў. Былы саліст Растоўскага тэатра музкамедыі, ён працаваў у нашым калектыве з 1991 года і пасля ад'езду Рыгора Харыка ў ЗША з'яўляўся выканаўцам партый герояў у аперэтах. Але першыя гады яго ўладу абмяжоўвалі традыцыі, мастацкі густ лепшых салістаў і асоба рэжысёра Б. Уторава, які з 2001-га стаў выконваць абавязкі мастацкага кіраўніка. Здавалася, тэатр выйшаў на новую прыступку свайго развіцця. З'яўляліся новыя балеты і варыянты класічных аперэт (у 2003-м Утораў паставіў "Каралеву Чардаша" Кальмана). Назіраўся зварот да новых жанраў: у 2003 годзе адбылася прэм'ера "Бураціна.by", мюзікла для дзяцей і дарослых, а ў 2004-м – рок-оперы-балета "Арфей і Эўрыдыка". Тым не менш два кіраўнікі былі антыподамі. Глыбіня і маштаб таленту Уторава, лёгкасць і музычнасць яго спектакляў, якія былі прасякнуты еўрапейскім стылем і духам, ніяк не стасаваліся з новымі павевамі. У выніку канфліктнай сітуацыі Утораў у 2003-м сышоў з тэатра, а праз чатыры гады – з жыцця. У выніку адзіным кіраўніком застаўся Ісаеў.

## Вяртанне да Музкамедыі

Для чалавека, далёкага ад праблем тэатра, перыяд знаходжання А. Ісаева на пасадзе дырэктара (2001-2010) нібыта завяршыўся на высокай ноце. На пачатку 2010-га калектыву быў нададзены ганаровы і доўгачаканы статус "акадэмічнага". У якасці здабыткаў можна назваць і някепскую фінансавую сітуацыю. Але грамадскае прызнанне было вынікам папярэдняга развіцця, а прыбыткі дасягаліся празмерна насычанай афішай. Таму тэатр часам нагадваў прадпрыемства па выкананні фінансавых планаў, а не ўстанову культуры.

У рэальнасці той перыяд характарызаваўся крызіснымі тэндэнцыямі і імклівым адкатам да ўзроўню савецкіх часоў. У выніку творчыя набыткі калектыву былі зруйнаваныя літаральна за некалькі сезонаў. Паўнавартасная балетная трупа стала не патрэбная тагачаснаму кіраўніцтву. З калектыву сышла Н. Дзьячэнка, за ёй вядучыя выканаўцы Ю. Дзятко і К. Кузняцоў, потым яшчэ больш за 20 артыстаў. У выніку трупа "Мінск-балет" апынулася пад пагрозай распаду, а яе рэпертуар скараціўся да некалькіх назваў.

Салісты, якія яшчэ не так даўно складалі гонар калектыву, – Герман Казлоў, Зінаіда Вяржбіцкая, Арнольд Ранцанц, Ірына Скорабагатава, Валянціна Пятліцкая, нязгодныя з палітыкай А.Ісаева, былі адпраўлены на пенсію. Нарэшце, спектаклі, да з'яўлення якіх спрычыніўся сам Ісаеў, адкінулі тэатр далёка ў мінулае. Сімваламі таго перыяду сталі, бадай, тры пастаноўкі. У першай з іх, мюзікле І. Левіна "Рускі фантом" (2008), А. Ісаеў выступіў адначасова рэжысёрам-пастаноўшчыкам, мастацкім кіраўніком і выканаўцам галоўнай ролі. Замест сапраўды мастацкага прадукта гледачам прапанавалі "папсу", кітч, разлічаную на тых наведвальнікаў тэатра, густ у якіх далёкі ад ідэальнага. Амаль усе героі "Фантома" (акрамя, можа, Машы ў яркім выкананні К. Дзегцяровай) аказаліся абсалютна схематычнымі. Усё разам забяспечыла спектаклю поўны мастацкі правал і наогул дыскрэдытавала мюзікл як жанр. Гэткімі ж напаўудалымі, схематычнымі, сталі музычныя камедыі "Бабін бунт" (пастаўлены Ісаевым разам з А. Грыненка) і "Нябесны ціхаход" (рэжысёр Л. Дзяменцьева) – пастаноўкі 2009 года. Спектаклі прадэманстравалі горшыя прыклады савецкай стылістыкі.

Да творчых удач калектыва можна было аднесці хіба толькі мюзікл для дзяцей і дарослых "Прыгоды брэменскіх музыкантаў" (2007, пастаноўка А. Грыненка), які працягнуў лінію "Бураціна.by", а таксама ажыццёўленае ёю ж узнаўленне мюзікла "Шклянка вады" (2007). Але самай скрушнай з'явай былі нават не правальныя пастаноўкі, а атмасфера затхласці, душнасці, застою, непрыманне любой крытыкі, якія панавалі ў тэатры ў тыя гады.

## Новыя павевы

На пачатку 2010 года ў Музычным адбыліся доўгачаканыя змены. Пасля сыходу Ісаева новым дырэктарам стаў Аляксандр Пятровіч, які быў вопытным менеджарам і раней працаваў галоўным адміністратарам Нацыянальнага тэатра оперы. Першыя крокі ажыццяўляла калектыўнае кіраўніцтва. На пачатку ліпеня 2010 года пасаду мастацкага кіраўніка тэатра заняў вядомы педагог Адам Мурзіч, які больш за 30 гадоў з'яўляўся загадчыкам вакальнага аддзялення Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі. Галоўным балетмайстрам стаў вядомы танцоўшчык, народны артыст Беларусі Уладзімір Іваноў, галоўным рэжысёрам – Сусана Цырук, галоўным дырыжорам – Алег Лясун. Галоўным хормайстрам засталася Святлана Пятрова. Так склалася каманда, якая паставіла мэту вярнуць тэатр на былыя вышыні. Паколькі вынікі іх працы з'яўляюцца не гісторыяй, а сённяшнім днём Музычнага тэатра, паспрабуем ахарактарызаваць яго развіццё, здабыткі і праблемы ў розных жанравых накірунках.

## У жанры класічнай аперэты

У адрозненні ад іншых жанраў, аперэта мае дакладную дату нараджэння: 5 ліпеня 1855 года французскі кампазітар Жак Афенбах адкрыў на Елісейскіх палях у Парыжы тэатр "Буф-Парыз'ен". З таго часу аперэта пачала сваё пераможнае шэсце па свеце. На сцэне нашага тэатра яна прадстаўлена досыць разнастайна. Гэта "Ноч у Венецыі" і "Лятучая мыш" І. Штрауса-сына, "Марыца" І. Кальмана і "Вясёлая ўдава" Ф. Легара. Прычым дастаткова паглядзець адзін ці два спектаклі, каб мець уяўленне пра ўсе астатнія, бо ўсе класічныя аперэты існуюць па адных і тых жа законах. Працягласць кожнай звычайна тры гадзіны, яны падзелены на 3 дзеянні. Першае абавязкова заканчаецца аптымістычна, другое мае драматычнае гучанне, але ў трэцім героі, вядома ж, зноў сустрэнуцца, каб больш не разлучацца. Кульмінацыяй спектакля будзе пышны баль, на якім пакажуць устаўны харэграфічны нумар.

Гледачы, якія ўпершыню трапляюць на спектаклі, пастаўленыя ў жанры аперэты, захапляюцца іх пышнасцю, маляўнічасцю сцэнаграфіі і напалам пачуццяў, што выпраменьваюць вядучыя выканаўцы: Маргарыта Александровіч і Лідзія Кузьміцкая ("гераіні"), Антон Заянчоўскі ("герой"), Леся Лют і Ала Лукашэвіч ("субрэткі"), Дзмітрый Якубовіч, Дзяніс Нямцоў, Віктар Цыркуновіч ("прасцякі"), камічныя немаладыя выканаўцы (Аляксей Кузьмін, Васіль Сердзюкоў). Але сапраўдныя знаўцы і прыхільнікі Музычнага тэатра справядліва заўважаць, што некаторыя са спектакляў састарэлі як маральна, так і ў мастацкім плане. У іх знасіліся дэкарацыі і касцюмы. Бо названыя аперэты ідуць на сцэне тэатра вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў: "Лятучая мыш" пастаўлена ў 1981-м (узнаўленне ў 2001-м), "Ноч у Венецыі" – у 1983-м, "Марыца" – у 1992-м, "Вясёлая ўдава" – у 1995-м.

Ва ўсіх класічных аперэтах шчасцю галоўных герояў заміналі лёс або правілы вышэйшага свету. Зразумела, арыстакраты ахвотна наведвалі закуліссе, кабарэ і вар'етэ, але ніколі не пагадзіліся б пусціць іх прадстаўнікоў у свае сем'і. У савецкія часы пастаноўшчыкі любілі рабіць акцэнт на саслоўнасці, на непераадольнай дыстанцыі паміж элітай і "працаўнікамі сцэны". Адсутнасць новых павеваў раней ці пазней пераўтвараецца ў архаіку. Але сюжэты класічных твораў вечныя і актуальныя заўсёды. Толькі распавядаць іх трэба так, каб у гледача склалася ўражанне асабістай прысутнасці ў гэтай гісторыі, каб ён бачыў у героях або сваіх сучаснікаў, або асоб, якіх хвалююць тыя ж праблемы, што і яго. У новай "Сільве" гэта атрымалася цудоўна.

Дзве пары з трох (бацькі і сябры) адышлі на другі план. У цэнтры апынуліся менавіта галоўныя героі. І акцэнт зроблены на тым, што яны самі павінны вырашаць уласны лёс. Нельга забываць і пра жаданне дзяўчыны працягваць тэатральную кар'еру (хоць Эдвін марыць, каб яго будучая жонка пакінула сцэну). Чым не аналогія з сучаснасцю? Акрамя таго тры дзеі трансфармаваліся ў дзве, зніклі ўстаўныя нумары, у выніку чаго сюжэт набыў лёгкасць і дынамізм. Пра спектакль можна спрачацца, згаджацца ці не прымаць рэжысёрскае прачытанне. Але для тых, хто імкнецца адкрываць для сябе новыя далягляды, пастаноўка стала сапраўдным адкрыццём у жанры аперэты.

## Амерыканскія павевы

Чым адметныя брадвейскія мюзіклы? Па трапным выразе знакамітага музыказнаўцы Марка Янкоўскага, "муза заходняй аперэты прыкметна пастарэла ў Парыжы, пасля амаладзілася ў Вене, а зараз, здаецца, шукае сакрэт трэцяй маладосці на нью-йоркскім Брадвеі". Можна ўпэўнена сказаць, што брадвейскія мюзіклы істотна паўплывалі на рэпертуар музычных тэатраў па ўсім свеце.

Так, яны ставіліся на сцэне Музычнага і раней: «Хэло, Долі!» Джэры Германа (1992) і «Цалуй мяне, Кэт!» Кола Портэра (1998). Але найбольшыя спадзяванні тэатральная грамадскасць звязвала з першымі спробамі выпускнікоў эксперыментальнага курса Б. Уторава, якія вучыліся ў Беларускай акадэміі мастацтваў (рэжысёр Анастасія Грыненка, салісты Ілона Казакевіч, Кацярына Дзегцярова, Дзмітрый Якубовіч і Аляксей Грыненка).

Цікава, што ў час дырэктарства А. Ісаева вучні Уторава ажыццяўлялі свае творчыя пошукі на самых розных пляцоўках, але толькі не дома. Цягам апошняга дзесяцігоддзя імі былі паказаны мюзікл «Мэры Попінс збірае сяброў» Р. і Р. Шэрманаў у малой зале Палаца Рэспублікі, «Папялушка» Р. Роджэрса ў канцэртнай зале «Мінск», рэвю «Прывітанне, Брадвей!» на сцэне Белдзяржфілармоніі (рэжысёр усіх пастановак – А. Грыненка). Амерыканскія павевы досыць доўга былі незапатрабаваныя ў Музычным. І толькі пасля апошняй змены кіраўніцтва нечакана высветлілася банальная ісціна: без амерыканскіх мюзіклаў, якія ставяцца па ўсім свеце і патрабуюць ад выканаўцаў высокай тэхнікі – спеўнай, танцавальнай, размоўнай, творчае жыццё калектыву будзе абмежаваным і няпоўным.

Чым жа адметны мюзікл? Для яго характэрныя вострыя драматычныя калізіі, вялікая дынамічнасць дзеяння, разнастайнасць музычна-песенных форм. Даследчыкі лічаць, што вытокі мюзікла – у такіх жанрах, як рэвю, мюзік-хол, шоу, а сам ён з’яўляецца адной з разнавіднасцей рок-оперы. Мюзікл – вядучы камерцыйны накірунак на лонданскіх і нью-ёркскіх сцэнах, які моцна ўплывае на развіццё сусветнай забаўляльнай культуры. Да найбольш папулярных твораў гэтай плыні належаць мюзіклы Э. Л. Уэбера «Cats» («Коткі») і «Phantom of the Opera» («Фантом оперы»). Лонданская прэм’ера першага адбылася амаль 30 гадоў таму, першы паказ другога – больш за 20 гадоў таму. Невыпадкова з таго часу яны не сыходзяць з вядучых сцэн свету.

З апошніх прэм’ер Музычнага да названага накірунку пакуль можна аднесці толькі рэвю “Аднойчы ў Чыкага” (аўтар лібрэта і рэжысёр-пастаноўшчык С. Цырук). Нягледзячы на пэўныя спрэчныя моманты, яна прадэманстравала высокі ўзровень прафесіяналізму. “Аднойчы ў Чыкага” сапраўды трымае глядацкую ўвагу. Паміж музычнымі фрагментамі рэвю нельга знайсці прыкметных швоў. Дзеянне ўспрымаецца на адным дыханні. Дыялогі змяняюцца музычнымі нумарамі, прычым ніводны з іх не выглядае як устаўны і дывертысментны нумар.

У тым выпадку, калі музычны тэатр пэўнай краіны некаторы час існаваў адасоблена ад еўрапейскіх або амерыканскіх традыцый, ён вымушаны праходзіць шлях паўтарэння і засваення дасягненняў сусветнай музыкі. Толькі тады тэатр можа зрабіцца паўнавартасным. Пастаноўка «Аднойчы ў Чыкага» далучыла нашага гледача да лепшых прыкладаў сусветнага мюзікла, амаль незнаёмага айчыннай публіцы. У любым выпадку, гэта толькі першыя крокі ў засваенні брадвейскай спадчыны.

## “Папса” і савецкае рэтра

Пасля сыходу з тэатра А. Ісаева існавала спадзяванне, што яго спектаклі сыдуць разам з ім. І сапраўды, у рэпертуары цяпер застаецца толькі “Бабін бунт”. (Што датычыцца відовішчнай рок-оперы “Юнона і Авось” А.Рыбнікава, якая таксама захоўваецца ў рэпертуары, дык пастаноўка вельмі нагадвае маскоўскую версію “Ленкома”, каб можна было казаць пра творчую самастойнасць рэжысёра). Але нечакана высветлілася, што “музкамедыйная” аснова дужа трывалая і заўсёды жывая: на сцэне тэатра з’явілася некалькі пастановак, якія цалкам адпавядаюць такой традыцыі.

Да катэгорыі “савецкага рэтра” могуць быць аднесены дзве камедыі. “Аршын мал Алан” быў напісаны на пачатку XX стагоддзя азербайджанскім кампазітарам У. Ганджыбекавым. У аснове сюжэта – гісторыя купца Аскера, які жадае ўзяць

шлюб з прыгажуняй Гюльчохрай. Паколькі на Усходзе ў той час было прынята выбіраць нявесту, не бачыўшы яе, юнак пераапранаецца ў вопратку гандляра і такім чынам трапляе ў дом да дзяўчыны. На вялікі жаль, адзіным элементам спектакля, вартым увагі, стала прыгожая музыка. Усё астатняе не вытрымлівае ніякай крытыкі. Прымітыўны сюжэт з прадказальнымі і прамалінейнымі ходамі. Статычнасць. Слабы тэкст лібрэта, які не змяшчаў ніводнага патэнцыйнага “хіта”. Замест гледачам прапаноўваліся такія “бессмяротныя” радкі, як “ох ты моя дорогая, ох ты моя золотая”, “мой цветочек, ой, спелый персик, ой”. Выклікае пытанне і актуальнасць спектакля. Выбар нявесты не па сваёй волі практыкаваўся ў Беларусі ў лепшым выпадку ў часы прыгоннага права (150 гадоў таму). Застаецца толькі пашкадаваць, што менавіта “Аршын мал Алан” прадстаўляў тэатр на І Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Мяркую, у гледачоў і крытыкаў пасля прагляду засталося не лепшае ўражанне пра калектыў.

Акрамя таго, да катэгорыі “рэтра” можна часткова аднесці спектакль “Мая жонка – ілгуння”. Ён з поспехам ішоў на сцэне тэатра яшчэ ў савецкі час. Але новая пастаноўка рэжысёра Г. Галкоўскай не пераканала гледачоў у неабходнасці вяртання “Ілгунні”.

Горшым прыкладам “музкамедыйнасці” стаў мюзікл “Блакітная камея”. Напісаны расійскім кампазітарам-песеннікам К. Брэйтбургам, ён ужо ставіўся ў Башкірыі і Краснаярску. Пасля гэты “шэдэўр” дабраўся да Мінска. Асновай сюжэта “Блакітнай камеі” сталі падзеі другой паловы XVIII стагоддзя, якія адбываліся ў Расійскай імперыі, калі падчас кіравання імператрыцы Кацярыны ІІ за мяжой з’явілася княжна Тараканава... На маю думку, спектакль стаў горшым прадуктам Музычнага тэатра за апошнія сезоны. Музыка характарызавалася стракатасцю, імклівымі пераходамі ад лірыкі да шансона, ад вальса да хіп-хопа. Сцэнограф Г. Бялоў сваімі моцнымі ляпістымі мазкамі наблізіў сцэнаграфію спектакля да апошніх дасягненняў народных майстроў з правінцыйных дамоў культуры. А сама пастаноўка ўяўляла сабой горшыя ўзоры папсовай культуры на акадэмічнай сцэне.

## Адрасаваныя дзіцячай аўдыторыі

На сцэне тэатра на працягу яго гісторыі перыядычна ставіліся дзіцячыя спектаклі. У першай палове 1990-х гадоў паспяхова працаваў Дзіцячы музычны тэатр “Казка”. Сучасны этап у пастаноўцы дзіцячых спектакляў звязаны з асобай рэжысёра Анастасіі Грыненка, якая паставіла ў тэатры мюзіклы “Айбаліт-2002” І. Левіна, “Бураціна.by” і “Чырвоны каптурок. Пакаленне next”А. Рыбнікава, “Прыгоды брэменскіх музыкантаў” Г. Гладкова. У 2000-я гады ва ўмовах відавочнага крызісу Музычнага тэатра менавіта працы Грыненкі зрабіліся візітнай карткай калектыву.

У стварэнні спектакляў удзельнічала адна і тая ж каманда: аранжыроўшчык Леў Карпенка (у “Каптурку” яго суаўтарам таксама выступіў Уладзімір Ткачэнка), дырыжор Мікалай Макарэвіч, сцэнограф Андрэй Меранкоў, мастак па касцюмах Юлія Бабаева і балетмайстар Дзмітрый Якубовіч.

Грыненка арыентавалася на класічныя казкі, правераныя часам, якія карыстаюцца заслужанай любоўю не аднаго пакалення маленькіх гледачоў. Ва ўсіх названых спектаклях (акрамя “Айбаліта-2002”) рэжысёр сама пісала лібрэта, дзе адаптавала сюжэт да сучасных рэалій. Напрыклад, у “Бураціна.by” пудзель Артэмон, каб даведацца пра планы Карабаса Барабаса, заходзіць праз ноўтбук на яго асабісты сайт. З ноўтбкам вандруе па лесе і Чырвоны Каптурок і г.д. Такія дасціпныя штрыхі заўжды набліжаюць сюжэт і герояў да цяперашняга гледача.

Прычынай поспеху спектакляў сталі здольнасць увасобіць казачную атмасферу цуду, а таксама граматная рэжысёрская праца, ідэальна вытрыманы стыль, давер да актрыс-травесці, якім А. Грыненка даручае галоўныя ролі (Ала Лукашэвіч –

Бурацiна, Iлона Казакевiч – Чырвоны каптурок); не пазбаўленыя абаяльнасці адмоўныя персанажы; лёгкая, ненавязлівая дыдактычнасць. Надзвычай яркай работай аказаўся спектакль "Бураціна.by" (2003). Досыць блізкімі па духу былі і "Прыгоды брэменскіх музыкантаў" (2007).

Заўважу, што ў "Чырвоным каптурку", дзе хапала арыгінальных рашэнняў, быў прыкметны і ўплыў масавай культуры. Гэта ўстаўныя нумары і эпізоды, выкліканыя пэўнай адасобленасцю музычных фрагментаў, штучныя рэплікі і фразы, мільгаценне святла, празмерная стракатасць касцюмаў і перанасычанасць дзеяння, разлічаныя на знешні эфект. Як патлумачыць менавіта такі мастацкі вынік? "Бураціна.by" ставіўся рэжысёрам у атмасферы творчай свабоды, пад уплывам і пры спрыянні свайго настаўніка Б. Уторава. "Чырвоны каптурок" – пасля доўгіх сумесных гадоў працы з Ісаевым, калі трэба было шукаць кампрамісы і захоўваць уласнае творчае крэда. Так, "Чырвоны каптурок" і да гэтага часу з'яўляецца касавым і запатрабаваным спектаклем. Але атрымаўся ён шмат у чым эклектычным: лепшая частка ў ім звязваецца з "музычнай" традыцыяй, больш слабая – з "музкамедыйнай".

У мінулым годзе галоўны рэжысёр Музычнага С. Цырук таксама паспрабавала сябе ў жанры мюзікла для дзяцей і дарослых. Аднак у пастаноўцы "Чароўная лямпа Аладзіна" яна, на жаль, не наблізілася да узроўню сваіх лепшых спектакляў.

У рэпертуары трупы маюцца і два спектаклі, арыентаваныя, па сутнасці, на дашкольнікаў. Гаворка пра мюзікл "Залатое кураня", што ідзе на сцэне чвэрць стагоддзя, і мюзік-фэнтэзі "Чароўны гадзіннік, або Хто выратуе Новы год" (прэм'ера адбылася ў снежні 2011 года – рэжысёр А. Грыненка). Зразумела, у дзіцячых пастаноўках ёсць свае законы. Таму некаторыя павароты сюжэта і агульная драматургія спектакля, якія выклікаюць захапленне ў маленькага гледача, могуць падацца даросламу прасталінейнымі, неабгрунтаванымі і з мастацкага пункту гледжання супярэчлівымі. Застаецца спадзявацца, што гледачы такіх пастановак, калі падрастуць, будуць больш патрабавальнымі да таго, што адбываецца на сцэне.

## Куды рухаецца балет?

Далейшае развіццё харэаграфічнай трупы – адна з праблем Музычнага тэатра. У яго рэпертуары прадстаўлена класіка пазамінулага ("Жызэль", "Шахеразада") і мінулага стагоддзяў ("Кармэн-сюіта" ў харэграфіі А. Алонса і "Шчаўкунок" – В. Вайнонена), сучасныя пастаноўкі ("Мефіста" – прэм'ера новай версіі ў 2010-м, а таксама "12 крэслаў"), існуюць канцэртныя праграмы ("Іспанскія мініяцюры", "Класіка і сучаснасць").

Класічныя пастаноўкі проста неабходныя, каб захаваць належны тэхнічны і артыстычны ўзровень трупы. Адзін з магчымых шляхоў рэалізацыі праблемы – паступовае аднаўленне спектакляў, што ішлі ў 1990-я гады. Праўда дамінаванне ў рэпертуары тэатра аперэт і мюзіклаў, нешматлікасць калектыву яшчэ больш замацоўваюць за балетнай трупай Музычнага ўзровень, які пакуль рана параўноўваць з Нацыянальным тэатрам оперы і балета. Прыкладам такой сітуацыі стаў балет П. Чайкоўскага "Шчаўкунок". Калісьці ён ішоў на сцэне Музычнага тэатра з купюрамі пад назвай "Зачараваны прынц". У снежні 2011 года У. Іваноў ажыццявіў новую пастаноўку. У выніку атрымаўся цудоўны касавы спектакль, адрасаваны дзецям. Але па вялікім рахунку ён не з'яўляецца арыгінальнай мастацкай з'явай і наўрад ці яго можна параўноўваць з "Шчаўкунком" у харэаграфіі В. Елізар'ева, што ідзе ў Нацыянальным тэатры оперы і балета.

Больш лагічнай здаецца лінія на новыя пастаноўкі, эксперыменты, імкненне здзіўляць публіку і замацоўваць у яе свядомасці ўласны, адметны імідж трупы. Сярод такіх пастановак можна назваць балеты "Мефіста" і "12 крэслаў". Першы

з іх з'явіўся безумоўным творчым поспехам Музычнага тэатра і, без перабольшвання, найбольш яркім балетам апошняга дзесяцігоддзя. На маю думку, асноўныя складнікі творчай удачы "Мефіста" – лібрэта Юліі Чурко, музыка Уладзіміра Кандусевіча і харэаграфія Уладзіміра Іванова. Партытура, здаецца, ідэальна створана для ўвасаблення праз пластычныя вобразы – нараджала фантастычнае адчуванне моцнай энергетыкі. Усе складнікі пастаноўкі забяспечылі дакладную драматургію, відовішча, дзе ўдала чаргуюцца лірычныя і драматычныя, сольныя і масавыя сцэны. Спектакль прадэманстраваў бясспрэчны мастацкі густ, гуманістычнасць погляду на чалавека, і тады аказалася, што старую легенду пра Фауста і Мефістофеля можна прачытаць па-сучаснаму. Такія спектаклі могуць і павінны станавіцца візітоўкай сучаснага айчыннага мастацтва, трапляць на прэстыжныя міжнародныя харэаграфічныя фестывалі.

Балет "12 крэслаў" (на музыку Г. Гладкова), быў пастаўлены творчым дуэтам: Д. Якубовіч выступіў у якасці харэографа, А. Грыненка – рэжысёра. Яны прапанавалі ўласнае прачытанне спектакля. Яго дзеянне адбываецца ў канкрэтны гістарычны перыяд: у другую палову 1920-х гадоў, у эпоху НЭПа, калі ў грамадстве адбывалася сутыкненне масавай і асабістай свядомасці. Галоўнай ідэяй пастаноўкі сталі ўзаемаадносіны паміж чалавечай індывідуальнасцю і дзяржавай. Стваральнікаў "12 крэслаў" цікавіў, паводле слоў рэжысёра, «новы тып асобы – "чалавек-вінцік" у велізарным дзяржаўным механізме». Менавіта таму вандроўкі Астапа Бэндэра (Артур Іваноў) і Кісы Варабьянінава (Віталь Краснаглазаў) з'яўляліся не толькі банальным пошукам скарбаў, схаваных у крэслах. Бэндэр паказаны, акрамя таго, і арыгінальным, творчым чалавекам, чые думкі і ідэі не знаходзяць водгуку і разумення ў тагачасным грамадстве.

Д. Якубовіч, для якога "12 крэслаў" сталі дэбютам у якасці харэаографа цэлага спектакля, падзяліў балет на дванаццаць сцэн. Такая пабудова выконвае адначасова некалькі функцый. Па-першае, развівае сюжэт, калі глядач паслядоўна знаёміцца са знакамітымі героямі рамана (мадам Грыцацуевай, Элачкай Шчукінай, студэнтамі Колькам і Лізай, мастаком Ізнурэнкавым), у якіх знаходзяцца крэслы. Па-другое, рознахарактарныя сцэны яднаюцца эксцэнтрычнасцю агульнай дзеі, даюць выканаўцам магчымасць выявіць іх уласны стыль. Здавалася б, гэта праява характараў дзейных асоб. Але тэатралы з асалодай сустракаюць у харэаграфіі прамыя адсылкі на стылістыку і харэаграфію часу, калі адбываецца дзеянне балета. Больш за тое, "12 крэслаў" успрымаюцца як вяртанне да эксперыментаў знакамітых расійскіх балетмайстраў Л. Якабсона і К. Галейзоўскага.

Чаму ж поспех абодвух балетаў пакуль не знайшоў працягу? "Мефіста" быў пастаўлены на пэўных выканаўцаў, якія здолелі ўвасобіць складаную харэаграфію і шматпланавыя вобразы. Гаворка ідзе пра В. Краснаглазава, Р. Івакіры і Р. Крукоўскага. Аднак са ўзгаданай тройкі ў трупе застаўся толькі першы саліст. З'ехаў у іншую краіну дуэт – давялося часова адмовіцца ад "Мефіста". Галоўныя ролі проста няма каму танцаваць, маладыя танцоўшчыкі яшчэ не дасягнулі ўзроўню былых прэм'ераў. Таму харэографы (Д. Якубовіч у "12 крэслах", У.Іваноў у "Шчаўкунку") вымушаны сачыняць пластычны малюнак, улічваючы магчымасці трупы.

Размовы пра крызіс у беларускай харэаграфіі ідуць ужо не першы год. Вядома, ён не спрыяе развіццю нашых акадэмічных калектываў. Застаецца спадзявацца, што праблемы будуць пераадолены, і балетная трупа Музычнага раней ці пазней дачакаецца новага росквіту.

## З чаго складаецца "Калейдаскоп"?

Новыя праекты, ажыццёўленыя на сцэне за апошнія некалькі сезонаў, адлюстравалі самыя розныя музычныя накірункі. Тут зварот да праверанай класікі: праект

“Чароўны свет аперэты” і гала-канцэрт “Казкі венскага лесу” (з твораў І. Кальмана, Ф. Легара, І. Штрауса). Увагу да рэпертуару для дзяцей адлюстраваў праект “Энцін-шоу”, цалкам складзены з твораў, напісаных расійскім паэтам Юрыем Энціным. “Музычныя вечары з Аляксандрам Анісімавым” прадэманстравалі намер пашырыць прастору тэатра і аўдыторыю наведвальнікаў праз увагу да класічнай музыкі. Да рознай катэгорыі слухачоў звернуты Вечары класічнага і старадаўняга рамансу, мюзік-шоў “Summertime” і “Мелодыі неапалітанскага кварталу”.

Асабліва адметнай, на маю думку, зрабілася праграма “Музычны калейдаскоп”, якая прэзентавала здабыткі беларускіх кампазітараў (песні, урыўкі з опер і фрагменты сімфанічнай музыкі). Прычым з вуснаў салістаў тэатра гучала беларуская мова. Парадокс, але ў савецкія часы выхадцы з іншых рэгіёнаў СССР цудоўна ўвасаблялі нацыянальныя характары ў музычных камедыях “Паўлінка” Ю. Семенякі, “Несцерка” і “Судны час” Р. Суруса. У апошні час беларускія салісты выконвалі цалкам “інтэрнацыянальны” рэпертуар. Нацыянальных твораў няшмат – “Шклянка вады” і “Мефіста” У. Кандрусевіча, а таксама “Чароўны гадзіннік, або Хто выратуе Новы год” А. Атрашкевіч.

Уважлівы наведвальнік Музычнага тэатру звярнуў ўвагу, што кожная канцэртная праграма прэзентавала пэўны накірунак і адрасавалася мэтавай аўдыторыі. Большасць з іх былі зроблены па-майстэрску, адпавядалі высокім крытэрыям. Таму шкада, што часцей за ўсе яны паказваюцца толькі адзін раз. А ў той жа час глядач вымушаны ацэньваць узровень трупы па рэпертуары, які не заўсёды адпавядае сучасным тэндэнцыям і стылю.

## Куды ідзеш, Музычны?

Акрэсліўшы развіццё калектыву ў розных жанравых накірунках, паспрабуем звярнуцца да агульных праблем. Так, яго кіраўніцтва абвясціла высакародны намер будаваць паўнавартасны Музычны тэатр. Аднак увасабленне такой праграмы на практыцы пакуль сутыкаецца з пэўнымі цяжкасцямі.

Па-першае, далёка не ўсе пастаноўкі сталі бясспрэчным мастацкім поспехам. Статусу акадэмічнага Музычнага тэатра, безумоўна, адпавядаюць “Мефіста”, “Сільва”, “Аднойчы ў Чыкага”, “12 крэслаў”. Некаторыя іншыя могуць лічыцца адносна прымальнымі. Аднак такія пастаноўкі, як “Аршын мал Алан”, “Блакітная камея”, “Чароўная лямпа Аладзіна”, на маю думку, рэзка зніжаюць агульную планку.

Па-другое, статус Музычнага тэатра прадугледжвае адпаведны ўзровень аркестра і салістаў. Зразумела, ідэальнага не існуе. Тым не менш у кулуарах час ад часу гучаць нараканні з вуснаў музыказнаўцаў.

Статус Музычнага тэатра таксама прадугледжвае пастаноўку опер. Што датычыцца гэтага жанру, дык з 2000 года на сцэне тэатра ідзе камічная опера Ціхана Хрэннікава “Даратэя” (пастаноўка Б. Лагоды). У ліпені 2011 года адбылася прэм’ера спектакля ў тым жа жанры. Гаворка ідзе пра “Званочак, або вясельная ноч аптэкара” Г. Даніцэці (пастаноўка Г. Маторнай). Аднак апошні спектакль паказаў, што нягледзячы на арыгінальнае рэжысёрскае прачытанне, салісты пакуль не адчуваюць сябе дастаткова свабодна ў жанры.

Калі паспрабаваць абагуліць дасягненні і праблемы тэатра, мяркую, на яго сцэне па-ранейшаму сутыкаюцца і суіснуюць традыцыі музычная і музкамедыйная. Першая звязана з высокім выканальніцкім узроўнем, мастацкім густам, жанравай разнапланавасцю, арыгінальнай інтэрпрэтацыяй партытур. Другая – з савецкім “рэтра” і сучаснай масавай культурай, з павярхоўным або стандартным прачытаннем сюжэта і музыкі. Хто акажацца пераможцам? Ад гэтага залежыць далейшае развіццё ўсяго калектыву. Хочацца верыць, што трупа Музычнага тэатра здолее ажыццявіць свае планы і пабудаваць еўрапейскі тэатр еўрапейскай краіны.

крытыка

Ала Петрушкевіч



...гэта яе сведчанне не толькі пра здзек
з самога паняцця чалавечнасць,
але і пра нязломнасць духу, пра вялікую сілу
веры, якая давала магчымасць выстаяць...

# Наталля Арсеннева і Ларыса Геніюш: жыццёвыя і творчыя перазовы

Наталля Арсеннева і Ларыса Геніюш – яркія постаці айчыннага пісьменства сярэдзіны ХХ стагоддзя. Між імі годна паўстае асоба Максіма Танка.

Згадаем вядомы фотаздымак з першай сустрэчы паэтычных важакоў заходнебеларускай літаратуры, як справядліва называлі ў 30-я гады Наталлю Арсенневу і Максіма Танка. Гэта адбылося 21 снежня 1937 года на вечарыне ў Вільні, што ладзіла Беларускае навуковае таварыства. Дакладную дату падае Максім Танк у дзённіку "Лісткі календара". Часопіс "Беларускі летапіс" азваўся на тую падзею, змясціў фотаздымак. Гарадзенская паэтка Данута Бічэль у прадмове да лістоў Наталлі Арсенневай пісала: "Разглядвала фотку Наталлі Арсенневай і Максіма Танка, неяк інтымна прытуліўшыхся, як два галубкі, двое шчаслівых у сваёй духоўнай сяброўскасці, лучнасці... А містычна – з другога боку – я каля Максіма Танка бачыла Ларысу Геніюш. Не спытала і не ведаю, ці спрабавала напісаць Ларыса Наталлі ў ЗША, ці хоць калі яны сустрэліся..." [1, с. 64]. І хоць не

магло быць побач з Арсенневай і Танкам у 1937 годзе Ларысы Геніюш, бо тады яна была найперш маці, што гадавала свайго маленькага сына, але менавіта тады, напрыканцы 1937 года, пачала пісаць, відавочна, пад уплывам беларускіх газетаў, пра што згадвала ў "Споведзі": "Я крыху пісала, вершаў сваіх нікуды не пасылала, часам мужу" [2, с. 241]. І згадвае страфу з таго даўняга верша:

> Калі першая зорка на неба загляне,
> тады ўспомні, мілы, пра нас,
> душа мая выйдзе к табе, на спатканне,
> па небе, на зорку якраз [2, с. 241].

А ў тых перыёдыках вершы Н. Арсенневай з'яўляліся пастаянна. Так, відавочна, Л. Геніюш і пазнаёмілася з яе творчасцю. Друкавацца стане пазней, першыя вершы датуюцца 1939 годам, а надзвычай яркі дэбют адбудзецца ў берлінскай газеце "Раніца" ў 1940 годзе. Ім стане верш "Беларуска" – твор, што быў успрыняты рассыпанымі па чужых краях беларусамі вельмі прыхільна. Аўтарка адышла ад традыцыйнага адлюстравання вобліку маладой суайчынніцы як прыгожай, мілай, працавітай, пакорнай лёсу. Матыў развітання з каханым, якога чакаюць змагарныя дарогі, напоўнены не слёзным смуткам і нараканнем на нядолю, а жаданнем самой тварыць уласны лёс. Яе беларуска – моцная, гордая, годная быць гаспадыняй сваёй зямлі, здольная пастаяць за сябе і свой Край. І гэта вабіла, было новым і незвычайным:

> Калі цябе, мілы, Краіна пакліча
> за родны змагацца парог,
> то суму не будзе ў мяне на абліччы
> і страху не будзе ў грудзёх [2, с. 26].

Пра пачатак сталай творчасці паэтка будзе згадваць як пра свядома прынятае, вельмі важнае, лёсавызначальнае рашэнне: "Так, знача, я цяпер буду пісаць. Усё дарагое мне забралі, панішчылі, але ёсць тут у няволі браты мае, цёмныя, нават не ведаюць добра, хто яны, самыя сябе падцэньваюць, вось я хачу аказацца да іх, але так: сэрцам да сэрца" [2, с. 254].

Як адзначае літаратуразнаўца А. М. Пяткевіч, у яе "літаратурнай дзейнасці, па сутнасці, не было вучнёўскага перыяду, які праходзяць звычайна маладыя паэты. Гэтаму садзейнічалі нялёгкія выпрабаванні, якія рана выпалі на яе долю, душэўная развітасць, самастойнасць" [3, с. 176]. Тое ж можна сказаць і пра яркі дэбют Наталлі Арсенневай, і, бадай што, з тых жа прычынаў у яе таксама не было вучнёўскага перыяду. Хоць першаштуршком да яе творчасці сталі прычыны зусім іншага, асабістага плану: яе светлая закаханасць у выкладчыка літаратуры Максіма Гарэцкага, імкненне звярнуць ягоную ўвагу. Праз многа гадоў паэтка згадае пра гэта: "Настаўнік літаратуры, якую я так любіла... Я доўга не адважылася гаварыць аб тым, што і я пішу, Гарэцкаму. Зрэшты, якая б з гэтага была б карысць? Гарэцкі... і расійскія вершы! І я маўчала і вучылася, і чытала" [4, с. 468]. Авалодала мовай настолькі дасканала, што з поспехам выканала ролю Агаты ў Купалавай "Паўлінцы". "Заахвочаная ўдачаю, я спрабавала пісаць па-беларуску вершы. І як ні дзіўна, у мяне адразу пайшло вельмі гладка" [4, с. 469].

А сустрэцца ім, ужо вядомым беларускім паэткам, усё ж давялося. У няпростым часе, у чэрвені 1944 года, калі Ларыса прыязджала з Прагі ў Мінск. Прыпынялася на кватэры менавіта Кушаляў, пра што расказала ў сваёй "Споведзі". Асабліва значнай падаецца ацэнка паэткай асобы Францішка Кушаля, на якога шмат бруду выліта. І не толькі ворагамі беларушчыны. Ларыса Геніюш пісала: "Мала ў жыцці сустракала я так шляхотных, бескарысных патрыётаў, якім быў Кушаль. Ён, як і Вітушка, жыў і дыхаў толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі" [2, с. 301]. Пра саму гаспадыню згадвала таксама з глыбокай павагай, адзначаючы яе ахвярнасць: "Яна наагул найменей думала пра сябе, памагала іншым" [2, с. 302].

Адкінуўшы гэтыя ўдакладненні, гэтак жа містычна ўслед за Данутай Бічэль уявім іх побач, маладых і надзвычай прыгожых: Наталлю Арсенневу, Максіма Танка, Ларысу Геніюш. У 30-я гады светлая прыязнасць звязвала Максіма Танка з Наталляй Арсенневай, у 60-70-я з Ларысай Геніюш. І не проста прыязнасць на словах, а ахвярнае імкненне дапамагчы. Наталлі Арсенневай у 1939 годзе, калі яна з сынамі – сям'я ворага народа, апынулася без сродкаў для існавання, менавіта Максім Танк дапамог уладкавацца на працу ў вілейскую раёнку "Сялянская газета". А пасля арышту, як мог, ратаваў паэтку, падаючы свой голас разам з Янкам Купалам у яе абарону. Нашы літаратуразнаўцы ў сваіх артыкулах пра паэтку прычыну яе вяртання з Казахстанскай ссылкі наіўна шукаюць у гэтым. Калі б тая злачынная ўлада прыслухоўвалася да такіх зваротаў, то ніхто з творцаў у ГУЛАГу не застаўся б. І пасля вяртання з ссылкі Наталля Арсеннева звярнулася таксама да яго, смелага і чалавечнага Максіма Танка, які ізноў дапамог і з працай, і з жыллём. З удзячнасцю згадвала паэтка: "Ён, не ў прыклад іншым, быў мне нават напісаў ліст у Казахстан, не пабаяўся..." [4, с. 483].

Апальная "зэльвенская непаслушніца" (так яе назваў літаратуразнаўца Ян Чыквін) Ларыса Геніюш мела ад Максіма Танка вялікую маральную падтрымку, сустракаючыся і лістуючыся з ім пасля вяртання з лагероў. У многім дзякуючы ягоным намаганням пабачылі свет дзве яе кнігі таго часу "Невадам з Нёмана" і "На чабары настоена". Клопат Максіма Танка пра абедзвюх паэтак сведчыць не толькі пра ягоную чалавечнасць, але і пра разуменне, якога высокага ўзроўню талентам былі пазначаныя гэтыя творцы.

Яны былі вельмі розныя. І вельмі падобныя. Гараджанка Наталля ўзгадоўвалася ў сям'і рускага вайскоўца. Але вельмі любіла прыроду, лес. Ларыса – у маёнтку-хутары, дзе прырода натуральна ўваходзіла ў жыццё з самага маленства. Былі зачараваны беларускімі казкамі-песнямі, якія ў жыццё Ларысы ўвайшлі з нараджэння, а Наталля ўпершыню адчула іх прыгажосць у часе вяртання сям'і ў Вільню з Яраслаўля. Абедзве ў дзяцінстве, раннім юнацтве зведалі пакуты бежанства часоў Першай сусветнай вайны. І гэткае ж пакутнае вяртанне на зруйнаваныя, страчаныя сядзібы.

Абедзве выйшлі замуж за шчырых беларускіх патрыётаў. Шкада, што не захавалася шлюбнага фотаздымка Кушаляў. Ды і ці магло быць вяселле ў збяднелай сям'і Арсенневых такім, як у дачкі пана Міклашэвіча, што было б зафатаграфавана, як у Ларысы і Янкі Геніюшаў. Мне ўяўляецца, што шлюб Наталля брала ў той мілай белай сукенцы, у якой бачым яе на фотаздымку першага выпуску Віленскай беларускай гімназіі. Былі шчаслівымі ў шлюбе, наколькі наогул можна быць жанчыне шчаслівай. І ў мацярынстве. І не абышоў іх самы страшны боль – страта дзяцей. Кушалі пахавалі свайго першынца Яраслава ў Менску, а Ларыса ў вязніцы і ў лагерох нічога не ведала пра свайго пакінутага хлопчыка, з якім разлучана была на доўгія гады. Не ведала нават, ці жывы. Пакінутага ў вельмі няпростым падлеткавым, юнацкім узросце, калі хлопчык асабліва патрабуе падтрымкі і апекі родных. У часе рэдкіх сустрэчаў з мужам "стараліся не ўспамінаць Юркі, бо гэта было цяжэй нашых сілаў у гэты час" [3, с. 375]. І тут жа дадае, тлумачыць: "Не ўспамінаць яго было нельга, можна было толькі не гутарыць аб ім" . З годнасцю трывала ўсё, а вытрываць боль з-за сына не магла: "Доля сына свідравала мозг, паласавала нервы" [3, с. 363]. Вярнулася, знайшла свайго Юрку. Але ўжо зусім не таго светлага хлопчыка, маленькага патрыёта, што меў гонар цярпець за Беларусь, а скалечанага нялюдскім лёсам чалавека, праз якога столькі болю давядзецца вытрымаць ягоным бацькам. Каб пачуць ад яго надзвычай горкую праўду пра тое, што давялося пераджыць.

Відавочна, невыпадковыя тыя шматлікія вобразныя перазовы, што сустракаем у вершах паэтак. Найперш прыгадаем матыў пад сінім небам, што даў назву пер-

шай паэтычнай кнізе Наталлі Арсенневай, праз які паэтка імкнулася пазначыць шлях-палёт думкі, пачуцця да красы незямной, прывіднай:

> пад сінім небам усё іначай –
> здаецца сьветлым, як сны, жыцьцё,
> такім нязнаным, дзіўным, узьлётным,
> жыцьцём-натхненьнем бязь сьлёз, турбот [5, с. 7].

Праз гэты матыў выказвае паэтка самае запаветнае, жаданае, як і Ларыса Геніюш у вершы “Блукаю сёння па родным Краі...”, дзе, аднак, мары лірычнай гераіні скіраваны ў іншым напрамку, да сціплай прыгажосці радзіннага Краю:

> Пад тваім небам, чыстым і сінім,
> быць канапелькай,
> быць тваім гордым, вечным ўспамінам,
> мая зямелька [2, с. 69].

Але той эстэцкі кірунак заходнебеларускай паэзіі, узначальвала які якраз Наталля Арсеннева, (цалкам згаджаемся з пазнакай А.М. Пяткевіча, неабходна “ўкласці ў дадзенае вызначэнне самы высокі пазітыўны змест” [3, с. 62]) меў не меншую вартасць у плане патрыятычнага выхавання, бо якраз і раскрываў усю тую прыхаваную, стоеную адметнасць красы нашага краю, што так прываблівала аматараў прыгожага пісьменства. “Лірыка Н. Арсенневай кранала чытача эмацыянальна-эстэтычным інструментарыем і выхоўвала беларускасць з большай энергетычнай сілай” [3, с. 63]. З не меншай, чым хай нават вельмі таленавітыя патрыятычныя дэкларацыі.

Уплыў фальклору, матывы і вобразы народна-песеннай паэзіі ўваходзяць у творчасць паэтак амаль з самага пачатку, зразумела, у рознай ступені. Што да Ларысы Геніюш, то, як слушна сцвярджае Данута Бічэль, “асновай яе паэзіі была народная песня, па якой яна ткала, як перабіранкі, квяцістыя, далікатныя, мудрыя, самабытныя, смелыя метафары” [7, с. 234]. Невыпадкова менавіта фальклорны матыў прадзіва, ткацтва – адзін з галоўных у яе паэзіі. Так, яна старанна і акуратна праз вобразнае слова ткала нітку і жыцця, асэнсоўваючы ягоныя павароты, страты, ведаючы, што ўсё адбываецца па волі вышэйшай, і майстравала канву сваёй паэзіі. Бо сама яна з роду ткалляў. І ў прамым сэнсе гэтага слова таксама. Згадаем цудоўны фотаздымак, зроблены ў Гудзеўскім музеі, на якім Ларыса Антонаўна прадзе на калаўротку тонкую нітку. Кабета паважанага веку, але якая ж прыгожая! Строгага фасону, акуратная сукенка, хораша завязаная квяцістая хустка, пярсцёнак на руцэ. І светлая, нават нейкая загадкавая ўсмешка на твары, быццам углядаецца яна ў часы далёкай маладосці. Або і сапраўды чаруе, перабіраючы нітку часу. І робіць гэта так спраўна і лёгка, што праца ператвараецца ў сапраўдную творчасць:

> Пальцам няцяжка нітачку віць,
> долю з праменных валокнаў,
> нітачка ўецца, песня ляціць,
> зоры калыша звонку [2, с. 178].

Гэта радкі з паэмы “Куфар”, у якой матыў ткацтва, прадзіва – стварэння сапраўдных мастацкіх цудаў, наогул, скразны ў творчасці паэткі, прагучаў асабліва шырока, магутна. А ў зачыне паэмы нават час той даўні пазначаны галоўнай прыкметай – гэтай жаночай працай:

> Быў час ў маім Краі
> сягоння туманны,
> аднесены хваляй,
> час прадзены, тканы [2, с. 175].

У спадчыне Наталлі Арсенневай гэты матыў таксама не абыдзены. У вершы

“Ткалля” са зборніка “Сягоння” створаны вобраз гераіні, вясковай дзяўчыны на выданні. Яе настрой насуперак вайне мажорны, бо жыццё мацней за смерць, знішчэнне. Добра засвоенае ад маці майстэрства радуе юнаю ткаллю, а жыццесцвярджальная сіла даўняй традыцыі надае ёй упэўненасці:

> Нат ня буду задумляцца,
> ці пашле той кон сватоў, –
> запяю і буду ткаці,
> як вучыла дзеўку маці,
> у дванаццаць у нітоў! [5, с. 106]

Абедзве пакінулі вершы, навеяныя светлым пачуццём мацярынства. Блізкія да спрадвечнай песні беларускіх матуляў калыханкі. 1922-24 гады. Юная Н. Арсеннева ў хуткім часе па заканчэнні Віленскай беларускай гімназіі разам з сям’ёй апынулася ў Слоніме, дзе мела найгалоўны жаночы клопат – гадавала дзіцятка. “У невялікім пакойчыку на ўскраіне Слоніма, над спавітаю ў сцюдзёныя туманы Шчараю, я спяваю ўжо калыханку свайму першаму дзіцяці, чарнавокаму Яраславу” [4, с. 209], – успамінала паэтка праз вялізную адлегласць ад таго і ў прасторы, і ў часе.

Вершаў тады нарадзілася няшмат. Усяго пад чатырма творамі з выбранага “Між берагамі” пазначана – Слонім. Адзін з іх – светлая матуліна песня, калыханка. Спеўны фальклорны матыў-паўтор «люлі-люлі», гукапісны малюнак, адшліфаваны рытмічны лад побач з пачуццём вялікай мацярынскай любасці і пяшчоты робяць гэты верш надзвычай меладычным. Далікатнасць, пяшчота і цеплыня аўтарскай інтанацыі, што падкрэсліваецца словамі з памяншальна-ласкальным адценнем, пераплятаюцца з надзвычай яркай, узнёслай, казкавай вобразнасцю, калі вобраз маці ўздымаецца да вобліку добрай феі, якая суцяшае, чаруе, творыць незвычайны цуд.

Здаецца, бачу яе, маладую матулю Наталлю, што схілілася над калыскай сына.

> Восеняй на ўскраіне Слоніма
> ў якімсьці дамку драўляным
> спявала матуля песню
> свайму сыночку каханаму:
> *«Ноч рассыпала зораў агні,*
> *Ў сінім небе яны патанулі.*
> *Вее сон над прасторам зямлі.*
> *Люлі, люлі, сыночак мой, люлі».*
>
> Гэтак хараша чаравала,
> на галоўку вяночак сплятала
> з самых светлых, пяшчотных слоў,
> з пажаданнем шчаслівых сноў:
> *«З гэтых зорных чырвоных агнёў*
> *я спляту прамяністы вяночак.*
> *Над галоўкай павешу тваёй,*
> *люлі-ж, люлі, засьні, мой сыночак».*
>
> І плыла над вячорнім Слонімам
> песня-мара матулі Наталлі,
> што нізала рукой нястомнаю
> з незвычайных пэрлаў каралі:
> *«Тыя пэрлы-сьлязінкі зьбяру,*
> *паніжу з іх пацёркаў шнурочак*
> *і на шыйку завешу тваю.*
> *Люлі-ж, люлі, засьні, мой сыночак.*
> *Будзе зь імі малы засынаць,*
> *ручкай пацеркі-сьлёзы кранаць».*

Ніхто не ведаў тады, што яе любы сыночак загіне ў смутную для Беларусі гадзіну на самым парозе сваёй будучыні. І магілкі па ім не застанецца. Як жа зразумелы і кранальны той матулін боль: «Не ведаю, ці ёсць на свеце гайстрэйшы

боль, чымся хаваць сваё дзіця? Думаю, што няма. Бо мінула ад таго чэрвеньскага дня ўжо блізу чвэрць стагоддзя, а боль гэты жыве ўва мне, недзе глыбока, і сёння» [4, с. 209].

Вершы Л. Геніюш "Зорка", "Сын і матуля", набліжаныя да калыханкі, хораша гучаць у выкананні ансамбля "Белы сон" з Беластоку. Ласкава прамоўлена просьба маладой матулі пра спакойны сон для свайго сыночка:

Засвяці мне, зоранька,
засвяці ясней,
хай сынок мой скоранька
на руках засне! [2, с. 42].

І пра шчаслівую долю для дзіцяці, што абышла ягонага бацьку-змагара: "Ты ж хоць сыну, зоранька, // засвяці ясней!"

Абедзве прайшлі праз ГУЛАГ. Наталля Арсеннева пакінула ўспаміны "З Казахстанскай ссылкі", Ларыса Геніюш і тады ў нялюдскіх умовах не пакідала пісаць вершы. Тры раздзелы ў "Споведзі": "Тегенна", "Лагер", "Абезь" – гэта яе сведчанне не толькі пра здзек з самога паняцця чалавечнасць, але і пра нязломнасць духу, пра вялікую сілу веры, якая давала магчымасць выстаяць.

Абедзве зведалі чужыну, таму гэты вобраз стаў адным з асноўных у вершах перыяду эміграцыі. Наталля Арсеннева адлюстравала стан душы выгнанцаў праз дасканалы вобраз – між берагамі, што даў назву галоўнай кнізе яе жыцця. У зачынным вершы, дзе ў цэнтры рух бясконцай жыццёвай плыні, паўстае вобраз асобы мужнай, што прайшла праз нялёгкія выпрабаванні:

А я б яшчэ плыла,
няхай між берагамі
каменьне, і віры, і дна глыбінны жвір...
Ці раз параненая імі да крыві
не паддалася ўсё-ж, ня пала я ў змаганьні [5, с. 3].

Часцей паэткі перадавалі стан душы выгнанніка праз карціны прыроды. Так, у вершы Ларысы Геніюш "Чужына" змрочны малюнак позняй восені навявае смутныя думкі пра долю чалавека далёка ад Радзімы:

Так часта ў чужым ды нявеглівым краі
аб ціхія сэрцы бяздомных людзей
сумней, як той вецер аб дрэвы, зайграе,
злая доля ударыць, зазвоніць сумней [2, с. 29].

Захапленне красой прыроды, асабліва рухомымі, зменнымі карцінамі вячэрняй, начной пары ўпершыню ў айчынным пісьменстве шырока адлюстраваў нашаніўскі класік Максім Багдановіч. Паэткі былі вялікімі прыхільніцамі ягонай творчасці. Нагадаем, што назва першай кнігі Ларысы Геніюш "Ад родных ніў" падказана радком з вядомага верша "Слуцкія ткачыхі". Што да Наталлі Арсенневай, то існуе мноства прыкладаў паэтычнага наследавання творчасці Максіма Багдановіча. Паэткі прынеслі сваё адметнае бачанне ў карціну згасання белага дня, святла. Згадаем верш Ларысы Геніюш "Вячэрняя містэрыя", узнёслы, малітоўны лад якога адпавядае настрою надзвычайнай сцішанасці, урачыстасці:

Золатам тканаю рызаю
пакрылася неба без хмар.
Пацеркі зораў нанізаных
вечар кладзе на алтар [2, с. 26].

Але ў яшчэ большай ступені выяўляецца гэты матыў у імпрэсіяністычнай паэзіі Наталлі Арсенневай, дзе пераліўы фарбаў згасання малююцца праз далікатнае судакрананне з чалавечымі настроямі ў шматлікіх вершах: "Светлы дзень дагарае...", "Ціха плыў месяц...", "Увечары", "Перад ночай", "Вячорны абразок", "Вячорную

парою” і інш. Першы з згаданых твораў літаратуразнаўца Люба Тарасюк называе “дзівоснай з-паміж вясняных настрояў элегіяй..., дзе сам першы радок, эмацыянальны ключ верша, варты таго, каб застацца ў паэтычнай класіцы” [8, с. 249]. У колеравай палітры дамінуе тое ж золата, што і ў вершы Ларысы Геніюш:

> Сьветлы дзень дагараець над сумнай зямлёю...
> Ліпаў лісьцейка хварбай гарыць залатою,
> сад пажоўклы цямнее, маўчыць [5, с. 7].

Абедзве былі моцнымі, шмат цяжка фізічна працавалі. Літаральна да апошніх гадоў жыцця. Ларыса Антонаўна працавала на агародзе, на кветніках, сама рамантавала і бяліла старую хату Генюшоў, насіла ваду, даглядала хворага і да таго ж вельмі далікатнага Івана Пятровіча. А Наталлі Арсенневай давялося пакінуць сталае месца ў Нью-Ёрку, дзе ўжо прыжылася, каб выгадаваць унукаў, дзяцей сына Уладзіміра, што рана страцілі маці. Хлопчыку было восем гадоў, а дзяўчынцы ўсяго чатыры. А пасля давялося дапамагаць і хворым сватам, бацькам нявесткі.

Абедзве сталі беларускімі паэткамі ў многім насуперак таму асяроддзю, у якім узгадоўваліся. Ларыса – шляхецкаму, спаланізаванаму, Наталля – рускаму, рускамоўнаму.

І ўрэшце, абедзве доўгі час былі паэткамі забароненымі ў Беларусі. І гэта недарэчнасць, бо якраз у той час, за які ім прыпісваліся неіснуючыя правіны, “на пачатку 40-х, калі вымушана прымоўклі прызнаныя беларускія песняры, калі перастала гучаць беларуская паэтычная араторыя, жаночая партыя гэтымі дзвюма паэткамі была выканая бездакорна. Як з гледзішча прафесійнага, так і з ідэалагічнага – акупантам не было прысвечана ні аднаго слова, ніводнай фальшывай ноты” [9, с. 11].

Іх творчасць была з захапленнем успрынята чытачамі напрыканцы 80-х гадоў, калі пачалося іх актыўнае вяртанне ў айчынную літаратуру. Сёння пра іх можна даведацца нямала. Але нічога – са школьнай праграмы.

Гэтыя дзве вялікія беларускія паэткі містычна сустрэліся ў жніўні 2010 года ў мястэчку Зэльва, калі адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Над яе магілай узнёсла прагучала малітва “Магутны Божа” на верш Наталлі Арсенневай.

Літаратура:

1. Бічэль, Д. “Уваскрэсення светлая радасць”. Лісты Наталлі Арсенневай да Ларысы Геніюш / Д. Бічэль // Наша Вера. – 2007. – №2. – С. 64–67.
2. Геніюш, Л. Выбраныя творы /Л. Геніюш. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – 616 с.
3. Пяткевіч, А. Старонкі спадчыны: культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы / А. Пяткевіч. – Мінск: Бел. кнігазбор, 2006. – 240 с.
4. Арсеннева, Н. Выбраныя творы / Н. Арсеннева. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. – 592 с.
5. Арсеннева, Н. Між берагамі. Выбар паэзіі. Н. Арсеннева. – Нью-Ёрк, 1979. – 350 с.
6. Арсеннева, Н. З майго жыццяпісу // На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі. Н. Арсеннева. – Мінск:, 1994. – С. 209.
7. Бічэль, Д. Мост святога Францішка: успаміны / Д.Бічэль. – Мінск: Медысонт, 2010. – 290 с.
8. Тарасюк, Л. Пад небам паэзіі: Творчасць Наталлі Арсенневай 20-30-х гг. / Л. Тарасюк. – Полымя. – 1996. – № 6. – С. 247–257.
9. Скобла, М. Чайка з лётам арліным / М. Скобла // Геніюш, Л. Выбраныя творы / Л. Геніюш. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – С. 5-22.

Тамара Кароткая



...арыстакратычны почырк Багдановіча – лёгка чытальны, прыгожы, вытанчаны – выдатная аздоба кнігі і яскравая характарыстыка паэта...

# Асцярожна: псеўдаэнцыклапедыя!

***Максім Багдановіч: энцыклапедыя / склад. І.У Саламевіч, М. В. Трус; рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. – 608 с.: іл.***

Выхад любой энцыклапедыі заўсёды суправаджаецца павышанай увагай грамадства, бо з'яўляецца люстэркам развіцця навукі, кнігавыдавецкай справы і грамадства ў цэлым. Так было з выданнем у 1986 годзе першай у гісторыі Беларусі персанальнай энцыклапедыі "Янка Купала", якое стала знакавай падзеяй у нацыянальнай культуры. Значны грамадскі рэзананс меў і другі энцыклапедычны даведнік – "Францыск Скарына і яго час", выдадзены ў 1988 годзе як падрахунак развіцця скарыназнаўчай навукі. Абедзве гэтыя фундаментальныя працы аб'ядноўваюць не толькі паўната і фактаграфічнае багацце матэрыялу пра двух волатаў беларускага духу, але і прынцыпы адбору і падрыхтоўкі матэрыялаў, вялікая ўвага складальнікаў да пытанняў фарміравання адзінага комплексу інфармацыі і асноў для працы над ім.

Як і 25 гадоў таму назад, калі выйшаў у свет даведнік "Янка Купала", так і сёння мэтавае прызначэнне персанальнай літаратурнай энцыклапедыі не мянялася. Яна павінна




даць чытачу ўвесь комплекс ведаў пра пісьменніка, неабходных для ўсведамлення яго творчасці і месца ў сусветнай культурнай прасторы. На жаль, выхад напрыканцы мінулага года энцыклапедыі “Максім Багдановіч” не стаў працягам традыцый, запачаткаваных дзвюма яе папярэдніцамі. І найперш у галіне кнігавыдавецкай справы.

Вопыт выдання літаратурных энцыклапедый, як айчынных, так і замежных, а таксама сучасныя навуковыя даследаванні па кнігазнаўстве вызначылі важнейшыя характарыстыкі такога віду даведачнай літаратуры. Гэта перш за ўсё наяўнасць у ёй уступных артыкулаў і сістэмы паказальнікаў. Калі кароткі жыццяпіс М. Багдановіча на пачатку энцыклапедыі яшчэ сяк-так адпавядае гэтым патрабаванням, хаця, канешне, і не ідзе ні ў якае параўнанне з грунтоўным артыкулам Алега Лойкі пра Янку Купалу ў аднайменнай энцыклапедыі, то адсутнасць паказальнікаў у багдановічаўскім выданні зніжае яго вартасць напалову. Летапіс жыцця і творчасці паэта як скарочаны варыянт надрукаванага летапісу ў поўным зборы яго твораў тут пад увагу не бярэцца. Паказальнікі (імянныя, геаграфічныя, твораў пісьменніка і інш.) – гэта квінтэсенцыя любога даведачнага выдання, ключы да пошуку інфармацыі. Спрактыкаваны карыстальнік энцыклапедычнай літаратуры сваё першае знаёмства з такога роду выданнем пачынае з канца кнігі. Менавіта па напоўненасці паказальнікаў, іх колькасці можна рабіць высновы пра якасць даведачнага выдання. Да таго ж паказальнікі даюць магчымасць чытачу не толькі хутка і максімальна поўна адшукаць патрэбную інфармацыю, але яшчэ пры гэтым атрымаць асалоду ад лёгкасці і эфектыўнасці самога працэсу пошукаў. Паколькі энцыклапедыі не прымеркаваны да паслядоўнага, пастаронкавага чытання, адсутнасць у іх гэтага важнага даведачнага апарату непазбежна зробіць іх рэччу ў сабе, напаўзакрытымі для карыстальніка. Дзе, напрыклад, малады даследчык літаратуры будзе шукаць інфармацыю пра Нюту Гапановіч – стрыечную сястру паэта, яго музу і сімпатыю? Зусім не факт, што ён будзе ведаць яе прозвішча па мужы – Селіваноўская – і шукаць адпаведна на літару “С”. Дарэчы, гэтая персаналія фігуруе ў энцыклапедыі ў розных найменнях – Ганна, Нюта, Анна, што лёгка можа збіць з тропу і спрактыкаванага карыстальніка. Натуральна, персанальныя энцыклапедыі ствараюцца з разліку на падрыхтаванага чытача, але выключаць з іх структуры найкаштоўнейшы складнік – гэта нонсэнс.

У практыцы замежнага і айчыннага кнігавыдання рознага кшталту паказальнікі даўно і шырока выкарыстоўваюцца не толькі ў даведачных выданнях. Без гэтага важнага элемента кнігі цяжка ўявіць сабе сур’ёзныя навуковыя выданні, акадэмічныя зборы твораў. Досыць часта паказальнікі сталі ўключацца ў навукова-папулярныя выданні, мемуарыстыку і нават выданні для дзяцей. У “Сакральнай геаграфіі Беларусі” Л. Дучыц і І. Клімковіч (навукова-папулярнае выданне, 383 старонкі), набытай мной нядаўна для хатняй бібліятэкі, больш чым 30 старонак займае геаграфічны паказальнік, што толькі ўзбагачае яе навуковую і кнігазнаўчую вартасць. Канешне, складанне паказальнікаў патрабуе карпатлівасці і часу, але тут на дапамогу могуць прыйсці сучасныя камп’ютарныя тэхналогіі.

Важнейшым патрабаваннем да літаратурнай энцыклапедыі – і выданні пра Я. Купалу і Ф. Скарыну гэта яскрава пацвярджаюць – з’яўляецца паўната інфармацыі пра персаналію. На жаль, складальнікамі багдановічаўскай энцыклапедыі гэтае патрабаванне рэалізавана не было. Так, напрыклад, чытач не знойдзе там артыкул пра радавод Максіма Багдановіча, што вельмі дзіўна, бо ў 1993 годзе па-

бачыла свет аднайменная кніга З.Л. Яцкевіча, напісаная на матэрыялах дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Да таго ж схематычнае радаводнае дрэва паэта, распрацаванае Аркадзем Бараховічам і дапоўненае супрацоўнікамі музея, маецца ў яго фондах. Гэты радавод таксама публікаваўся.

Адсутнічаюць у энцыклапедыі артыкулы пра шэраг твораў М. Багдановіча на рускай мове. Гэта яго публіцыстычныя артыкулы і нататкі, выяўленыя ў апошнія дзесяцігоддзі і ўпершыню надрукаваныя ў Поўным зборы твораў.

Неспадзяванкай для многіх, хто цікавіцца творчасцю М. Багдановіча і яго асобай, будзе адсутнасць у выданні асобнага матэрыялу пра дзённік паэта, ці, як яго яшчэ сталі называць, інтымны дзённік. У звязку з тымі жарсцямі, якія колькі год таму кіпелі вакол гэтага рукапісу, няўвагу да яго з боку складальнікаў можна разглядаць як недарэчнасць. Аўтар гэтых радкоў, працуючы ў музеі М. Багдановіча, у 1983 годзе арганізавала расчытванне рукапісу ў Навукова-даследчым інстытуце судовай медэкспертызы Беларусі. Пасля публікацыі ў часопісе "Нёман" С. Калугіным і М. Вайцянковым невялікіх фрагментаў дзённіка літаратуразнаўцы ўпершыню атрымалі магчымасць знаёміцца з багдановічаўскім тэкстам у максімальна поўным аб'ёме, які толькі мог забяспечыць тагачасны стан развіцця судовай экспертызы. Дзеля справядлівасці адзначу, што праштудзіраваўшы выданне ўздоўж і ўпоперак, інфармацыю пра дзённік паэта сабраць можна. Але навідавоку адступленне ад першага патрабавання да персанальнай энцыклапедыі – наяўнасць артыкулаў пра **ўсе тэксты** персаналіі.

Як вядома, падзеі, апісаныя ў дзённіку, адбываюцца ў 1915 годзе ў Старым Крыме. Шукаю ў энцыклапедыі артыкул пра гэтую мясціну... і не знаходжу. Ёсць пра Феадосію, Кактэбель, Сімферопаль, Ялту, нават Місхор, які чамусьці названы курортам, хоць гэтага статусу ён не мае. І толькі ў артыкуле пра паўвостраў на поўдні Украіны – Крым – знаходжу інфармацыю пра Стары Крым. Цяжка даць веры, што складальнікі энцыклапедыі не ведалі, што Стары Крым – гэта горад ва ўсходняй частцы Крыма з вельмі багатай гісторыяй, якая сягае аж у VI стагоддзе. Дарэчы, у Старакрымскім літаратурна-мастацкім музеі ёсць экспазіцыя, прысвечаная Максіму Багдановічу. А вось у багдановічаўскай энцыклапедыі месца для артыкула пра Стары Крым, з якім звязаны вельмі моцныя асабістыя перажыванні паэта, чамусьці не знайшлося...

Адсутнічае ў энцыклапедыі таксама артыкул пра Камісію па вывучэнні народнай славеснасці, якая працавала ў Маскве і ўдзел у якой браў М. Багдановіч.

Мусіў, канешне ж, быць у гэтым выданні асобны матэрыял пра архіў паэта. Наяўнасць такога артыкула прадыктавана не толькі прынцыпам паўнаты падачы матэрыялаў у энцыклапедыі, але і неабходнасцю прэзентацыі дакладных каардынатаў для далейшых пошукаў архіва. Хоць і лічыцца ён страчаным, нельга выключаць верагоднасці таго, што ў хаосе першых тыдняў вайны архіў разам з іншымі каштоўнасцямі Акадэміі навук мог трапіць і на Захад, і на Усход.

Але самыя шматлікія лакуны энцыклапедыі – гэта персаналіі. Чытач не знойдзе тут артыкулаў пра В.Ф. Мачульскага – сакратара Літаратурнай камісіі Інбелкульта, чыя праца "Агляд рукапісаў М. Багдановіча і матэрыялаў да яго біяграфіі" стала асновай багдановічазнаўства; пра Язэпа Дылу, які вельмі шмат зрабіў для вяртання архіва паэта пасля яго смерці на Беларусь; пра Апалонію Радкевіч (Савёнак), аўтарку ўспамінаў пра М. Багдановіча.

Абышлі ўвагай складальнікі энцыклапедыі многіх кампазітараў, якія звярталіся да творчасці М. Багдановіча. Гэта М. Шчаглоў-Куліковіч, В. Помазаў, Л. Сімаковіч, Я. Паплаўскі, Р. Самохін, Ю. Андрэева, С. Бельцюкоў.

Прычыны такой няўважлівасці бачацца ў адсутнасці прынцыпаў адбору і падрыхтоўкі матэрыялаў, скіраванасці на суб'ектыўную ацэнку той ці іншай персаналіі. Інакш як тады растлумачыць, што ў энцыклапедыі ёсць артыкулы

пра літаратуразнаўцаў Т.К. Чабан і У.В. Гніламёдава і няма пра Л.К. Тарасюк і В.В. Каваленку (тут адмыслова прыводзяцца роўнавялікія постаці)? Альбо чаму напісана пра журналіста і грамадскага дзеяча (?!) С. Белую, якая напісала кнігу "Яраслаўль у лёсе М. Багдановіча", і нічога не сказана пра М. Чырскага – аўтара кнігі "Максім Багдановіч у Мінску" – ці таго ж Л. Зубарава, чые кнігі "Максім Багдановіч" і "Крик буревестника», дарэчы, першымі ў найноўшай гісторыі Беларусі былі выдадзены коштам аўтара?

Самая ж вялікая недарэчнасць энцыклапедыі – гэта адсутнасць у ёй матэрыялу пра В.І. Мікуту. Як чалавек, які адпрацаваў з Верай Іванаўнай амаль восем гадоў у музеі М. Багдановіча ў самы складаны, але і самы цікавы перыяд – падчас яго стварэння, скажу, што паводле абсягу зробленага гэтае імя можна называць услед за Нінай Барысаўнай Ватацы. В.І. Мікута расшукала і наладзіла стасункі са сваякамі яраслаўскага акружэння паэта, якія перадалі ў дар музею сотні ўнікальных матэрыялаў. Па выніках уласных пошукаў ёй напісана шмат артыкулаў, у тым ліку і для дадзенай энцыклапедыі. Разам з аўтарам гэтых радкоў В. Мікута падрыхтавала тэматыка-экспазіцыйны план музея М. Багдановіча. Яна таксама брала непасрэдны ўдзел у стварэнні экспазіцый у Мінску і Яраслаўлі. Нездарма Я.В. Міклашэўскі прысвяціў сваю кнігу "Каханне і смерць, або лёс Максіма Багдановіча" Веры Іванаўне – апантанай даследчыцы жыцця і творчасці паэта.

І на гэтым тле – увекавечаныя ў энцыклапедыі "дасягненні" іншых персаналій, накшталт: "рыхтавала музейныя прадметы для адкрыцця экспазіцыі" (с. 166); "прымаў актыўны ўдзел у мерапрыемствах, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння Б." (с. 117); "браў удзел у адкрыцці мемарыяльнай дошкі" (с. 457); "адзін з ініцыятараў правядзення тэматычных канферэнцый" (с. 499); "на ўрачыстым вечары, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Б., выступіў з прамовай" (с. 544); "спрыяў перайменаванню вуліцы". Прыклады можна доўжыць.

Адсутнасць у энцыклапедыі "Максім Багдановіч" многіх важных матэрыялаў прымусіла больш уважліва і крытычна паставіцца да яе змесціва. І выявілася, што ў досыць шматлікіх артыкулах інфармацыя пададзена аднабакова, няпоўна і некарэктна. Так, напрыклад, у артыкуле "Французская літаратура і М. Багдановіч" слушна гаворыцца пра літаратурныя ўплывы на творчасць паэта і нічога не сказана пра яго прысутнасць у французскай культурнай прасторы. Гэта дзіўна, бо ў 1982 годзе ў Парыжы была выдадзена анталогія беларускай паэзіі, у якой змешчана 12 вершаў М. Багдановіча ў перакладзе на французскую мову. Ёсць, відаць, і іншыя прыклады яго прысутнасці (аглядна-крытычныя і літаратуразнаўчыя працы, тыя ж энцыклапедыі), пра якія аўтар артыкула ці не ведаў, ці не лічыў патрэбным напісаць.

Гэтаксама аднабакова разглядаецца творчасць паэта і ў артыкуле "Нямецкая літаратура і М. Багдановіч". Толькі час перастварэння яго твораў на нямецкую мову куды больш ранні, чым на французскую: пераклад першых твораў ажыццёўлены ў 1927 годзе, невялічкі зборнік вершаў пабачыў свет у 1949. Аднак ні пра гэтыя факты, ні пра даробак Ф. Нойрайтэра, Н. Рандава і іншых славістаў чытач з гэтага артыкула не даведаецца. Прыкра, што яго аўтар не ўзяў сабе за ўзор грунтоўны артыкул У.Л. Сакалоўскага "Нямецкая літаратура і Я. Купала" з купалаўскай энцыклапедыі.

Поўнае неўразуменне пакідае знаёмства з артыкулам "Пераклады твораў М. Багдановіча на мовы народаў свету". Па сутнасці, гэта перадрук адпаведнага матэрыялу з біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі". Але ж апошні быў выдадзены ў 1991 годзе, і змешчаная ў ім бібліяграфія перакладаў даведзена да пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя. А дзе ж звесткі пра пераклады твораў М. Багдановіча за апошнія 25-30 гадоў? Калі верыць аўтару артыкула, ніхто, акрамя ўкраінцаў, творы Багдановіча за гэты час не перакладаў. Але ж гэта не так. У той жа энцыклапедыі на с. 155-157 разглядаецца кніга перакладаў беларускага паэта,

выдадзеная ў 1990 годзе на славацкай мове. Ніхто не дасць веры, што з 1985 года творы М. Багдановіча не друкаваліся на рускай мове. Аўтар гэтых радкоў мае калекцыйнае выданне вершаў паэта “Мае песні” на рускай і беларускай мовах, якое пабачыла свет у 1991 годзе.

У сувязі з перакладамі твораў М. Багдановіча ізноў паўстае пытанне пра сістэмнасць у падачы матэрыялаў. У энцыклапедыі ёсць вялікі артыкул пра кнігу перакладаў на славацкай мове і адсутнічае матэрыял пра зборнік вершаў Багдановіча на літоўскай мове, выдадзены ў Вільнюсе ў 1989 годзе. Як на маю думку, у энцыклапедыі мусіў быць нават абагульняльны артыкул “Літоўская літаратура і М. Багдановіч”, тым больш што ёсць і даследчык гэтай тэматыкі – Альма Лапінскене.

Асобнае месца ў выданні адведзена зборніку лірыкі М. Багдановіча “Вянок” у перакладзе на рускую мову Б. Спрынчана, нават дадзена яго рэпрадукцыя, і няма артыкула пра аднайменны зборнік у перакладзе на ўкраінскую мову М. Драй-Хмары.

Важнай інфармацыі не стае ў артыкуле “Календары беларускія”. З пасляваенных календароў аўтар згадвае толькі два, у якіх друкаваліся творы М. Багдановіча – 1967 і 1996 гадоў выдання. Вядомы каляндар выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя”, выдадзены да 100-гадовага юбілею паэта, чамусьці не называецца.

Спрошчана, няпоўна разгледжана ў энцыклапедыі дзейнасць вядомага філосафа, аўтарытэтнага даследчыка творчасці М. Багдановіча У.М. Конана. Нічога не сказана пра ўклад Уладзіміра Міхайлавіча ў вывучэнне эстэтычных поглядаў паэта, яго публіцыстычнай спадчыны, удзел у выданні поўнага збору твораў. Асабліва відавочныя гэтыя хібы пры параўнанні артыкула “Конан У.М.” з грунтоўнымі матэрыяламі самога даследчыка пра літаратуразнаўцаў І.І. Замоціна, Я.І. Барычэўскага, А.А. Бабарэку, А.М. Вазнясенскага і іншых, напісаных для энцыклапедыі.

У артыкуле пра беларускага мастака Э.К. Агуновіча сказана, што ён з’яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, але чамусьці не пазначана, што гэтай прэміяй ён уганараваны ў тым ліку за мастацкую канцэпцыю і стварэнне экспазіцыі Літаратурнага музея М. Багдановіча. У той жа час у артыкуле “Беларуская хатка” варта было б дадаць, што эскізныя праекты і экспазіцыю стваралі мастакі В.А. Пратасеня і А.Л. Грачоў, а вось аўтарства мастацкай канцэпцыі гэтага музея сапраўды належыць Э.К. Агуновічу.

Істотнага штрыха не хапае і ў артыкуле пра іншага мастака – У.М. Капшая. Ён з’яўляецца аўтарам першага варыянта архітэктурна-мастацкай канцэпцыі музея М. Багдановіча (з розных прычын яна не была рэалізавана), але ў матэрыяле пра яго гэтага не сказана.

Не пашчасціла і першаму дырэктару музея М.П. Пазнякову. Аўтар артыкула пра яго чамусьці праігнараваў важны факт, што Міхась Паўлавіч выявіў публіцыстычныя творы М. Багдановіча на рускай мове, надрукаваныя пад псеўданімам “Ив. Февралев”.

Адна з асаблівасцей энцыклапедычнага артыкула – адмысловая падача матэрыялу. Чытач павінен атрымаць не толькі максімум аб’ектыўнай інфармацыі, але і магчымасць для больш дэталёвага вывучэння той ці іншай праблемы паводле спісу важнейшых крыніц, якія прыводзяцца аўтарам у канцы артыкула. Такія спісы з’яўляюцца абавязковым элементам вялікіх, абагульняльных артыкулаў, а іх наяўнасць толькі павышае давер да энцыклапедычных матэрыялаў. На жаль, вельмі многія аўтары не лічылі патрэбным прыводзіць спісы даведачнай літаратуры, што ў значнай ступені звузіла абсяг напісанага імі. Чытаем артыкул “Мова твораў М. Багдановіча”. Грунтуючыся толькі на паэтычным матэрыяле, аўтар аналізуе яе з пункту гледжання тропікі, гукапісу, паэтычнага сінтаксісу. Такі падыход мае права на існаванне, хоць, канешне, не дае цэласнага ўяўлення пра мову Багдановіча. Каб стварыць больш аб’ектыўную карціну пра прадмет даследавання, аўтарка

павінна была б згадаць іншых даследчыкаў ці хаця б прывесці адпаведны спіс літаратуры. Напрыклад, некалькі ў іншым ключы разглядае мову М. Багдановіча Г.М. Малажай у энцыклапедыі “Беларуская мова” (1994), і яе падыход, як мне падаецца, больш адпавядае прынцыпам энцыклапедычнасці.

Як вядома, на Беларусі мала мясцін, звязаных з жыццём М. Багдановіча. Гэта Мінск, Гродна, Ракуцёўшчына; з 1983 года, пасля публікацыі аўтарам гэтых радкоў адпаведных матэрыялаў у ЛіМе і “Голасе Радзімы”, стала вядома пра вёску Вяззе Асіповіцкага раёна, якая адыграла немалую ролю ў развіцці нацыянальнага самаўсведамлення паэта. Дакументальнай крыніцай гэтага адкрыцця з’явіліся лісты Марыі Апанасаўны Багдановіч, уведзеныя аўтарам ў навуковы ўжытак ў 1993 годзе (зборнік “Шляхам гадоў”, с. 214-243). Элементарная этыка вымагала калі не згадаць у артыкуле “Вяззе” прыведзеныя факты, дык хаця б даць адпаведны спіс літаратуры. Зрэшты, такое, мякка кажучы, своеасаблівае стаўленне да вынікаў працы іншых за аўтарам вяззеўскага артыкула заўважана даўно. Некалі Э.К. Агуновіч, стваральнік экспазіцыі музея М. Багдановіча, з крыўдай расказваў, што ў даведніку па музеі, які напісала тая ж аўтарка, ён не знайшоў свайго імя... Гэткая ж неабцяжаранасць у дачыненні да фактаў, зместу выяўляецца і ў іншых яе артыкулах. Так, напрыклад, матэрыял пра У.М. Дубоўку болей чым на 70 % складаецца з цытаты самога Дубоўкі, узятай з яго ўспамінаў пра паездку ў Ялту. А вось пра ўдзел Уладзіміра Мікалаевіча ў працы Літаратурнай камісіі Інбелкульта па разборы і сістэматызацыі архіва М. Багдановіча, а таксама верш “Нават мора змяніла свой колер”, прысвечаны паэту, чытач не даведаецца. Цікава, што гэты ж самы фрагмент успамінаў Дубоўкі аўтарка прыводзіць і ў іншым сваім артыкуле – “Крым”. Апошні, а таксама артыкулы “Сімферопаль”, “Ялта” пабудаваны на вялізных цытатах, якія паўтараюцца. Прычым аўтарка не абцяжарвае сябе нават перакладам, цытуючы ўспаміны Адама Ягоравіча пра сына то па-руску, то па-беларуску.

Важнейшая мэта энцыклапедычнай літаратуры – забяспечыць чытача надзейным даведачным матэрыялам. Гартаючы энцыклапедыю “Максім Багдановіч”, я ўпершыню сутыкнулася з фактам адсутнасці інфармацыі пра даты жыцця і смерці многіх нашых сучаснікаў. Стаяць два пытальнікі ў артыкуле пра сваячку М. Багдановіча Т.Д. Аракелян, якая брала ўдзел ва ўрачыстасцях у Мінску з нагоды 90-годдзя паэта; няма звестак пра смерць Н.І. Лапідуса, майго выкладчыка антычнай літаратуры ў БДУ, Н.А. Ляшковіч, паслугамі якой так любілі карыстацца ўсе, хто працаваў у бібліятэцы АН Літвы, паэта і байкапісца Э.С. Валасевіча. Няўжо каб расшукаць гэтую інфармацыю патрабаваліся складаныя архіўныя пошукі? Мне, напрыклад, спатрэбілася літаральна некалькі хвілін, каб з дапамогай Інтэрнэту даведацца, калі памёр Аркадзь Якаўлевіч Бараховіч – вядомы перакладчык твораў Багдановіча на рускую мову, даследчык яго творчасці і сваяк. Адсутнасць у энцыклапедыі звестак пра смерць гэтага чалавека, праз якога ажыццяўляліся стасункі музея М. Багдановіча з ніжагародскімі нашчадкамі паэта і які надзвычай шмат зрабіў для папулярызацыі яго творчасці, – знак вельмі трывожны для Дома паэта ў Траецкім прадмесці.

У цэлым жа хібы падобнага кшталту сведчаць пра тое, што пытанні якасці даведачнага матэрыялу для складальнікаў энцыклапедыі не мелі першараднага значэння.

Асобна варта спыніцца на недакладнасцях і памылках, выяўленых у энцыклапедыі. На старонцы 5, дзе гаворыцца пра ролю Янкі Саламевіча ў падрыхтоўчай працы па стварэнні гэтага выдання, адзначаецца, што “пачын І.У. Саламевіча насіў прыватны характар, не быў афармлены арганізацыйна і падмацаваны фінансава”. Сведчу і як былы супрацоўнік музея М. Багдановіча, і як былы загадчык рэдакцыі выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя”: гэта заява не адпавядае сапраўднасці. Праца над багдановічаўскай энцыклапедыяй у другой палове 80-х гадоў вялася

абсалютна афіцыйна, пад гэты праект было выдзелена фінансаванне, а супрацоўнікі рэдакцыі народнай асветы і беларускіх слоўнікаў мелі індывідуальныя планы па рэдакцыйна-выдавецкай апрацоўцы артыкулаў для гэтага выдання. Па афіцыйнай замове выдавецтва мной асабіста ў той час было напісана і адрэцэнзавана каля дзясятка артыкулаў. На момант, калі праца над выданнем была спынена, прыблізна траціна артыкулаў для яго была падрыхтавана. Прычыны спынення былі абсалютна аб'ектыўныя. Стан развіцця літаратуразнаўчай навукі, які выяўляўся б у дастатковай вывучанасці творчасці М. Багдановіча, сістэма выдання яго твораў з наяўнасцю багатай каментатарскай традыцыі не адпавядалі задачам і канцэпцыі літаратурнай персанальнай энцыклапедыі. У практычнай плоскасці гэта выяўлялася ў немагчымасці падрыхтоўкі асобных абагульняльных артыкулаў высокай навуковай вартасці, як, напрыклад, "Руская літаратура і М. Багдановіч", "Музыка і М. Багдановіч", "Інтымная лірыка М. Багдановіча", "Пейзажная лірыка М. Багдановіча", "Пераклады твораў М. Багдановіча на мовы народаў свету" і іншых. На жаль, выхад энцыклапедыі засведчыў, што гэтыя тэмы і праз 25 гадоў засталіся ахілесавай пятой багдановічазнаўства. Варта толькі азнаёміцца з іх зместам ці проста параўнаць артыкулы "Руская літаратура і М. Багдановіч" і "Украінская літаратура і М. Багдановіч", каб пераканацца ў гэтым.

На старонцы 232 чытаем артыкул пра рукапісны зборнік М. Багдановіча "Зеленя", які "захоўваецца ў Навукова-даследчым аддзеле кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі". З гэтага робім вывад, што аўтар артыкула гэты зборнік у руках не трымаў, бо з 1981 года ён зберагаецца ў Літаратурным музеі паэта.

Са старонкі 228 даведваемся, што М. Багдановіч сябраваў з настаўнікам, вялікім знаўцам беларускай гісторыі А.К. Кабяковым. Але такога настаўніка не было, быў А.К. Кабанаў, пра якога можна пачытаць на старонцы 255.

Не ўсе здагадаюцца, што за прозвішчам І. Іродніч, якога багдановічаўскі твор натхніў на стварэнне сюжэтна-тэматычнай карціны "Сказ аб Страціме", хаваецца беларускі жывапісец У.В. Уродніч (с. 486).

Шмат пытанняў ёсць па якасці літаратурнага рэдагавання энцыклапедыі. Вось як цікава, напрыклад, заканчваецца артыкул "Дунін-Марцінкевіч": "Недаацэнка Б. творчасці Д.-М. была выклікана тым, што класічныя творы драматурга былі надрукаваны пасля смерці паэта". Ці такая кучаравая дэфініцыя артыкула "Заседание городской думы": "два дакументы, якія з'яўлюцца стэнаграмамі пасяджэнняў Яраслаўскай гарадской думы". "І пры чым тут Максім Багдановіч?" – хочацца запытацца ў аўтара і рэдактара.

І, нарэшце, пра мастацкае афармленне энцыклапедыі. Першае ўражанне ад кнігі – станоўчае: важкі том, прыгожа аздобленая вокладка, рэпрадукцыі твораў, прысвечаных паэту. Але больш уважлівае знаёмства з выданнем паказвае, што выйгрышны, на першы погляд, ілюстрацыйны матэрыял – мастацкія рэпрадукцыі, якімі багата аздоблена энцыклапедыя, – працуе супраць М. Багдановіча. Мастацкаму рэдактару ў падборы рэпрадукцый часам элементарна здраджваў густ, пра што сведчыць эскіз партрэта Багдановіча на старонцы 125 вельмі сумнеўных эстэтычных вартасцей. Не павінен быў трапіць у энцыклапедыю і плакат паважанага мастака У. Крукоўскага (с. 290), бо змешчаная на ім асоба – не М. Багдановіч! У свой час аўтарам гэтых радкоў была праведзена праца з прыцягненнем спецыялістаў Усесаюзнага інстытута судова-медыцынскай экспертызы ў Маскве па высвятленні асобы на фатаздымку, якую некалі Алесь Бачыла ўвёў ва ўжытак як нібыта Максім Багдановіч. Вынікі экспертызы пацвердзілі, што шырока растыражаваная на той час выява не мела аніякага дачынення да паэта. Пра гэты факт мог, канечне, і не ведаць мастацкі рэдактар энцыклапедыі, але павінен быў ведаць яе навуковы рэдактар, які працаваў у музеі М. Багдановіча, дзе і захоўваюцца адпаведныя дакументы. А вось "арыгі-

нальнае" размяшчэнне малюнка А. Пашкевіча на с. 71 – гэта ўжо чыстая хіба мастацкага рэдагавання.

Больш шырокай у энцыклапедыі павінна была быць фотагалерэя, у першую чаргу асоб з бліжэйшага акружэння паэта, вядомых даследчыкаў яго творчасці, перакладчыкаў. Неўразуменне выклікае адсутнасць у выданні фотаздымка Нюты Гапановіч.

Толькі два (?!) на ўсю літаратурную энцыклапедыю трапіліся мне аўтографы М. Багдановіча. Так, рукапісаў паэта зберaглося не так і шмат. Але нават і з той паўсотні рукапісных матэрыялаў для персанальнай энцыклапедыі можна было б даць узоры і эпісталярнай спадчыны, і дарчых надпісаў, і дакументаў, і прыватных запісаў. Ды й сам па сабе арыстакратычны почырк Максіма Багдановіча – лёгка чытальны, прыгожы, вытанчаны – выдатная аздоба кнігі і яскравая характарыстыка паэта.

Якія ж высновы можна зрабіць з усяго сказанага?

Пры стварэнні энцыклапедыі "Максім Багдановіч" яе складальнікамі і выдаўцамі не былі ўлічаны аб'ектыўныя патрабаванні, што прад'яўляюцца да дадзенага віду даведачных выданняў. Не ставіліся і, адпаведна, не вырашаліся сур'ёзныя навуковыя задачы, разлічаныя на фарміраванне **сістэмы** персанальных літаратурных энцыклапедый. Аб'ядноўваючы наяўны матэрыял у "энцыклапедыю", яе стваральнікі ставілі перад сабой чыста кан'юнктурную мэту – даць да 120-х угодкаў з дня нараджэння Максіма Багдановіча вялікую тоўстую кнігу. Балазе, пад гэты праект мелася і дзяржаўнае фінансаванне.

У выніку – маем тое, што маем. Выхад кнігі стаўся кульмінацыяй на фоне звышсціплых юбілейных мерапрыемстваў, а яе стваральнікі – ці не нацыянальнымі героямі. Айчыннае ж кнігавыданне папоўнілася кнігай, імя якой – псеўдаэнцыклапедыя.

крытыка

Юрась Пацюпа



…усё, што здолела зрабіць беларуская лінгвістычная бюракратыя за гады свайго існавання – гэта нарадзіць грандыёзны пустацвет…

# Дзве галавы добра, а адна лепш…

## *Да выхаду ў свет "Вялікага слоўніка беларускай мовы"*

Даўно з такім хваляваннем не трымаў я кнігі. Здавалася б, працуючы ў выдавецтве, мусіў прывыкнуць да іх, як гандляр да грошай. Колькі ўсялякіх выданняў перабыло ў мяне ў руках! Але гэта асаблівая кніга. Чаканая! І нечаканая... Толькі малое кола шчырых прыхільнікаў Ф. Піскунова ведалі, што вось-вось мае з'явіцца ў свет "Вялікі слоўнік беларускай мовы", даведнік арфаграфіі, акцэнтуацыі, парадыгматыкі абсягам каля 223 000 слоў – амаль удвая большы за самавіты граматычны "Слоўнік беларускай мовы" (1987) пад рэдакцыяй М. Бірылы. "Вялікі слоўнік беларускай мовы" – гэта кніга, якая павінна ляжаць на стале ў кожнага пісьменніка, журналіста, рэдактара, карэктара, настаўніка мовы... і ці мала ў каго. На жаль, выйшла яна зусім мізэрным накладам, толькі 20 асобнікаў. Вось вам часы, вось людзі! Але разлічаны слоўнік на гады і гады. Такога збору, як абняццем лексікі, так і зместам, яшчэ не было ў айчыннай лексікаграфіі.

Ёсць вядомая прымаўка: адна галава добра, а дзве лепш. А тры... пяць... дзесяць... пэўна што яшчэ лепш! Аднак час-




цяком бывае якраз наадварот. Усё залежыць, якая галава. Можа, законы прыроды ніколі не запрацавалі б, каб іх стварыў не адзін Бог, а шмат багоў. Нездарма ж існуе яшчэ адна прымаўка: у сямі нянек дзіця без вока. На жаль, у нас нямала выходзіла слоўнікаў паводле гэтай апошняй максімы – без душы, без натхнення, без любові. І ў выніку – без сістэмнасці. А якраз аўтарскія слоўнікі перажываюць стагоддзі. Ці гэта Бярындаў, ці Насовічаў, ці Даляў. У іх усё звязана. Там, калі і хібы ёсць, як у Ластоўскага, яны сэнсоўныя. Абняць адным паглядам моўны абшар і ўкласці ў адну кнігу няпроста. Але, калі такая кніга з'яўляецца, яна жыве між нас так, нібыта была адвеку. Звыкла і немінуча, як паветра. Больш як дваццаць гадоў мінула пасля распаду СССР. Увесь гэты час я назіраю за беларускім словам, айчынным мовазнаўствам, і дзіва мяне бярэ: нічога ж не памянялася, а нават і пагоршала. Тыя самыя людзі штампуюць тыя самыя кнігі з тымі самымі абмыламі. Тая самая нездаволенасць станам мовы, тыя самыя гутаркі і мары пра больш дасканалую мову, але ўсё на месцы. Ніхто з гаваруноў нічога не зрушыў. Таму “Вялікі слоўнік беларускай мовы” Ф. Піскунова – праўдзівае свята нашай мовы. Каб жа яшчэ на добры грунт упала гэтае зерне!

Але пачнем па-парадку. Якія новыя абсягі адкрываюцца для беларускай мовы пасля выхаду гэтага слоўніка? Падваенне агульнага складу лексікі – сам праз сябе факт істотны, але для беларускай мовы ён мае асаблівы сэнс. Нарэшце раскрываецца ўвесь абсурд пракруставых псеўданарматыўных абмежаванняў, што дзесяцігоддзямі душаць беларускую мову. Зрэшты, вось, як гэта тлумачыцца ў прадмове:

Неапраўданае пашырэнне паняцця нарматыўнасці праз шматлікія пазнакі “абл.” і “дыял.” неспрыяльна паўплывала на рэестравы склад слоўнікаў, адарвала мову ад найважнейшай крыніцы жыўлення – народна-гутарковай лексікі, выштурхнуўшы найадметнейшае далёка на перыферыю. А закасцянеласць рэестру, сваім парадкам, абцяжарыла папаўненне лексікону новымі з'явамі. Ад такой нармалізацыі, якая ўрэшце абярнулася муміфікацыяй, блакаваннем натуральнага поступу мовы, надта вялікія страты зазнала сфера навукова-тэхнічнай і грамадска-палітычнай камунікацыі, дзе заўсёды патрэбныя адэкватныя і асабліва дакладныя лексічныя сродкі, пільная ўвага да зменаў.

Усё што здолела зрабіць беларуская лінгвістычная бюракратыя за гады свайго існавання – гэта нарадзіць грандыёзны пустацвет – табуявальную функцыю слоўнікаў. І, мала таго, нейкім спосабам пераканаць масавага карыстальніка, што так і мае быць. А як мае быць? Тлумачальныя слоўнікі – раскрываюць значэнні слоў, арфаграфічныя – паказваюць правапісныя нормы і граматычныя парадыгмы, перакладальныя – даюць найбольш пашыраныя адпаведнікі пры перакладзе з аднае мовы на іншую... Здавалася б, усё проста. Аж не! У бюракратаў ад лінгвістыкі ўсе названыя слоўнікі складаюць корпус легітымных адзінак і акрэсліваюць мяжу (тое, што па-за слоўнікам) табуяваных адзінак. Не паслядоўнікі Яна Станкевіча, а якраз лінгвістычная бюракратыя вылучаецца скрайнім пурызмам, праўда, нейкага аднабаковага русіфікатарскага ўхілу. І вось у гэтай сітуацыі “Вялікі слоўнік беларускай мовы” – можна сказаць, “наш адказ Чэмбэрлену”. Адказ спакойны і мірны: а чаму гэтага не можа быць у слоўніку? Можа! Вось вам прыклад. Чаму на тысячы і тысячы слоў, і не якіх там варварызмаў, а сваіх адметных беларускіх, накладзена вета? Хто яго наклаў? Якое меў права?

“Вялікі слоўнік беларускай мовы” – гэта раздарожжа. Ён расчаруе як пра-

фесійных русіфікатараў, так і заўзятых беларусізатараў, калі глядзець на мову з байніцы даўно абжытае званіцы. Але гляньма на рэчы цвяроза! Якую б тэндэнцыю мы ні абралі, як бы аддана ёй ні служылі, мы маем тое, што маем. З гэтай рэальнасцю трэба лічыцца. Не думаю, што аўтара слоўніка цешыць існы стан рэчаў. Ён, як і ўсе мы, марыць, каб беларуская мова жыла і была сапраўды беларускай, але перш, чым гэта адбудзецца, трэба даць ёй вольна ўздыхнуць, не цягнуць у розныя бакі. Давайце падсумуем тое, што маем, а потым вызначымся, куды рухацца. Мусіць быць слоўнік, які злучыць, пагодзіць густы самых розных катэгорыяў носьбітаў беларускай мовы. Без гэтай згоды мы не дамо адпору ненавіснікам нашай мовы, якія, на жаль, усё яшчэ не зводзяцца. Урэшце, пісаць, скланяць і спрагаць трэба ўмець нават тыя словы, якія мы не ўжываем і не хочам ужываць. Гэтае апошняе заданне раскрывае перад намі яшчэ шэраг функцыяў разгляданага даведніка.

Упершыню ў айчынным мовазнаўстве з'явіўся слоўнік, дзе да кожнай адзінкі прыкладаецца граматычны індэкс. Змест гэтых індэксаў раскрываецца ў табліцах пададзеных у канцы кнігі – недзе каля 300 табліц. Гэта значыць, што 223 тысячы слоў зводзяцца да трох соцен граматычных і акцэнтуацыйных тыпаў. Ф. Піскуноў, паводле адукацыі натураліст, хімік, відаць, асноўная прафесія ўсё ж дапамагла яму ў сістэматызацыі лексікі. Тое, што не зрабілі пакаленні філолагаў, зрабіў, і ў даволі сціслы тэрмін, натуразнавец. Тут трэба выказаць яшчэ адно ўдакладненне: "Вялікі слоўнік беларускай мовы" не проста папяровы рэестар лексемаў – ён рэпрэзентуе электронную базу беларускай мовы, а гэта значыць, што лексіка ў ім сістэматызаваная такім спосабам, каб быць "зразумелай" машыне, кампутару. Кампутар жа – слоў "не чуе" і "не ўсведамляе" іх значэнняў, ён толькі "бачыць" літары. Для машыны не гук, не сэнс, а літара мінімальная адзінка мовы. Таму і ўсе граматычныя класы ўтвараюцца тут з улікам літарнага пераламлення. Калі б не гэты аспект, пэўна ж, класаў было б куды менш. Такую колькасць групаў чалавеку цяжка запомніць, затое цяпер беларуская мова набывае новае – машыннае – існаванне.

У ходзе працы над электроннай базай беларускай мовы Ф. Піскуноў выявіў процьму супярэчнасцяў, якія не ўсведамляліся і гадамі множыліся ад слоўніка да слоўніка. Частку іх ён раскрыў у серыі артыкулаў, апублікаваных у часопісе "Роднае слова" за 2008-2011 гг., а рэшта была знятая ўжо ў самым слоўніку. Падыход да мовы Ф. Піскунова цвярозы і бескампрамісны, ён можа шакаваць філолага, выхаванага ў рамах звыклых уяўленняў, згодна з якімі беларуская мова дзеліцца на літаратурную і дыялектную. Аўтар "Вялікага слоўніка беларускай мовы" ў сваёй дзейнасці выходзіць не з тэорыі, а з жорсткай рэальнасці, што дыялектная мова дажывае свой век, літаратурная мова стаіць перад новай будучыняй, дзе яе чакае няпростае змаганне за існаванне, таму наша заданне, яе носьбітаў, яе абаронцаў, максімальна захаваць тое, што яшчэ падлягае захаванню, што можа спатрэбіцца на гэтай цярновай дарозе. Менавіта з гэтай прычыны аўтар слоўніка адмовіўся ад пазнак "абласное", "гутарковае" і г. д., а тыя словы, якія могуць мець пэўную стылёвую апрычонасць, пазначыў знакам*, гэтым самым даючы нам мажлівасць рабіць выбар, самастойна арыентавацца ў слоўнікавым багацці.

Каб ацаніць вагу "Вялікага слоўніка беларускай мовы", можна крыху паэксперыментаваць. Паспрабуйма тут знайсці якое-кольвек важнае слова, не аказанае ў ранейшых афіцыйных зборах. Думаю, пропускаў будзе няшмат. Я, прыкладам, з радасцю знайшоў тут не надта шанаваныя савецкім узусам адметныя беларускія слоўцы: ваёўнік, ваёўны, даўнімаць 'разумець, мець на ўвазе', кнея 'гушчар', немень 'нястача, брак', памжа 'насланнё', позны, свойлівы 'кантактны', спакмень 'прадмет', уняхацца 'моцна закахацца', утока 'вусце'. Называю тое, што раптам прыйшло

да галавы. Праўда, яшчэ не лучылі сюды такія пільна патрэбныя ў літаратурнай мове адзінкі як вісомы ‘падвешаны’, гуслы ‘абмовы, чуткі’, мжаволіць ‘мроіць’, напаставаць ‘нападаць, пераследаваць’, слецце ‘гароднiна’, сцігаваць ‘даганяць, пераследаваць’, уемны ‘пашкоджаны’, чарналюд, чэкацца ‘хістацца ў крэсле’ і г.д. Ёсць у слоўніку дзеясloў рэкнуць ‘сказануць’, але няма рачы ‘казаць’, ракаць ‘маўляць’, ракаваць ‘вызначаць’, ёсць гвазданyць, але няма блізкага гвбзнуць, ёсць рымець ‘непакоіцца’, рымсціць ‘цярпець’, але няма аднакаранёвага балтызму рымасць ‘непакой, жарсць’, дзякуй богу, ёсць плыў, а не толькі паток, але няма больш беларускага патока, ёсць прыметнік мярцвяны, але няма любляны... Цешуся, бо ёсць нямала слоў на -ннік: гуляннік, купаннік, але няма даеннік, чамусці ёсць дзеепрыметнік лакаваны, але няма дзеяслова лакаваць, ёсць крыху архаічнае брызгці і вытворнае абрызгбць, але няма выточнага брызгнуць (усе тры словы абазначаюць пачатковы этап скісання малака). Таксама ёсць назоў горада Гродна, але няма шчырага гістарычнага найменнння Горадна.

“Вялікі слоўнік беларускай мовы” не тлумачальнага тыпу выданне. Гэта перадусім граматычны даведнік, але яго аўтар, даўнімаючы, што шмат якія адзінкі ведамыя толькі спецыялістам, да паасобных слоў палічыў патрэбным усё ж даць сціслыя семантычныя характарыстыкі. На жаль, як мне падалося, не ўсе яны канцэнтруюць увагу на галоўным семантычным адценні, прыкладам: галда ‘натоўп’, атока ‘востраў’, нагвалт ‘за ўсякую цану’ – гэта важныя значанні, якія нельга было абмінаць. Аўтару ёсць яшчэ над чым папрацаваць. Ведама, усе свае заўвагі я выказваю не для таго, каб зганіць выданне, а толькі жадаючы бачыць “Вялікі слоўнік беларускай мовы” бездакорным, бо, як казаў С. Полацкі, таму, хто мае, яшчэ дадаецца. На сённяшні дзень альтэрнатывы працы Ф. Піскунова няма і не агадваецца. Гэта найгрунтоўнейшая лексікаграфічная праца за апошнія дваццаць гадоў, зробленая, да таго ж, адным чалавекам. У гэтым кірунку можна чакаць толькі больш ці менш удалых наследаванняў.

Уладзіслаў Ахроменка



...нічога так не замінае добраму танцору,
як камуністычная ідэалогія..

# Як артысты "Харошак" танчылі для сына белагвардзейскага палкоўніка

***З нізкі "Тэрпсіхора. Муза танцаў"***

За часамі БССР фальклорна-харэаграфічны ансамбль "Харошкі" быў ці не самым запатрабаваным айчыным прадуктам па-за межамі Беларусі. Лідарства па экспарце, вядома ж, трымалі МАЗ, БелАЗ і Мінскі трактарны, але ж прыбыткі ад замежных гастроляў "Харошак", напэўна, былі вышэйшымі, чым ад продажаў тэлевізараў "Гарызонт", хаця і праходзілі ўсяго толькі пад сціплай графой "нацыянальны каларыт". Танцоры і музыкі не вылазілі з замежных гастроляў, і гастролі былі не толькі ў Манголіі-Балгарыі, але ж і ў заходнееўрапейскіх краінах з класічным капіталістычным ашчэрам і сімпатычнымі інвалютнымі крамамі.

Праўда, самі артысты атрымлівалі за гастролі капейкі; усю валюту сталёвым дзеркачом вымятаў маскоўскі "Дзяржканцэрт". Да таго ж, паездкі ў капіталістычныя

джунглі вымагалі ад танцораў дасканалай ідэалагічнай падрыхтоўкі. Перад кожнымі гастролямі "харошкаўцаў" дручылі на іспытах, не раўнуючы, як лялечных актораў тэатра Карабаса Барабаса. Тагачасныя бээсэсэраўскія Карабасы Барабасы мелі пасады інструктараў аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ і прымалі ва ўсіх "выязных" адпаведныя іспыты. Шараговы артыст "Харошак" ведаў гісторыю сусветнага камуністычнага руху на ўзроўні выкладчыка Вышэйшай партыйнай школы.

Напачатку 1985 года ў "Харошкі" прыйшла чарговая разнарадка: гастролі ў Японіі. Яно і зразумела: не тэлевізары ж "Гарызонт" туды з БССР экспартаваць! Касцюмаваны "прагон" для мастацтвазнаўцаў у цывільным праходзіць бліскуча, і цяпер – апошні бар'ер: іспыт па гісторыі тамтэйшай камуністычнай партыі. Кіраўніцтву "Харошак" сігналізуюць: маўляў, "Японія – гэта Захад", а таму прымаць іспыт будзе самы дасведчаны прапагандыст і палымяны ідэалагічны барацьбіт, член Бюро ЦК КПБ... Дрыжыце, акцёрышкі!

Артысты ціха мацюгаюцца, звыкла кааперуюцца па двое, па трое, каб потым адрэпетаваць папярэднюю здачу іспыту адзін перад адным. Абкладаюцца ў бібліятэчных залах спецыялізаванымі даведнікамі, шаргацяць старонкамі і, ломячы языкі, вучаць біяграфіі найгалоўных японскіх камуністаў. Міцухіра Канэка і Удзяку Акіта, Танцудза Фува і, ты ж яго толькі паспрабуй запомніць, Масанасукэ Ватанабэ!

Гадзіна, дзве, тры...

Гартані пачынае шкрэбсці, мазгі ўкрывае шэрань, нават павекі – і тыя паволі звужаюцца на самурайскі манер. Свядомасць санліва пазяхае, паволі запаўзае ў самыя далёкія мазгавыя звіліны, скручваецца эмбрыёнам і імгненна ўпадае ў анабіёз. "Харошкаўцы" пазіраюць адзін на аднаго празрыстымі шклянымі вочкамі і па-дэбільнаму пасміхаюцца.

Ёнска Ціна, Ваніта Такая, Тасука Таксама, усё, галовы пухнуць, ну яго на хрэн, лепш ужо харакіры, чым такое вучыць!

– Нічога так не замінае добраму танцору, як камуністычная ідэалогія, – справядліва канстатуе скрыпач з "харошкаўскага" аркестру і па-змоўніцку падміргвае. – А, можа, ну яго ў дупу, давай лепш дзе-небудзь культурна пасядзім?!

– Дык заўтра ж іспыт, – панура ўздыхае танцор, – нейкі важны перац ажно з ЦК КПБ прымае.

– Нічога, я шпаргалак у нашых дзевак папрашу, – звыкла адмахваецца музыка. – Пайшлі, а то канчаткова тут звар'яцеем...

Па хуткім часе прыяцелі перабіраюцца ў кафэ "Тэатральнае", што акурат насупраць Беларускага Тэатра Оперы і балета, прычым скрыпач бярэ з сабой і інструмент у футарале, бо заўтра да ідэалагічнага выпрабавання яшчэ на "халтуру" трэба паспець. Артысты, змардаваныя тымі самураямі, бы рэвалюцыянер Сяргей Лазо паравознай топкай, бязладна тыцкаюць пальцамі ў меню, і, давячыся ціхім істэрычным рогатам, замаўляюць нешта кшталту "Налейка Накаціка". І цярпліва чакаюць, калі прынясуць пляшку самай таннай гарэлкі і дзве салаты "Днястроўскія" па сямнаццаць капеек.

А за столікам насупраць – нейкі салідны мужык: стройчык-"тройка", дарагі гальштук, залатыя запанкі. "Шашлык па-карску", ікра чорная паюсная, каньяк КВВК і дзесяцірублёвая ружа ў крышталёвай вазе. Відаць, бабу запрасіў, а тая яго пракінула, вось і піячыць небарака на самоце. І вельмі так зацікаўлена на "харошкаўцаў" паглядае.

Праз дзесяць хвілінаў афіцыянтка, напружана азіраючыся на мужыка ў "тройцы", прыносіць пляшку "Арарату"; маўляў, "ад іхняга стала да вашага стала". Артысты лыбяцца на дабрадзея разгублена і ўдзячна. Той нецвяроза хістаецца і дэманструе прывітальны жэст, нешта сярэдняе паміж "Рот Фронт!" і "Хайль Гітлер!"

Яшчэ пяць хвілінаў – і артысты на запрашэнне дабрадзея сядзяць за ягоным столікам.

– Завуць мяне гаспадзін Кудасаў, – ганарліва прадстаўляецца мужык з "Араратам". – І ў нашую матухну-Расію я прыбыў ажно з Парыжу; "белыя акацыі, кветкі эміграцыі". Можа, вы пра майго бацьку чулі: такі палкоўнік Кудасаў, начальнік контрвыведкі барона Урангеля.

Прасунуты скрыпач пярэчыць упэўнена: маўляў, палкоўнік Леапольд Кудасаў – кінематаграфічны персанаж з прыгодніцкай стужкі "Новыя прыгоды няўлоўных", рэжысёр Эдмон Кеасаян, кінастудыя "Масфільм", але ж скончыць не паспявае, таму што танцор трапна б'е яго пад сталом насцяком у лытку: ты што, дурны, хай гэты шчодры лох вярзе што заўгодна, мы яго як мінімум на яшчэ адну пляшку раскруцім!

– Правільна, кінематаграфічны персанаж, – нечакана пагаджаецца новы знаёмы. – Але ж ягоным правобразам акурат і стаўся мой бацька! Белагвардзеец, патомны дваранін, блакітная кроў... Дый увогуле, ведаеце, кім ён быў?!

Скрыпач паціrae пад сталом пабітую нагу і талеранта ніжа плячыма: ну, свет вялік, усё можа быць. Танцор аблізваецца на каньяк. А сын белагвардзейскага палкоўніка паглядае на скрыпічны футарал і нечакана пытаецца ў музыкі:

– "Паручніка Галіцына" збацаць можаш?

– У прынцыпе, магу, – асцярожна пацвярджае скрыпач.

– Але ж выкананне падобнай кіч-культуры не адпавядае нашай камуністычнай ідэалогіі, – адчужана тлумачыць танцор. – Прынамсі, публічнае выкананне.

– Дзесяць рублёў плачу.

Дзесяць савецкіх рублёў за тымі часамі – ці дзве з паловай пляшкі гарэлкі, ці чатырнаццаць "комплексных сняданкаў" у сталоўцы, ці дзвесце паездак у мінскім метро. Артысты напружваюцца...

– Дзякуй... Але ж тэкст гэтай песні "незалітаваны" Арганізацыяй Музычных Ансамбляў мінскага гарвыканкаму, – палахліва нагадвае скрыпач.

– У рот, у дупу і ў душу меў я ваш мінскі гарвывыканкам! Дваццаць пяць і пляшка каньяку! – агрэсіўна абсякае Кудасаў-малодшы. – Душа свята прагне, разумееце?! Ну, давай: "Четвертые сутки пылают станицы, по Дону гуляет большая война..."

– Што – проста тут і на скрыпцы граць? – шчыра жахаецца музыка, ліхаманкава прыкідваючы наступствы; забароненая савецкай цэнзурай "белагвардзейшчына", КГБ, следства, турэмныя нары і лагерная самадзейнасць як вянец кар'еры...

– З кафэ выставяць за хуліганства! – разваяжліва прыкідае танцор.

– Каго-о-о? Мяне-е-ее? – голасна абураецца сын начальніка ўрангелеўскай контрвыведкі і па-барску шчоўкае пальцам, падклікаючы метрдатэля. – Алё, ла-акуза! Хай лабаюць! Я так сказаў!

Метрдатэль, па выглядзе – класічны адстаўны мент ці камітэтчык, – пяшчотна зелянее з твару і нечакана дае дазвол выконваць для дарагога

госця ўсё, што той схоча. Кудасаў дастае шляхотную скураную партманэтку і замаўляе чарговы каньяк.

Далейшыя падзеі зліваюцца для "харошкаўцаў" у суцэльную жахлівую фантасмагорыю. Бо імправізаваны канцэрт ва ўстанове савецкага Абшчапіту балансуе на мяжы п'янага дэбошу і махровай антысаветчыны. Нажраты ў дугу белаэмігрант, дырыжуючы пляшкай "Арарату", сантыментальным фальцэтам выводзіць "а в комнатах наших сидят комиссары, и девочек наших ведут в кабинет!.." Далей – "Господа офицеры, голубыя князья!". Заканчваецца ўсё гэта пафасным выкананнем "Боже, царя храни!", прытым парыжскі госць агрэсіўна патрабуе ад наведвальнікаў, усіх гэтых стосаракарублёвых інжынераў з "Гарызонта", падпяваць яму стоячы.

– Я манархіст-саборнік! – раве ён так голасна, што жырандолі пад столлю жалобна ценькаюць. – У контрвыведку! За яйцы! Расстраляю!

А на календары, між іншым, сярэдзіна васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Рафінаваны чорна-белы "савок". Чытанне эмігранцкай літаратуры раўназначнае дзяржаўнае здрадзе. За знойдзеную ратапрынтную копію Салжаніцына выдаюць дармавую пуцёўку ў Комі АССР гадоў на пяць мінімум. А таму зляканая публіка, нават не дапіўшы і не дазакусіўшы, паспешліва расплочваецца, хапае з шатні драпавыя паліто, хлабучыць на галовы шапкі з фарбаваных трусікаў і злякана ўцякае ад усёй гэтай контррэвалюцыі.

Белагвардзейская пагулянка тым часам працягваецца, бы ў маскоўскім кабаку "Яръ" часоў Савы Марозава. Мітусяцца са сподамі афіцыянты, мяняюцца пляшкі, мянтоўска-гэбэшнага экстэр'еру метрдатэль па-халуйску трымае перад Кудасавым цяжкую крышталёвую попельніцу, а той цягае са сваёй парыжскай партманэткі бясконцыя дваццаціпяцірублёўкі, рыхтык ілюзіяніст Ігар Кіа – галубоў з рукава.

Нарэшце, "Тэатральнае" зачыняецца. Сын знанага белагвардзейца, двойчы бразнуўшы залатымі запанкамі аб ганак, вывальваецца ў заснежаны сквер каля Опернага. І нечакана абвяшчае апошні нумар:

– А цяпер – "Цыганачка з выхадам"!

Артысты злякана пераззіраюцца. Бо як ні круці, а гэта ўжо сапраўдны перабор. У бліжэйшым "апарняку", што на Старажоўцы – самыя зверскія ва ўсім Мінску мянты. І не за такое забіралі...

– Давай, не бздзі, ну? – імпэтна падбадзёрвае артыстаў патомны рускі дваранін. – "Оп-паньки! Есть колечко у меня, шаровары красные!.."

Скрыпач, сутаргова прыціскаючы інструмент да падбароддзя, зухавата сячэ смыкам паветра. Кудасаў у апошняе ступені традыцыйнага вялікарускага куража зрывае з сябе папаху і пачынае асцервянела таптаць яе моднымі парыжскімі чаравікамі. А харэаграфіст, трымаючы па-над сваёй галавой скрыпічны футарал, рытмічна б'е ў яго, нібы ў цыганскі бубен і прафесійна падтанцоўвае...

Як і мае быць, праз пяць хвілінаў побач спыняецца жоўты міліцэйскі "бобік". Шчаслівыя мянты навыперадкі імчаць да харэаграфічна-музычнага калектыву і інстынктыўна спрабуюць заламіць рукі салісту.

– Прэч, халопы! – гжэчна адбіваецца белагвардзейскі сын. – Вы хоць ведаеце, хто я такі?

І, выцягнуўшы з кішэні нейкую чырвоную кніжачку, тыцкае ёй у пысу падаспеламу міліцэйскаму афіцэру. Мент ахранела глядзіць, струмка выцяг-

ваецца, вернападдана шчоўкае сківіцай і міжволі прыкладае дрыготкую руку да лакаванага брылька. “Бобік” паспешліва ўцякае...

У “харошкаўцаў” ад пабачанага становіцца пуста ў галовах і зелена ўваччу. Зрэнкі робяцца рамбавіднымі. Што гэта можа быць? Містыка? Чараўніцтва? А можа, гэты Кудасаў нейкі вялікі гіпнатызёр? Ці ў горадзе ўжо даўно белыя, але ж па тэлевізары чамусьці яшчэ не абвесцілі...

...Назаўтра нашыя артысты, прыціскаючы кадыкамі ікотку і адрыжку, ідуць здаваць іспыт па гісторыі камуністычнага руху Японіі. Шаргацяць канспектамі, ліхаманкава рассоўваюць па самых інтымных месцах шпаргалкі-“гармонікі”. “Важнага перца” з аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ баяцца не менш, чым японскія мілітарысты – герояў Халхін-Голу. Тыя, хто ўжо здаў іспыт, адно разгублена хаўкаюць: падлюка рэдкасная, самыя падступныя пытанні задае, а “шпорамі” пры ім увогуле карыстацца немажліва! Дый, відавочна, не ў настроі...

Харэаграфіст і скрыпач жагнаюцца, нібы перад шыбеніцай, і ідуць здаваць разам. Адчыняюць дзверы, заходзяць, глядзяць на экзаменатара і... сінхронна асядаюць на падлогу.

За сталом, пад парадным партрэтам Уладзіміра Ільіча Леніна – акурат учорашні знаёмы. Апухлая морда, смярдзючы перагар на ўвесь кабінет і брашурка з матэрыяламі апошняга Пленума ЦК КПСС на самым відным месцы.

Барон Урангель. Контрвыведка. “Боже, царя храни!”. Карацей, “Цыганачка з выхадам”...

Ну, сука!

Ужо потым высветлілася, што палымяны ідэолаг з аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ на ўсе выходныя ўпадаў у непрацяглы, але імпэтны запой. Штопятніцу зараджаў у відэмагнітафон касету з фільмам пра Грамадзянскую вайну, накатваў каньяку і паціху распраўляў крылы, рыхтык двухгаловы арол над маскоўскім Крамлём. З кожным кілішкам няўхільна пераўвасабляўся ў нашчадка кінематаграфічнага контррэвалюцыянера і цягнуўся “даганяцца” ў мінскую кавярню другой нацэначнай катэгорыі. Дзе і выдаваў свае патаемныя манархічныя мроі за пафасную рэчаіснасць. Сціплы статус падобных кавярняў гарантаваў адсутнасць тамака людзей з Парткантролю, зарплата дазваляла плямкаць чорнай ікрой, а страшнае пасведчанне чальца Бюро ЦК КПБ гарантавала, што ані мянты, ані нават КДБ ніколі не спыняць белагвардзейскі кураж.

Вось такія ідэолагі кантралявалі Беларусь за савецкім часам.

Цяперашнія, кажуць, яшчэ горшыя...

# З гэтага свету

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы, незавершанае, нататнікі за 1957-1972 гады. – "Гарадзенская Бібліятэка", 2012, вып. 15.**

У гэтай кнізе – передгісторыя і пачатак вялікай Быкаўскай эпапеі. Найбольш раннія творы, якія ніколі раней не друкаваліся (аповесць "Атака", апавяданне "Жалезны камандзір"), незавершаная аўтабіяграфія, запісы з нататнікаў, пераклады. Васіль Быкаў з'ехаў з Гародні ў Менск у канцы 70-х, паперы, напрацаванае, нарыхтаванае забраў з сабой. Але, як высветлілася, значная частка засталася ў Гародні... Сяргею Шапрану ўдалося знайсці архіў і падрыхтаваць да друку.




**Леанід Галубовіч. З гэтага свету: вершы пасля вершаў. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 108 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 23).**

Гэтая кніга – плён дванаццацігадовага публічнага маўчання паэта. Апублікаваныя пасля ягонага зароку не пісаць больш вершаў, тэксты ёсць пазнакамі водгукаў душы на зрухі і праявы сучаснасці і метафарычным аналізам свайго ўнутранага жыцця, а таксама – невынішчальнасці паэзіі.

*...так я сыходзіў ад вершаў,*
*быццам ад першай дзяўчыны, –*
*самай прыгожай і лепшай –*
*без абвяшчэння прычыны.*

*Проста жыцця па-за сэнсам*
*прагла душа, як збавення,*
*пішучы зболеным сэрцам*
*словы крывёю па венах...*




**Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы. З эпісталярнай спадчыны (1964-1983). – "Гарадзенская Бібліятэка", 2012, вып. 16.**

У зборнік, які ўклаў Міхась Скобла, увайшлі 420 лістоў, 366 з якіх публікуюцца ўпершыню.

Гэта бескампрамісная ацэнка палітычных падзеяў, літаратурных твораў, людскіх учынкаў. Выданне багата ілюстраванае ўнікальнымі фотаздымкамі.




**Geniush loci: творы пераможцаў літаратурнага конкурса да стагоддзя Ларысы Геніюш. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2012. – 180 с.**

Гэты зборнік – творчая справаздача пераможцаў конкурса маладых літаратараў да стагоддзя Ларысы Геніюш, які ладзіўся ў 2010 г. Беларускім ПЭН-Цэнтрам. У зборнік увайшлі вершы, проза і пераклады А. Адамовіча, Ю. Аляксеенкі, А. Арцёмава, Т. Цуканавай, Д. Вашкевіч, А. Волкавай, К. Дубоўскага, А. Емяльянава, С. Календы, П. Капанскага, Ю. Качан, К. Макарэвіч, А. Пакроўскага, М. Паўлоўскай, А. Радачынскай, А. Рудака, Я. Санько, Ц. Хоміча, Г. Шэпт.



**Віктар Жыбуль. Стапеліі. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 220 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

Даўно анансаваная і чаканая кніга. З моманту выхаду папярэдняга зборніка Віктара Жыбуля мінула дзевяць год, што для любога паэта нямала. Зборнік ахоплівае 15 год творчай працы: у ім ёсць як зусім свежыя тэксты, гэтак і вершы сярэдзіны 90-х. Сам паэт акрэслівае інтанацыю большасці вершаў кнігі як пост-дэкаданс. Як пазначана ў анатацыі, “кніга вылучаецца большай філасафічнасцю і змрачнаватай, хоць месцамі і іранічнай, танальнасцю, са зваротам да вострых праблемаў свету рэальнага і свету ірэальнага”.

*Калі я быў яшчэ маленькім сперматазоідам,*
*я ўжо адчуваў унутраны супраціў.*
*Я ўяўляў сябе імклівым астэроідам*
*і лёгка прарываўся скрозь любы прэзерватыў...*




**Анка Упала. Дрэва энталіпт. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 90 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Пункт адліку).**

Хаця гэта і кніга эксперыментальнай прозы, дзе ёсць крыху і ад Хармса, і ад Петрушэўскай, дзе таўтаграмы (аповеды, у якіх усе словы пачынаюцца з адной літары) суседнічаюць з трасянкавай макаранічнасцю і аўтарскім навамоўем, яна не дэструктыўная, а даволі-такі ўтульненькая й прыемненькая. Па-над усім адчуваецца руплівая праца гадавальніцы гэтага дрэватэксту. Праца, што, па ўсім, прыносіць і плён, і задавальненне.

Густоўна аздобленая, кніга “Дрэва Энталіпт” годна распачынае новую падсерыю Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў “Пункт адліку”. Чакаем на адпаведны зададзенаму роўню працяг – і падсерыі, і творчасці Анкі Упалы.



**Александр Федута. Американские стихи. – Berlin: SAWADOSKI-Verlag, 2012. 72 с.**

Блюзнерствам было б казаць, што адсідка пайшла аўтару “на карысць”, “раскрыла творчы патэнцыял” і да т. п. Але тое, што ў тых умовах чалавек здолеў захаваць і цвярозы розум, і пачуццё гумару, – шмат пра што гаворыць. Аляксандр Фядута – з невыкараняльнай ніякімі абставінамі пароды інтэлігентаў. А інтэлігентнасць – гэта і мужнасць, і адказнасць, і самаіронія.

“Американские стихи” – той выпадак, калі вершаваная і празаічна-дакументальная часткі існуюць у гэткім гарманічным адзінстве, узаемаперацякаюць і ўспрымацца мусяць менавіта гэтак, дыялектычна.

*...И когда Вы в ночи, в подполковничьей спальне своей*
*Просыпаетесь в бешенстве, злой, среди всхрапов и иков,*
*Знайте же: это я с парой-тройкою верных друзей*
*Проклинаю Вас в тысячный раз – но теперь не без иктов!*
*И бредя в туалет, расчесав волосатую грудь,*
*Оглядев по привычке свое еще крепкое тело,*
*Подполковник Стукало, пожалуйста, Вы не забудь-*
*Те закрыть поскорее мое уголовное дело.*

# Нашыя аўтары

**Абламейка Сяргей** – эсэіст, журналіст. Аўтар кнігі "EGOізмы". Апублікаваў шэраг працаў па гісторыі Беларусі. Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, чэшскую і расейскую мовы. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Мінску. Жыве ў Празе.

**Аўчыннікава Ганна** – паэт. Аўтар кнігі вершаў "Ад зачыненай брамы". Нарадзілася ў 1986 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

**Ахроменка Уладзіслаў** – празаік, драматург. Аўтар кніг «Здані і пачвары Беларусі» (у суаўтарстве з Максімам Клімковічам, кінарамана-фарса «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве» (у суаўтарстве з Максімам Клімковічам), «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (у суаўтарстве з Максімам Клімковічам) і інш. Творы перакладзены на ўкраінскую і польскую мовы. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску і Чарнігаве.

**Безмацерных Кацярына** – журналіст. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Друкавалася ў беларускіх СМІ. Працуе ў часопісе «Бярозка». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Грук Анастасія** – паэт, празаік. Вучаніца 9-га класа Вяляціцкай СШ. Вершы друкаваліся ў часопісе «Бярозка». Нарадзілася ў вёсцы Вяляцічы на Барысаўшчыне, дзе і жыве.

**Гілевіч Ніл** – народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996). Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкая Галіна** – паэт, перакладчык. Аўтар кнігі «Анадыямэна». Нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Жук Алесь** – празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Асеннія халады», «Паляванне на старых азёрах» «Зоркі над палігонам», «Не забывай мяне», «Паўстанак вяртання», «Паляванне на апошняга жураўля», «Чорны павой», «Праклятая любоў», «Над чыстым полем» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Клешаў Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Кароткая Тамара** – журналіст, літаратуразнаўца, перакладчык. Аўтар літаратуразнаўчых і публіцыстычных артыкулаў, перакладу з чэшскай мовы даследавання Ігната Дварчаніна «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве». Нарадзілася ў 1957 годзе ў вёсцы Чаромуха на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Кашкан Вераніка** – паэт. Закончыла прыватны міжнародны ўніверсітэт у Нямеччыне, Jacobs University Bremen па спецыяльнасці Integrated Social and Cognitive Psychology, па сканчэнні якога працавала ў мюнхенскай кампаніі Kenexa Inc. Жыве ў Мінску.

**Купрэеў Мікола** – паэт, празаік. Аўтар кніг «Непазбежнасць», «Правінцыйныя фантазіі», «Палеская элегія». Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Ямнае на Рагачоўшчыне. Памёр у 2004 годзе ў пасёлку Лясная пад Баранавічамі.

**Лукашук Аляксандр** – празаік, публіцыст, эсэіст. Аўтар кніг «Зьдзек», «За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцця катаў», «У фіялетавай ночы вугал крыла», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «Сьлед матылька. Освальд у Менску» і інш. Нарадзіўся ў 1955 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Празе.

**Маракоў Леанід** – празаік, публіцыст, журналіст. Аўтар даведнікаў «Валеры Маракоў. Лёс. Хроніка. Кантэкст», «Вынішчэнне». Аўтар кніг прозы: «Непамяркоўныя I», «Непамяркоўныя II», «Трое», «100 мініяцюр» і інш. Аўтар некалькіх тамоў энцыклапедычных даведнікаў пра рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асьветы, грамадскіх і культурных дзеячаў

Беларусі, урачоў, святароў... Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Марціновіч Дзяніс** – гісторык, літаратурны і тэатральны крытык, журналіст. Закончыў гістарычны факультэт БДУ і магістратуру пры ім. Аспірант гістарычнага факультэта БДУ. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Масла Алена** — празаік, крытык, журналіст. Аўтар кніг "Рождество у крестной", "Таямніца закінутай хаты", "Вандроўка з божымі кароўкамі". Нарадзілася ў 1967 годзе ў вёсцы Мілашова на Мёршчыне. Жыве ў Мінску.

**Ляхновіч Павел** – празаік, журналіст, перакладчык. Аўтар кнігі «Пачатак сезона». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.

**Мілчак Петэр** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Выкладае славацкую мову і літаратуру ў БДУ. Аўтар кніг «Вупраж перад зімой», «Падрыхтоўчая лінія 57/Preparation Line 57», «Персанаж і яго функцыі ў казачным тэксце». Нарадзіўся ў 1966 годзе ў горадзе Кромпахі (Славакія). Жыве ў Мінску.

**Новік Ганна** – паэт. Творы друкаваліся ў «Маладосці», «Літаратурнай Гомельшчыне», «ЛіМе». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

**Паплаўскі Алесь** – паэт, празаік. Аўтар кніг «Спынены лістапад», «Тэрыторыя скразнякоў», «Незваротнасць» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Мазуры на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

**Пацюпа Юрась** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг паэзіі «Ноч», «Сабака». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Петрушкевіч Ала** – літаратуразнаўца. Абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Паэзія Дануты Бічэль-Загнетавай. Праблема лірычнага героя». Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гродне.

**Прычынец Валер** – паэт, перакладчык, журналіст. Студэнт філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Творы друкаваліся ў розных перыядычных выданнях. Нараўдзіўся ў 1990 годзе ў вёсцы Журавінка на Дзяржыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўская Людміла** – паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Міфы горада Б'», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Руль Яўгенія** – празаік. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Творы друкаваліся ў раённай, абласной і рэспубліканскай перыёдыцы. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Навагрудку на Гродзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Снарская Іна** – паэтка. Аўтар кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Трэнас Віка (Вікторыя Ляйкоўская)** – паэт. Аўтар кніг "Цуд канфіскаванага дзяцінства", "Экзістэнцыйны пейзаж". працуе рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Маладосць". Супрацоўнічае з часопісамі "Паміж", "pARTisan", "Тэксты". Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Турбіна Любоў** – паэт, вучоны-генетык. Аўтар кніг «Улица детства», «Город любви», «Наша надежда жива, если плачем», «Сны-города» , «Четыре портрета» і інш. Нарадзілася ў 1942 годзе ў Ашгабадзе. Жыве ў Маскве.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў в. Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фальклярыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Чарнякевіч Ціхан** – крытык, літаратуразнаўца. Аспірант кафедры беларускай літаратуры БДПУ імя М. Танка. Аўтар некалькіх дзясяткаў крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў. Укладальнік бібліяграфічнага даведніка «Пераклады твораў замежнай літаратуры ў часопісе «Крыніца» (1988-2003)». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Пінску. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

**Лаўрэаты літаратурнай прэміі
«Залаты апостраф» —
за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2011 годзе:**

***«Проза».*** **Ігар БАБКОЎ. За раман "Партрэт мастака, нябачны ў сутонні", №4 (53)**

***«Паэзія».*** **Віктар ЖЫБУЛЬ. За нізку вершаў "Мая каляровая рэвалюцыя", №4 (53)**

***«Дэбют».*** **Алесь ПЛОТКА. За нізку вершаў "Шлю паштоўку арыштанту", №3 (52).**

***Прэмію часопіса "Дзеяслоў" і Алеся Усені «За ўклад у развіццё сучаснай беларускай літаратуры»*** **атрымаў Кастусь ЦВІРКА.**






**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў.**



У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.